# За імклівым днём сучаснасці

## СЁННЯ Ў ПІНКАВІЧАХ

Калі едзеш у Пінкавічы, то міжволі ўспамінаецца, што паўвека назад у гэтай вёсцы працаваў настаўнікам народны паэт Беларусі Якуб Колас. Уважлівей прыглядаешся да навакольных мясцін і краявідаў, параўноўваеш тое, што бачыш, з тым, што апісана выдатным беларускім мастаком у яго аповесці «У глыбі Палесся».

Дарэвалюцыйныя Пінкавічы выступаюць у «Палескіх аповесцях» Якуба Коласа пад назваю Выганы. Вядома, мастацкі твор не простая фатаграфія фактаў і падзей, якія адбыліся ў пэўным месцы, а іх абагульненне, тыпізацыя. Таму і нельга ў такім творы шукаць падрабязнага ўзнаўлення ўсяго таго, што было ў жыцці, але вядома і тое, што сапраўды мастацкі твор лепш за ўсякую фатаграфію або апісанне ўзнаўляе праўду жыцця.

Вось дарога з Пінска ў Пінкавічы. Калісьці Лабановічу, герою аповесці «У глыбі Палесся», каб даехаць да Выганаў, прыйшлося старгаваць за рубель на Каралінскім рынку возніка. Сёння рабіць гэтага не трэба. Кожныя дваццаць хвілін з Пінска сюды ходзіць аўтобус. За акном прабягаюць краявіды, ужо знаёмыя нам па апісанню пісьменніка. Тыя ж разложыстыя вязы і ліпы, толькі іх стала больш — яны цягнуцца ўзбоч дарогі амаль суцэльнаю чарадой. І паселішчаў таксама

стала больш. Складаецца ўражанне, што едзеш нібы па адной бясконца доўгай вуліцы.

Некалі пры ўездзе ў Выганы на прыдарожным слупе вісела табліца, на якой значылася, што ў вёсцы налічваецца 73 двары. Сёння нават неспакушаны ў падліках чалавек пераканаецца, што вёска вырасла разы ў тры. Яна раскінулася некалькімі сваімі вуліцамі ўздоўж звілістай, зарослай чаротам і асакой рэчкі Піны. Пры ўездзе ў Пінкавічы добра відаць калгасны двор з новымі будынкамі на каменных падмурках. Далей узвышаецца белы двухпавярховы каменны будынак школы імя Якуба Коласа.

## СВЕДКІ БЫЛОГА

Праўленне пінкавіцкага калгаса размешчана ў новым, складзеным з сасновых бярвенняў доме. Ён раздзелены на тры пакоі. У адным, схіліўшыся над сталом, спакваля б'е на лічыльніках Ананій Курыль, калгасны касір. Робіць гэтую работу ён з поўным усведамленнем яе важнасці і адказнасці. У яго надзвычайна строгі твар і ссунутыя на пераносіцу акуляры. Дзяўчаты, якія сядзяць за суседнім сталом і часам хіхікаюць, расказваючы на вуха адна адной штосьці надзвычай таемнае, адразу змаўкаюць, як толькі Ананій Курыль падыме галаву ад сваёй работы і кіне ў іх бок выразны позірк.

У пакоі, першым ад уваходу, на лаўках сядзяць чалавек з дзесяць калгаснікаў і заядла дымяць цыгаркамі. У пакоі горача, хоць безупынна адчыняюцца дзверы і сюды ўрываюцца белыя клубы халоднага паветра.

Па ўзросту тут пераважна людзі сярэдніх год, але ёсць і пажылыя.

Калі гутарка заходзіць пра Якуба Коласа, то калгаснікі ўключаюцца ў яе вельмі ахвотна. У Пінкавічах ёсць яшчэ людзі, якія добра памятуюць тую пару, калі працаваў тут народны паэт. Вось першы з іх — Мікіта Рыгоравіч Козіч, той, што зараз паліць у грубцы. Ён вучыўся ў школе, калі быў настаўнікам Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч. Памятае пісьменніка і намеснік старшыні Васіль Апанасавіч Кароль, хоць яму і мала прыйшлося пры ім навучацца. Не забылі і Мікіта Ры-

горавіч Перышч і Ананій Дзмітравіч Курыль, той, што складае касавую справаздачу.

Але ўсе сыходзяцца на думцы, што больш за ўсіх ведае пра Якуба Коласа Фама Пятровіч Бязручка, які працуе ў калгасе брыгадзірам агароднай брыгады. Ён меў некаторае дачыненне да той рэвалюцыйнай работы, якую вёў некалі ў Пінкавічах Якуб Колас. Але Фамы Бязручкі зараз няма, паехаў па сена.

Мікіта Козіч, нізкі, прысадзісты, крыху ссутулены. У яго ўжо зусім сівая галава і абвіслыя вусы.

— Я тады другі год хадзіў у школу, як прыехаў да нас настаўнік Мацкевіч,— расказвае ён, вымаўляючы шмат якія словы на ўкраінскі манер (дарэчы, такое вымаўленне не толькі ў Козіча, і, як тут кажуць, гэта не дзіва, бо да Прыпяці рукой падаць, а за Прыпяццю ўжо Украіна).

— Добры быў настаўнік, нам ён спадабаўся адразу. Просты, абыходлівы і вучыў зразумела. Да яго зух быў лянейкі: ледзь што не так, дык — за лінейку і «давай лапу». А гэты браў на зацікаўленасць, на сумленне. І навуку ведалі добра. Я, памятаю, кнігу чытаў, дык нібы рэпу грыз...

— Ды ты ўжо хіба сябе не падхвальвай, дзядзька! Нешта ж ты далёка не пайшоў у навуцы...

— Пойдзеш, чакай! Гэта ж табе не цяпер. Дзве зімы я ў школу пахадзіў, а як на трэцюю прыйшлося, то бацька і кажа: «Хопіць, бо і так ужо дужа вучоны. З тваёй навукі, кажа, хлеба ўсё роўна не есці. А работнік у гаспадарцы трэба». Ну, і пайшоў я гучкі і веццe на корм жывёле рэзаць — з сенам у нас нястача была.

Устаўляе слова Васіль Кароль, затым і Ананій Курыль, які нарэшце адарваўся ад касавай справаздачы. Успамінаюць, што настаўніка Міцкевіча паважалі сяляне, што хадзілі часта да яго за парадамі, што любіў ён слухаць народныя спевы, любіў умелых расказчыкаў. З лёгкай рукі маладога Коласа хадзіла сярод сялян нямала вострых слоўцаў пра цара Мікалая і яго прыслужнікаў.

Адчыняюцца дзверы, заходзяць новыя людзі. Яны прыслухоўваюцца да гутаркі, а іншы раз і ўмешваюцца ў яе. І паступова гутарка пераходзіць на тэму аб жыцці да рэвалюцыі і пры польскіх панах.

— Зямля ў нас не благая, але мала было яе,— расказвае брыгадзір Фёдар Пасінюк.— На іншы двор

якая-небудзь паўдзесяціна прыходзілася. То хіба накормішся?.. І сапраўднай культуры не было ў гаспадарцы, бо дробная ж яна была. Ураджаі цяпер у нас куды большыя, чым пры аднаасобным жыцці. Мая вось брыгада азімых па 16 цэнтнераў ды яравых па 15 з кожнага гектара сабрала. Вось што значыць правільная агратэхніка!

На дварэ змяркаецца. Брыгадзіры даюць заданні на заўтрашні дзень. Работы многа. Зараз вывозіцца гной і торф, ідзе ачыстка насення. Вясна не за гарамі. Намеснік старшыні Васіль Кароль напамінае брыгадзірам аб тым, што трэба падрыхтаваць падводы, каб вывезці ў калгас рэшткі збожжа з раённага ссыпнога пункта. Справа ў тым, што пінкавіцкі калгас насенняводчы, ён вырошчвае толькі гатунковае насенне, якое поўнасцю звозіцца на раённы ссыпны пункт для забеспячэння ім іншых калгасаў. Для размеркавання на працадні калгас атрымлівае адтуль звычайнае збожжа.

Калгасны працадзень аплачваецца нядрэнна: летась выдадзена па два з паловай кілаграмы збожжа і два кілаграмы бульбы, не лічачы грошай і іншых прадуктаў. Шмат хто з калгаснікаў атрымаў па 60, 80, 100 пудоў хлеба. А некаторыя нават не забралі ўсяго свайго збожжа, якое налічана ім на працадні. Вось пра гэта і ідзе зараз размова.

— Жыць стала весялей,— гаворыць Змітрок Палішчук, кладаўшчык.— Падаткі меншыя, прыбыткі большыя. Раней мяне за крысо цягалі: калі ды калі на працадні выдаваць будзеш. А зараз мне прыходзіцца ўслед за Яўхімам Калем бегаць: забяры, калі ласка, свой хлеб, мне склад перадаваць трэба, а тут няма поўнага разліку па працаднях.

Яўхім Каль, які працуе ў будаўнічай брыгадзе, стаіць, прыхінуўшыся да сцяны і неяк па-дзіцячаму ўсміхаецца. Чалавек ён ад прыроды буйны, нібы высечаны з каменя, гаворыць спакойна і працягла.

— У калгасным свірне, можа ж, не прападзе мой хлеб,— гаворыць ён.— Можа, у мяне ссыпаць няма куды?

— І сапраўды, Яўхім, куды ты столькі хлеба дзенеш? — звяртаецца да будаўніка Аляксандр Шапялевіч.— Пазалетась ты, лічы, у двор свой пудоў сто дваццаць згрузіў, і летась табе, пэўна, цэлых дзвесце

налічылі. Няўжо спажывеш столькі? Прыйдзецца табе, відаць, вартаўніка наймаць, каб багацце тваё ахоўваў.

— Табе пазычу хлеба, бо ты ж бедны,— разважліва адказвае Яўхім Каль.— Толькі і ты, здаецца мне, нават лазню сваю хлебам засыпаў...

Калгаснікі смяюцца.

Вечарам прыехаў з сенам Фама Бязручка. Вокны яго хаты пазіраюць у далячынь балот, што пачынаюцца адразу за агародамі. Балоты гэтыя засланы зараз белаю пеляной, і, здаецца, няма ім канца-краю. Толькі ў тым месцы, дзе Піна ўліваецца ў Прыпяць, мільгаюць агеньчыкі з будкі рачнога вартаўніка.

У хаце Фамы Бязручкі чыста, утульна, цёпла, на стале цікае гадзіннік, на сцяне — рэпрадуктар. Унук Бязручкі, схіліўшыся над сталом, чытае кніжку.

У аповесці «У глыбі Палесся» Якубам Коласам намаляваны партрэт Якіма Бязручкі, асобныя рысы для якога маглі быць узяты ад жывога Фамы Бязручкі. Фаме Бязручку зараз ужо семдзесят гадоў з хвосцікам. Нягледзячы на свой узрост, Фама Пятровіч вельмі рухавы і гаваркі чалавек.

— Памятаю я Канстанціна Міхайлавіча, добра памятаю,— расказвае ён.— Наша хата і раней на гэтым месцы стаяла. Зараз так густа засяліліся, а раней паміж нашым домам і школай пустое месца было. Канстанцін Міхайлавіч часта да нас заглядваў. Быў ён у той час малады, чарнявенькі, шчуплы. Словы на вецер не кідаў, хоць і любіў пагаварыць...

За акном зімовая віхура, вецер б'е ў шыбы снежнымі крупінкамі, а Фама Пятровіч, нібы спяшаючыся, успамінае былі даўно мінуўшых дзён.

— Сабіраліся мы ўтрох: Сцяпан Каль, мой бацька і я. Часта гутарыў з намі Канстанцін Міхайлавіч: і пра тое, што несправядлівы парадак абавязкова будзе знішчаны, што цар за панамі, а не за простым народам цягне. Ну, і як рабочыя ў Пінску падняліся, то і мы не сядзелі склаўшы рукі. Настаўнік ужо загадзя падрыхтаваў сялян. Напісаў ён на сялянскім сходзе петыцыю самому Скірмунту, што жыў у Альбрэхтаве, дзе прапанаваў яму адмовіцца ад нашых заток і сенажаці. Пад ёй сяляне падпісаліся. А каб паліцыя не змагла знайсці вінаватага, бо зачыншчыкаў найбольш жорстка каралі, то падпісваліся не проста па парадку, а па кругу, які начарціў настаўнік цыркулем...

— Любілі нашы сяляне Канстанціна Міхайлавіча, нездарма памяць аб ім захавалася аж да сённяшняга дня, бо бачылі — малады чалавек, а моцна стаіць за народную справу.

Фама Пятровіч расказвае і аб сабе. У 1905 годзе, які быў багаты падзеямі для Пінкавіч, пайшоў ён на прызыў. У імперыялістычную вайну быў на фронце. Трапіў у палон каля Мазурскіх азёр. У 1919 годзе Бязручка стаў чырвонаармейцам. Ваяваў з польскімі панамі. Пад Койданавам ад панскай кулі загінуў яго таварыш Піліп Цяляк. Пасля ён захварэў і вярнуўся ў сваю вёску. А калі выздаравеў, то ўжо граніца надвое падзяліла Беларусь. Бязручка застаўся на той бок граніцы.

Расказвае Фама Пятровіч цікава і выразна. Маршчыністы твар яго то свеціцца радасцю, то становіцца хмурым і заклапочаным. Падзеі цэлага паўвека прайшлі на вачах гэтага чалавека. І не проста прайшлі, бо ён быў іх актыўным удзельнікам.

— Калі пачалася ў нас размова пра арганізацыю калгаса, то я гарой стаў за гэтую справу,— не без гонару расказвае стары Бязручка.— Уступіў у калгас першым. Даручылі мне агароднюю брыгаду. А ў агароднюю брыгаду вядома ж каго пасылаюць: дзядоў ды бабулек, якія хутка будуць сотую гадавіну свайго жыцця на зямлі святкаваць. У насмешку нашу брыгаду называлі «інваліднай камандай». Але мы вось ужо чатыры гады гонару не губляем. Пабудавалі сто парніковых рам. Вось на дварэ снег, замець, а мы тыдні праз два радыс на рынак пашлём. Вясной увесь Пінск гароднінай завальваем. Летась наш гарод толькі грашыма даў калгасу прыбытак на 130 тысяч рублёў. А сёлета парніковая гаспадарка і гарод у два разы павялічваюцца, значыць, і карысць калгасу будзе большая.

## ВЕЧАРАМ

У старых Пінкавічах, як яны апісаны Якубам Коласам, адзінай культурнай установай сяла была пачатковая школа. Да акна настаўніцкай кватэры вужам падкрадваўся дзяк Бацяноўскі, які лічыў сваім абавязкам знішчаць крамолу, якую ён бачыў ва ўчынках

маладога настаўніка. Інтэлігенцыя сяла была прадстаўлена асобамі пісара, яго памочніка і казённага ляснічага. Вечарам жыццё ў вёсцы замірала, калі не ўлічваць той акалічнасці, што мясцовая «інтэлігенцыя» збіралася дзе-небудзь для чарговай выпіўкі або гульні ў карты.

Пройдзем вечарам па сённяшніх Пінкавічах.

...Вось зіхаціць агонь у вокнах вялікага будынка, у глыбіні двара якога размешчаны парк. Гэта бібліятэка. Яна мае 787 чытачоў і 6411 кніг. Акрамя гэтай у Пінкавічах ёсць яшчэ дзіцячая бібліятэка. У гэты вячэрні час у бібліятэцы даволі ажыўлена. За сталом сядзіць ужо знаёмы нам кладаўшчык Змітрок Палішчук. Ён чытае газету, перад ім ляжаць дзве ёмкія кнігі. Калгаснік Міхаіл Ткачык перагортвае часопісы.

Бібліятэка ў Пінкавічах — гэта тое месца, якое вельмі ахвотна наведваюць хлебаробы. Тут заўсёды каго-небудзь сустрэнеш. Людзі цікавяцца мастацкай, сельскагаспадарчай, навуковай літаратурай. Вось абанементная картачка Змітрака Палішчука. У ёй запісаны падручнік па садаводству, матэрыялы XIX з'езда КПСС, «Выбраныя творы» Дакучаева, шмат назваў мастацкай літаратуры. Не менш кніг запісана і ў картачцы Міхаіла Фёдаравіча Ткачыка. Сярод іх творы Вільямса, Дакучаева, Мічурына. Актыўнымі чытачамі бібліятэкі з'яўляюцца і калгасніцы. Еўдакія Емяльянаўна Лой, напрыклад, мае за сваімі плячыма больш паўсотні год, але яна не губляе дружбы з кнігай. Шмат кніг прачыталі Марыя Аляксандраўна Лой, Ірына Максімаўна Кучынская. Тут ужо не гаворыцца пра вясковую моладзь, сярод якой, бадай, не знойдзеш ні аднаго чалавека, які б не быў чытачом бібліятэкі.

Бібліятэка не абмяжоўвае сваю работу толькі выдачай кніг. Яна праводзіць і канферэнцыі, і літаратурныя вечары, і дыспуты. У дзень сямідзесяцігоддзя народнага паэта Я. Коласа жыхары Пінкавіч сабраліся на вечар, прысвечаны яго творчасці. З успамінамі аб Коласе выступаў шмат хто з вяскоўцаў. Літаратурныя дыспуты праведзены па такіх творах, як «Да новага берага» В. Лаціса, «Рыбакова хата» Я. Коласа, «Маладая гвардыя» А. Фадзеева.

Побач з бібліятэкай — клуб. Адтуль чутны гукі акардыёна, мелодыя песні. Ідзе рэпетыцыя хора. Дзяўчаты і хлопцы развучваюць песні для свайго чарговага

выступлення. Ёсць сярод мастацкага калектыву свае таленты — песеннікі, якіх ведаюць у Пінкавічах. Задушэўна спяваюць даярка Вольга Каль, калгасніцы Вольга Капко, юнак Уладзімір Махнавец.

Але не адна песня гасцюе ў пінкавіцкім клубе. Ставяцца і п'есы. І не толькі сваімі мясцовымі артыстамі, а і прыезджымі, з гарадскіх тэатраў. Ставілі ў Пінкавічах «Пяюць жаваранкі», «Наталку-Палтаўку», «Наймічку».

Кіно ў вёсцы часта бывае. У клубе свая стацыянарная ўстаноўка, і кіно дэманструецца пяць разоў на тыдні.

Вечарамі падоўгу не гасне святло яшчэ ў адным доме — у праўленні калгаса. Тут таксама праводзіцца якое-небудзь мерапрыемства. Аграном Тамара Адашчык займаецца са слухачамі агратэхнічнай школы. Але сёння не яе дзень. Сёння сабраліся слухачы заатэхнічнай школы, заняткі з якімі вядзе заатэхнік Зося Кудраўская. Са сшыткамі ў руках прыйшлі на заняткі даярка Марыя Капко, конюх Аляксей Шапялевіч, загадчыца птушкафермы камсамолка Анна Капко. Заатэхнік расказвае аб мерах, якія абавязкова патрэбна правесці ў жыццё, каб узняць прадуктыўнасць грамадскай жывёлагадоўлі. Жывёлаводы авалодваюць навукай. Без яе нельга. Вучыцца Марыя Капко, яна даярка і надаіла летась па 1500 літраў малака ад каровы.

На ўсю вёску грыміць рэпрадуктар, устаноўлены на пляцы, Вечарамі ў Пінкавічах не сумна.

## МАЛАДАЯ ЗМЕНА

Захаваўся будынак школы, дзе некалі працаваў Якуб Колас.

Два простыя пакоі. У адным з іх некалі хадзіў Якуб Колас. Тут ён вучыў грамаце Аксёна Каля, чытаў рэвалюцыйныя брашуры і адозвы.

А вось тут быў клас. Сорак дзіцячых галовак схіляліся над кнігай, лавілі словы настаўніка, пазнавалі невялікія таямніцы свету, якія паложана ведаць праграмай пачатковай школы.

Сённяшняя Пінкавіцкая школа зусім не такая. Яна не пачатковая, а сярэдняя. У ёй не 40 вучняў, а 497. Размешчана яна ў прыгожым двухпавярховым будын-

ку. Вучыць сённяшнюю калгасную дзетвару не адзін настаўнік, а 25, пераважная большасць якіх мае вышэйшую адукацыю.

Пазнаёмімся хоць з некаторымі. Соф'я Канстанцінаўна Крыўко, географ, працуе ў Пінкавічах ужо чацвёрты год. Яна прыехала сюды, закончыўшы Беларускі дзяржаўны універсітэт. Рускую літаратуру выкладае Людміла Мікалаеўна Пятруша, якая закончыла Гродзенскі педагагічны інстытут.

— Да твораў Якуба Коласа ў нашай школе асаблівы інтарэс,— расказвае выкладчыца беларускай літаратуры Вольга Фёдараўна Кавалёва.— У школьнай бібліятэцы кнігі пісьменніка заўсёды на руках.

Выкладчыкам матэматыкі ў Пінкавіцкай сярэдняй школе працуе старэйшы педагог Антон Іванавіч Мароз. У свой час ён разам з Якубам Коласам канчаў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, быў асабіста знаёмы з будучым пісьменнікам.

Настойліва вучыцца калгасная моладзь. У яе цудоўныя ўмовы. Светлыя прасторныя класы, утульныя кабінеты для фізічных і хімічных доследаў. Як мы памятаем з кнігі пісьменніка, бацькі некалі не пускалі дзяўчынак у школу: яны лічылі, што навука ім не патрэбна. Сёння палова вучняў у школе — дзяўчаты. Школа ганарыцца выдатніцамі вучобы камсамолкамі-дзесяцікласніцамі Аленай Даніловіч і Таняй Каль, дзевяцікласніцамі Вольгай Шкут і Соняй Цяляк.

Актыўна працуе школьная камсамольская арганізацыя (яна налічвае ў сваім складзе 76 членаў).

Гэта аб тых, якія вучацца яшчэ зараз у школе імя Якуба Коласа.

Але нямала дзяцей калгаснікаў ужо выйшлі са школы. Адны з іх навучаюцца ў інстытутах і тэхнікумах, некаторыя закончылі ВНУ і пайшлі на працу.

— Калгас наш узяў вялікі разгон,— расказвае старшыня праўлення Іван Аляксеевіч Некрашэвіч.— Новыя спецыялісты патрэбны. Намецілі мы таксама механізаваць і электрыфікаваць фермы. Спрактыкаваныя людзі для гэтай работы патрэбны.

Новых спецыялістаў у калгасе ўжо нямала. Ёсць свае трактарысты, шафёры, камбайнеры, механікі. Ужо чатыры гады працуюць трактарыстамі Кастусь Гамялькоў, Хвёдар Салівон, Хвёдар Гарынец, Міхась Лой. Камсамолец Уладзімір Козіч стаў камбайнерам. Ле-

тась на калгасных палях працавала тры трактары, два камбайны, ільноцерабілка.

Ёсць ужо і выхаванцаў Пінкавіцкай школы настаўнікі, інжынеры, медыцынскія работнікі. Часта ўспамінаюць тут імя Паўла Каля, унука Сцяпана Каля, які можа быць прататыпам вобраза Аксёна Каля. Як мы памятаем, быў Аксён Каль чалавекам неспакойным, настойліва шукаў праўды і не баяўся змагацца за яе з панамі. Павел Каль яшчэ пры польскіх панах, хлапчуком, наладзіў радыё, слухаў Маскву. Ён арганізаваў у сваёй вёсцы першую камсамольскую ячэйку пасля памятных вераснёўскіх дзён. Калі пачалася Айчынная вайна, добраахвотнікам пайшоў у армію. Абараняў Маскву, быў паранены. Пасля паступіў у інстытут. Набыў спецыяльнасць геолага. Цяпер Павел Каль працуе ў далёкай Кіргізіі.

Шмат такіх сыноў і дачок, будаўнікоў новага жыцця, вырасла і расце ў Пінкавічах, якія калісьці лічыліся закінутым глухім Палессем.

*1954*

## ПА МЕСЦАХ АДАМА МІЦКЕВІЧА

Цудоўны далягляд адкрываецца позірку з Замкавай гары ў Навагрудку ў вячэрнія гадзіны. Сонца садзіцца якраз за высокім пірамідальнай формы ўзгоркам — «капцом» Адама Міцкевіча. Праменні заходзячага сонца залоцяць лісце клёнаў, што стаяць, нібы ганаровая варта, ля падножжа гэтага ўзгорка, а сам ён на фоне барвовага небасхілу здаецца дзіўным, казачным уцёсам. На многа міль вакол віднеюцца цёмна-зялёныя пералескі, раскіданыя па схілах узгоркаў, удалечыні — ахутаныя сіняватай вячэрняй смугою вёсачкі, якія тонуць у прысадах расцвітаючых садоў, неабсяжны, як мора, прастор палёў.

Ля самага ўзгорка, насыпанага народам у знак незгасальнай любві да вялікага польскага паэта, шуміць-гамоніць галасамі студэнтаў малады парк. У вячэрнія часы тут асабліва мнагалюдна. Пасля заняткаў, залікаў, экзаменаў у парк сыходзіцца шматлікае студэнцтва Навагрудка. У горадзе 6 тэхнікумаў і вучылішч,

з сярэднія школы. Будучыя настаўнікі, работнікі савецкага гандлю, спецыялісты сельскай гаспадаркі, медыкі, фінансавыя работнікі — усе яны маюць свае любімыя куткі ў гэтым прыгожым парку.

Недзе зайграў акардэон, нехта зацягнуў песню, і вось ужо яе падхапіла многа маладых галасоў, і яна, як на крыллях, лунае над паркам.

Калі стаіш у вячэрні час ля ўзгорка Міцкевіча, глядзіш на панурыя абломкі былога замка; на высокі земляны вал, якім аддзяляецца Замкавая гара ад маладога гаманлівага парку, міжволі ўзнікае думка аб той пропасці, якая існуе паміж жыццём мінулым, даўно адышоўшым у нябыт, і жыццём, светлым, сённяшнім.

Навагрудак... Ля яго крапасных сцен не раз сыходзіліся пакручастыя сцежкі гісторыі. Вотчына кіеўскіх князёў, гэты горад пазней становіцца рэзідэнцыяй літоўскага князя Міндоўга. Пад сцены Навагрудка падводзілі свае тараны татарскія полчышчы Койданы. На гэты ў выгляду ціхі гарадок рабілі свае набегі закаваныя ў жалеза нямецкія рыцары. Навагрудак некалі бачыў на сваіх вуліцах урачысты марш напалеонаўскіх войск, а крыху пазней — ганебныя ўцёкі мізэрных рэшткаў французскай арміі. У навагрудскім замку наладжвала балы і піры пышная і тупагаловая шляхта.

Але не развалінамі крапасных сцен, не адзнакамі княжэння розных князёў і шляхцічаў, не бітвамі і баталіямі пад яго сценамі слаўны горад Навагрудак. Гэты невялікі з выгляду гарадок вядомы ўсяму свету тым, што тут нарадзіўся вялікі польскі паэт Адам Міцкевіч.

Некалі на гэтым самым крапасным вале любіў стаяць юны Міцкевіч, любіў глядзець адсюль на родныя сэрцу краявіды. Радзіма паэта тады не мела волі, прыгнёт царызму цяжкім ярмом лажыўся на плечы ўсіх народаў. Выношваючы ў сэрцы мару аб свабодзе радзімы, аб будучай еднасці славянскіх народаў, Міцкевіч пісаў у «Адозве да рускіх»: «...Народы ніяк не зацікаўлены ў тым, каб знішчаць адзін другога. Дзень гібелі дэспатаў будзе першым днём міру і дружбы народаў».

На Навагрудчыне шмат мясцін, звязаных з жыццём і творчасцю Адама Міцкевіча. Паэт нарадзіўся на хутары Завоссе, непадалёку ад сяла Колдычава, 24 снеж-

ня 1798 года. Праз тры гады бацькі паэта набылі дом у самім Навагрудку і пераехалі сюды на сталае жыхарства. Тут, у гэтым зялёным, утульным гарадку, прайшлі школьныя гады паэта, сюды прыязджаў ён на канікулы, будучы студэнтам Віленскага універсітэта. Малады паэт любіў вандраваць па родных мясцінах, любіў слухаць народныя паданні, легенды. Шматлікія творы паэта і напісаны паводле гэтых паданняў і легенд. Вусная народная творчасць з'явілася невычэрпнай крыніцай, адкуль паэт браў многія вобразы і матывы сваіх твораў.

Тут, у Навагрудку, Адам Міцкевіч напісаў свой першы верш «Ода аб пажары», затым «Оду пра Міндоўга».

Непадалёку ад Навагрудка, каля вёскі Валёўка, атуленае шчыльнаю градою лесу, плешчацца ў зялёных берагах возера Свіцязь. Сюды, у гэты маляўнічы куток Беларусі, штогод з'язджаюцца ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці на Свята песні. Над люстраною гладдзю возера, над прасторамі роднай зямлі шырока і гулка разносіцца вольная песня. Цудоўную прыгажосць Свіцязі некалі апеў і Адам Міцкевіч у сваіх непаўторных баладах «Свіцязь» і «Свіцязянка».

На ўскрайку вёскі Шчорсы Любчанскага раёна расце магутны, у тры абхваты, дуб. Пад яго разгалістымі шатамі некалі любіў сядзець Адам Міцкевіч пасля працы ў бібліятэцы графа Хрэптовіча. Пад гэтым дубам, як сцвярджаюць знаўцы, паэт ствараў накіды сваёй цудоўнай паэмы «Гражына», дзе ўвасоблена ідэя еднасці народа ў барацьбе супраць нашэсця тэўтонскіх заваёўнікаў.

Мясцовыя жыхары клапатліва ахоўваюць дуб, звязаны з памяццю аб вялікім паэце. Дрэва абнесена двайной агароджай: жалезную зрабілі рабочыя мясцовага саўгаса, а знешнюю — калгаснікі. Пад дуб часта прыходзяць піянеры і школьнікі Шчорсаўскай школы. Гэта яны разбілі пад дубам клумбы, пасадзілі на іх кветкі, штодзень іх даглядаюць. Маленькі Віця Янушка, які пойдзе ў школу толькі гэтай восенню, з гордасцю паведаміў нам, што яго бацька, каваль Павел Янушка, акаваў дуб жалезам, каб яму не страшны былі навальніцы і перуны.

Не пазнаць сёння мясцін, звязаных з памяццю вялікага паэта. За гады савецкай улады яны непазнаваль-

на змяніліся. Калі едзеш па дарогах Любчанскага, Карэліцкага раёнаў, вока радуецца высокай збажыне, цудоўным палям канюшыны, ільну. Хто не ведае, што многія любчанскія, карэліцкія, навагрудскія калгасы даўно сталі мільянерамі, забяспечылі высокія грамадскія і асабістыя прыбыткі. Узяць хоць бы шчорсаўскі калгас. Летась на працадзень тут выдадзена па 2 кілаграмы збожжа і столькі ж бульбы, па 7 рублёў грошай. На рачулцы Сервеч, па берагах якой, як расказваюць мясцовыя жыхары, любіў вандраваць Адам Міцкевіч, пабудавана гідраэлектрастанцыя магутнасцю ў 75 кілават. Ціхая і непрыкметная з выгляду рачулка робіць для калгаса надзвычай карысную справу. Дзякуючы ёй, у хатах усіх навакольных вёсак запаліліся электрычныя агні, загаварыла радыё. 12 электраматораў працуюць у калгасе: пры дапамозе электрычнай энергіі тут пілуюць лес, малоцяць, нарыхтоўваюць кармы.

У некалькіх кіламетрах ад Навагрудка размешчана азярцо Літвінка, на якое любіў хадзіць Адам Міцкевіч. Азярцо маленькае, даўно б яно зацягнулася цінай, зарасло хмызняком, каб не клопаты мясцовых жыхароў, якія яго любоўна ачышчаюць ад ілу, ад зараснікаў.

Савецкія людзі памятаюць, любяць, свята ахоўваюць усё звязанае з імем выдатнага польскага паэта. У Навагрудку створана камісія па правядзенню юбілея Адама Міцкевіча, у склад якой увайшлі самыя паважаныя людзі горада. Нават у суровыя для нашай Радзімы дні народ не забываў зберагчы дарагія рэліквії. Не так даўно ў Цэнтральным дзяржаўным архіве БССР знойдзен загад Навагрудскага павятовага рэвалюцыйнага камітэта № 40 ад 16 верасня 1920 года. Гэтым загадам прадугледжвалася стварыць у доме паэта літаратурны музей або народную бібліятэку імя Адама Міцкевіча.

Цяпер пра самы домік Адама Міцкевіча. У гады ваенных завірух ён гарэў, разбураўся, але, нібы фенікс з попелу, зноў паяўляўся на тым жа месцы. У гады Вялікай Айчыннай вайны домік быў разбураны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Ён адноўлен цяпер у тым выглядзе, якім ён быў пры жыцці паэта. У гэтым дарагім для памяці доміку аднаўляецца літаратурны музей Адама Міцкевіча.

У абсталяванні музея прымаюць удзел не толькі жыхары Навагрудчыны, але і многіх іншых месц са-

вецкай краіны. Знойдзена многа барэльефаў, скульптур, ілюстрацый, кніг Адама Міцкевіча. Толькі Навагрудская руская школа № 2 перадала музею звыш 50 экспанатаў — рэпрадукцый, барэльефаў, гарэльефаў, партрэт паэта работы мясцовага мастака Мардасевіча 1857 года.

У адрас музея прыходзяць пасылкі з Масквы, Мінска, Кіева. Маскоўскі жыхар Ляўковіч прыслаў ноты кампазітара Кюі на словы А. Міцкевіча, якія цяпер развучваюцца мясцовымі самадзейнымі калектывамі. З Мінска прыслалі рэдкі партрэт А. Міцкевіча 1895 года, работы італьянскага мастака Пальміры. Кіеўскі скульптар Ульянаў зрабіў для музея бронзавы бюст паэта.

Цікавыя экспанаты перададзены музею Польскай Народнай Рэспублікай.

Памяць аб вялікім польскім паэце жывая і незгасальная. На Навагрудчыне мы сустрэлі студэнта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна Лявона Мірачыцкага. Са старым партфельчыкам ён хадзіў ад вёскі да вёскі, збіраючы, запісваючы ўспаміны мясцовых жыхароў, звязаныя з мясцінамі А. Міцкевіча.

Трэба было бачыць, з якой любоўю аформілі вучні 2-й рускай школы выстаўку, прысвечаную памяці А. Міцкевіча. Яны намалявалі некалькі партрэтаў вялікага паэта, ілюстрацыі да яго твораў, сабралі шмат рэдкіх, унікальных кніг А. Міцкевіча.

У Навагрудскім педвучылішчы група пачынаючых паэтаў выдае свой рукапісны альманах «Першы промень». Для чарговага нумара альманаха падрыхтавана шмат перакладаў на беларускую мову твораў А. Міцкевіча. Магчыма, гэтыя пераклады пакуль яшчэ нельга друкаваць у сталічным часопісе, але сама праца пачынаючых паэтаў гаворыць, наколькі дарагой для іх з'яўляецца паэтычная спадчына вялікага мастака слова.

*1955*

# ЛЕЎ ТАЛСТОЙ
# І БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

Агромністы ўплыў Льва Талстога на рускую, на нацыянальныя літаратуры народаў СССР, на сусветную літаратуру. У. І. Ленін пісаў пра творчасць вялікага рускага пісьменніка як пра «крок наперад у мастацкім развіцці ўсяго чалавецтва». Усеабдымная сіла талстоўскага рэалізму, гранічная жыццёвая праўда, вастрыня раскрыцця супярэчнасцей сучаснай яму рэчаіснасці, пастаноўка «вялікіх пытанняў», вышыня маральнага ўзроўню патрабаванняў да чалавека, да грамадства, майстэрства геніяльнага мастака — усё гэта сапраўды вылучае Талстога ў шэрагі найвялікшых тытанаў духу, якіх калі-небудзь ведала чалавецтва.

Талстому, як выдатнаму пісьменніку, прынеслі прызнанне першыя надрукаваныя творы. Вельмі прыхільна былі сустрэты чытачамі, літаратурнай грамадскасцю аповесці «Дзяцінства», «Гады падлетка».

У 1855 годзе ў часопісе «Современник» пачалося друкаванне «Севастопальскіх апавяданняў». Яны зрабілі выключнае ўздзеянне на самую шырокую чытацкую аўдыторыю. Руская літаратура мела ўжо Пушкіна, Гогаля, Лермантава, бліскучую плеяду сучасных Талстому пісьменнікаў, аднак тое, з якой суровай, бязлітаснай праўдай паказваў малады пісьменнік, непасрэдны ўдзельнік севастопальскай абароны, вайну, з якой глыбінёй, сілай мастацкай пранікнёнасці маляваў чалавечыя характары, абставіны вайны, было новым словам і ў магутнай рускай літаратуры.

Мастацкая эпапея «Вайна і мір», што стваралася з 1863 па 1869 год, стала буйнейшай падзеяй не толькі творчасці Талстога, а рускай і сусветнай літаратур. Пачынаючы з гэтага вялікага шэдэўра, Талстой становіцца сусветна вядомым пісьменнікам. За кожным новым яго творам з неаслабнай увагай сочаць у самых розных краінах.

Леў Талстой жыў і тварыў у складаную эпоху. Ён быў прызнаным пісьменнікам, калі было адменена прыгоннае права, быў сведкам няўхільнага разарэння сялянства, нарастання грамадскіх канфліктаў, якія набывалі ўсё большую сілу ў сацыяльным жыцці Расіі другой паловы XIX і пачатку XX стагоддзя.

Талстой выдатна ведаў сялянскую Расію, народнае жыццё. Па нараджэнню, выхаванню ён належаў да вярхушкі памешчыцкай знаці, але рашуча парваў з поглядамі свайго асяроддзя, бязлітасна крытыкаваў сучасныя яму дзяржаўныя, рэлігійныя, грамадскія парадкі, заснаваныя на прыняволыванні працоўных мас, на іх беднасці, галечы, на прымусе, крывадушнасці, якім з верху да нізу было прасякнута сучаснае яму жыццё.

Талстой з велізарнай сілай, палымянасцю, шчырасцю бічаваў пануючыя класы, выкрываў унутраную лжывасць, фальш усіх тых устаноў, на якіх трымаецца буржуазнае грамадства: царкву, суд, буржуазную навуку.

Як пісаў У. І. Ленін, эпоха, да якой належыць Л. Талстой і якая з выдатнай рэльефнасцю адлюстравалася як у яго геніяльных мастацкіх творах, так і ў яго вучэнні, гэта эпоха 1861—1905 гадоў, у якую падрыхтоўвалася і выбухнула буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя ў Расіі.

У творах Талстога знайшлі адлюстраванне сіла і слабасць, магутнасць і абмежаванасць іменна сялянскага масавага руху. «Усё мінулае жыццё сялянства навучыла яго ненавідзець пана і чыноўніка, але не навучыла і не магло навучыць, дзе шукаць адказу на ўсе гэтыя пытанні»,— пісаў У. І. Ленін.

Леў Талстой быў сучаснікам Янкі Купалы і Якуба Коласа, маладых песняроў абуджанай першай рускай рэвалюцыяй беларускай вёскі. Тое, што Леў Талстой быў неперазыдзеным мастаком слова, пісаў аб працоўным народзе, узвышаўся сваёй магутнай фігурай не толькі ў літаратурным, але і ў грамадскім жыцці, не магло не прыцягнуць да яго ўважлівага, зацікаўленага позірку беларускіх пісьменнікаў.

Янка Купала і Якуб Колас менш за ўсё падзялялі філасофскія погляды вялікага пісьменніка, яго вучэнне аб непраціўленні злу насіллем. Вуснамі беларускіх паэтаў гаварыла тая вёска, якая патрабавала зямлі і волі, актыўна супраціўлялася грамадскаму злу, бунтавала супраць памешчыка і казны, ухілялася ад падаткаў, падпускала «чырвонага пеўня» пад панскія маёнткі.

Сімпатыі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Змітрака Бядулі, усіх пісьменнікаў дэмакра-

тычнага напрамку былі на баку таго Талстога, які ў сваіх творах кляйміў цара, памешчыцка-капіталістычную дзяржаву, прыгнёт працоўнага народа. З бязлітаснай праўдзівасцю, вастрынёй выяўляў вялікі пісьменнік балячкі грамадскага жыцця, называў тых, хто ў іх вінен, не схіляючы галавы перад самымі высокімі, шаноўнымі асобамі.

Гэты Талстой быў блізкі беларускім пісьменнікам. Гэта была тая духоўная блізкасць, якая яднала вялікага мастака з усёй дэмакратычнай Расіяй.

Адыход Талстога з Яснай Паляны, яго разрыў з сям'ёй, нечаканая смерць — усё гэта гулкім, жалобным рэхам адгукнулася ў самых глухіх кутках Беларусі. Сярод шматлікіх хадакоў, шукальнікаў праўды, якія ішлі да Талстога з набалелымі пытаннямі, бядой, горам, сярод людзей, якія з ім перапісваліся, было нямала беларусаў — сялян і інтэлігентаў.

Якуб Колас пачуў пра смерць вялікага пісьменніка ў час зняволення ў мінскім астрозе. Прачулымі сардэчнымі радкамі адазваўся ён на трагічную вестку.

...Ты сышоў з жыцця дарогі,—
І ноч больш цямнее,
Тое царства цьмы, няпраўды,
Што пад намі вее...
Ты сышоў з жыцця дарогі,
Але ўсёй душою
З намі будзеш, вечна будзеш
Зваць на бой нас з цьмою.

Верш Якуба Коласа «Памяці Л. М. Талстога» быў перасланы з турмы і надрукаваны ў «Нашай ніве» 3 снежня 1910 года.

Традыцыі, ілюзіі патрыярхальнай вёскі, якую так глыбока ведаў вялікі рускі пісьменнік, не абмінулі ў сваіх творах беларускія песняры. Адзін з лепшых вобразаў нашай літаратуры — вобраз Міхала з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» — класічны тып таго селяніна, якога жыццё навучыла ненавідзець пана і памешчыка, але не навучыла і не магло навучыць, як змагацца за сваё шчасце. Бунт Міхала — яшчэ ў многіх адносінах бунт у душы. Міхал — актыўная натура, але шляхі-дарогі, па якіх ён ідзе, не могуць яго прывесці да жаданай мэты.

Не здольны адкрыта змагацца са сваімі ворагамі, крыўдзіцелямі герой драмы Янкі Купалы «Раскіданае гняздо» Лявон Зяблік. Ён увесь у палоне векавых па-

трыярхальных запаветаў, верыць у спрадвечную справядлівасць, пакорна схіляючы галаву перад лёсам.

Вельмі значнае, практычна неагляднае ўздзеянне Льва Талстога — геніяльнага мастака слова — на шляхі развіцця беларускай прозы. У пачатку веку беларуская проза толькі-толькі пачала авалодваць сакрэтамі майстэрства, а нараджэнне такіх яе жанраў, як аповесць, раман, было яшчэ наперадзе. У пошуках прыкладаў, узораў для вучобы беларускія пісьменнікі ў першую чаргу звярталіся да вопыту рускай літаратуры. Школа Талстога для многіх з іх была школай сапраўднага майстэрства.

Мастацкая творчасць Талстога здзіўляе незвычайнай эпічнай шырынёй, выключна глыбокім пранікненнем ва ўнутраны свет чалавека, высакароднасцю, вышынёй маральных патрабаванняў, як асновай жыцця чалавечага грамадства. Здзіўляючае разуменне глыбінь народнага жыцця, народнай душы, мовы народа, прастата, яснасць мыслення — усе гэтыя якасці не маглі не прыцягнуць да Талстога-мастака беларускіх пісьменнікаў.

Сёння мы нават не можам сабе ўявіць узнікнення трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» — аднаго з першых шырокіх эпічных твораў — без плённай вучобы яе аўтара ў Талстога. Пластычнасць, рэльефнасць вобразаў, глыбокая народнасць, маральная чысціня як асноўны крытэрый учынкаў і паводзін герояў, празрыстасць, мяккасць, аптымістычны погляд на свет, на жыццё — такому майстэрству, разуменню сутнасці мастацтва Якуб Колас вучыўся ў свайго вялікага сабрата.

Яшчэ больш непасрэдныя, адчувальныя вынікі творчай вучобы ў Талстога знаходзім у другога буйнога беларускага эпіка — Кузьмы Чорнага. Ён успрыняў многія мастацкія запаветы Талстога і творча рэалізаваў іх на нацыянальнай глебе. Кожнаму, хто цікавіцца творамі гэтага самабытнага, рана памёршага мастака, кінецца ў вочы яго па-талстоўскі глыбіннае пранікненне ў душу героя, уменне прасачыць плынь псіхалагічнай з'явы ад пачатку да канца ў яе самых тонкіх адценнях і нюансах. Па-талстоўскі адносіўся Кузьма Чорны да мовы народа, глыбока вывучаючы яе, выкарыстоўваючы яе фразеалагічнае, лексічнае, сінтаксічнае багацце, індывідуалізуючы, як сцвярджаў пісьменнік, «мову па героях».

Уздзеянне генія Талстога на лёс сусветнай і кожнай нацыянальнай літаратуры бясспрэчнае, сувязі, уплывы ў гэтай дыялектычна складанай галіне далёка не вывучаны, не выяўлены. Кожнае пакаленне пісьменнікаў вучыцца ў Талстога, знаходзячы ў яго надзвычай багатай скарбніцы штосьці блізкае для сябе, не адкрытае, не заўважанае папярэднікамі. Такі лёс генія, які творыць для ўсяго чалавецтва.

Прыклады актыўнай творчай вучобы ў Талстога можна знайсці сярод сучасных беларускіх пісьменнікаў, прычым пісьменнікаў самых розных, не падобных па творчых індывідуальнасцях. Вельмі прыкметным, хоць і апасродкаваным, было ўздзеянне Талстога на творчасць Івана Мележа; больш выразна і непасрэдна адчуваецца яно ў творчасці Васіля Быкава. Вучыўся ў Талстога Янка Брыль, лірык па складу таленту, але адначасна і глыбокі псіхолаг, тонкі назіральнік. Талстоўскія ўрокі — бачыць жыццё ў складаных, мнагалучных сувязях, разумець высокія маральныя патрабаванні як аснову жыцця — успрыняў Іван Шамякін, Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў, Алесь Адамовіч, Вячаслаў Адамчык, Аляксей Кулакоўскі, Аляксей Карпюк, Барыс Сачанка, Анатоль Кудравец, Уладзімір Дамашэвіч, Мікола Лобан, Алена Васілевіч,— кожны па-свойму чэрпаюць са скарбніцы, назва якой — свет Талстога.

Вялікі Ленін яшчэ ў пачатку веку прадбачыў той час, калі Талстой — геній рускага народа — будзе адкрыт для народа, даступны народу. Час гэты наступіў з перамогай Кастрычніка і сацыялізма. Талстога чытаюць мільёны савецкіх людзей усіх нацыянальнасцей: у арыгінале і ў любоўна зробленых майстрамі літаратуры перакладах ягоных бессмяротных твораў.

*1978*

## УСМЕШКА ЧЭХАВА

Класікі прыходзяць да нас яшчэ ў дзяцінстве. Яны адкрываюць вочы на свет. Дзякуючы ім свет гэты становіцца незвычайна шырокім, ён ужо не канчаецца, а толькі пачынаецца з роднай хаты, пясчанай вуліцы, на

якой ты ведаеш кожную драбніцу: зялёнай вясковай аколіцы, за якой і ляжаць тыя зваблівыя, неразгаданыя далі, што адкрывае перад тваім позіркам пісьменнік.

З дзяцінства прыходзяць да нас Пушкін, Гогаль, Чэхаў, Горкі, Янка Купала, Якуб Колас. Прыходзяць жывымі. Нельга паверыць у тое, што гэтых людзей няма на свеце, бо карціны, якія яны намалявалі, стаяць у вачах, словы, сказаныя імі, звіняць чароўнай неразгаданай музыкай. Праз год ці болей можна забыць змест кнігі, забыць імёны і прозвішчы герояў. Але не забудзеш таго пачуцця, якое валодала табой у той час, калі ты кнігу чытаў. Яно, гэта пачуццё, стала часткай тваёй душы, яно ўзбагаціла яе. Пісьменнік выхоўвае пачуцці, пашырае, калі можна так сказаць, дыяпазон душы, будзіць у ёй вялікае, сапраўды чалавечае. І чым большы перад намі мастак, тым разнастайнейшыя гамы пачуццяў ён выкліча сваімі творамі, выразней прымусіць адчуць сапраўдную прыгажосць жыцця.

Чэхаў прымусіў смяяцца, плакаць, напоўніў сэрца болем і гневам за пакуты чалавека на зямлі. Ён намаляваў столькі агіднасцей «расейскага» жыцця, столькі пачварнага і брыдкага зла, якое калечыць душу чалавека, што часамі яго апавяданні было цяжка чытаць. І ён жа, той самы Чэхаў, умеў расказваць з цёплай бацькоўскай усмешкай, ён, здаецца, нібы папярэджваў чытача: не палохайся, браце, тое, што я пішу, не такое ўжо страшнае, яно не самае галоўнае ў жыцці, яго можна вымесці, ачысціць. Такой здавалася ўсмешка Чэхава.

Знаёмства з Чэхавым пачалося з трэцяга класа, з «Каштанкі». Гэтае першае апавяданне, якое я прачытаў у школьнай чытанцы, проста ашаламіла. Трэці клас, адзінаццацігадовы ўзрост — якраз тая пара, калі душа наросхрыст адкрыта для ўсяго добрага, прыгожага, калі чалавек поўны спагады і цікавасці да жывёл і птушак. Рэдка ў якога вучня ў такім узросце няма найпершага сябра ў асобе кашлатага Бобіка або Рудзькі.

Быў і ў мяне свой Рудзька, разумны, крыху флегматычны сабака, які амаль ніколі не брахаў на чужых і незвычайна хутка ішоў на сяброўства з кожным, хто надзяляў яго ўвагай і ласкай. За гэта я Рудзьку трохі недалюбліваў. Я лічыў яго бесхарактарным і слаба-

вольным. У маім уяўленні сапраўдны сабака павінен быў быць злосным.

Прачытаўшы «Каштанку», я рашуча змяніў свае адносіны да Рудзькі. Мне здавалася, што я мала яго раней паважаў, часта крыўдзіў, і болей за ўсё мяне палохала думка, што сабака да каго-небудзь уцячэ. Месяц, а можа, і больш, у час летніх канікулаў я не адпускаў ад сябе Рудзьку ні на крок, браў яго ўсюды, куды ішоў, і, зрэшты, дамогся свайго. Сабака перастаў лашчыцца з усімі, хоць па-ранейшаму ні на каго не брахаў, ён ужо сам не мог без мяне жыць. Ён праводзіў мяне да школы, а вечарамі прыбягаў сустракаць. Сябры дзівіліся і хвалілі яго за розум. Я ж, поўны наіўнага дзіцячага эгаізму, самазадаволена ўсміхаўся і ні за якія грошы не адкрыў бы ім сакрэту гэтай незвычайнай прыхільнасці Рудзькі да мяне. Сабака ўмеў плаціць за дабро дабром. Пра ўсё гэта я дазнаўся ў Чэхава, прачытаўшы яго «Каштанку».

Уражанні ранніх год жыцця — самыя моцныя. З першага прачытанага апавядання Чэхаў паўстаў пісьменнікам, які горача любіць усё жывое. І ўражанне гэта не знікла, не сцёрлася, калі ўслед за «Каштанкай» чыталіся томікі чэхаўскіх апавяданняў з яго «Смерцю чыноўніка», «Тоўстым і тонкім», «Хірургіяй», «Хамелеонам», «Унтэрам Прышыбеевым», «Зламыснікам», «Ванькам», «Конскім прозвішчам», «Аннай на шыі» і многімі іншымі. Чэхаў быў «смешным» пісьменнікам. Героі яго твораў здаваліся трошкі дзівакаватымі, жорсткімі, тупагаловымі, скупымі, эгаістычнымі, прагнымі, цёмнымі, легкадумнымі, пустымі. Хацелася сказаць ім: перастаньце быць такімі, якімі вы ёсць, хіба вы не бачыце, якое прыгожае жыццё, колькі ў ім можа быць радасці, шчасця. Дык навошта вы топчаце гэтую радасць, навошта самі сабе псуяце жыццё?..

Усё саграваў ўсмешка пісьменніка. Яна была вельмі чалавечнай, ніколі не закрэслівала чалавека, не адмаўляла яго, самую прыгожую і разумную сілу на зямлі. У кожным радку чэхаўскіх апавяданняў прысутнічала адчуванне прыгажосці жыцця, радасці, разлітай у наваколлі. І калі пісьменнік гэтай радасці не паказваў, не мог паказаць, ён сумаваў па ёй або смяяўся. І чытач яшчэ больш прагнуў гэтай радасці, бо ён разам з пісьменнікам адчуваў, што чалавек варты яе.

Чэхаў умеў быць усякім: насмешлівым, вясёлым, узнёслым, абыякава-спакойным, сумным. «Палата № 6», «Мужыкі», «Іоныч» напісаны бязлітасна праўдзівым пяром мастака, які ўсім сэрцам ненавідзіць зло і бруд жыцця, яго жорсткасць і свінцовы цяжар.

І вось хлынула святло чэхаўскага «Стэпу» з яго да болю вострым адчуваннем шырыні і неабдымнасці жыцця, яго спрадвечнага імкнення наперад, яго радасці. Чэхаў верыў у чалавека, у народ, у тое, што людзі праб'юць сабе дарогу да шчасця. Чым больш чытаеш Чэхава, тым глыбей пачынаеш разумець, што ён — вялікі рускі пісьменнік, што ён ведаў і любіў свой народ, таму не мог быць песімістам. І яшчэ ўспамінаеш, што Чэхаў нарадзіўся ля мора, бачыў стэп, які ўпрытык падступаў да яго роднага горада, і, здаецца, нават гэтая акалічнасць не магла прайсці бясследна для пісьменніка з такім чулым сэрцам, як у яго. Ён клікаў з цесных сутарэнняў, з чыноўніцкіх канцылярый, з мяшчанскіх закуткаў на прастор, да святла, да сонца!..

Адчуванне прыгажосці жыцця, вера ў светлыя ідэалы будучыні, бадай, найбольш адчуваецца ў чэхаўскіх п'есах.

Філігранная дакладнасць чэхаўскага пісьма, праўда кожнага жэсту і руху, музыка самога слова, незвычайнае веданне мовы, усіх яе пластоў і жаргонаў, ёмістасць мастацкай дэталі — усё гэта на стагоддзі застанецца ўзорам літаратурнага майстэрства. І таксама незабыўна чэхаўская ўсмешка, якая можа ззяць тысячай сваіх адценняў, усмешка, якая ўсё сагрэе, усё асвеціць святлом вялікай веры ў чалавека.

*1960*

## СВЯТЛО ВЯЛІКІХ ІДЭЙ

Першая руская буржуазная дэмакратычная рэвалюцыя ўскалыхнула і Беларусь. На хвалі аграрна-сялянскага і нацыянальна-вызваленчага руху пачала нараджацца якасна новая нацыянальная беларуская літаратура, у якой засвяцілі зоркі нязнанай раней велічыні — Янка Купала і Якуб Колас.

Творчасць Я. Купалы, Я. Коласа дэмакратычная, гуманістычная па духу. Дух гэты не быў страчаны і пасля паражэння рэвалюцыі, калі ў літаратуры мутнай паводкай разлілася дэкадэншчына, калі часовыя спадарожнікі рэвалюцыі пачалі аплёўваць яе ідэалы, калі нават некаторыя пісьменнікі-рэалісты ў пэўнай ступені страцілі рэалістычныя пазіцыі.

Зусім невыпадковы факт, што Максім Горкі заўважыў нараджэнне маладой беларускай літаратуры, падтрымаў Купалу і Коласа. Пралетарскі пісьменнік змагаўся за жыццёва-бадзёрую, сацыяльна-аптымістычную, рэалістычную літаратуру, якая кіравалася б высокімі гуманістычнымі ідэаламі. У асобе Я. Купалы, Я. Коласа ён бачыў саюзнікаў, бо творчасць беларускіх песняроў была цесна звязана з жыццём народа, выказвала яго надзеі і спадзяванні. Рэвалюцыйны, гуманістычны пафас творчасці А. М. Горкага меў вялікі ўплыў на беларускую літаратуру. Горкаўскія матывы буры выразна прасочваюцца ў лірыцы Коласа, Цёткі, Цішкі Гартнага. Але, бадай, найбольшае ідэйна-творчае ўздзеянне мелі творы А. М. Горкага на Я. Купалу.

Паэту маштабнага, рамантычна-ўзнёслага мыслення, якім быў Я. Купала, імпанавала гераічная, высокая тэма Чалавека ў творчасці А. М. Горкага. І справа тут не ў пераклічцы паасобных матываў. Уплыў А. М. Горкага, як у значнай ступені і на творчасць Я. Коласа,— глыбейшы, ён ідзе па лініі ідэйных, ідэалагічных катэгорый — гуманізму і дэмакратызму.

«Людзьмі звацца» — лейтматыў лірыкі Я. Купалы. Беларускі паэт высока ўзнімаў сцяг чалавека, «думнага цара зямлі», і пафасам сваім яго паэзія блізкая да горкаўскага, рамантычнага і велічнага ўяўлення аб чалавеку, да горкаўскага гуманізму і яго крытыкі «свінцовых мярзот» царска-памешчыцкай рэчаіснасці.

Чалавек, які за свае ідэйныя перакананні ідзе на смерць, на эшафот — сапраўдны герой для Купалы. Іменна такім паўстае народны герой ва ўсёй творчасці паэта: ён не адзіночка, не горды бунтар, які кідае выклік усяму свету, а перш за ўсё абаронца народных інтарэсаў, у імя вызвалення народа ён аддае самае дарагое, што ў яго ёсць,— уласнае жыццё.

Вобраз бунтара, змагара, сейбіта рэвалюцыйнай праўды вельмі часта паўстае ў лірыцы Я. Купалы ў рамантычным арэоле. Але ў вышынь зіхатлівай раман-

тычнай мары паэт нязменна спускаецца ў мора зямной будзённасці, і толькі тут, набрынялая сокамі «людскога жыцця», яго песня набывае сапраўдную моц і загартоўку. Як бачым, рамантычныя і рэалістычныя тэндэнцыі ідуць у лірыцы Я. Купалы, як і ў творчасці А. М. Горкага, побач, ствараюць своеасаблівы сплаў.

Паэма Купалы «Адвечная песня», якую высока ацаніў А. М. Горкі і раіў перакласці на рускую мову, пісалася ў самы змрочны, «чарнасоценны» час, калі пасля падаўлення рэвалюцыі рэакцыя спраўляла перамогу, калі пад свіст і галёканне напалоханых размахам народнай нянавісці «гаспадароў жыцця» аплёўваліся, зневажаліся ідэалы рэвалюцыі, асмейваўся, затоптваўся ў гразь яе ўдзельнік, селянін-мужык, які захацеў чалавекам звацца.

Паэма пабудавана на выразным канфлікце неадпаведнасці высокай, па-горкаўску ўзнятай тэмы чалавека, які «пад уладай сваёй будзе меці як ёсць усё чыста на свеце», і панаваннем як у прыродзе, так і ў грамадстве злых, варожых чалавеку сіл, што зводзяць на нішто самыя гераічныя намаганні. У гэтым непасрэдны водгук паэта на падзеі падаўлення першай рускай рэвалюцыі.

Горкаўскія традыцыі ў творчасці беларускіх пісьменнікаў праявіліся перш за ўсё ў паэтызацыі актыўных, рэвалюцыйных адносін да жыцця, у паказе гераічных намаганняў народа, у гуманістычным пафасе, у сцвярджэнні чалавека працы асноўным героем літаратуры. Гэтыя якасці дарэвалюцыйнай беларускай літаратуры намнога ўзмацніліся ў савецкі час.

Без творчага ўздзеяння горкаўскіх ідэй цяжка ўявіць нараджэнне беларускага рамана, які ўзнікаў як эпас рэвалюцыі, як абагульненне вопыту класава-сацыяльнага змагання працоўнага народа. «Сокі цаліны» Ц. Гартнага, «У палескай глушы» і «У глыбі Палесся» Я. Коласа, «Сцежкі-дарожкі» М. Зарэцкага, «Сын» Р. Мурашкі — усе гэтыя буйныя творы беларускай прозы, у цэнтры якіх герой высокай грамадскай свядомасці, апладняліся горкаўскімі ідэямі чалавека, бальшавіка як носьбіта арганізаванай рэвалюцыйнай энергіі.

Маладнякоўская паэзія і проза з яе па-юнацку рамантычнымі імкненнямі апець новую рэвалюцыйную яву, з яе радасна-наіўным здзіўленнем перад шырынёй,

багаццем навакольнага свету зноў жа непарыўна звязана з горкаўскімі рамантычнымі творамі, і ў першую чаргу з «Песнямі» аб Буравесніку і Сокале. Адзін з герояў Міхася Лынькова гаворыць: «Горкі... важнецкі, браце, пісьменнік. З ім, браце, дзялы можна ладзіць, наш ён... Жыццё наша бача наскрозь і аб ім стараецца. Яго чытаць можна і вучыцца можна. Ты гэта прачытай калі і падумай. І тады, браце, дарога перад табой — ш-ы-ро-кая, аж да самага таго сіняга мора... Па дарозе той сонца над табой, залатое, гаручае... І галоўнае, на цябе свеціць, на цябе, чалавеча...»

Надзвычай блізка, цесна стыкаецца з горкаўскімі ідэямі савецкая паэзія Купалы. Яна напоўнена роздумам аб рэвалюцыі, аб сусветна-інтэрнацыянальнай місіі рэвалюцыі, заклікаиай вынішчыць дарэшты след «крыўды векавечнай, вечнага цярпення». Паэт абгрунтоўвае гуманізм рэвалюцыі, яе ўсенародную справядлівасць, бо стары свет, дзе «гняздо звілі вызыск і распуста», не мае маральнага права на далейшае існаванне, свет гэты бесчалавечны, і рэвалюцыя справядліва заплаціла «помстай за знявагу ды за катаванне».

Я. Купалу, як і А. М. Горкага, востра цікавіць пытанне: што новае нясе ў сваім душэўным складзе, ідэалах, імкненнях савецкі чалавек. Беларускага паэта шчыра захапляе энтузіязм савецкага чалавека, адданасць агульнай справе, пачуццё асабістай адказнасці за ўсё тое, што робіцца на свеце. Усё гэта, адчутае і ўбачанае паэтам, знойдзе бліскучае ўвасабленне ў «ляўкоўскім» цыкле вершаў, напісаным у 1935 годзе.

У вобразе Алесі з аднайменнага верша Купала ўгадаў штосьці надзвычай істотнае, калі не сказаць эпахальнае, у жыцці сваёй рэспублікі, краіны, даў яму назву, вызначыў вытокі. За вясковай дзяўчынай, што «самалётавым крыллем воблакі калыша», як бы паўстае вобраз цэлага пакалення, мужнага, авеянага рамантычным парываннем, што стала наследнікам рэвалюцыйнай славы бацькоў і пазней, у Вялікую Айчынную вайну, усклала на свае плечы цяжар найвялікшых нягод і выпрабаванняў.

З такіх вершаў, як «Алеся», «Як у госці сын прыехаў», «Хлопчык і лётчык», «Лён», «Выпраўляла маці сына» пачынаецца новы герой беларускай паэзіі, сучаснік і ўдзельнік велічных, гераічных падзей, чалавек, якога А. М. Горкі назваў самым моцежным з усіх

герояў сучаснасці і мінулага. Дарэчы, А. М. Горкі заўважыў новыя купалаўскія вершы. На экземпляры перакладу верша «Лён» на рускую мову ён напісаў слова, якое азначала вышэйшую ацэнку,— «Слаўна!».

Усе пакаленні беларускіх савецкіх пісьменнікаў адчувалі дабратворнае святло горкаўскіх ідэй, святло Чалавека — гаспадара і пераўтваральніка свету.

*1968*

# КНІГА АДКРЫВАЕ СВЕТ

Дзяцінства... Яно, здаецца, пачынаецца з той пары, калі чалавек становіцца нагамі на зямлю і робіць па ёй свае першыя крокі. І хоць гэты маленькі грамадзянін ведае пакуль яшчэ нямнога слоў, вымаўляючы іх на свой манер, але ён ужо адкрывае для сябе свет.

У кожнага, каму пяць, шэсць, восем, дзесяць гадоў, паяўляюцца тысячы сваіх «чаму?». На гэтыя «чаму?» адказваюць тата, мама, школа і, нават у дашкольным узросце, кніга. Неяк у вядомага савецкага педагога-наватара Антона Сямёнавіча Макаранкі маладая маці запытала, з якога часу патрэбна пачынаць выхаванне яе сына.

— А колькі вашаму сыну? — у сваю чаргу спытаў Макаранка.

— Два тыдні.

— У такім выпадку, грамадзяначка, вы спазніліся з выхаваннем свайго сына роўна на два тыдні.

Гэта, вядома, жарт. Але ў ім ёсць свая логіка і свая праўда. Калі мы гаворым, што чалавек перш за ўсё сацыяльная адзінка, прадукт грамадскіх адносін, то павінны прызнаць і тое, што фарміраванне яго характару, свядомасці пачынаецца з самых ранніх гадоў.

Дзяцінства — цэлая эпоха ў жыцці чалавека, прычым незабыўная, непаўторная эпоха. Тое, што мы называем дзяцінствам, канчаецца недзе на рубяжы пятнаццаці-шаснаццаці гадоў. Але які багаты набыткамі гэты перыяд жыцця! Дружба, таварыскасць, любоў да Радзімы, да працы, да ўсяго жывога на зямлі, погляды на сябе як на адзінку калектыву, пэўныя этычныя і эстэтычныя погляды, асновы навукі і ў пэўным сэнсе све-

тапогляд, нарэшце, бясконцыя летуценні, мары, якія пазней выльюцца ў выбар жыццёвага занятку,— усё гэта прыходзіць яшчэ ў дзяцінстве і падхопліваецца, працягваецца крылатым юнацтвам. Самая паэтычная, самая багатая на набыткі, на ўражанні і вельмі важная ў сэнсе выхавання будучага грамадзяніна — гэта пара дзяцінства.

Дзеці — наша жывая будучыня. Праз пятнаццаць, дваццаць, дваццаць пяць гадоў тыя, хто сёння гаманлівай талакой ідзе ў школу, хто дзярэ штаны, гайсаючы па дахах за галубамі, хто садзіць дрэўцы і хто іх іншы раз яшчэ ломіць, хто страляе і не страляе з рагатак,— адным словам, усе дзеці з добрымі і не зусім добрымі паводзінамі прыйдуць у жыццё гаспадарамі. Гэта наша змена. Яна, кажучы словамі вядомага паэта, будзе «службу галоўную несці».

Не прыходзіцца спрачацца, што ад таго, як будзе выхавана гэтая змена, гэтыя новыя пакаленні будаўнікоў камунізма, залежыць нямала.

Мы з'яўляемся ўдзельнікамі, сведкамі тытанічнай стваральнай работы, якая адбываецца ў нашай краіне. Камуністычная партыя, Савецкі ўрад аддаюць велізарную ўвагу пытанням выхавання падрастаючай змены. Гэтыя пытанні асабліва востра паўстаюць сёння, калі адбываецца перабудова школы, калі яна рашуча паварочваецца тварам да жыцця, да яго запатрабаванняў. Сёння школа становіцца той асноўнай кузняй кадраў, адкуль ідзе папаўненне рабочага класа і калгаснага сялянства.

У гэтых новых умовах паўстаюць новыя задачы перад дзіцячай літаратурай. Перад ёй адкрываюцца новыя далягляды, новыя неасвоеныя паэтычныя мацерыкі. Мы заклікаңы выхоўваць бадзёрую, жыццястойкую моладзь, якая ўсім сэрцам будзе любіць сваю Радзіму, свой народ, усё вольналюбівае чалавецтва. Нашы дзеці, выходзячы ў жыццё, не павінны баяцца ніякай працы, мы хочам іх бачыць праўдзівымі, культурнымі, высакароднымі людзьмі, надзеленымі глыбокай верай у будучыню, людзьмі з моцнай воляй і цвёрдым характарам. Мы хочам, каб у нашых дзяцей былі ясны розум і чулае, гарачае сэрца, здольнае захапіцца крылатай марай. Чалавек камуністычнага грамадства ўяўляецца нам гарманічнай, усебакова развітай асобай. Ён фарміруецца ўжо сёння, ён сярод ударнікаў брыгад каму-

ністычнай працы, сярод перадавых людзей сённяшняга жыцця. Такімі мы жадаем бачыць сваіх дзяцей. Такімі іх павінны выхоўваць сям'я, школа, піянерская і камсамольская арганізацыі і, нарэшце, дзіцячая літаратура.

Пачынаючы размову аб беларускіх кнігах прозы для дзяцей, якія выйшлі за апошнія два-тры гады, хочацца перш за ўсё спыніцца на тым, як гэтыя кнігі выконваюць сваю вялікую выхаваўчую місію, наколькі паўнакроўна адлюстроўваюць яны подых нашага жыцця, сучаснасці, як глыбока здольны яны ўзрушыць розум і сэрца свайго шматлікага чытача.

Дзіцячая літаратура — неад'емная частка вялікай літаратуры, скідак на «малады» ўзрост ёй не дадзена, яна грунтуецца на ўсіх тых законах, што і ўся мастацкая літаратура. Ёсць, вядома, у дзіцячай кнігі свая спецыфіка, свае адметныя асаблівасці. В. Р. Бялінскі пісаў: «Для дзяцей прадметы тыя ж, што і для дарослых, толькі выкладзеныя адпаведна з іх разуменнем, а ў гэтым і хаваецца адзін з важнейшых бакоў гэтай справы».

Дзіцячы пісьменнік мае справу з чытачом, перад якім толькі пачынае раскрывацца свет і жыццё, яго веды абмежаваны. Пісьменнік нібы бярэ свайго малога чытача за руку і вядзе яго па складаных жыццёвых дарогах і пуцявінах. Размаўляе ён з ім сур'ёзна, стала, не імкнучыся ўсё да канца разжаваць, бо ў яго апанента дапытлівы розум, жывая фантазія, ён умее сам многае дадумаць. Чытач гэты даверлівы, крыху просталінейны, у яго шчырая, непасрэдная душа, але ён не пацерпіць маны, фальшу, прытворства і адразу закрывае кнігу, калі знойдзе ў ёй такія якасці.

Спецыфіка дзіцячай кнігі, такім чынам, вынікае з узросту чытача, з патрабаванняў дзяцей. Дзіцячая літаратура разам з гэтым павінна быць педагагічнай. Але педагагічнасць, выхаваўчасць усякага, і ў тым ліку дзіцячага, твора павінна спалучацца з мастацкасцю. Напісаць дзіцячую кнігу — зусім не азначае прыстасаваць, прывязаць тыя ці іншыя педагагічныя задачы да злепленых на скорую руку вобразаў, прымірыць дыдактыку, голае павучанне з мастацтвам. Такога суседства ў сапраўдным творы быць не можа. Менавіта пра «рахітычныя», поўныя голага дыдактызму кнігі пісаў Д. І. Пісараў: «Спецыяльная дзіцячая літаратура заў-

сёды і ўсюды складае і будзе складаць адну з самых мізэрных, самых фальшывых і самых непатрэбных галін агульнай літаратуры».

Д. І. Пісараў меў перад сабой галоўным чынам літаратуру «другога гатунку». Вопыт класікаў, якія пісалі для дзяцей, створаная савецкімі літаратарамі «вялікая літаратура для маленькіх» даўно абвергнулі думку, што дзіцячая кніга — гэта кніга ніжэйшага гатунку. Нашай дзіцячай класікай сталі творы С. Маршака, А. Гайдара, В. Катаева, М. Ільіна, Б. Жыткова, М. Прышвіна, К. Чукоўскага, В. Біянкі і інш.

Значныя здабыткі, традыцыі мае беларуская дзіцячая літаратура. Для ўдзячнага маладога чытача пісалі Янка Купала, Якуб Колас, Цётка, Змітрок Бядуля, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў. У нас ёсць «спецыяльныя», прызнаныя і любімыя чытачом дзіцячыя пісьменнікі. На творах Янкі Маўра, напрыклад, выхоўвалася не адно пакаленне нашых школьнікаў.

Вопыт нашай, калі можна так сказаць, дзіцячай класікі нагляднa сведчыць, што пісьменнік павінен валодаць цудоўным і рэдкім дарам, глядзець на навакольны свет вачамі дзіцяці, быць шчыра зацікаўленым усім тым, што цікавіць дзяцей, быць непасрэдным у сваіх пачуццях, у сваім хваляванні. Менавіта так напісаны «Палескія рабінзоны» Янкі Маўра, «Міколка-паравоз» Міхася Лынькова, «Міхасёвы прыгоды» і «Страшнае спатканне» Якуба Коласа, «Мурашка-палашка» і «Сярэбраная табакерка» Змітрака Бядулі, многія дзіцячыя творы Івана Шамякіна, Янкі Брыля, Андрэя Александровіча, Алеся Якімовіча, Паўла Кавалёва, Усевалада Краўчанкі, Аркадзя Чарнышэвіча, Івана Грамовіча, Міколы Лупсякова і многіх іншых нашых пісьменнікаў, у творчасці якіх ёсць «дзіцячая» паласа.

Не трэба забываць і таго, што дзесяткі добрых кніг, якія спецыяльна для дзяцей не пісаліся, увайшлі ў бібліятэку дзіцячага чытання. Асабліва ў выгодным становішчы старэйшы ўзрост. «Дрыгву» Я. Коласа ахвотна чытаюць, напрыклад, і дзеці сярэдняга ўзросту і ўсё разумеюць, бо ўсё ў гэтым творы празрыста, ярка, вобразна. Нездарма некалі К. Станіслаўскі гаварыў: «Пісаць для дзяцей трэба гэтак жа, як і для дарослых, толькі лепш».

Большасць беларускіх апавяданняў і аповесцей для

дзяцей, напісаных або выдадзеных за апошнія два-тры гады, выразна прыгодніцкага характару. У іх аснову пакладзены незвычайныя падзеі, выключныя абставіны, у якія трапляюць героі, і наогул розныя цікавыя здарэнні. Сам па сабе займальны, напружаны сюжэт, калі ён дастаткова псіхалагічна і жыццёва матываваны, вельмі падыходзіць для дзіцячай кнігі. Для яе амаль абавязковае дынамічнае, напружанае развіццё дзеяння. Дзеці любяць усё яркае, выключнае, незвычайнае. Незвычайнае, новае ім бліжэй да сэрца, чым тое, з чым яны сутыкаюцца кожны дзень. І гэта зразумела. Чалавек па прыродзе сваёй шукальнік, а на дзіцячы ўзрост прыпадае найбольшая колькасць «адкрыццяў».

Не дзіўна таму, што ў свае творы з самай разнастайнай тэматыкай пісьменнікі імкнуцца ўнесці элементы прыгодніцтва, незвычайнасці, займальнасці. І нічога страшнага тут няма, калі выключнае, яркае вынікае з самой логікі развіцця падзей і характараў, калі яно не прывязваецца сілком да звычайнага, «сумнага» матэрыялу. Але ў нас вельмі часта здараецца так, што пошукі прыгод, незвычайнага становяцца самамэтай, што аўтары дзіцячых кніг ледзь не ў кожным ляску знаходзяць нейкія таямнічыя пячоры, у якіх хаваюцца шпіёны, дыверсанты ці, у лепшым выпадку, крымінальнікі, зладзеі, якіх нарэшце і выводзяць на чыстую ваду маладыя, праніклівыя героі.

Так нараджаецца звычайны дэтэктыў, разбаўлены ружовай вадзіцай маралізатарскіх разважанняў, укладзеных у вусны не па гадах мудрых герояў. Кніг з яўным нахілам да дэтэктыву ў нас проста зашмат. Без ніякай шкоды для высакароднай справы выхавання падрастаючага пакалення іх колькасць можна грунтоўна скараціць.

Вядома, дзіцячая кніга павінна выхоўваць пільнасць, нянавісць да ўсялякіх прайдзісветаў і шкоднікаў. Але, глытаючы адну за адной кнігі, дзе пільныя героі выкрываюць цёмных асоб, неспакушаны малады чытач можа прыйсці да сумнага вываду, што наша жыццё перапоўнена living рознымі зладзеямі, жулікамі, прайдзісветамі.

Пра мастацкія вартасці падобнай літаратуры не прыходзіцца гаварыць. Найчасцей гэта танная падробка пад белетрыстыку, дзе на кожным кроку кожны

герой можа зрабіць вокамгненнае сальтамартале, дзе з сюжэтам аўтар паступае, як пастух з доўгай пугай: хоча — лясне, каб аж пошчак пайшоў, хоча — проста так цягне на плячы. Усё ў яго ўладзе.

Ужо гаварылася, што прыгодніцкі жанр можа ўвабраць у сябе самы разнастайны жыццёвы матэрыял. У «Палескіх рабінзонах», напрыклад, Янка Маўр адкрывае для ўдзячнага чытача невядомы дагэтуль дзівосны свет нашага Палесся, з яго багацейшай флорай і фаунай, з яго загадкамі, «белымі плямамі». Пісьменнік малюе глыбока чалавечыя, сімпатычныя вобразы двух савецкіх юнакоў, якія, надзейна ўзброіўшыся ведамі звычайнай сямігодкі, выстаялі ў барацьбе адзін на адзін з прыродай. Дэтэктыўны ход паяўляецца ў гэтай аповесці ў самым канцы, але ён тут заканамерны, не прыцягнуты, як кажуць, за вушы.

Не парушаюць, як нам здаецца, жыццёвай праўды незвычайныя прыгоды маладога мінчаніна Андрэйкі і яго пабраціма карэйца Кана з аповесці Юрыя Багушэвіча «Дерево дружбы». Пісьменнік расказвае аб барацьбе карэйскага народа за сваю свабоду і незалежнасць, аб вайне, у якой магчымы самыя неверагодныя сітуацыі. Маючы на мэце расказаць свайму чытачу пра далёкую Карэю, абудзіць пачуцці дружбы да яе народа, пісьменнік дае многа цікавых, карысных звестак аб побыце і звычаях карэйцаў, аб геаграфіі, гісторыі краіны.

Не ўсё, вядома, у аднолькавай ступені ўдалося пісьменніку. Шмат у аповесці саладжавасці, сентыментальнасці, скорагаворкі, невыразная падчас мова, але ўсё ж юны чытач прачытае гэтую кнігу з карысцю для сябе.

Добрую службу служыць школьніку першая кніга Уладзіміра Механа «Сцяг над рэўкомам». У нас яшчэ вельмі мала дзіцячых твораў, якія б раскрывалі рамантыку і героіку рэвалюцыі, расказвалі падрастаючаму пакаленню аб тых, хто сваёй барацьбой заваяваў сённяшняе шчаслівае жыццё.

У кнізе У. Механа расказваецца пра дзейнасць вядомых бальшавікоў Берсана і Мяснікова, якія працавалі ў гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў Мінску, пра іншых, радавых байцоў рэвалюцыі. Гістарычныя факты перамешаны ў кнізе з вымыслам, які, аднак, не супярэчыць жыццёвай, гістарычнай праўдзе. Мы верым

пісьменніку, бо ўсё тое, што ён расказаў нам пра Берсана, аб яго падпольнай барацьбе, аб прошуках варожых агентаў, што палявалі за рэвалюцыянерам-бальшавіком, магло быць. Учынкі, паводзіны героя тут матываваны, асяроддзе, у якім ён дзейнічае, мае ў сабе многія рысы жывой, гістарычнай рэальнасці.

Па іншым, не зусім правільным шляху, думаецца, пайшоў У. Мехаў у сваёй другой кнізе «Апошняя яўка». Пісьменнік меў намер расказаць пра слаўнага чэкіста, аднаго з рыцараў рэвалюцыі Апанскага, які таксама працаваў у Мінску і імем якога, як Мяснікова і Берсана, названа адна з вуліц горада. Калі гаварыць аб мове і іншых стылёвых сродках аповесці, то варта прызнаць пэўны рост маладога пісьменніка. Мова яго стала больш празрыстая, маляўнічая, манера расказваць — больш лаканічная, стрыманая.

Але для раскрыцця вобраза Апанскага пісьменнік абраў найкарацейшы, найлягчэйшы шлях. Падзеі, пададзеныя ў аповесці, адбываюцца ў першыя гады Савецкай улады на Беларусі. Чэкісты, і ў тым ліку Апанскі, вядуць зацятую барацьбу з рэшткамі белагвардзейскіх і нацыяналістычных банд, якія час ад часу пранікаюць на савецкую зямлю, каб шкодзіць, парушаць мірнае жыццё, што толькі-толькі пачало ўсталёўвацца. Апанскі (ён намеснік паўнамоцнага прадстаўніка ўпраўлення АДПУ па Заходняму краю) даведваецца аб тым, што мяжу збіраецца перайсці закляты вораг рэвалюцыі, вопытны авантурыст і прайдзісвет Смалян. Чэкістам вядома, куды прыйдзе Смалян, калі толькі прыйдзе. Яны пільна стаяць на варце заваёў рэвалюцыі. Здавалася б, вораг трапіць у жалезнае кальцо, у пастку, адкуль яму не выбрацца.

Але тут і пачынаецца незразумелае. Апанскі наважваецца сам пайсці на хутар, куды мусіць з'явіцца вораг. Навошта гэта? Можа, чэкіст хоча выведаць нейкія тайныя намеры ворага, планы тых, хто яго паслаў? Але гэтага не адбываецца: нічога новага, чаго б ён не ведаў раней, Апанскі, пераўвасоблены ў Казарынава, не даведваецца. На вачах у чытача адбываецца меладраматычны паядынак паміж Казарынавым і Смалянам. Паводзіны чэкіста не матываваны неабходнасцю. Ясна, што Смаляна можна было арыштаваць і без гэтага паядынку: хутар акружаны, яўка ворага ў Мінску вядома.

Пісьменнік пайшоў услед за пампезнай эфектыўнасцю, паставіў свайго героя ў позу, надзяліў яго рысамі непатрэбнага ўхарства.

Нядаўна выйшла ў свет аповесць Міколы Ваданосава «Пабярэжцы». Першыя старонкі давалі падставу спадзявацца, што пісьменнік узяўся за цікавую тэму аб школьніках, аб іх адпачынку і вучобе, аб станаўленні маладых характараў. У першых раздзелах нямала паэтычных, цёплых малюнкаў, добрых псіхалагічных знаходак, якія раскрываюць прывабны свет дзяцей. Але, як кажуць, чым далей у лес, тым болей дроў.

Героі аповесці — Федзя, Алесь, Валодзя, Галя — ідуць у лес шукаць лася, якога нехта запёр у забытай цэркаўцы і якога яны ненарокам выпусцілі. І тут пачынаюцца іх неверагодныя прыгоды. Па волі аўтара дзеці становяцца дасціпнымі Шарлок Холмсамі, яны выкрываюць паліцая Паўла. Справа ў тым, што набытак шпіёна ў жалезнай скрынцы таксама знаходзіцца на дне возера і на яго паквапіўся прагавіты Павел, таму ён і забіў шпіёна.

У аповесці нічога не змянілася б, каб Павел забіў яшчэ некалькіх шпіёнаў, а дзеці пайшлі ў наступныя паходы, бо аўтар меў выразны намер паказытаць юнаму чытачу нервы, уразіць яго каскадам незвычайных прыгод.

Добрая задума пакладзена ў аснову аповесці Хв. Жычкі «Каштанавы «Масквіч». Аўтар меўся расказаць пра жыццё сённяшняй школы, у цэнтры яго ўвагі пытанні маральныя, выхаваўчыя. У аповесці ёсць свой драматызм, свой канфлікт. Героі яе перажываюць і радасць і гора. Адным словам, многія старонкі, эпізоды напісаны цікава, яны займальныя і ў той жа час псіхалагічна праўдзівыя. Але і Жычка пагнаўся за незвычайнымі прыгодамі, і гэта вельмі шмат нашкодзіла аповесці.

Школьнік Валя перабег вуліцу ў забароненым месцы, і праз гэта каштанавы «Масквіч» рэзка затармазіў і сутыкнуўся з аўтобусам. Валя ведае, што аварыя адбылася па яго віне, і пакутуе. Але ў хлопчыка не стае мужнасці прызнацца ў школе ці дома ў сваёй віне. Больш таго, ён уцякае ад адказнасці, калі даведваецца, што праз яго пацярпеў чалавек, шафёр. Вельмі добры, праўдзівы пачатак.

На жаль, далей усё закруцілася, як у шалёным

танцы. Аўтар павёў свайго героя па шляху незвычайных прыгод. Раптам паяўляюцца двое зладзеяў-рэцыдывістаў, і абодва са шрамамі на твары. Яны заблыталі ў свае сеткі Валевага сябра Пецю, Валя за яго заступіўся, хлопчыка парнулі нажом у бок, і вось літаральна праз два дні пасля аварыі з «Масквічом» Валя трапляе ў тую самую палату, дзе ляжыць шафёр (хоць дзеці, здаецца, разам з дарослымі і не ляжаць).

І яшчэ не ўсё. Шафёр з «Масквіча», аказваецца, найлепшы сябар Валевага бацькі, яны разам уцякалі на самалёце з нямецкага палону, разам партызанілі. Адным словам, у невялікай аповесці памерам у 2,5 друкаваных аркушы столькі прыгод, столькі нечаканых сустрэч і сутыкненняў, што іх хапіла б на тоўсты авантурны раман. Падзеі развіваюцца імкліва, аж шуміць увушшу.

Некалі Чэхаў жартаваў, што калі ў першым акце на сцяне вісіць ружжо, то ў апошнім яно павінна стрэліць. У аповесці такіх стрэльбаў не менш як пяць, і ўсе яны к канцу бабахнулі, проста аглушыўшы маленькага чытача. Верагоднасці, праўдзівасці ва ўсіх прыгодах Валі Азарчыка мала, а без праўды жыцця няма і праўды мастацкай.

З першай аповесцю для дзяцей «Вальс Грыбаедава» выступіў Барыс Бур'ян. Кнігу гэтую, бадай, нельга назваць цалкам прыгодніцкай. У яе аснове маральны паядынак паміж савецкім хлопчыкам Сярожам, дзяўчынкай-полькай Эвай і фашысцкім афіцэрам П'ерам Дыстэлем, у мінулым французскім грамадзянінам. П'ер Дыстэль лічыць, што галоўнае ў жыцці — своечасова прыстасавацца, што можна служыць хоць самому д'яблу, абы дабіцца поспеху.

Маленькія героі Сярожа і Эва глядзяць на свет чыстымі вачамі, у іх шчырыя сэрцы, якія належаць толькі іх Радзіме. І яны перамагаюць. Чытаецца аповесць з цікавасцю і пакідае ў цэлым добрае ўражанне. Бракуе ёй, бадай, толькі празрыстасці, яснасці задумы. Юны чытач, якому адрасавана кніга, бадай, не заўсёды разбярэцца ў даволі складаных, а падчас і цьмяных этычных паралелях, намёках, якія трапляюцца ў аповесці.

Прыемна адзначыць тую акалічнасць, што ў апошнія гады стала больш паяўляцца дзіцячых кніг аб нашай сучаснасці, аб працы ў калгасе і на заводзе, аб

удзеле школьнікаў у працы. Такіх кніг патрабуе ад нас само жыццё.

Мне здаецца, што пісаць аб звычайным, будзённым значна цяжэй, чым аб прыгодах якога-небудзь Пеці або Шуры, якія разам з піянерскім атрадам накіраваліся ў падарожжа па цікавых мясцінах і заначавалі адны ў цёмным лесе, ненарокам адбіўшыся ад сяброў. Аўтар прыгодніцкай кнігі можа разлічваць на пэўную цікавасць да яе, бо нават калі твор у мастацкіх адносінах недасканалы, ён можа прыцягнуць увагу юнага чытача навізной матэрыялу, новымі ўражаннямі.

Убачыць паэзію ў звычайным і данесці яе да чытача нялёгка. Трэба мець вялікі жыццёвы вопыт і немалы талент, каб юны чытач захапіўся апавяданнем ці аповесцю пра МТС, паляводчую брыгаду, панчошна-трыкатажны цэх. Падлетак сярэдняга ўзросту марыць пра палёт на Марс, захапляецца Жуль Вернам, а яму прапануюць апавяданне пра тое, як звеннявая Каця дамаглася высокага ўраджаю льну. Справа тут у саміх уяўленнях падлеткаў, у іх псіхалогіі. Падлеткі сярэдняга ўзросту, гэтыя юныя Чапаевы і Матросавы, прызнаюць перважна толькі той подзвіг, які здзейснены славутымі людзьмі. Поспех, дасягнуты без рызыкі для жыцця, без рамантычных і таямнічых абставін, пры якіх ён здзейсніўся, не поспех для дванаццацігадовага рамантыка.

І ўсё ж добрыя, цудоўныя дзіцячыя кнігі пра звычайнае былі, ёсць і будуць. Трэба дамагацца, каб іх станавілася ўсё больш і больш. А ўвесь творчы сакрэт такіх кніг, мабыць, ва ўменні пра звычайнае расказаць незвычайна, разгледзець цудоўнае, прывабнае за знешнім абліччам будзённага. Тут ужо толькі займальны сюжэт не выратуе.

У аповесці Алеся Рылько «Мядовыя краскі» няма нічога незвычайнага. Падзеі, апісаныя ў ёй, адбываюцца ў ціхай, нічым асабліва не прыкметнай вёсцы. Героі аповесці — хлопчык Міхаська, яго сябры, іх дарадчык і найлепшы сябар дзед Нупрэй. Вось гамалівая талака пайшла з дзедам у лес рабіць мянташкі для кос, напаткала вожыка, бачыла нару крата. Потым рабіла грабелькі, касіла, ладзіла домікі для пчол, памагала сваім бацькам-калгаснікам. Такая знешняя інтрыга, якая дала магчымасць пісьменніку напісаць паэтычную, захапляючую аповесць.

Але колькі ва ўсім гэтым глыбіні, жыццёвай праўды, паэтычнай прывабнасці! Пісьменнік разумее, што характар чалавека, яго ўнутраны свет, адносіны да жыцця пачынаюць складвацца з самай ранняй пары. Маленькія героі аповесці глядзяць на жыццё сур'ёзна, і мы верым, што іх не прывабіць лёгкі поспех. Яны ведаюць, як расце хлеб, колькі працы трэба прыкласці, пакуль белай квеценню аздобіцца яблыня, ведаюць, што салодкі мёд паяўляецца ў вуллі не проста так.

Чытач бачыць, як растуць маленькія савецкія грамадзяне, людзі, што з першых гадоў сваіх пачынаюць разумець добрае і благое. Гэта ўвойдзе ў іх душы назаўсёды, стане іх натурай.

Пісьменнік не хавае ад сваіх герояў супярэчнасцей, складанасці жыцця, прымушае іх задумвацца над сур'ёзнымі пытаннямі.

Алесь Рылько здолеў намаляваць у сваёй аповесці рамантыку будняў. Ён знайшоў паэзію ў паўсядзённым жыцці, працы. Аповесць «Мядовыя краскі» — сур'ёзнае дасягненне нашай дзіцячай літаратуры.

Па-сапраўднаму радуе і хвалюе тоненькая кніжачка апавяданняў Васіля Хомчанкі «Наша вячэра». Усё тут празрыста, проста, шчыра, без надакучлівай дыдактыкі і рэзанёрства. Усе змешчаныя ў зборніку апавяданні выклікаюць светлыя, чалавечыя пачуцці. Творы Васіля Хомчанкі вельмі кароценькія, кожны сказ, слова ў іх нібы ўзважаны, апрабаваны на ёмістасць, трываласць, паэтычнасць. Ніводнай фразай не ўмешваецца пісьменнік у ход развіцця падзей, нічога не падказвае і не навязвае свайму чытачу. Усё ясна і без гэтага.

Вось апавяданне «Дарагі падарунак». У ім шчыра і проста расказваецца, як маленькі хлопчык Сяргейка спаткаўся з Леніным. Сяргейка збіраецца ў школу і сур'ёзна заклапочан тым, што ў яго няма кніжкі, буквара. З дзіцячай наіўнасцю і непасрэднасцю ён расказвае аб усім гэтым Леніну, спаткаўшы яго ў парку. Пры наступнай сустрэчы з вясковай дзятвой Ленін дае Сяргейку буквар.

Вось і ўся нескладаная гісторыя. Але перададзена яна так, што надоўга запомніцца кожнаму, хто яе прачытае.

Яшчэ адно апавяданне «Наша вячэра». Напісана яно ад першай асобы. Маці купіла дзецям, брату і сястры, двух замёрзлых карасікаў і, адыходзячы на працу, за-

гадала іх засмажыць на вячэру. Рыбы адаграліся ў хатняй вадзе і пачалі плаваць у талерцы. Дзецям вельмі хацелася есці, але карасікаў яны не кранулі. Карасікі ж жывыя. Павячэралі яны сухім хлебам, але хлеб гэты здаўся ім надзвычай смачным. Як тут усё праўдзіва, шчыра, непасрэдна!

Яшчэ некалькі слоў пра абразок «Яблык», які б мог стаць пранікнёным лірычным вершам. Ішоў дзед, купіў яблык, хацеў было з'есці, але перадумаў і прынёс яго ўнучцы Ніне. Унучка ўзрадавалася, наважыла паласавацца яблыкам, але ўспомніла, што вечарам прыйдзе з работы маці, стомленая, маўклівая. Дачка аддала яблык маці, а маці — самаму меншанькаму, Міхаську. Скончылася ўсё тым, што вечарам яблык падзялілі на чатыры часткі і з'елі ўсёй сям'ёй.

Васіль Хомчанка вельмі добра ведае псіхалогію дзяцей, любіць іх, умее іх вачамі глядзець на свет. Дзякуючы гэтай якасці ў яго апавяданнях прысутнічае атмасфера шчырасці, дзіцячай наіўнасці. Цікава, што кніжачка Хомчанкі, адрасаваная самым маленькім, з жывой цікавасцю чытаецца і дарослымі. Прывяду адно маленькае апавяданне В. Хомчанкі цалкам. Яно называецца «Хованкі».

«Мацейка і Ніна гулялі ў хованкі. Ніна залезла ў пасцель пад коўдру, і Мацейка доўга не мог яе знайсці.

— Ніна, дзе ты? — пачаў клікаць брат.

Але Ніна маўчала.

— Ніна! — зноў паклікаў Мацейка.— Ведаеш што?.. На цукерку.

— Давай! — крыкнула Ніна і выскачыла з-пад коўдры.

Тут яе Мацейка і застукаў.

Потым схаваўся Мацейка. Ніна нават і не шукала яго. Яна падышла да Мацейкавага трохколавага веласіпеда.

— Паехалі! — крыкнула Ніна і дзынкнула званком.

— Не чапай, гэта мой веласіпед,— не вытрымаў Мацейка і вылез з шафы. Ніна і застукала яго».

Я не думаю, што Хомчанку можна тут абвінаваціць у нейкай ідэалізацыі ўласніцкіх інстынктаў. Ён малюе дзіцячую псіхалогію такой, якая яна ёсць на самай справе. Магчыма, некаторым крытыкам не спадабаецца гэты абразок. Крытыкавалі ж Станіслава

Шушкевіча за тое, што ён нібыта паказвае жаб індывідуалістамі! У адным з яго вершаў былі радкі:

Ква-ква-квок, ква-ква-квок!
Гэта мая купіна, мой грудок!
Хораша наўкола — мох і твань,
Тут маё балотца — дзе ні глянь.

Вось за гэтыя радкі і крытыкавалі, хоць ніхто не асмеліцца сцвярджаць, што сярод жаб патрэбна выхоўваць пачуцці калектывізму.

У асобе Васіля Хомчанкі мы, бясспрэчна, маем таленавітага дзіцячага пісьменніка.

Прывабны, цікавы свет паўстае перад намі з кніжкі Аркадзя Чарнышэвіча «Апавяданні старога Арцёма». Пісьменнік расказвае пра вялікія пераўтварэнні, якія прыйшлі ў далёкую Комі-Пярмяцкую нацыянальную акругу, пра тое, як тэхніка, электрычнасць, навука выгналі з наседжаных, пракаветных месцаў розных духаў, лесавікоў, чарцей.

Апавяданні Аркадзя Чарнышэвіча вызначаюцца багатай, маляўнічай, поўнай гумару мовай, дасканалым веданнем жыццёвага матэрыялу.

Шэраг удалых апавяданняў можна знайсці ў зборніках Лідзіі Арабей «Калібры», Алеся Пальчэўскага «Беражанкі», Алены Васілевіч «Сябры». З'яўляліся ў друку цікавыя творы Паўла Кавалёва, Усевалада Краўчанкі, Пятра Рунца, ёсць асобныя ўдачы ў зборніках Ядвігі Бяганскай «Жэнеў галубок», Міколы Ваданосава «Аднагодкі». Цыкл цёплых, задушэўных апавяданняў пра дзяцінства напісаў Іван Грамовіч, змясціўшы яго, на жаль, у сваім зборніку для дарослых. Увогуле цікавую «калектыўную» кніжку «Лясныя страхі» пра будні школьнікаў стварылі П. Беразняк і Хв. Жычка.

Нельга не сказаць аб тым, што нават у вопытных нашых пісьменнікаў, якія даўно пішуць для дзяцей, нямала твораў, наскрозь прасякнутых сумнай дыдактыкай, дробязных па сваёй тэматыцы. Асабліва гэта датычыць школьнага і піянерскага жыцця. Вельмі падчас аднастайным, збедненым, нецікавым паўстае яно са старонак нашых кніг. Нуднае маралізатарства праглядае ў такіх творах з кожнага радка, а героі ўяўляюцца нейкімі бесцялеснымі носьбітамі дабра і зла.

Вось апавяданне «Знаходка» ■ увогуле добрага

зборніка Алеся Пальчэўскага «Бережанкі». Героі апавядання Сеня і Толя знайшлі ў чарзе пяць рублёў і не аддалі бабульцы, якая іх згубіла. Купілі сабе марожанага, селі ў аўтобус. Але зло трэба пакараць, і аўтар робіць гэта неадкладна. Кара адбываецца тут жа, у аўтобусе: Сеня і Толя самі згубілі рубель, і цяпер ім не хопіць на білеты ў кіно. Для яўных педагагічных мэт аўтар пасадзіў у аўтобус дзядка, які, аказваецца, бачыў усё з самага пачатку, але з незразумелай зацятасцю маўчаў. Зрэшты, дзядок гаворыць юным зламыснікам павучальныя словы, хлапчукі пасаромлены, і чытач павінен здагадацца, што ў наступны раз яны болей не пакваляцца на згубленыя некім грошы.

Гэтак жа імгненна перавыхоўваюцца і героі апавядання Я. Бяганскай «На лыжнай прагулцы». У Аліка якраз напярэдадні спаборніцтваў зламалася лыжа. Сябар Юрка сваіх лыж не даў. А прасіць лыжы ў дзяўчынкі Веры Аліку не дазволіў гонар. Зрэшты, усё ўладзілася. Лыжы дастала сястра; Алік абагнаў Юрку і заняў першае месца. Юрку сорамна перад Алікам. Усё к поўнаму задавальненню аўтара і чытача, канчаецца мірам і ладам.

З'явіліся дзве аповесці, прысвечаныя школьнаму жыццю, марам і справам сённяшніх вучняў. Гэта «Девятый «Б» Яніны Барычэўскай і «Если хочешь быть волшебником» Н. Палянскага.

Я. Барычэўская шукае матэрыял для свайго твора ў справах дзевяцікласнікаў, у буднях школьнага жыцця. Задума цікавая. У нас жа пакуль няма яшчэ — трэба сказаць шчыра — добрай аповесці пра школу, пра складаны, поўны сваёй паэзіі і прывабнасці свет падлеткаў і юнакоў, якія заўтра прыйдуць у жыццё яго паўнапраўнымі грамадзянамі.

На жаль, прагал гэты ні ў якой меры не запаўняецца і названай аповесцю. Прачытаеш кнігу Я. Барычэўскай і ловіш сябе на прыкрым адчуванні, што нічога новага яна табе не дала, што пра падзеі і людзей, апісаных у ёй, ты ўжо даўно чытаў у газетах, што твор гэты нічым не ўзбагаціў тваё думкі і пачуцці.

Аповесць пабудавана, здавалася б, на аснове вострага канфлікту. Маладая настаўніца Іна Сяргееўна прыходзіць у клас. Вопыту ў яе мала. Клас трапляецца нялёгкі. Ёсць у ім абсалютна добрыя вучні, такія, як Валерый Серадок, і ёсць «цяжкія», як Грыша Гузаеў.

Многа даводзіцца папрацаваць настаўніцы, класным актывістам, камсамольскай арганізацыі, пакуль такія, як Гузаеў, не становяцца прыкладнымі вучнямі, а клас — адзіным, згуртаваным калектывам.

Я. Барычэўскай нельга адмовіць у веданні школьнага жыцця, педагогікі, але аповесць напісана суха, рацыяналістычна, штампаванай газетнай мовай. Не знойдзеш у творы ні ўзнёслых паэтычных малюнкаў, ні глыбокага пранікнення ў гарачую юнацкую душу, ні аўтарскай усмешкі. Я. Барычэўская вядзе размову, нахмурыўшы чало, у нейкім суровым, зацятым тоне. У кожнай яе рэпліцы чуваць павучанне, мараль, дыдактыка: гэта добра, а гэта дрэнна. У прэснай вадзе рэзанёрства патоплены нават асобныя астраўкі жыццёвай праўды, убачаныя аўтарам.

Няма ні кропелькі рамантыкі, узнёсласці ў гэтай аповесці пра юнацтва, кніга цалкам «разумовая», бяскрылая.

Вось як апісвае, напрыклад, Я. Барычэўская душэўны стан настаўніцы, якая прыйшла на першы свой урок. У класе нехта свіснуў. «Инна Сергеевна почувствовала, как кровь сильными толчками приливает к голове (?!). С лихорадочной торопливостью она стала перебирать в памяти разные случаи, про которые читала в книгах. Как поступить? Вспомнился давно виденный кинофильм: там ученики тоже засвистели на уроке, учительница продолжала объяснять, а потом, в конце урока, предложила виноватым признаться, и они признались...

«Главное не теряться»,— сказала себе Инна Сергеевна. Она заставила себя успокоиться и начала рассказывать об эпохе 30—40-х годов».

Мова аповесці сухая, пратакольная, часам не зусім пісьменная: «Вызывая по списку того или другого из ребят, она медлит, стараясь сразу связать в памяти фамилию с обликом ее носителя»; «Когда Инночке Мельниковой было 13—14 лет, стоило ей выйти во двор, как со всех сторон сбегались и облепляли её малыши»; «Настроение сразу упало, стало невозможно сосредоточиться на переживаниях Катерины...»

Удзячную задачу паставіў перад сабой Н. Палянскі ў аповесці «Если хочешь быть волшебником». Калі Я. Барычэўскай нельга адмовіць у веданні педагогікі, то Н. Палянскаму — у грунтоўным знаёмстве з мата-

цыклам. Тэма «матацыкла» праходзіць праз усю кнігу, абумоўлівае яе сюжэт, канфлікт, станаўленне характараў. Школьнікі збіраюць матацыкл, сумесная праца, аднолькавыя інтарэсы нараджаюць пачуцці дружбы, таварыскасці, павагу да «чорнай», звычайнай работы — такая задума аповесці. Але гэтая цікавая задума па-мастацку не рэалізавана. Веданне матацыкла і наогул тэхнікі аказалася мала, каб напісаць добрую кнігу, бо Н. Палянскаму бракуе пакуль што самага галоўнага — паэтычнага бачання жыцця, глыбокага пранікнення ва ўнутраны свет сваіх герояў. Аповесць вельмі натуралістычная, прыземленая, многія эпізоды, сцэны ў ёй зусім не абавязковыя.

Няма ў аповесці і сапраўднага захаплення працай, тэхнікай. Матацыкл, які збіраюць хлопчыкі, хутчэй прадмет іх чыста спартыўнага інтарэсу, чым будучага жыццёвага прызвання.

Напісана кніга надзіва невыразнай, шэрай, малапісьменнай мовай, не без уплыву «блатнога» жаргону: «Двадцать семь лет! Николай даже вздрогнул — до того невероятным показался ему возраст кастрюли»; «Взгляд Нины Васильевны был неумолимо требователен, и Лева стал одеваться»; «Он убеждал Леву в реальности того, что ему самому казалось вполне выполнимым, посильным для них, но Лева, проникшись уже недоверием к высказываниям товарища, не давал себе сейчас труда вникнуть в логику его рассуждений... Наконец, ему показалось, что он обнаружил несуразность в рассказах Николая»... Такіх прыкладаў можна прывесці многа.

Хачу адзначыць, што бездапаможныя, напісаныя яўна ніжэй сярэдняга ўзроўню аповесці Я. Барычэўскай і Н. Палянскага былі выдадзены 20—40-тысячным тыражом, а теланавітыя, яркія кнігі Алеся Рылько, Васіля Хомчанкі і іншыя — толькі 10-тысячным.

Наша дзіцячая літаратура, якая распрацоўвае тэмы сучаснасці, шукае паэзіі ў звычайным, будзённым, у працы завода, калгаса, школы, мае свае поспехі і свае пралікі. Справа нават не ў тым, чаго больш — дасягненняў ці няўдач. Гэты напрамак літаратуры — галоўны, магістральны, і на ім мы павінны ў першую чаргу засяродзіць увагу пісьменнікаў.

Калі мы хочам бачыць будучую змену жыццястойкай, упэўненай у сваіх сілах, бадзёрай духам і целам,

мы павінны перш за ўсё раскрыць перад юнымі чытачамі цудоўны свет працы, выразна і пераканаўча расказаць аб тым, што ўсё самае прыгожае на зямлі: гарады, чыгункі, самалёты, ракеты, усе незвычайныя адкрыцці — здзейснена чалавечым розумам і рукамі. Чалавек — гаспадар над прыродай, яна штогод, штотыдзень раскрывае перад ім свае загадкі і таямніцы — хіба ж гэтая тэма менш удзячная, чым бясконцая пераніцоўка абрыдлай меладрамы пра лоўлю зладзеяў, жулікаў і розных іншых прайдзісветаў?!

Да кнігі пра завод, калгас вельмі блізка прымыкае навукова-мастацкая кніга. На нашых вачах адбываюцца здзіўляючыя адкрыцці: становіцца рэальнасцю палёт на бліжэйшыя ад зямлі планеты, вучоныя ўсё больш пранікліва раскрываюць загадку атама, блізка да здзяйснення тое, аб чым яшчэ зусім нядаўна не маглі нават марыць самыя смелыя фантасты. Які вялікі прастор для пісьменніка, якому трэба, вядома, стаць бліжэй да навукі, каб расказаць аб яе цудоўных адкрыццях мовай вобразаў. Задача гэтая па плячы і многім вучоным, якія ўмеюць валодаць пяром. Але ў гэтым цікавым напрамку ў нас за апошнія два гады амаль нічога не зроблена. Пасля ўдалай калектыўнай кнігі нарысаў «Над краем спяваюць гудкі» і навукова-папулярнай кнігі «Ад рычага да атамнай энергіі» В. Прахарэнкі выдавецтва пакуль што абмяжоўваецца перакладамі з рускай мовы кніг навукова-мастацкага жанру. А ў гэтай галіне многае можна зрабіць уласнымі сіламі. Беларускія вучоныя ўмеюць рабіць многія карысныя рэчы з торфу, ім жа належаць шматлікія разгадкі таямніцы зялёнага ліста, яны выступаюць на сусветных кангрэсах з дакладамі аб прымяненні паўправаднікоў. Варта аб усім гэтым расказаць юнаму чытачу.

У навукова-фантастычным жанры актыўна працуе Мікола Гамолка. Пра яго «Шосты акіян» дастаткова пісала крытыка, і няма патрэбы паўтарацца. Кніга мае свае вартасці і недахопы. Юным чытачом яна сустрэта прыхільна. Варта толькі сказаць, што ў сваёй ёмістай кнізе аўтар упаўне мог абысціся без шпіёнаў і іншых не зусім блізкіх да навуковай фантастыкі рэчаў.

Цікавай старонкай беларускай дзіцячай кнігі з'яўляюцца апавяданні пра жывую прыроду. Творы на гэтую тэму ніколі не страцяць ні сваёй карыснасці, ні

актуальнасці. Імі, гэтак жа як і кнігамі аб подзвігах герояў, выхоўваецца вялікае пачуццё патрыятызму.

«Трэба часцей вандраваць па роднай краіне, трэба больш яе вывучаць! Мы яшчэ недастаткова ведаем прыроду і жывёльны свет айчыны, мы яшчэ мала любуемся цудоўнай красой яе краявідаў». Словы гэтыя належаць пісьменніку Віталію Вольскаму, які напісаў некалькі цікавых кніг аб беларускай прыродзе.

Рэдакцыя дзіцячай літаратуры ў апошні час пачала выдаваць кнігі, якія расказваюць аб прыгодах паляўнічых. Кнігі гэтыя, безумоўна, прыносяць карысць, калі з іх старонак паўстае перад намі багацце роднай прыроды, калі яны сагрэты добрым, чалавечым пачуццём да ўсяго жывога. Калі ж у іх усхваляецца ненасытны паляўнічы азарт, прага знішчэння, то за такімі творамі цяжка прызнаць выхаваўчую ролю.

Супярэчлівыя пачуцці выклікае невялікі зборнік «паляўнічых» апавяданняў «Адкрыццё сезона» Ул. Ляўданскага. Пачынаецца ён добрым па свайму духу апавяданнем «Канец дружбы», у якім асуджаецца браканьерства. Далей падаюцца цікавыя пазнаваўчыя выпадкі з практыкі паляўнічага і рыбалова-аматара. Але непрыкметна для сябе аўтар пачынае захапляцца. Паляўнічы бярэ ў ім верх над пісьменнікам. Вядома, што паляўнічыя — вялікія хвалькі і манюкі, іх, як кажуць, хлебам не кармі, а дай расказаць аб сваіх незвычайных прыгодах. Нешта падобнае праступае і ў асобных апавяданнях Ляўданскага.

У апавяданні «Люська», напрыклад, герой сцябае шэрага воўка пугай-дратаванкай, і той уцякае як падсмалены; герой апавядання «Крылаты язь» дзед Мацей амаль гэтак жа, як некалі славуты барон Мюнхаузен, ловіць дзікіх качак вудачкай.

У апавяданні «Адкрыццё сезона» Ул. Ляўданскі піша наступнае:

«Калі ўжо былі запрэжаны коні, да мяне падбег цыганёнак.

— Дзядзька, дай закурыць,— папрасіў ён.

Я моўчкі выхапіў партсігар, выбраў з яго ўсе папяросы і аддаў яму. Ён ад радасці падскочыў і пабег за возам». Каментарыі, як кажуць, лішнія. Шчодрасць, праяўленая апавядальнікам, яўна антыпедагагічная.

Наша дзіцячая проза мае значныя творчыя сілы, і ёй па плячы тыя новыя адказныя задачы, якія паў-

стаюць сёння перад дзіцячай літаратурай. Трэба ўзяць рашучы курс на тэмы сучаснасці, гаварыць з юным чытачом аб самым галоўным, істотным, важным, гаварыць па-мастацку, параканаўча. Малады грамадзянін павінен уступіць у жыццё паўнапраўным гаспадаром, будаўніком камунізма. А наша кніга няхай стане найлепшым яго настаўнікам і дарадчыкам у гэтай велічнай, пачэснай справе.

*1960*

# В ПОИСКАХ ГЛУБИНЫ И ПРАВДИВОСТИ

Иван Пташников, Борис Саченко, Вячеслав Адамчик, Владимир Короткевич,— без этих имен, вошедших в литературу в последние годы, будет неполным даже беглый обзор белорусской прозы. Кто они, эти писатели? Чем о себе заявили? Каково направление их поисков?

Кузьма Чорный, крупнейший белорусский романист, однажды сказал, что настоящий прозаик начинается где-то после тридцати лет. Если говорить о возрасте, то старшему из названных писателей едва исполнилось тридцать. Удивительно схожи судьбы, биографии, жизненные пути молодых прозаиков. В Отечественную войну было им по семь — десять лет. Но их тоже обожгло пламя войны. Блокады партизанских районов, сожженные фашистами родные деревни, «перепаханная» фронтами сорок первого и сорок четвертого годов белорусская земля — все это запечатлелось в ребячьих глазах. Потом наступило трудное школьное детство в разоренной войной деревне, учеба в высших учебных заведениях (почти все молодые прозаики окончили вузы, по профессии они журналисты, учителя). Несмотря на молодость, за плечами у них многое. Хорошо знаком им вкус ржаного хлеба, который помогали они добывать матерям и отцам в детские и юношеские годы.

Может быть, поэтому молодые прозаики пишут преимущественно о деревне. В их рассказах, повестях «пахнет землей», образная ткань произведений, как

и у Якуба Коласа, Кузьмы Чорного, Михася Лынькова, Янки Брыля, полна неистребимой любви к жизни, поэзии восходов и закатов солнца, ночного неба, ликующей после весеннего дождя нивы. В этом смысле молодая белорусская проза верна традициям, которые сложились давно и прочно. Она обогащает эти традиции, развивает их дальше, подчас еще зорче, многогранней отражает богатство окружающей жизни. Но все-таки принципиальной новизны в этом еще нет. Она, видимо, в чем-то другом. Так в чем же?

В статье Карла Краулиня «Раздумья о молодых», напечатанной в «Дружбе народов», среди многих правильных мыслей есть одна, с которой нельзя не спорить.

Критик, хотя и оговаривается, что молодого человека нельзя оценивать меркой взрослого, опытного мастера, все же как бы кладет на чашу весов написанное писателями старшего поколения и молодыми, взвешивает и разводит руками: «У старших, оказывается, перетянуло!» Конечно, перетянуло. Не могло не перетянуть. Но если сравнивать объективно, то нужно сравнивать не творчество зрелого писателя с первыми шагами начинающего, а равное с равным, т. е. литературную молодость тех, кого мы считаем сегодня маститыми, с первыми книгами нынешних молодых.

Когда с этой точки зрения посмотришь на молодую белорусскую прозу, то картина будет не столь безотрадной. Эта проза радует мастерством языка, тонкой психологической культурой, обостренным вниманием к нравственным проблемам. И, пожалуй, именно с появлением молодых новеллистов в белорусскую прозу приходит искусство гармоничной светотени, полутона. В этой прозе много общего со всей советской современной литературой: переплетение лирического с эпическим, вторжение в прозу поэзии, лирического «я», в котором как бы сливается образ рассказчика с объектом его рассказа.

Творчество молодых, несомненно, обогатило белорусскую прозу: рассказ, новеллу, лирический и психологический этюд.

Есть, конечно, у молодых прозаиков «крепости», которых они пока не взяли.

Отдавая предпочтение морально-этической проблематике, молодые писатели стремятся вскрыть и общест-

венные, социальные мотивы поведения своих героев. Иногда это удается. В целом же, к сожалению, следует признать, что образов большого социального звучания молодая белорусская проза пока еще не создала.

Кто же носитель этих свойств молодой прозы? Я остановлюсь на некоторых произведениях трех молодых прозаиков.

Интересно вошел в литературу Иван Пташников. Начал он повестью «Чачик», которая сразу обратила на себя внимание свежестью красок, знанием жизни села, тонким ощущением природы. Построена повесть своеобразно. В центре ее Ильюк Чачик — вор и пройдоха.

Тяжело еще в послевоенной деревне, «прорех» хоть отбавляй. На волне неурядиц легко плывет по жизни хитрый лентяй, сталкивает между собой честных людей, плетет сеть интриг. До поры до времени с него, как говорят, взятки гладки, ему все сходит с рук. Но вот создается в колхозе дружный трудовой коллектив, и одна за другой вскрываются жульнические махинации прохвоста.

Иван Пташников хорошо понял, что оттенить рождение нового в жизни можно и не прямо, а косвенно, опосредствованно, через неприятие этого нового отрицательным персонажем. Чачик неисправим. Он все глубже и глубже погружается в болото цинизма, все больше и больше проникается презрением к честным людям. Эволюция его «духовного роста» — это по существу история духовного разложения. Многие явления колхозной жизни поданы в повести через восприятие Чачика, и поэтому они наглядны, зримы.

Повесть, центральная фигура которой вор, написана, однако, в светлой, жизнеутверждающей тональности. Она лирична и поэтична. Давно уже в белорусской прозе не было таких пейзажей, как у Ивана Пташникова. Природа у него дышит, живет, сверкает тысячами граней.

Пишет Пташников много. После повести «Чачик» появились у него рассказы, среди которых есть удачные и неудачные. Во всех этих вещах писатель как бы ищет ту область жизни, в которой талант художника мог бы обрести себя и утвердиться.

Иван Пташников лирик и одновременно тонкий наблюдатель. Все это верно, все это характерно и для

его последних произведений. Однако, отказываясь от поисков героического в жизни, стремясь поднять будничное до уровня поэтического, писатель иногда все же приближается к натурализму, проза его порой грешит некоторой приземленностью. Возможно, здесь сказывается недостаточность жизненного кругозора, а может, будем надеяться, это просто болезнь творческого роста. Но факт остается фактом: во многих следующих за повестью «Чачик» произведениях поражает отличный, богатый поэтическими оттенками язык, щедро нарисованная природа, а человек на фоне этого сказочного богатства мира выглядит бледным, худосочным.

По-видимому, здесь описание природы стало как бы самоцелью писателя. Он умел схватить, «остановить» тысячи прекрасных мгновений, но казался порой беспомощным в изображении человека. Это настораживает. Кое-где — и в авторских ремарках, и интонации и в чрезмерном увлечении биологическими мотивировками — проскальзывает, возможно, неосознанное, недоверие к человеку, к его разуму.

Сильные и слабые стороны таланта молодого писателя особенно четко проявились в романе «Жди в далеких Гринях».

Еще раз стало очевидно, что Иван Пташников хорошо знает деревню, умеет показывать быт и труд крестьянина. Но читаешь книгу и не можешь избавиться от ощущения, что слишком натуралистично нарисованы некоторые картины сельской жизни, очень слабо чувствуешь в них дыхание наших дней и тех событий, которые происходят за пределами маленькой деревни Грини. Молодому прозаику как бы недостает «философии», чтобы разрозненное сделать цельным, единым, не хватает решительности в социальных обобщениях...

Недавно в журнале «Полымя» напечатаны три новых рассказа Ивана Пташникова. Отличные рассказы, особенно последний — «Олени». То, чего недоставало в первых произведениях — внимания к человеку, может быть, некоторой снисходительности к отдельным его недостаткам,— брошено здесь щедрой горстью. И еще одно неоспоримое достоинство есть в этих рассказах. Прозаик, пожалуй, впервые заговорил от имени своего поколения. Здесь присутствует неповторимое

видение мира, радости и горечи, которые пришлось испытать его сверстникам — ровесникам последней войны.

Рано еще говорить о том, что Иван Пташников окончательно нашел себя. Но смесь лирики и аналитики, которая бросалась в глаза во многих предыдущих произведениях писателя, в последних рассказах стала органичным сплавом. Повествование его естественно, рассказы согреты теплым чувством.

В атмосфере нравственных поисков, особенно характерных для нашей литературы после XX и XXII съездов КПСС, и другой молодой прозаик Борис Саченко. Он автор двух сборников прозаических миниатюр. В последний его сборник «Багрянец ранней осени» включены и две небольшие повести. Борис Саченко лирик, его интонации — мягкие, задушевные, краски — акварельные.

Родился он в тихой, лесной деревушке, затерянной среди полесских лесов и болот. До войны не успел окончить даже первого класса. После того как родную деревню сожгли фашисты, попал в концлагерь, где за колючей проволокой провел три года.

Борис Саченко в своем творчестве очень «биографичен». Он пока доверяет лишь собственному опыту, лишь тому, что сам пережил, перечувствовал. Конфликты, темы рассказов Б. Саченко — локальны. Молодой прозаик еще робко, нерешительно вглядывается в горизонты, которые открываются за описанным жизненным случаем. Может быть, поэтому его маленькие рассказы несколько однообразны. Это скорее зарисовки с натуры, удачные психологические этюды. Но написаны они с неподдельным поэтическим вдохновением, искренне, правдиво.

Главное в поисках молодого прозаика — стремление показать красоту человека, исследовать его возможности, высоты его взлета и глубины его падения. Правда, границы «добра» и «зла» социально не всегда четко очерчены. Поэтому любовь к человеку, которая составляет общую атмосферу рассказов Саченко, представляется иногда несколько абстрактной. «Так бывает в жизни» — таков констатирующий вывод некоторых его миниатюр-зарисовок.

Пока что прозаик детально исследует лишь характер своего лирического героя, глазами которого увиде-

но почти все, о чем рассказывает писатель. Характер этот богатый, многогранный, душа лирического героя настежь раскрыта всему хорошему, что встречается в жизни, он не приемлет ничего мелочного, что принижает высокое звание человека, не терпит никаких компромиссов, судит людей и их поступки с высоты коммунистических идеалов — той единственной правды на земле, в которую поверил, которую принял в душу.

Впечатление от миниатюр Б. Саченко пока что суммарное: лирический герой как бы остановился в преддверии большой жизни, населенной сложными людьми, полной кипения страстей, противоречий. Писатель как бы еще только приглядывается, присматривается, делая все для себя беглые заметки — наброски будущих характеров и обобщений. Глаз у него теперь уже зоркий, наблюдательный, палитра, щедрая красками, язык отточенный, поэтичный. В том, что это так, убеждают лучшие рассказы молодого многообещающего прозаика.

Но иногда Б. Саченко лишь фотограф, бесстрастный наблюдатель жизненных явлений и фактов. В некоторых этюдах границы «добра» и «зла» не намечены даже контурно, авторская мысль не ясна. Скорее всего, она сводится к тому же несколько объективистскому «так бывает». На суд читателя отдается оголенный, «чистый» факт, о котором он волен думать все что угодно.

В том же сборнике есть этюд под названием «Конопляный угар». Вот о чем в нем рассказывается. Она — мужняя жена, он — студент, приехавший на каникулы. Каждую ночь она приходит к нему в густую коноплю, за деревню. До приезда своего «обольстителя» она жила с мужем «душа в душу». И вот случилось непонятное. То ли «роковая любовь», то ли что-либо другое. Бывает, дескать, и так. Виноват «конопляный угар». Этюд на три странички...

Подобные рассказы (их, к счастью, немного) кажутся случайными среди поэтичных, выверенных на чистом нравственном чувстве миниатюр молодого писателя.

Еще один прозаик — Вячеслав Адамчик. По сравнению со своими сверстниками он пишет мало, скупо; он автор одной небольшой книжки рассказов. Но все

написанное отсвечивает высокой культурой, зрелостью.

В. Адамчик, как и многие другие молодые прозаики, «занят» главным образом морально-этическими проблемами. Но он более традиционен, избегает даже внешней необычности в форме своих рассказов. Ему присущи психологический рисунок, точное слово, сдержанность. Пишет В. Адамчик о том, о чем уже много писали до него: о крестьянах бывшей Западной Белоруссии, о детстве при панах, о поруганной любви. Но звучат эти рассказы по-новому, как-то удивительно свежо, искренне и современно. Писатель смотрит на прошлое глазами человека советского, по-юношески бескомпромиссного. Никакие расчеты в его представлении не могут оправдать измены в любви, пассивности в тот момент, когда решается судьба человека. Писатель хорошо видит сложность жизни, особенно внимательно присматривается к тем людям, чьи пути-дороги не легкие и не такие уж прямые. Герои рассказов В. Адамчика — люди, на первый взгляд, малозаметные, они не берут особенно крутых высот, не свершают громких дел. Но в душе их постоянно что-то рождается и что-то умирает, и сегодня они лучше, чище, чем были вчера.

Вот рассказ «Липовый цвет». Герой его грузчик Сергей Каштан женат на вдове, женщине старше его. Живет хорошо. «В первые дни после свадьбы Сергей видел вокруг себя какой-то удивительный мир. Пришло в этот мир неизвестно откуда что-то чарующее, веселое и изменило, переделало его, прихорошило людей. И даже небо, что всегда было одинаково красивое и высокое, посинело, поднялось выше». Потом все завертелось колесом в жизни Сергея. Бросил бы жену, если б не дочка. А началось все с нескольких слов, как бы невзначай брошенных сторожем Гузом: «Что ни говори, а на то она и баба: раз попробовала с одним, с другим не уживется. Разве только ради приличия, если дите заимеет... Она живет с одним, а думает о другом».

Убедительно рисует В. Адамчик душевное оцепенение героя, точными психологическими деталями передавая ту атмосферу, в которой совместная жизнь Сергея с Региной — так зовут его жену — невозможна. Потянуло Сергея на путаные дорожки — пьянка, слу-

чайная, омерзительная связь с чужой женщиной. Где-то здесь наступает духовное прозрение. Вернуло к жене не просто осознанное чувство вины, а нечто большее. Сергей начинает понимать, что подделаться под любовь нельзя, что Регина искренна в своем чувстве к нему.

Новелла «Серебро на паутине» — удивительно тонкий рассказ.

Валичек — герой новеллы — не любит своего отчима Павла, который заменил ему отца, не вернувшегося с войны. Он ненавидит сиплый голос отчима, его длинные, рябые руки, даже одноглазую кобылу, которая принадлежит отчиму и которую Валичек пасет. А там, дома, беременная от Павла мать, и родит она, наверно, такого же рыжего, как отчим, ребенка. Того, еще не родившегося, Валичек, который «знал то, чего не должны, но что знают тринадцатилетние дети», тоже ненавидит.

Но вот пастушонок видит согбенную фигуру отчима, который с гробиком на плечах уныло шествует на кладбище, видит слёзы матери, ставшей «какой-то иной, дивно пригожей», слышит слова: «У тебя был братик», и в душе мальчика возникает огромная человеческая жалость, перевернувшая все его представления о людях, с которыми он живет, об их жизни.

Думается все же, что В. Адамчику следует больше писать о современности, о людях своего поколения. Удачную творческую заявку он уже сделал, написав «Млечный путь» — хороший рассказ о студентах.

В этих беглых заметках краткие портреты только трех молодых белорусских прозаиков. Я здесь ничего не сказал, например, об интересной книге Владимира Короткевича «Синева и золото дня».

В. Короткевич не только прозаик — он пишет стихи, поэмы и пьесы. Печатается роман В. Короткевича о молодежи, о наших современниках.

Характерно, что молодая проза начинает понемногу вторгаться и в области, наименее исследованные в белорусской литературе. Темой этой прозы становится город, жизнь рабочих и городской интеллигенции. Удач здесь меньше, но отрадно уже само стремление молодых писателей освоить новые «пласты» жизни. Только за последний год вышла повесть Лидии Арабей «Мера времени» — о путях-дорогах сегодняш-

них двадцатилетних, интересные творческие заявки сделали своими первыми произведениями молодые рассказчики В. Домашевич и М. Стрельцов.

Да, разные они, молодые наши прозаики, но объединяет их общее стремление сказать что-то свое, пережитое и перечувствованное, «о времени», о себе, о своем поколении. Все они пишут, все они в пути...

*1962*

# СТЫЛЬ І ЧАС

У гэтыя дні імклівага абнаўлення жыцця кожны з нас задумваецца над пытаннем аб шляхах далейшага развіцця літаратуры. Спрачацца не прыходзіцца — карэнні і вытокі літаратуры ў жыцці, літаратура — яго люстра, яго сумленне, яго прысуд і яго ідэалы. Не бачачы перад сабой гэтых задач, мабыць, не варта садзіцца пісаць. Кніга заклікана весці чытача наперад, гаварыць яму самае галоўнае аб жыцці, аб яго вартасцях і сэнсе, адкрываць перад ім новыя даляглядаы, узбагачаць яго духоўна. Нездарма лепшых нашых пісьменнікаў мы называем настаўнікамі жыцця. Кніга, разлічаная на тое, каб толькі даць адпачыць чытачу, адвесці яго ўвагу ад галоўнага, расказаць яму прыгожую небыліцу, трошкі паказытаць нервы — абоз літаратуры. Такіх кніг было шмат ва ўсе часы, і яны гэтак жа хутка забыліся, як і нарадзіліся.

Ёсць выказванне — пісаць крывёю сэрца. Калі ў творы перад намі найглыбейшыя перакананні пісьменніка, вынашанае і выпакутаванае яго сэрцам, сагрэтае і асветленае яго непаўторным талентам, такі твор хутка знаходзіць дарогу да душы чытача і доўга не забываецца. Але твор такі можа ўзнікнуць толькі ў выніку глыбокага ведання і разумення пісьменнікам народнага жыцця, шчырай зацікаўленасці гэтым жыццём, імкненнем сеяць прыгожае і добрае. Ніхто не вымераў сілы ўлады мастацтва над жыццём, улады прыгожага і добрага, але кожны адчувае, што ўлада гэтая магутная. Інакш мы даўно забылі б пра Эсхіла і Сафокла, Дантэ і Сервантэса, Шэкспіра і Гётэ, Пушкіна і Талстога.

Наша літаратура апрача задач пазнавальных у большай чым калі-небудзь ступені мае задачы выхаваўчыя. Будуецца новы свет, ідэалы якога — Роўнасць, Свабода, Брацтва, Праца. Яшчэ ніколі ў гісторыі чалавецтва грамадства не ставіла перад сабой такіх усвядомленых задач, не канцэнтравала дзеля іх ажыццяўлення ўсвядомленую энергію. Наша літаратура заклікана развіваць у чалавеку найлепшыя якасці будаўніка гэтага новага жыцця, выхоўваць яго светапогляд, маральны свет, эстэтычныя густы. І сёння правільныя словы, сказаныя ў вядомым партыйным дакуменце, словы аб тым, што кожная добрая кніга роўна па значэнню выйгранай бітве або новазбудаванаму заводу, а таксама тая думка, што мы не выйгралі б Айчыннай вайны, каб не выхавалі пакаленні савецкіх людзей у духу адданасці Радзіме і Савецкай уладзе. Я адчуваю, што паўтараю агульнавядомыя ісціны, але ёсць жа ісціны, значэнне якіх непераходзячае.

Жыццятворны «вецер веку» падзьмуў у ветразі літаратуры пасля XX з'езда партыі. Якая б ні была горкая праўда, сказаная на з'ездзе аб многіх гадах папярэдняга жыцця, але яна, зрэшты, умацавала веру ў веліч ідэалаў Кастрычніка і камунізма. Менавіта пасля XX з'езда пачала нараджацца атмасфера, дзякуючы якой узніклі дзесяткі выдатных літаратурных твораў. Мы памятаем ленінскія словы аб тым, што кухарка павінна навучыцца кіраваць дзяржавай, а тут, бачыце, «калёсікі» і «вінцікі», якім упадабляўся просты чалавек. Я не хачу гэтым сказаць, што ўсё ў перадваеннай ці пасляваеннай літаратуры дрэннае, няшчырае, няпраўдзівае, бо заразілася культам асобы. У асноўнай сваёй плыні літаратура праўдзіва малявала вялікія зрухі ў жыцці народа. Менавіта ў 30-я гады разгарнулася творчасць Кузьмы Чорнага-раманіста, а беларуская паэзія зрабіла паварот да жывога чалавека, да свету яго думак і пачуццяў.

Мы маем цяпер проста лепшы зрок і таму бачым, што некаторыя творы ў тыя часы пісаліся з кан'юнктурных меркаванняў, а то і проста паводле шчырага, хоць і памылковага пераканання, што так і трэба пісаць.

Заканчваючы ў свой час універсітэт, я пісаў дыпломную работу аб рамане В. Ажаева «Далёка ад Масквы». Раман мне вельмі падабаўся пісьменніцкім адчу-

ваннем сувязі асобнага чалавека з ходам грамадскага жыцця, гісторыі, падабаліся па-чалавечы намаляваныя вобразы кіраўнікоў будоўлі Батманава і Берыдзе. Я і цяпер лічу раман В. Ажаева добрым творам. І не буду таіцца, што толькі ў апошні час заўважыў, што простым людзям у рамане пашанцавала не вельмі. Пра галоўнага і «простых» землякопа Зяцькова пісьменнік здолеў сказаць толькі тое, што ён... вынайшаў, каб лепей было выкідваць грунт, выгнуты тронак для рыдлёўкі. Крыўдна і за такога «героя», і за аўтара!

Не ведаю, можа, я памыляюся, але мне здаецца, што ў спрэчках, якія разгарнуліся вакол пытання аб пошуках новага стылю, чуецца і водгалас далёкіх дваццатых гадоў. Колькі тады крычалі аб «рытме эпохі», наскаквалі на Купалу і асабліва на Коласа, як на пісьменніка, які цалкам устарэў і дапявае апошнія «нашаніўскія» песні.

Было ў гэтых крыках многа шчырай зацікаўленасці, але, мабыць, яшчэ больш было самага звычайнага літаратурнага кар'ерызму, які, на жаль, не перавёўся і да нашых дзён і мае самае разнастайнае аблічча.

Так, рытм часу ёсць, ён існуе: сёння чалавек, як ніколі раней, адчувае злітнасць, з'яднанасць свайго лёсу з тымі бурамі і віхурамі, якія веюць над планетай. Мне не раз даводзілася назіраць звычайных калгасных дзядзькоў, якія, седзячы на прызбе і пастарамоднаму пыхкаючы цыгаркамі, скручанымі з тых самых газет, якія яны нядаўна прачыталі, разважаюць пра самыя высокія пытанні ўнутранай і міжнароднай палітыкі. І не па-дылетанцку разважаюць, а з непаўторнай народнай здагадлівасцю, «хітрынкай», могучы таму-сяму навучыць нават якога-небудзь лектара, што, як з мяшка, сыпле завучанымі цытатамі.

Але ў плане сказанага пошукі стылю як самамэта ўяўляюцца мне справай надуманай, неглыбокім разуменнем сапраўдных патрэб літаратуры. Некалі паэт Міхайла Грамыка напісаў і надрукаваў паэму пад назвай «Гвалт над формай». Але паэму гэтую памятаюць толькі, мабыць, старэйшыя па ўзросту пісьменнікі ці тыя з моладзі, хто займаецца гісторыяй літаратуры.

Мне здаецца, што сённяшні этап нашай літаратуры, які пачаўся пасля XX з'езда, вызначаецца пашырэннем і паглыбленнем паказу народнага жыцця, паказу

духоўнага багацця асобы ў яе мнагалучных, непарыўных сувязях з грамадствам, з калектывам. Літаратура ў значна большай ступені ідзе сёння ад усведамлення той ісціны, што чалавек у сацыялістычным грамадстве — не вінцік, не бяздушны механізм, а дзеяч, стваральнік усяго цудоўнага, што ёсць на зямлі. Сёння мы сустракаем «у штыхі» ўсялякі вобраз-схему, створаны па спрошчаных рэцэптах нарматыўнай крытыкі, якая «адна» ведала, якім павінен быць гэты вобраз у мастацкім творы.

Але скажыце, ці не падобна патрабаванне новага стылю безадносна да тэмы, праблемы, сутнасці характару твора на памятныя вокрыкі нарматыўнай крытыкі? Для мяне асабіста абстрактна ўзяты «новы стыль» нагадвае сэнс вядомага выслоўя: «темна вода во облацех». Гучанне, інтанацыю, падтэкст, шматпланавасць плыняў у творы дае духоўны змест героя, убачаны і адчуты пісьменнікам. Нявопытныя настаўнікі, тлумачачы мастацкія асаблівасці твора, яшчэ і сёння карыстаюцца выразамі «пісьменнік ужывае тропы», «насычае верш эпітэтамі», «карыстаецца метафарамі» і г. д. Можна падумаць, што гэтыя тропы, метафары, эпітэты назапашаны пісьменнікам і стаяць у яго на паліцы ў глячках, а аўтар, па меры патрэбы, бярэ іх і сыпле ў твор.

Вобразныя сродкі залежаць ад мастацкага бачання пісьменнікам жыцця, ад дыяпазону яго мыслення і яшчэ ад самога таго жыццёвага матэрыялу, які ў дадзены момант пад рукамі ў пісьменніка. Наўрад ці можна напісаць пра маскоўскае метро тым самым стылем, што і апавяданне пра ціхую, загубленую сярод балот палескую вёсачку: неадпаведнасць вобразных сродкаў і прадмета паказу адразу кінецца ў вочы.

Мне здаецца, сёння ў першую чаргу мы павінны гаварыць не аб пошуках новага стылю, які нібы з'явіцца панацэяй ад усіх хвароб, а проста аб глыбейшым, больш удумлівым пранікненні ва ўсе пласты сённяшняга жыцця.

Гэта праўда, што сёння жыццё кардынальна змянілася і не можа вымярацца нават меркамі саракавых гадоў. Светабачанне вясковай дзяўчыны, якая скончыла дзесяцігодку, зусім не тое, што ў яе таварышкі-равесніцы, якая скончыла толькі пачатковую школу. Многія заводскія рабочыя па свайму духоўнаму ўзроў-

ню і запатрабаваннях набліжаюцца да інтэлігентаў (я маю на ўвазе інтэлігентнасць сапраўдную, а не ўяўную, калі, скажам, нават у настаўніка сярэдняй школы ці раённага кіраўніка мастацкія густы на самым прымітыўным узроўні).

Мне здаецца, што наша літаратура пакуль што пэўным чынам кансерватыўная ў адносінах да ўсіх гэтых перамен. Яе мастацкае мысленне, светабачанне не вырваліся яшчэ да канца з кола сялянскага светабачання і адпаведнай яму вобразнасці. Карацей кажучы, літаратура наша яшчэ вельмі мала урбаністычная. Гэта датычыць не толькі старэйшых пісьменнікаў, а і маладзейшых. Значыць, задача не ў тым, каб шукаць нейкі новы стыль, а ў тым, каб узняцца на ўзровень адчуванняў сённяшняга, па-сапраўднаму адукаванага чалавека і, не губляючы таго добрага, што ў нас ёсць,— а менавіта добрага гумару, сакавітага беларускага слова, яго ёмістай вобразнасці — па-мастацку перадаць багацце духоўнага свету нашага сучасніка.

Сапраўды, можна паставіць пытанне: ці ёсць у нас добрыя творы аб рабочых, студэнцкім жыцці, аб людзях тых прафесій, якія сталі сёння масавымі — аб інжынерах, урачах, навуковых работніках? Можна весці гаворку і ў іншым плане: ва ўсім, аб чым бы пісьменнік ні пісаў, павінны адчувацца ўзровень інтэлектуальнай культуры нашага сучасніка.

Пафас любві, павагі да чалавека, тая жыватворная Праметэева іскра, якая ва ўсе вякі надавала вялікі гуманістычны сэнс творам літаратуры,— гэты пафас з'яўляецца зместам і нашай сённяшняй літаратуры. Савецкай літаратуры ў яе лепшых здабытках заўсёды былі дарагімі чалавек, свет яго імкненняў і пачуццяў. Мне здаецца, што разуменне гуманістычнага зместу ў нашай сённяшняй літаратуры пашыраецца і паглыбляецца. Сёння ў кнігах нашых пісьменнікаў усё больш выразна гучыць тэма ўзаемных абавязкаў чалавечай асобы перад калектывам, грамадствам і грамадства, калектыву перад чалавечай асобай. Ленінскія словы аб тым, што новая літаратура будзе кіравацца спачуваннем справе ўсіх працоўных, якія складаюць яе красу і будучыню, набываюць у нашы дні ўсё большы сэнс.

І вялікі поспех рамана Івана Мележа «Людзі на балоце» або аповесцей Васіля Быкава тлумачыцца, на маю думку, не нейкім новым стылем гэтых твораў,

а добрай увагай да чалавека, да жывога свету яго думак і пачуццяў. На ўзорах творчасці І. Мележа і В. Быкава можна гаварыць аб пашырэнні зместу беларускай літаратуры апошніх гадоў. Гэтая рыса, як мне здаецца, куды больш каштоўная і вартая ўвагі нашай крытыкі, чым даследаванне фармальных асаблівасцей, якія зусім розныя ў кнігах гэтых мастакоў слова.

Тэарэтыкі літаратуры ў сваіх дыскусіях ставяць сёння пытанне аб пэўным змяншэнні класавага і ўзрастанні агульначалавечага пачатку ў нашым разуменні гуманізму. Інакш не можа і быць, калі партыя напісала на сваім сцягу: «Чалавек чалавеку друг, таварыш і брат».

XXII з'езд партыі яшчэ раз пацвердзіў, што пісьменніку, каб намаляваць героя нашых дзён, зусім няма патрэбы заглядваць толькі ў тыя хаты і кватэры, якія славяцца сваім дабрабытам, бачыць толькі ідэальнае ў жыцці. Дарога да камунізма — не гладкая і ўкатаная, яна ідзе і праз цяжкія, крутыя перавалы, праз напружанне фізічных і духоўных сіл, праз драматычныя і, часам, трагічныя канфлікты.

Вядома, ідэалам нашай літаратуры, як і жыцця, можа быць мужны чалавек, чалавек з жыццесцвярджальным светаадчуваннем, чалавек, які верыць душой у стваральныя сілы грамадства, у паступальны, прагрэсіўны крок гісторыі. Гэта, вядома, не выключае таго, што ў нашых творах могуць быць і інтанацыі смутку, тугі.

Багацце пачуццяў нашага сучасніка, вядома, бясспрэчнае. Менавіта цяпер мы ставім пытанне аб сэнсе такіх паняццяў, як дабрата, спагадлівасць, спачуванне. У народзе гавораць пра мужа, які добра ставіцца да сваёй жонкі: « Ён жалее яе, шкадуе». «Жалее, шкадуе», тут, як бачым, сінонімы слоў — любіць, паважае.

Некалі М. Горкі вуснамі аднаго са сваіх герояў заявіў: «Трэба паважаць чалавека, а не прыніжаць яго жаласцю». Але тады, мабыць, гутарка ішла пра філантропію прадстаўніка пануючага класа, які, даючы беднейшаму медны пятак, тым самым зневажаў яго чалавечую годнасць. У наш час, мне здаецца, мы можам і пашкадаваць і пасумаваць над лёсам таварыша па барацьбе, які надламіўся ў дарозе ці трапіў у трагічныя абставіны. Значыць, гутарка ідзе сёння —

і я лічу гэта галоўным — аб пашырэнні гуманістычнага зместу нашай літаратуры.

Гэта праўда, што навейшыя адкрыцці навукі, у прыватнасці фізікі, уплываюць на наша светаадчуванне і, у канечным рахунку, на стыль мастацкага твора. Але ў спрэчцы «фізікаў» і «лірыкаў» я без хістанняў стану на бок «лірыкаў». Некаторыя «фізікі» сцвярджаюць, напрыклад, што не бачаць істотнай розніцы паміж кібернетычнай сістэмай і чалавекам. Чалавек, маўляў, таксама кібернетычная сістэма, і ўсе праявы яго інтэлекту, духоўнага жыцця можна мадуляваць, перадаць сігналам. Ёсць жа шахматная машына, якая іграе не горш, а нават лепш за вядомых шахматыстаў, ёсць машыны, якія «пішуць» музыку і вершы.

Наконт музыкі і вершаў не ведаю, а з тым, што электронныя лічыльныя машыны могуць замяніць, аблегчыць працу соцень тысяч бухгалтараў і рахункаводаў, згадзіцца можна. Але ў той жа час самы некваліфікаваны бухгалтар заўсёды будзе непараўнальна вышэй за самую складаную машыну, няхай сабе нават зробленую са штучнага бялка і плазмы. Бо бухгалтар — чалавек, а праявы, магчымасці чалавечага розуму практычна бясконцыя, канчаткова не выяўлены і ніколі не могуць быць выяўлены канчаткова. «Чалавек — гэта цэлы свет»,— любіў гаварыць Кузьма Чорны. Чалавека можна параўнаць з абсалютнай ісцінай, шлях да пазнання якой практычна бясконцы.

Вядома, там, дзе прыходзіцца параўноўваць чалавека з машынай, асабліва змястоўнай гаворкі ні пра гуманізм, ні пра стыль пісьменніка быць не можа. Бо ці не маем мы тут своеасаблівай варыяцыі на тэму «калёсікаў» і «вінцікаў»?

Заканчваючы гаворку пра суадносіны стылю і гуманізму, стылю і часу, мне хочацца яшчэ раз сказаць, што мастацкі стыль не нешта застылае, нерухомае. Стыль — гэта поўная, найбольш гарманічная адпаведнасць тэм, ідэй, праблем, характараў, якія пісьменнік шукае і знаходзіць у жыцці, тыя непаўторныя, звязаныя ■ асаблівасцямі пісьменніцкага таленту мастацкія сродкі, якія надаюць непаўторную форму ўбачанаму, перажытаму і перадуманаму.

*1962*

# РАДАСЦЬ ПОЎНАЯ І НЯПОЎНАЯ

У 1963 годзе «Полымя» надрукавала сем раманаў. Ні ў якія часы беларуская проза, калі гаварыць аб буйных эпічных палотнах, не брала такога разгону.

Тэматыка надрукаваных твораў нібы нагадвае вялікі гістарычны пласт у пэўным, даволі паслядоўным разрэзе. Раман Аркадзя Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка» пераносіць нас у далёкія дні першай рускай рэвалюцыі. Раманы Ільы Гурскага і Міколы Лобана прысвечаны пярэдадню Кастрычніка і самім кастрычніцкім падзеям. «Людзі на балоце» Івана Мележа — аб палескай вёсцы дваццатых гадоў.

Суд сучаснага над мінулым... Словы гэтыя датычаць не толькі рамана І. Шамякіна «Сэрца на далоні», яны падыходзяць да многіх твораў. Раман, у прыватнасці раман сацыяльны, не можа не несці ў сабе подыху гісторыі. Але творам дзейсным, хвалюючым будзе толькі той, які закране карэнныя, калі можна так сказаць, інтарэсы, пачуцці і думкі сучаснікаў, які актыўна, па лініі галоўных пытанняў жыцця, перагукваецца з нашымі днямі.

Што ж новага ўнеслі ў беларускую літаратуру раманы, аповесці апошніх гадоў? Наколькі яны суаднесены з тымі велізарнымі пераменамі, якія адбыліся ў нашым жыцці пасля XX з'езда КПСС?

Можна смела сцвярджаць, што беларуская проза сёння на вялікім уздыме. Яна дасягнула ідэйнай і мастацкай сталасці. Знікае вобраз-штамп, вобраз-схема, усё радзей у кнігах сустракаюцца бяскрылая натуралістычнасць і ілюстрацыйнасць. Адметнай асаблівасцю празаічных твораў нашых дзён з'яўляецца тое, што іх аўтары імкнуцца даследаваць жыццё ў яго самых разнастайных сувязях і плынях, не пазбягаюць пытанняў складаных, супярэчлівых, не падмяняюць суровую рэальнасць жыцця надуманымі карцінамі і канфліктамі.

У прозу прыйшоў, як гэта было ў лепшых творах дваццатых і трыццатых гадоў, яе законны герой — просты, звычайны чалавек. Ён, гэты герой, вядома, не такі просты — ён творца гісторыі, авеяны вятрамі і віхурамі эпохі, і як бы ўвасабляе карэнныя перамены, што адбыліся ў самых глыбінях жыцця. Проза стала больш уважлівай да праблем маральных, этычных. Гэта, як

мне здаецца, зусім адпавядае асноўным тэндэнцыям нашага жыцця за апошняе дзесяцігоддзе. Сёння, як ніколі раней, паўстае пытанне аб духоўным, маральным абліччы будаўніка камуністычнага грамадства, чалавека, які свядома падпарадкоўвае сваю энергію, імкненні і жаданні велічнай справе ўсенароднага шчасця.

На маю думку, зварот літаратуры да лёсу радавых, звычайных людзей зусім не азначае, што яна выракаецца тэмы высокага, гераічнага ў нашай рэчаіснасці. Толькі тыя перамены сапраўды глыбокія, паказальныя, якія закранаюць карэнныя асновы жыцця, займаюць думкі і пачуцці сучаснікаў.

Раман Івана Мележа «Людзі на балоце» таму і з'явіўся значным дасягненнем прозы апошніх гадоў, што ў ім на ўвесь свой духоўны рост паўсталі простыя, звычайныя, на першы погляд, нават непрыкметныя героі.

З якім майстэрствам малюе Іван Мележ характары Васіля і Ганны, якое багацце пачуццяў, думак у іх выяўляе! Васіль, Ганна, Яўхім Корч, Хадоська — дзеці звычайнай палескай вёскі — пададзены буйным планам, і чытач — хто б ён ні быў па сваёй прафесіі ці адукацыйным узроўні — узбагаціцца, возьме нешта для сябе пасля знаёмства з героямі палескай хронікі. (Вось, дарэчы, і яшчэ адзін прыклад таго, што калі перад намі высокамастацкая кніга, то яе, бадай, з аднолькавай цікавасцю чытаюць людзі самых розных узростаў і адукацыйнай падрыхтоўкі.)

Новыя якасці беларускай прозы, вядома, не з неба зваліліся. Яны закладзены ў тым лепшым, што было напісана ў папярэднія гады. Творы Якуба Коласа, Кузьмы Чорнага, Змітрака Бядулі, Кандрата Крапівы вызначаюцца пільнай увагай да свету думак і пачуццяў простага, звычайнага чалавека, да яго побыту і працы. У гэтых творах вельмі добра сплаўлена «высокае» і звычайнае, мы бачым у іх сялянскую хату, бытавое асяроддзе і разам з тым адчуваем, як пад саламяныя стрэхі прабіваецца тое галоўнае, вострае і неадольнае, што характарызуе век, эпоху, час.

Удалай спробай спалучэння «высокага» і звычайнага ў прозе апошніх гадоў, я лічу, можна назваць аповесці Васіля Быкава. Гэта ж праўда, што ў цэнтры кожнай новай рэчы В. Быкава — чалавек подзвігу, вы-

сокага воінскага і патрыятычнага абавязку. Сваю нялёгкую справу герой робіць самаахвярна і ўмела, не гаворыць гучных слоў і ў той жа час штохвіліны рызыкуе жыццём. Супрацьстаўляецца герой, як правіла, чалавеку, што па тых ці іншых прычынах гатовы здрадзіць воінскаму абавязку, а значыць, і Радзіме. Быкаў хораша паказвае радавога, звычайнага чалавека на вайне, вельмі ўважлівы да яго думак, пачуццяў, настрояў, да яго «акопнага» побыту. Філасофскай асновай твораў пісьменніка з'яўляецца перакананне, што вайну ў канчатковым рахунку выйграюць народныя масы, апранутыя ў салдацкія шынялі.

Васіль Быкаў здолеў сказаць сваё слова пра радавога ўдзельніка вайны. І ў той жа час ён працягвае зробленае ў літаратуры. Варта ўспомніць ваенныя раманы і аповесці Кузьмы Чорнага (няхай сабе яны незавершаныя, неадшліфаваныя, пэўныя раздзелы іх маюць характар накідаў), каб у гэтым пераканацца. Прыгадаем Кастуся Лукашэвіча з «Пошукаў будучыні», Уладзю Вялічку і Мішурына з «Вялікага дня». Яны як бы духоўныя бацькі герояў В. Быкава. Толькі задуманы больш аб'ёмна, у больш мнагалучных сувязях з асяроддзем і часам, які іх нарадзіў. Але тое, што можна зрабіць у рамане, нельга патрабаваць ад аповесці.

Большасць буйных эпічных твораў, якія паявіліся ў нашай прозе ў дваццатыя, трыццатыя, нават у ваенныя і пасляваенныя гады, мелі сваёй сюжэтнай асновай востры сацыяльны канфлікт, надзвычай драматычныя калізіі, якія вынікалі з сутыкнення носьбітаў дзвюх процілеглых ідэалогій, двух светаў маралі, розных паняццяў «дабра і зла». Усе буйнейшыя творы Кузьмы Чорнага пабудаваны на такіх канфліктах. На шляху адлюстравання гістарычнай рэчаіснасці ў яе вядучых тэндэнцыях беларуская літаратура дамаглася значных поспехаў. Былі створаны буйныя, аб'ёмныя вобразы, паўнакроўныя ў сваёй жыццёвай верагоднасці. Варта ўспомніць Міхася і Антося з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» або дзеда Талаша з аповесці «Дрыгва». Дзед Талаш стаў славутым не дзякуючы сваім партызанскім заслугам, бо такіх Талашоў у грамадзянскую вайну былі сотні, а дзякуючы таму, што яго заўважыў, узняў на высокі п'едэстал яго подзвіг Якуб Колас. І не толькі ў буйных творах узнікалі

аб'ёмныя, абаяльныя, запамінальныя вобразы, а і ў творах малога жанру — у апавяданнях. Ваську Шкетава і Ваньку Разанскага з апавядання Міхася Лынькова «Над Бугам» або Андрэя Лятуна ведалі ўсе школьнікі.

І вось — нібы загадка. Пры бясспрэчна ўзрослым узроўні майстэрства пісьменнікаў, пры агульным значна вышэйшым узроўні культуры беларускай прозы, вобразаў аб'ёмных, запамінальных, якія вялі б чытача за сабой, станавіліся прыкладам для пераймання — не так і многа. Вядома, прырода канфлікту ў літаратуры змянілася, сацыяльныя калізіі саступаюць месца маральна-этычным, але ці ж тут асноўная прычына таго, што старонкі шмат якіх кніг заселены вельмі ўжо ардынарнымі, «звычайнымі» героямі? Я ўжо не кажу пра вобразы гераічныя, цэльныя, па якіх даўно сумуе чытач.

Я не бяруся адказаць на гэтае пытанне, якое мяне самога хвалюе, бо не маю пэўнага адказу. Ёсць здагадкі, думкі, якія хочацца выказаць.

Магчыма, працэсы, што адбываюцца ў літаратуры, у прыватнасці ў прозе, не завяршыліся, не закончыліся, не далі канчатковых сваіх вынікаў. Канкрэтней гэта можна абмаляваць так. Пісьменнікі, імкнучыся пазбегнуць схематычнасці, спрошчанасці, хадульнасці вобразаў, сталі ўважлівей прыглядацца да жывога, рэальнага чалавека, хочуць занатаваць яго непаўторны вобраз, няхай сабе і не вельмі прыкметны. Ці не даюць нам прыкладу, у гэтым сэнсе, апавяданні і аповесці апошніх гадоў, дзе такі моцны лірычны струмень з адначасовай цягай да нюансаў у пачуццях і настроях героя, да «дробязей» яго побыту?

Многа ў нас паявілася кніг, чытаючы якія, не папракнеш аўтара ў няведанні жыцця або ў тым, што ён выдумляе псіхалогію сваіх герояў, ёсць пэўная адпаведнасць мастацкіх карцін жыццёвым з'явам. У вобразах літаратурных герояў пазнаеш жывых людзей. Гэта, вядома, добра. Але ж ці з'яўляецца літаратура копіяй жыцця ў простым, літаральным сэнсе? Ад таго, што ў мастацкім творы пазнаеш суседа па кватэры, радасць няпоўная. Хочацца бачыць Капернікаў і Галілеяў нашага часу, вобразы, якія б у найвышэйшым абагульненні сінтэзавалі прыкметы нашага часу і яго тэндэнцыі. Бо толькі той твор стане прыкметнай з'явай літаратуры, мастацкія характары якога як бы

ўбіраюць у сябе і найбольш вострыя сацыяльныя пытанні часу і тое, што пераходзіць з пакалення ў пакаленне і што звычайна называюць агульначалавечым. Наўрад ці існавалі калі-небудзь у такой абагуленасці Гамлет і Дон-Жуан, Абломаў і Анна Карэніна. Вобразы гэтыя нарадзіліся дзякуючы магутнай фантазіі іх творцаў. І яны жывуць у вяках.

І вось узнікае такое пытанне.

Ці не залішне мы прывязваем мастацкія характары да жывых рэальных прататыпаў, калі пішам свае кнігі? Ці не абмяжоўваем гэтым самым палёт фантазіі, прастор выдумкі, вымыслу, якія, вядома, не павінны адрывацца ад глебы рэальнасці, але ў той жа час як бы сінтэзаваць у адным фокусе шматлікія факты супярэчлівай, хуткаплыннай рэчаіснасці? Ці не вядзе прымітыўна зразуметы рэалізм, дзе і фігуры выпісаны, і колер вачэй не забыты, і вопратку героі носяць па апошняй модзе, да натуралізму, вельмі блізкага да бяскрылай фатаграфічнасці?

Добра, што ў нашу прозу прыйшло ўменне паказваць быт героя, тыя шматлікія жыццёвыя падрабязнасці, без якіх не намалюеш тыповых характараў у тыповых абставінах і без якіх немагчыма тканіна ёмістай мастацкай прозы. Але ці не здараецца часам, што быт як неад'емная частка мастацкага твора пераходзіць у суцэльнае бытаапісальніцтва, у якім патанаюць філасофскія праблемы, вышыня абагульнення, і застаецца тое, што чытач можа ўбачыць і без пісьменніка?

У апошні час многа пішацца і гаворыцца пра глыбіню псіхалагічнага аналізу, пра аналітычны спосаб раскрыцця і ўвасаблення жыццёвых з'яў. Псіхалагічны аналіз, дакладнасць рэалістычнага малюнка, уменне пісьменніка глыбока зазірнуць у душу героя — сапраўды канкрэтная заваёва беларускай прозы. Але Якуба Коласа, што напісаў адну з самых лепшых нашых кніг — трылогію «На ростанях»,— не назавеш проста аналітыкам. Побач з удумлівым даследаваннем псіхалогіі героя ў яго знойдзеш і паэтычнае бачанне свету, уменне адным словам, адной мастацкай дэталлю сказаць многае, імкненне да жывапісу і гукапісу словам. У творах Якуба Коласа шматфарбнасць, поліфанічнасць жыцця сур'ёзна суседнічаюць з іроніяй і гумарам, вялікая нагрузка прыпадае на эмацыянальна-ацэначнае слова.

Паспяхова працуе ў нашай прозе Янка Брыль, для твораў якога ўласціва глыбокае спалучэнне псіхалагічнага аналізу і лірыкі, паэтычнага ўспрымання жыцця. Заслуга Янкі Брыля ў тым, што ён адкрыў у душах сваіх вельмі «звычайных» герояў, у душах людзей, што «пахнуць зямлёю і потам», залатыя россыпы паэзіі і высакароднасці. Удалы раман пісьменніка «Птушкі і гнёзды» па форме сваёй — паэтычная споведзь хлопца з заходнебеларускай вёскі, які не вельмі разумее сутнасць грамадскіх падзей, але настойліва прабіваецца праз ліхалецце вайны да савецкага берага.

Раман Івана Мележа «Людзі на балоце» таксама не такі ўжо цалкам аналітычны твор. Колькі ў ім паэзіі, добрай усмешкі, гумару, якое багацце стылёвых адценняў! Адным словам, ці павінны мы аддаваць пераважную ўвагу толькі прозе аналітычнай? Хіба дрэнна, што ў прозу шырока хлынулі паэзія, лірыка? Хіба не патрэбны творы рамантычныя, узнёслыя? Добрая рамантыка, пластыка, ёмістасць слова, прыўзнятасць пісьменніцкага стылю — хіба ж гэта дрэнна для прозы, якая па прыродзе сваёй прэтэндуе на тое, каб паказваць разнастайнасць і мнагалучнасць жыцця? Думаецца, што для моладзі, як хлеб, патрэбна юнацкая і сапраўды паэтычная прыгодніцкая аповесць.

Час, у які мы жывём, рамантычны, і рамантыка павінна заняць належнае месца ў літаратуры. Між тым крытыка не вельмі, як кажуць, песціць сваёй увагай творы паэтычнай, рамантычнай прозы. Даўно з'явіліся ў друку цёпла, паэтычна напісаныя партызанскія аповесці Аляксея Карпюка. Пра вартасці іх — у друку ні слова. Многа добрай, шчырай рамантыкі ў рамане Піліпа Пестрака «Серадзібор» — і гэтая акалічнасць таксама абыдзена ўвагай.

Вялікія, значныя творы і вобразы, відаць, могуць узнікнуць на скрыжаванні самых розных стылёвых плыняў, пры багацці творчых індывідуальнасцей. Нездарма да нашых дзён не сціхаюць у літаратуразнаўстве спрэчкі пра тое, да якой галіны — рэалістычнай ці рамантычнай — аднесці, скажам, шэкспіраўскага «Атэла».

Яшчэ адна заўвага ў адрас нашай прозы. За гады Савецкай улады выраслі цэлыя пакаленні людзей, духоўная біяграфія якіх пакуль яшчэ слаба намалявана ў літаратуры. Я маю на ўвазе жыццё горада, інтэліген-

цыі. Жывуць і працуюць дзесяткі тысяч інжынераў, канструктараў, урачоў, высокакваліфікаваных і адукаваных рабочых. (Дзіўна, дарэчы, чаму гэтая армія не вылучыла са свайго асяроддзя свайго пісьменніка, які б глыбока і праўдзіва расказаў пра новыя з'явы ў жыцці?) А ці многа напісана пра іх жыццё, іх справы? Былі больш ці менш удалыя спробы паглыбіцца ў тэматыку гарадскога жыцця. Раман Уладзіміра Карпава «За годам год» мае ў сваёй аснове выключна важную і сапраўды «раманічную» праблему, якая выразна характарызуе час. Аднаўляецца Мінск, і сутыкаюцца процілеглыя погляды: што ў першую чаргу будаваць — горад-помнік, які б уславіў тых, хто заваяваў перамогу, ці хутчэй забяспечыць жыллём людзей, якія пасля перажытых нягод маюць на гэта безумоўнае права. Новае слова сказаў пра горад Іван Шамякін у рамане «Сэрца на далоні». Але ці задумаліся мы ў поўнай меры, чаму ўсё ж адстае наша раманістыка ў эстэтычным асваенні тэмы горада, жыцця рабочага класа, інтэлігенцыі? У чым тут прычына? Ці падыходзяць традыцыйныя вобразна-стылёвыя сродкі, прыгодныя для адлюстравання вясковага жыцця, для ўвасаблення тэмы горада? Да якіх сродкаў мы павінны звяртацца, каб не страціць шматтысячнага гарадскога чытача?

На гэтыя, як і на многія іншыя пытанні, якія ўзнікаюць у творчай рабоце празаікаў, хацелася б атрымаць адказ. Хацелася, каб сваімі думкамі падзяліліся найбольш вопытныя майстры прозы, аўтары раманаў, аповесцей і апавяданняў, а таксама крытыкі, паэты і наогул усе, хто шчыра зацікаўлены ў далейшым развіцці нашай прозы і нашай літаратуры ўвогуле.

*1964*

## АД «ПРЫВАТНАСЦІ» ДА ГАРМОНІІ ЦЭЛАГА

Не, не дзеля пахвальбы ці імкнення да «лакіроўкі» мне хочацца распачаць свае нататкі з заявы аб тым, што сёння ў нас, беларусаў, добрая проза. Яшчэ гадоў дзесяць назад і чытачы, і крытыкі, дый самі пісьмен-

нікі пагаджаліся з тым, што наша проза адстае ад паэзіі. А цяпер... Вось, скажам, часопіс «Полымя» — за адзін толькі мінулы год у ім надрукавана шэсць раманаў. А былі яшчэ аповесці і апавяданні ў перыёдыцы і новыя кнігі, якія выйшлі ў выдавецтвах. Гэта не толькі колькасны рост. Чытаючы новыя творы беларускіх празаікаў, параўноўваючы іх, аналізуючы, кожны раз пераконваешся ў тым, што бяскрылы натуралізм, ілюстрацыйнасць усё больш пераадольваюцца, пісьменнікі глыбей і паўней уваходзяць у народнае жыццё, у яго разнастайныя пласты і сферы.

Пісьменнікі не баяцца складаных, супярэчлівых пытанняў, у творах усё больш знікаюць вобразы-штампы, вобразы-схемы.

Адмаўляючы ў сваёй творчасці несастаяльную тэорыю «ідэальнага героя», памылковую канцэпцыю «маленькага чалавека», беларускія празаікі хочуць паказаць свайго сучасніка такім, які ён ёсць у сапраўднасці, раскрыць у вобразе героя, кажучы словамі рэдакцыйнага артыкула часопіса «Камуніст» (№ 10) «Искусство героической эпохи» «лепшыя якасці народа, прыгажосць яго думак, пачуццяў і спраў».

Такімі паўстаюць, напрыклад, доктар Яраш, журналіст Шыковіч і другія персанажы новага рамана Івана Шамякіна «Сэрца на далоні». Іван Шамякін заўсёды ўмеў востра і зорка бачыць сучаснасць, схопліваць і ўвасабляць у вобразах сваіх герояў яе адчувальныя рысы. Чатыры раманы напісаў гэты цікавы пісьменнік. Яго апошні раман «Сэрца на далоні» яшчэ адно пацверджанне пранікліваЙ увагі нашай прозы да зрухаў, якія замацаваліся ў свядомасці людзей пасля XX з'езда партыі.

Лепшым творам беларускай прозы апошніх гадоў стаў раман Івана Мележа «Людзі на балоце». Ва ўвесь свой духоўны рост паўсталі ў ім простыя, звычайныя, на першы пагляд, як бы нават непрыкметныя героі. Якія багатыя россыпы думак, пачуццяў адкрывае ў іх душах пісьменнік! Героі рамана, гэтыя дзеці глухой палескай вёскі далёкіх дваццатых гадоў паказаны буйным, аб'ёмным планам, раскрываюць перад чытачом незвычайнае багацце свайго духоўнага свету.

У апошні час у беларускай крытыцы многа гаворыцца пра глыбіню псіхалагічнага аналізу, аналітычны метад раскрыцця і ўвасаблення жыццёвых з'яў.

Псіхалагічны аналіз, дакладнасць рэалістычнага малюнка, здольнасць пісьменніка паглыбіцца ў характары сваіх герояў — рэальная заваёва нашай літаратуры, рысы, якія сфармаваліся пад вялікім уплывам рускай класічнай літаратуры. Але ці толькі псіхалагізмам вымяраецца мастацкая вартасць твораў? Бо калі гаварыць, напрыклад, пра тыя ж раманы Шамякіна і Мележа, то ў іх вельмі многа рамантыкі, лірыкі, акрыленасці. У Шамякіна рамантычны пафас адкрыты, празрысты, у Мележа — больш стрыманы, але і ў яго рамане прысутнічае арганічнае перапляценне разнастайных стылёвых сродкаў — паэзіі, лірыкі, добрай усмешкі, мяккага, пранікнёнага гумару.

Мне асабіста раманы Шамякіна і Мележа ўяўляюцца ўдалымі вопытамі злучэння «высокага», рамантычнага і «звычайнага». Між іншым, не толькі гэтым двум, зусім непадобным адзін на другога, пісьменнікам уласцівы такія якасці. А Янка Брыль, у якога псіхалагізм заўсёды суседнічае з лірыкай, мара — са строгай рэальнасцю? Шырокая палітра ў Васіля Быкава. У цесным адзінстве гераічнага і звычайнага малюе ён у сваіх творах карціны ваеннага часу.

Але вось — пытанне. Пры бясспрэчна ўзрослым майстэрстве беларускіх празаікаў, пры агульным высокім узроўні культуры беларускай прозы характараў сапраўды аб'ёмных, запамінальных, якія б па праву станавіліся прыкладам для пераймання, у нас сёння не так многа. У чым жа справа?

Не прэтэндуючы на ўсеабдымны адказ, хачу падзяліцца адным назіраннем. Часам яшчэ бытуе ў творчай практыцы нарматыўнае ўяўленне пра «дозы» ў мастацкім характары жыццёвага, рэальнага і прыўнесенага аўтарам — г. зн. рамантычнага. Рамантычнае ў такім выпадку разумеецца не толькі як выключнае, рэдкае, а і наогул неверагоднае. Але хіба гэта рамантыка? І ў мінулым было нямала твораў, у якіх падобны герой станавіўся на хадулі і ў самыя адказныя жыццёвыя моманты раптам зрываўся на «рамантычны» піск.

Рамантыка ў жыцці — гэта і мара, і парыванне, і самаахвярнасць, і палымяны роздум аб жыцці. Адымі ўсё гэта — і вобраз ператворыцца ў мёртвую схему, цень жывога, рэальнага чалавека.

Ці можа высокае, рамантычнае існаваць побач з будзённым і звычайным, побач з увагай мастака да

паўсядзённага жыцця чалавека? Ці могуць высокія, сапраўды рамантычныя, гераічныя пачуцці суседнічаць з такімі, як спачуванне, смутак, сум, горыч?

Мне здаецца, не толькі могуць, але і павінны. Мастацкі твор павінен вызначацца эмацыянальнай паліфанічнасцю. І няма патрэбы задавольвацца адной якой-небудзь фарбай, калі само жыццё дае ўзор шматфарбнасці, багацця, разнастайнасці колераў. У гэтай сувязі яшчэ і яшчэ раз прыходзіць на памяць «Ціхі Дон» Міхаіла Шолахава.

У беларускай літаратуры таксама нямала прыкладаў, калі пісьменнікі, ствараючы вобразы, характары, не баяліся выдзеліць якую-небудзь смешную ці нават адмоўную рысу станоўчага героя. Вядомы ўсім школьнікам дзед Талаш, герой-партызан грамадзянскай вайны з аповесці Якуба Коласа «Дрыгва», іншы раз паўстае перад чытачом у смешным, камічным становішчы. Але хіба гэта зніжае абаяльнасць і жыццёвасць героя? Міхась Лынькоў напісаў некалі рамантычнае, якое стала хрэстаматыйным, апавяданне «Андрэй Лятун», вясёлае і журботнае адначасова, апавяданне пра чалавека, які аддаў усё жыццё любімай справе і цяпер у выніку старасці павінен ад гэтай справы адысці. Але хіба складаная эмацыянальная гама фарбаў зніжае глыбіню, змястоўнасць характара?

Мне здаецца, гэтыя прыклады цэльнага, арганічнага злучэння рамантыкі і адчувальных, рэальных рыс характара яшчэ раз пераканаўча сведчаць, што значныя вобразы, гераічныя характары ўзнікаюць на скрыжаванні розных стылёвых плыняў. Бо гутарка ідзе аб духоўным багацці нашага сучасніка, аб жыццёвай пераканаўчасці яго вобраза, стварэнне якога патрабуе ад пісьменніка мастацкага валодання ўсёй палітрай фарбаў.

*1964*

# ПЯСНЯР ЗЯМЛІ САВЕЦКАЙ

Свае заметкі пачну з успамінаў.

У сярэдзіне трыццатых гадоў у беларускім перакладзе паявіліся тры кнігі «Ціхага Дона» і «Узнятая

цаліна» Міхаіла Шолахава. Гэтыя кнігі дайшлі да самых сціплых сельскіх бібліятэк. У школьных хрэстаматыях Шолахаў быў прадстаўлены невялікім урыўкам з «Узнятай цаліны»: жадаючы паказаць прыклад калгаснікам, Давыдаў бярэцца араць на быках, хоць да гэтага часу ніколі не араў.

Так, у дванаццаць ці трынаццаць гадоў мы, сельскія школьнікі, упершыню сустрэліся з Шолахавым.

Дзяцінства аддае перавагу прыгодам — кнігам Жуля Верна, Майна Рыда, Фенімора Купера. І вось у гэты свет летуценняў і мар уварваўся «Ціхі Дон». Тры ёмістыя, у зялёна-сіне-светлых вокладках кнігі былі прачытаны летам (заняткаў не было), дзён за дзесяць, на адным дыханні. «Ціхі Дон» узрушыў. Гэта было падобна да цуду. Штосьці агромністае, захопліваючае і незнаёмае ўваходзіла ў душу, хвалюючы свядомасць, трывожачы пачуцці.

Пазней, перачытваючы Шолахава, стараючыся разабрацца ў «тайне» «Ціхага Дона», я думаў, пра тое, што нават юны чытач, нягледзячы на свае вельмі малыя веды пра свет, жыццё, здольны адчуць вялікае і трагічнае.

Думалася і пра незвычайнае, нечакана ранняе развіццё самога пісьменніка: будучаму аўтару «Ціхага Дона», сыну «іншагародняга» і казачкі, было ўсяго дванаццаць гадоў, калі грымнула рэвалюцыя, шаснаццаць — калі закончылася грамадзянская вайна на Доне. У дваццаць гадоў ён ужо пісаў сваю вялікую кнігу — драму, эпас, лірыку новага свету, што нараджаўся ў пакутах і барацьбе. Пісаў, грунтуючыся на ўласным веданні жыцця і давяраючы толькі гэтым ведам. Якая агромністая работа думкі і сэрца стаяла за кожным радком, напоеным усімі фарбамі, пахамі сапраўднага жыцця, за кожным паваротам сюжэта, які сплавіў у сабе мноства самых разнастайных лёсаў і аб'ектыўную сутнасць гістарычнага працэсу, які ў гэтых лёсах выявіўся! Як моцна трэба было любіць чалавека, народ, родную зямлю, каб здзейсніць гэты тытанічны подзвіг!

Міхаіл Шолахаў — мастак дзіўны, мастак, які спалучае ў сабе вастрыню сацыяльнага зроку, і непераўзыдзены дар псіхолага, пейзажыста, знаўцу казацкага побыту, гумарыста, выдатнае адчуванне рускага слова ва ўсіх яго сэнсавых і эмацыянальных адценнях.

Мне здаецца, што ў рускай літаратуры за ўсю яе гісторыю было не шмат пісьменнікаў, у якіх бы так цесна, непарыўна, як у Шолахава, зліваліся ў адно глыбокі псіхалагізм і непасрэднасць пачуццяў, гістарызм, сацыяльнасць і свежасць паэтычнага погляду на жыццё. У кнігах Шолахава, як і ў самім жыцці, смешнае суседнічае з вялікім, трагічнае з камічным. Пісьменнік аднолькава яркі, непаўторны і ў перадачы паўсядзённай плыні жыцця, і ў адлюстраванні выключных, пераломных момантаў чалавечага быцця.

Поўнай цудоўных чараў паўстае перад намі з кніг Шолахава данская зямля — раздольны стэп з усходамі і заходамі сонца, разлівам траў, буяннем кветак, спевам птушак, з яго буднямі і святамі.

А якая агромністая галерэя чалавечых твараў і характараў жыве, радуецца, сумуе на старонках гэтых кніг! Герояў не зблытаеш аднаго з другім, няхай гэта фігуры першага плана ці персанажы эпізадычныя, якія мільгнулі перад намі на адно імгненне. У кожнага з іх свая манера адчуваць, перажываць, гаварыць, свой непаўторны чалавечы твар.

Вырасшыя на берагах ціхага Дона героі Міхаіла Шолахава належаць усяму чалавецтву. Грыгорый Мелехаў, Аксіння, Наталля, Дар'я, Давыдаў, Макар Нагульнаў, дзед Шчукар — у шэрагу вобразаў сусветнага гучання. Пісьменнік вострай сацыяльнай тэмы, непарыўна звязаны са сваім часам, сапраўдны гуманіст, Шолахаў востра адчувае непераходзячае значэнне духоўных чалавечых каштоўнасцей.

Не шмат знойдзецца ў сусветнай літаратуры такіх шчымлівых, узвышана-трагічных малюнкаў кахання, як у кнігах Шолахава. У нас многа пісалі пра блізкасць Шолахава да Талстога, і гэта справядліва. Але, думаецца, яшчэ бліжэй Шолахаў да Пушкіна — па ахопу жыцця, па здольнасці адчуваць яго багацце і разнастайнасць, па пачуцці гістарычнай Радзімы.

Шолахаў, як і Пушкін, па-сапраўднаму народны. Таму такімі простымі і, акрамя ўсяго іншага, даступнымі нават дзіцячаму, юнацкаму ўспрыманню, здаюцца яго творы. Гэта прастата геніяльнасці, якая гэтак шчодра дорыць нам шчасце, радасць і смутак глыбіннага ведання свету, гісторыі і чалавечых душ.

*1965*

# ЖЫВЫЯ СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

На першым з'ездзе пісьменнікаў Максім Горкі зацікавіўся пытаннем: у якіх рэспубліках напісаны гісторыі нацыянальных літаратур і што робіцца для іх стварэння там, дзе такіх гісторый яшчэ няма?

Ад першага з'езда нашы дні аддзяляе вялікі прамежак часу. Непараўнальна вырасла, узмужнела савецкая літаратура, а разам з яе поспехамі — крытычная і тэарэтычная думка. Сведчанне гэтаму — дзесяткі, нават сотні манаграфій, даследаванняў, крытычных прац, прысвечаных творчасці найбольш яркіх майстроў слова і праблемным пытанням развіцця літаратуры і, нарэшце, гісторыі нацыянальных літаратур.

У нас, на Беларусі, гісторыя літаратуры «наспявала», калі можна так сказаць, бадай, залішне марудна. Даваенныя школьнікі і настаўнікі, напрыклад, мелі да паслуг толькі хрэстаматыі і невялікімі артыкульчыкамі-даведкамі аб творчасці пісьменнікаў. Не ў лепшым становішчы былі студэнты і выкладчыкі філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў.

Першыя «ластаўкі» паявіліся ў пасляваенныя гады. Спачатку манаграфіі, прысвечаныя асобным пісьменнікам, затым школьныя падручнікі па гісторыі літаратуры. Як прамежкавае звяно да «акадэмічнай» гісторыі беларускай савецкай літаратуры, узніклі яе нарысы, выдадзеныя ў 1954 годзе на рускай мове, а ў 1956 — на беларускай.

Ужо толькі з-за аднаго гэтага выхад у свет двухтомнай гісторыі беларускай савецкай літаратуры — цэлая падзея ў нашым літаратурным жыцці.

Мае нататкі прысвечаны другому тому «Гісторыі» («Гісторыя беларускай савецкай літаратуры», т. II, Мінск, 1966 г.), які ўключае ў сябе аглядныя, «агульныя», раздзелы развіцця беларускай літаратуры перыяду Вялікай Айчыннай вайны, пасляваеннага часу, сучаснага этапу, а таксама раздзелы-манаграфіі аб творчасці найбольш відных сучасных пісьменнікаў і «Хроніку літаратурнага жыцця».

Другі том па кампазіцыйнай схеме, прыкладна, адпавядае трэцяму тому трохтомнай «Истории русской советской литературы» (Масква, 1961 г.).

Аднаму чалавеку не пад сілу дэталёва ацаніць работу даволі шырокага кола аўтараў «Гісторыі», таму

я абмяжуюся некаторымі заўвагамі, якія датычаць перш за ўсё прыкладнога, практычнага значэння кнігі, пытання, што дае «Гісторыя» выкладчыку, студэнту-філолагу, бо кніга і напісана, як мне здаецца, з «прыцэлам» менавіта на гэтага чытача.

Я не хачу сказаць, што «Гісторыя» не ўлічвае дасягненняў сучаснай крытычнай і тэарэтычнай літаратурнай думкі. Не толькі ўлічвае, а і стала магчымай дзякуючы поспехам крытыкі і літаратуразнаўства, іх даволі высокаму сучаснаму ўзроўню. У гэтым сэнсе «Гісторыя» — значны крок наперад у параўнанні, напрыклад, з «Нарысамі па гісторыі беларускай літаратуры», дзе разгляд творчага працэсу вёўся пераважна па лініі ідэйных і сацыяльных катэгорый, а эстэтычны, мастацкі аналіз існаваў у выглядзе неабавязковых «дадаткаў».

І ўсё ж «учарашні дзень» нашага літаратуразнаўства не-не ды і прагляне ў гэтай, скажам без перабольшання, саліднай працы, якая ахоплівае шырокае кола літаратурных падзей і фактаў. Прагляне то ў выглядзе «заніжанай» — са скідкай на актуальнасць тэмы — ацэнкі, то ў імкненні навесці «хрэстаматыйны глянец» на пісьменніка, які трапіў у «Гісторыю», то ў паспешлівай скорагаворцы аб «асобных» недахопах і пралiках там, дзе трэба сур'ёзная размова аб творчай, мастацкай няўдачы.

Не будзем спрашчаць пытання: задача аўтараў другога тома была шмат цяжэйшая, чым першага. Не гаворачы пра дзесяткі пісьменніцкіх імён, якія трапілі ў аглядныя раздзелы, нават раздзелы-манаграфіі, прысвечаныя, скажам, творам Івана Шамякіна, Пімена Панчанкі, Янкі Брыля, Івана Мележа, Піліпа Пестрака, напісаць было нялёгка. Аўтары гэтыя актыўна працуюць сёння, не ўсе, магчыма, дасягнулі творчага «зеніту». Вось гэтая «нявыверанасць» эстэтычна-мастацкіх ацэнак, недастаткова шырокае кола літаратурных назіранняў і фактаў абумовілі эскізнасць, нарысавасць некаторых раздзелаў-манаграфій, якія сваёй навуковай «фактурай» мала чым адрозніваюцца ад звычайных крытычных артыкулаў.

Аглядныя раздзелы вызначаюцца перш за ўсё імкненнем ахапіць пабольш фактаў, падзей, з'яў, намаляваць агульную карціну літаратурнага працэсу. Я тут пакідаю ўбаку спрэчкі аб тым, як было лепш бу-

даваць «Гісторыю»: спалучэннем аглядных раздзелаў і раздзелаў-манаграфій, як і зроблена, ці разглядаць творчасць нават найбольш відных пісьменнікаў у агульным патоку. Для выкладчыкаў, студэнтаў найбольш прымальная, як мне здаецца, першая, ажыццёўленая форма, бо менавіта так вядзецца і выкладанне літаратуры ў вышэйшых навучальных установах, праграмы так пабудаваны.

Свае хібы такая форма, вядома, мае. Яны досыць выразна выявіліся ў абранай кампазіцыі. Скажам, пасля «агульных» раздзелаў, дзе разглядаецца ваенная, пасляваенная і сучасная літаратура, ідзе «манаграфічная» гаворка пра творчасць Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Максіма Танка, і адразу відаць несупадзенне «маштабаў» аглядных і манаграфічных частак кнігі, бо творчасць гэтых пісьменнікаў выходзіць далёка за межы названых літаратурных перыядаў.

З другога боку — непазбежны паўтарэнні: усе важнейшыя гістарычныя падзеі і творы апошніх дваццаці пяці гадоў паўстаюць перад чытачом двойчы, тройчы і г. д. Спачатку ў аглядных, затым у «манаграфічных» частках. І што асабліва прыкра — іншы раз не супадаюць мастацкія ацэнкі твораў, бо агляцны раздзел напісан адным аўтарам, манаграфічны — другім. Але аб гэтым пазней.

Раздзел «Літаратура перыяду Вялікай Айчыннай вайны» напісаны ўвогуле нядрэнна, дае даволі шырокую карціну развіцця нашай «ваеннай» літаратуры, асноўных яе тэндэнцый, матываў, вызначаецца багаццем выкарыстанага літаратурнага і публіцыстычнага матэрыялу. Беларуская літаратура перыяду Айчыннай вайны стваралася параўнаўча невялікім колам пісьменнікаў, і ўражанне «раскіданасці» пры чытанні гэтага раздзела меншае, чым, скажам, пры чытанні старонак, прысвечаных пасляваеннай і сучаснай паэзіі. Гэтыя старонкі проста стракацяць назвамі вершаў, зборнікаў, прозвішчаў паэтаў. Гаворачы жартам, трэба мець не звычайную галаву, а якую-небудзь кібернетычную сістэму, каб усё гэта запомніць.

Я не збіраюся асабліва дакараць аўтараў раздзелаў пра паэзію, у іх было тое багацце матэрыялу, з якім цяжка справіцца. Тым больш што карціна развіц-

ця нашай паэзіі дадзена ўвогуле правільна, зроблена шмат трапных глыбокіх назіранняў.

Шляхам сціслых, «філасофскіх» назіранняў, фармулёвак, акцэнтуючы ўвагу на галоўным, акідваючы другараднае, відаць, і трэба ісці там, дзе ў аўтара-даследчыка «мора» матэрыялу. Зрэшты, гэта ў значнай меры зроблена, але побач — звычайны пералік прозвішчаў, назваў твораў, якія больш чым бібліяграфічнай даведкай не назавеш. Многія аўтары аднаго-двух паэтычных зборнікаў і наогул паэты, голас якіх асаблівай арыгінальнасцю не вызначаецца, маглі б, скажам, не трапіць на старонкі «акадэмічнай» «Гісторыі літаратуры», і вялікай бяды ў гэтым не было б, але затое вызвалілася б месца для больш сур'ёзнай, сталай размовы пра паэтаў, што трывала «замацаваліся» ў літаратуры, але якім з-за тых ці іншых прычын манаграфічныя раздзелы не прысвечаны.

Больш-менш выразнага ўяўлення пра творчасць Максіма Лужаніна, Анатоля Вялюгіна, Аляксея Русецкага, Антона Бялевіча, Міколы Аўрамчыка, Рыгора Барадуліна, Сцяпана Гаўрусёва і іншых, прачытаўшы старонкі, прысвечаныя паэзіі, не складзеш, і гэта, бясспрэчна, пралік аглядных раздзелаў.

У пагоні за колькасцю страчана якасць.

Аглядныя раздзелы аб прозе і драматургіі ў гэтым сэнсе маюць перавагі. Тут адчуваецца пэўная сканцэнтраванасць вакол найбольш прыкметных літаратурных з'яў, у «фокусе» ідэйна-мастацкага аналізу аказваюцца якраз тыя творы, якія атрымалі прызнанне чытачоў, крытыкі. Старонкі аб прозе падкупляюць добрай «філасафічнасцю», эстэтычнай чуласцю, уменнем бачыць складаную сувязь паміж жыццём і літаратурным працэсам, «раскаванай», жывой манерай весці зацікаўленую размову з чытачом.

Недахопы старонак аб прозе адваротнага, чым аб паэзіі, характару. Калі там мы бачылі «нястрымны» паток імён, назваў, то тут кола аўтараў, аб творчасці якіх ідзе гаворка, намнога вузейшае. Магчыма, гэта правільна, калі мець на ўвазе, што раздзел напісаны для акадэмічнай «Гісторыі літаратуры» — выдання стабільнага, якое, відаць, не хутка паўторыцца. Але ж атрымаўся кампазіцыйны перакос — маладая паэзія (хоць імёнамі і назвамі твораў) прадстаўлена шырока, а маладая проза — аніяк. Аб тым, што дасягненні ма-

ладых празаікаў не меншыя, чым паэтаў, спрачацца не прыходзіцца.

Тут мы падыходзім да пытання, што такому выданню, як «Гісторыя беларускай літаратуры», хоць ствараў яе калектыў аўтараў, кожны [redacted] якіх можа мець свой эстэтычны густ, схільнасці, трэба мець адзіны погляд на літаратурны працэс, адзіную думку ў ацэнцы ідэйнай і мастацкай вартасці твораў. Гэта ў асноўным дасягнута. У гэтым сэнсе «Гісторыя» — вынік калектыўнай думкі, хоць кожны раздзел мае свайго аўтара.

Усё ж нязгладжаных «швоў», разнабою ў ацэнцы адных і тых жа твораў асталося нямала. Прывяду прыклад. У агульным, аглядным раздзеле верш М. Танка «Гастэла» ацэньваецца як пэўнае дасягненне («Лірызм моцна адчуваецца ў вершах М. Танка, прысвечаных людзям гераічнага подзвігу» («Гастэла»), стар. 20).

У раздзеле манаграфічным, прысвечаным творчасці Максіма Танка, чытаем штосьці адваротнае: «Ёсць у танкаўскай лірыцы ваеннага часу і прыкметныя недахопы. Гэта — галоўным чынам непераадольная рытарычнасць тых вершаў, у якіх паэтычнае пачуццё не можа «прабіцца» праз напластаванні ўзнёслых, урачыстых, але залішне агульных слоў, заклікаў, дэкларацый» (вершы «Над шырокім Дняпром», «Ля кастроў», «Гастэла», «У яркім сузор'і рэспублік свабодных», стар. 375).

У першым томе адносна творчага ўздзеяння на паэзію Аркадзя Куляшова чытаем: «Можна, напрыклад, з усёй упэўненасцю сказаць, што толькі праз вучобу ў Я. Купалы Аркадзь Куляшоў прыйшоў да цыкла вершаў «Юнацкі свет» (1938—1940), дзе выразна пачуўся яго самабытны голас» (стар. 189).

У манаграфічным артыкуле, прысвечаным А. Куляшову, даецца вытрымка з аўтабіяграфіі паэта, дзе ён, прызнаючы пэўную цягу да народнай песні, да паэзіі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Пушкіна і Някрасава, усё-такі зусім інакш вызначае «нараджэнне» сябе як паэта: «Сачу за ўсім, што паяўляецца новага ў савецкай паэзіі... Нарэшце, як адкрыццё, як прасвятленне — «Краіна Муравія» Аляксандра Твардоўскага. Я ніколькі не перабольшу, калі скажу, што як паэт сваім нараджэннем я абавязан іменна гэтаму твору. «Краіна Муравія» не толькі па-новаму адкрыла мне свет народ-

нага жыцця, але і з'явілася штуршком, які вывеў мяне, нарэшце, з творчага тупіка» (стар. 318).

Такія супярэчлівыя ацэнкі можна прыводзіць яшчэ.

Лепшыя з манаграфічных раздзелаў — раздзелы пра Міхася Лынькова, Петруся Броўку, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Янку Брыля. Лепшыя ў сэнсе цэласнасці погляду на творчасць пісьменнікаў, выяўлення іх непаўторнай творчай індывідуальнасці, бо, зрэшты, усе артыкулы прымальныя з пункту гледжання іх зместу і агульнага літаратуразнаўчага ўзроўню. Недахопам разглядаемай часткі «Гісторыі» я лічу не заўсёды разумнае размеркаванне ўвагі паміж галоўным і другарадным у творчасці пісьменніка, імкненне сказаць аб усім, нічога не прапусціць, што прыводзіць да перагружанасці апісальнага, статычнага матэрыялу, які не аналізуецца, а толькі называецца. Па сутнасці, гэта той самы «грэх», які мы бачылі ў аглядных частках пра паэзію.

Аднаму з лепшых «хрэстаматыйных» апавяданняў Міхася Лынькова «Над Бугам», якое вывучалі многія пакаленні моладзі, прысвечана дваццаць два радкі, напаўзабытай «праходной» аповесці «Апошні зверыядавец» — удвая больш. Імкненне да аглядна сці, «нарысавасці» відавочнае, канкрэтны аналіз нярэдка падмяняецца скорагаворкай, пералічэннем тэм, праблем.

Праўда, у нарысе пра Міхася Лынькова значна лепш напісаны старонкі, у якіх гаворка заходзіць пра мастацкі стыль. Тут аўтар выяўляе і добры мастацкі густ, і ўменне зрабіць трапныя, тонкія назіранні. Шкада толькі, што аналіз эстэтычны вядзецца з некаторым адрывам ад тэматыкі і праблематыкі твораў.

Бадай, такая ж карціна ў нарысе пра творчасць Броўкі. Старонка адведзена яго лепшай паэме 30-х гадоў «Праз горы і стэп», столькі ж месца паэме «1914» — мастацка слабейшай.

Дарэчы, як гаварылася ўжо, нарысы пра Лынькова, Броўку — з ліку лепшых. На невялікай плошчы, адведзенай разгляду іх творчасці (сярэдні памер нарыса 35—40 старонак), больш-менш удала зроблены творчыя партрэты. Але тут сустракаецца скорагаворка, залішне «глухі» пералік, асобныя выпадкі эстэтычнай непатрабавальнасці да ілюстрацыйнага матэрыялу, які заклікаы падмацаваць тую ці іншую думку даследчыка.

У артыкуле пра паэзію Пімена Панчанкі ў якасці ілюстрацыі верша, што «напоўнены глыбокім філасофскім роздумам над веліччу подзвіга падлетка», даецца наступнае чатырохрадкоўе:

Тут спалучана ўсё:ярасць грому
і гнеў бліскавіцы
І найлепшыя мары, і сны,
і празрыстасць крыніцы.
Ты, нянавісць, трывожыш агнём
незгасаючым сэрцы,
Ты Тышкевіча Сашу вядзеш
на дарогу бяссмерця.

Ёсць у Панчанкі многа задуменна-філасофскіх вершаў, асветленых сапраўды «глыбокім роздумам», але гэтыя, таксама ўвогуле неблагія, радкі маюць дачыненне хутчэй да грамадзянска-публіцыстычнай, чым да філасофскай лірыкі паэта.

Ёсць некаторыя недакладнасці ў добрым увогуле раздзеле, прысвечаным творчасці Куляшова. Недастаткова акрэслена вызначаны жанр паэмы «Сцяг брыгады» — яна названа паэтычным дзённікам, і на гэтым аўтар артыкула палічыў сваю задачу выкананай. Спасылка на Твардоўскага, які назваў твор «народнай паэмай»,— хутчэй паэтычная ўмоўнасць. Цяжка пагадзіцца са сцверджаннем, што ў паэме «Прыгоды цымбал» А. Куляшову «ўдалося знайсці адпаведныя формы спалучэння казачна-сімвалічных сцэн і эпізодаў з рэалістычнымі, што надало твору характар жанрава-стылістычнай аднароднасці» (стар. 335).

Думаецца, што гэта не так. Не зусім удалося таленавітаму паэту планы рэальны і казачна-фантастычны сплавіць у адно цэлае, яны даволі аўтаномныя ў адносінах адзін да другога, і такая думка даволі пераканаўча даведзена ўсімі папярэднімі крытыкамі. Аўтару варта было даказаць правільнасць свайго тэзіса, а не даваць яму так катэгарычна права грамадзянства.

Я ўвесь час звяртаю ўвагу на недахопы, але хачу агаварыцца, што яны носяць хутчэй прыватны, чым агульны, вызначальны характар.

«Гісторыя» — даследаванне сур'ёзнае, грунтоўнае, і, як кажуць, не хочацца бачыць нават паасобных агрэхаў на добра ўзараным полі.

Няблага напісаны раздзел пра Пімена Панчанку крыху псуе некаторая «алеаграфічнасць», імкненне

навесці на паэта хрэстаматыйны глянец, бачыць яго творчую дарогу роўнай, гладкай, без калдобін. Псуюць газетныя, трафарэтныя фразы, уласцівыя, дарэчы, не толькі гэтаму артыкулу, але і многім іншым («Панчанка патрабуе глыбокага пранікнення ў гістарычны сэнс падзей...», «Паэт змагаецца за тую дзейсную актыўную рамантыку...» і г. д.).

Раздзел пра творчасць Янкі Брыля вызначаецца глыбокай, арыгінальнай думкай, самастойнасцю погляду, добрай мовай. У цэнтр увагі пастаўлена якраз тое, што найлепш характарызуе творчы шлях пісьменніка. Уяўленне пра пошукі і здзяйсненні пісьменніка раздзел дае. Але і тут пра многае сказана «пункцірна», скорагаворкай. Апавяданне «Надпіс на зрубе» толькі названа, пра раман «Птушкі і гнёзды» — чатыры няпоўныя старонкі. Гэта ж, зрэшты, столькі, колькі пішацца ў невялікай рэцэнзіі.

Цікавыя думкі, назіранні знойдзе чытач у раздзелах пра Івана Шамякіна, Івана Мележа. Але творчасць гэтых пісьменнікаў, якія зрабілі ў літаратуры нямала, характарызуецца хутчэй з «агульнага» боку, глыбокага ўяўлення пра іх майстэрства нарысы-манаграфіі ўсё ж не даюць.

Наогул, як здаецца, «празаічныя» раздзелы маглі быць большыя памерам, чым ёсць, гаворка ў іх ідзе пра фундаментальныя з'явы літаратуры, і «нарысавасць», «агляднасць» у гэтай справе — толькі на шкоду.

І яшчэ два папрокі. У навуковым выданні, якім з'яўляецца «Гісторыя», безумоўна, патрэбна асвятленне барацьбы эстэтычных ідэй, поглядаў, каб канцэпцыя гісторыі беларускай савецкай літаратуры праглядвалася «на глыбіню», па меры поспехаў, здзяйсненняў сацыялістычнага рэалізму. Але раздзелаў пра станаўленне крытычнай, літаратуразнаўчай думкі няма, аглядныя і манаграфічныя часткі толькі ў мінімальнай ступені асвятляюць гэтае пытанне.

«Хроніка літаратурнага жыцця», якая займае немалое месца, дае толькі вонкавае, часта нават выпадковае, уяўленне аб працэсах, якія адбываліся ў літаратуры, і не можа замяніць ні раздзелаў пра крытыку і літаратуразнаўства, ні навуковага апарату, які штучна збеднены, бо бясспрэчна, што сам факт стварэння «Гісторыі» — не толькі вынік працы аўтарскага калектыву супрацоўнікаў Інстытута літаратуры АН БССР, а

ўсёй савецкай і ў тым ліку беларускай эстэтычнай думкі.

Недапушчальна ў «акадэмічным» выданні блытаніна наконт часу ўтварэння літаратурных арганізацый, выхаду з іх тых ці іншых пісьменнікаў.

Аўтарскі калектыў другога тома «Гісторыі» ў асноўным справіўся з пачэснай і нялёгкай задачай паказаць сучасную беларускую літаратуру ва ўсім багацці яе пошукаў, здзяйсненняў, творчых індывідуальнасцей, і ў гэтым сэнсе яго можна павіншаваць. Кніга напісана «на вялікім дыханні», на добрым тэатрэтычнамастацкім узроўні.

Гэта ў цэлым жывыя старонкі жывой гісторыі.

*1966*

## СПІРАЛІ МАСТАЦКАГА РОСТУ [1]

Сем гадоў, якія мінулі з часу IV з'езда пісьменнікаў Беларусі,— перыяд вельмі плённы для развіцця беларускай прозы. Плённы па мастацкай вазе кніг, якія прыйшлі да чытача, па яркасці пісьменніцкіх індывідуальнасцей, якія разгарнуліся ў гэты час, нарэшце, на тым рэзанансе, які атрымала наша проза не толькі ў рэспубліцы, а і за яе межамі.

Гэта быў час пошукаў, рэзкіх, часам супрацьлеглых сутыкненняў творчых прынцыпаў, літаратурных спрэчак, нараджэння новых жанраў, плыняў, якія ў літаратуры або не бытавалі зусім, або былі прадстаўлены ў зародкавым выглядзе.

Вядома, поспехі беларускай літаратуры не з неба зваліліся. Яны з'явіліся працягам таго лепшага, што было створана літаратурай у папярэдні перыяд.

Беларуская проза апошніх год развівалася пад сцягам ідэй XX і XXII з'ездаў партыі, адчуваючы на сабе подых тых жыватворных перамен, якімі характарызуецца ўсё наша савецкае жыццё. У літаратуры перамены гэтыя выявіліся перш за ўсё ў тым, што пачалі страчваць вагу творы, у якіх жыццё падавалася спрошчана, прасталінейна, з тэндэнцыяй лакіроўкі, творы, дзе на

[1] Садаклад па прозе на V з'ездзе пісьменнікаў БССР.

першы план выступала тэма, а не яе паўнакроўнае мастацкае ўвасабленне.

Асаблівасцю твораў апошніх гадоў з'яўляецца тое, што іх аўтары імкнуцца да мастацкага даследавання жыцця ў яго самых разнастайных сувязях, не пазбягаюць пытанняў складаных, супярэчлівых. Проза стала больш уважлівай да пытанняў маральных, этычных. Гэта цалкам адпавядае асноўным тэндэнцыям нашага сучаснага жыцця. Сёння, як ніколі раней, паўстае пытанне аб духоўным, маральным абліччы будаўніка камунізма.

Сёння задача пісьменніка, які піша аб сучаснасці, ускладнілася. Пісьменнік, які працаваў у 20-я і 30-я гады, меў перад сабой выразны сацыяльна-класавы канфлікт, які бытаваў у жыцці і які станавіўся асноўнай драматычнай калізіяй мастацкага твора. Жыццё нашага сучасніка не дае матэрыялу з антаганістычнымі, класавымі супярэчнасцямі, але гэта не азначае, што ў сённяшнім жыцці няма канфліктаў, супярэчлівых тэндэнцый, сутыкнення поглядаў. Другая справа, што «дабро» і «зло» ў гэтых канфліктах, супярэчнасцях ляжаць не на процілегла-франтальных лініях, як было, скажам, у 20-я гады, сёння іх так проста, з ходу часам не размяжуеш. Наогул у жыцці рэдка трапляюцца з'явы, якія можна было б безапеляцыйна падвесці пад рубрыку «белых-белых» або «чорных -чорных». Адным словам, канфлікты нашых кніг аб сённяшнім жыцці ўсё болей і болей пераходзяць у сферу маральна-этычную, а гэта вельмі складаная галіна чалавечага жыцця, і прасталінейны падыход да яе часта з'яўляецца прычынай нашых творчых няўдач.

Сённяшні пісьменнік павінен быць на ўзроўні дасягненняў грамадства — палітычных, сацыяльных, інтэлектуальных, маральных. Не трэба гаварыць аб тым, што крыштальна выразнай павінна быць яго ідэйнаграмадская, партыйная пазіцыя. Мы жывём у свеце, дзе сілам сацыялізма, міру, прагрэсу супрацьстаяць сілы імперыялізму, агрэсіі, вайны. Літаратура — галіна ідэалогіі, а наша ідэалагічная зброя заўсёды павінна быць дзейснай. Ідэалогія не ведае мірнага суіснавання.

Бадай, кожны з апошніх сямі гадоў быў ураджайны на прозу. У шарэнгі празаікаў уліліся новыя маладыя сілы, выступілі з празаічнымі творамі некаторыя вядомыя паэты. Яшчэ гадоў дзесяць — дванаццаць на-

зад вядучым жанрам у беларускай літаратуры была паэзія. Цяпер становішча перамянілася — на першым месцы проза. Відаць, гэта зусім нармальны працэс, які характарызуе сталасць літаратуры. «Без прозы няма літаратуры»,— пісаў у свой час Бялінскі.

За гэтыя сем гадоў літаратурнага жыцця мы ўзбагаціліся не толькі колькасна, але і якасна. Змены ў жыцці, якія адбыліся пасля XX з'езда партыі, не маглі не знайсці адпаведнага адлюстравання ў літаратуры. Выраслі самі крытэрыі ідэйна-мастацкай вартасці твораў, узбагацілася ідэйна-мастацкая канцэпцыя жыцця і літаратурнага героя. Прывядзём хоць бы такі прыклад. У пяцідзесятыя гады для некаторых празаікаў і крытыкаў, безумоўна, станоўчым быў герой дзейсны, валявы, рашучы. За гэтыя, бяспрэчна, добрыя якасці характару героя прабачаліся часам некаторыя хібы — грубасць у адносінах да людзей, якія яго акружаюць, ігнараванне калектыўнай думкі. Сёння пры ўсіх намаганнях арэол станоўчасці такому герою надаць немагчыма. Валявых якасцей героя яўна мала, трэба, каб ён яшчэ ўмеў думаць, каб навучыўся паважаць думкі, пачуцці другіх людзей.

Шырокі поспех рамана Івана Шамякіна «Сэрца на далоні» пераканаўча пацвярджае гэтую думку. З нашых празаікаў Шамякін, бадай, найбольш чулы да пытанняў надзённасці. Верны жыццёвай праўдзе, пісьменнік паказвае, што сама наша рэчаіснасць, усё тое новае, што ўвайшло ў яе за апошнія гады, развенчвае кар'ерыстаў, прыстасаванцаў, людзей, якія вышэй за ўсё ставяць асабісты дабрабыт.

Так, вобраз часу прыкметна змяніўся, павысіліся патрабаванні на «чалавечнасць» да героя, якога пісьменнік імкнецца паказаць як станоўчага. У кожнага сапраўднага мастака свая філасофія жыцця, сваім творам ён штосьці сцвярджае або адмаўляе. Многія творы апошняга часу, якой бы тэме ні былі яны прысвечаны, адмаўляюць жорсткасць, бяздушнасць у дачыненні да людзей, палемічна накіраваны супраць тэорыі, паводле якой простыя людзі — «калёсікі» і «вінцікі» жыцця.

Найбольш значнае дасягненне беларускай прозы апошняга часу — раманы Івана Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Прысвечаныя жыццю беларускай вёскі далёкіх дваццатых і пачатку трыцца-

тых гадоў, творы гэтыя тым не меней і гучаць вельмі сучасна. Значнасць буйнога твора вызначаецца перш за ўсё адкрыццём тыпу, характару, бо толькі аб'ёмны, пададзены ў адзінстве асабістага і грамадскага, характар нясе ў сабе вобраз часу, з'яўляецца сапраўдным мастацкім адкрыццём. Добрых кніг, якія па-мастацку ўзнаўляюць свой час, малююць яго непаўторны вобраз, у нас з'явілася нямала. Гэта раманы «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля, «Серадзібор» Піліпа Пестрака, «Партызаны» Алеся Адамовіча, «На парозе будучыні» Міколы Лобана, «Засценак Малінаўка» Аркадзя Чарнышэвіча, «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета» і «Альпійская балада» Васіля Быкава, «Пушчанская адысея» Аляксея Карпюка, «Сустрэчы на ростанях» Аляксея Кулакоўскага, апавяданні і аповесці Міхася Лынькова, Міколы Лупсякова, Алены Васільевіч, Янкі Скрыгана, Рамана Сабаленкі, Івана Пташнікава, Барыса Сачанкі, Міхася Стральцова, Уладзіміра Караткевіча, Вячаслава Адамчыка, Івана Чыгрынава і іншых.

Раманы Мележа, бадай, найлепш выяўляюць тэндэнцыю, якая выразна намецілася ў нашай прозе,— тэндэнцыю да глыбіннага вывучэння жыцця з улікам яго складанай, супярэчлівай плыні, цеснага спалучэння грамадскага і асабістага, сацыяльнага і псіхалагічнага аналізу. Думаецца, што вобразы Васіля і Ганны належаць да ліку ёмістых, паўнакроўных вобразаў нашай літаратуры, такіх, як фадзееўскі Левінсон, фурманаўскі Чапаеў, шолахаўскія Мелехаў, Наталля і Аксіння, Міхал і Антось ■ «Новай зямлі» Якуба Коласа, Міхал Тварыцкі з «Трэцяга пакалення» Кузьмы Чорнага.

Разумная воля такіх людзей, як старшыня райвыканкома Апейка, прадухіляе трагедыю, якая магла здарыцца з Васілём Дзятлікам. Фармальна ён вінаваты: трапіўшы ў рукі да бандытаў, паказаў хату вяскоўвага актывіста. А па-чалавечы, з пазіцый класава-сацыяльных, на якіх цвёрда стаіць Апейка, такіх, як Васіль, караць нельга, іх трэба клапатліва, цярпліва выхоўваць, бо, кажучы словамі Леніна, сацыялізм будуецца не аранжарэйнымі, «чысценькімі» людзьмі, а і тымі таксама, норавы якіх спаганены праклятай прыватнай уласнасцю.

Раман І. Мележа, як і многія іншыя нашы лепшыя кнігі, сведчыць аб тым, што ў нашай прозы нарадзі-

лася зусім натуральнае, зразумелае імкненне прайсці па дарогах, па якіх прайшоў народ у сваім рэвалюцыйным, творчым дзеянні, увасобіць у мастацкіх вобразах этапы станаўлення савецкага грамадства. Раман, у прыватнасці раман сацыяльны, не можа не несці ў сабе подыху гісторыі. Для нараджэння добрага рамана патрэбны вялікія папярэднія дасягненні ўсіх жанраў, бо раман — эпас сучаснасці — як бы з'яўляецца іх сінтэзам.

Аб сталасці беларускай прозы гаворыць кожны добры твор. Раман А. Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка» прысвечаны паказу жыцця беларускай вёскі пачатку стагоддзя, тым парасткам сацыяльнай свядомасці і рэвалюцыйнага пратэсту, які спеў на самым дне беларускага жыцця-быцця.

Раман «На парозе будучыні» Мікола Лобан прысвяціў падзеям імперыялістычнай вайны, Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый на Беларусі.

Падзеям Кастрычніка на Беларусі прысвечаны раман І. Гурскага «Вецер веку», гісторыка-рэвалюцыйныя аповесці У. Мехава.

Вельмі сучасны па гучанню, па канцэпцыі жыцця і літаратурнага героя раман Піліпа Пестрака «Серадзібор». Ён пераносіць нас у атмасферу пасляваеннага жыцця і калгаснага будаўніцтва ў заходніх абласцях Беларусі.

Аб станаўленні новага савецкага жыцця ў заходніх абласцях Беларусі мы маем таксама добрую, цікава напісаную аповесць Алеся Бажко «Позняе ворыва».

Трэба прызнацца, што беларуская проза апошніх гадоў сваёй традыцыйнай тэме — жыццю вёскі — удзяляла мала ўвагі. Твора, які б узняў прынцыпова новую праблему сённяшняй вёскі, стаў падзеяй у літаратурным жыцці, няма ніводнага.

Праўда, з'явіліся добрыя аповесці Івана Шамякіна «Мост» і Івана Пташнікава «Лонва», прысвечаныя падзеям пасляваеннага аднаўлення калгаснага жыцця. Са шчырай грамадзянскай зацікаўленасцю, востра, займальна напісана аповесць Алеся Асіпенкі «Абжыты кут». Цікавая харошым, грунтоўным паказам побыту сённяшняй вёскі аповесць А. Кулакоўскага «Тры зоркі».

Ёсць апавяданні — нават нямала добрых, напісаных з сапраўдным мастацкім густам — цыкл Янкі

Брыля «Пад гоман вогнішча», «Пані старшыніха прыехала» Алены Васілевіч, «Калінішын зяць» Аркадзя Чарнышэвіча; апавяданні Аляксея Кулакоўскага, Івана Пташнікава, Міколы Лупсякова, Міколы Ракітнага, Барыса Сачанкі, Івана Чыгрынава.

Вострыя, надзённыя пытанні жыцця калгаснай вёскі ўзнімае ў сваіх нарысах «Зямныя вузлы» Ігнат Дуброўскі. Ёсць цікавыя нарысы Янкі Сіпакова і Анатоля Клышкі, Веры Палтаран, Аляксея Сінілава, Валянціна Панамарова, Барыса Стральцова, Сцяпана Кухарава. Вось, бадай, і ўсё з таго лепшага, што прысвечана тэме вёскі. Калі б па гэтай літаратуры мы паспрабавалі скласці ўяўленне пра глыбінныя працэсы, якія адбываюцца ў сённяшнім калгасным і саўгасным жыцці, то такога ўяўлення мы не складзём. У поле зроку пісьменнікаў трапляюць асобныя моманты, праявы, выпадкі, але цэласнай карціны, значнага характару літаратура не стварыла.

Імклівa, у індустрыяльным напрамку развіваецца наша краіна! На вачах сучаснікаў мяняюцца геаграфія, сацыяльны склад грамадства! Літаратуры сапраўды цяжка ўгнацца за гэтым «імклівым» днём, за рухомымі, зменлівымі формамі жыцця. Але лёгка нам угнацца ці цяжка, а сапраўдны мастацкі твор нараджаецца толькі тады, калі пісьменнік умее ўсвядоміць новыя тэндэнцыі жыцця, новыя заканамернасці, новае ў псіхіцы свайго героя.

Духоўны рост героя нашай літаратуры пачаўся разам з ростам чалавечай асобы, пашырэннем дыяпазону яе асабістай зацікаўленасці ў жыцці навакольнага свету. У раманах Івана Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» ёсць цікавы герой, вясковы кнігалюб, грамацей Андрэй Руды. Ён нічога не прымае на веру, імкнецца да ўсяго дайсці ўласным розумам. Нараджэнне такога героя заканамернае, бо ў Курані, закінутую палескую вёску, уварваўся вецер веку, тых велізарных сацыяльных перамен, якія адбываюцца ў жыцці.

Існуе прамая сувязь паміж здольнасцю мастака ствараць характары і глыбінёй яго ўласнай думкі, глыбінёй яго адчування навакольнага свету. Інтэлектуальная, эмацыянальная, маральная ўзброенасць героя пры ўмове, што герой гэты жывы, нявыдуманы

чалавек, і ёсць галоўная адзнака ідэйна-мастацкай вартасці твора.

Нашы пісьменнікі ўсё часцей пачынаюць пісаць пра горад, і гэта добра. Ад таго, як наша літаратура, сялянская па светаадчуванню ў мінулым, справіцца з новымі эстэтычнымі пластамі, якія вылучае сучаснае, індустрыяльнае жыццё, у многім залежыць перспектыва яе далейшага развіцця.

Жыццю Мінска прысвячае сваю творчасць Уладзімір Карпаў. Мацнейшы яго першы раман «За годам год». Другі раман — «Вясеннія ліўні», як адзначала крытыка, ствараўся як бы «насустрач» часу. 1957 годам датуецца пачатак пісьменніцкай работы, і ў падзеях гэтага года завязваецца сюжэт твора. На апошніх старонках па некаторых прыкметах пазнаецца 1960 год, і гэтай жа датай адзначана завяршэнне пісьменніцкай работы над раманам.

Тэма горада — не абавязкова завод, рабочы калектыў. Сёння, бадай, кожная кніга, якую мы напісалі ці пішам, не можа, абмінуць тых вялікіх перамен, што адбываюцца ў жыцці. А мы часам нават не заўважаем, што герой нашых кніг — інтэлігент ці чалавек тэхнічнай прафесіі.

Праўда, побач з дасягненнямі ёсць не менш істотныя пралікі. Далёка не ўсе творы даюць падставу для сур'ёзнай гаворкі пра героя нашай сучаснасці, чалавека высокаінтэлектуальнага, з шырокім дыяпазонам запатрабаванняў, думак, пачуццяў. Вельмі часта герой гэты залішне прыземлены, бедны духоўна. Тут узнікаюць цікавыя, на маю думку, акалічнасці. У імкненні намаляваць яркі вобраз, характар мы на літаратурны п'едэстал уздымаем іншы раз героя вельмі сярэдняга, ардынарнага, нашпігоўваем яго ўсялякімі дабрачыннасцямі, а потым здзіўляемся, чаму наш герой не цягне на «станоўчага». А ён проста надломваецца пад цяжарам навешаных на яго добрых якасцей. Гэта першая крайнасць. Другая датычыць няздольнасці некаторых нашых аўтараў вывесці свайго героя з нуднага кола будзённасці, прыземленага апісальніцтва.

З некаторай падставай можна гаварыць аб тым, што фактаграфія, прыземленасць з'яўляюцца пэўнай пагрозай для нашай прозы. «Сярэдні» герой вандруе па старонках многіх кніг. Бытаапісальніцтва — рэч неблагая,

зацікаўленасць побытам — своеасаблівая рэакцыя на схематычныя, ілюстрацыйныя творы папярэдняга перыяду. Але, відаць, трэба адчуваць грань паміж пастацку паказаным бытам і натуралістычным апісальніцтвам.

Сярэднія, а то і проста слабыя творы ў рэцэнзіях іншы раз захвальваюцца. Рэдка выступаюць з рэцэнзіямі старэйшыя, найбольш вопытныя пісьменнікі. Наша проза, якая так бурна і ў цэлым хораша развіваецца, мае вострую патрэбу ў крытычным асэнсаванні шляхоў далейшага развіцця.

У нас, у беларускай прозе, харошы, моцны атрад апавядальнікаў. У нас ёсць майстры апавядання лірычнага, псіхалагічнага, бытавога, майстры навелы, эсэ, эцюда. Новымі цікавымі апавяданнямі парадаваў Янка Брыль, які апрача зборніка «Працяг размовы» выдаў кніжку літаратурных эцюдаў, замалёвак, думак з запісной пісьменніцкай кніжкі — «Жменя сонечных промняў». Для апавяданняў Брыля характэрна арганічнае спалучэнне лірызму і псіхалагізму, адкрытай публіцыстычнай завостранасці і глыбокай мастацкай назіральнасці.

Са зборнікам апавяданняў «За акіянам», прысвечаным барацьбе нядаўніх каланіяльных народаў за сваё вызваленне, норавам буржуазнага свету, выступіў старэйшы наш празаік, зачынальнік беларускага савецкага апавядання Міхась Лынькоў.

Мне хочацца больш падрабязна сказаць пра работу маладзейшых празаікаў, бо ад таго, як яны будуць працаваць у далейшым, у многім залежыць воблік нашай заўтрашняй літаратуры. У Івана Пташнікава, які напісаў раман «Чакай у далёкіх Грынях», добрую аповесць «Лонва», бадай, самым значным дасягненнем з'яўляюцца апавяданні. У апошніх творах пісьменнік загаварыў ад імя свайго пакалення, дзяцінства якога было абпалена вайной, праходзіла ў цяжкіх умовах пасляваеннага вясковага жыцця. Выдатнае апавяданне «Алені» — яно найлепш характарызуе мастацкія дасягненні гэтага вельмі цікавага празаіка. Пташнікаў — пісьменнік вельмі «эмацыянальны», ён умее схапіць, спыніць тысячы цудоўных імгненняў.

Увесь у атмасферы маральна-этычных пошукаў Барыс Сачанка. За апошнія гады выйшлі тры яго зборнікі, у часопісах надрукаваны дзве аповесці. У сваіх пер-

шых апавяданнях Б. Сачанка быў вельмі «біяграфічны». Ён пераважна абапіраўся на ўласны вопыт, на перажытае, адчутае самім. У апавяданні «Дзік-бадзяга», аповесці «Пакуль не развіднела» пісьменнік адыходзіць ад вузкай сцежкі дзіцячых і юнацкіх назіранняў. Усё ж варта сказаць, што, зрабіўшы добры творчы пачатак, Сачанка, як паказваюць яго новыя творы, запыніўся на пэўным перавале. Яму неабходна зрабіць наступны крок — да прозы глыбейшых думак, пачуццяў, да героя багатай духоўнай арганізацыі.

Радуе шчырай паэтычнасцю зборнік Вячаслава Адамчыка «Міг бліскавіцы». Для Адамчыка характэрны харошы псіхалагічны малюнак, дакладнае слова, тонкая настраёвасць. Характарызуе празаіка пільная ўвага да жыцця звычайных, «простых» людзей, да будняў іх побыту. У душы яго герояў штосьці нараджаецца, штосьці памірае, сёння яны лепшыя, чым былі ўчора і пазаўчора.

Але і перад Адамчыкам стаіць задача не меней адказная, чым перад яго таварышамі па пяру, і ён пакуль не дасягнуў вышынь значных сацыяльных абагульненняў, усё яшчэ глядзіць на свет вачамі дзяцінства і юнацтва.

На рахунку Міхася Стральцова, бадай, найбольшыя дасягненні ў сэнсе стварэння вобраза высокаінтэлектуальнага героя, героя «гарадскога» жыцця.

Узор такіх апавяданняў — «Блакітны вецер». У апавяданні «Свет Іванавіч, былы Дон-Жуан» Міхась Стральцоў у плане незласлівай іроніі намаляваў вобраз «прожигателя» жыцця, пустога, нікчэмнага чалавека, які ў свае трыццаць гадоў усё яшчэ толькі збіраецца зрабіць што-небудзь карыснае. Магчыма, пісьменнік пашкадаваў свайго героя, канец апавядання крыху «ружовы» для тых абставін, у якіх герой знаходзіцца.

Пра добрыя творчыя магчымасці аўтара гаворыць зборнік Івана Чыгрынава «Птушкі ляцяць на волю». Дыяпазон пісьменніка даволі шырокі, лепшыя яго апавяданні, такія, як «Бульба», «Па дарозе дамоў», «Праз гады», «Ці бываюць у выраі ластаўкі?», вызначаюцца добрай мовай, псіхалагізмам, увагай да пытанняў грамадскага жыцця.

Аднак проза нашых маладзейшых таварышаў павінна ўзяць новыя мастацкія вяршыні. Героі «тонкіх», «інтэлігентных» адчуванняў, з якімі мы сустракаемся

ў творах маладых, часам недастаткова звязаны з грамадскім, сацыяльным жыццём. Раман «Нельга забыць» Уладзіміра Караткевіча, пісьменніка вельмі таленавітага, пераважна рамантыка па характару таленту, мог бы стаць сур'ёзным здабыткам нашай прозы, калі б аўтар сутыкнуў героя са значнымі грамадскімі праблемамі, а не замкнуў яго жыццё толькі ў сферы інтымна-асабістай.

У. Караткевіч напісаў некалькі гістарычных аповесцей, лепшая з якіх «Сівая легенда», і першую кнігу рамана «Каласы пад сярпом тваім» — пра паўстанне Кастуся Каліноўскага. Надрукаваны толькі часопісны, скарочаны варыянт першай кнігі рамана, таму выносіць канчатковую ацэнку твору, мусіць, зарана. Хочацца пажадаць пісьменніку поспехаў у далейшай рабоце, большай сацыяльнай абгрунтаванасці паводзін герояў, глыбейшага паказу тых сацыяльна-гістарычных сіл, якія дзейнічалі на Беларусі.

Вопыт савецкай літаратуры сведчыць — і гэта ў роўнай меры адносіцца як да старэйшых, так і да маладзейшых пісьменнікаў — што без шырокіх грамадскіх дарог-пуцявін героя сур'ёзнай, «вялікай» прозы ў наш век гераічных здзяйсненняў быць не можа.

Пісаць пра вайну азначае маляваць не толькі чалавечыя характары, якія вельмі выразна праяўляюцца ў абставінах смяртэльнага бою, але — і гэта, мабыць, не меней важна — ствараць непаўторны вобраз часу. Вайна, а тым болей Айчынная вайна, у якой прымаў удзел увесь народ, падпарадкавала сабе ўсе адчуванні, думкі савецкіх людзей, прайшла праз дзяцінства, юнацтва, сталасць — праз усе пакаленні. У Айчынную вайну сутыкнуліся не толькі краіны, арміі, а два светы, дзве ідэалогіі. І сёння ваенная тэма — не толькі гісторыя.

Раманам «Сустрэчы на ростанях» Аляксей Кулакоўскі завяршыў ваенную дылогію. Ім жа напісана аповесць «Твой шлях перад табою» — пра ўдзел славакаў у беларускім партызанскім руху. Дылогію «Партызаны» напісаў Алесь Адамовіч. Да падзей акупацыі, народнага змагання ■ ворагам вярнуўся Уладзімір Карпаў у рамане «Нямігі крывавыя берагі», які, калі меркаваць па некалькіх масавых выданнях, карыстаецца поспехам у чытача. З цікавым раманам «Птушкі і гнёз-

ды», які нясе новы, не асвоены яшчэ літаратурай матэрыял, выступіў Янка Брыль.

«Пушчанскую адысею» надрукаваў Аляксей Карпюк. З цікавым раманам «Выпрабаванне», які прысвечаны першым месяцам Айчыннай вайны, выступіў Мікалай Аляксееў. Ваеннай аповесцю «Былое застаецца ў сэрцы» завяршаецца трылогія Рамана Сабаленкі. Аповесць «Сарочы лес» напісаў Рыгор Няхай. Аповесці, апавяданні пра вайну напісаны Янкам Брылём. Міколам Лупсяковым, Барысам Сачанкам, Іванам Чыгрынавым, Міхасём Стральцовым, Яўгенам Васілёнкам. Дакументальныя аповесці «Руіны страляюць ва ўпор» і «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску» напісаў Іван Новікаў.

Творы, якія ўзнікалі па гарачых слядах ваенных падзей або ў першае дзесяцігоддзе, як бы мелі на мэце паказаць перш за ўсё гераічны бок вайны, мужнасць, стойкасць, вышыню подзвігу савецкага чалавека. Лепшыя з гэтых твораў (раманы Міхася Лынькова «Векапомныя дні», Івана Шамякіна «Глыбокая плынь», Міколы Ткачова «Згуртаванасць» «Братэрства» і «Рэха ў гарах» Т. Хадкевіча) вытрымалі праверку часам.

Творы, якія нарадзіліся ў апошні час, большую ўвагу скіроўваюць на паводзіны, духоўны свет радавога, звычайнага ўдзельніка вайны, на той, часам непрыкметны, будзённы бок вайны, без якога самая гераічная армія не выйграе ніводнай баталіі. Больш гуманістычны пафас апошніх твораў пра вайну. Але так ці інакш, калі мы пішам пра вайну, то мы павінны раскрываць героіку яе ўдзельнікаў. У гэтым сэнсе няма разарванага ланцуга паміж творамі, якія напісаны ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, і кнігамі апошніх гадоў. Пільная цікавасць апошніх ваенных твораў да лёсу звычайных, радавых людзей не азначае, што творы гэтыя выракаюцца тэмы высокага, гераічнага.

Ярка, са шчырым лірычным пачуццём і глыбокім псіхалагізмам напісаны раман Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды». У цэнтры гэтага твора, які нагадвае паэтычную споведзь, Алесь Руневіч, хлопец з заходнебеларускай вёскі, які трапіў праз ліхалецце вайны ў нямецкі палон. У сваім рамане Янка Брыль паказвае аблічча «звычайнага» фашызму, асабліва небяспечнага, бо ён аблытвае павучынай сеткай тысячы і тысячы звычайных, «мірных абывацеляў».

Раман Янкі Брыля — сведчанне высокай мастацкай культуры пісьменніка. Пабудаваны ён своеасабліва: былое суседнічае з цяперашнім, развага, палёт думкі — з яркімі, эмацыянальна выпісанымі эпізодамі і карцінамі.

Дылогія Алеся Адамовіча «Партызаны», асабліва яе першая кніга — «Вайна пад стрэхамі», з'явілася пэўным адкрыццём у нашай прозе. Сапраўды, ніхто да Адамовіча гэтак поўна не паказаў таго багатага напалу страсцей, драматызму, нябачнай на першы погляд барацьбы супраць фашызму, якая ішла пад знешне мірнымі стрэхамі звычайнага беларускага пасёлка. Раман Адамовіча вызначаецца добрай псіхалагічнай культурай, аўтар умее маляваць быт, шматгалоссе жыцця.

«Пушчанская адысея» Аляксея Карпюка — шчыры, паэтычны твор, праўдзівы і пераканаўчы. У ім няма буйных характараў, выключаючы хіба вобраз гапалоўнага героя Аляксея Кучынскага, але карціны падпольнай і партызанскай барацьбы напісаны рукой сталага, вопытнага майстра.

Цікавы раман «Вогненны азімут», прысвечаны першаму этапу партызанскай вайны, напісаў Алесь Асіпенка.

Шырокую вядомасць сваімі ваеннымі аповесцямі заслужыў Васіль Быкаў. Мне найбольш падабаюцца аповесці Быкава «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета» і «Альпійская балада».

Васіль Быкаў піша суровую, цяжкую праўду аб Айчыннай вайне, і праліці яго апошняй аповесці «Мёртвым не баліць», на маю думку, выкліканы перш за ўсё прычынамі мастацкага характару. У гэтай значнай па памеру аповесці — канфлікт лакальны, на абраным пісьменнікам пятачку зямлі ды і на працягу вельмі кароткага часу цяжка даць паўнакроўнае жыццё ўсім героям.

Добра — і не без дапамогі пісьменнікаў — развівалася мемуарная літаратура. Выйшлі партызанскія ўспаміны Мачульскага, Вятрова, Лабанка, Калініна, Ваупшасава, Раманава, Цябута. Гэтую работу трэба працягваць.

Завяршаючы кароткую «аглядную» размову пра развіццё беларускай прозы апошніх сямі год, хочацца сказаць пра вызначальную рысу гэтага развіцця — пра

яе няўхільны, паступальны, ідэйна-мастацкі рост. Проза стала багацейшая ў жанравых адносінах, глыбейшая па сіле пранікнення ў складаныя, супярэчлівыя з'явы жыцця, больш сталая ў сэнсе агульнай творчай культуры. І — думаецца — памыляецца Уладзімір Карпаў, які ў артыкуле «Позірк назад» («Полымя», 1966, № 3) ставіць пад сумненне ідэйна-мастацкія набыткі прозы апошніх год, пэўным чынам арыентуючы пісьменніка і чытача на творы папярэдняга перыяду, а калі ўдумацца глыбей — на творы, дзе дамінуе тэма, а не яе мастацкае ўвасабленне.

Літаратура выхоўвае, кліча да пэўных ідэалаў, і трэба, каб гэтыя ідэалы былі высокімі, чыстымі, вартымі савецкага чалавека. Але высокія ідэалы толькі тады крануць сэрца чытача, стануць яго ўласным набыткам, калі яны вынашаны ў сэрцы пісьменніка, сталі яго крывёю і плоццю, калі сам мастак верыць у тое, аб чым піша ў сваіх творах.

Рашэнні XXIII з'езда партыі, набліжэнне 50-годдзя Кастрычніка натхняюць кожнага пісьменніка сказаць сваё важкае слова «аб часе і аб сабе».

*1966*

# ЯГО ГАЛОЎНАЯ ЛЮБОЎ

Так здарылася, што мне не прыйшлося слухаць лекцыі Міхася Рыгоравіча Ларчанкі, хоць вучыўся я ва універсітэце ў пасляваенныя гады, у той якраз час, калі ледзь не ўсе курсы беларускай літаратуры — ад старажытнай да сучаснай — чытаў менавіта ён.

Першая сустрэча і размова адбылася на выпускным вечары. Да гэтага я, вядома, чуў пра Міхася Рыгоравіча. У пасляваенныя гады ён быў вельмі актыўным крытыкам, пісаў і пра сучасныя творы, і пра даўно мінулыя, гістарычныя старонкі нашай літаратуры. Рэдкі нумар часопісаў «Полымя», «Беларусь», газеты «Літаратура і мастацтва» абыходзіўся ў тыя гады без артыкулаў Ларчанкі. Пісалі і пра яго — крытыкавалі за грахі паблажлівай ацэнкі некаторых літаратурных з'яў.

Быў канец чэрвеня пяцідзесятага года. Студэнцкі Мінск на нейкі час угаманіўся, уціхаміраўся. Стацыя-

нарнікі раз'ехаліся на канікулы, завочнікі на заняткі яшчэ не прыехалі. Мы, завочнікі-выпускнікі першага пасляваеннага набору, што толькі-толькі атрымалі дыпломы, наважылі наладзіць таварыскую вячэру. За час двухмесячных экзаменаў мы парадкам выдаткаваліся, грашовыя рэсурсы былі на зыходзе, таму на сціплы пачастунак у залу дыетычнай сталовай запрасілі толькі найбольш паважаных выкладчыкаў. Сярод запрошаных быў і Міхась Рыгоравіч.

Кажуць, што першыя ўражанні найболей моцныя, доўга трымаюцца. Міхася Рыгоравіча такім, як ён ёсць, я ўбачыў, запомніў менавіта тады, на тым вечары, і першае ўражанне аказалася вельмі трывалым, яго не пахіснулі ледзь не два дзесяткі наступных гадоў.

У залу зайшоў мажны, але рухавы чалавек з маладой чорнай шавялюрай, прынёс з сабой весялосць, таварыскую добразычлівасць да ўсіх, хто там быў, здзівіў непадробленай, натуральнай прастатой абыходжання. Ён быў добры да нас усіх, зычыў усім нам поспехаў на жыццёвых сцяжынках — пра гэта сведчылі выраз яго твару, бляск вачэй, словы, якія ён гаварыў, уся яго моцная, поўная здароўя і жыцця постаць.

Праз многія гады я нязменна заўважаў у ім гэтую рысу — быць добрым, уважлівым да людзей, рысу, што ні ў якой меры не нагадвала абыходлівую выкшталцаванасць дыпламата, а была прыроджанай якасцю душы, ішла ад натуры. Ён займаў і займае адміністрацыйныя пасады — доўгі час быў дэканам філалагічнага факультэта, загадвае кафедрай беларускай літаратуры, і мне хочацца сказаць, што з ім лёгка, добра працаваць. Ён валодае шчаслівай здольнасцю не паказваць нават намёку адміністрацыйнай улады над тымі, хто службова яму падначальваецца. Я бачыў яго ўзбуджаным, нават злосным, але ніколі не чуў, каб ён зняважыў, пакрыўдзіў каго-небудзь неасцярожным, несправядлівым словам. Выдатная якасць прыроджанага разумнага педагога, якой нам падчас так не хапае...

Хутка сорак гадоў ён чытае студэнтам лекцыі, прымае экзамены, піша кнігі, падручнікі, артыкулы, выступае з дакладамі, кіруе дысертацыйнымі работамі.

Многія пакаленні сённяшніх настаўнікаў, журналістаў, савецкіх, партыйных работнікаў ва ўсіх кутках Беларусі мелі сваім настаўнікам Ларчанку, у мінулым сялянскага хлопца з магілёўскай вёскі, які сам у кан-

цы дваццатых гадоў прыехаў у Мінск па навуку, маючы ў зрэбнай торбе за плячамі бохан хлеба, а ў кішэні — тры рублі грошай. Сённяшні прафесар, доктар філалагічных навук, вядомы літаратар выйшаў з самых нізоў беларускага жыцця-быцця, з беднай, мнагадзетнай сялянскай сям'і, і, можа, таму ён такі спагадлівы, уважлівы да ўсіх тых, хто цягнецца да навукі.

Наўрад ці я перабольшу, калі скажу, што добрая палавіна цяперашніх беларускіх вучоных-літаратуразнаўцаў у той ці іншай меры абавязана Ларчанку, бо ён або кіраваў іх навуковай работай, або вучыў іх ва універсітэце, або падтрымаў як апанент. Здольных да навукі ці літаратурнай творчасці людзей ён заўважаў нязменна, горача іх падтрымліваў. У яго, як кажуць, зоркае вока на людзей апанаваных прагай уласнай творчасці. А як гэта важна — падбадзёрыць на пачатку дарогі маладога паэта ці крытыка, які яшчэ не адважыцца несці свой першы твор у рэдакцыю і асмеліўся паказаць яго адзінаму ў свеце чалавеку — свайму настаўніку!

За дваццаць з лішкам гадоў пасляваеннага мірнага жыцця філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Леніна даў буйны засеў у беларускай літаратуры. Ніякая другая вышэйшая навучальная ўстанова рэспублікі не можа ▪ ім у гэтым сэнсе параўнацца. Можна нават сказаць, што філфак БДУ — наш беларускі літаратурны інстытут, кузня творчых літаратурных кадраў. І калі ўжо гаварыць такімі высокімі словамі, то трэба сказаць, што галоўным кавалём у гэтай кузні з'яўляецца Міхась Рыгоравіч Ларчанка.

Літаратура — галоўная любоў яго жыцця. Нямала сіл, намаганняў прыклаў ён, каб аднавіць несправядліва забытыя імёны, старонкі гісторыі беларускай літаратуры. І не заўсёды яго захады сустракалі разуменне, удзячнасць. Нярэдка здаралася якраз наадварот.

Яму споўнілася шэсцьдзесят гадоў. Век сталасці, мудрасці. Па-ранейшаму ў студэнцкія аўдыторыі прыносіць ён добразычлівасць, упэўнены спакой, сее ў маладых душах разумнае, вечнае. Здадзена ў выдавецтва новая кніга, пішацца новы артыкул, на філалагічным факультэце намячаецца навуковая канферэнцыя, і можна быць пэўным: Ларчанка на ёй выступіць.

*1967*

# СВЯТЛО ЧАЛАВЕКА

У маладосці свае правы, свой пагляд на свет. Ёй уласціва шукаць бездакорныя аўтарытэты. Для маёй маладосці — у перадваенныя, ваенныя і пасляваенныя гады — такім аўтарытэтам быў Максім Горкі.

Мне хочацца сказаць, што для пакалення юнакоў і дзяўчат, грамадзянская сталасць якога супала з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны, былі ўвогуле ўласцівы рамантычныя адносіны да жыцця. Яно свядома шукала жыццёвых подзвігаў. Творчасць Максіма Горкага была духоўна блізкай гэтаму пакаленню, выхаванаму на высокіх ідэалах служэння грамадству.

Да вайны я чытаў вельмі многа, пазнаёміўшыся да шаснаццаці гадоў бадай з усімі асноўнымі творамі рускай, беларускай і зарубежнай класікі. У Васілевічах, дзе я нарадзіўся і вырас, было чатыры бібліятэкі — раённая, школьная, Лесбелаўская (была такая арганізацыя «Лесбел») і аўташкольная, якая дасталася курсам шафёраў лясной прамысловасці ад былога лясного тэхнікума. Ва ўсіх гэтых бібліятэках я быў запісан, актыўна, па два-тры разы ў тыдзень браў у іх кнігі.

Апавяданні Горкага «Мальва», «Аднойчы восенню», «На Інгуле» зачаравалі яшчэ ў дзяцінстве. З іх старонак паўставаў шматфарбны, багаты пачуццямі, высокімі парываннямі свет, які вабіў, узрушваў. З захапленнем прачытаў я таксама аўтабіяграфічную трылогію Горкага — «Дзяцінства», «У людзях», «Мае універсітэты».

Перад вайной Беларускае дзяржаўнае выдавецтва выпусціла дваццацічатырохтомны збор твораў Максіма Горкага ў перакладах вядомых беларускіх пісьменнікаў. Калі ў сорак першым годзе ў мястэчка прыйшлі фашысты, мы, група хлопцаў-школьнікаў, кінуліся ратаваць бібліятэкі. Кнігі насілі мяшкамі, вазілі на тачках. У ліку другіх, на маю думку найбольш каштоўных кніг, я прынёс дамоў шматтомнік — беларускі збор твораў Горкага — і схаваў у хляве.

Можна сказаць, што «ратаванне» кніг было як бы пачаткам патрыятычнай работы. Пазней мы, дружбакі-школяры, удзельнічалі і ў больш небяспечных справах, выконвалі партызанскія заданні, але свяцілі нам не толькі гэтыя справы, а і кнігі, якія натхнялі на іх.

Сорак першы, сорак другі ў маім, тады яшчэ вель-

мі маладым жыцці былі надзвычай цяжкай парой. У Савецкую краіну, граніцы якой мы, моладзь, лічылі недатыкальнымі, непрыступнымі, прыйшлі фашысты, устанавілі свае парадкі, пляваць яны хацелі на тое, што мы выхоўваліся на Горкім, на яго высокім, вялікасным разуменні месца і ролі Чалавека ў жыцці.

У тыя акупацыйныя месяцы я чытаў мала і пераважна аднаго Горкага. Шукаў у яго адказу на балючае пытанне. «Гарадок Акураў», «Жыццё Кліма Самгіна», «Жыццё Мацвея Кажамякіна» — кнігі, якія я тады найбольш палюбіў. Горкі ўмеў паказваць не толькі высокія ўзлёты, але і падзенні чалавека, і гэта для мяне вытлумачвала многае з навакольнай рэчаіснасці, прынесенай фашыстамі. Горкі паказаў Расію, якая думала, шукала, пакутавала, спрачалася, якая ў рэвалюцыі знайшла адзінае выйсце са сваіх бядот і нягод, і гэта давала грунт веры ў нашу перамогу над фашызмам.

У Германіі, куды мне пазней давялося прыйсці салдатам, мяне асабіста зацікавіла пытанне: што чыталі самі немцы, што было іх духоўным хлебам? Калі надаралася магчымасць, я праглядваў у апусцелых ці разбітых дамах кнігі дамашніх бібліятэк. Амаль у кожнай з іх былі фаліянты фашысцкіх пракрокаў, але побач з імі і кнігі, якія мы таксама чыталі,— Гётэ, Шылер, Лесінг. Якое ж было здзіўленне, калі ў адной з такіх бібліятэк я знайшоў «Уваскрэсенне» Талстога, у другой — томік вершаў Пушкіна і побач з ім кнігу Горкага. На першым часе я нават не паверыў вачам. Кніга называлася «Drei Männer», і я не адразу зразумеў, што гэта нямецкі пераклад горкаўскай аповесці «Трое».

Зацікаўлены такой акалічнасцю, я ў кожным новым горадзе працягваў свае вышукі. Часта трапляўся Дастаеўскі. Але вось зноў я знайшоў вялікі том Леніна з партрэтам правадыра на супервокладцы, кнігу артыкулаў аб сацыялістычных здзяйсненнях у нашай краіне, некалькі кніг Горкага. Гэта былі рэдкія — нібы астраўкі ў моры — кнігі, але яны ўсё-такі былі, наводзілі думку на пэўны роздум.

Ленін, Горкі жылі, такім чынам, і ва ўмовах фашысцкага тэрору ў Германіі і, відаць, падымалі на супраціўленне фашызму немцаў-падпольшчыкаў, байцоў інтэрнацыянальнага фронту.

*1967*

# АДНО АПАВЯДАННЕ

Імя Максіма Гарэцкага толькі ў апошнія гады становіцца вядомым шырокаму чытачу. Пасля надрукавання раманаў «Віленскія камунары» і аўтабіяграфічнай аповесці «Камароўская хроніка» мы як бы нанава адкрылі для сябе гэтага надзвычай цікавага і арыгінальнага мастака слова. А між тым, Максім Гарэцкі быў у ліку пісьменнікаў, якія закладвалі першыя цагліны ў падмурак беларускай прозы. Пра адно з апавяданняў Гарэцкага — «Літоўскі хутарок», якое было напісана ў 1915 годзе, у той час, калі пісьменнік знаходзіўся на руска-германскім фронце, мне і хочацца сказаць некалькі слоў.

Дарэвалюцыйнае беларускае апавяданне, прадстаўленае імёнамі Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкага), Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, было не надта разнастайным у жанравых адносінах. Псіхалагізм, глыбокае, шматбаковае бачанне жыцця толькі-толькі прабівалі ў ім сабе дарогу. Таму — скажу шчыра — я быў здзіўлены, калі некалькі гадоў назад прачытаў «Літоўскі хутарок» Максіма Гарэцкага. Па ўзроўню творчай культуры гэтае апавяданне можна было параўнаць хіба толькі з лепшым, што стварыў да рэвалюцыі ў прозе Якуб Колас — з яго апавяданнямі «Нёманаў дар» і «Малады дубок».

Гаворка ў творы Гарэцкага ідзе пра звычайную сядзібу Яна Шымкунаса, размешчаную недзе паблізу прускай граніцы, пра яе жыхароў — самога гаспадара Яна, ягоную жонку Даміцэлю, дачок Ядвісю і Монцю, а таксама салдат рускай арміі Ярмашчука і Дудзіка, феерверкера Сініцу, што сталі сваімі людзьмі на гэтым адзінокім хутары.

Спачатку хутарок знаходзіўся па гэты бок фронту, у межах баявых дзеянняў рускай арміі, потым прыйшлі салдаты кайзера Вільгельма, затым зноў вярнуліся рускія. Вайна парушыла мірны жыццёвы клопат жыхароў хутарка, прынесла ім незлічоныя пакуты. Пра ўсё гэта пісьменнік расказаў з такой чалавечай увагай да іх жыцця, побыту, з такім вялікім болем, спагадай да пакут простых людзей. І разам з тым у апавяданні няма ніякіх знешніх эфектаў, эмацыянальных «выбухаў». Усё ў ім проста, будзённа, звычайна. Але ж расказаць так — значыць валодаць найвышэйшым май-

стэрствам, быць рэалістам, псіхолагам у самым высокім значэнні гэтых слоў. Вось, скажам, сціслыя і па-мастацку ёмістыя партрэты дачок Яна Шымкунаса: «Чорненькая Ядвіся не была так прыгожа, як большая Монця, але яе бойкія, вясёлыя чорненькія вочкі, чырвона-смугленькія з ямачкамі шчочкі, дзяціна-капрызны са смяшком склад вуснаў, маладыя круглыя ручкі, гібкасць і крутасць паланялі салдатаў, не ведаўшых, чым і як ёй дагадзіць.

Беленькая Монця мела больш строгую красу і была сур'ёзней і неяк задумней. Гэта быў тып літвінкі. Прадаўгаваты тварык з шэрымі, сумнымі, удаўжонага разрэзу вачамі; круглы, але правільны нос; рот з рысамі, лёгка даючымі пакорліва-сумную ўсмешку; роўныя зубы, доўгая, багатая, белакурая з завіточкамі каса.

Не кожны салдат рашаўся жартаваць з Монцяю».

Вось гэтую багатую «прадметнасць», «рэчавасць» бачання жыцця, высокую рэалістычную, псіхалагічную культуру і нёс у беларускую прозу Максім Гарэцкі, пісьменнік надзвычай таленавіты і глыбокі.

*1968*

# ГЕРОЯ СУЧАСНАСЦІ — НА ПОЎНЫ РОСТ

Сем гадоў, якія мінулі з часу IV з'езда пісьменнікаў Беларусі,— перыяд, багаты літаратурным жыццём. Па мастацкай вазе кніг, якія выйшлі да чытача, па яркасці творчых пісьменніцкіх індывідуальнасцей, якія разгарнуліся ў гэты час, нарэшце, па тым рэзанансе, які атрымала наша проза не толькі ў рэспубліцы, а і за яе межамі — у чытача ўсесаюзнага, апошняе сямігоддзе надзвычай плённае ў развіцці беларускай савецкай літаратуры.

Асаблівасцю твораў апошніх гадоў з'яўляецца тое, што іх аўтары імкнуцца да мастацкага даследавання жыцця ў яго самых разнастайных сувязях, не пазбягаюць пытанняў складаных, супярэчлівых. Проза стала больш уважлівая да пытанняў маральных, этычных. Гэта цалкам адпавядае асноўным тэндэнцыям на-

шага сучаснага жыцця. Сёння, як ніколі раней, паўстае пытанне аб духоўным, маральным вобліку будаўніка камунізма.

За амаль пяцьдзесят гадоў савецкага жыцця непараўнана вырасла чалавечая асоба. Выраслі яе матэрыяльныя, духоўныя запатрабаванні, адносіны да жыцця, этычныя, эстэтычныя ўяўленні. Высокаадукаваны чытач, на якога мы павінны раўняцца, кнігу павярхоўную, прымітыўную па думцы, па мастацкаму ўвасабленню тэмы чытаць не будзе.

Змены ў жыцці, якія адбыліся пасля XX з'езда партыі, глыбінныя працэсы далейшай дэмакратызацыі асноў савецкага жыцця не маглі не знайсці адпаведнага адлюстравання ў літаратуры. Выраслі самі крытэрыі ідэйна-мастацкай вартасці твораў, узбагацілася ідэйна-мастацкая канцэпцыя жыцця і літаратурнага героя.

Шырокі поспех рамана Івана Шамякіна «Сэрца на далоні» пераканаўча пацвярджае гэту думку. З нашых празаікаў Шамякін, бадай, найбольш чулы да вострых пытанняў надзённасці, ён валодае шчаслівай здольнасцю ўлавіць, увасобіць у мастацкі вобраз тое, што яшчэ толькі носіцца ў паветры, наспявае ў жыцці. Верны жыццёвай праўдзе, пісьменнік паказвае, як сама наша рэчаіснасць, усё тое новае, што наспявае ў жыцці, развенчвае кар'ерыстаў, прыстасаванцаў, людзей, якія вышэй за ўсё ставяць асабісты дабрабыт.

Найбольш значнае дасягненне беларускай прозы апошняга часу — раманы Івана Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Прысвечаныя жыццю беларускай вёскі далёкіх дваццатых і пачатку трыццатых гадоў, творы гэтыя тым не менш гучаць вельмі сучасна, бо яны закранаюць інтарэсы, думкі, пачуцці сучаснікаў, актыўна, па лініі галоўных пытанняў жыцця, перагукаюцца з нашымі днямі. Раманы Івана Мележа, бадай, найлепш выражаюць тэндэнцыю, якая намецілася ў нашай прозе, тэндэнцыю да глыбіннага вывучэння жыцця з улікам яго складанай плыні, цеснага спалучэння грамадскага і асабістага, сацыяльнага і псіхалагічнага аналізу. Думаецца, што вобразы Васіля і Ганны належаць да ліку манументальных, запамінальных вобразаў нашай літаратуры.

Добрых кніг, якія па-мастацку ўзнаўляюць свой час, малююць яго непаўторны вобраз, паявілася няма- ла. Гэта раманы Янкі Брыля «Птушкі і гнезды», Піліпа

Пестрака «Серадзібор», Алеся Адамовіча «Партызаны», Міколы Лобана «На парозе будучыні», Аркадзя Чарнышэвіча «Засценак Малінаўка», Алеся Кулакоўскага «Сустрэчы на ростанях», апавяданні і аповесці Міхася Лынькова, Міколы Лупсякова, Алены Васілевіч, Янкі Скрыгана, Рамана Сабаленкі, Алеся Асіпенкі, Івана Пташнікава, Алеся Бажко, Міхася Стральцова, Уладзіміра Караткевіча, Вячаслава Адамчыка, Івана Чыгрынава і некаторых іншых. Вострыя, надзённыя пытанні жыцця калгаснай вёскі ўзнімае ў сваіх нарысах «Зямныя вузлы» Ігнат Дуброўскі. Цікавыя аповесці, прысвечаныя жыццю вёскі,— Івана Шамякіна «Мост», Алеся Асіпенкі «Абжыты кут», Івана Пташнікава «Лонва».

Існуе прамая сувязь паміж здольнасцю мастака ствараць тыповыя характары і глыбінёй яго думкі, адчуваннем навакольнага свету. Інтэлектуальная, эмацыянальная, маральная ўзброенасць героя пры ўмове, што герой гэты жывы, не выдуманы чалавек, і ёсць галоўная адзнака ідэйна-мастацкай вартасці твора.

Наша літаратура ўсё часцей пачынае пісаць пра горад, і гэта добра. Ад таго, як наша літаратура, сялянская па светаадчуванню ў мінулым, справіцца з новымі эстэтычнымі пластамі, якія вылучае жыццё сучаснае, індустрыяльнае, у многім залежыць перспектыва яе далейшага развіцця.

Жыццю Мінска, які расце на нашых вачах, прысвячае сваю творчасць Уладзімір Карпаў. Ім напісаны раманы «За годам год» і «Вясеннія ліўні». Тэма горада — не абавязкова завод, рабочы калектыў. Сёння, бадай, кожная кніга, якую мы напісалі ці пішам, не можа абмінуць тых вялікіх перамен, што ў рэшце рэшт звязаны з масай тэхнікі, якая ёсць усюды, з прафесіямі ўрача, настаўніка, інжынера, механізатара, студэнта і да т. п.

Возьмем трылогію Рамана Сабаленкі «Іду ў жыццё», яго аповесць «Незамужняя ўдава», аповесць Яўгена Васілёнка «Таццяна Ларына», Алеся Адамовіча «Вікторыя», раман Алеся Савіцкага «Жанчына» і яго аповесць «Пасля паводкі», аповесці «З табою побач» М. Паслядовіча і «Над намі мільён вышыні» А. Алешкі, аповесці Лідзіі Арабей «Экзамен» і «Ларыса», «Салігорскія эцюды» і «Расце мята пад акном» А. Кулакоўскага, каб пераканацца ў тым, што наша проза пай-

шла ў шырокае наступленне за эстэтычнае асваенне новых пластоў жыцця.

Праўда, побач з дасягненнямі ёсць істотныя пралікі. Вельмі часта герой мастацкага твора залішне прыземлены, бедны духоўна. У імкненні намаляваць яркі вобраз, характар мы на літаратурны п'едэстал падымаем іншы раз героя вельмі сярэдняга, ардынарнага, «нашпігоўваем» яго ўсялякімі дабрачыннасцямі, а потым здзіўляемся, чаму герой не цягне «на станоўчага». Другая крайнасць датычыць нядольнасці некаторых нашых таварышаў вывесці свайго героя з нуднага кола будзённасці, бытавізму, прыземленага апісальніцтва.

У беларускай прозе харошы, моцны атрад апавядальнікаў. Ёсць майстры апавядання лірычнага, псіхалагічнага, бытавога, майстры навелы, эцюда. Новымі, цікавымі апавяданнямі парадаваў Янка Брыль, які апрача зборніка «Размова па шчырасці» выдаў кніжку літаратурных эцюдаў — «Жменя сонечных промняў»». Са зборнікам «За акіянам» выступіў Міхась Лынькоў. Новыя цікавыя творы на рахунку іншых выпрабаваных майстроў апавядання. Зборнікі апавяданняў выпусцілі Яўген Васілёнак, Мікола Ракітны, Мікола Ткачоў, Піліп Пестрак, Павел Кавалёў, Алесь Пальчэўскі, Міхась Даніленка, Тарас Хадкевіч, Алесь Савіцкі. Праблематыка апавяданняў — пераважна маральна-этычная.

Пісаць пра вайну азначае маляваць не толькі чалавечыя характары, якія вельмі выразна праяўляюцца ў абставінах смяротнага бою, але — і гэта, мабыць, не менш важна — ствараць непаўторны вобраз часу. Вайна, а тым больш вайна Айчынная,— падзея, у якой прымаў удзел увесь народ, яна падпарадкавала сабе ўсе адчуванні, думкі савецкіх людзей, прайшла праз дзяцінства, юнацтва, сталасць — праз усе пакаленні. У Айчынную вайну сутыкнуліся не толькі краіны, арміі, а два светы, дзве ідэалогіі. І сёння ваенная тэма — не толькі гісторыя.

Невычэрпная для нашай прозы паласа жыцця, пройдзеная народам у Вялікую Айчынную вайну. Раманам «Сустрэчы на ростанях» Аляксей Кулакоўскі закончыў ваенную дылогію. Дылогію «Партызаны» напісаў Алесь Адамовіч. Да падзей акупацыі, народнага змагання з ворагам вярнуўся Уладзімір Карпаў

у рамане «Нямігі крывавыя берагі». З цікавым раманам «Птушкі і гнёзды», які нясе новы, не асвоены яшчэ літаратурай матэрыял, выступіў Янка Брыль. Пяць ваенных аповесцей напісана Васілём Быкавым. «Пушчанскую адысею» надрукаваў Аляксей Карпюк. З цікавым раманам «Испытание» выступіў Мікалай Аляксееў. Ваеннай аповесцю «Былое застаецца ў сэрцы» завяршаецца трылогія Рамана Сабаленкі. Цікавым партызанскім раманам «Вогненны азімут» дэбютаваў Алесь Асіпенка. Аповесць «Сарочы лес» напісаў Рыгор Няхай, раман «Дубовая града» — Уладзімір Федасеенка. Дакументальныя аповесці «Руіны страляюць ва ўпор» і «Дарогі скрыжаваліся ў Мінску» напісаў Іван Новікаў.

Пільная цікавасць аўтараў ваенных твораў апошняга часу да лёсу звычайных радавых людзей не азначае, што творы гэтыя выракаюцца тэмы высокага, гераічнага. Толькі тая героіка сапраўды глыбокая, усенародная, калі яна ўзнімае на барацьбу народныя масы, закранае іх думкі, пачуцці. Праўда, не заўсёды пісьменнікам удаецца вырашыць гэту тэму лепшым чынам. Акцэнты ў апошняй аповесці «Мёртвым не баліць» В. Быкава, напрыклад, расстаўлены так, што страчваецца адчуванне часу — цяжка ўявіць, што гутарка ідзе пра перамаганосны сорак чацвёрты год. Атрымалася, што асноўны канфлікт у мінулай вайне пададзен як сутыкненне сапраўдных мужных воінаў, якім з'яўляецца Васілевіч, з прыстасаванцамі і шкурнікамі накшталт капітана Сахно. Слабым месцам у аповесці з'яўляюцца карціны сённяшняга жыцця.

Адзначаючы недахопы апошняга твора Васіля Быкава, хочацца разам з тым падкрэсліць, што ў асобе гэтага пісьменніка мы маем таленавітага мастака, які яшчэ парадуе нас новымі добрымі творамі.

Рашэнні XXIII з'езда партыі, набліжэнне 50-годдзя Кастрычніка натхняюць кожнага пісьменніка сказаць сваё важкае слова «аб часе і аб сабе». Чытач чакае ад нас, савецкіх пісьменнікаў, кніг, якія на поўную мастацкую сілу адлюстравалі б веліч гераічнай эпохі будаўніцтва камунізма, на поўны рост паказалі героя нашай сучаснасці.

*1966*

# ДНІ, ЯКІЯ НАДОЎГА ЗАПОМНІЛІСЯ

У першыя пасляваенныя гады ў рэдакцыях раённых, абласных газет працавала мноства новых людзей з вельмі небагатым журналісцкім вопытам. Гэта былі ўчарашнія партызаны, франтавікі, даваенныя селькоры. Вучыцца пісаць ім трэба было надзвычай аператыўна, бо газеты матэрыялу патрабавалі шмат. Для маладога журналіста раённай, абласной газеты аўтарытэт рэспубліканскай «Звязды» быў бездакорны. Атрымліваючы тое ці іншае заданне, літсупрацоўнік, карэспандэнт нязменна лістаў падшыўку «Звязды», стараючыся знайсці патрэбны для сябе адказ.

Пачынаючы гэтыя невялікія нататкі пра «Звязду» сорак шостага і сорак сёмага гадоў, я зрабіў спачатку мысленнае падарожжа ў мінулае. Я працаваў куставым карэспандэнтам абласной газеты «Бальшавік Палесся» (Мазыр), жыў наводшыбе, штодзённых зносін з калектывам рэдакцыі не меў. Мая журналісцкая практыка была мізэрная, таму без пераўвелічэння магу сказаць, што «Звязда» для мяне была вельмі сур'ёзным дарадчыкам.

Жыццё пасля вайны было нялёгкім — разбураныя гарады, спаленыя вёскі, зямлянкі, неўраджайны, засушлівы сорак шосты год, жонкі-ўдовы, дзеці-сіроты. І ўсё ж кожны новы дзень нёс новыя падзеі і спадзяванні. Варта было цаніць тое, што ёсць — здабытае крывёю, нечалавечымі пакутамі.

Гэты настрой журналісты «Звязды», мне здаецца, добра адчувалі. Газета ў той час друкавала многа карэспандэнцый, замалёвак, нарысаў, якія як бы дыхалі радасцю заваяванага мірнага жыцця, паэтызавалі калгасныя і саўгасныя будні. Куды толькі не завітвалі «звяздоўцы»! Тэмай карэспандэнцыі, замалёўкі рабілася гутарка вяскоўцаў на прызбе, зімовы дзень ці вечар у калгасе, новы дом, у які сям'я перасялілася з зямлянкі, малюнак таго, як красуе на полі жыта, як цвіце лён, як абмалочваецца першы сноп.

Мне тады здавалася, што «Звязда» спявае. Вельмі многія яе матэрыялы вызначаліся шчырасцю, цеплынёй, чалавечнасцю, яны як бы мелі на мэце паказаць чытачу шырыню жыццёвых далягдядаў, абудзіць у ім радасць, веру ў лепшую будучыню.

Частымі былі матэрыялы з «глыбінкі». У Тураў,

Лельчыцы — у гэтыя аддаленыя ад чыгункі палескія мясціны — у той час не так лёгка было дабрацца, але «звяздоўцы» дабіраліся ўлетку і зімой, пісалі пранікнёныя нарысы, падмацаваныя здымкамі фотакарэспандэнтаў.

Пасляваенная «Звязда» хораша адчувала і паказвала звычайнага чалавека — трактарыста, каваля, хлебароба, даярку. Яны былі асноўнымі героямі яе матэрыялаў. Іх вачыма газета ўмела глядзець на свет, на жыццё.

Такой я памятаў «Звязду». Але, можа, памяць падвяла? Яна, як кажуць, інструмент не заўсёды надзейны. Ды і часу мінуў немалы кавалак — болей як дваццаць гадоў. Змяніліся мы самі, змяніліся нашы густы.

Не без хвалявання гартаю кранутыя часам, сям-там падклееныя старонкі падшыўкі за сорак шосты і сорак сёмы гады. Ёсць штосьці да болю шчымлівае ў гэтых вандроўках па даўно пройдзеных дарогах і сцежках, у пазнаванні таго, што запала ў сэрца, але даўно мінулася, сплыло. Не, не падвяла памяць. «Звязда» менавіта такая, якой запомнілася, і цяпер гэта можна даказаць дакументальна. Клопат пра аднаўленне разбуранага вайной жыцця, пра чалавека — у кожным нумары. Інфармацыя пра будаўніцтва цагельных заводаў, школ, пра высяленне з зямлянак, крытыка ў адрас нядбайных, а то і нячыстых на руку гаспадарнікаў мае ў газеце сталую прапіску.

Іншы раз знаходзіш проста трывожныя радкі, накшталт: «Гомель да вайны быў прыгожым горадам. Цяпер цэнтр яго забудоўваецца карлікавымі домікамі (асабліва ў раёне Конскага рынку)» («Звязда» ад 17 ліпеня 1946 г.).

У Гомелі мне давялося нядаўна пабываць. Жыццё выправіла памылку. І хораша ад думкі, што газета яе своечасова заўважыла.

Вось некаторыя нарысы таго часу, якія добра запомніліся: «У глухім кутку», «Зімовы дзень», «У зімовы вечар», «Калгасныя конюхі», «Садоўнікі», «Там, дзе былі папялішчы», «Новы дом», «Малацьба»...

Кажуць, што газета жыве адзін дзень. Але справа, відаць, у тым, што ёсць дні, якія надоўга запамінаюцца. Дзякуй табе, «Звязда»!

Свае нататкі хачу закончыць звяздоўскай заметкай, вельмі тыповай для таго часу: «Крычаў. 2 кастрычні-

ка 1946 г. Калгасніца сельгасарцелі «Запавет Леніна» Аляксандра Зебрава нарадзіла тройню. Усе навароджаныя ў добрым стане. Цяпер Зебрава мае 8 дзяцей. Калгас пабудаваў калгасніцы дом і выдаў малочную карову. Дапамогу аказалі таксама раённыя арганізацыі».

Трайняты калгасніцы Зебравай — як бы хрэснікі «Звязды». Цяпер ім болей як па дваццаць. Просіцца, як кажуць, новая тэма.

*1968*

# ПРАВАФЛАНГОВЫ НАВУКІ І КУЛЬТУРЫ

Калі вы, дарагі таварыш, прыехалі ў Мінск, калі знаёміцеся з жыццём горада, яго ўстановамі, прадпрыемствамі, славутымі помнікамі, то ніяк не можаце абмінуць Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які носіць імя вялікага Леніна. Велічны і ажурна-лёгкі, сучаснага стылю галоўны універсітэцкі корпус якраз і акаймляе з правага боку плошчу Леніна. Давайце зойдзем!..

Беларускі універсітэт толькі на два гады маладзей за нашу рэспубліку. У 1918 годзе У. І. Ленін падпісаў дэкрэт аб стварэнні шэрага універсітэтаў, у тым ліку і беларускага. Але распачаць работу ён змог толькі 11 ліпеня 1921 года — перашкаджала нямецкая, а потым белапольская акупацыя.

Зараз мы з вамі на тэрыторыі так званага універсітэцкага гарадка. Нават цеснавата тут ад будынкаў, карпусоў, інтэрнатаў, што шчыльна акружаюць універсітэцкі сквер і двор. Але гэтыя будынкі, карпусы, калі можна так сказаць, жывая, матэрыяльная гісторыя універсітэта. Тады, калі яго адчынялі, іх, вядома, не было.

Хачу прывесці невялікую вытрымку з урадавай пастановы ад 18.IV.1921 г., каб вы мелі хоць некаторае ўяўленне пра БДУ тых далёкіх, авеяных подыхам рэвалюцыі, дзён: «Адвесці для патрэб універсітэта будынкі з пабудовамі і ўгоддзямі пры іх былых духоўнай семінарыі, жаночага епархальнага вучылішча, гімназіі Фальковіча, рэальнага вучылішча Хайкіна, фабрыкі

«Вікторыя», земскай бальніцы, яўрэйскай бальніцы, рускага сабрання, пабудовы былога вайсковага шпіталя з прылягаючай да іх тэрыторыяй дзеля пабудовы тутака Універсітэцкага гарадка...»

З тых даўніх будынкаў захаваўся толькі адзін. Бачыце, да левага крыла фізічнага корпуса прылягае цагляны мураваны дом. У яго старых сценах, якім удалося перажыць ліхалецце войнаў, пажараў, разбурэння, размешчаны зараз вельмі сучасныя лабараторыі з навейшым фізічным абсталяваннем.

Два карпусы — хімічнага і біялагічнага факультэтаў з даволі выразнымі прыкметамі канструктывізму трыццатых гадоў — гэта ўжо наступны, другі этап у станаўленні універсітэта. Пастанова аб будаўніцтве універсітэцкага гарадка ў Мінску была прынята на IV Усесаюзным з'ездзе Саветаў, а першапачатковы план будаўніцтва зацверджаны Саўнаркомам БССР у 1928 годзе.

А вось гэтыя сучасныя, са шкла і жалезабетону карпусы — плён апошніх дзесяці гадоў. Будаўніцтва не спыняецца — хутка будзе завершан новы «хімічны» корпус, новыя інтэрнаты.

Універсітэт мае нямала вартых увагі рэчаў, якія проста трэба агледзець. Узяць хоць бы заалагічны музей, размешчаны ў біялагічным корпусе. Тут экспануюцца многія сотні відаў птушак, жывёл, што прадстаўляюць фауну Беларусі і ўсяго свету. Ёсць ва універсітэце гістарычны, мінералагічны і іншыя музеі, ёсць свой батанічны сад, даследчыя біялагічныя станцыі, размешчаныя на далёкіх адсюль нарачанскіх азёрах.

Цяпер звернемся да тых, для каго пабудаваны гэтыя вучэбныя карпусы і інтэрнаты, аўдыторыі, чытальныя залы, кабінеты, лабараторыі, музеі, станцыі — да студэнтаў.

Увогуле, у якую б пару года і ў які дзень вы б сюды ні зайшлі, неспакойны студэнцкі тлум напаткаеце заўсёды. Канчаюць займацца студэнты стацыянарнага аддзялення, прыязджаюць завочнікі. Вечарам аўдыторыі і карпусы належаць «вячэрнікам» — тым студэнтам-мінчанам, што сумяшчаюць работу з вучобай.

Я зноў хачу прывесці невялікую даведку. Перада мной кніжка «Дзесяць год Беларускага дзяржаўнага універсітэта», выдадзеная ў 1931 годзе. З гэтай кніжкі можаш даведацца, што ў першым для нашага універ-

сітэта 1921/1922 навучальным годзе студэнтаў было 1126, у 1925/1926 — 2550, у 1930/1931 — 2585. Няхай лічбы гавораць самі за сябе: 1126 у 1921 годзе і амаль 14 000 у 1968!

За 47 гадоў свайго жыцця універсітэт бачыў некалькі студэнцкіх пакаленняў. Што азначае 47 гадоў дзейнасці універсітэта, хачу праілюстраваць адным, на маю думку, паказальным прыкладам. Летась мне давялося прымаць уступны экзамен у дзяўчынкі, якая сказала, што БДУ закочылі яе маці і дзед. Дзеда дзяўчынка бачыла толькі на фота, быў ён настаўнікам і загінуў у Айчынную вайну, маці скончыла універсітэт у 1948 годзе, а цяпер вось займаецца ва універсітэце трэцяе пакаленне гэтай сям'і.

БДУ, Белпедтэхнікум — калыскі беларускай савецкай навукі і культуры! Менавіта сюды хлынула грамада абуджанай Кастрычнікам вясковай, гарадской моладзі, прыйшлі ўчарашнія чырвонаармейцы, якія змагаліся з ворагам на франтах грамадзянскай вайны, і партызаны-паўстанцы. У ліку тых першых беларускіх «вузаўцаў» былі, напрыклад, вядомыя беларускія пісьменнікі Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Міхась Зарэцкі, быў і сённяшні рэктар універсітэта А. Сеўчанка.

Варта сказаць, што БДУ пачаў жыццё ў складзе трох факультэтаў: грамадскіх навук, медыцынскага і рабфака, адчыненага раней — туды паступалі людзі, якія не мелі сярэдняй адукацыі. Праз некалькі гадоў факультэтаў ужо было сем — прыбавіліся педагагічны, народнай гаспадаркі, хіміка-тэхналагічны і савецкага будаўніцтва і права.

У пачатку 30-х гадоў на базе факультэтаў універсітэта былі створаны самастойныя інстытуты — політэхнічны, народнай гаспадаркі, медыцынскі і педагагічны.

...Падымемся, сябры, на чацвёрты паверх галоўнага універсітэцкага корпуса. Тут на стэндах перад уваходам у актавую залу вісяць партрэты найбольш відных прадстаўнікоў беларускай навукі і культуры, якія ў свой час былі студэнтамі БДУ.

Тут мы ўбачым пісьменнікаў Броўку і Глебку, фізіка прафесара Фёдарава, прафесара медыцыны Голуба і інш.

Сярод сённяшніх прафесараў, дацэнтаў і выкладчыкаў універсітэта таксама нямала ўчарашніх студэнтаў, асабліва тых, што скончылі вучобу ў цяжкія пасля-

ваенныя гады. Дзіўнае было гэта пасляваеннае пакаленне студэнтаў. На першым курсе сядзелі хлопцы, з якіх рэдка каму было меней як дваццаць гадоў — з абветранымі тварамі, у гімнасцёрках, палапленых пінжаках, з калодачкамі вайсковых і партызанскіх узнагарод.

Дзяўчаты былі не маладзейшыя, іх таксама крануyла чорным крылом вайна, дый самі дзяўчаты ваявалі — у партызанах і на фронце, жылі ў спаленых вёсках, у разбураных, зруйнаваных гарадах.

Універсітэта, усіх тых будынкаў, якія мы нядаўна бачылі, амаль не было. Стаялі задымленыя, з пустымі праваламі акон каробкі, і дзеючых будынкаў было толькі два — стары фізмат (той самы цагляны, мінулага веку будынак, што стаіць упрытык да фізічнага корпуса) і хімфак, дзе быў студэнцкі інтэрнат. А вучоба ішла. Студэнты расцякаліся па аддаленых мінскіх школах, садзіліся за нізенькія парты першакласнікаў. Канчалі займацца школьнікі, і пачыналі студэнты...

А на станцыі Сходня, пад Масквой, дзе некаторы час працаваў Беларускі дзяржаўны універсітэт, умовы былі яшчэ цяжэйшыя. Выкладчыкі і студэнты разам пілавалі дровы, каб хоць трохі абагрэць астылыя памяшканні і пакойчыкі.

Цяпер пройдзем па доўгіх, бясконцых анфіладах універсітэцкіх калідораў. Лабараторыі, кафедры, кабінеты, зноў лабараторыі. За дзвярыма некаторых з іх ледзь чутна гудуць апараты, ля прыбораў схіліліся вучоныя, інжынеры, даследчыкі. БДУ — гэта не толькі вучоба студэнтаў, падрыхтоўка спецыялістаў для многіх галін народнай гаспадаркі і культуры, гэта яшчэ і навука, якая ў сённяшнім жыцці стала магутнай рухаючай сілай. Пастановай Савецкага ўрада Беларускі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга універсітэт імя У. І. Леніна ўключан у лік 25 ВНУ краіны, якія прызнаны вядучымі ў галіне навукі.

Вось і цяпер вучоныя універсітэта займаюцца распрацоўкай мнагапультавай сістэмы для інжынерных разлікаў і праграміраванага навучання, стварэннем аналізатара для дыягностыкі сардэчна-сасудзістых і псіхічных захворванняў, праблемамі фізіка-механічных уласцівасцей, біялагічнай трываласці хімічных валокнаў, праблемамі спектраскапіі, сацыялогіі і г. д. Няма магчымасці назваць хоць бы некаторых буйней-

шых спецыялістаў, якія працуюць ва універсітэце, робяць — не пабаімся сказаць гэтага слова — адкрыцці. Тут каля тысячы выкладчыкаў, дацэнтаў, прафесараў!

Заняткі даследчай працай спрыяюць росту навуковых кадраў. Малады вучоны-фізік Л. Валадзько стаў буйнейшым спецыялістам у галіне атамнай і малекулярнай спектралогіі, доктарам навук. Другі, яшчэ маладзейшы фізік, В. Ткачоў таксама абараніў доктарскую дысертацыю, чытаў курс па развіцці навукі і тэхнікі паўправаднікоў для вучоных усяго Саюза — спецыялістаў у гэтай галіне, а нядаўна вярнуўся з Токіо, дзе чытаў такі ж курс ва універсітэце. Выдатныя адкрыцці ў галіне алгебры і тыпалогіі зрабіў дваццацівасьмігадовы доктар навук, прафесар У. Платонаў. Прыклады можна б было прыводзіць яшчэ і яшчэ.

У наш тэхнічны век гуманітарыі, «лірыкі», як сказаў аднойчы паэт, як бы саступілі месца прадстаўнікам дакладных навук — «фізікам». Але мне хочацца сказаць, што і універсітэцкія гуманітарыі — філосафы, гісторыкі, юрысты, літаратуразнаўцы, мовазеды не ўдарылі тварам у гразь. Я назаву толькі некалькі прозвішчаў вучоных гуманітарнага профілю, чые працы і кнігі шырока вядомы ў рэспубліцы. Шматлікае наша студэнцтва ведае прафесараў філасофіі І. Лушчыцкага і В. Сцяпанава, гісторыкаў Л. Абецадарскага, У. Сікорскага, Г. Ліўшыца, літаратузнаўцаў М. Ларчанку, Ф. Куляшова і Л. Фіглоўскую, мовазедаў М. Жыдовіч, М. Жыркевіча, М. Булахава і Л. Шакуна.

З дзён свайго ўзнікнення і да нашага часу непарыўнымі ніцямі звязан універсітэт з беларускай літаратурай. Можна сказаць, што кожнае пакаленне студэнтаў дало сваіх «паўпрэдаў» у беларускую літаратуру.

Першымі былі Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Міхась Зарэцкі, Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Алесь Якімовіч, Янка Скрыган і іншыя, сёння ўжо старэйшыя нашы пісьменнікі.

Кандрат Кандратавіч Крапіва прыйшоў ва універсітэт амаль у трыццацігадовым узросце, пабыўшы на імперыялістычнай вайне і паваяваўшы ў якасці чырвонага камандзіра на вайне грамадзянскай. Тады, калі вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака, быў ён ужо вядомым паэтам-сатырыкам і байкапісцам. Выйшлі славутыя яго зборнікі «Асцё», «Крапіва», паэмы «Хвядос — чырвоны нос» і «Біблія».

З ліку тых, хто належаў да пасляваенных студэнтаў, таксама выйшла нямала вядомых літаратараў. Іван Мележ прыйшоў ва універсітэт яшчэ ў Сходні: пасля цяжкай раны яго звольнілі з арміі. Быў Іван Мележ студэнтам і адначасова выкладчыкам — навучаў вайсковай справе дзяўчат-студэнтак (хлопцы па ваенным часе там, у Сходні, былі лічаныя). Рыгор Шкраба, Мікола Лобан, Вера Палтаран — таксама студэнты-«сходненцы».

З першых пасляваенных выпускаў БДУ, з ліку студэнтаў, што самі аднаўлялі разбураныя універсітэцкія карпусы, прыйшлі ў літаратуру Мікола Аўрамчык, Уладзімір Шахавец, Алесь Адамовіч, Навум Кіслік, Іван Кудраўцаў, пазней — Уладзіслаў Нядзведскі, Ніл Гілевіч, Алег Лойка, Уладзімір Дамашэвіч, а яшчэ пазней, у канцы пяцідзесятых гадоў — новае папаўненне: Іван Пташнікаў, Рыгор Барадулін, Барыс Сачанка, Міхась Стральцоў, Іван Чыгрынаў, Генадзь Бураўкін, Юрась Свірка, Кастусь Цвірка і многія іншыя.

«Кузня» літаратурных кадраў, вядома — філфак і факультэт журналістыкі, але ёсць і выключэнні. Уладзімір Шахавец, напрыклад, скончыў фізмат, а малады паэт Іван Ласкоў — хімічны факультэт. І сёння універсітэцкае літаратурнае аб'яднанне «Узлёт», якое рыхтуе да друку чацвёрты калектыўны зборнік, наведваюць студэнты розных факультэтаў.

У тым, што наша рэспубліка стала рэспублікай суцэльнай пісьменнасці, што яна мае вялікія навуковыя кадры, выдатную літаратуру, неацэнная роля БДУ імя Леніна, правафлангавага беларускай навукі і культуры, які ідзе насустрач свайму не такому ўжо далёкаму пяцідзесяцігоддзю.

*1968*

## КАШТОЎНАСЦІ, ШТО НЕ ПАДДАЮЦЦА ЧАСУ

Як неадольная патрэба нашага жыцця, прагучала на XXIV з'ездзе слова партыі аб выключнай ролі літаратуры і мастацтва ў барацьбе за розумы і сэрцы людзей, за ідэалы камунізма. У вялікім паходзе да светлай ка-

муністычнай явы трэба дбаць пра чысціню нашай ідэйнай зброі, закліканай гартаваць светапогляд і характар савецкага чалавека, яго маральнае аблічча і адносіны да жыцця.

Вялікія перамогі і здзяйсненні на рахунку савецкага чалавека. Ён першы ў сусветнай гісторыі ажыццявіў найвялікшую сацыяльную рэвалюцыю, знішчыў свет эксплуатацыі і прыгнёту, паказаўшы сваім гераічным прыкладам дарогу іншым народам. На недасягальную вышыню ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры ўзняліся мы за гады Савецкай улады. Новы, сацыялістычны свет, пра які марылі, нараджэнне якога прадбачылі, навукова прадказалі геніі чалавецтва Маркс і Энгельс, свет, ля калыскі якога стаяў вялікі Ленін, стаў рэальнасцю ў нашай краіне. У горне велізарных пераўтварэнняў у бітвах за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы фарміраваўся новы савецкі чалавек, калектывіст па духу, патрыёт і інтэрнацыяналіст. Ён па-новаму думае і адчувае, па-новаму працуе і адносіцца да жыцця. Не вузкія эгаістычныя інтарэсы кіруюць яго паводзінамі і ўчынкамі, а шчырая, свядомая зацікаўленасць грамадскай справай, усім тым, што дзеецца ў вялікім свеце.

Літаратура — магутная зброя ў справе фарміравання характару савецкага чалавека, яго духоўнага аблічча, яго адносін да жыцця. Савецкая шматнацыянальная літаратура народжана сацыялістычнай рэвалюцыяй, савецкім, сацыялістычным ладам жыцця. Ленінізм узброіў літаратуру новага свету навуковымі рэвалюцыйнымі прынцыпамі партыйнасці і народнасці, ператварыў яе ў вялікую грамадскую сілу ў будаўніцтве сацыялізма. Кіруючыся метадам сацыялістычнага рэалізму, прынцыпамі партыйнасці і народнасці, пісьменнікі дапамагаюць партыі і народу ажыццяўляць гістарычныя задачы будаўніцтва камуністычнага грамадства.

Багацце сацыялістычнага рэалізму — метаду савецкай літаратуры і мастацтва — робіць яго самым перспектыўным мастацкім напрамкам сучаснасці, з'явай інтэрнацыянальнай. Не гаворачы ўжо аб краінах сацыялізма, дзе сацыялістычны рэалізм грунтоўна ўсталяваўся ў мастацтве, ён уплывае і на творчасць прагрэсіўных дзеячаў культуры капіталістычных краін.

Самыя выдатныя розумы мастацтва дваццатага ста-

годдзя: і тыя, каго Ленін называў «сацыялістамі пачуццяў», і тыя, хто пачынаў усведамляць, што Кастрычніцкая рэвалюцыя не з'яўляецца нейкім «бальшавіцкім эксперыментам», што яна вынік глыбінных гістарычных заканамернасцей і адкрывае перспектыву сацыялістычнага развіцця чалавецтва — Бернард Шоў і Генрых Ман, Герберт Уэлс і Рамэн Ралан,— з велізарнай увагай сачылі за ходам сацыялістычнага будаўніцтва ў Краіне Саветаў, неаднаразова выступалі ў яе абарону ад наскокаў і паклёпу міжнароднай рэакцыі.

Сёння мы з асаблівай увагай павінны падумаць аб тым, як і наколькі дзейсна служыць наша літаратура і мастацтва справе партыі, наколькі актыўная іх роля ў выхаванні новага чалавека, у сучаснай бітве ідэй. Мы не павінны забываць, што эстэтычная пазіцыя пісьменніка, мастака, кампазітара — гэта перш за ўсё яго партыйная, ідэйна-палітычная, класавая пазіцыя. Ленінскі тэзіс аб тым, што беспартыйнасць — гэта буржуазная ідэя, партыйнасць — ідэя сацыялістычная, не страціў свайго значэння і ў нашы дні. Абстаноўка абвостранай ідэалагічнай барацьбы, якая ідзе ў сучасным свеце, патрабуе павышэння адказнасці кожнага з нас за ідэйную чысціню і мэтанакіраванасць мастацтва.

Расшырэнне міжнародных культурных сувязей становіцца ў сённяшнім жыцці ўсё больш важным фактарам, які ўмацоўвае тэндэнцыю да мірнага суіснавання дзяржаў з розным грамадскім ладам. У той жа час гэта не азначае і не можа азначаць спынення або нават часовага прыпынку ў вострай ідэалагічнай барацьбе паміж сіламі сацыялізма і капіталізму.

Наша сацыялістычная культура, інтэрнацыянальная па сваёй сутнасці, няўхільна ўзбагачаецца прагрэсіўнымі, паводле выказвання У. І. Леніна, «дэмакратычнымі» і «сацыялістычнымі элементамі», уласцівымі кожнай нацыянальнай культуры. Па колькасці перакладаў з замежных моў Савецкая краіна займае адно з першых месц у свеце. Хіба гэта не з'яўляецца яркім сведчаннем нашай пільнай увагі да ўсяго лепшага, прагрэсіўнага ў сусветнай літаратуры?

Але мы ніколі не станем захапляцца абесчалавечаным, містыфікаваным буржуазным мастацтвам, якое, па сутнасці, служыць духоўнаму разбраенню працоўных мас. Дэкадэнцкае, абстракцыяністкае мастацтва як бы зыходзіць з ідэі марнасці чалавечых намаганняў,

бяссэнсавасці чалавечага жыцця, нібыта поўнай адзіноты людзей, якая існуе спрадвеку.

Аб дэгуманізацыі сучаснай буржуазнай літаратуры з трывогай гавораць тыя пісьменнікі Захаду, для якіх дарагія традыцыі гуманізму, якіх хвалюе лёс чалавека на планеце.

Не прымаючы цалкам сацыялістычны рэалізм, некаторыя з заходніх пісьменнікаў выказваюць удзячнасць нашай літаратуры, нашым пісьменнікам за тое, як было сказана на ленінградскай сустрэчы пісьменнікаў адным з яе ўдзельнікаў, што яны «здолелі захаваць і абараніць ад разбурэння штосьці святое. Перш за ўсё высокае значэнне чалавека, святое з пункту гледжання этыкі, а не рэлігіі».

Тыя, хто адмаўляецца бачыць у простым чалавеку творцу гісторыі, тыя, хто лічыць, што ў тэрмаядзернай вайне можна ахвяраваць жыццём мільёнаў людзей — якія б гнеўныя словы ні гаварылі яны аб буржуазным мастацтве,— па сутнасці яднаюцца з гэтым мастацтвам у высакамернай знявазе да людзей працы.

Сёння мастацкае жыццё на Захадзе надзвычай складанае, супярэчлівае. Вельмі часта рэакцыйныя, цемрашальскія ідэі выступаюць пад сцягам духоўнага абнаўлення свету. Буржуазнае мастацтва сёння ўзвышае ўсё — секс, паталогію, самыя нізкія інстынкты. Паэтызуецца асоба рэфлексіўная, расслабленая, раздвоеная. Мадэрнісцкія пісакі сцвярджаюць, што няма ніякай аб'ектыўнай ісціны, што ўсе эпохі і стылі аднолькава добрыя, што пачварнае, агіднае мае нават перавагі перад прыгожым і высокім.

Як відаць з гэтага, нашаму рэалістычнаму, сацыялістычнаму мастацтву трэба абараняць духоўныя каштоўнасці чалавека ад наскокаў сучасных варвараў. Такім чынам, словы Максіма Горкага, звернутыя ў 30-я гады да творчай інтэлігенцыі свету: «З кім вы, майстры культуры?» — маюць сёння асабліва актуальнае значэнне.

Праціўнікі нашай літаратуры папракаюць нас у тым, што сацыялістычны рэалізм нібыта не лічыць праўду неабходнай умовай мастацкага адлюстравання жыцця, што служэнне сацыялістычнаму ідэалу нібыта прадугледжвае непазбежную дэфармацыю праўды, штурхае пісьменніка на тое, каб паказаць жыццё не такім, якое яно ёсць, а якім яго хацелася б бачыць. Бес-

падстаўнасць такіх папрокаў відавочная. Увесь вопыт савецкай літаратуры сведчыць, што для яе не існуе «забароненых зон», што крытыка недахопаў, адмоўных тэндэнцый у нашым жыцці ў ёй моцная і пастаянная.

Тут уся справа ў тым, якая партыйная пазіцыя пісьменніка, які ідэал асвятляе пісьменніку шляхі да праўды, куды пісьменнік заклікае чалавека, да якіх вывадаў прыводзіць чытача. У разуменні праўды мастацтва зліваюцца факт і яго ідэйна-эстэтычная ацэнка. Што-небудзь сцвярджаць ці адмаўляць можна па-рознаму, усё залежыць ад светапогляду, партыйнай пазіцыі пісьменніка, ідэалу, які яго натхняе.

У. І. Ленін у артыкуле «Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура» з выключнай глыбінёй і яснасцю вызначыў характэрныя рысы літаратуры будучага сацыялістычнага грамадства як літаратуры свабоднай, сапраўды народнай, ідэйна звязанай з сацыялізмам, са служэннем найвялікшай справе — рэвалюцыйнаму пераўтварэнню свету.

«Гэта будзе свабодная літаратура,— пісаў У. І. Ленін,— таму што не карысць і не кар'ера, а ідэя сацыялізма і спачуванне працоўным будуць вербаваць новыя і новыя сілы ў яе рады. Гэта будзе свабодная літаратура, таму што яна будзе служыць не перанасычанай гераіні, не «верхнім дзесяці тысячам», якія сумуюць і пакутуюць ад ажырэння, а мільёнам і дзесяткам мільёнаў працоўных, якія складаюць цвет краіны, яе сілу, яе будучыню. Гэта будзе свабодная літаратура, якая апладняе апошняе слова рэвалюцыйнай думкі чалавецтва вопытам і жывой работай сацыялістычнага пралетарыяту...»

У нашы дні па-ранейшаму востра стаіць задача барацьбы за горкаўскую гуманістычную спадчыну, за гуманістычны сэнс класічнай літаратуры. Паводле ультрамодных, мадэрнісцкіх канцэпцый, наш час разглядаецца як «эра індывідуальнага самапаглыблення, уцёкаў мастака ад усяго сацыяльнага, калектыўнага». Як сцвярджае Д. Прыстлі, асоба сучаснага чалавека ў вышэйшай ступені «антыгуманістычная, бязлітасная». Гэтыя яе якасці, паводле Д. Прыстлі, выкліканы, з аднаго боку, уладай «падсвядомых індывідуалістычных імпульсаў», з другога — панаваннем «велізарных палітычных і сацыяльных калектываў, якія адбіраюць у чалавека рэшткі незалежнасці і свабоды».

Супярэчнасць паміж чалавекам і грамадствам ва ўмовах капіталізму буржуазныя ідэолагі імкнуцца паказаць, як нешта вечнае і непарушнае, бо, згодна з іх тэорыяй, гісторыя, як і прырода, унутрана нязменная, непахісная, нягледзячы на знешнюю рухомасць і чаргаванне падзей. Яны сцвярджаюць, што нібыта і камунізм стварае непазбежны канфлікт паміж чалавекам і грамадствам, у выніку якога асоба не можа быць свабоднай.

Ворагі сацыялізма імкнуцца вызначыць шлях духоўнай незалежнасці асобы ў ізаляцыі ад грамадскага асяроддзя, ад калектыву.

Буржуазныя, мадэрнісцкія плыні нашых дзён у тых ці іншых варыянтах распрацоўваюць пераважна эгацэнтрычную канцэпцыю чалавека. Рэальным і істотным у ёй з'яўляецца быццё асобнага чалавека, які, паводле такіх поглядаў, не можа адказваць за лёс калектыву, грамадства, ні ў якім выпадку не павінен ахвяраваць жыццём у імя неасабістых мэт.

Паслядоўнікі экзістэнцыялізму ў мастацтве лічаць, што каштоўнымі для чалавека могуць быць толькі яго перажыванні, пачуцці, эмоцыі. Але цікавіць іх не ўся ўнутраная, эмацыянальная сфера чалавечага жыцця, а толькі тыя пачуцці, якія маюць адносіны да так званай пагранічнай сітуацыі і экзістэнцыі — страх, адчай, адзінота, сум і г. д. Гэтыя пачуцці, як і паводзіны асобы ў вострыя, адказныя моманты жыцця, адрываюцца ад сацыяльных, гістарычных і іншых умоў выхавання чалавека, выдаюцца за нейкія апрыёрныя спосабы чалавечага існавання.

У 1962 годзе адбылася дыскусія «Праблемы гуманізму і сучасная літаратура», якая ў значнай меры садзейнічала далейшаму развіццю канцэпцыі сацыялістычнага гуманізму, яго горкаўскага разумення, згуртавала сілы для адпору фальсіфікатарскім тэорыям гуманізму, што вельмі пашыраны на Захадзе.

Адным з праяўленняў псеўдагуманізму з'яўляецца ідэалізацыя так званага маленькага чалавека, засяроджанага на дробных будзённых клопатах, адарванага ад грамадскага жыцця, яго вядучых плыняў. Ігнараванне гераічнага, народнага пачатку, сацыяльнай і грамадзянскай псіхалогіі народа, выхаванай на сацыялістычных маральных асновах, вядзе ў канчатковым выніку да здробненага паказу духоўнага свету асобы.

Вядома, што шлях савецкай літаратуры не быў лёгкім і простым, былі на гэтым шляху не толькі поспехі, здзяйсненні, а і памылкі, няўдачы. Але, бясспрэчна, напрамак руху літаратуры не мяняўся: яна ўсё больш, усё глыбей даследавала разнастайныя сувязі асобы і грамадства, адлюстроўвала зрухі ў грамадскай, сацыяльнай псіхалогіі асобы. Лепшыя творы нашай літаратуры ніколі не аддзялялі асобу, індывідуальнасць ад чалавека як істоты грамадскай.

Савецкая літаратура з першых крокаў свайго станаўлення была літаратурай рэвалюцыйнага гуманізму. Калі асаблівасцю гуманізму папярэдняй эпохі было спачуванне, спагада да прыгнечанага, абяздоленага народа, жаданне палепшыць яго лёс, то рэвалюцыйны, сацыялістычны, «актыўны», паводле выказвання Горкага, гуманізм у першую чаргу звязаны з «актыўным непрыняццем усякай пакуты, асабліва пакуты, выкліканай сацыяльна-эканамічнымі прычынамі».

Змест, які мы сёння ўкладваем у паняцце гуманізму, не можа не вынікаць з гістарычнага вопыту рэвалюцыйнай барацьбы народных мас за сваё сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне. У рухомай, гістарычнай катэгорыі гуманізму сацыяльнае і маральна-этычнае заўсёды знаходзілася ў складаных, узаемна актыўных узаемаадносінах. Сацыялістычны гуманізм, які складае маральную аснову дзейнасці будаўнікоў камуністычнага грамадства, зыходзіць з таго, што не спачуванне, не жаль, не спагада да чалавечай асобы можа прывесці яе да рэальнага шчасця, а толькі дзейнасць народных мас, якія ўсведамляюць сябе гаспадарамі, творцамі гісторыі, а значыць, і будаўнікамі ўласнага шчасця. Сацыялістычны гуманізм усёчалавечны ў самым сапраўдным сэнсе слова, бо звернуты да працоўных мас усяго свету, да ўсіх людзей добрай волі. Ва ўмовах савецкага жыцця не можа быць шчасця асобнага чалавека без агульных здабыткаў калектыву, грамадства. Таму для савецкага гуманізму характэрна сувымярэнне лёсаў асобы і грамадства, свету, імкненняў чалавечай індывідуальнасці з пастпальным рухам гісторыі.

Асновы рэвалюцыйнага, сацыялістычнага гуманізму закладваў Максім Горкі. Горкаўскі погляд на чалавека вызначаецца тым, што ўяўнаму гуманізму, які прапаведвае ўсеагульнае прымірэнне, усеагульную лю-

боў, гуманізму, што апелюе толькі да такіх пачуццяў, як жаль, спачуванне, супрацьстаўлены гуманізм дзейсны, актыўны, на сцягу якога — заклік да бязлітаснай барацьбы супраць усяго, што прыніжае чалавека як у ім самім, так і ў сацыяльным жыцці. Вуснамі машыніста Ніла з драмы «Мяшчане» была выразна выказана думка аб прызначэнні чалавека дзейсна пераўтвараць жыццё ў адпаведнасці з высокімі гуманістычнымі ідэаламі.

Ва ўмовах вострай ідэалагічнай барацьбы, якая адбываецца ў сённяшнім свеце, праблема чалавека стаіць на першым плане. Здольны чалавек уплываць на развіццё гістарычных падзей, сусветнага працэсу ці ён толькі непрыкметная пылінка, раб стоеных у ім самім неадольных страсцей, цацка ў руках сляпых сіл лёсу? Гэта пытанне не абстрактнае, адказ на яго абумоўлівае напрамак развіцця літаратуры, яе грамадскае значэнне, роль і ступень яе ўплыву на ход развіцця гістарычных падзей. Таму, паўторымся, пытанне М. Горкага: «З кім вы, майстры культуры?» — і сёння мае першараднае палітычнае значэнне.

Палітычны прынцып М. Горкага вытрымаў выпрабаванне часам, бо эстэтычныя, літаратурныя праблемы ў рэшце рэшт вядуць да вызначальнай праблемы эпохі — адносін да сацыялістычнай перспектывы развіцця свету. Развіццё чалавека, яго няўхільны духоўны рост магчымы толькі ў імя людзей, але і развіццё грамадства магчыма толькі праз чалавека, у імя ўзбагачэння духоўнага патэнцыялу асобы — у гэтай дыялектыцы чалавека і чалавецтва найвышэйшыя гуманістычныя прынцыпы і эстэтычныя ідэалы камунізма, ідэал нашай савецкай літаратуры.

*1969*

## АПАВЯДАННЕ МУСІЦЬ ШУКАЦЬ

Відаць, не прыходзіцца спрачацца аб тым, што наша апавяданне, якое 7—10 год назад перажывала паласу «ўзлёту», за апошні час прыкметна здрабнела. Менш стала відавочных творчых удач, замоўклі многія

аўтары, якія пачыналі свой літаратурны дэбют у якасці апавядальнікаў.

У артыкулах В. Бурана, Я. Герцовіча і некаторых іншых аўтараў я знайшоў даволі шырокі рэестр розных тэарэтычных выкладак, цытат, спасылак на прызнаныя аўтарытэты і нават пажаданняў у духу нарматыўнай крытыкі — як трэба і як не трэба пісаць. Але пры ўсёй гэтай, як мне здаецца, чыста знешняй бутафорыі, гэтыя артыкулы дзіўна бясклапотныя ў галоўным — у адказе на пытанне, чаму замарудзіла свой крок наша навелістыка.

Я. Герцовіч самы радыкальны сродак, каб прадухіліць інфляцыю апавядання, бачыць у тым, каб не друкаваць слабых твораў. В. Буран больш паблажлівы: трымацца межаў апавядальнага жанру і крытыкаваць пісьменнікаў-апавядальнікаў, нягледзячы на іх былыя заслугі.

Каб усё было так проста, было б яшчэ паўбяды...

Я ўважліва прачытаў артыкулы В. Бурана і Я. Герцовіча, як прачытаў і тыя апавяданні, якія яны рэкамендуюць у якасці лепшых узораў, і прыйшоў да сумнага вываду, што гэтым крытыкам не заўсёды спадарожнічае поспех ва ўменні адрозніваць літаратуру ад нелітаратуры. Карацей кажучы, бракуе добрага эстэтычнага густу. Ну, хіба ж гэта сур'ёзна — ставіць у адзін рад творы пакуль яшчэ малавядомага аўтара Н. Кедалавай і, можна сказаць, ветэрана апавядальнага жанру А. Кулакоўскага? А В. Буран ставіць і ўвогуле нанізвае прозвішчы, назвы твораў, як кажуць, па дзесятку на радок, не даючы сабе лішняга клопату разабрацца, чым добрыя і чым благія гэтыя творы. Я. Герцовіч пасвойму, з уласнай выдумкай і фантазіяй, пераказвае, напрыклад, змест лірычных апавяданняў, эцюдаў, а затым, на аснове гэтых фантазій, крытыкуе творы.

І зноў жа — самае галоўнае — не знайшоў у артыкулах В. Бурана (ён пачынаў дыскусію) і Я. Герцовіча роздуму аб працэсах, якія адбываюцца ў нашым сённяшнім жыцці, аб вядучых тэндэнцыях сучаснасці і адлюстраванні іх у літаратуры.

Мне хочацца прадоўжыць свае нататкі пра становішча сучаснага апавядання невялікім экскурсам у гісторыю літаратуры. Наша літаратура амаль не мае «чыстых» навелістаў, якія б не працавалі ў сумежных жанрах. Па гэтай прычыне ўзнікае пытанне аб тым,

якое месца займае ў іх творчасці апавяданне, наколькі звязана яно з другімі празаічнымі жанрамі, скажам, раманам, аповесцю, што выходзілі з-пад пяра гэтых жа пісьменнікаў.

Апавяданне мела дваістую ролю ў творчасці такіх майстроў нашай прозы, як Якуб Колас, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў, Іван Мележ, Іван Шамякін, Аляксей Кулакоўскі, Янка Брыль, Піліп Пестрак, Аркадзь Чарнышэвіч, Янка Скрыган, Мікола Лупсякоў, Іван Пташнікаў, Алена Васілевіч і г. д. З аднаго боку, яно было як бы разведчыкам тэмы, якая знаходзіла далейшае ўвасабленне ў буйных празаічных жанрах. З другога — было цалкам самастойным, аўтаномным звяном у іх творчасці, па-мастацку адкрываючы, даючы «прапіску» ў літаратуры значным з'явам сацыяльнага, духоўнага жыцця, малюючы яркія, самабытныя характары, вызначаючы істотныя грамадскія настроі. Гэтая другая, самастойная роля апавядання была, як мне здаецца, важнейшай, чым першая, «разведвальная».

Якуб Колас сваімі дарэвалюцыйнымі апавяданнямі адкрыў цэлы свет беларускага вясковага жыцця, выявіў яго этычныя, маральныя асновы, слабыя і моцныя бакі ў сацыяльных паводзінах «мужыка», нарэшце, паказаў беларусаў-палешукоў як своеасаблівых «дзяцей прыроды» з іх наіўнымі, падчас смешнымі ўяўленнямі аб жыцці, цэльны, непасрэдны іх характар і г. д.

Такім жа значным уяўляецца творчы вопыт Кузьмы Чорнага, шматлікія апавяданні якога паказваюць абуджаную Кастрычнікам вёску ва ўсім кіпенні яе сацыяльных і чалавечых страсцей, яе духоўных, маральна-этычных пошукаў.

У сваіх апавяданнях Кузьма Чорны вельмі многа эксперыментаваў, пранікаючы ў глыбіні свядомасці і падсвядомасці, выяўляючы сувязь думкі і пачуцця, нават самага мімалётнага, даследуючы сам ход нараджэння пачуцця, настрою, думкі. Апавяданні гэтага буйнага празаіка, яшчэ недастаткова вывучаныя і ацэненыя, з'яўляюцца найвыдатнейшай старонкай у яго творчай спадчыне.

Міхась Лынькоў напісаў незабыўныя, што даўно ўжо зрабіліся хрэстаматыйнымі, апавяданні аб выпрамленні «маленькага» чалавека ва ўмовах сацыялістычнай рэчаіснасці. Яркія, поўныя драматычнага пафасу, гумару, лірыкі, з музыкальным, напеўным ладам фра-

зы, гэтыя апавяданні па-чалавечы душэўна, тонка перадаюць атмасферу рэвалюцыйнай маладосці нашай краіны, малююць духоўны воблік пакалення, якое сёння ўжо з'яўляецца старэйшым...

Такім чынам, апавяданню ўласціва шырыня сацыяльных, духоўных, этычных пошукаў. Яго вытокамі з'яўляюцца значныя з'явы сацыяльнага, грамадскага жыцця і роздум мастакоў аб ім.

Але жыццё не стаіць на месцы. Кожнае новае пакаленне прыносіць у яго штосьці новае, невядомае раней. У моманты змены грамадскай псіхалогіі, зрухаў, якія адбываюцца ў грамадскай свядомасці, заўсёды нараджаюцца духоўныя каштоўнасці, якія здольны ў першую чаргу даць жыццё апавяданню.

У пэўнай ступені нядаўні «ўзлёт» беларускага апавядання быў звязаны з прыходам у літаратуру плеяды здольных празаікаў, самаму маладому з якіх сёння пераваліла ўжо за трыццаць. Яны па-рознаму, але ўвогуле таленавіта расказалі аб дзяцінстве, абпаленым ваеннымі і пасляваеннымі нягодамі. У гэтых апавяданнях была добрая канкрэтнасць побыту, шчырасць пачуцця, перажывання.

Гэтыя апавяданні былі ў добрым сэнсе біяграфічнымі, яны абапіраліся на бачанае, перажытае, нават на канкрэтны факт, выпадак. І нічога кепскага не здарылася. Набрыняўшы жывымі сокамі побыту, рэаліямі жыцця, апавяданне стала па-мастацку больш праўдзівым, пераканаўчым. Відаць, не трэба забываць, што паласа апавяданняў, якія нарадзіліся ў 50—60 гг., былі пэўнай рэакцыяй на схематызм, ілюстрацыйнасць некаторых твораў папярэдняга перыяду.

З чым сутыкнулася сённяшняе апавяданне, чаму яно пачало прыкметна драбнець? Чаму з сённяшняга беларускага апавядання знікае востры сацыяльны канфлікт, уласцівы яму ў 20—30-я гады, замяняючыся канфліктам, калі можна так сказаць, маральна-этычным?

Прычын, відаць, многа як аб'ектыўных, так і суб'ектыўных. Наша рэспубліка імкліва развіваецца ў індустрыяльным напрамку. Карэнным чынам змяніўся класавы, дэмаграфічны склад насельніцтва. Выраслі дзесяткі буйных заводаў, электрастанцый, фабрык, розных іншых прамысловых прадпрыемстваў. Прафесія настаўніка, урача, інжынера, механізатара стала самай звы-

чайнай прафесіяй. Кожны выпуск дзесяцігодкі, вышэйшай навучальнай установы прыбаўляе колькасць людзей, светаўспрыманне, светаадчуванне якіх істотна адрозніваецца ад адчуванняў і запатрабаванняў, скажам, селяніна-аднаасобніка. Карацей кажучы, у нашым грамадстве ідзе няўхільны працэс росту асобы, пашыраецца яе духоўны дыяпазон.

Формы гарадскога жыцця пашыраюцца, распаўсюджваюцца на вёску, і гэтая імклівая урбанізацыя, трэба сказаць, застала літаратуру ў пэўнай меры знянацку.

Таму, як мне здаецца, глыбока памыляюцца В. Буран і Я. Герцовіч, калі не раяць пісьменнікам пісаць пра «наведванне родных мясцін і сяброў маленства». Як бы ў процівагу пажаданням крытыкаў даўно вядомы сюжэт «я посетил родимые места, ту сельщину, где жил мальчишкой» вельмі распаўсюджаны не толькі ў сучаснай беларускай паэзіі, але і ў прозе. І вяртаюцца пісьменнікі на сцежкі маладосці не толькі таму, што ніякіх другіх яны пакуль не ведаюць. Ведаюць. Але добрае апавяданне напісаць не проста. Трэба мець улюблёнасць, закаханасць у той жыццёвы матэрыял, за які бярэшся. Зварот пісьменнікаў да тэмы дзяцінства, падарожжы ў маладосць, на першы погляд, мімалётныя наезды ў вёску, якіх нямала ў сучасных апавяданнях, як ні дзіўна, нясуць з сабой асэнсаванне працэсаў і тэндэнцый сучаснасці, новых павеваў і зрухаў у грамадскім жыцці. Успомнім апавяданні Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, М. Стральцова, А. Кудраўца, М. Капыловіча, М. Вышынскага. Так ці іначай у творах гэтых пісьменнікаў ёсць пэўнае параўнанне таго, што было ў вёсцы дваццаць, дзесяць гадоў назад з тым, што ёсць сёння, ёсць некаторае асэнсаванне жыццёвых тэндэнцый.

Сфера маральна-этычнага жыцця таксама нясе ў сабе прыкметы сацыяльнасці. Супярэчнасці, канфлікты інтымнага жыцця займаюць у сённяшнім апавяданні прыкметнае месца. Думаецца — гэта натуральна. Вырас свет асобы, кола яе этычных і эстэтычных запатрабаванняў. Дарэвалюцыйнае беларускае апавяданне амаль не выдзеліла самастойнай любоўнай тэмы. Такая тэма ўпершыню паяўляецца ў апавяданнях дваццатых гадоў. Герой сучаснасці стаў яшчэ больш «далікатным», інтэлігентны ў сваіх пачуццях, адчуваннях,

і гэта не магло не адбіцца на сучасным апавяданні. У лепшых нашых апавяданнях аб каханні (успомнім хоць бы «Галю» Я. Брыля) прысутнічае атмасфера маральна-этычных пошукаў грамадства, яго духоўныя ідэалы. А гэта не так і мала.

Адным словам, не магу пагадзіцца з крытыкам Я. Герцовічам, які духам свайго артыкула сцвярджае, што ў сферы інтымнага жыцця, у сузіранні, паэтызацыі прыроды апавяданню не суджаны сур'ёзныя ўдачы. Багаты духоўна чалавек бачыць вакол сябе багаты, рознакаляровы свет, з якім ён цесна і непарыўна звязаны. Можна цудоўна напісаць і пра збор грыбоў, і пра лоўлю рыбы, і пра звычайную паездку ў лес, і ніякага так званага пасіўнага сузірання не будзе. Калі чалавек умее бачыць, адчуваць прыгожае, разлітае ў наваколлі, то гэта можна назваць іншым словам, чым пасіўнае сузіранне.

Большасць апавяданняў Тургенева, як і яго раманаў, аповесцей, не абыходзяць кахання. Але мары тургенеўскіх гераінь заўсёды ідуць побач з уяўленнем пра чалавека, характар якога нясе штосьці новае, нязнанае раней, увасабляе новыя зрухі ў грамадскай свядомасці.

Я не ўяўляю, як можна пісаць пра моладзь, юнацтва, не пішучы пра каханне. Другая справа, што многія сучасныя апавяданні, якія раскрываюць свет інтымных, асабістых адносін, ардынарныя, прымітыўныя, не маюць глыбокай маральна-этычнай асновы. Яны не нясуць значнай думкі, таму сацыяльная вага іх мізэрная.

Адстайваючы права апавядання на паказ інтымнага жыцця, паэтызацыі прыроды, прыгажосці навакольнага свету, я зусім не хачу сказаць, што гэта — магістральны шлях развіцця нашай навелістыкі. Проста не трэба абламваць жывое дрэва, на якім могуць быць і большыя і меншыя галіны.

Гэта праўда, што мы засумавалі па значным характары, па герою, якога б адкрыла апавяданне і які б стаў прыкладам для пераймання. Пакуль яшчэ амаль не вядзе нас апавяданне ў лабараторыю вучонага, у фабрычны ці заводскі цэх, ды і традыцыйнай для беларускай літаратуры вясковай тэме ўдзяляе ўвагу яўна недастатковую. Пра гэта трэба гаварыць і пісаць, але, як вучыць мудрая пагаворка, не трэба выкідваць разам з бруднай вадой і дзіцянё.

У апавядання свой мастацкі «мікрасвет», свае адметныя стылёвыя сродкі. Яны непаўторныя, разнастайныя і залежаць ад жыццёвага матэрыялу, які кладзецца ў аснову апавядання, ад эстэтычнай, эмацыянальнай ацэнкі гэтага матэрыялу пісьменнікам. У апавяданні, скажам, значна большую ролю, чым у рамане, аповесці, іграе «настрой», інтымны лад фразы, дэталь, падтэкст, эмацыянальна-ацэначнае слова. Для сучаснага апавядання не прайшла дарма «школа» Чэхава — яно імкнецца да сціпласці, лаканічнасці, да павышэння ўдзельнай вагі кожнай фразы.

У той жа час пошукі апавядання — не пошукі жанравай формы, як вынікае з некаторых сцвярджэнняў В. Бурана. Апавяданне мусіць шукаць — раскрываць новыя жыццёвыя з'явы, адкрываць новых герояў, даваць ім мастацкую прапіску ў літаратуры. А жанравыя, стылёвыя і іншыя адзнакі мастацкай формы будуць залежаць ад таго, што знайшоў пісьменнік, як ён здолеў паглыбіцца ў працэсы нашай хуткаплыннай явы.

*1969*

# САЦЫЯЛЬНАЯ ТЭМА Ў СУЧАСНАЙ ПРОЗЕ

Бясспрэчна, што беларуская проза за апошнія гады дамаглася істотных поспехаў. Набыткі яе адносяцца як да буйнога жанру — рамана і аповесці, так і да жанру апавядання.

Асаблівасцю сучаснай беларускай прозы з'яўляецца тое, што яна імкнецца да мастацкага даследавання жыцця ў яго самых разнастайных праявах, не пазбягае пытанняў складаных, супярэчлівых. Раманы Івана Мележа, Івана Шамякіна, Янкі Брыля, Піліпа Пестрака, Міколы Лобана, Аркадзя Чарнышэвіча, як і многія іншыя лепшыя кнігі, сведчаць аб тым, што ў нашай прозе нарадзілася зусім натуральнае, зразумелае імкненне прайсці па дарогах, па якіх прайшоў народ у сваім рэвалюцыйным, творчым дзеянні, увасобіць у мастацкіх вобразах этапы станаўлення савецкага грамадства. Менавіта гэтыя творы найбольш выражаюць тэндэнцыю

да глыбіннага вывучэння жыцця, цесна спалучаюць грамадскае і асабістае, сацыяльны і псіхалагічны аналіз.

Не цяжка ўбачыць, што поспехі сённяшняй прозы з'яўляюцца працягам таго лепшага, што было створана літаратурай у папярэдні перыяд, працягам традыцый Якуба Коласа, Цішкі Гартнага, Кузьмы Чорнага, Кандрата Крапівы. Беларускі раман, нараджэнне якога прыпадае на савецкі час, узнікаў перш за ўсё як увасабленне сацыяльна-грамадскай тэмы, як заканамернае жаданне мастакоў разабрацца ў тых велічных гістарычных падзеях, творцай і ўдзельнікам якіх былі мільённыя працоўныя масы, што ўступалі на шлях барацьбы за новыя, справядлівыя формы жыцця. Пісьменнікі ўдумліва даследавалі сувязі асобы і грамадства, сацыяльныя асновы жыцця, духоўны рост чалавека з народа, які паступова вызваляўся ад путаў мінуўшчыны.

Пісьменнік, які працаваў у 20-я і 30-я гады, меў перад сабой выразны сацыяльна-класавы канфлікт, які бытаваў у жыцці, станавіўся асноўнай драматычнай калізіяй мастацкага твора. Жыццё нашага сучасніка не дае матэрыялу антаганістычнымі, класавымі супярэчнасцямі, але гэта не азначае, што ў сённяшнім жыцці няма канфліктаў, супярэчлівых тэндэнцый, сутыкнення поглядаў, жыццёвых філасофій. Другая справа, што «дабро» і «зло» ў гэтых канфліктах, супярэчнасцях ляжыць не на процілегла франтальных лініях, як было, скажам, у 20-я гады. Канфлікты нашых кніг аб сённяшнім жыцці ўсё больш і больш пераходзяць у сферу маральна-этычную, а гэта вельмі складаная галіна чалавечага жыцця, і залішне прамалінейны падыход да яе часта з'яўляецца прычынай творчых няўдач.

Але і маральна-этычныя праблемы, якія так востра ўзнікаюць у творах аб сучаснасці, звязаны з праблемамі грамадскімі, сацыяльнымі. Найбольшае прызнанне ў чытача атрымалі якраз тыя творы беларускай літаратуры, для якіх уласцівы глыбокі сацыяльны аналіз жыццёвых абставін. Не выпадкова такі вялікі поспех выпаў на долю раманаў Івана Мележа «Людзі на балоце» і «Навальніца над полем». Прысвечаныя жыццю палескай вёскі далёкіх 20-х пачатку 30-х гадоў, творы гэтыя тым не меней гучаць вельмі сучасна, бо

яны, калі можна так сказаць, закранаюць інтарэсы, думкі, пачуцці сучаснікаў, актыўна, па лініі галоўных пытанняў жыцця, перагукваюцца з нашымі днямі. Раманы Мележа — творы шматпланавыя. З усіх праблем, якія ўздымаюцца пісьменнікам, хочацца выдзеліць адну праблему — рэвалюцыйнага, сацыялістычнага гуманізму, бо менавіта яна робіць раманы сучаснымі па гучанню.

Глыбінныя працэсы дэмакратызацыі асноў савецкага жыцця не маглі не знайсці адпаведнага адбіцця ў літаратуры. Выраслі самі крытэрыі ідэйна-мастацкай вартасці твора, узбагацілася канцэпцыя жыцця і літаратурнага героя. Прыкметна змяніўся вобраз часу, павысіліся патрабаванні на «чалавечнасць» да героя, якога пісьменнік імкнецца прадставіць як станоўчага. Пацвярджэнне гэтай думкі можа служыць шырокі поспех яшчэ аднаго твора беларускай прозы — рамана Івана Шамякіна «Сэрца на далоні».

У пяцідзесятыя гады для некаторых празаікаў і крытыкаў, безумоўна, станоўчым быў герой дзейсны, валявы, рашучы. За гэтыя, бясспрэчна, добрыя якасці характару герою прабачаліся падчас некаторыя хібы — грубасць у адносінах да людзей, якія яго акружаюць, неўраўнаважанасць, ігнараванне калектыўнай думкі. Сёння пры ўсіх намаганнях арэол станоўчасці такому герою надаць немагчыма. Перамена залежыць не ад аб'ектыўнага жадання пісьменніка, а ад маральнай атмасферы самога жыцця, грамадскай самасвядомасці. Валявых якасцей герою яўна мала, трэба, каб ён яшчэ мог думаць, каб навучыўся паважаць думкі, пачуцці другіх людзей.

Сёлета чытач пазнаёміўся з раманам Міколы Лобана «Гарадок Устронь» («Полымя», № 1—4), які з'яўляецца працягам кнігі «На парозе будучыні». Падзеі новага рамана М. Лобана адносяцца да пачатку трыццатых гадоў, яны прысвечаны ўсталяванню калгасаў у адным са звычайных раёнаў Беларусі. Пісьменнік імкнецца перадаць праўду жыцця, гісторыі ў чалавечых характарах, непаўторных мастацкіх вобразах. Удаліся яму вобразы начальніка палітаддзела Устронскай МТС Андрэя Шэмета і сакратара райкома Максіма Мароза. Канфлікт паміж імі — канфлікт валявога, суб'ектыўнага і разумнага, сапраўды партыйнага стылю кіраўніцтва.

У сёлетнім, юбілейным годзе Савецкай улады ўвагу пісьменнікаў прыцягнулі этапныя, гераічныя падзеі, у якіх, можна сказаць, вытокі характару многіх нашых сучаснікаў. З мемуарнымі і дзённікавымі матэрыяламі на гэту тэму выступілі ў «Полымі» трое нашых вядомых пісьменнікаў — Максім Танк («Лісткі календара», № 1—4), Максім Лужанін («Дванаццаць вячорных вогнішчаў», № 7—8), Піліп Пестрак («Лічыла дні турма», № 9).

«Лісткі календара» Максіма Танка — шчырая, праўдзівая споведзь аднаго з нашых лепшых паэтаў, аб цяжкіх гадах заходнебеларускага жыцця, аб народным, рэвалюцыйным супраціўленні сілам буржуазнай рэакцыі і фашызму. Вялікае месца займае ў дзённіку тэма літаратуры, роздум паэта аб шляхах развіцця роднага мастацкага слова.

Дзённік Максіма Танка па свайму зместу выходзіць далёка за межы чыста асабістых запісаў. З яго старонак паўстае вобраз чалавека, характар якога сфарміраваны народнай рэвалюцыйнай барацьбой, палымянай адданасцю ідэалам сацыялізма. Напісаны лірычна, усхвалявана, мясцінамі з добрым гумарам, ён блізкі да мастацкага твора.

Добрымі мастацкімі вартасцямі вызначаюцца ўспаміны Піліпа Пестрака «Лічыла дні турма». Тут паказ той жа, як і ў Танка, заходнебеларускай рэчаіснасці, рэвалюцыйнай барацьбы, будняў турэмнага зняволення, што спаткалі шмат якіх адданых справе вызвалення сыноў народа.

«Дванаццаць вячорных вогнішчаў» Максіма Лужаніна таксама цікавы твор. У ім як бы падсумаваны роздум паэта аб падзеях савецкага жыцця, пачынаючы ад калектывізацыі і канчаючы нашымі днямі. Многія раздзелы гэтага твора з'яўляюцца ўпаўне самастойнымі мастацкімі навеламі. Увогуле ўспаміны Лужаніна вызначае глыбіня думкі, шырокае кола жыццёвых назіранняў, добрыя мастацкія дэталі і мова.

Літаратуры не лёгка ўгнацца за рухомымі, зменлівымі формамі жыцця, даць ім назву, «замацаваць» іх у мастацкім вобразе. Аднак застаецца вядомай ісцінай, што сапраўдны мастацкі твор нараджаецца толькі тады, калі пісьменнік здолее адчуць, усвядоміць новыя тэндэнцыі жыцця, новыя заканамернасці, новае ў духоўным вопыце свайго героя. Існуе прамая сувязь па-

між здольнасцю мастака ствараць тыповыя характары і глыбінёй яго думкі, адчування навакольнага жыцця. Інтэлектуальная, эмацыянальная, маральная ўзброенасць героя пры ўмове, што герой гэты жывы, не выдуманы, і ёсць галоўная адзнака ідэйна-мастацкай вартасці твора.

Трэба прызнацца, што беларуская проза прыкметна адстае ў мастацкім асваенні рухомых працэсаў сучаснасці. Гутарка ідзе не пра тое, каб разумець сучаснасць як сённяшні «хуткаплынны» дзень або як падзеі мінулага ці нават пазамінулага года. Справа глыбей. Адзін вядомы рускі празаік нядаўна выказаў думку, што савецкая літаратура за апошні час вельмі паспяхова асвойвала духоўны вопыт 30-х і 40-х гадоў і ёй прадстаіць гэтак жа паглыбіцца ў тэндэнцыі духоўнага развіцця грамадства 50-х і 60-х гадоў. Думаецца, што сказанае справядліва і ў дачыненні да беларускай літаратуры.

Сапраўды, нават пісьменнікі, чые імёны сталі вядомымі ў літаратуры ў апошняе дзесяцігоддзе, далей асваення вопыту Вялікай Айчыннай вайны і цяжкіх пасляваенных гадоў яшчэ не пайшлі. Скажам, сваёй традыцыйнай тэме — жыццю вёскі — беларуская проза за апошнія гады ўдзяляла мала ўвагі. Паявіліся добрыя аповесці Івана Шамякіна «Мост», Івана Пташнікава «Лонва». З грамадзянскай зацікаўленасцю, востра, займальна напісана аповесць Алеся Асіпенкі «Жыта». Шэраг важных, сур'ёзных пытанняў уздымае аповесць Алеся Савіцкага «Палын — зелле горкае». Ёсць цікавыя нарысы Ігната Дуброўскага, Веры Палтаран, добрыя апавяданні Аляксея Кулакоўскага, Алены Васілевіч, Міколы Лупсякова, Івана Чыгрынава, Міколы Ракітнага, Вячаслава Адамчыка, Рамана Сабаленкі, Міхася Стральцова, Барыса Сачанкі, Анатоля Кудраўца і інш. Але твора, які б узняў прынцыпова новую праблему сённяшняй вёскі, стаў падзеяй у літаратурным жыцці, няма. Каб па «сельскай» літаратуры, якая ў нас паявілася, мы задаліся мэтай скласці ўяўленне пра глыбінныя духоўныя працэсы, што адбываюцца ў сённяшнім калгасным і саўгасным жыцці, то такога ўяўлення мы не складзём.

У нас нямала па-сапраўднаму мастацкіх апавяданняў, дзе вёска, убачаная вачамі дзяцінства, паўстае ў арэоле шчырай, замілаванай паэтычнасці. З такімі

апавяданнямі прыходзяць у літаратуру амаль усе маладыя празаікі. Але твораў, дзе б вясковая тэма выступала перш за ўсё як тэма сацыяльная, дзе б малявалася цэласная карціна, выступаў яркі характар, раскрываліся пэўныя грамадскія тэндэнцыі — да крыўднага мала.

Сёння, бадай, кожная кніга, якую мы напісалі ці пішам, не можа абмінуць тых вялікіх сацыяльных перамен, якія адбываюцца ў жыцці. Маса тэхнікі, якая ёсць усюды, новыя прафесіі — урача, настаўніка, інжынера, механізатара — усё гэта ў рэшце рэшт звязана з нараджэннем новага светаадчування, псіхалогіі. Эстэтычнага вопыту, які вынікае з мастацкага асваення традыцыйнай тэмы вёскі, відаць, малавата, каб увасобіць гэтыя новыя пласты сучаснага жыцця і псіхалогіі ў творах. І ўсё ж наша літаратура ўсё часцей пачынае пісаць пра горад.

Жыццю Мінска, які расце на нашых вачах, прысвячае сваю творчасць Уладзімір Карпаў. Яго раманы «За годам год» і «Вясеннія ліўні» ўзнаўляюць шматлікія гераічныя і працоўныя старонкі жыцця горада.

Цікавы зборнік Міхася Стральцова «Сена на асфальце». У ім нямала добрых, ёмістых з націскам на бытавую дэталь апавяданняў. Іх адшліфаваны, музыкальны, як у вершы, сказ гаворыць пра высокую творчую культуру аўтара. Міхась Стральцоў зрабіў удалую заяўку на паказ адчуванняў героя «гарадскога» жыцця.

Бясспрэчна, што дыяпазон нашай прозы павінен пашырацца, сацыяльна паглыбляцца, захопліваючы ўсе працэсы рухомай, зменлівай рэчаіснасці. Вопыт савецкай літаратуры сведчыць, што без шырокіх грамадскіх дарог-пуцявін героя, без глыбокага сацыяльнага аналізу жыццёвага матэрыялу значнага мастацкага твора быць не можа.

*1967*

## ВЕРЫЦЬ У ЧАЛАВЕКА

Першыя тры кнігі «Ціхага Дона», перакладзеныя на беларускую мову, я прачытаў за лета, перайшоўшы з трэцяга ў чацвёрты клас. Не хачу выхваляцца, што

быў нейкім вундэркіндам. Проста па тым часе ў нашым мястэчку дзіцячай бібліятэкі не было, і прыходзілася чытаць, што трапляла пад рукі. Пазней дзяцінства ўзяло сваё, і ў пятым, шостым класе я з захапленнем глытаў Жуля Верна, Майна Рыда і іншыя прыгодніцкія кнігі.

Але феномен тым не меней дзіўны: нават для дзіцячага ўспрымання Шолахаў шмат чаго даваў, прымушаў біцца сэрца, хвалявацца, смуткаваць, радавацца, і неаслабнай увагай сачыць за лёсам ягоных герояў.

У саракавым годзе, перад самай вайной, за ўласныя грошы, заробленыя ў час канікул на чыгунцы, я купіў апошнюю, чацвёртую кнігу «Ціхага Дона». На беларускую мову яна, здаецца, так і не была перакладзена.

Некалькі разоў у маладым і сталым узросце перачытваў «Ціхі Дон».

Цяпер, калі за плячамі пяць дзесяткаў гадоў, можна выказаць сякія-такія думкі адносна таго, якое значэнне мелі кнігі Шолахава для мяне асабіста і, магчыма, для некаторых маіх аднагодкаў.

Маё пакаленне ўваходзіла ў жыццё праз школу і кнігі. Відаць, з прычыны вядомых сацыяльных працэсаў, якія адбываліся ў краіне пасля рэвалюцыі, мы рыхтаваліся стаць інтэлігентамі: настаўнікамі, інжынерамі, урачамі, некаторыя мецілі, скончыўшы вучылішчы, зрабіцца вайсковымі камандзірамі. Але жылі мы, выхоўваліся, па сутнасці, у народным, пераважна сялянскім асяроддзі, змалку былі блізкія да зямлі, ведалі, што такое ўсход і захад сонца, раса на траве, касавіца і жніво, пах свежаспечанага хлеба, рана прылучаліся да працы.

Таму, відаць, феномен з чытаннем «Ціхага Дона» ў пачатковай школе неяк можна вытлумачыць: побыт, маравы, сама стыхія народнага жыцця, якое там малявалася, былі знаёмыя, збольшага зведаныя нават у дзяцінстве, хоць далёка, скажам, ад Дона да міжрэчча Прыпяці і Дняпра.

Пра тое, якая суровая, крывавая барацьба за новы свет, расказала юнакам і дзяўчатам майго ўзросту Айчынная вайна. Але яшчэ да гэтага расказаў Шолахаў.

Такім чынам, галоўнай кнігай для пакаленняў,

якія ўваходзілі ў жыццё паміж Кастрычнікам і Вялікай Айчыннай вайной, быў «Ціхі Дон». Я не хачу гэтым адмовіць значэння твора для іншых пакаленняў і ўплыву на іх выхаванне іншых кніг.

З чыста пісьменніцкага пункту гледжання «Ціхі Дон» М. Шолахава непераўзыдзены ў савецкай літаратуры шэдэўр. Няма другога твора, дзе б так арганічна паядналіся псіхалагічны аналіз і паэтычны сінтэз, музыка напеўнага народнага слова і пластыка жывапісу, глыбіня даследавання самых патаемных рухаў чалавечай душы і даступнасць, лёгкасць апавядання.

Як пісьменнік, я ведаю, што пафас твора, яго асноўную глыбінную ідэю нараджае любоў да роднай зямлі. Кожны, асабліва ў дзяцінстве, юнацтве, зведаны куток выклікае своеасаблівы настрой, які потым, калі садзішся пісаць, перарастае ў адпаведную музыку, у тое, што тэарэтыкі называюць стылем. Гэты настрой падобны да стану, які бывае ў закаханага, таму падрабіць яго нельга. Гэта святое трапятанне душы, ураджанай прыгажосцю свету і таямніцамі, якія ў гэтай прыгажосці адкрываюцца. Добра, што Шолахаў напісаў «Ціхі Дон» у маладым узросце, калі яшчэ не растрачаны сілы душы, здольнай да самага глыбокага перажывання. Нават перарваўшыся для «Узворанай цаліны», таксама выдатнага твора, насычанага той жа сыноўняй любоўю да роднага стэпу, ён здолеў ад першай да апошняй кнігі пранесці замілаванне да роднага краю, узняўшы заключную частку эпапеі на высокую трагічную ноту.

Маладосць відушчая. Многія вялікія творы сусветнай літаратуры напісаны іх аўтарамі, калі яны былі вельмі маладыя. З айчыннай літаратуры ў гэтай сувязі варта ўспомніць Пушкіна і Лермантава. Янка Купала напісаў «Курган» у дваццаць восем гадоў, а «Паўлінку» — у трыццаць.

Многае здзіўляе ў «Ціхім Доне». Можна адносна лёгка зразумець, чаму так дакладна Шолахаў выпісаў казацкі побыт, норавы, характары — сам жыў у станіцы, няхай сабе і на становішчы іншагародняга. Але вось ён апісвае сям'ю купца Мохава, памешчыка Лісніцкага, салдацкі, афіцэрскі побыт у акопах і зямлянках першай сусветнай вайны, г. зн. карціны і псіхалагічныя з'явы, якіх непасрэдна не бачыў і не мог бачыць. Адкуль жа дасведчанасць і дакладнасць у па-

казе гэтых невядомых пісьменніку пластоў жыцця?

Тут мы маем справу са здольнасцю геніяльнага мастака паглыбіцца, улавіць дух той ці іншай эпохі, часу. Міхаілу Шолахаву спявала рэвалюцыя. Яе ідэю ён успрыняў амаль у дзіцячым узросце, і менавіта яна дапамагла яму разгледзець тое, што рабілася ў самых разнастайных станах і лагерах напярэдадні і ў час грамадзянскай вайны. Вядома, маладому пісьменніку сваціў вопыт асабістага ўдзелу ў барацьбе з контррэвалюцыяй — ён быў прадатрадчыкам і чонаўцам,— шмат у чым дапамагалі расказы былых казакаў, якія ўдзельнічалі ў імперыялістычнай і грамадзянскай вайне, архіўныя дакументы, сведчанні. Але вызначальным у тытанічным творчым акце, які ён здзейсніў, быў магутны талент, прыродная здольнасць слухаць і разумець рэвалюцыю. Відаць, не станем мы спрачацца наконт таго, што было шмат іншых людзей, якія больш за Шолахава бачылі схватак і боек рэвалюцыі, аднак жа «Ціхага Дона» не напісалі.

Хачу сказаць яшчэ аб тым, што пісьменнікам, якія прыходзяць у літаратуру ўслед за такімі магутнымі талентамі, як Шолахаў, нялёгка працаваць. Сілавое поле прыцягнення такіх талентаў надзвычай адчувальнае, і, каб захаваць творчую самастойнасць, уласную арбіту, таксама трэба немалыя сілы.

У «Ціхім Доне» Шолахаў бліскуча, напрыклад, абмаляваў, раскрыў тры жаночыя тыпы — Наталлі, Аксінні і Дар'і, якія па сваёй чалавечай прыродзе вельмі многае гавораць увогуле пра жанчын, пра жаночае каханне. Пасля Шолахава адкрыць у народным асяроддзі тыпы падобнай велічы, сілы, страсці стала проста немагчыма. Ва ўсякім выпадку, у бліжэйшым гістарычным абсягу.

Міхаіл Шолахаў глыбока ўспрыняў гуманістычныя запаветы класічнай рускай літаратуры, якая вучыла бачыць чалавечае ў чалавеку. Некаторыя пісьменнікі захапляюцца ў апошні час так званай сітуацыяй «выбару». Прычым выбар свой іхнія героі робяць, як кажуць, «пад заслону». Што адбылося з героямі пасля таго, як яны зрабілі рашучы, няправедны крок, мы не ведаем. Але, ідучы такім шляхам, можна прыйсці да непажаданых вынікаў, якія мяжуюць з няве'ем у чалавека, у яго духоўныя сілы і магчымасці.

Як існуе літаратура, чалавек у ёй няўхільна ро-

біць выбар паміж дабром і злом, сіламі цемры і прагрэсу. Праблему выбару ў шырокім разуменні слова ўвасабляюць вобразы Дон-Кіхота і Санча Пансы, Фаўста і Мефістофеля, П'ера Бязухава і Анатоля Курагіна, Алёшы і Івана Карамазавых.

Грыгорый Мелехаў у «Ціхім Доне» таксама робіць выбар. Гісторыя яго кіданняў паміж двума варожымі станамі якраз і вызначае асноўны стрыжань шолахаўскай эпапеі. Прырода адчайнай мітусні Грыгорыя зразумелая: за ёй стаяць шматлікія сацыяльныя і іншыя складаемыя незвычайнай, у многіх адносінах выдатнай, яркай натуры. Мы не можам ненавідзець Грыгорыя перш за ўсё таму, што добра яго разумеем. Наадварот, мы спачуваем яму, шкадуем, бачачы, як траціцца чалавечае ў чалавеку, як завельмі позна дасягае герой жаданага берага. У дадзеным выпадку абставіны, прывітыя звычкі мацней за чалавека — і нараджаецца трагедыя. Але ў шолахаўскай трагедыі гучыць магутны аптымістычны акорд: рэвалюцыя рабілася менавіта для такіх, як Грыгорый, ды дарога яе была крывавая, жорсткая, і не ўсе маглі знайсці правільны жыццёвы кірунак.

Шолахаў вучыць нас любіць чалавека, верыць у яго сілы, магчымасці, у высокае яго прызначэнне, у тое, што ўсё ён адолее і пераможа, якія б цяжкія выпрабаванні ні стаялі на яго шляху.

*1975*

## СКВОЗЬ ВРЕМЯ

Тридцать лет — недолгий с исторической точки зрения, но чрезвычайно насыщенный важными событиями отрезок времени — отделяет нас от 9 мая 1945 года. Это главная дата последнего тридцатилетия. Она записана навечно в истории нашей страны, всего человечества. Она озарила все эти тридцать лет, пролегла сквозь них важнейшей — политической, социальной, нравственной — путеводной нитью. Героизм советского народа, высокая мудрость политики Коммунистической партии помогли нам с честью выдержать самые тяжелые испытания, отстоять свои идеа-

лы, утвердиться в качестве великого народа-победителя.

Война запечатлелась и до сих пор остается в сознании ее участников и современников как особое, ни с чем не сравнимое состояние духа. В то время мы предельно лично воспринимали происходящее. С самых первых дней тревожным набатом, болью отдавалось в душе: беда, огромная беда. Фашисты пришли на нашу землю, мы сдали Смоленск, Орел, Брянск... На территории оккупированной Белоруссии, в подпольных группах, в партизанских отрядах любая весть с переднего края переживалась особенно обостренно. Мы оказались по ту сторону фронта. Боролись как умели, делали все возможное, чтобы помочь остановить врага. И все жили чувством единения и причастности к общему. Помню, как волновала нас драматическая судьба Харькова. Я столько думал об этом городе, с такой жадностью добывал каждую новую весточку о нем, словно он мне родной, кровная часть моей собственной жизни. И позже, в сорок третьем, когда до нас донеслись известия о событиях под Курском, Орлом и Белгородом, мы переживали удивительный подъем духа, чувствовали, что история творится на наших глазах, что близятся огромные, решающие события.

Состояние личной причастности к общему сохранилось в нас, современниках и участниках войны, навсегда. До сих пор съезжаются, встречаются бойцы Великой Отечественной, ветераны, партизаны, рядовые солдаты и военачальники. Вспоминают минувшие дни: кто где сражался, когда было особенно трудно, когда впервые ощутили торжество приближающейся победы... География и история войны обширны. На ее карте много больших и малых рубежей. И те места, где воевал, где боролся, остались для тебя столь же близкими, как родной дом, а может, и ближе. Вместе с вечной памятью о героическом подвиге советского народа сохранятся нравственные уроки эпохи небывалых испытаний и взлетов человеческого духа: ощущение единства, слитности каждого с важнейшими событиями века. Запечатлеть, раскрыть эти уроки, донести до будущих поколений оказалась призванной наша многонациональная советская литература.

Литература с первых дней войны была мобилизована, как солдат. Писатели просто воевали и воевали

словом. Шли в бой, работали во фронтовой и партизанской печати. И создавали литературу, горячо, непосредственно откликавшуюся на самую важную для всех тему. Литературу не просто нужную, но кровно, жизненно необходимую.

В то время печатное слово воспринималось по-особому — ждали, жадно ловили любое новое известие с фронта, газеты буквально зачитывали до дыр. И совершенно исключительную роль играло наше советское печатное слово на оккупированной территории, среди подпольщиков, в партизанских отрядах. Если с Большой земли попадали к нам газеты, брошюры, книги, то их читали как молитву, передавали из рук в руки, пересказывали, перечитывали по множеству раз. Каждый листок «оттуда» считался святыней.

Помню, к нам в партизанский отряд не то была заброшена с самолета, не то прислана с какой-то десантной группой тоненькая книжечка, видимо, изданная специально для нас, тех, кто был за линией фронта. Рассказы Александра Довженко. Один из них назывался «Ночь перед боем». Сюжет бесхитростный. Двое стариков перевозят бойцов на левый берег Десны, говорят им, чтобы скорей возвращались назад, прогнали фашистов, иначе много крови прольется: «Да не только вашей, солдатской, а и материнской, и дитячей крови...» Сама интонация, сами слова, их смысл имели большую силу воздействия. Они оказались созвучны тому, что переживали и фронтовики, и те, кто жил под властью оккупантов, воспринимались как наказ, призыв. Довженко в простой, доходчивой форме сказал о трудной правде времени, но одновременно угадал будущее, увидел перспективу, отразил неугасимость надежды и несломленность веры в победу даже в самый трудный час. И наш командир отряда постоянно носил эту книжку с собой, читал про себя и вслух, много раз перечитывал. Читал вечерами в деревнях, если была возможность засветить лампу, читал в лесу на привалах... Я этот факт, можно сказать, «прямо из жизни» перенес в свой роман «Сорок третий».

Потом, когда я уже был на фронте, то, помню, с такой же жадностью и захватывающим интересом мы читали и перечитывали статьи Ильи Эренбурга. Газету с его очередной статьей ждали, как хлеба.

А песни военных лет? Ведь жизнь, атмосфера того

времени неотделимы в нашей памяти от величественного гимна «Вставай, страна огромная...», от лирических, задушевных «Землянки» и «Жди меня». Интимная лирика была нужна не меньше, чем патетика. Люди жили общенародным, но личные чувства только обострились, еще теснее связывали бойцов с родной землей, с домом, с теми, кого мы защищали своей кровью. Песня, стихи буквально стали первостепенной духовной потребностью людей.

Книги воевали. Стихи сражались. На фронте. В партизанской «глубинке». В кольце Ленинградской блокады, где в самые тяжелые дни звучали слова Джамбула «Ленинградцы, дети мои...», звучали призывные строки Ольги Берггольц. Литература Великой Отечественной, подобно ее солдатам, с честью выполнила свой долг. Конечно, если смотреть с точки зрения наших дней, то ясно, что многое останется в своем времени или сохранится лишь как историко-литературный факт, как документ. Но начало тому, что мы теперь называем военной темой в советской литературе с разными ее «пластами», поисками, проблемными и стилистическими разветвлениями, было положено тогда, когда писатели непосредственно на огневых рубежах отражали и выражали время. Уже в произведениях современников войны наметились те линии, которые стали более глубоко разрабатываться позже.

Такой большой поэт, как Аркадий Кулешов, еще в 1942 году в своей поэме «Знамя бригады» сумел передать не только боль и страдания людей, ведущих неравный бой, но и предчувствие неизбежной победы. Страшную правду об оккупации, о фашистских порядках, о трагических судьбах людей и могучем духе сопротивления рассказали «Непокоренные» Бориса Горбатова, «Радуга» Ванды Василевской. Мы сами знали о том, что делается на оккупированной территории. Но для тех, кто оставался в тылу, эти книги оказались откровением, прозвучали самым тревожным набатом. «Нашествие» Леонида Леонова отразило сложные человеческие судьбы, психологические переломы, трудные и трагические, показало их в теснейшем переплетении с событиями времени. «Дни и ночи» Константина Симонова впервые приоткрыли одну из страниц Сталинградской эпопеи, изобразив и фронтовые будни, фронтовой быт, извечные человеческие чувства,

немеркнущие и в трудный час. Потряс, поразил «Фронт» Александра Корнейчука, где была сказана большая и важная правда о войне, та правда, которую мы смутно чувствовали и раньше, но не понимали до конца, не могли тогда сами понять...

Я назвал произведения, наиболее запомнившиеся с тех пор, впервые прочитанные на войне и по сей день живо оставшиеся в сознании. Литература же непосредственно «фронтового» периода огромна. Наверное, еще предстоит здесь ряд новых открытий, воскрешение забытого, «восстановление справедливости». Были произведения, не имевшие громкой славы (например, некоторые вещи Кузьмы Чорного, Петруся Бровки, Михася Лынькова), но как бы предвосхищающие поиски послевоенного времени, намечающие те «точки», от которых литература шла уже после нового рубежа, в новых исторических условиях, в период иного нравственного и духовного состояния народа. После Дня Победы.

Предчувствие Дня Победы жило в душе каждого задолго до 9 мая 1945 года. Несмотря на особенно тяжелые последние бои, на самые обидные и кажущиеся уже нелепыми последние жертвы, все понимали: мы победили, выиграли самую тяжелую в истории человечества битву. Это было ни с чем не сравнимое, окрыляющее душу ощущение триумфа. Ожидание счастья. Все мечтали о возвращении на родину, которая после пережитого казалась особенно желанной и прекрасной. Позади осталось самое трудное. Ежеминутная угроза смерти. Тяжелый ратный труд. Окопные будни. Нечеловеческое напряжение. Одним выпадали на долю исключительные ситуации, когда человек выкладывался целиком, совершал невероятное. Другие знали только «обыкновенную войну» — окопы, долгие дни обороны, длинные дороги наступления. Каждый выполнял свой долг, стараясь остаться живым и боеспособным. И вот победа. Все причастны к важнейшему историческому повороту. Конец фашизму. Конец смерти, крови, беде. Огромный психологический перепад. Взрыв радости. Торжество.

Настроение приподнятости, всенародного, всечеловеческого переживания Победы принесло в нашу литературу волну возвышенной романтики. Самым характерным в этом отношении произведением мне кажутся «Знаменосцы» Олеся Гончара. И сюжет, и об-

разы героев, и сама словесная ткань здесь словно озарены особым светом, отличаются приподнятостью, возвышенностью. Это романтика Победы. Подобную тенденцию в решении темы войны отражает и «Глубокое течение» Ивана Шамякина. Романтичность работы разведки, особенные дела и особенные герои характерны и для «Звезды» Эммануила Казакевича, хотя она в этом смысле стоит несколько особняком.

Патетической симфонией, прославляющей героев реальных, взятых из жизни, прозвучала «Молодая гвардия» Александра Фадеева.

Возвышенный, лирико-романтический «пласт» военной прозы позже отозвался в литературе самым разнообразным эхом, возродился в новом качестве в целом ряде произведений. Процесс еще требует своего исследования.

И рядом с теми книгами, которые можно условно назвать лирико-романтическими, были вещи, раскрывающие суровый драматизм войны, ее будни, показывающие тяжелый ратный труд неприметных поверхностному взгляду героев. Одним из первых произведений такого рода, как мне кажется, явилась повесть Валентина Овечкина «С фронтовым приветом». В ней было предвосхищение того отношения к событиям, которое мы обрели несколько позже.

Иногда случались споры о превосходстве той или иной манеры в военной прозе, о плодотворности или неплодотворности разных аспектов изображения. Противопоставлялись произведения, которые можно отнести к пафосно-романтическим, тем, что рисовали трудные и суровые военные будни. Такие надуманные противопоставления опровергла сама литература. Да, на волне послевоенных настроений, романтически приподнятого мироощущения победителей возникали и легковесные книги, и схематичные, и проникнутые ложным пафосом. Были, однако, и такие, что — наоборот — не поднимались выше ползучей описательности. Но и те, и другие оказались однодневками. Они не могут служить аргументами ни в каком споре.

Сама война, материал войны настолько грандиозны, чрезвычайны, настолько богаты проявлениями героизма — исключительного и не всегда сразу заметного,— что открывают огромный простор для разнообразнейших творческих поисков, решений. Все опреде-

ляет мера достоверности, правды, искренности. Углубленности в материал, в факт, в духовный мир человека на войне. Там на каждом шагу переплетались обыденность и романтика, возвышенное и будничное, высочайшие нравственные взлеты и самые позорные падения. Любой этап развития военной темы в советской литературе в каждый период ее развития связан с философскими и психологическими исканиями писателей. С расширением и углублением правды о том периоде истории, который наш народ никогда не забудет.

Не случайно наиболее долгую жизнь в литературе о войне имеют те книги, авторы которых, попросту говоря, ничего не выдумывают. Пишут или о лично пережитом, или о фактах реальных, осмысленных и глубоко прочувствованных. Опираются на подлинный материал, всегда имеют его за текстом. Но это очень нелегкая работа.

Знаю, например, как долго Алесь Адамович подходил к своей первой прозаической книге «Война под крышами». Все, что там изображено, он сам испытал, видел, перестрадал. Но далеко не сразу материал дал начало роману. Сковывала боязнь впасть в схематизм, в ложный пафос, свойственные произведениям, легковесно решающим тему войны. Не сразу пришло единственно правильное решение: писать роман-хронику, искать романтику и героику в повседневности тех лет, раскрыть психологию людей, которые вели эту опаснейшую, изнурительную «войну под крышами».

Позволю себе сослаться и на собственный опыт. Все то, что я позже изобразил в своей трилогии («Сосна при дороге», «Ветер в соснах», «Сорок третий»),— часть моей собственной жизни. Я с шестнадцати лет пошел в наше, белорусское Сопротивление, в подпольную группу, которая вела разведку на железной дороге и передавала партизанам и десантникам данные о передвижении немецких эшелонов. Позже ушел в лес, в партизанский отряд. Воевал и на фронте. Но я прежде стал кандидатом филологических наук, чем писателем. А материал жил во мне, не давал покоя. Но преследовали та же боязнь схемы и легковесности, некоторая робость перед огромностью задачи, хотелось показать все, как было в реальности, ничего не упуская, не сглаживая трудностей, не обходя «больных» мест. Для нашего читателя, который в большинстве сам

помнит, сам многое пережил, литература о трагедии и героике военных лет имеет особое значение. И здесь не должно возникнуть ни ноты фальши, ни тени приукрашенности.

Все знают, что в Белоруссии погиб каждый четвертый житель. Все знают, что Хатынь у нас не единственная, сотни «огненных деревень» исчезли с лица земли. С первых же дней оккупации, когда немецкие войска прокатились по нашей республике, как внезапная и ужасающая лавина, у нас начали создаваться подпольные группы и партизанские отряды. Они постепенно действительно составили «второй фронт» Великой Отечественной. Обстановка была чрезвычайно сложной. Фактически существовало две власти. Немцы господствовали в городах, в больших местечках, на железной дороге, на крупных шоссейных магистралях. А глубинку контролировали партизаны. Здесь продолжали жить по советским законам, знали, что работают, действуют подпольные обкомы и райкомы нашей партии, что советская власть просто теперь существует в другой форме. Но оставалась и ничейная земля, безвластие. Трудности существовали и в самом партизанском движении. Не обходилось без конфликтов. Была и невероятная усложненность общественных, социальных отношений. Фашистами насаждались бургомистры и старосты. Тихий, незаметный человек вдруг с удовольствием и гордостью надевал мундир полицейского... Окруженцы, которые оседали здесь, вливались, в основном, в партизанские соединения. А были и такие, что шли служить оккупантам или власовцам. Пленные, бежавшие из неволи, люди, часто выбитые из колеи, сломленные происшедшим, нелегко находили правильную ориентацию... Человеческие отношения не укладывались в прежние представления. Не сразу можно было понять, кто свой, кто чужой. Почему один остался нашим и ушел в партизаны, несмотря на испытанную до войны несправедливость, а другой предал и продал, хотя в свое время получил от советской власти все, к чему стремился.

И еще оккупационный быт. Когда все равно надо было как-то жить, кормить детей, заботиться о хлебе насущном. И о соли. Ее катастрофически не хватало. И керосина. И мыла. И многого, многого другого. Быт опустился до уровня невиданной раньше примитивно-

сти. Буквально с опасностью для жизни добывалось самое необходимое. И все равно как-то жили.

Но в том-то и главное, что ни постоянная жесточайшая нужда, ни ежеминутная угроза смерти, ни сложность обстановки не сломили дух народа. И женщина из любого нашего села, которая должна была и хлеб-соль достать, чтобы дети не умерли с голода, и жила под недремлющим оком полицейского, и знала о судьбе сожженных деревень, погибших детей и стариков, не задумываясь, могла помочь партизанам. Такая женщина пережила не меньше, чем солдат на фронте. Она тоже по праву может считаться солдатом.

Соединить лично пережитое и то, что узнал позже, более зрелым взглядом оценить собственные впечатления и факт, добытый из документальных источников, далеко не сразу удается. Не вдруг находишь себя как писатель в материале, в жанре, в стиле.

Работая над трилогией, я стремился раскрыть как раз героику повседневной, далеко не всегда «громкой» борьбы народа за жизнь, за волю, за право на собственную историю, за право «людьми зваться». Стремился понять, проследить сложные мотивы человеческого поведения и поступков в чрезвычайных обстоятельствах времени.

И собственный писательский опыт тоже подсказал мне, насколько необъятно то, что мы называем военной темой, сколь непохожи могут быть пути ее воплощения.

Каждое новое поколение, входящее в литературу, так или иначе воспринимает сделанное предшественниками и идет дальше, принося что-то свое, ранее незнаемое. И каждое новое, заметное произведение может стать этапным, поворотным пунктом для целого литературного направления. Я не претендую на то, чтобы хотя бы приблизительно очертить этапы или наметить последовательность процесса в развитии военной темы. Просто хочу еще раз подчеркнуть, что тема эта неисчерпаема и с проблемно-тематической и с эстетической точки зрения. Сам материал породил литературу, крайне многообразную по аспектам изображения, жанрам, формам, стилистике.

Многие помнят, какой интерес в свое время вызвали первые повести Юрия Бондарева и Григория Бакланова. В них чувствовались новое прочтение войны, на-

пряженный драматизм, аналитичность. Была достоверность рассказанного очевидцем, участником, сплавленная с серьезным художественным переосмыслением темы.

Пришел в литературу Василь Быков. И, уже начиная с «Третьей ракеты», его творчество пользуется огромной популярностью, рождает споры, разноречивые суждения. Быков пишет человека на войне абсолютно по-своему, он пришел сложившимся мастером, с собственной, ни на кого не похожей манерой, видением, особой трагедийностью. Быков дает философию войны. Он показывает героя в исключительной ситуации, когда от его выбора и решения, от его духовных, нравственных, физических возможностей зависит все: один перед лицом огромной ответственности, перед лицом смерти. Быков поднимается над обыденностью, над «прозой» фронтовых будней, чтобы ярче высветить главное: человека, его душу, его способность к высокому порыву, к подвигу, к невозможному.

Новое поколение белорусских прозаиков — Иван Пташников, Борис Саченко, Иван Чигринов — увидело войну в новом аспекте. Опаленное всенародной бедой детство, оккупационная действительность, перевернувшая все прежние представления о добре и зле, героика партизанской борьбы... Писатели, конечно, разные. В «Тартаке» Пташникова заметны склонность к подробному показу переживаний героев, лирическая струя, связанная с сопоставлением жизни человека и жизни природы. Саченко стремится к напряженной трагедийности, к раскрытию катастрофических состояний сознания, потрясенного жестокостью и смертью («Последние и первые»). Чигринов в «Плаче перепелки» показывает жизнь белорусской деревни военных лет, всматривается в сложность человеческих отношений, не сторонится и изображения быта. Действие разворачивается на небольшом плацдарме. Но зоркость и точность взгляда, свойственные писателю, помогают и в малом увидеть большую правду времени.

В книгах о войне (если это хорошие книги) не может быть «большой» и «малой» правды. Трагедия одной деревни, уничтоженной фашистами, потрясает не меньше, чем величественная героика исторической битвы. Поэтому стоит мемориал Хатыни и звонят его ко-

локола. Возвышается фигура Родины-матери на Мамаевом кургане. Так и в литературе.

Эпопея, многотомный роман позволяют представить эпоху с самых разных точек зрения, дать ее развернутую панораму в пространстве и времени. Широкие прозаические полотна всегда являлись одним из самых трудных и ответственных жанров. Работу по их созданию тоже выполнила и выполняет советская литература, посвященная Великой Отечественной. Понятен тот огромный интерес, с которым встречены главы из романа Михаила Шолохова «Они сражались за родину», высокий зачин нового эпоса. Мы уже имеем такие удачные образцы романа-эпопеи, как «Живые и мертвые» Константина Симонова и «Блокада» Александра Чаковского. В них панорамность изображения сочетается с аналитичностью и психологизмом, дает возможность увидеть героев в самых сложных и разносторонних взаимосвязях с важнейшими историческими событиями эпохи.

Новые варианты прочтения темы войны в литературе связаны с углублением и расширением наших знаний о тех славных днях. «Никто не забыт, ничто не забыто...» — это стало лозунгом целого движения, приведшего к открытию неизвестных раньше фактов и героев. Такое движение буквально стало всенародным. В нем участвуют люди разных поколений, идут по следам событий, разыскивают живых свидетелей, записывают воспоминания, ищут документы. Из массы вроде бы локальных фактов складывается определенная картина, наносятся новые точки на карту нашей недавней истории. Особенно важно живое приобщение к памяти о подвигах отцов для нашей молодежи. Помогая реконструировать прошлое, юноши и девушки прикасаются и к самой нравственной и духовной атмосфере тех лет, грозных, возвышенных, незабываемых. А это имеет большую силу нравственного воздействия. И немые свидетели больших и малых сражений тоже могут сказать о многом. Неизвестная ранее братская могила, окопы и укрепления, полузаросшие землянки — здесь люди умирали за наше будущее, сражались, побеждали. Время стирает следы боев, а мы не имеем права забывать. Живые остаются в вечном долгу перед ушедшими.

«Никто не забыт, ничто не забыто...» И здесь лите-

ратура сделала большое дело, решила стать искателем, первооткрывателем. Писатели занялись поиском. Находили неизвестное, возвращали к жизни несправедливо забытое. Возникло направление очень своеобразной документальной прозы, когда автор книги становится и автором открытия новых фактов. Классический пример тому — «Брестская крепость» Сергея Сергеевича Смирнова.

Эта книга волнует своей абсолютной достоверностью, воздействует на сознание силой реального факта. За ним подлинное величие подвига советского солдата, совершающего в чрезвычайных условиях невероятное. Документ становится эпической трагедией.

Книги-поиски, книги-документы, созданные писателями, составляют очень своеобразную страницу художественной летописи Великой Отечественной войны. Совсем недавно появилась повесть трех авторов: Янки Брыля, Алеся Адамовича и Владимира Колесника, названная ими «Я из огненной деревни...». Писатели в течение нескольких лет ездили по деревням Белоруссии, записывали на магнитофонную ленту бесхитростные, страшные именно этой своей бесхитростностью «показания свидетелей» — рассказы людей, на глазах которых фашисты уничтожили сотни мирных жителей. Здесь каждое слово — вечное обвинение фашизму.

Движение и обогащение военной темы мы наблюдаем постоянно. Борис Васильев написал роман «В списках не значился», в котором по-своему «прочитал» одну из глав эпопеи Брестской крепости: советский солдат один сражается с гитлеровцами даже тогда, когда крепость стала вражеским тылом. Это произведение в чем-то продолжает тенденцию известной повести Васильева «А зори здесь тихие...». Тот же «негромкий» герой, которому ничто человеческое не чуждо, способный в критический момент на наивысшее напряжение сил.

Литература о героике и трагедии незабываемых лет расширяет свои горизонты и тематически, и художественно. Появляются произведения, которые сразу становятся событием.

В конце прошлого года мы прочли роман Владимира Богомолова «В августе сорок четвертого...». Его читали буквально все, говорили, спорили... Богомолов открыл совершенно новый аспект военной темы, рас-

сказал о том, что раньше, до него не было известно из литературы. Работа советской контрразведки, сложнейшая изнурительная и невероятно ответственная. Когда от успеха действий нескольких человек буквально зависит судьба крупнейшей военной операции, жизнь множества людей. Нет, это не детектив, как считают некоторые. Это все правда, подлинная правда войны. Подобные «детективы» возникали сплошь и рядом... Помню, в 1942 году к нам в лес заслали группу наших советских разведчиков-десантников. Мы, подпольщики и связные, конечно, не все про них знали. Но приходилось видеть всю необычность их работы, постоянную игру с врагом и со смертью, наблюдать примеры нелегкого искусства конспирации. Их дела и действия никому тогда не казались чем-то необычным. Понимали: так надо и иначе нельзя.

Роман Богомолова «В августе сорок четвертого...» интересен еще и тем, что он расширил наши представления о психологии человека на войне, о мере ответственности каждого за успех общего дела. В художественном отношении произведение это представляет собой органический сплав самых, казалось бы, разнородных элементов: драматизма, документализма, углубленного психологического анализа. Тоже открытие — творческое, эстетическое.

Октябрьская социалистическая революция и Великая Отечественная война — главные события нашего века. Поэтому к ним не ослабевает интерес. И каждое новое поколение осваивает и будет осваивать дальше их непреходящий исторический опыт. Их нравственные и духовные уроки. О Революции и Войне будут писать всегда.

На состоявшемся недавно в Минске Всесоюзном совещании, посвященном теме «Бессмертный подвиг народа в Великой Отечественной войне и советская литература», первый секретарь ЦК Коммунистической партии Белоруссии П. Машеров сказал: «Война показала не только силу и превосходство нашей общественно-политической системы и военной организации. Она убедительно подтвердила духовное, идейно-моральное превосходство советских людей над захватчиками. Со всей полнотой и убедительностью проявилась неодолимая сила марксистско-ленинской идеологии, прошло проверку огнем и кровью боевое и трудовое интерна-

национальное содружество и братство советских народов. Целиком и полностью подтвердилась правильность и высокая действенность довоенной работы партии по патриотическому, интернациональному, идейно-моральному воспитанию трудящихся. И это для нас, разумеется, не только исторические реликвии, которые составляют предмет общесоветской гордости. Идейные, моральные уроки войны, самые глубинные истоки нашей победы — и сегодня богатейший, ценнейший, ничем не превзойденный материал для формирования людей новой формации, людей коммунистического склада».

О Великой Отечественной еще многое не сказано. Необъятен материк этой темы. И не только с точки зрения материала и факта. Жизнь, любовь, смерть — вечные философские проблемы литературы. В условиях войны человек раскрывается до конца, проявляет свою истинную сущность. Добро и зло, правда и ложь предстают в своем первозданном и окончательном виде. Слетает ложная романтика и становится явной настоящая, глубинная. Человек лицом к лицу сталкивается не только с собой, подлинным, но с такими вечными понятиями, как долг, свобода, выбор, гуманизм. И тут неиссякаемый источник для социальных, нравственных раздумий, для творческих исканий. Герои военной поры остаются для нас еще совсем живыми, реальными. Подобно тому, как для поколения ветеранов гражданской войны был жив Чапаев, воссозданный в одноименном романе Дмитрия Фурманова, так и для нас реальны, близки Зоя Космодемьянская, бойцы «Молодой гвардии» и Брестской крепости, главный герой «Повести о настоящем человеке» Бориса Полевого. Их жизнь и подвиг служат примером, волнуют, вдохновляют.

Тридцать лет прошло с тех пор. Жива память, живут в литературе герои, горит в наших душах неугасимый огонь славных, героических лет.

*1975*

# ЛІТАРАТУРА І НТР

## 1

Калі мы сёння гаворым пра героя сучаснасці, духоўны воблік якога яшчэ толькі складваецца, знаходзіцца ў руху, у дынаміцы, паўстаючы перад намі паасобнымі рысамі, праявамі, то мы маем на ўвазе перш за ўсё новы сацыяльны тып, які найбольш поўна ўвасабляе ў сабе тэндэнцыі нашага сучаснага развіцця. Формы гарадскога жыцця, індустрыяльнай працы распаўсюджваюцца і на вёску, захопліваючы ў сваю арбіту новыя і новыя абсягі.

Вядома, сучаснасць — вельмі складаная тэма, у ёй як бы сканцэнтраваны яшчэ не зведаныя, не асэнсаваныя аб'екты, канфлікты, калізіі, характары. Наша літаратура хоць і марудна — марудней, чым гэта хацелася б бачыць,— але даволі паслядоўна імкнецца выявіць багацце, разнастайнасць сацыяльна-псіхалагічных, маральна-этычных працэсаў, якія вызначаюць сённяшні дзень і перспектыву развіцця дня заўтрашняга. Цяжкасць у тым і заключаецца, што формы жыцця надзвычай зменлівыя, рухомыя, яны з кожным годам усё больш ускладняюцца, пісьменніку нялёгка ўгнацца за «днем бегущим», даць назву, мастацкую «прапіску» новым з'явам, працэсам, асэнсаваць тое, што мы называем духоўным кліматам грамадства. Рытм, дынаміка нашага часу якраз і вызначаецца праблемамі навукова-тэхнічнага прагрэсу, які ў канчатковым выніку прыводзіць да новых сацыяльных зрухаў, абумоўлівае сабой маральна-псіхалагічныя змены. Узнік новы змест працы, яна чым далей, тым больш падмацоўваецца магутнасцю тэхнікі, робіцца больш складанай, набываючы рысы большай калектыўнасці, сацыяльнасці. Можна паставіць пытанні: колькі земляробаў замяняе, скажам, трактар ДТ-54 і колькі землякопаў — самаходны экскаватар? Як і што адчувае чалавек, які кіруе гэтай тэхнікай? Можна без нацяжкі сказаць, што трактарыст і экскаватаршчык выраслі як асобы ў параўнанні з тым даўнім земляробам, што хадзіў за плугам, падганяючы коніка, і землякопам, адзінай тэхнікай якога была рыдлёўка.

Эпоха навукова-тэхнічнай рэвалюцыі ва ўсім свеце ўзмацніла попыт на веды, адукаванасць, дзелавітасць.

Ва ўмовах сацыялістычнага жыцця ў дадатак да гэтага ўзрастаюць і палітычныя, маральна-этычныя патрабаванні да чалавека, якога мы называем сучаснікам. Мы ўсё больш і больш пачынаем разумець, што адукаванасць, нават дзелавітасць аказваюцца паняццямі даволі нейтральнымі, калі яны не апіраюцца на камуністычную свядомасць і перакананасць, калі асабістыя клопаты не спалучаюцца з грамадскімі, агульнанароднымі, агульнадзяржаўнымі. На этапе сённяшняга развіцця сацыялістычнага грамадства з яго ўсясіллем навукі, тэхнікі ўсё больш высвятляецца, што камуністычная мараль, якая ўбірае ў сябе і лепшыя агульначалавечыя маральныя нормы, вызначаецца грамадзянскай актыўнасцю, грамадскай свядомасцю асобы, робіцца магутным стымулам не толькі сацыяльнага, а і эканамічнага і навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Гадоў дзесяць назад украінскі пісьменнік А. Лявада напісаў фантастычны твор — трагедыю «Фаўст і смерць» — аб двух вучоных, якія канструююць найскладанейшыя міжпланетныя караблі. І вось у часе касмічнага палёту, калі астранаўт быў за мільёны кіламетраў ад Зямлі, несучыся ў міжзорны сусвет, раптам высвятляецца, што ахоўнае прыстасаванне карабля як трэба не спрацавала. Памылка паслужыла прычынай пагібелі астранаўта-першапраходца і як бы непасрэдна перайшла са свядомасці вучонага, эгаіста, сябелюбца, які ніколі не ўмеў шырока мысліць, клапаціцца пра іншых, у канструкцыю.

Вядома, толькі ў фантастычным творы можна так катэгарычна гаварыць пра сувязь маральна-этычных пачаткаў і навукова-тэхнічнага прагрэсу. Але сувязь такая ёсць. Іншая справа, што яна вельмі складаная, дыялектычная, і сучасная літаратура яшчэ толькі прыглядаецца, толькі намацвае надзвычай тонкія ніці гэтай сувязі.

Сучасная беларуская літаратура ў яе лепшых здабытках вельмі наблізілася да чалавека працы, паглядзела на свет яго вачамі, і такі пагляд даў надзвычай вялікі плён. Можна, аказваецца, з пляцоўкі, якая ў раманах Івана Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» называецца палескай вёскай Курані, убачыць увесь свет з яго радасцямі і трывогамі, прыкметы таго, што толькі нараджаецца, можна высветліць сувя-

зі, якія яднаюць дзень сённяшні з днём учарашнім і заўтрашнім. Сучаснасць у такім разуменні — не голая надзённасць, пазбаўленая шырыні гістарычнага пагляду і адчування перспектывы.

Як пісаў некалі Кузьма Чорны, сучаснасць убірае ў сябе гісторыю, бо гісторыя знаходзіць увасабленне ў норавах, звычках, характарах сучаснікаў. Уключае яна і будучыню, бо тое, што шырока запануе заўтра, нараджаецца сёння. Сучаснасць у добрым мастацкім творы не можа не асэнсоўвацца на фоне гістарычнага, сацыяльнага вопыту народа, пройдзеных ім дарог, ажыццёўленых ідэалаў і здзяйсненняў.

Як літаратар, я задаю сабе пытанне: ці здолела наша сучасная мастацкая творчасць адлюстраваць працэс сацыяльнага пераўтварэння жыцця, росту асобы, пачынаючы хаця б з таго, вядома, умоўнага пункту адліку, на якім у 30—40-я гады, калі можна так сказаць, спыніліся класікі беларускай літаратуры Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны? Думаю, здолела. Толькі за апошнія дзесяць — дванаццаць гадоў нарадзілася некалькі твораў, прысвечаных вузлавым, пераломным этапам у сацыяльным жыцці нашага грамадства, якія ў канчатковым выніку абумовілі перамены псіхалагічныя. Я маю на ўвазе раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» Івана Мележа, «Плач перапёлкі» Івана Чыгрынава і «Мсціжы» Івана Пташнікава. Напісаныя ў рознай манеры, з розным узроўнем майстэрства, творы гэтыя як бы пераворваюць вялікія жыццёвыя пласты ў даволі паслядоўным гістарычным разрэзе. Раманы Івана Мележа — аб вёсцы сярэдзіны і канца 20-х гадоў, кніга Івана Чыгрынава расказвае пра сельскі люд у першыя, самыя цяжкія месяцы Вялікай Айчыннай вайны, раман Івана Пташнікава прысвечаны сучаснай вёсцы.

Васіль Дзяцел, герой мележаўскай «Палескай хронікі», не ўяўляе сабе жыцця без кавалка ўласнай зямлі, якім надзяліла яго Савецкая ўлада. Усе думкі, імкненні, усе сілы сваёй даволі багатай натуры аддае ён, па сутнасці, дзеля таго, каб надзейна забяспечыць уласны дабрабыт, і іншага шляху, як толькі валоданне асабістай палоскай тлустай зямлі «каля цагельні», не бачыць.

Іван Чыгрынаў пачынае свой раман з паказу вёскі, што па меншай меры гадоў дзесяць пражыла калгас-

ным жыццём. Якія дзівосныя перамены адбыліся за гэты вельмі кароткі час з вясковымі людзьмі, у іх адносінах да жыцця, пераконаннях, поглядах, у тым маральным мікраклімаце, што запанаваў у вёсцы. Тут і паміну няма пра чалавека, які б хоць аддалена нагадваў Васіля Дзятла з мележаўскай хронікі. Не пра асабістую зямлю і ўласнасць дбаюць верамейкаўцы перад варожай навалай. Псіхалагічнага аднаасобніка ў рамане Чыгрынава няма, ён знік, кануў у нябыт, і гэта самае галоўнае ў творы.

Герой рамана Івана Пташнікава «Мсціжы» леспрамгасаўскі конюх Андрэй Вялічка, які пакуль што жыве і працуе ў вёсцы, з тым жа поспехам мог жыць і працаваць у горадзе, на прадпрыемстве. І калі ён не едзе з леспрамгасам на новае месца, «пад Полацк», то толькі таму, што ўтрымліваюць яго родныя партызанскія зямлянкі, магіла любімай жонкі, карацей кажучы, памяць сэрца.

Вось тая асноўная лінія сацыяльных, псіхалагічных перамен, якой не ўпусціла з поля свайго зроку беларуская літаратура. У сваю чаргу гэта сведчыць пра яе мастацкую сталасць, здольнасць вырашаць новыя творчыя задачы.

2

Калі гаварыць пра мастацкае мысленне, то нельга сказаць, што ў адным творы яно гарадское, у другім — сельскае і г. д. Мастацкаму бачанню свету ўласцівая універсальнасць, і ў першую чаргу яно залежыць ад сацыяльных, грамадскіх умоў жыцця, маральных, этычных, эстэтычных каштоўнасцей, характэрных для дадзенай гістарычнай рэчаіснасці. Зноў жа маральна-этычныя катэгорыі, эстэтычныя ідэалы характарызуюцца адноснай устойлівасцю, нязменнасцю, таму, скажам, мы можам зразумець літаратуру старажытных грэкаў, узнікненне якой адмежавана ад нашага часу двума і нават трыма тысячагоддзямі.

Такім чынам, прагрэс у галіне жыцця духоўнага не зусім супадае з прагрэсам тэхнічным. Найбольш кансерватыўнай сферай аказваюцца маральна-этычныя катэгорыі. Вядома, са зменай грамадскіх фармацый, абставін сацыяльнага жыцця змяняюцца і яны. У сацыялістычным грамадстве выступаюць як анахранізм некаторыя маральныя нормы, прывітыя працоўнаму

чалавеку вякамі рабскага, паднявольнага існавання. У той жа час многія маральна-этычныя катэгорыі, апрабаваныя чалавекам яшчэ на заранку яго грамадскага, сацыяльнага бытавання, так званыя агульначалавечыя маральныя нормы, арганічна ўваходзяць у маральны кодэкс будаўнікоў камунізма.

Устойлівасцю вызначаюцца і эстэтычныя нормы. З далёкіх дзён сівой мінуўшчыны, калі чалавек, па нашых сённяшніх мерках, быў тэхнічна бездапаможны, бо валодаў толькі сакрэтамі рычага, ведаў кола, карыстаўся лукам, катапультай, і да нашага часу, калі сталі магчымымі касмічныя караблі і іншыя цуды тэхнічнага прагрэсу, здзяйсненне подзвігу патрабуе мабілізацыі ўсіх духоўных сіл чалавека. І ў антычныя часы, і сёння пад подзвігам разумеюцца такія паводзіны чалавека, калі ў імя пазаасабістых мэт, дзеля шчасця іншых людзей ён здольны ахвяраваць уласным жыццём.

Адным словам, нельга чакаць, што навукова-тэхнічная рэвалюцыя істотна зменіць прыроду мастацтва. Такое не здарыцца. Тэхнічная рэвалюцыя мае вынікі сацыяльныя, маральна-этычныя і потым ужо закранае сферу эстэтычную.

І ўсё ж магутныя тэхнічныя зрухі ўплываюць на мастацтва. «Камунізм ёсць Савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны»,— пісаў Ленін. Захапленне тэхнікай і ў сувязі з гэтым творчымі магчымасцямі савецкага чалавека спадарожнічала развіццю беларускай паэзіі, асабліва ў 20-я і 30-я гады. На першым часе гэтае захапленне было пафасным, услаўленне ўзброенага тэхнікай рабочага і селяніна выступала як першаадкрыццё, але пастулова тое, што мы называем тэхнічным прагрэсам, стала звычайнасцю. З якім трыумфам, напрыклад, уваходзілі ў літаратуру трактар, сама прафесія трактарыста! Нездарма ў 30-я гады Аркадзь Куляшоў звяртаўся да трактарыста як да нейкай гістарычнай асобы, напісаўшы «Першую гутарку з трактарыстам Анісам», затым «Другую гутарку». Сёння літаратура, паказваючы вёску, не абмінае, вядома, ні трактара, ні трактарыста, але ўжо ў іншым кантэксце. Усё гэта стала жыццёвай рэальнасцю, дастаткова зведанай, асэнсаванай, і служыць для выяўлення сацыяльных і маральна-этычных праблем, характэрных для сённяшняга вясковага жыцця.

Што да касманаўтаў, то ў паэзіі найбольш пашанцавала першаадкрывальніку — Юрыю Гагарыну. Пра астатніх жа, хоць іх подзвігі былі не менш бліскучымі, не толькі паэм, нават пранікнёных вершаў не ўзнікала, калі не лічыць вершаванай публіцыстыкі на тэму дня.

Факты навуковага, тэхнічнага прагрэсу паступова ўваходзяць у сферу мастацкай свядомасці, замацоўваюцца ў ёй, выклікаюць пэўныя зрухі, не мяняючы, аднак, асноўнага — прызначэння мастацтва служыць выяўленню духоўнага клімату грамадства, духоўнага патэнцыялу чалавека. Літаратура, мастацтва — вельмі чуйныя рэгістры, яны здольны ўлоўліваць самыя тонкія зрухі ў сацыяльных, маральна-этычных аспектах грамадскай і індывідуальнай псіхалогіі.

Можна сказаць, што ні адна больш-менш прыкметная з'ява сучаснага духоўнага жыцця не застаецца па-за ўвагай літаратуры і мастацтва. Раней ці пазней яна становіцца аб'ектам мастацкага асэнсавання, увасабляючыся ў характарах і канфліктах апавядання, п'есы, рамана. I ў той жа час для нас, скажам, відавочна, што беларуская літаратура адстае ў мастацкім асваенні рэчаіснасці, народжанай імклівым індустрыяльным развіццём; мы не маем значных твораў пра фабрычныя, заводскія калектывы і г. д. Ці стасуецца гэта з вышэйсказаным аб мабільнай здольнасці мастацтва адгукацца на вострыя, надзённыя праблемы сучаснасці?

Справа, відаць, вось у чым. Тое, што мы звычайна называем духоўным кліматам, індывідуальнай, грамадскай псіхалогіяй, нагадвае па структуры вядомыя з фізікі злучаныя сасуды, узровень вадкасці ў якіх заўсёды аднолькавы. Пісьменнік, мастак можа адкрыць новую тэму, не асветлены, не апісаны яшчэ жыццёвы востраў. Але гэта не азначае, што праблемы, якія ён будзе вырашаць на новым матэрыяле, будуць насіць цалкам аўтаномны характар і не паўторацца ў другіх па-мастацку асвоеных пластах жыцця. Гутарка ідзе пра тое, што вострыя сацыяльныя і маральна-этычныя праблемы, якія наспелі ў грамадстве і, так сказаць, самім жыццём пастаўлены на парадак дня, так ці інакш выяўляюцца літаратурай, незалежна ад таго, вясковую, грамадскую ці нават гістарычную тэму пісьменнік распрацоўвае. Менавіта так можна праецыраваць

на мастацтва закон аб злучаных сасудах. Калі Іван Мележ напісаў «Палескую хроніку», паставіўшы ў цэнтр увагі праблему сацыялістычнага гуманізму, намаляваўшы ў процівагу такім кіраўнікам, як сакратар райкома Башлыкоў, як арганізатар калгаса ў Куранях Міканор, вобраз старшыні райвыканкома Апейкі, кіраўніка ленінскага тыпу, удумлівага і чалавечнага, то праблема гэтая знаходзілася ў сілавым полі пошукаў усёй савецкай літаратуры 60-х гадоў. Ад таго, што Мележ вырашаў праблему на матэрыяле жыцця палескай вёскі 20 — пачатку 30-х гадоў, а другія пісьменнікі на іншым матэрыяле, справа істотна не мянялася.

Вядома, кожны адрэзак сацыяльнай, гістарычнай рэчаіснасці вылучае свае ўласныя праблемы. Сённяшняя творчая практыка паказвае, што вытворчы канфлікт зноў набывае ў савецкай літаратуры правы грамадзянства, робячыся канфліктам сацыяльным, маральным, які ўвасабляе ў сабе тэндэнцыі і супярэчнасці грамадскага развіцця. А яшчэ нядаўна чалавек, апрануты ў робу, чалавек ля станка ці ля доменнай печы, не надта красамоўны ў выяўленні пачуццяў, вуснамі некаторых крытыкаў быў як бы абвешчаны персонай нон грата ў літаратуры. Паступова складвалася перакананне, нібыта размова аб працоўных справах чалавека — аб'ект сацыялогіі, статыстыкі, газеты ці, у горшым выпадку, мясцкома і ніякім чынам не літаратуры. Усталяванню такой думкі спрыялі так званыя вытворчыя раманы, што цэлым касяком прайшлі па паверхні літаратурнай плыні 40—50-х гадоў, не пакінуўшы ў свядомасці чытача прыкметнага следу, творы неглыбокія, кан'юнктурныя, у якіх даследаванне сацыяльных, маральна-псіхалагічных канфліктаў падмянялася слізганнем па чыста вытворчых калізіях.

Стыль жыцця, які намеціўся ў краіне, асабліва пасля XXIV і XXV з'ездаў партыі, вызначаецца дзелавым, размераным рытмам, грунтуецца на прадуманым падыходзе да задач сусветна-гістарычнага значэння, на гуманістычным клопаце аб шчасці кожнага члена сацыялістычнага грамадства. Радасць адчування паўнаты жыцця, яго перспектыў, гарызонтаў немагчыма без усведамлення чалавекам асабістага ўкладу, які ён уносіць у агульную справу і які называецца працай, дзейнасцю.

## 3

Ёсць усе падставы гаварыць аб глыбокай перабудове грамадскай свядомасці, якая адбылася на працягу 50—60-х гадоў і якая азначае новую ступень духоўнай сталасці народа. «Калі правільна зразуметы інтарэс складае прынцып усёй маралі,— пісаў Карл Маркс у «Святым сямействе»,— то патрэбна, значыць, імкнуцца да таго, каб прыватны інтарэс асобнага чалавека супадаў з агульначалавечымі інтарэсамі».

За апошнія гады савецкая літаратура, тэматычна звязаная з жыццём горада, прамысловасці, навукі, як бы зноў прайшла шлях адкрыцця вытворчасці, эканомікі, навуковай дзейнасці з іх складанай сістэмай адносін, падпарадкаванняў, дзе сутыкаюцца не адсталы дырэктар і майстрам-наватарам, як нярэдка малявалася раней, а паказваецца лесвіца залежнасцей са значна большай колькасцю ступенек. У ліку такіх твораў варта назваць раман У. Папова «Здабудзеш у баі», п'есы А. Салынскага «Марыя», І. Дварэцкага «Чалавек з боку», Г. Бокарава «Сталявары» і іншыя. Раманы І. Шамякіна «Атланты і карыятыды» і мінскага інжынера А. Каштанава «Заводскі раён» насычаныя праблемамі, якія паказваюць сучаснасць, імкліവае развіццё навукова-тэхнічнага прагрэсу, таксама належаць да гэтай плыні.

Відаць, не выпадкова адносіны, канфлікты, характары людзей ва ўмовах НТР прыцягнулі перш за ўсё ўвагу драматургаў, якія апярэдзілі прозу. Па прыродзе сваёй тэатр заўсёды чуйна адгукаецца на патрэбы часу, а названыя п'есы, з'яўляючыся, па сутнасці, творамі публіцыстычнымі, нагадваюць першую пристрэлку, разведку боем. Вытворчы канфлікт у пералічаных п'есах замест выпадковага непаразумення адносна якой-небудзь тэхнічнай навацыі напоўніўся сацыяльным зместам, увасабляе істотныя прыкметы духоўнага, грамадскага жыцця.

У п'есах І. Дварэцкага «Чалавек з боку» і Г. Бокарава «Сталявары» гаворка ідзе аб новай якасці, патрабавальнасці, новым узроўні працы, неабходнасці паскараць навукова-тэхнічны прагрэс, удасканальваць стыль кіравання. У больш шырокім, сацыяльна-эстэтычным плане тут пастаўлена праблема фарміравання героя нашых дзён, які ўвасабляў бы ідэйна-маральныя

пошукі і імкненні грамадства. У цэнтры ўвагі абодвух твораў людзі справы: у п'есе «Чалавек з боку» — інжынер Чашкоў, у «Сталяварах» — сталявар Лагуцін.

Чашкоў, малады, але ўжо вопытны інжынер, запрошаны «з боку», каб вывесці з прарыву буйнейшы, абсталяваны найноўшай тэхнікай ліцейны цэх. Чалавек яркага тэмпераменту, ён не толькі выдатны спецыяліст, Чашкоў упарта адстойвае свае грамадскія, грамадзянскія пазіцыі ў разуменні рабочага абавязку, працоўнай дысцыпліны, адносін да даручанай справы. З упартасцю, нават жорсткасцю выступае ён супраць фальшывай дабраты, усёдаравання, прымірэнчых адносін да недахопаў, руціны, расхлябанасці. Чашкоў — за навуку кіраваць разумна, дзейсна, з поўнай аддачай. Рабочыя, гаворыць ён, «колькі разоў паказвалі энтузіязм. Ці не час нам навучыцца кіраваць імі? Чаму кіраваць павінны тыя, хто не ўмее кіраваць?»

Па сутнасці, такая ж максімалісцкая праграма і ў Віктара Лагуціна, героя п'есы «Сталявары». Ён супраць абывацельшчыны, самасупакоенасці, халтуры, ён лічыць, што вырашаць тэхнічныя праблемы здольны толькі людзі з высакаразвітым грамадзянскім пачуццём, «харошыя людзі». («Добра варыць сталь толькі добры чалавек»). Ворагі Лагуціна — прымірэнства, нізкая патрабавальнасць да сябе, занядбанне сапраўдных грамадскіх інтарэсаў, і яму з гэтымі ворагамі «добрым... быць абрыдзела».

П'еса «Чалавек з боку» абышла сцэны многіх тэатраў, карысталася нязменным поспехам у гледача, але яе галоўны вобраз, інжынер Чашкоў, выклікаў вострую палеміку.

У часопісе «Литературное обозрение» (1973, № 11) прыведзена выказванне Героя Сацыялістычнай Працы В. М. Кавуна, які доўгі час узначальваў славуты на Украіне калгас імя XXII з'езда КПСС. «...Цяперашні, сучасны кіраўнік,— піша Кавун,— не павінен быць «чалавекам з боку». І калі ў ім разам з цвёрдасцю характару няма душэўнай дабраты, калі ён толькі чуў ад кагосьці аб чуласці і добразычлівасці, то ці варта за яго падымаць руку?»

У літаратуры палеміка выяўляецца не толькі праз спрэчку кампетэнтных у той ці іншай жыццёвай галіне людзей. Кожны новы твор можа быць палемічным

у адносінах да папярэдняга, які закранае падобную ці блізкую тэму.

Новы раман Івана Шамякіна «Атланты і карыятыды» таксама прасякнуты подыхам часу — з аднаго боку імкненнем пісьменніка намаляваць ахопленага творчым энтузіязмам сучасніка, з другога — паказаць актыўнага, «дзелавога» кіраўніка. У шамякінскім рамане мы якраз маем справу з выпадкам, калі праблемы ў такой галіне, як горадабудаўніцтва, паўстаюць ва ўсёй складанасці. Справу аб размяшчэнні хімічнага комплексу вырашаюць гарком, абком, міністэрства, многія іншыя гарадскія і рэспубліканскія арганізацыі. Правамерна ці памылкова будаваць комплекс у прыгарадным, як бы падораным гораду самой прыродай зялёным масіве — пры вырашэнні гэтага пытання сутыкаюцца дзесяткі людзей. Раман Шамякіна «урбаністычны» ў лепшым сэнсе гэтага слова, ён дае матэрыял для роздуму над самымі надзённымі пытаннямі нашага сённяшняга — я хацеў бы падкрэсліць — пераважна гарадскога жыцця.

Сапраўды, хіба не паставіў імклівы поступ тэхнічнага прагрэсу на парадак дня праблему, калі ўсеўладдзе тэхнікі, тэхнічнае вырашэнне архітэктурных задач прыходзяць у супярэчнасць з развіццём гарадской архітэктуры як мастацтва.

Ніхто не стане адмаўляць, што з усіх відаў мастацтва архітэктура найбольш залежыць ад узроўню развіцця тэхнікі. Архітэктурны воблік будынкаў у значнай меры дэтэрмінаваны тэхнічным і тэхналагічным развіццём матэрыяльнай вытворчасці. І ўсё ж тэхніка адно, а мастацтва — другое. Паняцце «прагрэс» цяжка дапасаваць да мастацтва. Мастацкі твор кожнай эпохі ўяўляе сабой каштоўнасць, якую нельга пераўзысці, закрэсліць наступным выдатным творам. Хіба можна сцвярджаць, што мастакі эпохі Рэнесанса пераўзышлі мастакоў старажытнай Грэцыі ці што Кёльнскі сабор лепшы за рымскі Пантэон? Можна толькі сказаць, што Кёльнскі сабор нарадзіўся як вынік свайго часу, асяроддзя, яго можна і ацаніць, зыходзячы з умоў матэрыяльнай і духоўнай культуры сярэдневякоўя, якія ўвасобіліся ў ім.

Розніцу паміж тэхнікай і мастацтвам можна бачыць у тым, што рэнесансная фрэска не адмяняе егіпецкай, у той час як чалавека, які навучыўся кары-

стацца электрычнасцю, нават сілай нельга прымусіць вярнуцца да лучыны.

Усё гэта добра ведае і адчувае герой рамана Івана Шамякіна Шугачоў, здольны, нават таленавіты архітэктар, але, будучы чалавекам слабавольным, слабахарактарным, ён даволі пакорліва займаецца «дызайнам», г. зн. індустрыяльнай архітэктурай, у якой, вядома ж, не могуць праявіцца яго асоба, індывідуальнасць, талент.

Такім чынам, Шамякін у сваім рамане гаворыць аб выдатках НТР, аб тым, што некаторыя яе працэсы, такія, як тэхнізацыя мыслення, пашырэнне рацыяналістычнага погляду на свет, вузкі, абмежаваны практыцызм, здольныя прывесці і да нівеліроўкі асобы, страты ёю творчай арыгінальнасці, непаўторнасці. У рамане недвухсэнсоўна сцвярджаецца думка, што сацыялізм стварае намнога больш спрыяльныя ўмовы для развіцця навукова-тэхнічнага прагрэсу, чым якаянебудзь іншая грамадская фармацыя, але пісьменнік акцэнтуе ўвагу і на тым яшчэ, што ўмовы гэтыя трэба рэалізаваць, што на шляху паўсядзённага прагрэсу, практычнай дзейнасці нямала цяжкасцей, перашкод і што, зрэшты, многае залежыць ад чалавека, ад яго ўмення адстойваць сваю перакананасць, свае грамадзянскія, партыйныя пазіцыі.

Навукова-тэхнічны прагрэс у яго ўзаемаадносінах з сацыяльнымі, маральнымі працэсамі — вельмі складаная тэма, да якой літаратура толькі прыступае, толькі намячае пункцірныя лініі. Неасэнсаваных канфліктаў, калізій, нават характараў тут яшчэ шмат. Тым часам, як ужо гаварылася, перамены ў жыцці наступаюць імкліва, у сферы эканомікі, у галіне матэрыяльнай вытворчасці зрухі вынікаюць рэальныя і вельмі істотныя. Узнік новы быт фабрык, буйнейшых заводаў з іх шматтысячнымі калектывамі, своеасаблівым рытмам працы, не знанымі раней праблемамі. У сваю чаргу быт гэты сваім дзелавым ладам, маральным кліматам уплывае на ўчынкі, паводзіны, нарэшце, на псіхалогію рабочых, інжынераў, камандзіраў вытворчасці.

НТР пакуль не нарадзіла прыкметных з'яў у мастацкай літаратуры, але ёсць падставы спадзявацца, што народзіць. Чалавек па сваёй сутнасці больш стабільны, чым тэхніка, НТР — толькі частка жыцця; зыходзячы з гэтага, мастак павінен паказваць не рэва-

люцыю ў свеце машын, а жыццё чалавека з яго духоўным светам, імкненнямі, пачуццямі. І ў той жа час усё сённяшняе жыццё складваецца пад непасрэдным уплывам НТР.

Гэты ўплыў літаратура адчула. Ён датычыць перш за ўсё яе светаадчування, прыёмаў, характару яе мастацкага мыслення. Яшчэ ў 20-я гады лірычны герой з фантастычнай паэмы Міхася Чарота «Чырванакрылы вяшчун» аблятаў планету, назіраючы, як шырыцца ў розных краінах, на розных кантынентах справа, пачатая Кастрычніцкай рэвалюцыяй. То быў твор, непасрэдна народжаны Кастрычнікам, прадчуваннем агромністых сацыяльных, творчых магчымасцей чалавека, якія дасць яму разняволеная, падпарадкаваная яму тэхніка.

Сёння такі, па сутнасці, усеабдымны, «касмічны» пункт гледжання стаў у пэўнай меры ўласцівым для ўсёй савецкай і ў тым ліку беларускай паэзіі. Асабліва выразна ён выступае ў творчасці рускага паэта Андрэя Вазнясенскага. Гэта нібы позірк з арбіты касмічнага карабля, якім у адно імгненне аглядаюцца чалавечыя дзеянні на працягу вякоў, кантынентаў у сацыяльным і гістарычным разрэзе. Пашырэнне паэтычнага дыяпазону бачання, якое адчуваецца ў «Новай кнізе» А. Куляшова, у яго паэмах «Далёка да акіяна», «Цунамі», «Варшаўскі шлях», у вершах М. Танка, П. Панчанкі, Р. Барадуліна і многіх іншых беларускіх паэтаў, бясспрэчна, звязана з уплывам працэсаў НТР на жыццё, на светаадчуванне сучасніка, незалежна ад таго з'яўляецца гэта свядомым творчым прыёмам ці прадыктавана падсвядомымі імпульсамі. Мысленне, светаадчуванне сённяшняга чалавека пад уплывам НТР (а яна працягваецца, як лічаць сацыёлагі, ужо два дзесяцігоддзі) сталі больш сінтэтычнымі, яны, так сказаць, уключаюць у сябе не толькі магутны паток інфармацыі, і вызначаюцца здольнасцю спалучаць самыя розныя, падчас далёкія па прыродзе сваёй пласты інфармацыі ў адно арганічнае цэлае. Назіраецца як бы своеасаблівы «мысленны» аксюмарон, г. зн. суіснаванне побач процілеглых, вельмі розных па якасці пачаткаў.

Эпоха НТР, асабліва ва ўмовах сацыялістычнай сістэмы, у абставінах развітага сацыялізма, ставіць зусім новыя акцэнты ў адносінах чалавек — машына. Чала-



Максім Танк, Іван Навуменка
і Мацякуб Кашчанаў. 1976 год.

век робіцца сапраўдным гаспадаром над машынай, перадаручаючы ёй не толькі аднастайныя чыста механічныя функцыі, а і складаныя, якія характарызуюцца адваротнай сувяззю, аперацыі.

Як пераканаўча даводзіць чэхаславацкі даследчык Ф. Кута («Человек. Труд. Техника». Москва, «Прогресс», 1970), фабрычныя машыны ў сваім развіцці прайшлі тры асноўныя перыяды. На першым часе яны прыбаўлялі кваліфікаванаму рабочаму сілы, павышалі яго выпрацоўку, але істотна не змянялі характар яго працы. На працягу другога перыяду яны размяжавалі вытворчы працэс на шэраг элементаў, выцесніўшы спецыяліста высокага класа: цяпер некваліфікаваны або малакваліфікаваны рабочы падае ў машыну загатоўку, здымае гатовы выраб, выконваючы некальні механічных рухаў. Гэта стадыя робата, чалавека-аўтамата. Нарэшце, у трэці перыяд машына выцясняе ўжо некваліфікаванага рабочага, для яе абслугоўвання зноў патрэбен майстар, бо машына сама бярэ матэрыял, выконвае літаральна ўсе аперацыі. Такім чынам, кваліфікаваны рабочы зноў нагадвае былога майстра на ўсе рукі, умельца, хоць ён цяпер называецца «рамонтнік», «наглядчык», «наладчык». Ён, вядома, не раменік у ранейшым значэнні слова і ў той жа час адказвае не за адну якую-небудзь чыста механічную аперацыю, якая атупляе, агрубляе яго, цяпер ён ведае ўсе вузлы, скажам, аўтаматычнай лініі, ён маг, чараўнік, работа яго становіцца цікавай і змястоўнай.

НТР, такім чынам, як бы вяртае рабочаму чалавеку духоўнасць, яна патрабуе высокай адукацыі і сапраўды сцірае грані паміж працай разумовай і фізічнай. Ад наглядчыкаў, наладчыкаў патрабуюцца кваліфікаванасць, інтэлектуальна-тэхнічная здольнасць аналізаваць назіранні для ліквідацыі дэфектаў у ходзе работы, уменне спалучаць сваю дзейнасць з дзейнасцю другіх людзей і ўсяго прадпрыемства ў цэлым.

Абслугоўванне машын у выніку НТР ідзе ў напрамку ад панавання машыны над чалавекам да панавання чалавека над машынай. Найбольш прагрэсіўны напрамак развіцця сённяшняй тэхнікі — укараненне аўтаматычных сістэм з праграмным кіраваннем. Яны цалкам замяняюць усе механічныя функцыі чалавека ў ходзе вытворчасці.

Магчыма, у літаратуразнаўчых назіраннях можна было і не прыводзіць усіх гэтых прыкладаў. Але яны яскрава сведчаць аб сацыяльных зрухах сучаснага жыцця, якімі не можа не зацікавіцца літаратура. Для мастацтва зліццё раздзеленай працы ў працу творчую азначае многае. Ліквідацыя пажыццёвай прыкаванасці да вузкай прафесіі, свабодны выбар жыццёвай дзейнасці — усё гэта арганічна звязана з глыбокімі маральна-этычнымі, эстэтычнымі пераменамі ў змесце працы, якія найбольш цікавяць мастацтва.

Аўтаматызацыя, як бачым, не абмяжоўвае рацыяналізатарскія, вынаходніцкія магчымасці рабочага, а наадварот, ліквідуючы тэхнічны бок «адчужанасці» працы, дае шырокі прастор яго творчай актыўнасці. Аўтаматызацыя выклікае паварот ад дэкваліфікацыі да росту кваліфікацыі.

Вернемся, аднак, да літаратуры, да беларускай драматургіі, якая першая прарэагавала на перамены ў жыцці.

## 4

Сучаснымі, як па матэрыяле, так і па філасофскім, мастацкім асэнсаванні рэчаіснасці, з'яўляюцца п'есы Кандрата Крапівы «Брама неўміручасці», Андрэя Макаёнка «Зацюканы апостал» і «Таблетку пад язык».

Другі раз у творчай практыцы К. Крапівы сфера навуковай дзейнасці дае яму выразны камедыйны канфлікт. Толькі ў новым творы «рухавіком» гэтага канфлікту (у адрозненне ад прайдзісвета Гарлахвацкага з камедыі «Хто смяецца апошнім») з'яўляецца чалавек высакародны, разумны, гуманны — акадэмік-геронтолаг Барыс Пятровіч Дабрыян. Праводзячы свае доследы над пацукамі, ён нарэшце адкрыў сакрэт, які забяспечыць неўміручасць усяму, што мае гарачую кроў, дыхае, здольнае рухацца ў прасторы і часе.

З вострым здзеклівым смехам камедыёграф адмаўляе ў будучыні марнатраўцам і захрыбетнікам, дасталам і прайдзісветам. Такі ідэйны сэнс камедыі. Але ёсць яшчэ адна думка ў гэтым яркім мастацкім творы, роўная мастацкаму адкрыццю: наша савецкае, сацыялістычнае жыццё нарадзілася як саюз вольных, роўных людзей, і гэтую вялікую заваёву трэба няўхільна абараняць ад прайдзісветаў і захоўваць у чысціні.

Неўміручасць, бяссмерце чалавека — не ў бясконцым фізічным існаванні, а ў вялікіх справах дзеля шчасця сучасных і наступных пакаленняў — такое філасофскае рэзюме гэтага выдатнага мастацкага твора.

За апошнія гады былі ў беларускай прозе спробы абраць аб'ектамі мастацкага паказу працоўныя справы буйных заводаў, прадпрыемстваў, так сказаць, сюжэтна, кампазіцыйна засяродзіцца на вытворчай праблематыцы. Гэтую задачу ставілі ў сваіх раманах, аповесцях, нарысах Уладзімір Карпаў, Алесь Савіцкі, Вянцін Мысдівец. Сам прынцып «зліцця» вытворчых канфліктаў з праблемамі сацыяльнымі, маральнымі, які праглядвае ў творах названых пісьменнікаў, заслугоўвае ўсялякай увагі, хоць у мастацкіх адносінах творы гэтыя яшчэ не вызначаюцца высокай дасканаласцю.

Бліжэйшая па часе напісання да нашых дзён аповесць Аляксея Кулакоўскага «Расце мята пад акном» і зусім нядаўні раман Тараса Хадкевіча «Песня Дзвіны» з'явіліся хутчэй як паэтычныя водгукі на дзівосныя перамены, што адбыліся ў іх родных, звязаных з маленствам, юнацтвам мясцінах — у Салігорску і Наваполацку. Ёсць у гэтых кнігах добрая ідэалізацыя, адухоўленасць убачанага, хоць аналітычнага стаўлення да супярэчнасцей жыцця ім, магчыма, бракуе.

Мы даўно марылі, што рабочае, заводскае асяроддзе вылучыць пісьменніка, які дасканала ведае ўмовы, абставіны працоўнага жыцця. Пісьменнік такі з'явіўся — мінскі інжынер А. Каштанаў, раман якога «Заводскі раён» быў надрукаваны ў «Новом мире». У творы маладога пісьменніка выразна чуецца шматгалосе густа заселенага Заводскага раёна. Жыццё паказана тут з усімі сённяшнімі рэаліямі — вытворчымі, бытавымі, сямейнымі. Большасць герояў абмалявана з дастатковай псіхалагічнай глыбінёй, у іх існаванне верыш. Яшчэ раз пераконваешся, што на заводзе, у цэхах, працуюць звычайныя людзі. Найбольш удалы ў рамане вобраз начальніка стрыжнёвага ўчастка ліцейнага цэха Антаніны Брагінай. На яе долю найбольш, бадай, выпадае розных згрызот — паўсядзённых вытворчых і сямейных. Але пры ўсёй мітусні пачуццяў, асабістай неўладкаванасці адно пачуццё гераіні надзвычай устойлівае і выразнае: Антаніна, трыццаціпяцігадовая жанчына, ліцейны цэх пакінуць не можа. Прырасла, як кажуць, да яго душой.

Праблемы НТР раман А. Каштанава закранае не глыбока, але добра і тое, што вытворчыя канфлікты ў ім арганічна звязваюцца з побытам, з шырокім светам сённяшняга сацыяльнага і духоўнага жыцця рабочага.

Зварот літаратуры да сучаснага героя — рабочага, інжынера, вучонага — з'ява арганічна заканамерная. Справы, думкі, псіхалогія гэтых людзей увасабляюць істотныя праявы сучаснасці, і першачарговая задача пісьменнікаў — адлюстраваць іх, зрабіць набыткам літаратуры.

*1975*

## ЭПАС НАРОДНАГА ПОДЗВІГУ

Беларускі раман малады па ўзросту, ён нават маладзейшы за Кастрычніцкую рэвалюцыю, якая дала яму жыццё. Але за пяцьдзесят з невялікім год ён перажыў даволі бурны ўзлёт, стаў прыкметнай з'явай у савецкай літаратуры, заняў належнае месца ў шэрагу літаратур з больш багатымі і развітымі традыцыямі. Крытыкі і літаратуразнаўцы знайшлі тэрмін для тлумачэння гэтага феномена — працэс паскоранага развіцця. Тэрмін правільны. Але для паскоранага развіцця былі адпаведныя ўмовы. Іх стварылі Савецкая ўлада, Камуністычная партыя сваёй культурнай палітыкай.

Беларускі ваенны раман у асноўным узнік як раман партызанскі. Для гэтага былі таксама свае прычыны. З самых даўніх часоў праз лясы і палі Беларусі замежныя полчышчы ішлі заваёўваць Расію. Ішлі шведы, польскія войскі Лжэдзімітрыя, французы. І сустракалі іх тут, на спрадвечна славянскай зямлі, сялянскія косы, сякеры і рагаціны. Народная памяць, паданні ўсё гэта неяк захавалі.

У гады грамадзянскай вайны Беларусь бачыла дзве акупацыі — спачатку кайзераўскую, нямецкую, затым белапольскую.

Вогненны вал франтоў Айчыннай вайны двойчы — з захаду на ўсход і з усходу на захад, пракаціўся па дарогах, гарадах і вёсках Беларусі. Напэўна, няма патрэбы даказваць, які дагэтуль не бачаны размах атры-

маў партызанскі рух у гады Айчыннай вайны — факты агульнавядомыя. У ваеннае чатырохгоддзе з новай незвычайнай сілай пацвердзілася вернасць беларускага народа ідэям Кастрычніка, ідэалам камунізма і савецкага патрыятызму. Думаецца, як ніколі раней, у гады Айчыннай вайны беларускі народ раскрыў гордую душу, паказаў здольнасць да гістарычнага дзеяння, праявіў імкненне да адзінства з іншымі савецкімі народамі, да таго, што мы звычайна называем дружбай народаў. На палях жа бітваў, вызваляючы Беларусь, у шматлікіх партызанскіх атрадах ваявалі сыны і дочкі іншых народаў.

«Да вайны,— пісаў І. Эрэнбург у адным са сваіх ваенных артыкулаў,— свет дрэнна ведаў Беларусь. Я памятаю, як французскія газетчыкі блыталі словы «беларусы» і «белыя рускія». У той жа Францыі праз некалькі гадоў падпольныя газеты пісалі: «Мы павінны натхняцца геройствам беларусаў» — свет нарэшце даведаўся, што такое Беларусь.

Яна была мірнай зялёнай краінай, і, здаецца, нідзе не было такога спакою, такой цішыні, такой сардэчнай сціпласці, як у яе вёсках, але калі прыйшоў на беларускую зямлю вораг, знайшліся для яго і самаробныя гранаты, і ружжы, і агонь, і страсць».

У гады Айчыннай вайны вельмі адчувальна калі можна так сказаць, рэльефна, праявілася адзінства асабістага і грамадскага ў чалавеку. Падпарадкаваўшы ўсе свае сілы адзінай патрыятычнай ідэі, чалавечая асоба робіцца яшчэ больш значнай і цэльнай.

Усё гэта не магло не паўплываць на пошукі беларускіх пісьменнікаў, у прыватнасці на лёсы рамана. Беларускі раман і звязаныя з ім жанры нараджаліся як эпас рэвалюцыі, барацьбы, параметрамі яго было сувымярэнне лёсу асобы з лёсам народа, грамадства, можна сказаць, што ў ім нават не мыслілася аўтаномная, незалежная ад вятроў і павеваў часу існаванне асобы. «Раман-лёс і раман-падзея» ў вопыце беларускай прозы, бадай, зліваліся ў адзінае.

У гады вайны і першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, як я лічу, наша літаратура пераважна паказвала ідэальны бок вайны, калі да месца ўжыць у адносінах вайны такі выраз. Вялікая ўвага звярталася на нашы перамогі. Напэўна, гэта было натуральна: у вогненныя, крывавыя гады мы не менш, чым у хлебе надзён-

ным, мелі патрэбу ў мастацкім слове, якое павялічыла б нашу моц і выкрывала ворага. Літаратура якраз і гаварыла аб тым, што мы самі прагнулі пачуць.

Пасля вайны, калі адгрымелі пераможныя салюты і ўсе жылі перамогай, пасляваенныя цяжкасці, жыццёвыя недахопы здаваліся мізэрнымі ў параўнанні з тым, што перажыў народ у вайну. Калі выйграна велізарная, крывавая, небывалая ў гісторыі вайна, то з мірнымі справамі як-небудзь управімся — такім быў усеагульны настрой.

У беларускай прозе подзвіг народа, стойкасць, мужнасць савецкага чалавека ўвасоблены ў ваенных раманах К. Чорнага і раманах, напісаных пасля вайны,— «Глыбокая плынь» І. Шамякіна, «Мінскі напрамак» І. Мележа, «Векапомныя дні» М. Лынькова, «Расстаёмся ненадоўга» А. Кулакоўскага, «Згуртаванасць» М. Ткачова і інш. Магутным стымулятарам у гэтым сэнсе была і агульнасаюзная проза, у якой ужо з'явіліся такія творы, як «Яны змагаліся за Радзіму» М. Шолахава, «Васілій Цёркін» А. Твардоўскага, «Дні і ночы» К. Сіманава, «Сакавік — красавік» В. Кажэўнікава, «Фронт» А. Карнейчука, «Маладая гвардыя» А. Фадзеева, «Нашэсце» Л. Ляонава, «Спадарожнікі» В. Пановай, «Зорка» Э. Казакевіча, «Сцяганосцы» А. Ганчара і інш. Мяне асабіста ўсхвалявала аповесць В. Авечкіна «З франтавым прывітаннем».

Але галоўнае, мабыць, было ў тым, што Айчынная вайна, якая вылучыла таленавітых военачальнікаў, палкаводцаў, партызанскіх камандзіраў, павінна была вылучыць і сваіх песняроў, сваіх, так сказаць, летапісцаў, пісьменнікаў. Адны з іх прыйшлі ў літаратуру раней, другія — пазней.

У канцы 50 — пачатку 60-х гадоў беларуская проза атрымала значнае папаўненне: амаль адразу былі заўважаны ваенныя аповесці В. Быкава, партызанская дылогія А. Адамовіча, раман Я. Брыля «Птушкі і гнёзды», апавяданні і аповесці І. Пташнікава, Б. Сачанкі, В. Адамчыка, М. Стральцова, І. Чыгрынава і інш. Новы перыяд творчасці надыходзіць і ў пісьменнікаў, якія ўжо паспрабавалі сваё пяро на ваеннай тэме. Скажам, паэтыка, бачанне свету ў аповесці І. Шамякіна «Агонь і снег» істотна адрозніваюцца ад ідэйна-мастацкіх прынцыпаў, якія ляглі ў аснову першага шамякінскага рамана «Глыбокая плынь».

Але так ці інакш, калі мы пішам аб вайне, то павінны раскрываць героіку яе ўдзельнікаў, бо народ у Айчыннай вайне здзейсніў найвышэйшы подзвіг. Творы, якія з'явіліся ў апошнія два дзесяцігоддзі, звяртаюць вялікую ўвагу на паводзіны, духоўны свет радавога ўдзельніка вайны, на той, часам непрыкметны бок вайны, без якога самая гераічная армія не выйграе ні адзінай баталіі. Але справа не толькі ў гэтым. Беларуская проза — і ў прыватнасці раман — развівалася ў гэтыя гады ў рэчышчы агульнасаюзнай прозы, і для нас на гэтым этапе ўласцівы тыя ж рысы і асаблівасці, што і для ўсёй савецкай літаратуры. Пільная ўвага да народнага жыцця, да яго вытокаў, імкненне да самастойных адкрыццяў, адмоўная рэакцыя на творы схематычныя, ілюстрацыйныя — гэтыя працэсы праявіліся не толькі ў нас, але і ў прозе рускай, украінскай, літоўскай, латышскай і г. д. Існуе паміж імі пераклічка матываў, праблема самога падыходу да жыццёвага матэрыялу.

Узрослы гуманістычны пафас, імкненне да ўсебаковага раскрыцця характару, маральна-этычных вытокаў гераічнага, невычарпальнага, закладзенага ў сутнасці чалавека духоўнага патэнцыялу, які дазваляе яму вытрымаць звышчалавечыя нагрузкі, выпрабаванні, жахі і застацца чалавекам,— вось што дазваляе нам паставіць у адзіны рад многія творы розных літаратур і аўтараў. Адным словам, савецкая літаратура аб вайне як была, так і засталася літаратурай подзвігу, толькі гэты подзвіг не крыклівы і шумны, ён здзяйсняецца ва ўмовах, якія толькі бываюць на вайне, у абставінах драматычных і трагічных.

У творах Ю. Бондарава, В. Быкава, Г. Бакланава, А. Ананьева мы бачым савецкага чалавека твар у твар з армадамі танкаў, самалётаў, знішчальнага артылерыйскага і мінамётнага агню. Гарыць зямля, усё навокалператвараецца ў расплаўленую плазму, але чалавек не здаецца, знаходзіць у сабе сілу заставацца чалавекам.

У беларускай літаратуры няма, бадай, пісьменніка, які не пісаў бы аб партызанскай барацьбе. У меру сваіх сіл і магчымасцей гэтую тэму распрацоўвалі І. Гурскі, Ул. Карпаў, Т. Хадкевіч, М. Паслядовіч, Р. Няхай, У. Краўчанка, І. Новікаў, М. Даніленка, Л. Арабей, А. Асіпенка, М. Аляксееў, М. Кругавых,

А. Савіцкі, Ул. Федасеенка, А. Васілевіч, Ул. Паўлаў, А. Кудравец, Ул. Дамашэвіч, П. Місько, С. Грахоўскі, П. Кавалёў, А. Стаховіч, Р. Сабаленка і многія іншыя. Літаратура проста не магла далей развівацца, не адказаўшы на пытанне, што такое фашызм, таму што фашызм замахнуўся на самое існаванне беларускага народа, на тыя духоўныя каштоўнасці, без якіх літаратуру нельга ўявіць. Паказальна, што пішуць аб вайне і самыя маладыя пісьменнікі, якія нарадзіліся ў канцы 40-х, у 50-я гады і вайны не бачылі нават дзіцячымі вачамі.

Моцная ў нашай літаратуры тэма пакалення, якое ў юнацкім, нават дзіцячым узросце сустрэла Айчынную вайну. Я лічу, што літаратуры аб вайне, калі гутарка ідзе аб моладзі, аб трывожным каханні, шчасці ў час ліхалецця, не супрацьпаказаны рамантычныя фарбы. Тут вельмі хараша гаварыў аб рамантыцы ў сваім дакладзе Пётр Міронавіч Машэраў. Даваенная моладзь, з асяроддзя якой выйшла столькі вядомых лётчыкаў і лётчыц, снайпераў, разведчыкаў, танкістаў, партызан-падрыўнікоў, падпольшчыкаў, вылучалася абвостранай увагай да рамантыкі подзвігу, яна як бы прадчувала, што неўзабаве і на яе плечы ляжа груз цяжкіх выпрабаванняў. Моладзь гэтая рана ўступіла ў жыццё, ірвалася да практычных спраў.

Я лічу вернымі словы, якія сказаны ў адным з пасляваенных партыйных дакументаў, словы аб тым, што мы не выйгралі б Вялікай Айчыннай вайны, калі б не выхавалі моладзь у духу адданасці ідэалам Савецкай улады. З малаком маці ўспрыняла даваенная моладзь гэтыя высокія ідэалы, усю савецкую атмасферу, калі перад кожным адкрываліся шляхі-дарогі ў вялікае жыццё.

Усё гэта юнакі і дзяўчаты апошняй вайны гатовы былі абараняць цаной уласнага жыцця. Менавіта тут вытокі таго бяспрыкладнага ў гісторыі гераізму, які паказалі савецкія пакаленні ў Вялікай Айчыннай вайне.

Нядаўна адзін мой знаёмы расказваў, што чырвоныя следапыты школы, у якой ён да вайны вучыўся, зрабілі павялічаны здымак даваеннага выпускнога 10 класа. На гэтым здымку 32 юнакі і дзяўчаты. Але ў вайну ўцалелі толькі 8. У класе, дзе я вучыўся, так-

сама такая ж статыстыка. Пайшло на вайну 16 хлопцаў, вярнулася чатыры.

Панёсшы вялізныя страты, ахвяраваўшы мільёнамі жыццяў, пераадолеўшы пасляваенныя цяжкасці, савецкая моладзь мінулай вайны ў сваім светаўспрыманні нават аддалена не нагадвала «страчанае пакаленне» першай сусветнай вайны, апетае Рэмаркам, Хемінґуэем і іншымі пісьменнікамі Захаду.

У гэтай сувязі мне хочацца сказаць некалькі слоў аб праблеме выбару. Тэрмін гэты асабліва часта ўжываюць у экзістэнцыялісцкай эстэтыцы і літаратуры, і ён азначае, што ў крытычнай, так званай пагранічнай, сітуацыі кожны чалавек паступае ў адпаведнасці з патрабаваннямі свайго сумлення, і яго сумленне — адзіны ў гэтай справе суддзя.

У нас, безумоўна, паняцце «выбар» напаўняецца зусім іншым зместам. Але гэтым словам, здаецца, пачалі карыстацца, ужываючы яго дзе трэба і дзе не трэба, асабліва ў крытыцы. Але ж у салдата асаблівага выбару не было. Не мог баец ісці або не ісці ў атаку, ухіляцца ад выканання баявога загаду або выбраць сабе на вайне больш бяспечную пасаду. Безумоўна, ва ўмовах палону, акружэння, акупацыі, ды і ва ўмовах бою, былі крытычныя сітуацыі, было тое, што называецца «выбар». Былі і трусы, падлюгі, дэзерціры, а на акупіраванай зямлі былі паліцэйскія, уласаўцы, здраднікі. Але гэта ж не азначае, што кожны акт мужнасці, гераізму недзе побач суправаджаўся здрадніцтвам.

Ёсць, мабыць, «святыя» галіны жыцця, дзе паняцце «выбар» проста не да месца. Не ўжывеш яго ў дачыненні да сотняў беларускіх Хатыняў, хоць асобныя жыхары іх і ўцалелі; да панфілаўцаў, сярод якіх таксама аказаліся жывыя. Мабыць, было б кашчунствам ужываць падобнае слова ў адносінах да жыхароў Хірасімы. Ды і паняцце «гераічнае» не нешта імгненнае, інстынктыўнае, біялагічнае, не духоўная адналінейнасць, як гэта намагаюцца паказаць нашы ідэйныя праціўнікі. За гераічным стаяць ідэйны, маральны вопыт чалавека і народа, хоць фактары біялагічныя, псіхалагічныя таксама адыгрываюць вялікую ролю.

У кнізе аднаго чэшскага сацыёлага я знайшоў цікавыя лічбы, якія вельмі многа гавораць аб нашай і фашысцкай арміі. Аказваецца, нават царская Расія мела больш студэнтаў, чым кайзераўская Германія,—

112 тысяч і 104 тысячы адпаведна ў 1914 годзе. У савецкі час лічбы гэтыя наогул сталі непараўнальнымі — 601 тысяча студэнтаў у нас у 1938 — 1939 гадах і 73 тысячы ў гітлераўскай Германіі. Такая ж карціна і па колькасці навучэнцаў сярэдніх навучальных устаноў: амаль 34 мільёны ў нас у 1938—1939 гадах і каля 8 мільёнаў у гітлераўскай Германіі. Гітлер пасля прыходу да ўлады рэзка скараціў колькасць навучэнцаў і студэнтаў.

Савецкая Армія несла ў сабе водбліск рэвалюцыі. Гэта была адукаваная, культурная, гуманістычная армія. Мне давялося ваяваць у двух палках, і я прыгадваю, што палавіна ці нават больш афіцэрскага саставу былі з учарашніх цывільных — з настаўнікаў, аграномаў, інжынераў, са студэнтаў і дзесяцікласнікаў.

Храбрая была і руская армія. Салдаты, афіцэры ўцякалі з палону і ў 1916—1917 гадах, але такога, як у Айчынную вайну, здаецца, не было. Гутарка ідзе аб тым, што савецкія людзі, якія вырваліся з фашысцкага палону, не адседжваліся, не хаваліся, а ў кожнай краіне, куды занёс іх горкі лёс ваеннага ліхалецця, уключаліся ў барацьбу — у Францыі ішлі ў макі, падымалі паўстанне ў Італіі, прабіраліся праз горы да югаслаўскіх партызан. Такіх праслаўленых у чужых краінах імёнаў шмат: Васілій Порык — у Францыі, Палятаеў — у Італіі, ёсць яны ў Польшчы, Чэхаславакіі, Нарвегіі.

У апошнія гады прыкметна ўзбагачаецца дакументальны жанр аб подзвігу народа ў Вялікай Айчыннай вайне. Працэс гэты, думаецца, натуральны, заканамерны. Вялікая Айчынная вайна была агромністай эпахальнай падзеяй, і ўсю праўду пра яе ведае народ, тысячы і тысячы яе ўдзельнікаў, якія яшчэ жывуць сярод нас. Чым больш яны раскажуць, чым больш будзе надрукавана іх успамінаў, тым трывалей, упэўненей будуць адчуваць сябе пісьменнікі, якія пішуць аб вайне.

Аб Айчыннай вайне мы яшчэ будзем пісаць і пісаць. Мне здаецца, што надыходзіць час нейкага сінтэзу, панарамнасці, «шматгалоснасці» ў адлюстраванні падзей вайны, хоць і нельга выключыць з'яўлення лакальных або вельмі «прыватных» твораў. Мірнае жыццё, працэсы, якія ў ім адбываюцца, праблемы, якія ўзнікаюць — жадаем мы гэтага ці не жадаем — прае-

цыруюцца, уздзейнічаюць на адлюстраванне ваеннай тэмы. У той жа час яны як бы абвастраюць той зрок, які захаваўся яшчэ з ваенных дзён, адчуванне ўдзельнікаў вайны, хоць яны і прыкметна пастарэлі.

*1975*

## НА ПОДСТУПАХ ДА РАБОЧАЙ ТЭМЫ

У «Новай зямлі» Якуба Коласа ёсць эпізадычны, але запамінальны вобраз Доніса Дракі, вакзальнага стоража ў Стоўбцах. Пра гэтага чалавека ўспамінае дзядзька Антось, калі збіраецца ў Вільню, у зямельны банк. Як мы памятаем, героі коласаўскай паэмы, апынуўшыся па волі няўдзячнага сялянскага лёсу ў становішчы панскіх службоўцаў, праз усё жыццё прагнуць мару ўзбіцца на зямлю і дзякуючы ёй стаць вольнымі і незалежнымі. Мэце гэтай — «купіць зямлю, прыдбаць свой кут» — падпарадкаваны ўсе іх душэўныя сілы, іх будзённыя і святочныя сяганні, іх, калі можна сказаць так, жыццёвая тактыка і стратэгія.

А тым часам Доніс Драка як сацыяльны тып — штосьці супрацьлеглае Міхалу і Антосю. Ён адыходнік, уладкаваўся на службу на чыгунцы і, відаць па ўсім, пра зварот на зямлю нават думкі не дапускае. Яму добра на ягонай службе, ён не ўспамінае пра зямлю, і гэта дае падставу дзядзьку Антосю іранічна глядзець на нядаўняга сябра. Прывядзём цытату з паэмы, якая ў гумарыстычным святле паказвае побыт Доніса Дракі, чалавека, што запісаўся ў службовае несялянскае саслоўе:

У дзядзькі ў Стоўбцах быў дружака,
Вакзальны сторож, Доніс Драка;
Ён машыністаў знаў каротка,
Кандуктарчыха — яго цётка,
А з качагарам жыў, як з братам,
І быў канторшчык яго сватам;
З тэлеграфістамі ён знаўся,
А з дзядзькам летась сябраваўся,
Падумаць толькі — чуць не шышка!
І з аднаго яны кілішка
У цёткі Гені выпівалі
І разам восі яны кралі.

Чым выславілася цётка Геня, якія восі прыйшлося незаконным шляхам здабываць дзядзьку Антосю і яго нядаўняму дружбаку, мы не ведаем, але Доніс Драка нават з тых нямногіх радкоў, якія прысвечаны яго асобе, паўстае абыходлівым, добрасардэчным, шчырым чалавекам. Успомнім — дзядзька Антось хоча «зайцам» праехаць на цягніку, і Доніс ахвотна яму ў гэтым памагае. Вось ён, гэты службовец, які «газы пах нясе з сабою», з першай хвіліны разгадвае дзядзькавы намеры, не паскупіўшыся, частуе яго півам і зноў жа без ніякага ліхвярства садзіць Антося ў будку да машыніста. І Антось «на паравозе без білета чхаў да Баранавіч дасвета».

Адкуль жа, дзе, у чым у такім разе вытокі Антосевай іроніі ў дачыненні да Доніса Дракі? Тут якраз і вынікае цікавая акалічнасць. Як чалавека «вакзальнага стоража» дзядзька Антось адчувае вельмі добра, між імі не ўзнікае ніякіх перашкод ва ўзаемаразуменні. Іншая справа, што Антосю, хлебаробу, патомнаму селяніну, які прывык жыць сам-насам з прыродай, полем, лесам, незразумелае і, можна нават сказаць, чужое асяроддзе, у якое трапіў Доніс Драка. Яно здаецца яму непрыгожым, неэстэтычным, калі будзе дазволена выкарыстаць такія тэрміны ў адносінах да адчуванняў простага, не надта пісьменнага селяніна.

Не будзем забываць, што падзеі, апісаныя ў «Новай зямлі», адносяцца да канца XIX стагоддзя і, скажам, Стоўбцы ў той час былі не такім ужо буйным індустрыяльным цэнтрам. Але вось як бачыць станцыю дзядзька Антось:

Ўсё там кіпіць, бы ў час разрухі,
Снуюць служачыя, як мухі,
Гудуць, шумяць, бы ў вуллі пчолы,
І ходзяць шумна балаголы,
Каменяцёсы з малаткамі,
Гандляркі бегаюць з кашамі,
У ліхтарах агні трапечуць!
А гандляры крычаць, шчабечуць
І б'юць у грудзі кулакамі...

Вось гэтыя тлум, мітусня, «раявы» спосаб чалавечага жыцця не даспадобы дзядзьку Антосю, дзе б ён на яго ні натрапіў — ці то на вакзале ў Стоўбцах («У гэты момант лютым змеем ляціць кур'ерскі. Задрыжалі ўсе шыбы ў вокнах на вакзале, і ўвесь народ ураз мятнуўся, і дзядзька наш не аглянуўся, як і яго люд-

ская хваля нясла, бы шчэпку ў паравале»), ці прыехаўшы ў значна большую па абсягах і размаху гарадскога жыцця Вільню («Такое пекла — шум страшэнны, застой паветра і дух дрэнны; народ таўчэцца каля конкі, па бруку б'юць падковы звонка, грымяць павозкі, буды, колы, аж проста глушаць балаголы — і гэта процьма ўсякіх зыкаў злілася ў гул адзін вялікі, дзе з непрывычкі вуху цяжка, дзе б'юць па сэрцы яны важка»).

Хоць і празмернае цытаванне, але без яго напачатку не абысціся: наперадзе гаворка пра мастацкае асваенне сучаснай беларускай літаратурай тэмы горада, рабочага класа, навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, і таму неабходна кінуць хоць кароткі позірк на тое, як складвалася падобная традыцыя ў нашай літаратуры.

Беларуская літаратура XIX і пачатку XX стагоддзя ні ў якой меры не ідэалізавала вёску, не стварала ідылій аб шчаслівым бытаванні сялян на ўлонні прыроды. Якраз наадварот: сялянскае жыццё яна паказвала ў шэрых, цёмных фарбах, падчас настолькі згушчаных, што ў гэтым жыцці не відаць было ніякай прасветліны; пратэст, рэвалюцыйны заклік да рашучай ломкі саміх асноў несправядлівага грамадскага ладу быў лейтматывам беларускай літаратуры, якая доўгі час глядзела на свет вачамі занядбанага, прыгнечанага селяніна, што з-за сваёй сацыяльнай бяды нічога прывабнага ў навакольным свеце не заўважаў.

У апошняй чвэрці мінулага стагоддзя і ў пачатку нашага Беларусь трапляе, калі мераць тагачаснымі маштабамі, у паласу даволі імклівага прамысловага будаўніцтва: пасля адмены прыгону тут, як і ў іншых частках Расіі, шпаркімі тэмпамі развіваецца капіталізм. Дастаткова сказаць, што большасць чыгунак, якія з усходу на захад і з поўначы на поўдзень даволі густа перасякаюць тэрыторыю рэспублікі, была пабудавана менавіта тады.

Чыгуначнікі, падобна Донісу Драку з «Новай зямлі», вербаваліся з навакольнага сялянства, яны былі значнай часткай тагачаснага пралетарыяту і ў часіны рэвалюцыйнага ўздыму паводзілі сябе адпаведным чынам. Варта ўспомніць у гэтай сувязі маляўнічую карціну з другой кнігі коласаўскай трылогіі, у якой выразна адчуваецца водгалас Усерасійскай стачкі, што дакаціўся і да такога «мядзведжага» кутка, якім было

дарэвалюцыйнае Палессе. Дакаціўся перш за ўсё дзякуючы чыгунцы, гораду, выклікаў адпаведны рэзананс у вёсцы Выганы, дзе сяляне, навучаныя рэвалюцыйна настроеным настаўнікам Лабановічам, пішуць петыцыю памешчыку Скірмунту, патрабуючы большых зямельных правоў.

Беларуская літаратура, якая ў канцы мінулага і пачатку новага стагоддзя завяршала шлях нацыянальнага станаўлення, не абмінула ўвагай працэс нараджэння новых адносін паміж горадам і вёскай, рэвалюцыянізуючую ролю горада, хоць, з другога боку, падобныя матывы не набылі ў ёй значнага пашырэння. На гэта былі свае прычыны.

Але, так ці інакш, тое новае, што прыходзіла ў жыццё, прыходзіла, зрэшты, і ў літаратуру. Ужо ў Багушэвіча мужык «усю зіму возам цягне да вакзалу розна збожжа», мужычай працай «горы паразрыты, а чыгункай свет абвіты».

Янка Лучына, інжынер-чыгуначнік па прафесіі, свае сацыяльныя ідэалы звязвае не толькі з перамогай народаўладдзя, але і з пераможным шэсцем навукі і тэхнікі:

Свет ідзе к прагрэсу, чыніць дзіў за дзівам,
Пад вурчанне фабрык, візг лакаматываў,
Свет ганцом абойдзе тэлеграф у хвілю,
Электрычнасць з сонцам пазмагацца ў сіле,—
І прадбачыць цяжка, куды нас загоніць
Моц навук, падпёртых мазалём далоні!

У сваёй эпічнай паэме «Стары ляснік», адкуль узяты прыведзеныя радкі, паэт дае «права голасу» і іншым героям, у прыватнасці, прыводзіць па-сялянску трапны маналог палешука Грышкі:

Толькі каб маланкай пярун па іх ляснуў —
Па парадках панскіх, па хвалёным ладзе!
Чуў, чыгунку будуць весці ў Чорным Лядзе,—
Ну і лясне пушча! Гандляроў наедзе,
Нажывуцца мышы, аб'ядуць — не зглядзіш!

Развядуць шальмоўства, нібы псы аблазяць
Ад Цяпроў ад нашых да Возера-Князя.
З паграбішчаў пойдзе каляя на Муты,
А з ёй пойдзе вызыск, здзірства, пот і путы.

*(Пераклад з польскай мовы М. Клімковіча)*

Стары ляснік Грышка баіцца чыгункі, бачыць у ёй узмацненне панскай улады. Яго вуснамі гаворыць адсталая патрыярхальная вёска. Гэта, бадай, адзіны ў да-

рэвалюцыйнай беларускай літаратуры мастацкі матыў прамога, несхаванага непрыняцця прамысловага развіцця краю. А ў цэлым дарэвалюцыйная беларуская літаратура, сялянская па тэматыцы, па светаадчуванні, не выказала варожасці да тэхнічнага прагрэсу, развіцця гарадоў, прамысловасці і з гэтага даводзіцца толькі здзіўляцца. Славянафільскія ідэі не знайшлі выразнага ўвасаблення нават у творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча, які адмаўляў капіталістычныя парадкі і, шукаючы апоры сваім ідэалам, іншы раз звяртаўся да мінуўшчыны і патрыярхальшчыны.

У дарэвалюцыйнай паэзіі Купалы, Коласа, Багдановіча мы неаднаразова сустракаемся з матывамі захаплення, схілення перад геніем чалавечага розуму здольнага разгадаць таямніцы прыроды, паставіць магутныя сілы прагрэсу на службу грамадству. Вось радкі з коласаўскага верша «Чыгунка», напісанага ў 1908 годзе:

У два рады між палёў
Роўна рэйкі ляглі,
Рэжуць нетры лясоў,
Точаць грудзі зямлі.

Эх, і быстры ж той гон!
Толькі пыхкае дым,
За вагонам вагон
Мчыцца змеем ліхім.

Мчыцца ўночку і ўдзень,
Толькі поле дрыжыць,
Так ні конь, ні алень,
Ні арол не ляціць.

Увогуле чыгунцы ў беларускай літаратуры пашанцавала. Можа, таму, што яна пралягала па абсягах усяго краю, зрабілася прыкметным фактарам жыцця некалькіх пакаленняў, яе вобраз даўно замацаваўся ў літаратуры, а калі гаварыць пра адлюстраванне тэмы рабочага класа, то найбольш поўна і выразна паказаны ў нашых кнігах рабочы-чыгуначнік.

«Сялянская» беларуская літаратура яшчэ ў дарэвалюцыйную пару свайго развіцця даволі арганічна ўбірала ў сябе новыя з'явы жыцця, звязаныя з развіццём гарадоў, прамысловасці, з узнікненнем новых прафесій, далёкіх ад спрадвечнага сялянскага занятку. Тут узнікае адна цікавая акалічнасць. Вытокі таго невымернага грамадзянскага смутку, якім прасякнуты па-

эзія Багушэвіча, дарэвалюцыйная лірыка Купалы, Коласа, вынікаюць з разумення выдатнымі беларускімі паэтамі антыгуманных, нечалавечых умоў жыцця, у якія была пастаўлена вёска. Сацыяльная бяспраўнасць, праца да знямогі, напаўгалоднае існаванне ў пахілай хаціне, дзе пануюць цемра, забітасць, адсталасць, бескультур'е,— вось сялянскія нягоды, з якімі не могуць змірыцца паэты. Цяпер на хвіліну задумаемся: а дзе, уласна кажучы, гэтыя «мужычыя прарокі», якія самі выйшлі з-пад саламянай страхі, маглі бачыць лепшае жыццё, каб з такой мастацкай сілай і непрымірымасцю адмаўляць векавечнае вясковае зло?

У горадзе, вядома. Так, у горадзе, бо, перш чым стаць паэтамі, выразнікамі інтарэсаў галоднай, халоднай вёскі, Багушэвіч, Купала, Колас добра-такі пaverандравалі па розных жыццёвых дарогах, атрымалі пэўную адукацыю, сталі шырэй глядзець на свет. Яны не маглі ідэалізаваць побыт гарадскога пралетарыя, які жыў можа, нават горш за селяніна, але тое, што святло прагрэсу ідзе з горада, адчувалі добра.

Вось што гаворыць тыповы сялянскі інтэлігент Лабановіч, адказваючы палешуку-фурману на яго сумную заўвагу, што апошнім часам «і лес нішчыцца, і звер зводзіцца»: «Так, дзядзька Сцяпан, жыццё не стаіць на месцы, і ўсё на свеце змяняецца. Вось у вас чыгунку правялі, заработкаў прыбавілася, гандаль шпарчэй пайшоў, новыя людзі з'явіліся. Яшчэ тры гады таму назад у вас і школкі не было, цяпер пабудавалі школу, вашы дзеці вучыцца будуць, граматнымі стануць, будуць кнігі, часопісы чытаць, навучацца, як лепей каля зямлі хадзіць, каб карысці з яе болей было, бо ўсё ж паляпшэнне ў жыцці ад навукі ідзе...»

«Новыя людзі» — настаўнік, каморнік, фельчар — сталі героямі ўжо дарэвалюцыйных беларускіх твораў. І колькі знаходзім мы горычы ў Коласа, Бядулі, Максіма Гарэцкага дый у іншых пісьменнікаў, якія шчыра смуткуюць, што многія з гэтых «новых людзей», якія выйшлі з сялянскага асяроддзя, ад селяніна адварочваюцца, дбаюць выключна пра ўласны дабрабыт, папаўняючы шэрагі мяшчан і абывацеляў.

Магчыма, пагарда да мяшчанскага свету з яго заснелым побытам, абмежаванымі духоўнымі інтарэсамі, запатрабаваннямі паслужыла для Коласа выто-

кам той ледзь улоўнай іроніі, што амаль нязменна суправаджае яго «местачковыя» малюнкі або карціны жыцця гарадскога прадмесця.

Нярэдка героі Коласа, Гарэцкага, Бядулі, трапіўшы ў дарэвалюцыйны горад, адчуваюць сябе ў ім, нібы ў «каменным мяшку», ім тут нязвычна, цесна, няўтульна. Варта ў гэтай сувязі ўспомніць прыгоды дзядзькі Антося ў Вільні. Але той жа Антось, узабраўшыся на Замкавую гару, аддае належнае прыгожай, разумнай забудове горада, любуецца ёю:

Агромны горад, цесна збіты,
Увесь блескам сонейка заліты,
Займаў узгоркі і нізіны;
Дамы стаялі, як віціны,
То ўдоўж, то ўпоперак радамі,
То закрываліся садамі...

Паспрабуем разабрацца, чаму дзядзька Антось (як і іншыя «сялянскія» героі беларускіх пісьменнікаў) адчувае сябе чужым у шматлюдным мітуслівым горадзе. Пытанне не такое простае, як на першы погляд здаецца. Ёсць у ім аспекты сацыяльныя, псіхалагічныя, эстэтычныя і г. д.

Селянін, якім паказалі яго нам Купала, Колас, Гарэцкі,— чалавек выключна працавіты і працалюбны. Яго працоўны дзень не вымяраецца гадзінамі, а цягнецца ад цямна да цямна, а зімой і ноч прыхоплівае. На гэтым трымаюцца штодзённы сялянскі побыт, яго старасвецкія, патрыярхальныя асновы, што праглядваюцца на стагоддзі. Не будзем забываць, што цывілізацыя, развіццё прамысловасці мала кранулі нават таго селяніна, які паўстае перад намі ў творы навейшага часу — «Новай зямлі» Коласа. Усё патрэбнае для жыцця селянін вырабляе сам — забяспечвае сябе харчам, прадзе лён і воўну, тчэ палотны і сукны, вырабляе скуры, майструе драўляныя бочкі, дзежкі, міскі, лыжкі і безліч іншых прылад, без якіх у гаспадарцы не абысціся. Купляе хіба толькі жалезныя вырабы, газу, соль і сярнічкі. Няцяжка ўявіць, колькі часу патрэбна, каб не толькі ўправіцца з гаспадаркай — вывезці гной, узараць, засеяць поле, сабраць ураджай, накасіць сена, дагледзець жывёлу,— але яшчэ займацца і гэтай надакучлівай хатняй «індустрыяй». Памочнікаў у селяніна няшмат: конь, плуг, каса, серп, сякера, долата — вось, бадай, і ўся механізацыя.

Шматгранны, разнастайны ў сваіх разгалінаваннях сялянскі побыт нараджаў сапраўдных умельцаў, людзей з залатымі рукамі. Менавіта такім і выступае ў «Новай зямлі» дзядзька Антось — найлепшы, найпаўнейшы мастацкі тып у галерэі сялянскіх вобразаў, створаных беларускай літаратурай. Антось хвіліны не можа пасядзець без працы, яна — першая, святая запаведзь яго жыцця. Ён усё ўмее, да ўсяго можа дайсці, навакольны свет нібы і існуе толькі для таго, каб прыносіць Антосю свае бясконцыя дары. Заўважым: Антось настолькі заняты, што памаліцца не мае часу і «творыць» абеднюю малітву на хаду, вяртаючыся з поля.

Вось гэтая занятасць, пастаянная заклапочанасць справай нараджае своеасаблівы маральны пратэст у адносінах да чалавека, які проста так пахаджвае, нічога ў дадзеную хвіліну не робячы, або па-святочнаму апранаецца ў будзённы дзень. На такога чалавека селянін глядзіць са знявагай. Не будзем здзіўляцца, што іменна з такой меркай падыходзіць дзядзька Антось да свайго нядаўняга сябра, вакзальнага стоража Доніса Дракі: для яго ён проста «вёрткі» чалавек, які шукае лёгкага хлеба. У тым і парадокс, што, як бачым, нават да рабочага чалавека коласаўскі селянін ставіцца з пэўнай доляй іроніі: ты, маўляў, працуеш па гадзінах, маеш час на адпачынак і не раўня нам, шэрай сярмязе.

Ёсць у Антося насцярога да гарадскога люду і па іншай прычыне: вельмі ўжо зухаваты, порсткі гэты люд, пальца ў рот нікому не кладзі — адкусіць:

І дзядзька наш стаў прыглядацца,
У каго б дарогі запытацца,
Бо ён зрабіў адну ўжо спробу,
Спытаў чумазую асобу,
Дык тая так яму сказала,
Што лепш бы ёй нахай зарвала!

Сваёй простай сялянскай душою Антось адразу адчуў раз'яднанасць буржуазнага горада, дзе кожны заняты толькі самім сабою, дзе ў людскіх вачах «няма... прывету, як бы не рады сонцу, свету».

Вядома, і ў «Новай зямлі» ў пэўнай ступені прысутнічае ідэя, якая яшчэ з часоў Русо знаходзіць увасабленне ў літаратуры: аб чыстых, несапсутых норавах, гарманічным чалавеку, выхаванню якога найбольш спрыяе ўлонне прыроды, дзе чалавечая асоба астаецца як бы сам-насам з некранутай прыгажосцю свету.

Быў дзядзька ў пушчах, у барох
І расчытаць іх голас мог,
І з старасвецкімі дубамі
Каротка знаўся, як з сябрамі.
А тут — адзін, бо ўсе чужыя,
Не знаеш, хто яны такія,
І сам для іх ты чужаніца.
На камяніцы камяніца,
Не згледзіш неба край за імі
І ціснуць сценамі сваімі.

У новых умовах гістарычнага развіцця, калі беларуская літаратура станавілася літаратурай нацыянальнай, пытанне аб адносінах чалавека да прыроды набывае дадатковы сэнс. Селянін, вёска ў дарэвалюцыйную пару былі носьбітамі ідэі народнасці, і, мабыць, у гэтым найпершая прычына таго, што з вобразам селяніна літаратура ў многім звязвае свае этычныя і эстэтычныя ідэалы. Адсюль некаторая ідэалізацыя селяніна, асяроддзя, дзе ён жыве, працуе, якую бачым і ў «Новай зямлі», і ў паэме Я. Купалы «Яна і я», і ў шэрагу іншых твораў беларускай літаратуры.

Асяроддзе сялянскага жыцця вядомае: прырода — поле, лес, рэчка, луг. Дый сама праца селяніна — працэс узаемадзеяння чалавека з прыродай: ад таго, якое стаіць надвор'е, ідзе дождж ці свеціць сонца, шмат залежыць у працы.

Мабыць, адсюль бярэ вытокі філасофская тэма сэнсу жыцця, ролі, месца чалавека ў свеце, бо, як гэта выдатна паказана ў «Новай зямлі», селянін сапраўды жыве пад вечным небам і зоркамі.

Але пры ўсіх акалічнасцях нават дарэвалюцыйную беларускую літаратуру нельга назваць літаратурай тыпова сялянскай. Тое, што селянін быў галоўным яе героем, справы не мяняе. Стваралася беларуская літаратура інтэлігентамі і апладнялася актыўным уздзеяннем братніх літаратур — рускай, украінскай, польскай, і, самае галоўнае, яе погляд на свет, яе эстэтычныя, маральныя, сацыяльна-класавыя ацэнкі асноўных вартасцей жыцця вынікалі з патрабаванняў часу, умоў грамадскага развіцця, рэвалюцыйных задач сацыяльнага і нацыянальнага разняволення працоўнага народа.

Наша літаратура яшчэ да Кастрычніка арганічна ўбірала ў сябе духоўныя, эстэтычныя каштоўнасці, створаныя агульначалавечай культурай, папярэднімі

эпохамі. Яна вызначалася глыбокім гуманістычным пафасам, пільнай увагай да жыцця народных нізоў, сапраўдным дэмакратызмам.

І ўсё ж толькі савецкая эпоха зрабіла беларускую літаратуру багатай, шматграннай у сэнсе даследавання самых разнастайных пластоў народнага жыцця, надзвычайна паглыбіла яе сацыяльны зрок, пашырыла тэматычную геаграфію. Горад, завод, фабрыка як жыццёвае асяроддзе, людзі самых розных прафесій, занятказ і ў першую чаргу рабочы, інтэлігент як паўнакроўныя героі прыйшлі ў беларускую літаратуру ў савецкі час.

Калі гаварыць пра эпічную прозу, то ля вытокаў яе — раман Цішкі Гартнага «Сокі цаліны», у якім пісьменнік ставіць задачу намаляваць вобраз перадавога рабочага, свядомага ўдзельніка рэвалюцыйнага змагання. Раман пераносіць нас у насычаную вогненнымі ўспышкамі атмасферу першай рускай рэвалюцыі, нарастання новай рэвалюцыйнай хвалі, нарэшце, у атмасферу тых падзей, што сталі пярэднем Кастрычніка. Рыгор Нязвычны, як паказвае яго Цішка Гартны, «напаўселянін, напаўрабочы», нібы яднае сваёй асобай беларускае мястэчка Сілцы ■ рэвалюцыйнай Рыгай, Пецярбургам, у яго вобразе пісьменнік паказвае працэс свядомага, ідэйна-палітычнага росту нядаўняга селяніна.

Праўда, пісьменнік найменш звяртае ўвагу на ўмовы вытворчага жыцця, працы героя. Мы пераважна бачым Рыгора Нязвычнага ў палітычных спрэчках, дыскусіях, у якасці рэвалюцыйнага арганізатара і прапагандыста. Але застаецца фактам — і гэта Цішка Гартны здолеў пераканаўча давесці,— што ўчарашні местачковец, фактычна селянін, даволі лёгка ўваходзіць у атмасферу гарадскога жыцця, становячыся ў ім сваім, засвойваючы яго норавы і звычкі.

Зрэшты, пераход селяніна ў новае сацыяльнае асяроддзе так ці інакш адлюстроўвала беларуская літаратура. Адны пісьменнікі малявалі працэс як супярэчлівы, балючы, пакутлівы (М. Гарэцкі. У лазні»; З. Бядуля. «На каляды к сыну»), другія, глыбей усведамляючы, што прагрэс ідзе менавіта ў гэтым напрамку, у большай ступені скіроўвалі ўвагу на адзінства інтарэсаў горада і вёскі (Я. Колас. «На прасторах жыцця», «На ростанях»).

Беларуская літаратура яшчэ ў дваццатыя гады, непасрэдна азораныя подыхам Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, угадала ці, праўдзівей, адчула той напрамак, у рэчышчы якога пойдзе будучае савецкае жыццё. Асабліва гэта датычыць паэзіі. Няхай сабе без арганічнай глыбіні, пераважна ў плане маладнякоўскіх дэкларацый, але беларуская паэзія прайшла праз захапленне «планетарызмам», «машынізмам». У гады першай пяцігодкі даніну захаплення «індустрыяльнай» тэме аддалі большасць паэтаў, не выключаючы Янкі Купалы і Якуба Коласа. Маладзейшыя, менш вопытныя паэты нават наўмысна ламалі вершы, звярталіся да гучных, прамоўніцкіх, утрыраваных інтанацый, каб выразней, як яны лічылі, перадаць дух часу, калі «бетоннымі нагамі ступае гордая эпоха» (П. Броўка).

Будучая індустрыяльная «эра» бачылася падчас як нейкі райскі сад, як этап жыцця, пасля наступлення якога знікнуць згрызоты, цяжкасці, канфлікты. Як зачараваны, глядзеў у гэтую зменлівую, ружовую даль шчыры, пранікнёны паэт камсамольскага пакалення Паўлюк Трус:

Край легенд,
адвечных песень-казак,
край паэм —
бальзам жывых крыніц...
Край балот,
тугі азёраў наскіх,
край цішы
і громаў-навальніц...
Край лясоў,
мінулых дзён паўстання,
край нізін —
пpacтopaў дальніх шыр...
Край палёў...
О край,—
калі ж ты станеш
краем фабрык дымных і машын?

Адгукаючыся на падзеі часу, у 1929 годзе Купала напісаў выдатны верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...». Ён дарагі для нас і сёння той непадробнай усхваляванай радасцю, з якой паэт развітваецца не толькі са старой вёскай, прытулкам сялянскай галечы, нэндзы, беспрасветнсці, а і з вёскай, што была на працягу ўсёй яго творчасці асяродкам прыгожага, стваральніцай і ахоўніцай казак, паданняў, легенд. Насту-

пае эпоха «новай долі, новай славы»: «Гарбы тваіх нямых курганаў, дзе спяць нявольнікі і князі, парэжа сталь, як нож баранаў...»

Цяжка пераацаніць гэты верш. Ён выяўляе глыбокае разуменне наступальнага характару новай эпохі з яе ўладай тэхнікі, індустрыі, што не пакіне каменя на камені ад сівой патрыярхальшчыны, ад аднаасобнага ладу жыцця з яго забабонамі, цемрай, з бяспрасветнай да знямогі працай. Паэт вітае глыбокі гуманізм рэвалюцыйных пераўтварэнняў у вёсцы.

Адсюль гімн «электрыцы», трактару, аўтамабілю, «з жалеза прасніцы», «радыёваму гоману», фабрычным гудкам, што перамогуць «звон збянтэжаных званіцаў», бо наступленне машыны, тэхнікі бачыцца як вызваленне чалавека ад галечы, бескультур'я, як найвялікшы гуманістычны акт («А сейбіт твой, адсюль самотны... пад крыж не пойдзе енчыць квола; твая дзяўчына пры кудзелі сляпіць не будзе ясных вочак»).

«Індустрыяльным», пераўтваральным пафасам прасякнута і «балотная» купалаўская эпапея — паэма «Над ракой Арэсай» (1933). У канкрэтным факце будаўніцтва камуны, саўгаса на непраходных балотах паэт убачыў тыповую прыкмету сацыялістычнай эпохі, яе рэвалюцыйны, наступальны дух. На творы як бы ляжыць водбліск суровага аскетызму тых гадоў: камунары не прывыклі да раскошы, да «пуховае пасцелі», яны працуюць «у вадзе па пахі», але на цяжкасці, перашкоды не скардзяцца. Так яно і было ў жыцці, бо не толькі канавы, калектары капалі камунары ўручную — заводы, фабрыкі, заклікаямыя палегчыць працу чалавека, памножыць яго сілы, таксама выраслі з пераважнай апорай на фізічную, мускульную сілу, на тапор, пілу, звычайную кельму, патрабуючы ад людзей сапраўды гераічных намаганняў.

З усіх нашых паэтаў, пісьменнікаў настроенасць часу на гераічны лад, рамантычную прывабнасць даляў, якую адкрывае маладым пакаленням сацыялістычная, індустрыяльная эпоха, найлепей адчуў нямала ды ўжо і ў тыя, сёння далёкія для нас трыццатыя гады Купала. Ён быў як бы паэтычным прарокам і, бадай, першы зразумеў, што моладзь ірванецца з вёсак у гарады, з незвычайнай прагнасцю будзе авалодваць новымі прафесіямі, увальецца ў новы гарадскі побыт і назад, пад саламяную страху, ніколі не вернецца.

Вобраз Алесі з аднайменнага верша, рамантычнай, мэтаімкнёнай дзяўчыны, якая да «прасніцы» ўжо «не зляціць з-пад сонца»,— найвялікшае дасягненне ўсёй беларускай паэзіі трыццатых гадоў. Гэтым вобразам Купала ўгадаў штосьці надзвычай істотнае, калі не эпахальнае, у жыцці сваёй рэспублікі, краіны, даў яму назву, вызначыў вытокі. За вясковай дзяўчынай, што «самалётавым крыллем воблакі калыша», як бы паўстае вобраз цэлага пакалення, мужнага, авеянага рамантычным парываннем, пакалення, што стала спадчыннікам рэвалюцыйнай славы бацькоў і пазней, у Айчынную вайну, усклала на свае плечы цяжар найвялікшых нягод і выпрабаванняў.

Дарэчы таксама ўспомніць шматлікія апавяданні Міхася Лынькова, Міхася Зарэцкага, Рыгора Мурашкі, Платона Галавача, Кузьмы Чорнага, аповесць Лукаша Калюгі «Ні госць, ні гаспадар», аповесці Хведара Шынклера. Велізарныя сацыяльныя пераўтварэнні, якія адбыліся ў рэспубліцы, карэнная перабудова побыту як вясковага, так і гарадскога, магутная плынь новых прафесій, якая зноў жа закранула як горад, так і вёску, міграцыя вясковага насельніцтва ў горад — усё гэта, вядома, адбілася, адлюстравалася ў літаратуры. У канцы дваццатых і, бадай, на працягу ўсіх трыццатых гадоў тэма індустрыялізацыі, з'яўленне новай тэхнікі ўспрымалася літаратурай, найперш паэзіяй, са шчырым, можна нават сказаць, святым захапленнем. Эра індустрыялізацыі, якая мусіла наступіць, некаторымі паэтамі ўяўлялася нібы прыход нейкага новага месіі, які, з'явіўшыся, ліквідуе ўсе супярэчнасці, канфлікты, аздобіць жыццё зіхатлівымі бляскамі і колерамі. Індустрыя, яе ўкараненне, пашырэнне, нараджала вялікія рамантычныя сяганні. Трактарыстам, як пазней лётчыкам, танкістам, прысвячаліся нават песні, людзі гэтыя паўставалі ў арэоле нязвычнасці і выключнасці.

Праз беларускую паэзію трыццатых гадоў выразна праходзіць матыў сягання ўзброенага тэхнікай чалавека ў паднебныя высі, матыў незвычайнай сілы і магутнасці гэтага чалавека. Гутарка, вядома, не толькі пра тое, што паэты, зачараваныя нязвычнасцю спраў сваіх сучаснікаў, складалі ў іх гонар оды і гімны. За гэтым бачыўся і сацыяльны рубеж, які пераадольвала

краіна і разам з ёю чалавек, яе насельнік і гаспадар. Як гаварылася ў адным з тагачасных твораў:

Адважна і пільна ўзлятае высока,
Краіну сваю аглядае штодня,
І цешыцца сэрца, і цешыцца вока:
Якое раздолле, прастор, шырыня!..

Новыя далі, што адкрываліся чалавеку ў змененым рэвалюцыяй свеце, арганічна вынікалі з ролі, якую сталі адыгрываць у жыцці тэхніка, машына і звязаныя з ёй новыя прафесіі. Янка Купала, як ужо падкрэслівалася, першы ў беларускай літаратуры адчуў, угадаў надыход псіхалагічных, маральных перамен, якія наступяць у выніку валадарання чалавека над тэхнікай. Яшчэ раз успомнім у гэтай сувязі вобраз мэтаімкнёнай дзяўчыны Алесі, дзяўчыны, якая, адарваўшыся ад матчынай прасніцы, паляцела ў неба і «самалётавым крыллем воблакі калыша». Неба кліча ў свае бязмежныя абсягі і хлопчыка, якому «стукнула ўжо сем год» («Хлопчык і лётчык» Купалы), і шмат якіх іншых, лірычных герояў беларускай паэзіі трыццатых гадоў.

У тагачаснай прозе іншы раз таксама сустракаем рамантычныя інтанацыі, колеры, калі гутарка заходзіць пра чалавека, які ўладарыць над тэхнікай («Андрэй Лятун» М. Лынькова). Але ў цэлым у прозе няма такога пафаснага ўслаўлення тэхнікі, як у паэзіі. Жанравая прырода апавядання ці аповесці патрабавала іншага кута гледжання, другога падыходу да тэмы.

Беларускай прозе можна нават кінуць дакор за тое, што яна нібы праспала эпоху першых пяцігодак, не стварыўшы ніводнага больш-менш прыкметнага вобраза сталявара, кранаўшчыка, арматуршчыка ці хоць бы трактарыста, экскаватаршчыка. Але, відаць, безапеляцыйна выстаўляць такія рахункі літаратуры нельга.

Трактарысты, шафёры, экскаватаршчыкі сапраўды прысутнічаюць у многіх творах хутчэй як эпізадычныя фігуры. Але гэта справы не мяняе. Погляд рабочага чалавека на свет, дынаміка адчування ім асноўных вартасцей жыцця заўсёды былі моцныя ў беларускай прозе. Не складаюць выключэння творы трыццатых гадоў. Перамены ў сацыяльным, духоўным клімаце, новыя маральныя зрухі, уяўленні проза фіксавала актыўна, зацікаўлена, і, зрэшты, не мае істотнага значэння той факт, на «гарадскім» ці на «вясковым» матэрыяле яна гэта рабіла. Раманы К. Чорнага «Трэцяе пакаленне»,

М. Зарэцкага «Вязьмо», апавяданні, аповесці М. Лынькова, П. Галавача, Э. Самуйлёнка, М. Гарэцкага востра дыскутавалі праблемы новых маральных каштоўнасцей у сувязі з суцэльнай калектывізацыяй і індустрыялізацыяй краіны. Варта сказаць і аб тым, што трыццатыя гады неслі ў сваёй гарачай ад класавай барацьбы атмасферы можа не меншы «інфармацыйны выбух», чым сённяшні час. Паток інфармацыі, колькасць тэхнічных вынаходніцтваў, адкрыццяў сёння намнога большыя, чым у трыццатыя гады. Але, мабыць, такія паняцці, як «пяцігодка», «суцэльная калектывізацыя», «індустрыялізацыя», якія ўкараняліся не толькі ў свядомасці, але мянялі сацыяльнае становішча мільёнаў людзей, былі чымсьці не менш значным, чым сённяшнія паняцці «сінхрафазатрон», «касмічныя палёты», «звышгукавы лайнер».

Тагачасная паэзія, у пэўнай меры і проза нават, аказаліся ў палоне ілюзій. Вера ў тое, што размах будаўніцтва, індустрыялізацыя здымуць калі не ўсе, то асноўныя грамадскія супярэчнасці, «ачысцяць» самога чалавека ад сацыяльных заган, якія дасталіся яму ў спадчыну ад старога свету, была настолькі моцная, што яе нават падзяляў такі праніклівы, удумлівы пісьменнік-псіхолаг, як Кузьма Чорны. Сёння выразна відаць, што выдатны пісьменнік паспяшаўся «перавыхаваць» закаранелага ўласніка Міхала Тварыцкага, героя рамана «Трэцяе пакаленне».

Вядома, Тварыцкі, папрацаваўшы на будоўлі, няхай сабе ў зняволенні, прыгледзеўшыся да імклівых перамен у навакольным жыцці, мог ад некаторых прывычак, нават перакананняў цалкам або часткова адмовіцца. Не будзем, аднак, забываць, што раман сваёй мастацка-вобразнай структурай нясе значную долю ўмоўнасці, і той факт, што Тварыцкі прыносіць дачцэ золата і без асаблівых угавораў згаджаецца перадаць яго «куды самі ведаеце», азначае не што іншае, як канчатковае перавыхаванне героя.

Сучаснай літаратуры, у тым ліку творам, якія непасрэдна прысвячаюцца праблемам НТР, прыходзіцца, на жаль, сутыкацца з заганамі прыватна-ўласніцкай псіхалогіі, магчыма, іншымі па форме, але блізкімі па сутнасці, з якімі сутыкаўся ў свой час Кузьма Чорны. Тулін, герой рамана Д. Граніна «Іду на навальніцу», па сваёй прыродзе той жа ўласнік, што і Тварыцкі,

толькі, вядома, больш рафініраваны, выкшталцаваны, з большым наборам прыёмаў сацыяльнай мімікрыі. Тулін — «честолюбец», Тварыцкі — «стяжатель», урвіцель, калі прыгледзецца ўважлівей. Мараль аднаго і другога — драпежніцкая, эгаістычная. Асабісты інтарэс, выгаду яны ставяць вышэй за ўсё астатняе.

Падобную калізію бачым у «Індустрыяльнай баладзе» М. Калеснікава. Як падкрэслівае аўтар, дамінантай паводзін большасці герояў рамана з'яўляецца сцверджанне саміх сябе. Праўдзівей, сцверджанне таго, што звычайна называюць самалюбствам, «честолюбием». «Чаму «честолюбие» лічыцца ледзь не загадай? — развражае адзін з герояў «Індустрыяльнай балады».— Сучаснае «честолюбие» павінна мець надзвычай трывалы і масіўны фундамент з самых новых вердаў: пад ім нечалавечая праца, бяссонныя ночы, нервоваеператамленне».

Сакратар гаркома Ігнатовіч, герой рамана Івана Шамякіна «Атланты і карыятыды», таксама многа працуе, вельмі многа ведае, вызначальнымі момантамі яго паводзін з'яўляюцца кампетэнтнасць, дакладнасць, разлік, рацыянальнасць. Але культуры, высокай маралі ў паводзінах яму якраз не хапае, і мы, відаць, маем падставу задумацца: ці хапае яму прыстойнасці, сумленнасці?

Як бачым, найсучаснейшы тэхнакрат можа пакланяцца богу асабістага поспеху, славе.

Між тым беларуская літаратура, асабліва яе эпічныя жанры, яшчэ не сказалі свайго слова менавіта пра індустрыяльнае жыццё. Часткова гэта можна вытлумачыць той акалічнасцю, што сацыяльныя, маральныя і іншыя пытанні, якія маюць больш-менш істотнае значэнне для сучаснасці, для дадзенага адрэзка сацыяльнай, гістарычнай рэчаіснасці, вырашаюцца на іншым жыццёвым матэрыяле, больш блізкім для духоўнага вопыту пісьменнікаў. Так заўсёды было, бо значныя сацыяльныя, маральна-этычныя зрухі, змены псіхалогіі, якія толькі і цікавяць літаратуру, маюць як бы універсальны характар. Не варта забываць і аб тым яшчэ, што жыццё людзей, і ў першую чаргу заводскіх, фабрычных, адным словам, жыццё ў гарадскіх умовах, набывае ўсё больш дынамічны характар, даходзячы да стрэсу. А музы, як вядома, мітусні не любяць. Мабыць, па гэтай прычыне не прыходзіцца адзіўляцца, што на-

ват маладзейшыя пісьменнікі, вопыт якіх бліжэй да перамен у імклівым жыцці, лічаць за лепшае накіроўваць сваіх герояў на ўлонне прыроды, у вёску, у сельскую цішыню, дзе яны могуць лепей свайго героя разгледзець. Дакараць іх за гэта не варта. «Краіна дзяцінства» таксама дае немалы грунт для найноўшых вывадаў і назіранняў. А літаратура па сваёй мастацкай прыродзе патрабуе пранікнёнага слова, якое можа сказаць толькі той, хто закаханы ў родны кут, у тую мясцінку на зямлі, дзе ён нарадзіўся, рос, дзе распраміў крылле.

Да апошняга часу існавалі спецыфічныя прычыны, якія прыводзілі да таго, што машынная тэхніка збядняла эмацыянальную, эстэтычную сферу ўспрымання прыстаўленага да яе рабочага, у нейкай меры збядняла яго духоўны змест у працэсе працы, бо ён, хочаш не хочаш, быў прыдаткам да машыны. Красамоўна аб гэтым піша акадэмік А. Гершковіч: «Ні пры якой машыннай прамысловасці праца не прыносіць чалавеку задавальнення, паколькі чалавек настолькі спецыялізаваны, што не бачыць вытворчасці ў цэлым. У выніку гэтага праца губляе ўласцівую ёй самамэту, а тым самым і сэнс для чалавека».

Бясспрэчна, што адмоўныя вынікі ўплыву паточнай, канвеернай вытворчасці, капіталістычнай «патагоннай сістэмы» на развіццё асобы рабочага, яго «адчужэнне» ў працэсе працы найбольш непрыглядна адбіліся ва ўмовах буржуазнага ладу з яго пагоняй за прыбыткам, звышпрыбыткам, бязлітаснай эксплуатацыяй. Вядомы амерыканскі капіталіст Форд на сваіх заводах даводзіў метад Тэйлара і мануфактурнае раздзяленне працы да вышэйшай ступені іх эфектыўнасці для капіталу і згубнага ўздзеяння на рабочага. Ён сам неаднаразова прызнаваўся, што галоўнае патрабаванне да паточнай вытворчасці — максімальнае скарачэнне неабходнасці думаць і абмежаванне рухаў рабочых да мінімуму. Рабочы, які, напрыклад, абслугоўваў прэс, тысячу разоў у дзень штампаваў адну і тую ж дэталь, сапраўды ператварыўся ў звычайны прыдатак да машыны.

Сумяшчэнне функцый і прафесій — асноўная тэндэнцыя сучаснага тэхнічнага прагрэсу. НТР, такім чынам, абумовіла карэнны пералом у гэтай справе, бо на працягу ўсёй папярэдняй гісторыі чалавецтва асноўнай

тэндэнцый быў працэс дыферэнцыяцыі прафесій у выніку спецыялізацыі працы. У 1937 годзе ў СССР налічвалася прыкладна 2 тысячы прафесій і спецыяльнасцей, у 1958 годзе — ужо звыш 10 тысяч. Затое ў 1960—1961 гадах іх было толькі 5563. У вугальнай прамысловасці, напрыклад, у гэтыя ж гады ў выніку комплекснай механізацыі і аўтаматызацыі колькасць прафесій скарацілася са 150 да 38.

У нашай краіне рабочыя вышэйшых разрадаў (V — VI) у механізаванай вытворчасці складаюць 22,5 працэнта, у аўтаматызаванай — 68,7 працэнта. Доля інжынераў і тэхнікаў у прамысловасці ўжо сёння дасягнула 10 працэнтаў, на найбольш перадавых прадпрыемствах яна ў 2—3 разы вышэй. Па прагнозах на 1980 год у эканамічна развітых краінах на прадпрыемствах хімічнай, нафтаперапрацоўчай, харчовай прамысловасці доля гэтая дойдзе да 50—60 працэнтаў. Як сацыяльны вынік НТР і надалей будзе ўзмацняцца адчувальная ўжо сёння тэндэнцыя перамяшчэння работнікаў са сферы вытворчай у невытворчую. Падлічана, што капіталаўкладанні ў адукацыю ў 6 разоў, а ў асобных выпадках у 9 разоў эфектыўней за капіталаўкладанні ў важныя галіны тэхнічнага развіцця. У ЧССР штогадовы ўклад у нацыянальны даход спецыяліста з вышэйшай адукацыяй прыкладна на 30 тысяч крон вышэй, чым такога ж спецыяліста з сярэдняй адукацыяй.

У рускай прозе паявіўся шэраг твораў, аўтары якіх спрабуюць падступіцца да самых новых тэндэнцый і павеваў, што ўносіць у сучаснае жыццё НТР. Сярод іх вызначаюцца аповесць Б. Бандарэнкі «Цэйнот», у якой расказваецца пра людзей, што робяць і ўкараняюць ЭВМ, аповесць Л. Лондана «Быць інжынерам», М. Каляснікава «Індустрыяльная балада», прысвечаная вострым праблемам кіравання сучаснай будоўляй, прамысловасцю. Пералічаныя аповесці нельга назваць значнымі з'явамі літаратуры, хоць некаторыя моманты сучаснага індустрыяльнага развіцця яны закранаюць.

Герой аповесці Б. Бандарэнкі, разважаючы аб прафесіі наладчыка ЭВМ, так, напрыклад, выказваецца: «...парадаксальнае жыццё, калі бяздзейнасць лічыцца прыкметай выдатнай работы. Бо працуеш або ты, або машына...»

У аповесці Л. Лондана пастаўлена больш сур'ёзная праблема. Тэхніка, разважае аўтар, бясспрэчна, рухае

грамадства наперад, але перш за ўсё праз чалавека, яго адданасць справе, уменне і жаданне працаваць: «...няма мяжы, якая падзяляе жыццё людзей на службовае і асабістае». Л. Лондан, як і Б. Бандарэнка, спявае гімн тэхніцы: «Цяпер дамы збіраюцца самі. Завязі на пляцоўку дэталі, пастаў кран і знікай. Праз тры дні будзе стаяць паверх, а праз два месяцы — дом».

На жаль, будоўля, дзе герой працуе галоўным інжынерам, далёка не выдатная ў сэнсе арганізаванасці, зладжанасці, рытмічнасці працы і часта перавагі, якія дае новая тэхніка, зводзяцца на нішто расхлябанасцю і безадказнасцю людзей: «Тры паверхі губляе трэст у тыдзень з-за парушэння графіка дастаўкі раствору і чатыры паверхі — з-за дрэннай дастаўкі жалезабетонных вырабаў. Выходзіць, мы губляем за адзін тыдзень цэлы дваццаціпавярховы дом».

Савецкая літаратура, відаць, падышла да этапа свайго развіцця, калі патрабуецца мастацкі аналіз складаных, неадназначных з'яў і працэсаў нашага росту, калі на першы план вылучаюцца праблемы фарміравання новай, камуністычнай маралі, заснаванай на высокай свядомасці, пачуцці грамадзянскага абавязку. У свой час вялікі рускі крытык Бялінскі пісаў, што з усіх відаў чалавечага развіцця найвышэйшае — развіццё маральнае, бо іменна яно робіць індывідуум чалавекам. Відаць, не выпадкова найбольш яркімі выразнікамі духу першых пяцігодак былі ў савецкай літаратуры героі дзейсныя, актыўныя. Мастацкімі вехамі таго, сёння ўжо далёкага часу сталі раманы «Узнятая цаліна» М. Шолахава, «Соць» Л. Ляонава, «Цэмент» Ф. Гладкова, а ў беларускай літаратуры раманы і аповесці К. Чорнага, М. Зарэцкага, П. Галавача і іншых, у цэнтры якіх героі актыўнай грамадскай пазіцыі.

У рамане Івана Шамякіна «Атланты і карыятыды» мы сустракаемся як з дзейсным, актыўным героем, на баку якога сімпатыі пісьменніка, так і з так званым «валявым» героем, што паўстае сёння ў абліччы тэхнакрата-рацыяналіста. Герояў актыўнадзейсных Іван Шамякін за сваю творчую практыку намаляваў нямала, і, як мы ведаем, не ўсе яны былі ўвасабленнем станоўчага ідэалу пісьменніка. Часта станоўчае і адмоўнае ў вобліку такіх персанажаў вельмі супярэчліва перапляталася. Успомнім: быў Максім Лескавец з рамана «У добры час», напісанага ў пачатку пяцідзесятых га-

доў, быў Арцём Бародка з рамана «Крыніцы», які з'явіўся ў другой палове пяцідзесятых гадоў, Бародку як бы пашыраў, дапаўняў вобраз Гукана з рамана «Сэрца на далоні» (сярэдзіна шасцідзесятых гадоў), нарэшце, на мяжы шасцідзесятых і сямідзесятых гадоў пісьменнік у рамане «Снежныя зімы» даў нам вобраз Антанюка.

У кожнага з персанажаў былі свае маральныя антыподы, лепшыя або горшыя, яны выразней адцянялі добрае або дрэннае ў дамінанце паводзін асноўнага героя.

У эвалюцыі шамякінскага «валявога» героя адбілася эвалюцыя часу, змены і зрухі ў грамадскай псіхалогіі, нарэшце, пісьменніцкае разуменне прымальных і непрымальных валявых пачаткаў у духоўным обліку героя. Бародку, Гукана пісьменнік бадай цалкам адмаўляе, валявы пачатак у іх перарадзіўся ў кар'ерызм, эгаізм, самазакаханасць, самалюбаванне, зрабіў іх паводзіны як кіраўнікоў шкоднымі для грамадства.

Антанюк — першы ў шамякінскай галерэі «кіраўнікоў», у характары якога цвёрдасць, моцная воля азначае штосьці іншае — унутраную пераконанасць, прынцыповасць, уменне не паддацца кан'юнктурным павевам, адміністрацыйным загадам, ігнараванне якіх вельмі лёгка можа адбіцца на службовым становішчы.

Дык вось Максім Карнач, герой новага рамана Івана Шамякіна, галоўны архітэктар горада, з аднаго боку як бы працягвае лінію маральнай стойкасці, непадатлівасці, пазначаную ў характары Антанюка, а з другога — ён блізкі да «дзелавых», кампетэнтных людзей, якія даволі шырока прадстаўлены ў сучаснай літаратуры і асабліва ў драматургіі. Гэтым і іншымі вобразамі рамана Шамякін нават палемізуе з характарамі «дзелавых» людзей, з іх, калі можна так сказаць, «адналінейнасцю», маральна-этычнай адназначнасцю. Маючы за плячамі немалы творчы вопыт, Шамякін, відаць, дапускае магчымасць трансфармацыі некаторых рыс Чашкова з п'есы І. Дварэцкага «Чалавек з боку» ў тое, што стала непрымальным для яго як для мастака ў такіх героях, як Бародка і Гукан.

Але патрэба ў валявым чалавеку, энергічным, дзейным, які можа павесці за сабой іншых людзей, не баіцца першым сказаць слова нязгоды, не падпарадкоўваецца агульнай плыні, адстойваючы свае перакананні,

погляды, відаць, аб'ектыўна існуе ў жыцці. У сацыялістычным грамадстве ад кіраўніка, чалавека, які ўзначальвае вялікія калектывы, мае дачыненне да агромністых матэрыяльных і духоўных рэсурсаў, зрэшты, залежыць многае. Мы ведаем, што пастаўленыя на чале калгасаў, прадпрыемстваў, буйных заводаў і фабрык, якія ў нядаўнім мінулым адставалі, разумныя, абачлівыя і разам з тым дзейныя кіраўнікі дамагаліся рашучага пералому. Нездарма вядомы эканаміст А. Бірман, які прыняў удзел у дыскусіі аб п'есе «Чалавек з боку», у артыкуле «За Чашкова супраць яго» піша: «Ён ведае эканоміку, ён любіць і ўмее лічыць грошы. Я думаю, што новае ў Чашкове — яго эканамічны інстынкт (калі так дазволена выказвацца) — і прывяло да таго, што шырокая публіка ўбачыла ў ім вобраз савецкага дзелавога чалавека» («Советская культура», 15 лютага 1973 г.).

Пазіцыя аўтарытэтнага эканаміста, аднак, супярэчлівая. Ён правільна ўгадаў, што рэзананс крытыкі, грамадскасці на Чашкова абумоўлены духам, патрэбамі часу, якія гэты характар увасабляе. Бо Чашкоў сваім з'яўленнем на свет выказвае тэндэнцыю, якая ў грамадстве наспела, носіцца, як кажуць, у паветры, і намаляваны драматургам характар, няхай сабе яшчэ канчаткова не аформлены, не завершаны ў псіхалагічнай, аб'ектыўнай цэласнасці, калі не дае поўнай назвы заканамернай з'яве сучаснасці, то хоць пазначае яе прыблізныя контуры. Чашкоў прымушае думаць, абуджае жаданне спрачацца, дыскутаваць.

У якім напрамку вядзе дыскусію А. Бірман? Бадай, у тым самым, што і Шамякін у рамане «Атланты і карыятыды». Максім Карнач — антыпод Чашкова, хоць ёсць рысы, што збліжаюць абодвух герояў. Карнач таксама бескампрамісны, кіруецца інтарэсамі справы, не падладжваецца пад агульную плынь, парывае з жонкай-мяшчанкай, хоць ведае, што аўтарытэт ягоны як галоўнага архітэктара горада ў сувязі з гэтай прыкрай справай пахіснецца. І ўсё ж Карнач куды большы дыпламат, чым Чашкоў, проста так, без патрэбы «дроў не наломіць», умее, дзе трэба, усміхнуцца сакратарцы, прабрацца ў кабінет да начальніка, ад якога залежыць — даць благаславенне ці «зарэзаць» чарговы праект.

Іван Шамякін паказвае куды большую іерархію за-

лежнасці, з якой проста з-за неабходнасці павінен лічыцца сённяшні «дзелавы» чалавек, кіраўнік. Карнач улічвае «чалавечы фактар вытворчасці», і пра яго не скажаш таго, што сказаў пра Чашкова эканаміст А. Бірман: «...падмяняе патрабавальнасць грубасцю, навучанне і выхаванне — знявагай і санкцыямі... хапаецца за асобныя (няхай і вельмі важныя) меры, не паказаўшы калектыву агульнай стратэгічнай задумы, не падрыхтаваўшы яго да ажыццяўлення такой задумы».

Карнач — не новы вобраз у Шамякіна. Ён як бы сінтэзуе якасці, носьбітамі якіх ужо былі хірург Яраш з рамана «Сэрца на далоні» і прадстаўнік «старой гвардыі», гаспадарчы кіраўнік высокага рангу Іван Васільевіч Антанюк з рамана «Снежныя зімы». Магчыма, па гэтай прычыне крытыка не вельмі актыўна ўхапілася за новы шамякінскі раман, за ўзнятыя ў ім праблемы. Не будзем выдаваць пісьменніку індульгенцыю на майстэрскую бездакорнасць яго новага твора. Намаляваным у рамане характарам Шугачова, Карнача ды і многім іншым бракуе той пераканаўчасці, цэласнасці, якая зрабіла б іх псіхалагічна, пластычна завершанымі ў іх індывідуальнай і сацыяльнай сутнасці.

Але бясспрэчна адно: і на гэты раз шамякінскі талент засведчыў, што пісьменнік па-ранейшаму чуйна рэагуе на патрэбы часу, здольны ўлавіць істотнае ў зрухах грамадскай псіхалогіі, у тых яшчэ даволі неакрэсленых тэндэнцыях, якія толькі прабіваюцца на свет.

Што пісьменнік з пэўнай апаскай, насцярожанасцю глядзіць на выдаткі «дзелавога» стылю, якім характарызуецца насычаная тэхнічным прагрэсам сучаснасць, гавораць і вобразы партыйных кіраўнікоў, можна сказаць, стала прапісаныя ў кожным шамякінскім творы.

Але ў апошнім рамане ёсць істотна новы паварот. Перад наяўнасцю новых з'яў, выкліканых іменна «дзелавым», рацыянальным стылем, пісьменнік як бы гатоў нават узяць назад некаторыя з тых «каменьчыкаў», якія дзесяць — пятнаццаць гадоў назад кідаў у агарод такіх кіраўнікоў, як Гукан і Бародка. Успомнім: за што пісьменнік іх асуджаў? Ну вядома ж, за перараджэнне, за кар'ерызм і суб'ектывізм, за валявыя прыёмы, за ігнараванне калектыўнай думкі, за начальніцкае «я». «Я раён цягну на плячах»,— гаворыць Арцём Бародка.



На Першамайскай дэманстрацыі.
Янка Сіпакоў, Іван Навуменка, Ніна Маеўская,
Барыс Сачанка, Юрась Свірка. 1958 год.



У Стакгольме. 1979 год.

Але не толькі за гэта развенчваліся Бародка і Гукан, а яшчэ і за тое, што кіравалі «наогул», не ведалі справы так, як мусіць ведаць ну хоць бы сярэдні спецыяліст сельскай гаспадаркі ці будаўніцтва, спадзяваліся на сілу аўтарытэту, загаду, адміністрацыйнага «прыціску».

Сакратар гаркома Ігнатовіч, як ён паказаны ў рамане «Атланты і карыятыды» — кампетэнтны кіраўнік. Слоў на вецер не кідае, ва ўсім дакладны, строгі, стрыманы, імкнецца да дробязей вывучыць нават тэхнічны бок справы, якая праходзіць праз яго рукі. Але недзе ў паводзінах Ігнатовіча той жа тэхнакратычны вывіх, што і ў Чашкова: ён недаўлічвае іменна «чалавечы фактар вытворчасці». Ва ўсякім выпадку, у дачыненні да Карнача Ігнатовіч робіць яўную памылку. Стараючыся паспрыяць горадабудаўніцтву, схіляючыся перад аўтарытэтамі, ён забывае, аднак, што Карнач — таленавітая, творчая натура і што ўжо адным гэтым прыносіць несумненную карысць гораду. Са здзіўляючай лёгкасцю Ігнатовіч абсякае ніці даўняй дружбы, прыязнасці, якія звязвалі яго з Карначом, і менавіта за гэта яго папраўляе сакратар абкома Сасноўскі, кіраўнік старога гарту, трывалай загартоўкі, які мысліць шыродка і маштабна.

І тут Шамякін таксама злавіў наспелую тэндэнцыю часу: пры наяўнасці эрудзіраваных, тэхнічна ўзброеных кіраўнікоў, камандзіраў вытворчасці грамадства мае не меншую патрэбу ў кадрах, што бачаць перспектыву, здольныя заглядваць наперад, па прамым сваім партыйным абавязку выдатна разумеюць, што найскладанейшую справу перш за ўсё вырашаюць людзі. Сасноўскі, мабыць, горш за Ігнатовіча разбіраецца ў дэталях горадабудаўніцтва, у спецыяльных галінах. Ён, як тыя, каго пісьменнік у свой час крытыкаваў, не надта падкаваны, але ён «узяў» іншым: маштабнасцю бачання, адчуваннем жыцця, народным складам натуры і можа яшчэ мудрым разуменнем старой добрай ісціны — наскокам, кавалерыйскай атакай, дзейнічаючы па загадзя разлічанай, але пазбаўленай чалавечага зместу схеме, дарожашся няшмат.

Многа цікавых рыс мае сённяшняя беларуская літаратура, якая ўсё актыўней увасабляе тэму горада, рабочага чалавека. Захапленне пісьменнікаў дакументам, фактам, цягай да надзённасці (В. Мыслівец, А. Савіцкі) варта разглядаць як праявы паглыбленай цікавасці

да таго новага, істотнага, што нараджаецца ў жыцці. «Вытворчыя» раманы У. Карпава таксама ўзніклі на грунце канкрэтнага вывучэння пісьменнікам мінскіх заводаў. Толькі, відаць, усім нам трэба памятаць, што праўда факта здольная ўзбагаціць мастацтва толькі ў тым выпадку, калі дапамагае спасцігаць сацыяльную, філасофскую, гуманістычную сутнасць з'яў і тэндэнцый сучаснасці. Набыткі нашай літаратуры немалыя. Яны бачацца перш за ўсё ў тым, што сённяшняя беларуская літаратура адпавядае сучасным запатрабаванням чалавека выхаванага, адукаванага. Але не ўзнятых літаратурай жыццёвых пластоў, праблем яшчэ многа. Новыя, маштабныя працэсы адбываюцца ў заводскіх, рабочых калектывах, у вёсцы, і наша літаратура павінна адлюстроўваць гэтыя перамены, дакладна, глыбока даследаваць духоўны, маральны клімат грамадства.

*1976*

# ЛІСТКІ З КНІГІ ЖЫЦЦЯ [1]

Беларусь — краіна, размешчаная паміж Бугам, Нёманам і Дняпром, Заходняй Дзвіной і Прыпяццю. Гэта краіна лясоў і шырокіх раўнін, азёр і павольных рэк здаўна была населена ўсходнеславянскімі плямёнамі. Беларусы — адзінакроўныя браты рускіх і ўкраінцаў, і імі іх звязвае еднасць паходжання, гістарычнага лёсу, блізкасць мовы і культуры.

Сваімі карэннямі беларуская літаратура сягае ў сівую даўніну. Агульны для рускіх, украінцаў і беларусаў літаратурны помнік — эпас «Слова аб палку Ігаравым» узнік яшчэ ў XII стагоддзі. Моцнай была літаратурная традыцыя на беларускай зямлі ў сярэднія вякі — ужо тады побач з рэлігійнай літаратурай пачынае развівацца свецкая. Беларускі першадрукар, асветнік і гуманіст Францыск Скарына надрукаваў кнігі «Бібліі» больш як 450 год назад.

Нараджэнне новай беларускай літаратуры датуец-

---

[1] Прадмова да зборніка беларускіх апавяданняў на французскай мове.

ца пачаткам XIX стагоддзя і звязана з выразнай гістарычнай вехай — уз'яднаннем Беларусі з Расіяй. Народ, які на працягу стагоддзяў быў адарваны ад вялікага ўсходняга брата, вярнуўся ў роднае ўлонне, узбагачаны шматпакутнымі шляхамі сваёй гісторыі.

Беларускі народ захаваў уласную мову. На ёй былі створаны невычэрпныя скарбы вуснай творчасці, што выяўлялі непаўторны духоўны воблік народа; казачны беларускі эпас быў адным з найбагацейшых ва ўсім славянскім свеце.

У XIX стагоддзі ў беларускую літаратуру прыходзяць буйныя прафесіянальныя пісьменнікі — В. Дунін-Марцінкевіч і Ф. Багушэвіч.

Неспакойны дваццаты век пачаўся на прасторах Расіі грымотамі першай рускай рэвалюцыі. Захісталіся асновы самаўладдзя, да актыўнага палітычнага жыцця абудзіліся ўскраіны царскай імперыі.

Першая руская рэвалюцыя выклікала да мастацкай творчасці новую плеяду таленавітых беларускіх пісьменнікаў, і сярод іх зоркі не знанай раней велічыні — Янку Купалу і Якуба Коласа. Вуснамі Янкі Купалы і Якуба Коласа на ўвесь голас загаварыла сама Беларусь — таленавітая і прыніжаная, багатая духоўна і непрызнаная як нацыя, Беларусь, якая ў рэвалюцыі, у знішчэнні царска-памешчыцкага ўціску, у барацьбе за права «людзьмі звацца» бачыла свой светлы заўтрашні дзень.

Трэба ўлічваць, што беларускі народ быў пазбаўлены магчымасці карыстацца здабыткамі сваёй шматвяковай культуры, над яго мовай вісела знявага забароны, кнігі яго нешматлікіх пісьменнікаў не маглі дайсці да чытача.

Канец усяму гэтаму паклаў Вялікі Кастрычнік. Сёння не так лёгка ўявіць той велізарны, нечуванай сілы псіхалагічны выбух, які спадарожнічаў рэвалюцыйнай яве ў чалавечых сэрцах і душах. «Хто быў нічым, той стане ўсім» — гэтыя радкі з «Інтэрнацыянала», перакладзеныя Купалам з французскай на беларускую мову, можна было б паставіць эпіграфам да вялікай кнігі беларускай паэзіі, прозы, драматургіі, якую пісалі абуджаныя да творчай дзейнасці Кастрычнікам маладыя сілы.

Малады пісьменнік і яго чытач, перад якімі Савецкая ўлада адкрыла шырокія прасторы жыцця, калі не

свядомасцю, то пачуццём успрымалі вялікую праўду рэвалюцыі, яе класавы, сацыяльны сэнс. На вачах пакаленняў, дзяцінства, юнацтва, сталенне якіх прыпала на савецкі час, як, дарэчы, і старэйшых пакаленняў, адбываліся грандыёзныя перамены. Упершыню ў сваёй гісторыі Беларусь атрымала дзяржаўнасць і як роўная сярод роўных увайшла ў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Упершыню ў гісторыі пачалі работу многія навуковыя і вышэйшыя навучальныя ўстановы, тэатры, выдавецтвы, пачалі выходзіць на беларускай мове шматлікія газеты, часопісы, рэспубліка пакрылася густой сеткай школ. Перад моладдзю адкрыліся шырокія дзверы ў жыццё — вучыся, выбірай якую хочаш прафесію, працуй, дзе табе падабаецца.

Апавяданні, якія прадстаўлены ўвазе французскага чытача, ствараліся як старэйшымі, так і маладзейшымі беларускімі пісьменнікамі. Беларуская літаратура, як, відаць, і кожная літаратура, амаль не мае чыстых навелістаў, якія б не працавалі ў сумежных жанрах. Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі — пісьменнікі старэйшага пакалення, яны пачалі сваю творчасць яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі і шырока вядомы вершамі, паэмамі, аповесцямі, раманамі.

Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка нарадзіліся яшчэ ў старой Расіі, але як пісьменнікі сфарміраваліся ў савецкі час. Апавяданне ў іх творчасці таксама не мае дамінуючай ролі, бо Кандрат Крапіва — буйнейшы байкапісец і драматург, Кузьма Чорны — раманіст, Пятрусь Броўка — паэт, лаўрэат Ленінскай прэміі.

Тое ж можна сказаць бадай пра ўсіх пісьменнікаў, якія прадстаўлены ў кнізе, выключаючы хіба двух-трох самых маладых, што прыйшлі ў літаратуру ў апошнія гады і проста не паспелі яшчэ напісаць буйнейшых твораў.

Але ў той жа час апавяданне з'яўляецца самастойным і прыметным жанрам у беларускай літаратуры. Яно даказала сваю здольнасць адкрываць, даваць мастацкую «прапіску» значным з'явам сацыяльнага, духоўнага жыцця, маляваць яркія, самабытныя характары, вызначаць істотныя грамадскія настроі.

Якуб Колас сваімі дарэвалюцыйнымі апавяданнямі адкрыў цэлы свет беларускага вясковага жыцця, а

ў сваіх алегарычных навелах, адна з якіх змяшчаецца ў гэтым зборніку, уздымаў вялікія філасофскія і маральна-этычныя праблемы.

Такім жа паказальным уяўляецца творчы вопыт Кузьмы Чорнага, шматлікія апавяданні якога паказваюць абуджаную рэвалюцыяй вёску ва ўсім кіпенні яе сацыяльных і чалавечых страсцей, яе духоўных, маральна-этычных пошукаў.

У сваіх апавяданнях Кузьма Чорны вельмі многа эксперыментаваў, пранікаючы ў глыбіні свядомасці і падсвядомасці, выяўляючы сувязь думкі і пачуцця, нават самага мімалётнага, даследуючы сам працэс нарастання пачуцця, настрою, думкі. Адзін з такіх яго эксперыментаў — навела «Начлег у вёсцы Сінегах», што ўзнаўляе часы грамадзянскай вайны. У аснову яе пакладзен бытавы эпізод, насычаны, аднак, глыбокім філасофскім падтэкстам.

Міхась Лынькоў напісаў незабыўныя, што даўно ўжо зрабіліся хрэстаматыйнымі, апавяданні аб выпрамленні «маленькага» чалавека ва ўмовах сацыялістычнай рэвалюцыі. Яркія, поўныя драматычнага пафасу, гумару, лірыкі, з музыкальным, напеўным ладам фразы, гэтыя апавяданні (адно з іх «Андрэй Лятун» прадстаўлена ў зборніку) па-чалавечы душэўна і тонка перадаюць атмасферу рэвалюцыйнай маладосці рэспублікі, малююць духоўны воблік пакалення, якое сёння ўжо з'яўляецца старэйшым.

Жыццё не стаіць на месцы. Кожнае новае пакаленне прыносіць у яго сваё адчуванне свету, свае пытанні і праблемы. У моманты змены грамадскай псіхалогіі, зрухаў, якія адбываюцца ў грамадскай свядомасці, заўсёды нараджаюцца духоўныя каштоўнасці, якія здольны ў першую чаргу ўвасобіцца ў апавяданні. Шэраг пісьменнікаў, творы якіх змешчаны на старонках зборніка, уліліся ў літаратуру з вопытам удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, па цяжкіх дарогах якой яны прайшлі як салдаты або партызаны. Гэта Іван Шамякін, Іван Мележ, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Аляксей Кулакоўскі, Мікола Ткачоў, Мікола Лупсякоў, Алена Васілевіч, Аркадзь Марціновіч, Мікола Ракітны.

І яшчэ адно пакаленне расказвае «аб часе і аб сабе», пакаленне, якое непасрэднага ўдзелу ў вайне не прымала, але тым не меней пра вайну або пасляваен-

ныя нягоды ў сваёй творчасці не забывае. Іначай, відаць, і не можа быць у літаратуры народа, кожны чацвёрты якога згарэў у пажары другой сусветнай вайны.

Іван Пташнікаў, Вячаслаў Адамчык, Барыс Сачанка, Міхась Стральцоў, Іван Чыгрынаў, Анатоль Кудравец, Павел Місько, Алесь Жук, Уладзімір Караткевіч, Уладзімір Дамашэвіч — плеяда пісьменнікаў, якія ўліліся ў літаратуру ў пасляваенныя дзесяцігоддзі.

Можна сказаць, што апавяданням старэйшых і маладзейшых пісьменнікаў уласціва шырыня пошукаў сацыяльных і маральна-этычных каштоўнасцей. Яны па-рознаму, але ўвогуле таленавіта расказалі аб рэвалюцыі, сацыялістычных пераўтварэннях, аб вайне, дзяцінстве, абпаленым вайной. У аснове іх твораў сацыяльныя і маральныя з'явы і роздум мастакоў аб гэтых з'явах.

У апавяданнях беларускіх пісьменнікаў — канкрэтнасць побыту, шчырасць пачуцця, перажывання. Некаторыя са змешчаных твораў у добрым сэнсе біяграфічныя, яны абапіраюцца на бачанае, перажытае, нават на канкрэтны факт, выпадак. Нічога кепскага ад гэтага не здарылася. Набрыняўшы жывымі сокамі побыту, рэаліямі жыцця, апавяданне стала па-мастацку больш праўдзівым, пераканаўчым.

Супярэчнасці, канфлікты інтымнага жыцця займаюць у сённяшнім апавяданні прыкметнае месца. Думаецца — гэта натуральна. Беларусь імкліва развіваецца ў індустрыяльным напрамку. Карэнным чынам змяніўся класавы, дэмаграфічны склад насельніцтва. Выраслі дзесяткі буйных заводаў, электрастанцый, фабрык, розных іншых прамысловых прадпрыемстваў. Прафесія настаўніка, урача, інжынера, механізатара стала самай звычайнай прафесіяй. Кожны выпуск дзесяцігодкі, вышэйшай навучальнай установы прыбаўляе колькасць людзей, светаўспрыманне, светаадчуванне якіх істотна адрозніваецца, скажам, ад адчуванняў і запатрабаванняў селяніна-аднаасобніка. У савецкім грамадстве ідзе няўхільны працэс росту асобы, пашыраецца яе духоўны дыяпазон.

Дарэвалюцыйнае беларускае апавяданне амаль не выдзеліла любоўнай тэмы. Такая тэма ўпершыню паяўляецца ў апавяданнях савецкага часу. Герой сучасных твораў (у параўнанні, напрыклад, з творамі 30—

40-х гадоў) стаў яшчэ больш «далікатны», інтэлігентны ў сваіх пачуццях. Гэта зноў жа сведчыць, што вырас свет асобы, кола яе этычных запатрабаванняў. У лепшых апавяданнях аб каханні прысутнічае атмасфера маральна-этычных пошукаў грамадства, яго духоўныя ідэалы.

Багаты духоўна чалавек бачыць вакол сябе багаты разнаколерны свет, з якім ён цесна і непарыўна звязан. Ён гуманіст, любіць усё жывое, як і наогул усё тое, што мы называем прыродай. Менавіта такі герой намаляваны ў апавяданнях М. Лупсякова «Дняпроўская Чайка», Івана Чыгрынава «Дзівак з Ганчарнай вуліцы», У. Караткевіча «Былі ў мяне мядзведзі».

Сфера маральна-этычнага жыцця нясе ў сабе прыкметы сацыяльнасці. Зварот навелістаў да тэмы дзяцінства, падарожжы ў маладосць, розныя сямейныя гісторыі, выпадкі, убачаныя ў часе паездак, нясуць у сабе асэнсаванне працэсаў і тэндэнцый сучаснасці, новых павеваў і зрухаў у грамадскім жыцці. Так ці іначай у такіх творах ёсць пэўнае параўнанне таго, што было ў жыцці дваццаць, дзесяць гадоў назад, і тым, што ёсць цяпер.

У апавяданні свой мастацкі «мікрасвет», свае адметныя стылявыя сродкі. Яны непаўторныя, разнастайныя, залежаць ад асобы пісьменніка і таго жыццёвага матэрыялу, які кладзецца ў аснову твора. Для сучаснага беларускага апавядання не прайшла дарма «школа» Чэхава — яно імкнецца да сцісласці, лаканічнасці, да павышэння ўдзельнай вагі кожнай фразы.

Беларускія апавядальнікі многа расказалі пра свой край, народ, пра яго нялёгкую, падчас крывавую барацьбу за грамадскае і чалавечае шчасце, не абмінулі складаных праблем, што паўстаюць перад сучаснікамі. Апавяданне мусіць шукаць і надалей: раскрываць новыя жыццёвыя з'явы, адкрываць новых герояў, расказваць сучаснікам і нашчадкам пра чалавека, які жыве, змагаецца, каб бачыць лепшым і прыгажэйшым свой заўтрашні дзень.

*1976*

# ЗА ІМКЛІВЫМ ДНЁМ СУЧАСНАСЦІ[1]

Я памятаю II з'езд пісьменнікаў Беларусі, на ім прысутнічаў у якасці госця. Гэта было ў 1949 годзе, дваццаць сем гадоў назад. Шмат што змянілася з таго часу, вырасла новае пакаленне, якое зусім не ведае вайны і многіх іншых рэчаў, што прыйшлося зведаць пакаленню, да якога належу я.

Імкліва ў індустрыяльным напрамку развіваецца наша краіна. На вачах сучаснікаў мяняецца яе геаграфія, сацыяльны склад грамадства. Пісьменніку нялёгка ўгнацца за «днем бегущим», даць назву, мастацкую «прапіску» новым з'явам, працэсам, асэнсаваць тое, што мы называем духоўным кліматам грамадства.

Але гэтыя вось перамены, асабістая пісьменніцкая прылучанасць да іх і ёсць тая іскра, з якой разгараецца творчы агонь. Ёсць штосьці радаснае і адначасна шчымліва-сумнае ў вяртанні праз многія гады на сцежкі маладосці, на тыя мясціны, што запалі табе у душу назаўсёды.

Відаць, для кожнага літаратара родныя мясціны, людзі, якіх ён ведае змалку, нарэшце, перамены, якія адбываюцца з гэтымі мясцінамі і людзьмі, служаць адной з найважнейшых творчых крыніц. Гэта я бачу па сабе і па некаторых сваіх таварышах. Родныя аселіцы, мабыць, будуць сніцца нам да скону дзён. Даўно мы сталі гарадскімі жыхарамі, а ў кожным новым зборніку вершаў, апавяданняў, у паэмах, раманах, аповесцях — ранішнія росы, туманы, шум роднага бору, салаўі, журавы, вясковыя краявіды, што сталі часцінкаю сэрца яшчэ ў дні басаногага дзяцінства.

У маіх родных мясцінах, а гэта поўдзень рэспублікі, такія раёны, як Рэчыца, Васілевічы, Мазыр, салаўёў і журавоў, відаць, стала менш, бо сярод балот, лясоў паўсталі нават новыя гарады, напрыклад Светлагорск, буравыя вышкі, з зямных нетраў у тых мясцінах цячэ нафта, ёсць многа іншых адмецін індустрыяльнага пейзажу. Пра ўсё гэта нельга не пісаць.

Цяпер, калі формы гарадскога жыцця, індустрыяльнай працы распаўсюджваюцца і на вёску, я іншы раз задаю сабе пытанне: ці будзе служыць новаму часу тая дэмакратычная культура, якая дасталася нам ад

---

[1] Выступленне на VII з'ездзе пісьменнікаў БССР.

продкаў, і перш за ўсё маральна-этычныя, эстэтычныя элементы гэтай культуры.

Мой бацька пражыў жыццё чыгуначнікам, і дзед, спрадвечны селянін, яго за гэта вельмі не любіў. Дзед лічыў, што бацька пайшоў на чыгунку шукаць лёгкага хлеба.

Што гэтым я хачу сказаць? Толькі тое, што нам, г. зн. людзям майго пакалення, прыйшлося жыць на вялікім гістарычным пераломе.

Мы яшчэ памятаем і — больш таго — разумеем селяніна, якога малявалі Купала і Колас. Свой надзённы кавалак хлеба селянін зарабляў крывавым мазалём і потам, марнатраўцаў не любіў і стварыў надзіва цэльны маральна-этычны свет, у якім межы добрага і дрэннага, дабра і справядлівасці былі пазначаны вельмі выразна.

Мы былі сведкамі няўхільнага росту асобы. На нашых вачах мянялася сама філасофія жыцця, карэнныя прынцыпы шматвяковага народнага бытавання. Мой дзед, напэўна, лічыў, што жыццё ёсць ланцуг пераважна пакутлівых выпрабаванняў, што галоўнае месца ў жыцці займае праца, прычым праца цяжкая, святы, радасці выпадаюць рэдка і трэба сумленна пранесці свой крыж праз жыццё.

Наш сучаснік, хто б ён ні быў, здзівіўся б з такога вызначэння асноўных жыццёвых вартасцей. Мы сёння хочам мець ад жыцця пабольш прыемных, радасных уражанняў. Змяняецца змест працы, яна чым далей, тым больш падмацоўваецца магутнасцю тэхнікі, робіцца больш складанай, набываючы рысы большай калектыўнасці, сацыяльнасці. Колькі земляробаў замяняе, скажам, трактар ДТ-54 і колькі землякопаў самаходны, так званы «шагающий» экскаватар? Як і што адчувае чалавек, які кіруе гэтай тэхнікай?

Можна без нацяжкі сказаць, што трактарыст і экскаватаршчык выраслі як асобы ў параўнанні з тым даўнім земляробам, селянінам, што хадзіў за плугам, падганяючы коніка, і землякопам, адзінай тэхнікай якога была рыдлёўка.

Але прызнаемся, што ў нашым сённяшнім жыцці можна напаткаць грамадзяніна ці грамадзянку, якія фізічнай працай грэбуюць, а да інтэлектуальнай не надта здольны, лічаць, што жыццё — суцэльны паток асалоды, і хочуць, каб свята было кожны дзень. Што

гэта за разняволеныя асобы і ад чаго яны разняволены, сказаць цяжка. Хутчэй за ўсё ад абавязкаў перад грамадствам.

Калі светаадчуванне такіх людзей прыўносіцца ў літаратуру, нараджаецца штосьці няяснае, неакрэсленае, «туманнае», без выразнага размежавання дабра і зла.

Не так даўно я меў размову з адным літаратарам (у якой рэдакцыі ішла гаворка і нават у якім горадзе, не мае значэння). Мы з тым літаратарам размаўлялі пра аповесць, у якой герой і гераіня (абодва людзі сямейныя) любяць адно другога, ходзяць пад асеннімі зоркамі і вядуць бясконцыя лірычныя размовы. Мой апанент шчыра здзівіўся з такіх паводзін закаханых. «Можа той мужчына быў паранен на вайне? — спытаў ён у мяне.— Ці фізічна слабы? Усё ходзіць, гаворыць. Хіба паблізу няма якой-небудзь лавачкі ці кустоў, каб затуліцца!..»

Калі я чую такое, мне хочацца прызваць на дапамогу мараль майго дзеда. І ў эпоху навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, відаць, літаратура трымаецца на вымярэнні жыцця па найвышэйшых законах чалавечага духу. Увогуле дзіўная рэч літаратура. Не на сваім месцы слова ў сказе — і ад усяго сказа патыхае фальшам. У матэматыцы ад перастаноўкі складаных сума не мяняецца, у літаратуры — мяняецца. Гэта мы павінны памятаць.

У лепшых нашых пісьменнікаў К. Крапівы, П. Броўкі, М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, І. Мележа, І. Шамякіна, Я. Брыля, М. Лужаніна, В. Быкава, М. Лобана, А. Васілевіч, А. Пысіна дый у маладзейшых І. Пташнікава, Б. Сачанкі, І. Чыгрынава, Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, Г. Бураўкіна, П. Макаля, А. Кудраўца і многіх іншых партыйны, сацыялістычны ідэал сплаўлен з народным. Наша літаратура апошняга часу пераканаўча даказала, што самыя сучасныя ідэі можна апранаць у народныя вопраткі, на падзеі сучаснасці глядзець праз прызму народнага светабачання, і менавіта гэта забяспечвае творам трывалы поспех.

У літаратуры, як і ў культуры ў цэлым, павінен прысутнічаць пагляд на свет, мараль працоўнага чалавека, інакш яна ператворыцца ў элітарную, якую будзе разумець абмежаваная колькасць людзей, або ў літа-

ратуру мяшчанскую, якая «потрафляет расхожим вкусам».

Я думаю, што мастацкая літаратура ў сённяшнім жыцці мае некалькі іншую ролю, чым мела ў мінулым. Раней літаратура апрача мастацкіх, маральна-этычных задач у значна большай ступені, чым сёння, нясла інфармацыйную службу. Сёння падобныя функцыі ад яе забралі газета, радыё, тэлебачанне, навукова-папулярныя выданні. Удзельная вага творчай інтэлігенцыі сярод усёй інтэлігенцыі зменшылася, а роля літаратуры, мастацтва ў вырашэнні грамадзянскіх задач развітага сацыялістычнага грамадства, у выхаванні чалавека камуністычнай будучыні ўзрасла. Гэта накладвае на нас дадатковыя абавязкі ў сэнсе клапатлівых, беражлівых адносін да кожнага здольнага, таленавітага чалавека, асабліва ў пару яго творчай маладосці.

Літаратура пачынаецца з любві. З любві да роднага кута, краю, да людзей, якіх пісьменнік сустракаў у жыцці і добра ведае. Для прозы, у прыватнасці, адной любві мала, патрэбна веданне жыццёвага матэрыялу, які кладзецца ў аснову твора, прычым не простае, прыблізнае веданне, а дакладнае, дасканалае. Нездарма многія лепшыя раманы беларускай літаратуры ўзнікалі як вынік пройдзеных пісьменнікам жыццёвых дарог.

Мне здаецца, настаў час, каб стварыць для тых пісьменнікаў, якія могуць з гэтай задачай справіцца, умовы для глыбіннага, дасканалага вывучэння спраў на заводзе, на фабрыцы, у калгасе. Разлічваць на тое, што выдатны твор, скажам, пра рабочы клас з'явіцца ў выніку наездаў на завод таварыша, які сам працуе ў рэдакцыі, з заводам сур'ёзна не сутыкаецца, не прыходзіцца. Выдатны твор можа нарадзіцца з таго, што глыбінна перажыта самім пісьменнікам, што запала яму ў сэрца, што яго хвалюе, радуе, абурае. І калі ў пісьменніка пачуцці сапраўдныя, дык, пішучы твор, ён абавязкова дасць гэта адчуць і перажыць чытачу. Любоў да таго, пра што пішаш, выключнае замілаванне, адданасць, захопленасць — першая ўмова для ўзнікнення мастацкага твора. А інакш і чытач застанецца абыякавым, раўнадушным, калі не адчуе святога трапятання сэрца пісьменніка.

Усе нашы лепшыя мастацкія творы з гэтага нараджаліся.

Набыткі нашай літаратуры немалыя. Мне яны бачацца перш за ўсё у тым, што сённяшняя беларуская літаратура адпавядае сучаснасці, запатрабаванням чалавека выхаванага, адукаванага. Але не ўзнятых літаратурай жыццёвых пластоў, праблем яшчэ многа. Новыя, маштабныя працэсы адбываюцца ў заводскіх, рабочых калектывах, у вёсцы, і наша літаратура павінна адлюстроўваць гэтыя перамены, дакладна, глыбока даследаваць духоўны, маральны клімат грамадства.

Зараз, пасля гістарычнага XXV з'езда КПСС, калі партыя мабілізоўвае савецкі народ на здзяйсненне новых велічных задач камуністычнага будаўніцтва, нам, пісьменнікам, трэба падрахаваць, належным чынам ацаніць тое, што ў нас ёсць, чаго дасягнулі і на што ў першую чаргу звярнуць увагу, думаючы пра заўтрашні дзень літаратуры.

*1977*

# МАЛАДЫ ВЫРАЙ

У трох сёлетніх нумарах часопіса досыць багата прадстаўлена проза, паэзія, нарыс і публіцыстыка. У юбілейны год Савецкай улады рэдакцыя «Маладосці» прыйшла, трэба сказаць, з прадуманай праграмай. Гэта, перш за ўсё, датычыць публіцыстычных матэрыялаў — разнастайных па тэматыцы, цікавых па зместу,— якія ўзнаўляюць слаўныя старонкі народнай барацьбы за ідэі Кастрычніка. Такія матэрыялы шчодра, з нумара ў нумар, друкаваліся і ў мінулым годзе, і ў папярэднія гады, адкрылі маладому чытачу дзесяткі, калі не сотні імён герояў і ўдзельнікаў грамадзянскай вайны, многія з якіх з'яўляюцца нашымі землякамі, расказалі аб слаўным пакаленні камсамольцаў дваццатых і трыццатых гадоў, аб найбольш важных рэвалюцыйных падзеях краіны і рэспублікі.

З публікацый трох апошніх нумароў хочацца адзначыць артыкул П. Селіванава «Заслона на Заходнім рубяжы» («Маладосць», № 1), напісаны з добрым мастацкім густам нарыс М. Караля «Праз вогненны шквал», тэмай якога з'яўляюцца рэвалюцыйныя падзеі на Случчыне, рэпартаж Янкі Кучара «Чапаеўцы», які расказвае аб беларусах, байцах Чапаеўскай дывізіі,

матэрыялы пра камкора Гая («Маладосць», № 2), артыкул М. Камінскага «Усебеларускі староста», прысвечаны дзейнасці А. Чарвякова). Добра тое, што часопіс суправаджае публіцыстычныя матэрыялы вялікай колькасцю здымкаў, большасць з якіх — рэдкія і друкуюцца ўпершыню.

Увогуле, «Маладосць», здаецца, знайшла свой арыгінальны твар, воблік як часопіса маладзёжнага, юнацкага, для якога арганічна патрэбны выдумка, займальнасць, добрая фантазія ў афармленні, у падачы матэрыялаў.

Відаць, зусім натуральна для маладзёжнага часопіса і тое, што вялікая ўдзельная вага прыпадае ў ім на публіцыстычныя матэрыялы. Пра «Маладосць» можна сказаць, што сваёй публіцыстыкай не ў меншай ступені, чым мастацкімі творамі часопіс вядзе размову з чытачом пра самае галоўнае, важнае ў жыцці. Усялякай падтрымкі, напрыклад, заслугоўваюць шматлікія дыскусіі, якія вядуцца на старонках часопіса.

Аднак, варта сказаць, што і публіцыстычныя гарызонты ў «Маладосці» таксама не заўсёды бясхмарныя. Досыць слабое месца — нарыс. Цікавыя, мастацкія нарысы ў часопісе з'яўляюцца не так ўжо і часта, пішуцца пераважна работнікамі рэдакцыі. Для значнай часткі тых матэрыялаў, якія падаюцца пад рубрыкай нарыса, уласцівы рэпартажная эскізнасць, саладжавасць, аднаінейнасць у падачы жыццёвых фактаў. Відаць, рэдакцыі трэба больш настойліва звязвацца з маладымі празаікамі, паэтамі, здольнымі журналістамі, арыентаваць іх на публіцыстычныя выступленні.

Як гаварылася, з «Маладосцю» звязана нямала пісьменніцкіх імён, што свецяць сёння пэўнымі мастацкімі здабыткамі. Тут друкавалі і друкуюць свае творы Васіль Быкаў, Алесь Асіпенка, Аляксей Карпюк, Іван Пташнікаў, Уладзіслаў Нядзведскі, Еўдакія Лось, Барыс Сачанка, Рыгор Барадулін, Міхась Стральцоў, Вера Вярба, Уладзімір Караткевіч, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Сцяпан Гаўрусёў, Алег Лойка, Генадзь Бураўкін, Вячаслаў Адамчык, Іван Чыгрынаў і інш. Падымаецца наступная, досыць шматлікая плеяда паэтаў і празаікаў.

Але год на год не прыходзіцца. Нягледзячы на вялікую колькасць сталых аўтараў, летапні год, скажам, быў не асабліва ўраджайны ў «Маладосці» на добрую

мастацкую прозу. З надрукаванага ў мінулым годзе найбольшай увагі, на маю думку, заслугоўваюць першая аповесць Уладзіміра Паўлава «Яжэліха» і невялікая аповесць Міхася Стральцова «Адзін лапаць, адзін чунь».

Поспех Уладзіміра Паўлава, які выступаў да гэтага часу, як паэт, па-сапраўднаму радуе. Аповесць прысвечана нялёгкаму дзяцінству ў вёсцы, што зведала ліхалецце вайны, акупацыі і нягоды пасляваеннага жыцця. Напісаная стрымана, мужна, з добрай увагай да вясковага побыту, аповесць вызначаецца сапраўднай паэтычнасцю, нявыдуманымі глыбокімі пачуццямі герояў.

Даволі рэдка, але няўхільна павышаючы майстэрства, выступае ў сённяшняй прозе Міхась Стральцоў. У аповесці Стральцова таксама кавалачак вясковага пасляваеннага жыцця, сагрэтага пачуццямі дзяцінства. На невялікай плошчы твора аўтару ўдалося намаляваць запамінальныя характары, асабліва дзеда Трахіма, чалавека, у душы якога жыве шчымлівае шкадаванне, спагада да ўсяго жывога.

З прозы сёлетняга года хацелася б больш уважліва спыніцца на аповесці Уладзіміра Караткевіча «Чазенія» (№ 2 і 3).

Чытач ведае У. Караткевіча як празаіка рамантычнага складу, які працаваў пераважна на гістарычным матэрыяле. «Чазенія» — пра сённяшні дзень. Свайму стылю аўтар не здрадзіў і ў новым творы, названым ім паэмай. Само па сабе рамантычнае асяроддзе, у якім дзейнічаюць героі гэтай паэмы-аповесці фізік-атамнік Севярын Будрыс і біёлаг Гражына Арсайла,— далёкаўсходні, заціснуты ў цясніне запаведнік, дзе ледзь не першабытная флора і фауна, дзе расце жэнь-шэнь і рэліктавае дрэва чазенія, што захавалася з даледніковага перыяду.

У нас бытуе падчас іранічнае стаўленне да твораў рамантычных. Маўляў, у тэхнічны, цвярозы, дваццаты век не да рамантыкі, не да сантыментаў. У аповесці ж Караткевіча рамантычная выключнасць сітуацый, герояў якраз і дапамагае ставіць пытанне буйна, у «агульначалавечым» маштабе: аб адказнасці людзей за лёс планеты, аб проста такі вострай патрэбе жыць вялікімі, глыбокімі пачуццямі.

Аповесць У. Караткевіча ў сваім жанры напісана

цікава, займальна, з добрым прафесіянальным майстэрствам. Ёсць у ёй і гумар, і лірызм, і зайздросная назіральнасць аўтара, які востра бачыць, чуе багацце гукаў, пахаў, фарбаў у свеце, які нас акружае. Бадай, толькі адзін мае аповесць пралік: псіхалагічна, лагічна не матывавана, чаму Гражына, якая горача, шчыра пакахала Будрыса і якая хутка стане маці, уцякае ад свайго абранніка. «Высока трагічны» матыў нявер'я дзяўчыны ў «вечнае» каханне ўведзены, на маю думку, аўтарам штучна, ён пярэчыць светлай, мажорнай танальнасці твора, які ўсім сваім эмацыянальна-вобразным ладам сцвярджае ідэю перамогі святла над цемрай.

Добрымі мастацкімі якасцямі вызначаецца апавяданне Анатоля Кудраўца «На балоце скрыпелі драчы». У аснову яго пакладзены вельмі звычайны, здавалася б нават непрыкметны, факт: сустрэліся два маладыя хлопцы — экскаватаршчык Максім, які асушае балота, і калгасны брыгадзір, трохі выпілі ў брыгадзіравай хаце, а потым (час летні) пайшлі на вясковую пагулянку. Там, на пагулянцы, Максім запрасіў патанцаваць дзяўчыну, а потым прасядзеў з ёй на лаваччы кароткую летнюю ноч... Вось і ўсё. Але на гэтым нехітрым сюжэце малады пісьменнік здолеў даць жыццё ўсім сваім героям, нават эпізадычным, якія з'яўляюцца на адно толькі імгненне. Добрая мова, трапнасць дэталей, дакладны псіхалагізм робяць апавяданне А. Кудраўца запамінальным і цікавым.

На жаль, такіх твораў у пісьменнікаў, якія толькі пачынаюць выступаць у прозе, пакуль што не шмат. За апошнія гады ўдалыя творчыя заяўкі зрабілі ў «Маладосці» М. Вышынскі, А. Пінчук, І. Крэнь, Н. Маеўская, М. Гіль і інш. Але нават улічваючы лепшае, што надрукавана гэтымі і другімі аўтарамі, нельга сказаць пэўна аб напрамку мастацкіх пошукаў маладой прозы. Пераважае апавяданне-замалёўка, апавяданне-эпізод. Нездарма, відаць, самі маладыя пісьменнікі іранізуюць над сабой. Герой апавядання-маналога М. Гіля «Як маецеся, хлопцы?» («Маладосць», № 3) так ацэньвае творчасць сяброў: «...Часопісы выпісваю і большменш сачу, што паяўляецца ў іх. Асабліва пільна цікаўлюся маладымі. Дзіўная, браце, рэч: катораму хлопцу дваццаць — дваццаць пяць гадоў, а так густа кладзе слова за словам, што іншаму старому варта

пазайздросціць. Тэхніка пісьма вырасла незвычайна. Дзіўнага, канешне, тут нічога няма, хлопцы ідуць у літаратуру пісьменныя. А вось зместу, як кажуць крытыкі, бракуе. Яно, падумаўшы, дык і адкуль будзе той змест? Школа, інстытут альбо універсітэт — вось і ўся біяграфія такога пісьменніка. І не разумее, дзівак, што зусім не трэба старацца ўсімі сіламі прыстроіцца ў горадзе...»

Але не будзем спяшацца. Па трапнаму выказванню Кузьмы Чорнага, добры празаік пачынаецца пасля трыццаці гадоў. «Прывязанасць» да асабістай біяграфіі пісьменніка з'яўляецца асаблівасцю не толькі маладой прозы, а і ў значнай меры творчасці празаікаў сярэдняга пакалення.

У гэтым сіла і пэўная слабасць нашай прозы. Пісьменнікі, якія прыйшлі ў літаратуру з вопытам вайны і нават маладзейшыя таварышы, тыя, чыё дзяцінства абпаліла вайна, нават расказваючы пра сябе, пра сваіх аднагодкаў, расказвалі і аб часе. Не прыходзіцца спрачацца, што творчасць такіх нашых пісьменнікаў, як Карпюк, Пташнікаў, Сачанка, Стральцоў, Адамчык, Чыгрынаў, вырастае ў значнай меры з іх асабістай біяграфіі і за межы гэтай біяграфіі яшчэ асабліва далёка не сягнула. Самыя маладыя такой «перавагі» не маюць. Але біяграфія, як кажуць,— справа нажыўная.

У адрозненне ад прозы сённяшнюю маладую паэзію вызначае прыкметна больш актыўны творчы пульс. Кожны новы нумар «Маладосці» дае тры-чатыры паэтычныя падборкі. Сярод паэтычнай моладзі значна больш імён, якія акрэслілі за сабой пэўныя дасягненні. Маладая паэзія вызначаецца даволі высокай культурай тэхнікі вершаскладання, жаданнем аўтараў паглыбіцца ў інтымны свет перажыванняў, пачуццяў. Аднак больш слабыя грамадзянскія пазіцыі гэтай паэзіі, узаемадачыненні лірычнага «я» і навакольнага свету. Тым прыемней убачыць прыкметы сталення, больш глыбокі роздум над жыццём — якасці, якія ўсё часцей прабіваюцца ў творчасці маладых. Не могуць не ўзрадаваць у сувязі са сказаным радкі з верша Марыі Шаўчонак, паэтэсы, якая працуе настаўніцай на Гродзеншчыне.

Недарэмна гавораць —
мудрасць
Заключаецца ў прастаце...

Мы ўскладненнямі любім
мучыць
І сябе, і сваіх дзяцей.
Сярод ніў і лясоў узрослы,
Я прымаю такую быль.
Зноў і зноў прастаце
вайздрошчу,
Простай гэтак не проста
быць...

Кідаецца ў вочы жаданне некаторых маладых паэтаў гаварыць нават аб простых, звычайных рэчах мовай ускладненых метафар, асацыяцый, ламаць, «узвіхрываць» радок там, дзе сэнс гэтага зусім не патрабуе.

Наўрад ці трэба даказваць, што паэзія павінна кранаць, узрушаць пачуцці, хваляваць чытача. Чаго няма, як кажуць, у душы паэта, таго не будзе ў яго творы.

Хоць і не часта, але трапляюцца ў «Маладосці» вершы, напісаныя, відаць, без дастатковых на тое падстаў. Узяць хоць бы наступныя радкі:

Дзяўчына, дзяўчына
ў чорных панчохах
Ты лепш не хадзі каля
вокан маіх,
Бо з гэтага, мусіць,
не выйдзе нічога
Ні ў студзені лютым,
ні ў цёплым маі. (?!)

З мінулагодніх вершаў пачынаючых паэтаў радуе падборка Яўгеніі Кавалюк («Маладосць», № 6). Вызначае творы паэтэсы лірычная цеплыня, шчырасць, добрая ўсмешка. Прыкметна вырас як паэт даўно вядомы чытачу Алег Лойка. Яго лірычны цыкл («Маладосць», № 10) вабіць шчырай чалавечнасцю, роздумам, арганічнай зрошчанасцю думкі і пачуцця.

Лірычнае наступленне на старонках «Маладосці», бадай, яшчэ з большай інтэнсіўнасцю працягваецца сёлета. У трох нумарах — семнаццаць падборак, дзевяць з іх належаць моладзі, якая толькі ўступае на літаратурны шлях.

Роздумам, добрай творчай культурай, грамадзянскай зацікаўленасцю жыццём вызначаюцца цыклы вершаў Рамана Тармолы, Яўгена Вераб'я («Маладосць», № 2), Петруся Макаля, Васіля Зуёнка («Маладосць», № 3). Радуе поспех маладых паэтаў, якія, на

маю думку, вельмі ўдала выступілі ў навагоднім нумары, вызначылі яго твар, настрой — Івана Арабейкі, Валянціны Коўтун, Алеся Разанава, Яўгеніі Янішчыц.

У заключэнне некалькі слоў пра крытычны і бібліяграфічны раздзелы «Маладосці». Самае значнае, спелае ў творчасці маладых часопіс заўважае, рэцэнзуе, прычым пераважна сіламі маладых пісьменікаў і крытыкаў. Мала з'яўляецца артыкулаў, якія б падводзілі пэўныя вынікі творчаму працэсу, вызначалі яго тэндэнцыі, узнімалі пытанні майстэрства. У мінулым годзе такіх артыкулаў было змешчана толькі тры — Алеся Яскевіча — аб лірычнай прозе, Алега Лойкі — аб сучаснай паэзіі, Васіля Быкава — аб перспектывах развіцця сучаснай прозы. Вельмі пажадана, каб з аналізам творчасці выступалі старэйшыя, заслужаныя майстры мастацкага слова.

*1967*

# СВЯШЧЭННАЯ ВАЙНА

*(Адказы на пытанні часопіса «Вопросы литературы»)*

Да трыццацігоддзя Перамогі над фашысцкай Германіяй часопіс «Вопросы литературы» (1975, № 5) надрукаваў адказы пісьменнікаў-франтавікоў на наступныя пытанні рэдакцыйнай анкеты:

1. Які дзень ці эпізод вайны Вам запомніўся больш за ўсё і чаму?

2. У 1965 годзе, да дваццацігоддзя Перамогі над гітлераўскай Германіяй, часопіс правёў сярод пісьменнікаў-франтавікоў анкету, якая, як пасля неаднаразова адзначыла крытыка, давала ўяўленне аб стане нашай «ваеннай літаратуры», аб найбольш істотных праблемах, якія ставяць перад мастакамі, што прысвяцілі сваю творчасць гэтай тэме. Якія працэсы і з'явы наступных дзесяці год былі, на Вашу думку, у гэтай галіне літаратуры найбольш прыкметнымі?

3. Чаму, з Вашага пункту гледжання, хоць з Дня Перамогі прайшло трыццаць гадоў і ў пару творчай

сталасці ўвайшло пакаленне людзей, якія наогул не бачылі вайны, тэма па-ранейшаму шырока распрацоўваецца літаратурай і выклікае неаслабную цікавасць чытачоў? Якія яе аспекты здаюцца Вам цяпер найбольш важнымі і актуальнымі?

4. Ці будзеце Вы працягваць працаваць над гэтай тэмай?

1. З вайны запомнілася: не адзін дзень і не адзін эпізод. Цяжка нават выбраць што-небудзь найбольш яскравае. Усе чатыры гады я жыў у нейкім асаблівым душэўным стане, і думка пра вайну сядзела ў свядомасці, як забіты цвік. І не толькі ў свядомасці — у пачуццях, адчуваннях. Магчыма, гэта вытлумачваецца тым, што быў малады — было шаснаццаць з нечым, калі пачалася вайна, і дваццаць, калі закончылася,— а ў маладосці душа расчынена наросхрыст да ўсяго, што бачыш і чуеш.

Як сёння, бачу першы дзень вайны (сустрэў яго ў сваім мястэчку на Палессі), апошні (для мяне ён наступіў у Сілезіі, на 1-м Украінскім фронце), выразна памятаю час, звязаны з вызваленнем Арла, Белгарада, з першымі салютамі (тады я быў прылучан да партызанскіх спраў). Гэта «агульнае», што жыло ў асабістым вопыце, зліваліся з ім, але ёсць яшчэ асабістае, звязанае з выпрабаваннямі, небяспекай,— гэтага таксама было нямала.

2. У першае дзесяцігоддзе, як я лічу, наша літаратура пераважна паказвала гераічны бок вайны. Больш звяртала ўвагі на нашы перамогі. Мабыць, гэта было натуральна — толькі што адгрымелі пераможныя салюты і ўсе мы жылі Перамогай. У наступнае дзесяцігоддзе побач з адлюстраваннем героікі (а без гэтага немагчыма пісаць пра такую вайну, як наша, Айчынная) літаратура звярнулася і да драматычнага, трагічнага боку, да салдата ў акопе, да жонкі салдата, што атрымала «пахаронку» і г. д.

Гэтая тэндэнцыя працягваецца, як мне здаецца, і ў літаратуры трэцяга дзесяцігоддзя. Разам з тым як бы наступае час сінтэзу, панарамнасці ў адлюстраванні падзей Айчыннай вайны, яе «шматгалоснасці». Я не выключаю магчымасці дальнейшага з'яўлення вельмі «асабістых» твораў пра вайну. Мірнае жыццё, працэсы, якія ў ім ідуць, як бы «абвастраюць» пагляд, адчуван-

ні ўдзельнікаў вайны, якія захаваліся з тых дзён, хоць людзі прыкметна пастарэлі.

3. Аб Айчыннай вайне будуць пісаць і пісаць. Яна вызначыла лёс нашай краіны дый усяго свету, магчыма, на стагоддзі. «Вайну і мір» напісаў Леў Талстой, які нават не нарадзіўся, калі ішла вайна 1812 года. Новая «Вайна і мір» можа паявіцца гэтаксама.

Яшчэ параўнальна мала ў нашай літаратуры твораў аб тым, як сустрэўся савецкі салдат і чалавек з людзьмі вызваленых нашай арміяй краін Еўропы, што туды прынёс, што там убачыў.

4. Буду працягваць, і тэмы гэтай хопіць надоўга. Пісьменнікам майго пакалення, відаць, аб вайне забываць не варта. Я яшчэ мала напісаў, абапіраючыся на франтавы вопыт, а ваяваць давялося пад Ленінградам, ва Усходняй Прусіі, у Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі. Так што нават асабістыя ўражанні далёка не растрачаны.

*1965*

# СПАЧАТКУ БЫЎ ФАКТ...

*У творчай лабараторыі*

Пісьменнікі, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, і нават тыя, якія бачылі яе дзіцячымі вачыма, назаўсёды прыкаваны да гэтай агромністай падзеі. Сапраўды Айчынная вайна была падзеяй, якая пакінула незабыўнае ўражанне ў душы кожнага яе ўдзельніка, аказала ўплыў на некалькі пакаленняў. Яе можна прыраўняць да цэлай эпохі ў жыцці краіны і народа.

У гэтых нататках мне хочацца закрануць пытанне аб дакументальнай, фактычнай аснове нашых кніг аб вайне і звязанае з гэтым пытанне аб мастацкай тыпізацыі ваеннага матэрыялу. Думаю, што тое, што мы звычайна называем абагульненнем, тыпізацыяй у адносінах да падзей, фактаў, людзей вайны, рэалізуецца своеасабліва.

Вядома, для таго, каб напісаць вобраз партызанскага падрыўніка, разведчыка, мала ведаць аднаго чалавека. Але ў той час і подзвіг гэтага канкрэтнага, знаё-

мага гаворыць пісьменніку вельмі многа. Такі чалавек можа паслужыць прататыпам мастацкага вобраза, толькі трэба зразумець унутраныя, духоўныя матывы, якія ім кіравалі. Бо калі баец закрывае грудзьмі амбразуру варожага дота або цаной уласнага жыцця выратоўвае другога байца, то вышэй, здаецца, і ўзняцца нельга.

Шмат якія пісьменнікі пішуць аб тым, што бачылі, перажылі, чаму былі сведкамі. Але яны таксама робяць адбор матэрыялу, тыпізуюць, абагульняюць убачанае і перажытае. Толькі ў творчай практыцы часцей ідуць ад канкрэтнага факта, падзеі, чалавека, раскрываючы, як гаварыў Горкі, хімію факта.

Сапраўды, навошта выдумваць бой, калі скажам, сам я ўдзельнічаў у баях, і яны як бы сталі часткай маёй істоты? Навошта шукаць героя, калі перад вачыма цэлая грамада хлопцаў, дзяўчат ■ нашай школы, класа, многія з якіх загінулі як падпольшчыкі, партызаны, не вярнуліся з франтоў; калі ёсць родны партызанскі атрад, няхай сабе не вельмі славуты, ёсць адзін і другі ўзвод, адна, другая рота, дзе я таксама ваяваў, а ў атрадзе, узводзе, роце былі дзесяткі вельмі блізкіх людзей, якіх я па сённяшні дзень адчуваю, магу ўявіць іх твар, манеру гаворкі; ёсць адзін і другі полк, дывізія, аб якіх ведаю менш, чым пра ўзвод і роту, але таксама штосьці ведаю. Ёсць гарады, у вызваленні якіх удзельнічаў, дарогі, па якіх прайшоў. Дык хіба ўсё гэта можна забыць?

Пісьменнік павінен не толькі маляваць праўдзівыя характары, але глыбока, дакладна раскрываць праўду абставін. Бо калі мы будзем паказваць абставіны вайны аблегчанымі, ідэалізаваць іх, то не здолеем раскрыць сапраўдную героіку. На вайне абставіны вельмі часта мацней за чалавека, з пераадольвання іх нараджаецца і подзвіг, і трагізм нават у такой справядлівай вайне, як вайна Айчынная.

Маё пакаленне з захапленнем глядзела кінафільмы «Чырвоныя д'ябаляты», «Лясная быль», «Чапаеў», чытала «Разгром», «Як гартавалася сталь» і іншыя кнігі аб рэвалюцыі, грамадзянскай вайне. Гэта былі добрыя фільмы і добрыя кнігі, яны выхоўвалі ў маладых душах прагу подзвігу. Але абставін магчымай будучай вайны такія фільмы, кнігі намаляваць не маглі, бо яны, паўтараю, былі пабудаваны на матэрыяле грамадзянскай вайны.

Не раз мы сустракалі апладысментамі кінакадры, калі на вёску ці горад імчыць лавіна чырвоных коннікаў з узнятымі шаблямі. З царкоўнай вежы ці якога-небудзь высокага мура татахкае варожы кулямёт, некалькі коннікаў падаюць, астатнія, уварваўшыся на вуліцы, выбіваюць белых, прымушаючы іх да паспешлівых уцёкаў.

З нейкім як бы недавер'ем чыталі мы тады «Даберда» Матэ Залкі, «Агонь» Барбюса, «На Заходнім фронце без перамен» Рэмарка. А ў гэтых кнігах быў жорсткі вопыт першай сусветнай вайны, які шматразова паўтарыўся ў другой сусветнай.

Перад вайной у часопісе «Полымя», які тады называўся «Полымя рэвалюцыі», быў надрукаваны раман Н. Шпанава «Дванаццаць гадзін вайны». У ім гаварылася пра тое, што калі гітлераўская Германія і адважыцца напасці на Савецкі Саюз, то толькі праз Паўночны полюс і толькі авіяцыяй, бо наземныя, танкавыя нямецкія арміі ўмацаваную савецкую граніцу прарваць не здолеюць.

Майму, ды і іншым пакаленням, якія ўдзельнічалі ў вайне, ужо ў ходзе змагання з ворагам прыходзілася пераадольваць некаторыя з такіх ілюзій. У далейшым савецкая літаратура добра паказала і нашы ілюзіі, і тое, як супраць танкаў, самалётаў, фашысцкай арміі, узброенай да зубоў, выстаяў савецкі чалавек. Гарэла зямля, плавіўся метал, а чалавек выстаяў.

Тым часам у некаторых кнігах аб мінулай вайне можна сустрэць аблегчаныя сюжэты, нязвычныя сітуацыі, у якіх байцам, разведчыкам, партызанам вельмі лёгка, як бы гуляючы, удаецца перахітрыць ворага, дамагчыся над ім перамогі. Харошы дэтэктыў патрэбен. Але калі дэтэктыў выдаецца за сур'ёзны, рэалістычны твор — гэта дрэнна.

Нарэшце, аб тэме нататкаў — дакументалізме. Кнігі аб партызанскай, падпольнай вайне, якія напісаў я, маюць, вядома, дакументальную, фактычную аснову. Я доўга працаваў журналістам і прывык глядзець на акаляючы свет праз прызму факта. Пачаў з апавяданняў пра падпольную, партызанскую барацьбу. На першым часе абапіраўся на ўласны вопыт, убачанае, перажытае.

Хачу сказаць, што, уступіўшы ў снежні 1941 года ў падпольную групу, далучыўшыся да барацьбы, я

жыў у нейкім асаблівым душэўным стане, і думка пра вайну сядзела ў свядомасці, як забіты цвік. І не толькі ў свядомасці — у пачуццях, адчуваннях.

Дзіўнае, на мой погляд, само паняцце часу. Калі я пачаў пісаць апавяданні, мне здавалася, што я адчуваю вайну не толькі па гадах, але і па асобных месяцах і нават днях. Былі месяцы Смаленска, Кіева, Масквы, Сталінграда, цяжкія дні Бранска, Арла і Вязьмы, непадобныя адзін на другі месяцы Харкава: мая 1942 года і лютага — сакавіка, затым жніўня 1943 года, радасны месяц верасень 1943 года, калі на вялізным прасцягу савецкія войскі выйшлі на Днепр. Кожны такі месяц, год, дзень мелі свае фарбы, пахі, свой асаблівы рытм.

Апавяданне для мяне і пачыналася з гэтага рытму, які, як мне здавалася, перадаваў настрой, калі можна сказаць так, музыку часу. Якая-небудзь памятная дэталь, пачутае слова, малюнак прыроды, бытавая дробязь, твар, што прамільгнуў і знік, выклікалі плынь успамінаў, як бы кандэнсуючы ў сабе глыбінныя прыкметы часу, яго сутнасць.

Нават вялікія, буйныя падзеі як бы ўвасабляліся ў нейкім асобным уражанні, не асабліва яркім, нават радавым. Але яны, такія ўражанні, чамусьці асабліва запаміналіся. Большасць маіх апавяданняў нарадзілася іменна з такіх вось уражанняў.

Аднойчы я задумаў апавяданне, сюжэтным стрыжнем якога мусіла стаць чыгунка, чыгуначная будка, у якой размяшчаюцца нямецкія ахоўнікі, тут жыве сям'я пуцявога абходчыка і ягоны старэйшы сын — прыкладна мой равеснік.

Такая будка была ў сапраўднасці. Яна знаходзілася за паўтара кіламетра ад роднага мне мястэчка, каля палявога, нікім не ахоўваемага пераезда на двухкалейнай чыгуначнай магістралі Гомель — Брэст. Побач з чыгункай, то аддаляючыся ад яе, то прыбліжаючыся, ляжаў пыльны пясчаны шлях. Паміж шляхам і чыгуначным насыпам, на невысокім грудку расла сасна — прыкметная, з шырокай, раскідзістай кронай. У чыгуначнай будцы ў адрозненне ад майго літаратурнага героя Міці Птаха я ніколі не жыў. Я нарадзіўся, вырас у мястэчку, адзіноты не ведаў. Але што такое чыгунка, ведаў: мой бацька быў чыгуначнікам, ды і сам я ў

час канікул працаваў у рамонтнай брыгадзе. Але справа, зрэшты, не ў гэтым.

У кожнага ёсць свае запаветныя мясціны: рэчка, ваколіца вёскі, курган, бор. Рэчкі ў мястэчку, на жаль, не было, яе басаногай дзетвары замяняў лес. З ранняга дзяцінства я блукаў па лесе, збіраючы грыбы, забрыдаючы іншы раз далёка. Калі вяртаўся дамоў, з таго месца, дзе стаяла будка, сасна, мястэчка здавалася надзіва прыгожым. Спавітае тонкай сінявата смугой, атуленае садамі, яно нагадвала зялёны востраў сярод залацістага жытнёвага разліву.

Вайну сустрэў шаснаццацігадовым дзесяцікласнікам. Праз два тыдні пасля яе пачатку ў тым самым лесе, дзе збіраў грыбы, удзельнічаў у пошуку і раззбраенні парашутыстаў. Добра, што дэсант аказаўся чырвонаармейскім (яго памылкова высадзілі з самалётаў на тэрыторыі, яшчэ не занятай фашыстамі), інакш нам з нашымі вучэбнымі вінтоўкамі (маючы іх, можна было толькі ляскаць затворам, але не страляць) прыйшлося б кепска.

Дык вось, калі я пачаў пісаць апавяданне пра свайго равесніка, будку і сасну, кроўнае, блізкае, што набалела на душы і шукала выйсця, абрушылася на мяне як горны паток. Прыйшло на памяць, што мой герой бачыў сасну, калі ўдзельнічаў у небяспечных падпольных справах, калі ішоў у лес, у партызаны, сасна паўставала перад яго вачамі ў ноч «рэйкавай вайны», а таксама ў тую ноч і дзень, калі вызвалялі мястэчка. Такім чынам, сасна на грудку каля чыгуначнага пераезда як бы ўвасабляла нейкія жыццёвыя этапы майго героя. Апавяданне залішне разрасталася.

Тады я вырашыў, што напішу аповесць. Рамкі апавядання ў прасторы, часе пашырыліся. Малады герой не толькі жыў у будцы, наводшыбе, але і ў мястэчку: ён там вучыўся ў школе, у якой былі сябры, знаёмыя. Сувязі, якія ўзніклі ў мірны час, працягваліся і ў вайну.

Станавілася ясна, што і аповесць не можа ўвабраць у сябе ўсяго багацця жыццёвага матэрыялу.

Ідэя рамана, аднак, нарадзілася гады праз два, пасля таго як напісаў раздзелы, прысвечаныя бургамістру Крамеру. На мой погляд, вобраз гэты ледзь не стрыжнявы, вельмі істотны для разумення сутнасці не толькі першага рамана «Сасна пры дарозе», але і наступна-

га «Вецер у соснах» і «Сорак трэці», іх сюжэта, кампазіцыі.

Такіх людзей, як Крамер, было няшмат, але яны былі. Я збіраў пра іх звесткі, калі з карэспандэнцкім пасведчаннем раз'язджаў па сваёй было Палескай вобласці. Сутнасць намаляванага вобраза, як ён бачыцца мне самому, у наступным. Крамер — абруселы немец, па фашысцкай тэрміналогіі — фольксдойч. Не толькі ён сам, але і бацька яго, дзед нарадзіліся, жылі ў Расіі. Крамер сам напалову рускі, хоць і ганарыцца тым, што належыць да нямецкай нацыі.

Калі на савецкую зямлю прыйшлі фашысцкія акупанты, Крамер не мог адразу перакінуцца да іх. Ён добры спецыяліст, лічыць сябе сумленным чалавекам, далёкі ад кар'ерысцкіх імкненняў. Дый не малады ён, каб дбаць аб кар'еры.

Фашысты насільна ставяць Крамера бургамістрам раёна, і ён хоча зрабіць так, каб і немцам, і мясцоваму насельніцтву было добра. Ён праводзіць такую лінію: вайна адышла далёка, ні ад каго, хто застаўся ў мястэчку і ў раёне, зыход яе не залежыць, таму трэба ціха, мірна жыць і працаваць.

На першым часе Крамер як бы дасягае поспеху. Абяцаннямі мірнага жыцця ён дабіваецца распаду мясцовага партызанскага атрада, першыя паўгода ў раёне, якім ён пастаўлен кіраваць, сапраўды ціха.

Але потым усё гэта разбураецца, як картачны дамок. Воўка і авечку прымірыць нельга. Сутыкаюцца карэнныя інтарэсы савецкіх людзей і фашысцкіх заваёўнікаў.

Адным словам, калі я паказаў распад партызанскага атрада, то мусіў намаляваць арганізацыю новага, паказаць сам працэс нараджэння партызанскага руху, як гэта было на самай справе ў многіх раёнах Беларусі.

Партызанская вайна, калі не лічыць такіх рэйдавых злучэнняў, якія ўзначальвалі Каўпак, Сабураў, Навумаў і іншыя — вайна раённага маштабу. Партызаны пераходзілі з месца на месца, але, як правіла, іх дыслакацыя абмяжоўвалася граніцамі двух-трох сумежных раёнаў. Зноў жа па логіцы жыццёвай праўды, я павінен быў гэта паказаць, бо гэта тыповыя абставіны партызанскай барацьбы.

Зародак кампазіцыі з трох ці нават чатырох раманаў быў такім чынам закладзены яшчэ ў першым ра-

мане «Сасна пры дарозе». У ваенным творы, як я лічу, кампазіцыя наогул можа быць не гарманічнай, нават «зломанай», раскіданай. Гэта добра давёў яшчэ Д. Фурманаў у рамане «Чапаеў».

Пры стварэнні раманаў, як і апавяданняў, я прытрымліваўся аднаго і таго ж правіла: пісаў аб тым, што перажыў, бачыў або аб чым хоць бы чуў, да чаго нейкім чынам далучаны душой. Асабістых уражанняў на тры раманы, вядома, не хапіла, прыйшлося размаўляць з многімі людзьмі, запісваць іх расказы, корпацца ў архівах, але прынцып застаўся той жа: я вышукваў новыя звесткі пра падзеі, людзей, пра якіх ужо штосьці ведаў, распытваў удзельнікаў гэтых падзей, стараючыся ўявіць сабе тую ці іншую карціну найбольш поўна і дакладна.

У крытычных артыкулах яшчэ і цяпер мяне іншы раз называюць прыхільнікам лірычнай прозы. Думаю, што гэта было справядліва для першых апавяданняў, ды і то не для ўсіх. Аповесці, раманы прымушаюць «ужывацца» ў псіхалогію самых разнастайных людзей, «ужывацца» ў вобраз, а сродкамі лірычнай прозы гэту задачу не вырашыш.

З другога боку, лірыка, гумар, эмацыянальнае ацэначнае слова не супрацьпаказана самай суровай, «аб'ектывізаванай» прозе.

*1978*

# ВЕЦЦЕ МАГУТНАГА ДРЭВА

Беларускі раман малады па ўзросту. Ён бадай што равеснік Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая яго нарадзіла, выклікала да жыцця. «Сокі цаліны» Цішкі Гартнага, «У Палескай глушы», «У глыбі Палесся» Якуба Коласа, «Сцежкі-дарожкі» М. Зарэцкага, «Салавей» З. Бядулі — першыя нашы раманы, аповесці дваццатых гадоў, непасрэдна авеяных подыхам Кастрычніка.

У гады рэвалюцыі, як і пазней, у Айчынную вайну вельмі адчувальна, рэльефна праявілася адзінства асабістага і грамадскага ў чалавеку. Падпарадкаваўшы

ўсе свае сілы сацыяльнай, патрыятычнай ідэі, чалавечая асоба робіцца яшчэ больш значнай і цэласнай.

Усё гэта не магло не паўплываць на пошукі беларускіх пісьменнікаў, у прыватнасці на лёс рамана. Беларускі раман і звязаныя з ім жанры нараджаліся як эпас рэвалюцыі, барацьбы, параметрамі яго было сувымярэнне лёсу асобы з лёсам народа, грамадства, можна сказаць, што ў ім нават не мыслілася аўтаномнае, незалежнае ад вятроў, павеваў часу існаванне асобы.

Але якім бы арыгінальным, самабытным ні быў пісьменнік, так ці іначай ён адштурхоўваецца ад пэўнай традыцыі, творчага ўзору.

Для многіх савецкіх пісьменнікаў, якія пісалі пра рэвалюцыю, Айчынную вайну, такім узорам была «Вайна і мір» Льва Талстога.

Леў Талстой, напісаўшы «Вайну і мір», стварыў, па сутнасці, новы від рамана. Назва яму: раман-паток, раман-плынь. Рух народнага жыцця, гісторыя знаходзяцца ў ім у непарыўнай сувязі з дыялектыкай духоўнага жыцця асобных людзей. Прыватнае жыццё чалавека ў рамане Талстога не паглынаецца, не растварaецца ў агульным патоку, а наадварот, дзякуючы сувязі з народнай агульнасцю, набывае надзвычайна поўную ёмістасць і акрэсленасць.

Раман Талстога ахоплівае вялізныя пласты, масівы жыцця, ён як бы адкрыты насустрач рухомаму, дынамічнаму стану свету, ён па-мастацку асэнсоўвае сам рух жыцця, зменлівую дыялектыку чалавечай душы, мнагалучныя, мнагазначныя суадносіны, сувязі чалавечай асобы і свету. Прадмет даследавання Талстога — сучаснасць. «Вайна і мір» як бы рухаецца насустрач жыццю, і ў гэтым сэнсе мы маем справу з адкрытай, свабоднай жанравай формай, якая характарызуецца незвычайна шырокімі рамкамі часу і вялікай прасторавай перспектывай.

Падзеі ў «Вайне і міры» ніколькі не засланяюць жыцця душы, складанай дыялектыкі думак і пачуццяў герояў, роста развіцця характараў. Жыццё як цэлае, у дынаміцы, развіцці, супярэчнасцях — сутнасць раманнага мыслення Талстога. У ім знаходзіць адбіццё ўстаноўка на адлюстраванне праўды, як асноўнага героя твора, глыбіннае разуменне ўсеперамагаючай сілы жыцця, настойлівае дбанне пра вышыню маральных каштоўнасцей, на якіх жыццё заснавана.

Талстой «Вайной і мірам» стварыў некананічную, адкрытую раманную структуру, якая спалучае ў адно мастацкае цэлае плынь гістарычнага часу, народнае і сямейнае жыццё ў вышэйшых пунктах яго духоўнай напружанасці.

Сёння не выклікае сумнення, што «Вайна і мір» — гэты сусветна вядомы шэдэўр — паўплываў на мастацкія пошукі многіх савецкіх пісьменнікаў. У арбіце творчага прыцяжэння геніяльнага талстоўскага рамана — «Блуканне па пакутах» А. Талстога, «Ціхі Дон» М. Шолахава, «Разгром» А. Фадзеева, шэраг твораў беларускіх пісьменнікаў.

Пытанне аб традыцыях, відавочнае ў сэнсе тыпалагічных параўнанняў агульнага літаратуразнаўчага плана, незвычайна ўскладняецца, калі перайсці да жывой творчай практыкі. Бясспрэчна, што вызначаюць напрамак літаратурных пошукаў творцы магутнага даравання, тыя, якім суджана было стаць выразнікамі народнай самасвядомасці, якія нараджаюць цэлую эпоху ў мастацкім развіцці народа. Іменна такім быў Леў Талстой.

Магутная эпічная традыцыя, створаная вялікім рускім пісьменнікам, стала тым сілавым полем, з мастацкага прыцяжэння якога не можа выйсці ні адзін прыкметны талент, які ўзнікае на параўнаўча недалёкім гістарычным аддаленні. І ў той жа час кожны буйны, яркі талент нагадвае планету, якая, падпарадкоўваючыся агульнаму закону прыцяжэння, рухаецца, аднак, па ўласнай арбіце, стварае сваю мастацкую сістэму.

Бясспрэчна, кожны па-свойму, вучыліся на прыкладзе «Вайны і міру» Талстога стваральнікі першых беларускіх раманаў і аповесцей, прысвечаных рэвалюцыі, Якуб Колас, Цішка Гартны, Змітрок Бядуля, Міхась Зарэцкі і, асабліва плённа, Кузьма Чорны, які, падобна вялікаму рускаму сабрату, імкнуўся даследаваць «дыялектыку душы».

Яшчэ большы ўплыў талстоўскі раман аказаў на пісьменнікаў, якія пісалі пра Вялікую Айчынную вайну. У беларускай прозе подзвіг народа, стойкасць, мужнасць савецкага чалавека ўвасоблены ў ваенных раманах К. Чорнага, у «Глыбокай плыні», пенталогіі «Трывожнае шчасце» І. Шамякіна, у раманах «Мінскі напрамак» І. Мележа, «Векапомныя дні» М. Лынькова, «Расстаемся ненадоўга» А. Кулакоўскага, «Згуртава-

насць» М. Ткачова, «Вогненны азімут» А. Асіпенкі, «Птушкі і гнёзды» Я. Брыля, «Плач перапёлкі» і «Апраўданне крыві» І. Чыгрынава, дылогіі А. Адамовіча «Партызаны» і інш.

Няцяжка ўбачыць, што мастацкія прынцыпы,— панарамнасць, шырыня ахопу жыццёвага матэрыялу, пакладзеныя ў аснову амаль усіх гэтых твораў,— бяруць пачатак ад вялікай талстоўскай эпапеі. Чалавек у сілавым полі грамадскага, гістарычнага руху, народ на грозных пераалах сваёй жыццядзейнасці — гэтыя праблемы вырашаюцца беларускімі пісьменнікамі ў залежнасці ад таленту, мастацкай своеасаблівасці кожнага.

Сіла «Вайны і міру» адбіваецца не толькі на творах панарамных, шырокіх па ахопу падзей. Адчуваем мы яе і ў даволі сціплых па аб'ёму аповесцях В. Быкава, І. Пташнікава.

Урокі Талстога ў лепшых творах беларускай прозы аб вайне бачацца ў пільнай увазе пісьменнікаў да народнага жыцця, яго глыбінных вытокаў, да паводзін, духоўнага свету, маральнага патэнцыялу самых разнастайных удзельнікаў вайны.

Высокі гуманістычны пафас, імкненне да ўсебаковага раскрыцця характару, маральна-этычных вытокаў гераічнага, невычарпальнага, закладзенага ў сутнасці чалавека маральнага патэнцыялу, які дазваляе яму вытрымаць звышчалавечыя нагрузкі, выпрабаванні, жахі і застацца чалавекам — вось той асноўны ўрок, які засвоіла беларуская проза, вучачыся ў Талстога.

У апошні час многа пішацца, гаворыцца пра глыбіню псіхалагічнага аналізу, аналітычны спосаб раскрыцця і ўвасаблення жыццёвых падзей. Псіхалагічны аналіз, дакладнасць рэалістычнага малюнка, уменне пісьменніка глыбока зазірнуць у душу героя — рэальная заваёва беларускай прозы, якая прыйшла да яе ў многіх адносінах дзякуючы таму, што лепшыя нашы празаікі плённа вучыліся і вучацца ў Талстога.

У творах Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Івана Мележа, Янкі Брыля, Івана Шамякіна побач з удумлівым даследаваннем псіхалогіі героя знаходзім паэтычнае бачанне свету, уменне адным словам, адной мастацкай дэталлю сказаць многае, імкненне да жывапісу і рукапісу словам. У многіх нашых кнігах шматфарбнасць, паліфанічнасць адлюстравання жыцця дасяга-

юцца дзякуючы іроніі, гумару, трапнаму эмацыянальна-ацэначнаму слову. Школа, мастацкія запаветы Талстога як бы спалучаюцца ў такіх творах з другімі творчымі прынцыпамі і крыніцамі. Гэта добра, бо ў гэтым — рух літаратуры.

*1978*

# РОЗДУМ АБ СУЧАСНАСЦІ[1]

Напярэдадні пленума праўлення СП Беларусі, які разгледзіць стан пісьменніцкай публіцыстыкі, дазвольце, Іван Якаўлевіч, запытаць у вас: у чым, на вашу думку, выклікана тое, што на парадак дня пленума вынесена пытанне аб стане публіцыстыкі?

— Публіцыстыка — гэта заўсёды роздум аб сучаснасці. Аб чым бы ні пісаў аўтар-публіцыст, ён абавязкова гаворку сваю ўвязвае з надзённымі задачамі дня. Публіцыст ідзе, як кажуць, па гарачых слядах падзей, вышуквае тое галоўнае і важнае, што варта ўвагі не асобных людзей, а ўсіх нас. Узнімаючы надзённыя праблемы, ён прымушае задумвацца кожнага над тым, як жыць, каб быць вартым эпохі, нашага велічнага часу, каб у справах сваіх набліжацца да таго, чым жыве ўвесь народ.

Але ж гэтымі клопатамі жыве і кожны сапраўдны пісьменнік, хто адчувае сябе грамадзянінам сваёй краіны, сынам свайго часу. Значыць, публіцыстыка — гэта таксама літаратура, і яна павінна стаць кроўнай справай кожнага пісьменніка. Нам абавязкова варта часцей выказвацца перад чытачом, гаварыць аб тым, што турбуе, што заклікае да роздуму. Такая споведзь, канечне, у той ці іншай меры гучыць і са старонак апавяданняў, аповесцей, раманаў (гавару аб прозе, паколькі сам празаік). Але ж напісаць празаічны твор буйнога жанру, патрэбен час, а ён жа не чакае, праблемы дня, калі можна так сказаць, падганяюць творцу. Найлепшая магчымасць гаворкі з чытачом — гэта публіцыстыка. І не толькі артыкул, нарыс, але нават і

---

[1] Адказы на пытанні карэспандэнта штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» Алеся Марціновіча.

своеасаблівы запіс у блакноце, зроблена калі-нікалі наспех, ён часам набывае важкае значэнне, бо важнае і характэрнае занатаваў не проста чалавек, а літаратар. Таму публіцыстыка — гэта жывая справа, якой літаратура не можа не займацца, і, адначасова, публіцыстычная дзейнасць — своеасаблівы этап, які праходзіць, бадай, кожны аўтар, што назапасіў шмат назіранняў, уражанняў і, перш чым сесці за напісанне мастацкага твора, выходзіць на сустрэчу з чытачом праз газету ці часопіс, радыё альбо тэлебачанне.

Так што гаворка аб публіцыстыцы, аб яе задачах і праблемах, сувязі з часам, якая будзе весціся на нашым пісьменніцкім пленуме, своечасовая і, безумоўна, вартая ўвагі.

— Ваш творчы шлях пачынаўся, па сутнасці, з газеты?

— Спрабаваць пісаць я пачаў яшчэ школьнікам. Пачынаў з допісаў, некаторыя з якіх да вайны друкаваліся ў васілевіцкай раённай газеце «Сацыялістычная праца», а таксама ў мазырскім «Бальшавіку Палесся» і «Чырвонай змене». Пасля вайны ўжо, будучы ў Мазыры, занёс у абласную газету «Бальшавік Палесся» (Мазыр тады быў цэнтрам Палескай вобласці) невялікі артыкул, у якім расказваў аб справах васілевіцкіх юнакоў і дзяўчат. Мяне прыхільна сустрэла Вольга Фёдараўна Баркоўская, якая выконвала тады абавязкі рэдактара газеты. Са снежня сорак пятага я і пачаў працаваць карэспандэнтам «Бальшавіка Палесся».

Абласной газеце аддаў шэсць гадоў. Працаваў і адначасова вучыўся завочна ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. А ў 1951 годзе перайшоў у рэспубліканскую «Звязду», потым рэдагаваў шматтыражку «Беларускі універсітэт», пяць гадоў працаваў у часопісе «Маладосць»: спачатку загадчыкам аддзела моладзі, крыху пазней загадчыкам аддзела прозы...

Магу сказаць — усё пачыналася з газеты. Журналісцкая праца вельмі шмат дала мне для вывучэння жыцця. Нямала ездзіў па вёсках, што пасля вайны толькі яшчэ пачыналі адбудоўвацца. Сустракаўся з многімі людзьмі: учарашнімі партызанамі, падпольшчыкамі, з франтавікамі. Пісаў нарысы, артыкулы, замалёўкі. І, канечне, многае запамінаў, занатоўваў у блакноты. Так што газета дала мне шмат назіранняў, дазволіла вывучыць жыццё, і гэта сёння дапамагае ў

працы над празаічнымі творамі. Многае я чэрпаў, як кажуць, з першакрыніц. Не хвалюся, але ці ўсе пісьменнікі, асабліва маладыя, ведаюць сёння, што такое «райзо», «МТС», «сельгастэхніка»? А з гэтым жа даводзілася сутыкацца ледзь не штодня.

Празаік, калі піша мастацкі твор, бярэ канкрэтныя жыццёвыя рэаліі. Вось тады, калі ў цябе назапашана шмат жыццёвых назіранняў, і пачынае выплываць са своеасаблівых тайнікоў памяці найбольш важнае, тое, на што раней, магчыма, ты і не звяртаў увагі, бо яно падалося дробязным. Цяпер жа, на адлегласці часу, нават самы нязначны факт пачынае набываць вялікае значэнне.

— Пісалі толькі артыкулы, нарысы, замалёўкі?

— Не толькі... Газета патрабуе ад кожнага, хто працуе ў ёй, максімальнай творчай аддачы. Даводзілася і ■ фельетонамі выступаць, і рэцэнзіі пісаць...

Фельетонаў я напісаў не так ужо і мала. Змяшчаліся яны і ў «Бальшавіку Палесся» і ў рэспубліканскай «Звяздзе». Напрыклад, у фельетоне «Спорт і бульба» — ён быў змешчаны ў газеце «Бальшавік Палесся» — расказваў, як дырэктар адной аўташколы праявіў, калі можна так сказаць, празмерную гаспадарлівасць і... засадзіў пляцоўку для будаўніцтва стадыёна бульбай. Ці вось яшчэ адзін з маіх фельетонаў — таксама, дарэчы, апублікаваны ў абласной газеце. Называўся «Пчолы і трутні». Я пісаў пра кіраўнікоў тагачаснага калгаса «Парыжская камуна» Васілевіцкага раёна, якія завялі пасеку. Для падкормкі пчол было выпісана 30 кілаграмаў цукру, але калгасныя «дзеячы» цукар гэты самі з'елі, а бедныя пчолы памерлі з голаду.

А першую рэцэнзію надрукаваў у 1948 годзе ў «Бальшавіку Палес...». Разглядаў аповесць Піліпа Сямёнавіча Пестрака «Пачатак». Пазней ужо рэцэнзаваў і іншыя творы беларускіх пісьменнікаў.

— Даводзіцца чуць, што газета не толькі вучыць, але і «псуе» пісьменніка. Гэтым, мабыць, можна растлумачыць той факт, што многія літаратары не толькі цураюцца журналісцкай дзейнасці, але і не хочуць пісаць для газеты.

— Думаецца, тут нельга катэгарычна адказаць ні «так», ні «не». Каб рабіць нейкія высновы, трэба канкрэтна браць кожны выпадак. Калі ўзяць маю працу ў газеце, дык, магчыма, я крыху і «перарабіў». Магчы-

ма, нават калі-нікалі ў творах сваіх і залішне прывязваюся да факта. Магчыма, бо мысленне газетнае, у прыватнасці, і, калі глядзець шырэй, мысленне публіцыстычнае, толькі напалавіну, мастацкае. Яно больш навуковае...

Але правільней гаварыць не пра «шкоднасць» ці «карысць» газетнай работы пісьменніку, а пра тое, што дае яна яму як творцу. А гэта ў многім залежыць і ад самога аўтара, і ад той атмасферы, што складваецца ў рэдакцыйным калектыве. Калі яна творчая, калі ў ёй менш практыцызму, журналісцкая дзейнасць станоўча ўплывае на асобу пісьменніка, дапамагае яму ў назапашванні жыццёвых назіранняў. І, наадварот, калі, як кажуць, «заядае» цякучка, тады застаецца вельмі мала часу для сапраўднай творчасці.

У «Звяздзе» мне, напрыклад, працавалася лягчэй, у абласной газеце, безумоўна, крыху цяжэй. І ўсё ж свае журналісцкія гады я ўспамінаю з прыемнасцю, мабыць, гэтаксама да іх ставіцца кожны, каму даводзілася працаваць у газеце ці хто працуе ў ёй цяпер. Журналісцкая работа ў многім дысцыплінуе чалавека, а для пісьменніка гэта таксама немалаважна.

*1981*

# З ПАЗІЦЫІ РАБОЧАГА ЧАЛАВЕКА

Мы ўсе з'яўляемся сведкамі, як усё больш узрастае значэнне, грамадская вага кнігі. Усё цяжэй падпісацца на збор твораў вядомага пісьменніка. У кніжных магазінах, у тым ліку букіністычных, заўсёды людна, тлумна.

Гэта можа азначаць толькі адно: наш сучаснік, чалавек любога ўзросту, які жыве, працуе з намі побач, шукае ў пісьменнікаў — класікаў і навейшых,— у кнігах адказы на свае духоўныя запатрабаванні.

Не будзем суцяшацца ілюзіямі: чытач бывае розны. Яшчэ шмат хто задавальняецца ходкімі дэтэктывамі, «развлекательной» літаратурай або падробкамі пад праўду жыцця,— кнігамі, дзе ёсць нібыта даволі верагоднае знешняе апісанне падзей, «фізіялогія» быту або вайны, але духоўнае жыццё герояў збеднена, значных характараў, тыпаў няма.

І ўсё ж без перабольшання можна сказаць, што савецкі чытач самы лепшы ў свеце. Бо толькі ў нас такімі велізарнымі тыражамі разыходзяцца кнігі, столькі адбываецца дыскусій па кнігах, сустрэч з пісьменнікамі. У наяўнасці шматмільённая армія чытачоў-кнігалюбаў.

Напярэдадні пісьменніцкіх з'ездаў — Беларусі і Усесаюзнага — хочацца выказаць некалькі думак адносна развіцця нашай літаратуры.

Мы ўступілі ў 80-я гады. Гэта значны рубеж, на якім можна ды, бадай, і трэба азірнуцца, падвесці падрахункі. Як развівалася, напрыклад, наша беларуская літаратура на працягу 70-х гадоў?

Я лічу — развівалася нармальна, ёсць бясспрэчныя здабыткі ва ўсіх жанрах: працягваў расці ўсесаюзны і міжнародны прэстыж нашай літаратуры, шэрагі пісьменнікаў папоўніліся колькасна, створана новае выдавецтва «Юнацтва».

І ўсё ж мне здаецца, што недзе мы не дабралі. У прыватнасці, у мастацкім асэнсаванні праблем, духоўнага клімату сённяшняй вёскі, дзе, як вядома, адбываюцца складаныя, супярэчлівыя працэсы. Страціўшы Івана Мележа, наша літаратура, як уяўляецца, не змагла ўзняцца на вышыню адчування вастраты праблем вясковага жыцця, якія характарызавалі творчасць (няхай сабе на матэрыяле 30-х гадоў) гэтага выдатнага пісьменніка.

Дзякуючы ў першую чаргу Івану Мележу наша літаратура вельмі наблізілася да чалавека працы, паглядзела на свет яго вачамі, і такі погляд даў надзвычай вялікі плён. Можна, аказваецца, з пляцоўкі, якая ў раманах Івана Мележа «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань» называецца палескай вёскай Курані, убачыць увесь свет з яго радасцямі і трывогамі, прыкметы таго, што толькі нараджаецца, можна высветліць сувязі, якія яднаюць дзень сённяшні з днём учарашнім і заўтрашнім.

Сучаснасць у такім разуменні — не голая надзённасць, пазбаўленая шырыні гістарычнага погляду і адчування перспектывы будучыні, а сінтэтычнае, усебаковае адчуванне і бачанне жыцця.

Так, жыццё наша імкліва развіваецца ў індустрыяльным напрамку, але «кнопачная цывілізацыя» (калі, скажам, варта будзе націснуць кнопку, як пацячэ,

напрыклад, малако, з'яўляецца, як у казцы, малочныя рэкі з кісельнымі берагамі) яшчэ не наступіла і не наступіць, відаць, ніколі. Мы павінны цікавіцца існуючымі рэальнасцямі жыцця, імкненнямі, духоўнымі сяганнямі рабочага чалавека, які будуе камуністычнае грамадства.

На маю думку, у беларускай літаратуры за 70-я гады не паявілася твора, дзе б адчувалася вастрыня праблем духоўнага жыцця сучаснай вёскі, як гэта бачым мы, напрыклад, у некаторых творах рускага пісьменніка Валянціна Распуціна.

У няменшым даўгу мы, пісьменнікі, і перад тэмай горада. Большасць сённяшніх рабочых, інжынераў — дзеці, унукі вяскоўцаў-хлебаробаў, якія прыйшлі ў горад ад сялянскіх ніў. Гэткімі ж па паходжанню з'яўляецца большасць сучасных беларускіх пісьменнікаў. Таму мы лёгка можам зразумець сённяшняга рабочага або інжынера.

Я зусім не заклікаю пісаць «вытворчыя» раманы або аповесці, хоць і на такой аснове пры глыбокім мастакоўскім, мастацкім падыходзе можа з'явіцца добры твор. Мне здаецца, галоўнае ў нашай пісьменніцкай чыннасці — умець глядзець на свет вачамі рабочага чалавека, ацэньваць праявы жыцця яго этычнымі і эстэтычнымі меркамі.

Большасць нас, пісьменнікаў, з'яўляецца службоўцамі. Мы працуем у рэдакцыях, выдавецтвах, навуковых установах, і гэта праца адымае львіную долю нашага пісьменніцкага часу. Я лічу — гэта прамая, непасрэдная страта для грамадства. Бо раман ці нават аповесць, прысвечаную вострым праблемам сучаснага сяла, горада, не напішаш, выязджаючы ў кароткатэрміновыя камандзіроўкі.

Трэба добра ведаць, вывучыць той прадмет, пра які хочаш напісаць што-небудзь вартае.

Трэба, відаць, хоць часткова аднавіць практыку сацыяльнага заказу, якая некалі бытавала ў творчай практыцы. Трэба, каб нашы рэдакцыі, выдавецтвы знайшлі магчымасць пасылаць на год ці хоць на паўгода найбольш здольных пісьменнікаў у творчыя камандзіроўкі — з прыцэлам на будучы раман ці аповесць.

*1981*

# НА ПЕРАЛОМЕ ЖАЛЕЗА І ПЕСЕНЬ...

Сямідзесяцігоддзе Максіма Танка супала з святкаваннем стогадовых юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Вечары, канферэнцыі, урачыстыя сходы, прысвечаныя памяці класікаў беларускай літаратуры, не засланілі аднак юбілея Максіма Танка. Бо ён таксама выдатная з'ява беларускай літаратуры, калі можна сказаць так, жывы класік.

Максім Танк прыйшоў у літаратуру, калі валадары беларускага Парнаса былі ў росквіце творчых сіл. Для маладога паэта яны былі настаўнікамі, ён вучыўся ў іх, засвойваў іх урокі, і можна нават сказаць, што Максім Танк, як і другія нашы найбольш выдатныя паэты, з рук Купалы і Коласа пераняў творчую эстафету, панёс яе далей, пракладваючы ў новых гістарычных умовах прынцыпова новыя шляхі і пуцявіны развіцця мастацкага беларускага слова.

Пяцьдзесят год назад раздаўся бадзёры і звонкі голас Максіма Танка, калі пад гэтым прозвішчам 7 красавіка 1932 года легальна выдадзеная ў Львове заходнебеларускімі камуністамі газета-аднадзёнка «Беларускае жыццё» надрукавала яго верш «Заштрайкавалі гіганты-каміны».

Максім Танк прыйшоў у беларускую літаратуру як паэт рэвалюцыі, як найбольш таленавіты і яркі выразнік ідэалаў барацьбы працоўных мас былой Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне з-пад ярма пілсудчыны. Рэвалюцыянер-прафесіянал, вязень польскіх турмаў, які стаў лірычным героем многіх даверасснёўскіх вершаў Максіма Танка, быў у пэўнай меры двайніком паэта, бо сам паэт быў камсамольскім і партыйным работнікам, па заданню Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі выконваў прапагандысцкія і іншыя даручэнні, за сваю падпольную рэвалюцыйную дзейнасць сядзеў у панскіх турмах.

Ужо ранняя лірыка Танка, у якой нібы адбіваецца водблеск рэвалюцыйнага пажару, які ахапіў «крэсы ўсходнія», вельмі чалавечныя па зместу. Задуменная, па-філасофску разважлівая, у вытоках сваіх блізкая да народнай песні і казкі, лірыка гэтая пераконвае нас, што нават ва ўмовах барыкаднай барацьбы, у класавых паядынках, якія канчаюцца турмамі, шыбеніцамі,

этапнымі дарогамі для тых, каму прыйшлося жыць «на пераломе жалеза і песень», няма ананімнага безабліч-нага чалавека, а ёсць чалавек жывы, індывідуальны з непаўторным светам пачуццяў, імкненняў, жаданняў. Чалавек гэты цвёрды, як крэмень, як маналіт, калі гаварыць аб яго палітычных перакананнях, аб якасцях барацьбіта за ідэю, і ў той жа час — гэта багатая, шырокая натура, у якой знаходзіць водгук прыгажосць навакольнага свету, радасць яднання з прыродай, ён умее глыбока, шчыра кахаць, самаахвярны ў дружбе, разумее чужую бяду, адным словам, нішто чалавечае для яго не чужое. (Вершы «Да дня», «Спатканне», «Песня кулікоў» і г. д.)

Да памятнага верасня тысяча дзевяцьсот трыццаць дзевятага года, калі беларускі народ уз'яднаўся ў адзінай савецкай рэспубліцы, Максім Танк працаваў па той бок мяжы, ва ўмовах буржуазнай рэчаіснасці. Але духоўны свет героя ягонай паэзіі, па сутнасці, не адрозніваецца ад светаразумення, светаадчування той новай асобы, якую паказвала савецкая літаратура. Гэта таму, што нараджалася гэта паэзія пад чырвонымі сцягамі рэвалюцыйнай барацьбы і натхнялася сацыялістычнымі ідэаламі.

Паэзія Максіма Танка арганічна ўвайшла ў савецкую літаратуру. Яна мужнела, набіралася моцы на цяжкіх, пакутлівых дарогах Айчыннай вайны, у буднях пасляваеннага аднаўлення, няўхільна пашыраючы, паглыбляючы свае грамадзянскія, чалавечыя абсягі. Этапамі не толькі творчай біяграфіі Максіма Танка, а развіцця, станаўлення ўсёй беларускай паэзіі сталі шырока вядомыя зборнікі «Каб ведалі», «На камні, жалезе і золаце», «След бліскавіцы», «Мой хлеб надзённы», «Глыток вады», «Ключ жураўліны», «Дарога, закалыханая жытам», «Прайсці праз вернасць». Светаразуменне героя паэзіі Танка грунтуецца на глыбокай арганічнай перакананасці ў вызваленчую місію сацыялізма і камунізма, у тое, што шчасце кожнага асобна ўзятага чалавека, магчыма, толькі на шляхах сацыяльнага, грамадскага пераўтварэння жыцця; вызначальная станоўчая якасць героя — самаахвярнае служэнне рэвалюцыйнаму ідэалу, дабру, чалавечнасці, прыгажосці.

Грамадзянскасць, партыйнасць паэзіі Максіма Танка шчасліва спалучаецца з непаддзельнай народнасцю,

тонкім лірызмам, добрым гумарам, усмешкай. Максім Танк — паэт шырокага дыяпазону. Яго паэзія прасякнута духам сапраўднага інтэрнацыяналізму, многія вершы нараджаліся на дарогах вандровак, падарожжаў паэта па краінах свету, і ў той жа час гэтыя вершы арганічна нацыянальныя, беларускія. Паэзія Максіма Танка можа быць па-бунтарску баявой, бескампраміснай, і адначасна іранічнай і па-сялянску лагоднай, і незласлівай; яна ўмее плакаць і смяяцца, падымацца ў надвоблачныя рамантычныя высі і спускацца, на добра калі знаёмую, родную зямлю.

У наш тэхнічны, касмічны век танкаўская паэзія чуйна ставіцца да народнай песні, казкі, нават да паглыбленай у мінулыя вякі спадчыны народнай самасвядомасці, занатаванай у старажытных павер'ях, міфах. Дух «предания» мае немалаважнае значэнне для кожнага значнага паэта, і паэзія Танка гэта пераканаўча даказвае, нібы пазычаючы ў казкі, міфа іх дзіцячую непасрэднасць, наіўнасць, тую асаблівасць мыслення, калі свет паўстае ў незвычайным, дзівосным спляценні рэчаў, фарбаў, сувязей. У Максіма Танка журавы, якія ляцяць у вырай, могуць пакляваць на небе зоркі, і таму зробіцца навокал цёмна, журавель і чапля бясконца брыдуць адзін да другога сватацца, ніяк не могучы прыйсці да згоды, размаўляюць у ягоных вершах між сабой не толькі дрэвы, расліны, птушкі, звяры, а нават каменні, абымшэлыя пні. Усе гэтыя вобразы, метафары, тропы арганічна ўпісваюцца ў сучаснае паэтычнае мысленне.

Паэзія Максіма Танка наогул вельмі чуйная да праяў сучаснага жыцця, эстэтычных пошукаў савецкай і ўсёй сусветнай паэзіі. Паэт не перастае здзіўляць, радаваць новымі смелымі паэтычнымі пошукамі, формамі, рытмамі, бліскуча даказваючы, што верш іншы раз можа абысціся нават без рыфмы, калі ў ім закладзена глыбокая вобразная думка.

Распрацоўцы разнастайных паэтычных форм верша ў свой час аддаваў вялікую ўвагу Максім Багдановіч, нібы прымерваючы да іх беларускае слова, і мы ведаем, наколькі ўзбагацілася ад гэтага наша паэзія. Цяпер падобную работу робіць Максім Танк.

Пра што б ні пісаў Максім Танк, якія б тэмы не кранаў, у яго творах нязменна гучыць любоў да род-

най зямлі, павага да чалавека працы, вера ў пераможнае камуністычнае абнаўленне свету.

Кожная, самая развітая паэзія, можа ганарыцца такімі паэтамі, як Максім Танк. Наша зямля, наш народ, наша партыя далі паэту імпэт для тварэння, палёту, і ён — выхадзец з-пад саламянай сялянскай страхі, інтэлігент у першым пакаленні — здолеў узняцца да вяршынь, якія з'яўляюцца ўзорамі савецкай і сусветнай паэзіі.

Багатая рамантычнымі формамі, вобразамі, лірыка Максіма Танка здзіўляе сваім ідэйным адзінствам.

Лірычны герой ягонай паэзіі характарызуецца вельмі ўстойлівымі псіхалагічнымі, духоўнымі якасцямі. Ён як бы даў клятву на вернасць партыі, рэвалюцыі, радзіме і вернасць сваім ідэалам пранёс праз усё жыццё. Светаразуменне гэтага героя грунтуецца на глыбокай перакананасці ў вызваленчую місію сацыялізма і камунізма, у тое, што шчасце кожнага асобна ўзятага чалавека магчыма толькі на шляхах сацыяльнага пераўтварэння, абнаўлення жыцця.

Гэты герой думкамі, імкненнямі прылучаны да ўсіх трывог планеты, якія праходзяць праз яго ўласнае сэрца. Душа яго шырокая, шматгранная, у ёй знаходзіць водгук прыгажосць навакольнага свету, радасць еднасці з прыродай, ён умее глыбока, шчыра кахаць, самаахвярны ў дружбе, разумее чужую бяду. Высакародную мерку чалавечнасці, як бы прыкладае ён да самых разнастайных праяў жыцця. А найбольш уважлівы герой-змаганнік да таго, як шырыцца на планеце справа рэвалюцыі, вызвалення чалавека з-пад ярма прыгнёту, знявагі, дыскрымінацыі. Верш паэта то грацыёзны, музыкальна адшліфаваны, як напрыклад «Матыль», «Ave Maria», то ў імкненні да дакладнасці, «прадметнасці» перадачы праяў жыцця напаўняюцца празаічнымі, каструбаватымі, на першы погляд, радкамі і інтанацыямі, як гэта мае месца ў паэмах «Журавіны цвет», «Кастусь Каліноўскі», «Нарач», шматлікіх вершах. Што б ні пісаў Максім Танк, якія б тэмы ні кранаў, у яго творах нязменна гучыць любоў да роднай зямлі, павага да чалавека працы, вера ў камуністычнае абнаўленне свету.

Як паэт Максім Танк займае ў беларускай літаратуры адметнае месца. Ён, калі не ўлічваць ранніх, іншы раз яшчэ вучнёўскіх вершаў, настолькі непадобны

да другіх нашых паэтаў, нават класікаў, што з гэтага прыходзіцца здзіўляцца.

Так, яшчэ ў пару паэтычнай маладосці Максім Танк шукаў адмысловых слоў, рытмаў, вобразаў, каб перадаць сваё бачанне, адчуванне імклівага, напоўненага рэвалюцыйнымі пераменамі, выбухамі жыцця, акрэсліць сталыя дабрачыннасці, арыенціры дабра і прыгажосці.

Вядома, на Танка ўплывалі польскія паэты-авангардысты, Маякоўскі, Колас і Купала, беларуская песня і казка. Але ўсё гэта складзенае разам яшчэ не дае таго арганічнага, непаўторнага сплаву, якім з'яўляецца танкаўская паэзія. Свой паэтычны стыль Максім Танк знаходзіў і выкоўваў сам.

Мне здаецца, што адметнай асаблівасцю гэтага стылю з'яўляецца, калі можна сказаць так, некаторая парадаксальнасць мыслення. За лірычным героем Максіма Танка даволі часта бачыцца чалавек, які нібы прыйшоў у наш напоўнены гукатам, імклівым рухам, плынню супярэчлівай інфармацыі, навуковых тэхнічных адкрыццяў век з цішыні лясоў, прастору палёў; чалавек з «первозданными», наіўнымі ўяўленнямі пра акаляючы свет. Чалавек гэты як бы зусім не ведае, што малекула вады складаецца з двух атамаў вадароду і аднаго — кіслароду, але затое ён дасканала чуе спеў ручая, можа скласці сотню песень, прыслухоўваючыся да плёскату нарачанскіх хваль, прыглядаючыся да іх дзіўнага, зменлівага малюнку.

Так, у пэўнай меры танкаўскаму герою ўласціва міфалагічнае мысленне, спосаб бачання, адчуванне жыцця, які характарызаваў нашага далёкага продка. Свет для гэтага чалавека быў дзіўнай, зачараванай істотай, містэрыяй. Дык вось паэт як бы сутыкае тое далёкае, міфалагічнае ці напаўміфалагічнае мысленне з нашым сённяшнім, і з гэтага вынікае выдатны паэтычны эфект.

Пахнуць пераспелыя суніцы,
Чую подых кожнага лістка,
Чую, як духмяная ігліца
Ападае з голляў сасняка.

Чую, як міжзорныя ракеты
Пралятаюць недзе нада мной...
Можа, мы — апошнія паэты,
Што вось так цікавяцца зямлёй.

Ціха свішчуць крылы позняй слонкі
Лесавік падпальвае карчы,
З камарынай талакою звонкай
Салаўі спрачаюцца ўначы.

*(«Дарогай з сенажаці»)*

Паэзія Максіма Танка збірае дары з усяго свету. Яна сучасная ў самым непасрэдным значэнні слова. У той жа час яна як бы абвеяна подыхам сівых, далёкіх часоў, калі тварыліся міфы, казкі, легенды, калі наш далёкі продак глядзеў на раку, камень, лес як на жывёл, добрыя або небяспечныя для яго істоты.

У гэтым сэнсе дары, якія нясе паэту родная Пількаўшчына, пачутыя ў дзяцінстве песні, казкі, сходжаныя ў юнацтве сцежкі і дарогі значаць для ягонай лірыкі не меней, а можа, нават болей, чым убачанае, зведанае ў шматлікіх вандроўках па свеце.

*1982*

# З адчуваннем прыгожага

## ТРЫВОЖНАЕ ШЧАСЦЕ ПАКАЛЕННЯ

Хочацца пачаць размову пра новую кнігу Івана Шамякіна «Трывожнае шчасце», прыгадаўшы словы вядомага рускага паэта аб пакаленні, якое сёння «службу галоўную нясе».

У жыцці і, як трэба было чакаць, і ў літаратуры мы часта сустракаем новага героя, таго, чыя сапраўдная грамадзянская біяграфія пачалася з Айчыннай вайны. Ён, гэты герой, сёння на пярэднім краі, ён камандзір вытворчасці, старшыня калгаса, рабочы, інжынер, аграном, працаўнік цалінных зямель і будоўляў Сібіры, сакратар райкома. Кожнае пакаленне мае нешта непаўторнае ў сваім лёсе, яно нясе далей эстафету, перададзеную яму яго папярэднікамі.

Івана Шамякіна як пісьменніка нарадзіла Айчынная вайна, велічны пафас камуністычных ідэй, жыццёвасць і праўдзівасць якіх правяралася ў агні. І калі азірнуцца на ўсё напісанае празаікам, то вельмі лёгка пераканацца, што галоўным жыццёвым рубяжом амаль усіх яго герояў была вайна. З яе пачыналі яны свае далейшыя дарогі.

У кнізе, якая складаецца з чатырох аповесцей, звязаных галоўнымі героямі і асноўнай тэмай, пісьменнік вяртаецца да самага пачатку «дарог», хоча прасачыць тыя вытокі і крыніцы, з якіх некалі напіўся герой, адпраўляючыся ў жыццёвае падарожжа, у люстраной роўнядзі якіх упершыню ўбачыў свой твар. Новая кні-

га ў большай ступені, чым папярэднія, ставіць і вырашае пытанні маральныя, этычныя, і гэта зразумела. У «Трывожным шчасці» расказваецца аб станаўленні характару, духоўнага свету нашага сучасніка, таго героя, які сёння заступіў на галоўную жыццёвую вахту.

Тэму новых аповесцей Івана Шамякіна можна вызначыць вельмі коратка: вернасць. Вернасць светлым савецкім ідэалам, якімі з дзяцінства, [redacted] юнацтва герой ацэньвае асноўныя вартасці жыцця, свае і акаляючых людзей паводзіны і ўчынкі, свае ўласныя імкненні і жаданні. І гэтая, калі можна так сказаць, вернасць, сумленнасць «грамадская» жыве ў непарыўнай еднасці з вернасцю, скажам, каханай дзяўчыне, самай прыгожай, разумнай, чулай і, вядома, адзінай на свеце. Ёсць ва ўсім гэтым нейкая непаўторная праўда аб тым пакаленні, якое трываласць і цану свайго першага пачуцця выпрабоўвала ў акопах і зямлянках, у доўгіх расстаннях, калі было куды бліжэй трапіць у абдымкі смерці, чым каханай, дзе сустрэчы і спатканні з ёй, любімай, найчасцей, бадай, толькі сніліся. Вялікая любоў да Радзімы, шырокай, неабсяжнай, не засланяла, не сцірала ўспамінаў аб мілых вачах і той бярозцы, што расла ля роднай хаты, пад самым яе акном.

У прыдняпроўскім раёне, на пыльнай, голай дарозе ўпершыню мы сустракаемся [redacted] Пятром Шапятовічам, галоўным героем аповесці, студэнтам тэхнікума, які ідзе ў адведкі да любімай Сашы, і тут жа, у гэтым краі, яго пакідаем на руках у той жа Сашы — параненага, мужнага салдата, прыляцеўшага ў партызанскі тыл з заданнем Радзімы, зведаўшага выпрабаванні суровага паўночнага фронту. Сюжэтная калізія, пакладзеная ў аснову аповесці, на вайне не была дзівам, хоць канец яе ў аповесці і ўяўляецца некалькі прыўзнятым, «рамантызаваным».

Іван Шамякін малюе нам сапраўды трывожнае шчасце сваіх герояў, шчасце, якое больш трымалася на расстаннях, чым стрэчах, якое не ведала цёплай дамашняй утульнасці, а заваёўвала права на існаванне цаною найвялікшых ахвяр і страт. Але героі аповесцей Саша і Пятро — не пакутнікі. Вайна, самая жорсткая і суровая [redacted] усіх, якія калі-небудзь былі на свеце, не абрэзала ім крылляў, не пахіснула іх веры ў светлыя ідэалы, за якія яны ішлі на смерць, не зламала іх духоўна. Наадварот. Яна была для іх экзаменам на ста-

ласць і вернасць, пасля якога самі яны мелі поўнае маральнае права глядзець на сябе з павагай.

Падзеі ў аповесцях разгортваюцца ў двух планах. Пятро і Саша, людзі «рамантычныя», шчырыя, пабудавалі сваю маладую сям'ю якраз у той неспакойны час, калі яны найменш маглі належаць адно другому і самім сабе. Нават звычайнага месячнага адпачынку не было пад час гэтага шлюбу, а малады муж не падносіў сваёй жонцы падарункаў і сувеніраў: сам ён хадзіў тады ў студэнцкіх чаравіках, якім, па самых аптымістычных прагнозах, нядоўга было трываць і пасля капітальнага рамонту.

Малады бацька, Пятро Шапятовіч, не пачуўшы ад сваёй дачкі слова «тата», ідзе ў армію, пачынаецца вайна, Саша з дзіцем на руках застаецца дома, і ў дом гэты неўзабаве таксама прыходзіць вайна — стоеная, «падпольная» і, бадай, не менш зацятая, чым тая, на якой Пятро. На шляхах-дарогах герояў суровыя выпрабаванні, якія яны абодва мужна вытрымліваюць. Ёсць на гэтых шляхах і свае спакусы, якія, здаецца, лёгка апраўдаць, улічыўшы той цяжар, што ўскладзены на маладыя плечы Пятра і Сашы. Спакусы гэтыя старыя, як свет: «Лаві шчаслівае імгненне, час жа такі няпэўны, вайна, праз гадзіну ці праз дзень можа схавацца ад цябе сонца назаўсёды...»

Але ні Саша, ні Пятро не ловяць прыгожай жар-птушкі, і не могуць лавіць. Гэтага ім не дазваляе агіда да лёгкага і несур'ёзнага ў жыцці, тая ўнутраная чысціня і сумленнасць, якой яны абодва прысягнулі яшчэ на парозе юнацтва. І няхай іншы раз варушыцца звярок рэўнасці ў сэрцы Пятра, штурхае яго на неабдуманыя ўчынкі, але з гэтай бядой яму стае сілы справіцца. Прыгожыя людзі, героі аповесцей!..

Можна без асаблівага перабольшання сказаць, што шырокая папулярнасць кніг Івана Шамякіна менавіта тым і тлумачыцца, што пісьменнік умее знаходзіць прыгожае ў жыцці, што ён тонка адчувае сапраўды паэтычнае, высокае, рассыпанае, як дыяменты, у душы нашага сучасніка. Пісьменнік вельмі чулы да свайго часу і ў першую чаргу да тых маральна-этычных пытанняў, якія ён узнімае. Героі Івана Шамякіна прыгожыя ўзвышанымі парываннямі і справамі, чыстым, усхваляваным сэрцам і ясным поглядам на навакольны свет. У іх вялікім, чалавечым сэрцы нібы адбіваюцца ўсе

ўзлёты і трагедыі веку, яго радасці і нягоды. Гэтыя якасці станоўчага героя блізкія і зразумелыя чытачу: ці ён настаўнік, ці студэнт, ці звычайны калгаснік. Вельмі чалавечны, «выхаваўчы» талент у Шамякіна!..

Пісьменнік малюе праўдзівую, суровую карціну вайны, асабліва першага яе перыяду. Апавяданне вядзецца сціпла, проста, з той добрай унутранай стрыманасцю, без якой, здаецца, нельга наогул пісаць пра вайну. Гэтую многімі сваімі момантамі новую для Шамякіна манеру асабліва хочацца вітаць, бо — навошта грэх таіць — у ранейшых сваіх творах, у «Глыбокай плыні» напрыклад, ён куды больш хварэў на рытарычную напышлівасць, любіў звонкую «лабавую» фразу, пагарджаў падтэкстам.

Найбольш мастацкі завершанымі, псіхалагічна паўнакроўнымі ўяўляюцца аповесці «Непаўторная вясна» і «Агонь і снег». У іх прысутнічаюць і цёплы лірызм, і тонкая, ледзь улоўная ўсмешка, і тое зайздроснае ўменне рэльефна і выпукла маляваць унутранае і навакольнае, што, здаецца, бачыш яго перад сабой жывым і адметным. Незабыўныя карціны схілу прыдняпроўскага лета з яго дзённай гарачынёй, пыльнай дарогай, задуменнай, начной таямнічасцю прысад і сенажацяў; кранаюць за сэрца велічныя, суровыя краявіды Поўначы: здаецца, чуеш, як рыпіць на марозе снег, як гуляюць на небе імклівыя сполахі, як рассцілаюцца неабсяжныя снежныя даліны з сінімі ценямі на іх, як застыла ў нямым маўчанні агромністая глыба камення. Многа такіх цудоўных карцін намаляваў пісьменнік.

Удала карыстаецца Іван Шамякін мастацкай дэталлю, і, дзякуючы гэтаму, надоўга запамінаеш праявы душэўнага стану герояў, ледзь прыкметныя рысачкі іх натуры; запамінаеш і тых герояў, якія прамільгнулі перад табой толькі на адной старонцы ці нават у адным-двух абзацах. Вось маленькая сцэнка, якая надзвычай трапна перадае няўрымслівасць Пятра, яго душэўныя пакуты ў сувязі з тым, што Саша, да якой ён прыйшоў у госці, пакінула яго, не сказаўшы, куды пайшла.

«Ён выскачыў, заглянуў у амбулаторыю — замок, у сад — пуста. Спытаў у дачкі гаспадыні, ці не ведае яна, куды пайшла цёця Саша.

— Цёця Шура? Відаць, да хворага паклікалі,— зу-

сім па-даросламу заспакоіла малая. Але яго чамусьці ўзлавала, што ўсе завуць яе Шурай. Ён не любіў гэтага яе імя і злосна сказаў дзяўчынцы:

— Не Шура, а Саша. Запомні гэта.

— А ўсе завуць — Шура.

— Усе — дурні...»

На некалькі кароткіх імгненняў спаткаліся мы з маёрам Жураўлёвым, капітанам Купанавым, дзедам-лодачнікам на Дняпры, партызанскім камісарам Капытковым, цёткай Хадоскай і запомнілі іх непаўторныя аблічча, паставы, манеру гаварыць. А калі прыгадаць яшчэ цэлую галерэю не «асноўных», але і не эпізадычных вобразаў, якія жывуць у творы паўнакроўным жыццём,— то перад намі мастацкае палатно з шырокім ахопам падзей і чалавечых лёсаў. Ваенфельчар Антаніна, прадмет нешчаслівага кахання Сені Пясоцкага, сам Сеня, багаты душой і чысты, як горны крышталь, баявыя паплечнікі Пятра Чуб і Самародаў, падпольны «поп» Аляксей Сафронавіч, урач Марыя Сяргееўна, маці Сені — усе яны яркія асобы, шматгранныя іх натуры і лёс.

Станоўчыя героі аповесцей прамыя і шчырыя людзі, «рамантыкі» і ў той жа час цвярозыя рэалісты, якія прымаюць жыццё з усімі яго нягодамі і выпрабаваннямі. Яны далёкія ад раздвоенасці, рэфлексіі, у іх свядомасць і сэрца цвёрда і назаўсёды запала вялікая праўда аб тым, што грамадскае, звязанае з лёсам Радзімы, вышэй усяго асабістага.

І адначасова для іх не існуе выбару паміж «я хачу» і «я павінен», іх не назавеш людзьмі голага абавязку, якія глушаць намаганнем волі, нерваў парыванні душы, «наступаюць на горла ўласнай песні». Бо для Пятра Шапятовіча, Сашы — шчасце Радзімы і яе мірны спакой — «святая святых», тое глыбокае ўнутранае перакананне, дзе зліліся ў адно непарыўнае цэлае довады розуму і праўда сэрца. Нельга сабе нават уявіць, каб Пятро Шапятовіч, Саша стаялі ў баку ад барацьбы. Такія іх натуры. Такімі іх выхавала папярэдняе жыццё. Гэтае асноўнае, што стала ідэйным сэнсам, унутранай тэмай аповесцей, пісьменнік давёў да чытача ярка і пераканаўча.

«Трывожнае шчасце» напісана ў пэўным сэнсе на «рамантычным» дыханні. І справа не толькі ў некаторай прыўзнятасці стылю, які, скажам, дарэчы і да ме-

сца там, дзе выяўляюцца высокія, чыстыя парыванні герояў (успомнім, напрыклад, дзённікі Пятра). Пісьменнік, уяўляецца нам, залішне часта ставіць сваіх герояў у выключныя абставіны, захапляецца сітуацыямі, што стаяць на грані магчымага. На вайне хапала ўсялякага: салдатам і партызанам, якім быў Пятро Шапятовіч, падпольшчыкам, якой стала Саша, не раз прыходзілася глядзець у вочы смерці. Але ці не замнога, скажам, выпала на долю Пятра і Сашы, гэтых, па сутнасці, радавых, звычайных маладых людзей?

Тое, што яго героі людзі звычайныя, без ніякай дэманічнасці, пісьменнік падкрэслівае неаднаразова. Ён паказвае іх якраз у той перыяд жыцця, калі «незямныя» мары аб нечым выключным змяняюцца на жыццёвае, сталае «быць як усе». З гэтага пачынаецца сталасць герояў, якую гартуюць суровыя выпрабаванні. Але, зыходзячы з такога вернага і пераканаўчага погляду, пісьменнік не-не ды і сарвецца, захапіўшыся знешняй эфектнасцю падзеі. Менавіта ў гэтым асвятленні ўяўляецца нам бясстрашны «рэйд» Пятра, які забіў старасту і ў дадатак знішчыў ледзь не ўвесь афіцэрскі састаў мястэчковага нямецкага гарнізона. Дарэчы, дробязнымі здаюцца і матывы, якія штурхнулі Пятра на гэтыя «звышгераічныя» ўчынкі сярод белага дня: зняважаны ў сваіх лепшых пачуццях да Сашы, не пажадаўшы ні ў чым як след разабрацца, ён бег і ўсё граміў на сваім шляху...

Гэта тым больш недаравальна, што Пятро «ўцякае» ад Сашы двойчы. Першы раз, калі перад намі раўнівы юнак, у душы якога разгуляліся супярэчлівыя пачуцці, мы яму спачуваем, злёгку дакараючы. Другі раз проста трэба прымусіць сябе паверыць, што на такое здольны няхай сабе ахоплены прыступам знявагі, узрушэння, горычы, але ў той жа час разважлівы і сталы Пятро.

Другая і апошняя часткі — «Начныя зарніцы» і «Пошукі сустрэчы» — наогул напісаны прыкметна слабей за першую і трэцюю кнігі аповесцей. Ніжэйшы накал добрага, стрыманага пачуцця, які мы бачылі ў «перадваеннай» і «франтавой» кнігах, псіхалагічная ненапоўненасць паводзін некаторых герояў, пераважнае развіццё падзейнай лініі апавядання, а не характараў у абмалёўцы падпольнай і партызанскай барацьбы, сляды паспешлівасці і адсюль месцамі дэкларатыў-

насць — усё гэта адчувальна ў жывой, рэальнай тканіне твора. Уяўляецца, напрыклад, «недацягнутым» добра задуманы вобраз Лялькевіча. Сціпламу, нерашучаму матэматыку, якім паўстае перад намі Лялькевіч у першай частцы, а пазней параненаму партызанскаму камісару проста не хапае «работы», калі пісьменнік спрабуе паказаць яго як кіраўніка і арганізатара падполля. Наогул падполле пісьменнік абмалёўвае, як уяўляецца, некалькі аблегчана, спрошчана, без усёй псіхалагічнай складанасці, супярэчлівасці адносін, якія мелі месца ў жыцці. Калі з боку адлюстравання падзей, учынкаў, нават сувязей, што складваліся паміж людзьмі, якія пайшлі на вайну па мабілізацыі сумлення, асаблівага папроку ў адрас празаіка не кінеш, то па лініі псіхалогіі, драматычнай глыбіні перажыванняў і пачуццяў герояў некаторыя раздзелы маглі быць напісаны на вышэйшым мастацкім узроўні той, напрыклад, прозы, якую мы маем у «Непаўторнай вясне» і «Агні і снезе».

*1961*

# БЕЛАРУСКАЯ БАЙКА

Гэта ж вельмі добра, калі пра кнігу крытыка можна сказаць, што чытаецца яна з цікавасцю, напісана почыркам, які характарызуе творчую індывідуальнасць аўтара.

Менавіта так напісана невялікая манаграфія Янкі Казекі «Беларуская байка». Яна радуе перш за ўсё яснасцю, празрыстасцю думкі, добрай мовай, шчырым, непадзельным пафасам.

Беларуская байка як жанр нашай літаратуры — пытанне мала даследаванае. Усё напісанае пра байку раней не падымалася вышэй звычайнага артыкула або рэцэнзіі. Манаграфія Янкі Казекі з'яўляецца першай спробай даць гісторыю развіцця і станаўлення гэтага жанру, выявіць асаблівасці яго эвалюцыі, прааналізаваць сучасны стан байкі.

Аўтар перш за ўсё схільны бачыць вытокі беларускай байкі ў сатырычнай плыні нашай літаратуры, у такіх яе творах, як «Прамова Мялешкі», «Ліст да Абу-

ховіча», у ананімных паэмах «Энеіда навыварат», «Тарас на Парнасе» і інш. Ён уважліва аналізуе гэтыя творы, выяўляючы ў іх рысы, уласцівыя і для байкі,— іронію, гумар, прыёмы сатырычнай характарыстыкі, сувязь з фальклорам, здаровы народны сэнс.

Але менавіта тут, у самым пачатку, хочацца запярэчыць даследчыку, бо яго погляд здаецца некалькі аднабаковым. Пры такім падыходзе астаецца нявысветленым пытанне аб узнікненні алегарычнай асновы байкі, бо хоць сатыра і вельмі важная яе якасць, але не сутнасць. Ёсць жа і іншыя жанры, дзе сатыра з'яўляецца як бы іх «паветрам», скажам, эпіграма, камедыя, сатырычны верш, але гэта ўсё ж не байкі.

Аўтар, мабыць, сам адчуў пэўную абмежаванасць свайго падыходу, бо ў другім месцы ён ужо справядліва сцвярджае, што ў станаўленні беларускай байкі «вялікую ролю адыгралі акрамя бытавых і сатырычных казак народныя алегарычныя і павучальныя апавяданні, а таксама прыказкі».

Можна было пайсці яшчэ далей. Беларускі жывёльны, раслінны эпас — самы багаты ва ўсім славянскім фальклоры — ці не ён далёкая першакрыніца нашай байкі? Бо алегорыя сваімі карэннямі дасягае сівой старажытнасці, тых далёкіх часоў, калі навакольны свет паўставаў у вачах нашых продкаў у фантастычным афармленні, у міфах. Менавіта ў тыя, не адзначаныя пісьмовымі помнікамі часы жывёлы, расліны, наогул усё, што акружала чалавека, надзялялася чалавечымі рысамі, якасцямі. І толькі пазней фантастычная алегорыя ўсё больш напаўнялася рэальным сэнсам і, спалучыўшыся з сатырай, стала байкай. А хіба сёння канчаткова памерла тая байка, дзе ў наяўнасці пэўныя прыкметы анімізму? Аўтар абяцаў, напрыклад, падрабязна разгледзець «Казкі жыцця» Якуба Коласа — твор, дзе неяк праўляюцца гэтыя элементы,— але не спраўдзіў абяцання.

Глыбока і цікава, на вялікім фактычным матэрыяле, прасочвае даследчык працэс складвання байкі як жанру новай літаратуры, не абмінаючы ніводнага больш-менш значнага моманту, які аказаў на гэта ўздзеянне. Безумоўна, слушная думка аб тым, што байка XIX стагоддзя развівалася ў беларускай літаратуры пераважна як жанр сатыры, была зброяй народа ў яго барацьбе, пацвярджаецца разглядам баек Францішка

Багушэвіча, Альгерда Абуховіча, уважлівым, падрабязным аналізам першых перакладаў баек і А. Крылова, зробленых беларускімі паэтамі. Дарэчы, пабочнае, здавалася б, пытанне — аб росце, майстэрстве перакладу — служыць вырашэнню асноўнай задачы, пастаўленай даследчыкам перад сабой. Крок за крокам выяўляе ён, як багацела літаратурная беларуская мова, становячыся ўсё больш гнуткай і выразнай, як удасканальваўся верш, яго рытміка, строфіка, каб падрыхтаваць узнікненне баек Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы.

Для паказу асаблівасцей беларускай байкі аўтар звяртаецца да шматлікіх фальклорных крыніц — казак, прытчаў, прыказак,— пераканаўча даказваючы паходжанне ўстойлівых алегарычных вобразаў, тых эстэтычна-маральных ацэнак, без якіх немагчыма само існаванне гэтага жанру.

Добра напісаны раздзел «Байкі Янкі Купалы і Якуба Коласа». Даследчык вельмі доказна выяўляе новыя якасці баек, створаных класікамі нашай літаратуры, паказваючы непарыўную іх сувязь з патрэбамі грамадскага жыцця, барацьбой народа.

Ёсць адна вельмі выразная думка, якая праходзіць лейтматывам праз усю кнігу. Нараджэнне літаратурнай байкі, тыя трывальныя пазіцыі, якія заваявала яна ў беларускай паэзіі, аўтар перш за ўсё тлумачыць змяншэннем у байцы момантаў дыдактычна-павучальных і нарастаннем у ёй сатырычных элементаў. Думка гэтая, выказаная ў свой час яшчэ Бялінскім, пацверджана не толькі творчасцю выдатнага рускага байкапісца А. Крылова, але і практыкай паэтаў наступных пакаленняў, што працавалі ў гэтым жанры.

Беларуская савецкая байка, захаваўшы арганічную сувязь з крылоўскай традыцыяй, з творчым вопытам беларускіх байкапісцаў, стала якасна новай з'явай. Яна стала жанрам публіцыстычна завостраным, адзіным, маналітным сплавам апавядальных, лірычных, драматычных і, нарэшце, сатырычных элементаў.

Новая эпоха з яе тытанічнай ломкай усяго старога, аджыўшага патрабавала вострай сатырычнай зброі. Нарадзіліся новыя грамадска-палітычныя і маральна-эстэтычныя ідэалы. Таму павінны былі змяніцца не толькі змест байкі, але і яе форма. Найвышэйшым узлётам беларускай савецкай байкі, нават па зместу і па

форме, становіцца баечная творчасць Кандрата Крапівы.

Гэта асноўныя вывады манаграфіі. Яны ўзніклі як вынік вялікай даследчай работы, падмацаваны глыбокімі, трапнымі назіраннямі. Аўтар вельмі добра адчувае спецыфіку байкі, пераканаўча абгрунтоўваючы думку, што існаванне баечнага жанру заканамернае, выклікана патрэбамі жыцця і не можа знікнуць, як гэта імкнуліся даказаць у свой час некаторыя крытыкі.

Наватарская роля баек Кандрата Крапівы даказана пераканаўча, шырока выяўлена грамадская глеба, на якой яны ўзніклі. Папулярнасць жа гэтых твораў, тая акалічнасць, што яны прыносяць нам эстэтычную асалоду і сёння, хоць даўно забыліся канкрэтныя факты, паводле якіх былі напісаны, аўтар справядліва бачыць у іх глыбокай народнасці, у тым, што Крапіва-байкапісец даражыў народнай ацэнкай, думкай, заўсёды стаяў на перадавых, партыйных пазіцыях.

Байкі К. Крапівы значныя па задуме, па ідэйнай нагрузцы, што нясуць іх алегорыі, вобразы. Іх маральныя вывады арганічна вынікаюць з сітуацый, у якія пастаўлены вобразы, а не навязваюцца. Алегорыя байкі ніколі не разбураецца, а, наадварот, узмацняецца паэтам — гэта справядлівае назіранне крытыка.

Янка Казека, мабыць, лічыў бы сваю задачу выкананай не да канца, каб не зрабіў удалай спробы паказаць, у чым жа адметнасць менавіта беларускай байкі. Ён бачыць яе ў карцінах побыту, у пейзажы, у коле алегарычных герояў — прадстаўнікоў беларускай фауны, нарэшце, у стыхіі мовы з яе ўстойлівымі словазлучэннямі, крылатымі і вострымі словамі, афарыстычнымі выразамі, прыказкамі, прымаўкамі, адным словам, у той духоўнай скарбніцы, якую стварaў народ на працягу вякоў і ў якой праявіўся яго характар. З гэтымі, добра аргументаванымі вывадамі нельга не пагадзіцца.

Апошні, чацвёрты раздзел кнігі прысвечан сучаснай байцы. Адзначаючы пэўныя поспехі, дасягненні вядомых байкапісцаў Ул. Корбана, Э. Валасевіча і інш., іх імкненне вострай зброяй сатыры служыць патрэбам часу, справе камуністычнага будаўніцтва, Янка Казека лічыць, аднак, агульны ўзровень сучаснай беларускай байкі не вельмі высокім. Ён паказвае драбнатэм'е вонкавую ілюстратыўнасць шматлікіх твораў гэтага жан-

ру, ігнараванне іх аўтарамі асноўных законаў, па якіх развіваецца байка.

Нельга і тут не паверыць крытыку, бо ў яго руках самая надзейная зброя — неабвержныя, з добрым мастацкім густам ацэненыя факты. Сапраўды, як можна лічыць байкай пасрэдны, напісаны шэрай, невыразнай мовай твор, дзе алегорыя разбураецца адразу, бо баечным героям — даўно знаёмым нам жывёлам — прыпісваюцца рысы і якасці, ім неўласцівыя. Пра якую байку можа ісці гаворка, калі ў ёй, скажам, асёл выступае як хітрая жывёліна, а ліса як прасталінейная нахабніца?..

Загану многіх сучасных баек крытык справядліва бачыць яшчэ і ў тым, што ім «не стае шырыні погляду на жыццё, асэнсавання грамадскай сутнасці тых з'яў, якія становяцца аб'ектам мастацкага адлюстравання». Байка павінна вырвацца на шырокі прастор жыцця, натхняцца вялікімі грамадскімі ідэаламі свайго часу, вастраючы сваё сатырычнае джала і выракаючыся ўсялякай ілюстрацыйнасці — такі, паводле перакананя крытыка, далейшы шлях развіцця гэтага любімага народам і неабходнага ў літаратуры жанру.

*1961*

# ШЛЯХ ПІСЬМЕННІКА-КАМУНІСТА

У гісторыі нашай літаратуры многа мужных, гераічных старонак, слаўных не толькі сваім паэтычным зместам, але і асабістым подзвігам іх стваральнікаў. Рэвалюцыйная літаратура былой Заходняй Беларусі, шматпакутнай зямлі, што амаль дваццаць гадоў стагнала пад ярмом белапанскага прымусу,— адна з такіх яркіх і незабыўных старонак.

Сёння, калі адышлі ў гістарычную прошласць падзеі, звязаныя з барацьбой працоўных мас былой Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з Савецкай Беларуссю, яшчэ ярчэй палымнее подзвіг рэвалюцыйнай літаратуры і яе аўтараў.

Гераічная заходнебеларуская ява выклікала да жыцця паэзію, асноўным матывам якой быў матыў

подзвігу, этапных дарог, самаахвярнага служэння народу. Усімі сваімі карэннямі і вытокамі гэтая паэзія была звязана з жыццём народа, яе творцамі кіравала жаданне быць у авангардзе барацьбы, да пераможнага канца стаяць за справу рэвалюцыі. Велічнасць мэт заўсёды нараджае магутную энергію. Як нельга лепш, прыклад заходнебеларускай літаратуры паказвае непарыўнасць, арганічную з'яднанасць справы рэвалюцыйнай барацьбы і асабістага лёсу, душэўных імкненняў паэтаў і пісьменнікаў, для якіх служэнне народу з'яўляецца альфай і амегай творчасці. Чым іншым, як не палымянай адданасцю справе рэвалюцыйнай барацьбы, вытлумачыць той факт, што з-пад пяра паэтаў, якія правялі свае лепшыя, маладыя гады ў турмах і засценках панскай Польшчы, выліваліся радкі, поўныя бадзёрасці і аптымізму, што гэтымі людзьмі створана баявая, наступальная, жыццярадасная паэзія.

Адным з вядучых паэтаў Заходняй Беларусі быў Піліп Пестрак. Яго біяграфія, жыццёвы шлях, можна сказаць, тыповая для рэвалюцыянера-прафесіянала, дзеяча камуністычнага падполля, якім быў паэт. Гаротнае дзяцінства ў вёсцы Сакоўцы, у старэнькай, струхлелай, надзвычай малой хатцы, якая ўмяшчала адзінаццаць душ сям'і.

Потым імперыялістычная вайна і ў хуткім часе доўгія абозы бежанцаў з самаробнымі будамі на вазах. Лёсам вайны сям'я будучага пісьменніка закінута аж у вёску Максімаўка, што недалёка ад Бузулука былой Самарскай губерні.

Мабыць, мела сваё значэнне ў рэвалюцыйнай і паэтычнай біяграфіі пісьменніка тая акалічнасць, што ранняе яго юнацтва было авеяна рэвалюцыйнымі вятрамі, якія разгуляліся на прасторах неабсяжнай Расіі. Не прайшлі бяследна гады навучання на рабфаку і ва універсітэце ў Самары (цяпер Куйбышаў).

Зімой 1921 года — вяртанне на радзіму. Падобны лёс спасцігнуў не толькі Піліпа Пестрака, а і маладзейшых за яго Максіма Танка і Янку Брыля.

Няветла сустрэла радзіма. За два першыя тыдні жыцця паміраюць бацька, брат, сястра. Трэба думаць аб заробку, аб тым, каб як-небудзь падтрымаць знясіленую, згаладалую сям'ю. Надышла цяжкая паласа блукання ў пошуках кавалка хлеба, служба ў ненавісных паноў.

Увосень 1926 года Піліп Пестрак уступае ў Камуністычную партыю Заходняй Беларусі, якая знаходзілася ў падполлі. Пачынаецца дзейнасць камуніста-падпольшчыка, і гэтая работа рэвалюцыянера неадрыўна ад творчасці Пестрака-паэта. Мужная, гнеўная паэзія нараджалася ў турмах і казематах, яна вырывалася на волю ў выглядзе канспіратыўных запісак ці перадавалася з вуснаў у вусны, дзякуючы тым вязням, якім шанціла на кароткі час выйсці з астрожных муроў.

З часу дэманстрацыі ў мястэчку Косава, якая адбылася 3 лютага 1927 года і ў якой чынны ўдзел прыняў Піліп Пестрак, і аж да вераснёўскіх дзён 1939 года «рабочым кабінетам» паэта была пераважна турма. Толькі кароткія перапынкі ў гэтым шматгадовым зняволенні (другая палавіна 1927 года, увесь 1928 год, невялікі прамежак часу ад верасня 1933 да сакавіка 1934 года) дазвалялі аддавацца справам партыйнага падполля.

Выклікае вялікае здзіўленне і захапленне мужная песня чалавечага сэрца, поўная любві да людзей працы, нянавісці да прыгнятальнікаў, якая нараджалася ў такіх жахлівых умовах. Не было алоўка, паперы, і радкі запісваліся ў памяці. У гэтай песні былі магутныя крылы — цвёрдая вера ў тое, што паэтычнае слова гэтак жа неабходна людзям, як і зброя, як і адвага і вытрымка ў змаганні:

Дай, паэзія, меч прамяністы,
Слова — гарт, слова — кліч,
слова — бой!..

Трыбунная, аратарская, партыйная паэзія Піліпа Пестрака несла не толькі заклік да змагання. Лірычны герой гэтай баявой, мужнай паэзіі — закаханы ў зямную красу і ва ўсе радасці жыцця чалавек. Яго душа наросхрыст раскрыта чарам прыроды, такому багатаму на фарбы і гукі навакольнаму свету.

Дарожка з вербаў выбегла,
Памчала за сяло.
Як быццам з дому выгнану
Бяздолле павяло.
Ляцела, прыпынілася,
Цыгнула за масток,
Мураўкай пакацілася,
Нырнула ў лясок.

Пазней, ужо ў савецкі перыяд творчасці, асабісты

вопыт удзелу ў рэвалюцыйнай барацьбе і шматлікія назіранні над жыццём былой Заходняй Беларусі Піліп Пестрак увасобіць у шырокім эпічным палатне — рамане-эпапеі «Сустрэнемся на барыкадах». Гэта прыкметны ў нашай літаратуры твор, дзе паўнакроўна, ва ўсёй складанасці жыццёвых супярэчнасцей паўстае перад чытачом велічная карціна загартоўкі характараў тых, хто стаяў на чале рэвалюцыйнага народа, хто вёў яго да светлага, савецкага дня. Раман «Сустрэнемся на барыкадах» дае шырокую праўдзівую панараму жыцця і барацьбы працоўных мас былых «крэсаў усходніх» і па праву займае пачэснае месца ў беларускай прозе.

Піліп Пестрак — пісьменнік шырокага дыяпазону, шматгранных інтарэсаў. Яго пяру належаць зборнікі апавяданняў «Першыя ўсходы», «Неспадзяванак» і «Лясная песня», зборнікі вершаў «На варце», «За сваю Айчыну», «Падарожнае», аповесць «Пачатак». І ў прозе і ў паэзіі П. Пестрак выступае тонкім назіральным мастаком, са сваім адмысловым бачаннем свету і мастацкім почыркам.

Не прытупілася пяро таленавітага, палымянага, зацікаўленага жыццём мастака. Сведчаннем гэтаму і раман «Серадзібор» — аб людзях пасляваеннай вёскі, аб іх няспынных пошуках у працы і жыцці. Колькі добрай, светлай рамантыкі, паэзіі і любові да людзей у гэтым творы, напісаным рукою сталага, вопытнага майстра, якому ніколі не здраджвала пачуццё маладосці, неабдымнасці жыцця і яго няспыннай плыні наперад...

*1963*

# ЧАЛАВЕК НА ВАЙНЕ

Невялікая аповесць Васіля Быкава «Трэцяя ракета» стала падзеяй у савецкай літаратуры. Усесаюзны чытач прыняў яе, як кажуць, безагаворачна, і гэта вельмі прыемна. Я люблю творчасць Васіля Быкава, чытаў усё, ім напісанае, і ў гэтых кароткіх нататках мне хочацца падзяліцца некаторымі думкамі аб «сакрэтах» поспеху таварыша па пяру. Калі гаварыць шчыра, то з усяго напісанага мне асабіста найбольш падабаецца аповесць Быкава «Жураўліны крык». Здаецца, няма

ў нас лепшай аповесці пра суровы і трагічны сорак першы год, самы цяжкі з ваенных гадоў, калі найбольш востра стаяла пытанне не толькі аб мільёнах чалавечых жыццяў, але і аб лёсе Радзімы, яе гісторыі і будучыні. Зрэшты, Быкаў вельмі ашчадны да таго жыццёвага матэрыялу, які дасканала ведае, і «Трэцюю ракету» можна лічыць своеасаблівым працягам «Жураўлінага крыку». І там і тут па-рознаму паміраюць людзі. Адны з унутраным пераканаеннем, што іначай нельга, бо абараняюць яны самае дарагое і святое, другія, тыя, каго да вайны мы па-сапраўднаму не ведалі, у гадзіну суровага выпрабавання дбаюць пра свой «шкурны» інтарэс. У «Жураўліным крыку» большы, суровейшы трагедыйны напал, бо гаворка, паўтараю, ідзе пра лёс бацькаўшчыны. Тыя, што гэтак мужна і самаахвярна гінуць за родную зямлю, яшчэ не бачаць нават пробліску перамогі над ворагам. У сорак першым годзе наўрад ці мог салдат гэтак няўрымсліва думаць пра дзяўчыну, як думаюць героі «Трэцяй ракеты».

Васіль Быкаў, сам у мінулым салдат, франтавік, вельмі тонка і дакладна адчувае тыя грані, якія праз душу ўдзельніка вайны эмацыянальна характарызуюць розныя этапы і перыяды ваеннага часу. Героі «Трэцяй ракеты», пяцёра салдат на чале са старшым сяржантам, у значнай ступені знаёмыя нам людзі. Пісьменнік як бы перанёс іх у новую аповесць з папярэдніх твораў. Іх чалавечыя, псіхалагічныя характарыстыкі ўзмацніліся, паглыбіліся, але прынцыпова новага тут няма. І ўсё ж «Трэцяя ракета» пакідае ўражанне твора, які не падобен на ўсё папярэдняе, напісанае празаікам. Паспрабуем разабрацца, у чым тут справа.

Пісаць пра вайну азначае, на маю думку, маляваць не толькі чалавечыя характары, якія вельмі выразна праяўляюцца ў абставінах смяротэльнага бою, але — і гэта, мабыць, галоўнае — ствараць непаўторны вобраз часу. Вайна, а тым болей Айчынная вайна,— падзея, у якую быў уключаны ўвесь народ: яна падпарадкавала сабе ўсе адчуванні савецкіх людзей, усе іх думы і мары. Успомнім, што нават песні былі розныя ў розныя часы вайны.

Васіль Быкаў у «Трэцяй ракеце» малюе сорак чацвёрты год, крывапралітныя баі ў Румыніі. На гарызонце ярка зазззяла сонца перамогі. Героі «Трэцяй ракеты» ведаюць, што хоць яшчэ многа крыві і пакут на-

перадзе, але іх краіна выстаяла ў жорсткай схватцы, яна жыве і будзе жыць. Таму кроўнай для іх справай становіцца пытанне аб уладкаванні таго жаданага, мірнага жыцця, якое наступіць пасля вайны. Пра гэтае мірнае жыццё кожны па-свойму, са сваёй адметнай меркай будучага шчасця думаюць усе шасцёра з гарматнага разліку «саракапяткі». Для камандзіра разліку, старшага сяржанта Жаўтых, кубанскага хлебароба, вайна — цяжкая, няўдзячная, але неабходная работа: «Толькі тае і радасці, як падумаеш, што гэтая вайна — ужо апошняя. Даваюем, і баста. Ужо другой такой не будзе. Не павінна быць. Сам я гатовы на ўсё. Але каб апошні раз. Каб дзецям не давялося».

Японская вайна забрала дзеда Жаўтых, імперыялістычная — бацьку, пад Халхін-Голам пакалечыла брата.

«Я б усе медалі аддаў,— гаворыць сяржант,— толькі б дзяцей зберагчы. Вунь — не скончыцца вайна да Новага года — старшы мой, Дзімітры, пойдзе. Дапрызыўнік. Васемнаццаць год хлопцу. Возьмуць, трапіць у пяхоту, і што думаеш? Маладое, дурное — у першым-другім баі і пакладзе галаву. Не жыўшы, не ведаўшы...»

З семярых найбольш ярка выпісаных герояў аповесці загінула шэсць, і амаль усе, што загінулі, былі людзьмі маладога веку, ішлі насустрач свайму жыццю. Памерці ў канцы вайны, маючы планы на тыя шчаслівыя, бязвоблачныя дні, што мусяць наступіць услед за атакамі і артылерыйскімі падрыхтоўкамі, мабыць, яшчэ цяжэй і пакутлівей, чым скласці галаву ў пачатку вайны. Пісьменнік гэта адчуў, здолеў данесці боль свайго сэрца і свой грамадзянскі смутак да чытача.

Бадай, найбольшай удачай і мастацкім адкрыццём Васіля Быкава ў «Трэцяй ракеце» з'яўляецца вобраз Люсі, сціплага санінструктара, чалавека вялікага сэрца. Колькі такіх санінструктараў праз гады, плячо ў плячо з мужчынамі, цягнулі цяжкі воз вайны. Апошняя вайна, між іншым, ад усіх папярэдніх тым і адрознівалася, што ў ёй нароўні з мужчынамі ваявалі і жанчыны. Як жа трэба намаляваць доблесць мужчыны, і што галоўнае, нарэшце, у гэтай доблесці, калі самае прыгожае, што ёсць у жыцці — жанчына-краса, аздоба, кветка гэтага жыцця,— пераносіць тыя самыя пакуты ў акопе, на полі бою, што і яе заступнік і аба-

ронца. Гэта, дарэчы, зусім новы ў эстэтычных адносінах матэрыял, і пісьменнік вельмі дасканала адчувае яго навізну.

Героі Быкава — Жаўтых, Папоў, Лазняк, Крывёнак, Лук'янаў, Лёшка Задарожны, Люся — праходзяць перад чытачом на працягу адных толькі сутак; нічога асаблівага, апрача выканання свайго салдацкага абавязку, яны не робяць, але тым не менш характары кожнага з іх раскрываюцца ў аповесці гранічна поўна і лагічна. Кожны з герояў — непаўторная чалавечая індывідуальнасць, жыццёвыя шляхі большасці з іх як бы ілюструюць тое добрае, што было ў нашым перадваенным жыцці, і, нарэшце, біяграфіі некаторых — той друз і непатрэбшчыну, якіх мы не хацелі ці не ўмелі заўважаць у людзях.

Аповесць не мела б такога гучання, калі б пісьменнік не ўвёў і не раскрыў гэтак па-чалавечы цёпла і прывабна вобраз Люсі. Люся — гэта як бы прамень і вястун таго жыцця, якое наступіць пасля хуткай перамогі. Вось яна, маленькая, па-жаночы зграбная нават у кірзавых ботах і вайсковай гімнасцёрцы, прыходзіць на пазіцыю «саракапятчыкаў», і, як заўсёды бывае ў прысутнасці дзяўчыны, загрубелыя, абпаленыя вятрамі вайны салдаты мяняюцца на вачах. Трое маладзейшых — Лазняк, Крывёнак і Лёшка Задарожны — наогул закаханы ў Люсю, і яе з'яўленне яшчэ ярчэй, выразней абвастрае хлапечыя пачуцці і трывогі. Лёшка Задарожны — фразёр, у мінулым футбаліст — выхваляецца ўяўнай смеласцю, увішна абходжвае дзяўчыну, выклікаючы косыя позіркі сваіх «супернікаў». Ён, вядома, з усіх траіх найменш любіць Люсю, намеры яго брыдкія, агідныя. Двое ж астатніх — Лазняк і Крывёнак — любяць дзяўчыну «па-рыцарску», яны гатовы дзеля яе на найвялікшы подзвіг, адзін позірк Люсі для іх — узнагарода за пакутлівае, небяспечнае акопнае быццё.

Лёс не асабліва пеставаў Крывёнка, рос ён у дзіцячых дамах і прытулках, не ведаў мацярынскай ласкі, у дадатак вайна знявечыла яго твар. Юнак азвярэў, лютае азлабленне на «ўсіх і ўсё» перапаўняе яго істоту. Але і ў душы гэтага чалавека жыве нешта святое, прыгожае, што здольна абудзіць адным сваім з'яўленнем Люся. Знявечаны вайной, Крывёнак непамерна вышэй па сваіх духоўных якасцях за Лёшку Задарож-

нага, прыстасаванца і шкурніка, які не зважае на ўсе высокія ўяўленні і ідэалы. Пісьменнік вельмі добра адчувае і ненавідзіць усёй душой пароду людзей, да якіх належыць Задарожны. З такіх вырастаюць чыноўнікі, бюракраты, падхалімы — тое агіднае, пачварнае племя, якое ўносіць бруд, карыслівы разлік у кожную справу — вайна гэта ці мірныя будні. Недзе тут, у духоўным паядынку паміж Лазняком і Задарожным,— «унутраная тэма аповесці». Праекцыя твора, яго святло, перспектыва — мірнае жыццё, якое будзе заваявана вялікай крывёй і бясконцымі чалавечымі ахвярамі. У гэтым жыцці не павінна быць маны і фальшу, здрады і здзеку над чалавекам, бо за гэта заплачана ўжо вялікая цана. «На колькі ж франтоў суджана змагацца мне,— думае герой аповесці Лазняк,— і з ворагамі ў акружэнні, са сволаччу побач, нарэшце, з самім сабой. Колькі ж гэта перамог трэба здабыць гэтымі вось рукамі, каб яны скläліся ў тую, што напішуць з вялікай літары?»

Аповесць пабудавана на своеасаблівым перапляценні рамантычных, «высокіх» і бытавых, крыху нават «заземленых», інтанацый, якія характарызуюць розныя ўяўленні і адносіны да жыцця герояў аповесці. З высокімі, бескампраміснымі меркамі ставіцца да жыцця Лазняк. У душы юнака ўвесь час ідзе вялікая ўнутраная работа; гэта натура, якая, бадай, толькі складваецца, яна супярэчлівая, па сваёй сутнасці. З аднаго боку, Лазняк — чалавек подзвігу, воінскі абавязак і бездакорнае яго выкананне ў вачах юнака — найвышэйшая адзнака вартасці людзей. Але ў той жа час Лазняк ненавідзіць вайну, бо яна забрала ў яго маладосць, запляміла ў гразь самыя высокія парыванні.

«...Няхай яна будзе тройчы і сотні разоў праклята, гэта вайна. Яна кожнага дня вісела над намі ўсе нядоўгія гады нашага жыцця, яна спела, накаплівалася з самай калыскі, якую, прыйшоўшы з папярэдняй вайны, ладзілі нам нашы бацькі. Пад яе чорным крыллем гушкаліся, раслі і вучыліся мы — салдацкія сыны і самі будучыя салдаты...»

Калі для Лазняка падобныя думкі з'яўляюцца своеасаблівай «рэфлексіяй», што ідзе побач з загартоўкай яго як смелага воіна за справядлівую справу, то Люся адмаўляе вайну ўсёй сваёй сутнасцю, нават тыя высо-

кія рамантычныя ацэнкі, якія Лазняк схільны даваць учынкам сваіх таварышаў у адпаведнасці з тым, як выконваюць яны свой воінскі абавязак.

«Эх, Лазняк, Лазняк! — разважна ўздыхае Люся.— Мне часам здаецца, што я намнога старэйшая за ўсіх вас. Здаецца, я адчуваю, разумею тое, чаго вы не разумееце. Вы такія слаўныя, храбрыя, толькі вы не разумееце сябе, вы трымаеце сябе так, нібы ўвесь век да вас і пасля вас была і будзе адна толькі вайна. Без вайны вы сябе не ўяўляеце. Ці не так? І ўсё вы мераеце салдацкай меркай. Іншай у вас няма. Праўда ж?»

Люся сапраўды менш за ўсё думае пра ўзнагароды, медалі, нават не вельмі дакарае таго ці іншага з салдат, хто спалохаўся, збаяўся на полі бою. У ёй жыве прыроджаная спагада да чалавечага гора, болю, і нібы інстынктыўна яна адчувае сябе маці, пачынальніцай жыцця, а не смерці. І хіба не паліць агнём горычы, жалю фінал аповесці, дзе ўцалелы Лазняк бярэ на рукі і выносіць з акопа маленькае цела мёртвай Люсі, якая спяшалася на пазіцыю артылерыстаў, прыбегла, каб аблегчыць пакуты хлопцаў? Харошы, па-чалавечы абаяльны вобраз дзяўчыны намаляваў у сваёй аповесці Васіль Быкаў.

Па характару свайго таленту Васіль Быкаў — выразны аналітык, падчас манера яго апавядання нават крыху сухаватая; рэдка асвеціцца яго радок усмешкай, вострым, крылатым словам, якое, дарэчы, было вельмі ў пашане і на вайне. Іншы раз нават здаецца, што пісьменнік наўмысна нагнятае дэталі, каб больш уразіць чытача. І ўсё ж варта сказаць, што Быкаў піша пра франтавыя будні вельмі праўдзіва. Здзіўляе ў яго аповесцях і апавяданнях добрае веданне вайсковага побыту. Абстрэлы, артналёты, атакі — увесь побыт вайны, той, які адначасна з'яўляецца і яе гераікай, дасканала вядомы пісьменніку, як і праўда пачуцця, тая нябачная работа нерваў, свядомасці, тыя змены настрою, што вядомы толькі салдату, і не нагул салдату, а толькі таму, які сам ляжаў у акопе, страляў, адбіваў атакі, змірыўшыся ў хвіліны адчаю з думкай аб смерці.

Ёсць у аповесці і свае пралікі, з якіх я назаву толькі два. Як гэта ні здасца дзіўным, але ў Быкава назіраецца некаторая схільнасць да кніжнасці, да паўтарэння таго, што ўжо сказалі другія пісьменнікі. Сама

па сабе не новая сітуацыя з Люсяй, з закаханымі ў яе хлопцамі, але тут сваё, убачанае ўласнымі вачамі празаіка перавышае запазычанае. Горш, скажам, ■ вобразам якута Папова, які з'яўляецца, бадай, цалкам літаратурнай рэмінісцэнцыяй. Людзей дакладна ■ такімі ж паводзінамі, псіхалогіяй сустракалі мы ў Э. Казакевіча («Двое ў стэпе»), у Г. Бакланава і ў іншых пісьменнікаў.

Не заўсёды ўважліва ставіцца Васіль Быкаў да мовы свайго твора, і гэта ўжо недаравальна. Я пералічу моўныя хібы толькі адной старонкі — яны датычаць як лексікі, так і фразеалогіі: «Я курчуся ў куце»; «затуляю Люсю»; «шастае зямля»; «з ровам шыбуюць на нас бомбы»; «толькі нестрываны сум агартае мяне ад думкі, што не ўдасца ўберагчы Люсю»; «першая бомба выбівае з-пад мяне зямлю»; «земляныя глыбы»; «між калень»; «роў бліжае»; «міма» і г. д.

Думаецца, што Лазняк намаляваны залішне рэфлектыўным, яго паводзіны не пасуюць да тых напружаных абставін, якія малюе нам аўтар, але гэта — пэўная ўмоўнасць мастацкага твора, як умоўная і гармата-«саракапятка», што ўвесь дзень настойліва агрызаецца і ніхто з ёю не можа зладзіць. Галоўнае, што ёсць у аповесці «Трэцяя ракета» і што робіць яе творам, прыкметным ва ўсёй савецкай прозе,— гэта праўда аб чалавеку на вайне, праўда аб тым, як ён адчуваў, думаў, жыў, змагаўся за сваю Радзіму.

*1963*

## БЫТАВОЕ, ЯК МАСТАЦКАЕ

Шлях пісьменніка... Вядома, ён у першую чаргу ў творах, у кнігах, як вынік і адбітак пройдзеных жыццёвых дарог і тых дум і пачуццяў, што спадарожнічалі вандроўніку. Доўгі час Аляксей Кулакоўскі ўяўляўся мне пісьменнікам-бытавіком: пільная ўвага да «дробязей» жыцця, да тых шматлікіх дэталей і падрабязнасцей, без якіх немагчыма тканіна добрай, ёмістай прозы. І сюжэты нескладаныя — выпадкі з жыцця, расказаныя цёпла, са шчырай усмешкай, сакавітай, але без асаблівай экспрэсіі мовай.

І вось трапілася на вочы апавяданне «Гарэў агенёк», якое адразу перавярнула ўсе ранейшыя ўяўленні пра пісьменніка. У ім таксама нескладаная гісторыя: вучні памагаюць калгасу выбіраць бульбу, разам з імі настаўніца, якая, мяркуючы па тым, як адносяцца да яе дзеці, на ўдзячную глебу сее ў іх душах «разумнае, добрае, вечнае». Усё ідзе як мае быць: вучні выберуць бульбу, тады прысядуць каля цяпельца, якое ўжо гарыць, і пакаштуюць гэтай самай бульбы, толькі печанай, незвычайна смачнай на пахмурным асеннім полі. І гэтая вячэра каля агню будзе найвышэйшай узнагародай за ўвесь дзень, напоўнены шчырай працай, і нават нечым значна большым, можа, нават пэўнай вехай на шляху яднання гарачых, даверлівых сэрцаў. Але вось прысунуўся на поле дзядзька Палікар, той самы, які, калі сядзіць каля агню, нагадвае здалёк мяшок з бульбай. Рабіць Палікар не вельмі ахвочы, і яму даручана пячы бульбу. Дзядзька бульбы напёк, але сам усю і паеў, пакінуўшы пасля сябе лушпайкі, крошкі белай, як мука-крупчатка, бульбы, выедзеныя з сярэдзіны палавінкі.

Колькі харошай, някідкай на знешні погляд паэзіі ў гэтым кароценькім апавяданні і колькі злой, калючай іроніі ў адрас розных захрыбетнікаў, марнатраўцаў, сквалыг, людзей з чорнымі душамі. Хіба толькі бульбу з'еў Палікар? Ён сваім учынкам украў у дзяцей нешта надзвычай дарагое, радаснае, растаптаў іх свята.

Менавіта гэтае кароценькае апавяданне прымусіла па-новаму зірнуць на ўсё, напісанае Аляксеем Кулакоўскім. Можа, я памыляюся, але галоўным у таленце гэтага надзвычай цікавага, самабытнага пісьменніка мне якраз здаецца ўменне ў будзённым, звычайным убачыць вялікае і значнае, выявіць паэзію ва утылітарных фактах жыцця.

Аляксей Кулакоўскі не з тых пісьменнікаў, якія залішне цесна прывязваюць асабістую жыццёвую біяграфію да сваіх твораў. Але прывязанасць гэтая ўсё-такі ёсць, ад яе, відаць, каб і хацеў, не ўцячэш.

Прачытаўшы аповесці «Гартаванне», «Нявестка», «Да ўсходу сонца», раманы «Расстаёмся ненадоўга», «Сустрэчы на ростанях», такія апавяданні, як «Незабыўнае рэха», «Дванаццаты жорсткі», я зразумеў, што было ў Аляксея Кулакоўскага поўнае рамантыкі, не-

спакойнае камсамольскае юнацтва, цяжкія франтавыя дарогі, што яго асабістая біяграфія вельмі цесна змыкаецца з лёсам шматлікіх літаратурных герояў.

Аляксей Кулакоўскі — пісьменнік актыўнай грамадскай тэмы. Пішучы пераважна пра вёску, пра будні калгаснага жыцця, ён публіцыстычна востры, непрымірымы да фактаў руціны, бюракратызму, зазнайства, да ўсяго таго, што замінае імкліваму поступу наперад арцельнай гаспадаркі. Праўда, не заўсёды пяру пісьменніка спадарожнічае поспех, здараюцца і творчыя пралікі. Так было, напрыклад, з аповесцю «Дабрасельцы», дзе пісьменнік не здолеў ідэйна ўзняцца над прыватным фактам, паставіў акцэнты толькі на цёмным, змрочным. А ўвогуле талент А. Кулакоўскага — светлы, аптымістычны, вельмі чалавечны. Сярод беларускіх празаікаў Кулакоўскі вызначаецца мяккімі, акварэльнымі фарбамі, добрай лірычнай цеплынёй, дакладнасцю псіхалагічнага малюнка.

Пісьменнік у росквіце сваіх сіл, і сёння ён у няспынных пошуках. Даўно была напісана аповесць «Гартаванне» — адзін з нешматлікіх у нашай літаратуры твораў аб станаўленні характару юнака ў рабочым асяроддзі, аб буднях рабочага калектыву трактарнага завода. Цяпер пісьменнік настойліва вывучае будні Салігорскага камбіната, які за апошнія гады вырас непадалёку ад яго роднай вёскі. У друку з'явілася ўжо нямала цікавых эцюдаў аб людзях Салігорска. Будзем спадзявацца, што гэтыя эцюды выльюцца ў новы цікавы мастацкі твор.

Шмат пройдзена жыццёвых дарог і напісана кніг. Творы Аляксея Кулакоўскага вядомы ўсесаюзнаму чытачу, некаторыя з іх выдадзены ў краінах народнай дэмакратыі.

*1963*

## З АДЧУВАННЕМ ПРЫГОЖАГА

Блакітны колер, у які афарбаваны асмужаная даль і летняе неба, быў заўсёды атрыбутам рамантычна-задуменнай паэзіі. Даль, ахутаная хісткай, няпэўнай павалокай смугі, вабіла, малявала ўяўленню казачныя

замкі на тым месцы, дзе стаялі, абняўшыся, звычайныя беластволыя бярозы. Пра неба гаварыць не прыходзіцца. Паэты луналі ў надземным блакіце задоўга да таго, як братамі Райт быў вынайдзен першы лятальны апарат.

У першым зборніку маладога празаіка Міхася Стральцова «Блакітны вецер», бадай, няма рамантычных па духу, сагрэтых юнацкай марай апавяданняў. Ёсць добрая, ёмістая, амаль што «бытавая» проза з адшліфаваным, музыкальным, як у вершы, сказам, напоўненым пераважна інтанацыяй задуменнасці. Пошукі пісьменніка досыць выразныя: шукае ён добрых, шчырых людзей, асуджае сквапнасць, хцівасць, чэрстваcць душы. Але сказаным, мабыць, далёка не вымераеш зместу зборніка, які ўяўляецца мне цікавым эксперыментам у нашай сённяшняй прозе.

Апавяданні Міхася Стральцова няроўныя не толькі па сваёй мастацкай вартасці, яны не падобныя нават і самім напрамкам пошукаў пісьменніка. Ёсць апавяданні выразна бытавога характару, такія, як «Мацеевы дровы», «Двое ў лесе», «Суседзі», дзе ўсё ляжыць на паверхні, канфлікт просталінейны і гэтак жа просталінейна акрэслены межы «дабра» і «зла». У «Мацеевых дровах» сумленны, працавіты, скупы на словы калгаснік Мацей ловіць у лесе, ля штабеля нарыхтаваных на зіму дроў, абібока і «ўрвіцеля» Хмыля. Выпадак звёў у лесе, на распілоўцы дроў, добрага, чулага вясковага хлопца Васіля з хапугай і лайдаком Клыбікам («Двое ў лесе»). У апавяданні «Суседзі» Волька, жонка рабочага Казіка, чалавека, духоўна на галаву за яе вышэйшага, прагне асобнай кватэры; дарваўшыся да яе, знаёміцца з «далікатнымі» суседзямі, зайздросціць іх мяшчанскаму побыту. І толькі выпадак адкрывае ёй вочы на тое, які хам і нягоднік паважаны яе сусед Вячаслаў Пятровіч...

Што можна сказаць пра гэтыя апавяданні? Благімі іх не назавеш, вызначаюцца яны больш-менш дакладным псіхалагічным малюнкам, ёмістасцю бытавой, прадметнай фактуры, добрай мовай. Але ўражання навізны, адкрыцця — няма. Звяртаюць на сябе ўвагу хіба толькі дасканала, тонка накіданыя пейзажныя мазкі: «...Тут, на самым краі светлай баравіны, было суха, цёпла ад зямлі, нагрэтай сонцам, густа ўсыпанай шорсткім шыголлем і кволымі лусачкамі маладой сасновай ка-

ры. Седзячы, можна было доўга глядзець на неба, што свяцілася за калматымі хвоямі, любавацца ласкавым золатам высокіх ствалоў» («Двое ў лесе»). Або яшчэ: «Раніцай Казік ішоў на завод і бачыў: вастраваты вецер трымаў на падворках сумных пасля золкай ночы вераб'ёў, жаўтлявымі плямамі ўзялася на застарэлай наледзі вуліц учарашняя вада. У тонкіх выслойках воблачкаў палавела над горадам неба. Паволі, нібы крыга на быстрыню, выходзіла з-пад пасмаў дыму сонца, і ружовы марозік адпаўзаў да зацененых падмуркаў і сцен» («Суседзі»).

Спрачацца не прыходзіцца — малюнкі вельмі добрыя. Але ў той жа час не пакідае пачуццё нездаволенасці. На чым яно грунтуецца? Зрэшты, прыходзіш да думкі, што гэтыя настраёвыя малюнкі існуюць у апавяданнях самі па сабе, бадай, незалежна ад герояў. Героі па сваёй душэўнай арганізацыі «не дараслі» яшчэ да таго, каб так глядзець на свет. Проза патрабуе адзінства духоўнага жыцця героя і яго бачання свету, значнасці канфліктаў, а ў названых апавяданнях гэтага яшчэ няма. Карацей кажучы, Міхась Стральцоў тут яшчэ не здолеў падняць быт да ўзроўню паэзіі, таму яго настраёвыя малюнкі нібы павіслі ў паветры. Але ўжо гэтыя апавяданні як бы прыўзнімаюць заслону над творчымі пошукамі маладога празаіка. І вельмі добра тое, што ў адным і тым жа зборніку пошукі паўстаюць у пэўным сінтэзе, завяршэнні. Я маю на ўвазе астатнія творы невялікай па аб'ёму кніжкі — «Дома», «Восеньскі ўспамін», «Блакітны вецер» і «Перад дарогай». Лепшыя ў зборніку — два апошнія апавяданні.

«Блакітны вецер» — надзвычай тонкі, сатканы з музыкі, настраёвасці і адчувальнай рэчавай фактуры паэтычны эцюд. Эцюд гэты, як і ўсялякі добры твор, нельга перадаць сваімі словамі, бо сэнс яго трымаецца на настроі, на тых ледзь прыкметных нюансах, якія змяняюцца, наплываюць адзін на адзін кожнае імгненне. Але ўсё ж зраблю спробу хоць схематычна, у агульных абрысах перадаць сутнасць гэтай паэтычна-псіхалагічнай замалёўкі.

Выкладчык інстытута Лагацкі прачнуўся сярод ночы, ахоплены дзіўным настрсем. «Тое няўлоўнае і хісткае, што яшчэ лунала над ім, было, напэўна, успамінам аб сне. Сон адыходзіў у святле, у пахах, у струменнасці ветру. Нібыта стала над нейкім возерам у дух-



9 Зак. 4033

мянай парнасці сонца. Пахлі сосны, узнімаўся над вадою блакітны вецер, і такі звонкі і чысты чуўся на беразе смех. Як хораша, як лёгка! Вось нібыта Лагацкі бяжыць да вады — як прыемна жвір халодзіць босыя ногі, як засцілае вочы блакітны вецер!»

Герой — яго можна нават назваць лірычным — чуе, як, смеючыся, праходзяць паўз акно яго кватэры работніцы з фабрыкі, ловіць іншыя гукі ночы. Апранаецца, выходзіць на вуліцу, блукае па начным горадзе. У Лагацкага надзвычай востры зрок і слых, ён радуецца пахам, гукам, подыхам ветру, начным малюнкам і ценям, у той жа час адчуваючы балючую нездаволенасць самім сабой. Адкуль ідзе гэтая нездаволенасць? Па-першае, чалавек вельмі змарыўся лекцыямі і яшчэ больш усялякай нерабочай мітуснёй. Па-другое — і гэта самае галоўнае,— ён страціў першародную цэласнасць адчування паўнаты жыцця з усімі яго вялікімі і малымі радасцямі. «Лепш за ўсё было Лагацкаму, калі не турбавалі яго. І тады можна было сядзець, не слухаючы, засяродзіўшыся ў сабе,— і гэта было чаканнем дзіва. І яно прыходзіла і шчымліва кралася ў сэрца то нечым голасам, пачутым з калідора, то скразнячком, што біўся ў фортку, то шчодрым пахам вады, невядома кім распырсканай па падлозе. Гэта блукаў недзе і трывожыў Лагацкага блакітны вецер».

Няма сумнення, што малады пісьменнік імкнецца паказаць, як адбіваецца паток жыцця, падкрэсліваю, гарадскога жыцця, з яго тлумам, мітуснёй, какафоніяй дзённых гукаў, праз псіхіку, праз успрыманне чалавека, які цалкам гарадскім яшчэ не стаў. Лірычны матыў «блакітнага ветру» — гэта ўспамін аб днях вясковага маленства, калі свет паўставаў у дзівосным адзінстве фарбаў, ліній і гукаў, напаўняючы істоту радасцю, адчуваннем прыгажосці «жыцця як існавання»; гэта і мара аб светлым горадзе будучыні, у які яшчэ больш хлынуць сады, паркі, дрэвы, хлыне ўся цудоўная прырода і творчая цішыня. Век касмічных ракет, хоча сказаць пісьменнік, не азначае, што чалавек стане чэрствым, як стаў ім калега Лагацкага Парукаў, страціць здольнасць любавацца ўсходам і захадам сонца, спевам птушак, кропелькай расы на іголцы хвоі.

У «Блакітным ветры» Міхася Стральцова найменш

цікавяць індывідуальныя рысы героя, яму куды важней перадаць супярэчлівую дыялектыку яго пачуццяў. Зусім іншае ў апавяданні «Перад дарогай». Уласна кажучы, і тут нічога не адбываецца, калі гаварыць аб традыцыйным разуменні сюжэта. У вёску па грыбы прыехалі шафёр Сямён Захаравіч з жонкай і бухгалтар аўтабазы Саўчанка. Пайшоў дождж, і яны сядзяць у вясковай хаце, размаўляючы з гаспадыняй. На вельмі абмежаванай прасторы апавядання пісьменнік даў жыццё ўсім чатыром героям, здолеў сказаць штосьці вельмі істотнае аб іх характарах, звычках, схільнасцях і — самае галоўнае — аб тым, што ўсе яны страшэнна ненавідзяць вайну. Малады празаік і тут шчодра паказвае гукавое, фарбавае, рэчавае багацце навакольнага свету, але малюнкі прыроды знітаваны, з'яднаны тут з настроем дзеючых асоб, з іх арганічным уменнем бачыць навакольнае. «За акном нетаропка шапацеў дождж, і відно было ўсё ў садзе: змакрэлыя яблыні, апалыя жоўтыя яблыкі ў прытаптанай траве, бульбоўнік на баразнах і зусім блізка, ля акна, рабінка — вялікія зеленаватыя кроплі дажджу віслі на яе галінах, адрываліся, падалі долу. У суседняй хаце, за садам, відаць, таксама палілі ў печы: па мокрым даху слаўся дым».

Вельмі ўдалую, цікавую творчую заяўку зрабіў Міхась Стральцоў сваім першым зборнікам. Гэта ж вельмі добра, калі можна сказаць, што ў маладога пісьменніка свой почырк. А такі почырк у М. Стральцова сапраўды ёсць: пільная ўвага да гукавой, настраёвай арганізацыі сказа, здольнасць вельмі рэльефна, «рэчава» маляваць навакольны свет. Аб праліках ужо гаварылася. Можна дабавіць тое, што не заўсёды празаік адчувае эстэтычную, эмацыянальную сілу жыццёвага матэрыялу, перанагружваючы некаторыя апавяданні дробязямі і падрабязнасцямі побыту, ад чаго чытаць іх сумнавата. Будзем спадзявацца, што з гэтымі «грахамі», бясспрэчна, таленавіты малады пісьменнік у далейшым справіцца.

*1963*

# ДОБРЫ ПАЧАТАК

Прозвішча Віктара Карамазава не надта часта мільгала ў нашай літаратурнай перыёдыцы. Ён належыць да ліку празаікаў, што прабуюць свой голас у самыя апошнія гады, прабуюць як бы нясмела, павольна-асцярожна, асабліва не ўзрушваючы чытача ні вастрынёй тэм, ні незвычайнасцю іх мастацкага вырашэння.

Пра тое, аб чым піша В. Карамазаў, пісалі многія да яго, ён не рве, не парушае традыцый, а як бы нават не імкнецца выдзеліцца на фоне сучаснай маладой беларускай прозы.

І вось першы зборнік апавяданняў маладога празаіка. Сабраныя пад «адзін дах» апавяданні, эцюды, замалёўкі, трэба сказаць, стварылі кнігу даволі цэласную, прасякнутую, калі можна ўжыць такі выраз, адзінай душэўнай мелодыяй.

Па характару светабачання, светаадчування Віктар Карамазаў — лірык. Але лірык не непасрэдных, прама выказаных эмоцый і настрояў, а больш строгі, з цягай да аб'ектывованай манеры апавядання, да прадметна-рэчавай пластыкі слова, малюнка.

Кола ўзнятых у зборніку жыццёвых пытанняў таксама выяўляе ў Карамазаве лірыка. Яго найбольш вабіць раскрыццё добрых, светлых пачуццяў у душах простых, нічым асабліва не прыкметных людзей; паказ самой атмасферы чалавечнасці, любві, спагады, дабраты ці ва ўзаемадачыненнях паміж людзьмі, ці ў іх адносінах да прыроды, да ўсяго жывога.

Такім чынам, В. Карамазаў — пісьменнік тонкіх, «інтэлігентных» адчуванняў. Тое, што ён сказаў некаторымі сваімі эцюдамі і замалёўкамі, здаецца, можна было выказаць толькі вершам.

Зборнік адкрываецца апавяданнем «Нязгаснае». У ім тыповы для ўсёй нашай маладой прозы зварот пісьменніка да пары дзяцінства, да яе першых паэтычных уражанняў, якія застануцца найсвятлейшым спадарожнікам сэрца на ўсё жыццё: «Каторы раз, цяпер у адных толькі думках, з далёкай стараны вяртаюся ў родную бацькаву хату... І бачу бацьку. Пасярэдзіне хаты, шырока паставіўшы ногі, у даўно знаёмай мне паласатай камізэльцы і коратка абрэзаных валёнках, пад капою сонечнай, як сакавіцкі снег за вокнамі, сі-

візны, хударлявы, ён трымае на запалых грудзях трафейную скрыпку, а смычок паволі пілуе ды пілуе яе напалам...»

Пра што гэтае апавяданне? Пра тое, што ёсць на свеце такія рэчы, як дружба, чалавечая прыязнасць, прыхільнасць, і каб іх не было, жыццё стала б невыносна цяжкім, а можа, нават і немагчымым. У прыволжскім сяле Тургенева жыве эвакуіраваны з Магілёўшчыны настаўнік, які загадвае тут сямігодкай, сам ходзіць за плугам, каб што-небудзь вырасла на прышкольным участку. Час ад часу ў хату да настаўніка завітвае калгаснік, былы франтавік Герасім Іванавіч (гэта ён рабіў настаўніку хату). Людзі гэтыя шчыра сябруюць, абодва закаханы ў музыку, іграючы па чарзе на скрыпцы вайсковыя маршы, песні, полькі (настаўнік можа сёе-тое і з Грыга), яны, так сказаць, выяўляюць не толькі свае асабістыя, інтымныя пачуцці, а і пачуцці грамадскія, тыя, якімі на працягу доўгіх, нялёгкіх год жыла краіна.

Кожнае апавяданне маладога пісьменніка прысвечана выяўленню якой-небудзь добрай, высакароднай рысы ў характары нашага сучасніка, пераважна чалавека самага звычайнага жыццёвага занятку. Запамінаюцца плытагон Букініч і бухгалтарка Кацярына («Букініч»), прыгожыя душэўна, гордыя людзі, якія моцна пакахалі адзін аднаго і мераюць сваё каханне самымі высокімі меркамі. Такімі ж настроямі жывуць героі апавядання «Запозненыя паязды», узаемнае шчырае каханне якіх сутыкнулася з пачуццём абавязку.

Бадай, ці не самае лепшае ў зборніку апавяданне «Я любіў яго», у якім малююцца будні журналістаў раённай газеты, іх радасці і згрызоты. Гэтае апавяданне выдзяляе дасканалае веданне жыццёвага матэрыялу, які стаў прадметам мастацкага паказу (сам Карамазаў доўгі час працаваў у раённай газеце), нявыдуманая праўда характараў і абставін. Увогуле, сам набор эмацыянальных фарбаў тут значна шырэйшы, чым у астатніх творах. Гумар, добрая ўсмешка суседнічаюць тут з лірызмам, з аўтарскай разважлівасцю. Менавіта вось такое паліфанічнае бачанне жыцця сведчыць аб немалых творчых магчымасцях Карамазава.

У апавяданні намаляваны вельмі абаяльны вобраз літсупрацоўніка раённай газеты Гната Сіўца, чалавека, магчыма, крыху дзівакаватага, але надзвычай спра-

вядлівага, чулага душой, які збірае матэрыялы, раз'язджаючы па раёне на рыжай кабыле. «Рабацяга Гнат. Ён цягнуў не толькі за сябе, цягнуў пакорліва і надзейна. Акрамя сваіх чыста журналісцкіх абавязкаў штогод каваў і раскоўваў кабылу, рамантаваў вупраж, касіў і вазіў на зіму сена. Ды Гнат ніколі і не ўхіляўся ад гэтага клопату, нібыта ён здаўна быў наканаваны толькі яму аднаму. Гэта, можа, таму, што кабыла нікога не падпускала да сябе з такім даверам, як Гната, нібы ведала, што ціхаму хлопцу абавязана была сваім жыццём...»

Да ліку лепшых у зборніку адносяцца таксама апавяданні «Зялёныя тоні» і «Навальніца ў паводку». Заслугоўвае ўсялякай пахвалы тое, што Карамазаў імкнецца раскрываць псіхалогію простага чалавека, радавога ўдзельніка жыцця, шукае і знаходзіць паэзію ў звычайным, будзённым.

Шэраг змешчаных у зборніку замалёвак і эцюдаў, такіх, як «Па слончыну песню», «Ліменскі сшытак», «Мне сніцца бой ласёў», датычаць узаемадачынення ўжо знаёмага нам героя, звычайнага чалавека са светам прыроды. Свет гэты багаты, шырокі, разнастайны сваімі праявамі, і без сузірання ўсходу і захаду сонца, без таго, каб апынуцца на якой-небудзь ціхай, зараслай аерам рачулцы, на залітай ранішнім туманам лясной паляне, герой гэты не можа жыць. Паляванне, рыбная лоўля ў вандроўках героя — справа, бадай, другарадная, галоўнае — налюбавацца прыгажосцю родных, беларускіх мясцін, надыхацца водарам лесу і поля, сустрэцца з такімі ж, як ён сам, закаханымі ў прыроду людзьмі. Малады празаік з першых крокаў выяўляе сябе вельмі неблагім майстрам пейзажнага жывапісу словам, і хочацца ўсяляк заахвоціць яго да работы ў гэтым напрамку.

Віктар Карамазаў — пісьменнік з выразна рамантычным успрыманнем жыцця. У сваіх героях ён шукае перш за ўсё праяўлення высокіх пачуццяў, імкненняў, якімі дыктуюцца іх жыццёвыя паводзіны. Відаць, нездарма аўтар назваў свой першы зборнік «Падранак», па назве эцюда, у якім, па сутнасці, вар'іруецца горкаўскі матыў высі, неба, перадсмяротнага подзвігу («Песня аб Сокале»).

У пошуках рамантычнасці, незвычайнасці пісьменнік іншы раз збочвае і на сцяжыны, якія не могуць

прынесці творчага плёну. Я маю на ўвазе апавяданні «Каштаны» і «Апошні брыз». Аўтар як бы імкнецца ў названых апавяданнях выявіць паэзію выпадковых, «курортных» сустрэч, якія, зрэшты, ні да чаго не абавязваюць ні героя, ні гераіню. Нягледзячы на самыя «хітрыя» сюжэтныя звівы і хады, пісьменніку так і не ўдаецца даказаць чытачу, што ўдзельнікі падобных сустрэч і заляцанняў кіруюцца высокімі жыццёвымі імкненнямі. Хутчэй, наадварот. Не могуць быць тонкімі, «інтэлігентнымі» пачуцці, пазбаўленыя этычнага грунту.

Віктар Карамазаў зрабіў удалую творчую заяўку. Вядома, яму яшчэ шмат трэба працаваць. Нават у апавяданнях, якія называліся ў ліку лепшых, ёсць мясціны, напісаныя мовай, блізкай да мовы газетнага нарыса, ёсць залішне просталінейныя, псіхалагічныя рашэнні. Але ў той жа час ёсць тонкая назіральнасць, веданне жыцця, уменне цікава расказваць аб убачаным і перажытым, і хочацца думаць, што іменна гэтыя якасці стануць зарукай будучага поспеху маладога празаіка.

*1968*

# МАГУТНЫ ТАЛЕНТ ЭПІКА

Нядаўна мне прыйшлося пабыць у Юравічах, у тых самых Юравічах, якія пад уласнаю назвай апісаны ў раманах Івана Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Канчаўся імглісты асенні дзень, церусіў дождж. Даволі разлеглае мястэчка, як бы заціснутае паміж двума высокімі зялёнымі пагоркамі, было ва ўладзе звычайнага клопату: па вуліцы, натужна равучы маторамі, плылі нагружаныя бульбай грузавікі, вяртаўся з пашы, з таго боку, дзе зелянелі сасоннікі, статак, ля чарады магазінаў і крам згружалі з машыны рагожныя цюкі і скрынкі.

Мой знаёмы, завуч адной калінкавіцкай школы, раптам спыніўся, паказаў на някідкі, з абшарпаным тынкам мураваны дамок, што стаяў у глыбіні двара, бліжэй да пагорка.

— Вось там, у каталажцы, сядзеў Васіль Дзяцел.

Я не стаў пярэчыць. Двума тыднямі раней настаўнік быў у Юравічах разам з вучнямі, з так званымі следапытамі, якіх цяпер усюды нямала, і ім пра Васіля Дзятла ён расказваў, відаць, болей і падрабязней, чым мне. Вобраз, створаны талентам, фантазіяй пісьменніка, зрабіўся такім чынам рэальным, жывым чалавекам, больш таго, ён стаў як бы часцінкай гэтых самых Юравіч, нават іх гордасцю.

Мне ўспомнілася з прачытанага, што ў гарадок, апісаны Гюставам Флаберам у рамане «Мадам Бавары», вось ужо цэлае стагоддзе прыязджаюць падарожнікі, турысты, шукаюць аптэку, якая калісьці належала Амэ, а таксама іншыя будынкі і мясціны, звязаныя з героямі твора, што жывуць, не старэюць у памяці пакаленняў і як бы яднаюць век дзевятнаццаты з векам дваццатым.

Я злавіў сябе на думцы, што і сам гляджу на Юравічы зусім не так, як глядзеў на іх гадоў дзесяць назад, калі раманы Мележа яшчэ былі не напісаны.

— Каб зразумець паэта, трэба прыйсці ў яго краіну,— сказаў некалі славуты паэт. Краіна Івана Мележа — Надпрыпяцкае Палессе, ва ўсякім выпадку тая яго частка, якая сёння знаходзіцца ў межах Хойніцкага і Калінкавіцкага раёнаў. У палескіх раманах даволі дакладна захавана геаграфія родных мясцін пісьменніка, прычым назвы некаторых паселішчаў пададзены без змен — Глінішча, Ламачы, Тульгавічы, Юравічы, другія крыху перайначаны — Курані, Алешнікі, Хвойнае.

Дык з чаго пачынаецца пісьменнік, калі, каб зразумець яго талент, трэба наведаць зямлю, што яго ўзгадавала? Мабыць, з любві, з паэтычнага захаплення роднай зямлёй.

Беларускай літаратуры ў гэтым сэнсе пашанцавала. Іван Мележ нарадзіўся ў сапраўды цікавым, непаўторным сваімі кантрастамі кутку. Гэта поўдзень Беларускага Палесся, дзе спакойная паўнаводная Прыпяць як бы спяшаецца ў абдымкі да прыгажуна Дняпра. Нібы спаткаліся тут стэпавая, пшанічная Украіна з лясной, балотнай, бульбяной Беларуссю.

Кантрасты, рэзкія пераходы ў малюнку, настроі адной і той жа мясцовасці, думаецца, не прайшлі міма ўвагі ўражлівага дзіцяці, юнака, які ўжо тады, у тыя далёкія гады, фарміраваўся як пісьменнік. У раўнін-

най, стэпавай частцы Хойніцкага раёна зусім не так узыходзіць сонца, не так шумяць вятры, не такое неба, як у балотных надпрыпяцкіх мясцінах, якія акаляюць вёску Глінішча, што дала першыя паэтычныя ўражанні будучаму пісьменніку. Але прайдзіце некалькі вёрст у напрамку Хойнікаў ці Юравіч — і зусім іншы свет: палявы прастор, пікі пірамідальных тапаляў ці абсаджаная бярозавымі прысадамі дарога, што весела бяжыць па шырокай раўніне. Ці не з гэтага кантрасту вырас пафас рамана «Людзі на балоце», дзе, як няцяжка заўважыць, чорная дрыгвяністая зямля зусім не паэтызуецца, а хутчэй паказваецца як спрадвечнае няшчасце, пракляцце тутэйшых жыхароў?

Але паглядзім і на другі бок справы. Калі мы гаварылі, што Мележ вырас у цікавейшым кутку Беларусі, то гэта ніякім чынам не нацяжка. Менавіта ў Юравічах было знойдзена першае ў абсягу рэспублікі паселішча старажытнага чалавека. У музеі мясцовай дзесяцігодкі дэманструюцца не толькі косці маманта, усе гэтыя гіганцкія біўні, шчэлепы, зубы, але і прылады сівога каменнага веку — дробныя сякеркі, наканечнікі стрэл, прымітыўныя жорны. Яны не прывезены адкуль-небудзь, а знойдзены тут, ля падножжа Юравіцкай гары, той самай, якой не раз любаваўся і Васіль Дзяцел, і разумны старшыня мясцовага выканкома Апейка — героі мележаўскіх раманаў.

Тут, на старажытнай надпрыпяцкай зямлі, сярод зараснікаў і балот, здаўна жылі людзі, і гэта былі надзвычай мужныя, працавітыя, цягавітыя людзі, калі пры дапамозе такіх прымітыўных сродкаў, як вось гэтыя каменныя сякеркі, наканечнікі стрэл, яны палявалі на мамантаў, выстаялі супраць нягод лёсу праз многія тысячагоддзі.

Дзяцінства, юнацтва, маладыя гады Івана Мележа супалі з падзеямі сусветна-гістарычнага значэння. Нарадзіўся ён у сялянскай сям'і, змалку зведаў цану кавалку чорнага, напалам з бульбай, хлеба, які гэтак нялёгка здабываўся на тутэйшым пяску і балацянках. Але якраз тады, калі будучы пісьменнік са зрэбнай торбачкай за плячамі пашыбаваў у школу, у свой першы клас, спрадвечная палеская вёска зашумела зборышчамі, сходамі, выбіраючы свой новы, заўтрашні дзень і адначасна яго страшачыся. Рушыўся спрадвечны сялянскі свет жыцця, які праглядваўся на многія стагод-

дзі назад, і паўставаў свет новы, няясны, няпэўны для недаверлівага мужыцкага розуму нават у сваіх знешніх абрысах.

На такім гістарычным разрыве, найвялікшым драматычным і нават трагічным жыццёвым матэрыяле заўсёды было магчыма паяўленне значнага, вялікага мастацкага твора і значнага пісьменніка. Палескія раманы нарадзіліся іменна на такім матэрыяле.

Знаёмства з Іванам Мележам адбылося пасля яго другога зборніка апавяданняў «Гарачы жнівень». Гэта былі першыя пасляваенныя гады. У той час нам падабаліся кнігі ўзнёслыя, з яўнай тэндэнцыяй героізацыі, ідэалізацыі навакольнага жыцця. Мележаўскі зборнік, здаецца, нічога такога не меў. У аповесці «Гарачы жнівень», апавяданнях «Павел прыехаў», «Перад навальніцай» і іншых расказвалася пра будні пасляваеннай вёскі, пра звычайную, стрыманую, але ў той жа час такую агромністую радасць тых, хто вярнуўся з вайны і прылучыўся да мірнай працы. Першыя прачытаныя апавяданні Мележа назаўсёды засталіся для мяне творамі высокапаэтычнымі, нават лірычнымі, толькі лірычнае пачуццё ў іх струменіла з жыццёвых глыбінь, з умела, па-майстэрску намаляваных карцін побыту, працы, з дакладнага выяўлення псіхалогіі герояў.

Зборнік «У завіруху» ўсталяваў думку, што ў асобе Мележа ў беларускую літаратуру прыйшоў пісьменнік самабытны, арыгінальны, з выразна акрэсленым колам мастацкіх ацэнак і ўяўленняў, непаўторным поглядам на жыццё.

Іван Мележ далёка не адразу атрымаў шырокае і ўсеагульнае літаратурнае прызнанне. Яно прыйшло пасля рамана «Людзі на балоце». Крытыкі, даследчыкі як бы нанова зірнулі на пісьменніка, убачылі тое, чаго раней як быццам не заўважалі — глыбокі псіхалагізм, дакладнасць і адначасна паэтычнасць малюнка, тонкую назіральнасць. А між тым творчы шлях Мележа ўяўляецца прамым і роўным, і ніводны твор не выбіваецца з выразна акрэсленага кірунку развіцця пісьменніка.

У першым рамане «Мінскі напрамак», над якім пісьменнік многа і ўпарта працаваў і да мастацкага ўдасканалення якога вяртаўся не раз, выказаны, па сутнасці, той пагляд на Айчынную вайну, які даў асаблівы плён у прозе апошняга дзесяцігоддзя. Ужо тады,

у першыя пасляваенныя гады, Мележ зірнуў на вайну не толькі як на справу найвялікшай мужнасці, подзвігу народа, а і як на цяжкую, паўсядзённую працу, дзе праявіліся такія якасці савецкіх людзей, як цягавітасць, вытрымка, уменне пераносіць, пераадольваць пакутлівыя нягоды і выпрабаванні жыцця. Магчыма, першаму мележаўскаму раману ў пэўнай меры не хапала эмацыянальных фарбаў, белетрыстычнай займальнасці, той рамантычнасці, выключнасці паводзін герояў, якія на вайне проста непазбежны, але менавіта сённяшні пагляд на эпапею народнага змагання з ворагам, які знайшоў месца яшчэ ў «Мінскім напрамку», бясспрэчны.

Іван Мележ як пісьменнік належыць да сярэдняга пакалення, і яго жыццёвы творчы шлях у гэтым сэнсе вельмі тыповы. Перад вайной скончыў дзесяцігодку, некаторы час працаваў у Хойніцкім райкоме камсамола, друкаваў у газетах заметкі і вершы. Відаць, зусім не выпадкова паступіў у Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі, літаратуры (ИФЛИ), адкуль пасля першага курса быў мабілізаваны ў армію. З першых дзён вайны ўдзельнічаў у баях у складзе артылерыйскага палка, адступаў, быў у акружэннях, восенню сорак першага года ўдзельнічаў у наступленні на Растоў, а першай ваеннай зімой — на Лазавую і Барвенкава.

Летам сорак другога года яго цяжка параніла. Потым было нялёгкае, вандроўнае жыццё — лячэнне ў шпіталях, вучоба, работа, безліч сустрэч з людзьмі ўздыбленай вайной краіны. Першае апавяданне напісана ў Тбілісі, у шпіталі, левай рукой (правая вісела як нежывая). Яго пазней, праз паўтара года, у Маскве прачытаў Кузьма Чорны, прыхільна, добразычліва адазваўся. Так пачаўся шлях у літаратуру.

Можна з поўнай падставай гаварыць аб тым, што палеская хроніка Мележа ляжыць на магістральным шляху развіцця беларускай літаратуры, судакранаючыся ■ такімі творамі, як «Новая зямля» Якуба Коласа і «Трэцяе пакаленне» Кузьмы Чорнага. У таленце Мележа як бы прысутнічае штосьці ад Чорнага і штосьці ад Коласа. Але ў той жа час гэта зусім арыгінальны, своеасаблівы пісьменнік. У яго стылі, творчай манеры, кажучы фігуральна, як бы паядналіся коласаўская паэтычнасць, мяккасць, лірычная цеплыня ■ аналітызмам Чорнага, з яго дакладным, «прадметным»

малюнкам, багаццем бытавой народнай фразеалогіі.

Сапраўды, калі чытаеш і перачытваеш «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», на памяць прыходзіць славутая коласаўская «Новая зямля». Пасля Коласа, бадай, не было ў беларускай літаратуры другой кнігі, чым мележаўская хроніка, дзе б з такім грунтоўным веданнем справы паўстаў быт, сама паэзія і драматызм жыцця беларускай вёскі. І хоць пісьменнік не робіць асаблівых экскурсаў у гісторыю мясцін, людзей, якіх ён паказвае, адчуваеш, што за ўсім стаіць векавечная традыцыя, жыццё, што складвалася на працягу многіх стагоддзяў. У рамане «Подых навальніцы» дзеянне сягае ўжо за межы балотных Куранёў, разгортваючыся і ў раённых па тым часе Юравічах, і ў сталічным Мінску. Пачынаеш разумець сапраўдныя размахі творчай задумы пісьменніка. Яна, відаць, у тым, каб намаляваць не толькі рушэнне старога, прыватна-ўласніцкага свету жыцця, а і паказаць станаўленне жыцця новага, савецкага з яго новымі духоўнымі і маральнымі каштоўнасцямі.

Пра герояў мележаўскіх раманаў многа і справядліва пісалі крытыкі, літаратуразнаўцы, і, відаць, не варта паўтарацца: прысвечаныя жыццю беларускай вёскі далёкіх 20-х і пачатку 30-х гадоў, кнігі гэтыя тым не менш гучаць вельмі сучасна, бо яны, калі можна так сказаць, закранаюць інтарэсы, думкі, пачуцці сучаснікаў, па галоўных пытаннях жыцця перагукваюцца з нашымі днямі. Звычайнасць буйнога твора вызначаецца перш за ўсё адкрыццём тыпу, характару, бо толькі аб'ёмны, пададзены ў адзінстве асабістага і грамадскага характар нясе ў сабе вобраз часу, з'яўляецца сапраўдным мастацкім адкрыццём.

Думаецца, суджана доўгае жыццё мележаўскім палескім раманам. А значным дасягненнем беларускай прозы яны сталі таму, што ў іх буйныя, ёмістыя характары, роўныя вялікаму мастацкаму адкрыццю. Нездарма эпічна спакойныя раманы «Хронікі» ўстойліва пераўвандравалі на сцэну тэатра з яе своеасаблівымі жанравымі патрабаваннямі. Але калі ёсць пластычныя вобразы і значныя канфлікты, то астатняе — справа акцёрскага майстэрства.

У раманах Мележа ва ўвесь свой сацыяльны, чалавечы рост паўсталі Васіль Дзяцел, Ганна, Яўхім, стары Глушак, Міканор, Апейка і іншыя героі. А коль-

кі там вобразаў так званага другога і трэцяга планаў, якія, тым не менш, глыбока запамінаюцца, бо роля іх далёка не дзяжурная. Пісьменнік прадэманстраваў зайздроснае майстэрства як пластычнай, псіхалагічнай лепкі характараў, так і валодання мастацкімі дэталямі, калі якая-небудзь выхапленая з жыцця падрабязнасць гаворыць вельмі пра многае. Звернем увагу на тое, што пісьменнік вельмі дбайна сочыць, як і ў што апрануты яго героі, у якой хаце яны жывуць, як ходзяць, гавораць, смяюцца, як і што ядуць, якое надвор'е тым часам стаіць.

Героі мележаўскай эпапеі — людзі простага, вясковага жыцця. Але якое ў іх багацце думак, пачуццяў, настрояў, імкненняў. Яны пададзены буйным планам і ў грамадскім, сацыяльным і ў чалавечым абліччы, і чытач — хто б ён ні быў па сваёй прафесіі ці адукацыйным узроўні — штосьці возьме для сябе пасля знаёмства з імі.

Раманы Мележа — творы шматпланавыя, у іх пастаўлена многа праблем. Пісьменнік удумліва даследуе сувязі сваіх герояў з шматвяковай вясковай традыцыяй, з калектыўнай гаспадаркай, якая нараджаецца ў закінутых сярод балот і лясоў Куранях, выяўляе сацыяльныя асновы жыцця, духоўны рост чалавека з народа, які паступова вызваляецца ад путаў мінуўшчыны. Іван Мележ не толькі не парывае з традыцыяй беларускага сацыяльна-бытавога і сацыяльна-псіхалагічнага рамана, асновы якога закладвалі Якуб Колас і Кузьма Чорны, але і паспяхова працягвае, узбагачае яе.

Іван Мележ — пісьменнік, які выпрацаваў свой уласны стыль, адметную манеру весці апавяданне. Яго фраза — ёмістая, як бы ахоплівае матэрыяльнае, рэчавае багацце навакольнага свету, дае яго пластычны вобраз. Але ў той жа час гэтая фраза і музыкальная, яна вызначаецца багаццем інтанацый, адценняў, у ёй суседнічаюць, пераплятаюцца ўсе гамы эмацыянальнага спектра: гумар з лірыкай, спакойная апавядальнасць з паэтыкай. Шырокае выкарыстанне «палескіх» дыялектызмаў у апошніх творах пісьменніка, думаецца, цалкам апраўдана, яно дапамагае больш рэльефна і адчувальна намаляваць і герояў, і іх жыццё.

Беларуская проза вызначаецца сёння многімі таленавітымі імёнамі. Іван Шамякін, Янка Брыль, Міко-

ла Лобан, Пiлiп Пестрак, Аляксей Кулакоўскі, Васіль Быкаў, Іван Пташнікаў — гэтыя і іншыя празаікі паспяхова расказваюць «аб часе і аб сабе», увасабляюць у сваіх творах духоўную гісторыю станаўлення савецкага грамадства. І ўсё ж на фоне гэтай, скажам без пераўвелічэння, вельмі добрай літаратуры раманы І. Мележа выдзяляюцца, яны сталі падзеяй у літаратурным жыцці.

*1969*

# ПАЭЗІЯ ВЯСКОВЫХ ДАРОГ

Аднойчы да мяне прыехаў сябар дзяцінства, ляснічы аднаго з палескіх раёнаў. Ён мусіў ісці ў горад, нешта купіць, пра нешта даведацца, але яму трапіў на вочы зборнік апавяданняў Міколы Лупсякова, які ляжаў у мяне на стале. Ляснічы ўнурыўся ў кнігу ды так і прасядзеў над ёй да вечара. А вечарам, як бы хаваючы на вуснах вінаватую ўсмешку, сказаў:

— Ладна, заўтра займуся справамі... Хораша ён піша, гэты Лупсякоў. Проста і шчыра. Любіць людзей і прыроду...

Яго першыя апавяданні паявіліся ў друку яшчэ да вайны, яшчэ тады здольнага маладога празаіка заўважыў і падтрымаў Кузьма Чорны. Пасля гэтых, у пэўнай меры вучнёўскіх твораў, былі дарогі вайны, Варонежскі фронт, баі на Курскай дузе, цяжкое раненне, вандроўкі па краіне, роздум над жыццём. На поўную сілу талент пісьменніка расцвіў пасля вайны.

Перачытваючы сёння Міколу Лупсякова, я не знаходжу ў яго слабых ці прыблізна да праўды жыцця напісаных твораў. Нават тыя з іх, якія ляжаць далекавата ад уласнага жыццёвага, душэўнага вопыту пісьменніка, кранаюць шчырасцю пачуцця, замілаванасцю да роднай зямлі і да чалавека, што жыве і працуе на ёй.

Я проста закаханы ў такія апавяданні М. Лупсякова, як «Пераправа», «Дняпроўская чайка», «Новы пляцень». Яны, як мне здаецца, на ўзроўні лепшых старонак нашай прозы — як класічнай, так і сучаснай.

Колькі ў іх добрай, спагадлівай чалавечнасці, цеплыні, цнатлівасці, дакладнага ведання самых тонкіх, натайных рухаў чалавечай душы.

У адным з апавяданняў Лупсякова я знайшоў словы «жывая зямля». Перачытваючы аўтабіяграфію пісьменніка, зноў наткнуўся на іх у тым месцы, дзе ён расказвае пра сваё дзяцінства: «Але найбольшым шчасцем былі выгары, у якіх шмат карасёў, уюноў. Вясною ў выгарах, пад спакойныя водбліскі захаду, стаяў стогн, радасны плач, гул і тлум — гэтак заходзілася ў спевах усё, што жыло там».

Мікола Лупсякоў глыбока, пранікнёна, сардэчна адчувае паэзію роднай зямлі, асабліва Прыдняпроўя, дзе прайшлі яго маладыя гады і куды ён думкамі, пачуццямі, сваімі пісьменніцкімі трывогамі вельмі часта вяртаецца. Здаецца, няма ў нас пісьменніка, які б так, як ён, апеў Дняпро, прырэчную прыроду, паэзію яе вечароў, начэй, золкаў. Зноў не магу ўтрымацца, каб не прывесці невялічкую вытрымку з апавядання «Масквічка»: «Сонейка ўжо зайшло, ля берагоў гуляе, а ў лузе падаюць галасы дзеркачы, пакракваюць дзікія качкі, крумкаюць жабы,— і адусюль нясе пахам траў ды вільгаці. Далёка захад усё яшчэ палымнее, і туман усё болей асядае над ракою. Вот люблю гэты час, вот люблю, калі дзень пераходзіць у ноч або ноч у дзень, што заўсёды тады лагаднею і дабрэю і як не сляза на вачах...»

Пісьменнік добра, сэрцам сына разумее і вёску новую, калгасную, і яе новымі маральна-этычнымі ўстаяўленнямі, з яе пагардай да хіжага свету сквапнасці, карыслівага разліку, індывідуалістычнай раз'еднасці і адначасна шануе духоўныя каштоўнасці народнага жыцця, што сягаюць у сівую далёкую мінуўшчыну. Колькі добрых, грунтоўных апавяданняў стварыў пісьменнік на аснове старых вясковых легенд, паданняў, паняверак! Пільная ўвага да народнай думкі, народнай ацэнкі той ці іншай з'явы нязменна прыносіць яму поспех. Мікола Лупсякоў піша аб простых людзях, застаючыся пісьменнікам глыбока інтэлігентным у самым добрым сэнсе гэтага слова. Ён умее выяўляць самае высакароднае, чалавечае, святое ў душах сваіх герояў. Ён знаходзіць канфлікты, глыбокія драматычныя калізіі там, дзе другі, які народнага жыцця не ведае, не цэніць, не ўбачыў бы нічога.

Прыгадаю ў гэтай сувязі яшчэ адно апавяданне пісьменніка. У ім ідзе гаворка пра сына, што, «выбіўшыся ў людзі», прыязджае да старых бацькоў і пачынае павучаць іх, як трэба жыць. У старых — карова-пярэдайка, якая вось-вось зусім запусціцца. Сын раіць прадаць гэтую карову, бо карысці ад яе ніякай. А старыя так проста прадаць карову не могуць, бо яна служыла ім у цяжкія часіны жыцця, з ёю было звязана столькі надзей, трывог, радасцей...

*1969*

# СТАРЭЙШЫНА РОДНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Кандрат Крапіва... Гэта шырока вядомае, акружанае народнай любоўю імя прыйшло ў літаратуру праз дасціп смеху, які цэлай ракой хлынуў з баек, сатырычных вершаў, што ўбачылі свет у пачатку дваццатых гадоў. Стыхія камічнага, якая выбухнула ў крапівінскім таленце, была такой напорыстай, магутнай, што адразу забяспечыла паэту-сатырыку самую шырокую і ўдзячную аўдыторыю. Рагатала ўся Беларусь: байкі, вершы Кандрата Крапівы чыталі, атрымаўшы свежую газету і пасеўшы на прызбы, вясковыя дзядзькі, без іх не абыходзіліся самадзейныя спектаклі, сходкі, з крапівінскімі прыпеўкамі ішлі ў наступ за новы быт рашучыя камсамольцы дваццатых і трыццатых гадоў.

Паэт-гумарыст і сатырык размаўляў са сваім чытачом на вельмі зразумелай, на яго мове. Гэтая мова нібы ўвабрала, паяднала ў адно спрадвечную дасціпнасць вострых на язык людзей, якіх ва ўсе часы меў кожны сялянскі куток: усіх гэтых жартаўнікоў, перасмешнікаў, складальнікаў небывала дзіўных гісторый. Сапраўдны вялікі талент заўсёды ўсімі сваімі карэннямі ўваходзіць у родную глебу, жывіцца яе сокамі.

Калі акінуць мысленным позіркам ніву беларускай літаратуры — і дарэвалюцыйную і савецкую,— можна заўважыць адну цікавую асаблівасць. Амаль усе значныя пісьменнікі, якіх падняў са сваіх глыбінь наш народ, валодалі майстэрствам смеху. Камічнае арганічна ўваходзіць у светаадчуванне нашых класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, гумарыстамі і сатырыка-

мі ўмелі быць Дунін-Марцінкевіч і Багушэвіч, Багдановіч і Бядуля. Дый і літаратурная плеяда, якая сфарміравалася ў савецкі час, дастойна працягвае гэтую традыцыю — Броўка і Лынькоў, Танк і Брыль, Куляшоў і Панчанка. Новая беларуская літаратура пачыналася з твораў камічных, «смешных» — з ананімных паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Гумар, відаць, характэрны для мыслення беларуса, якога не песцілі ў мінулым зведаныя ім жыццёвыя шляхі-дарогі. Тую важную ролю, якую займае смех у творчасці Кандрата Крапівы, трэба перш за ўсё вытлумачваць сацыяльнымі прычынамі. Некалі Карл Маркс сказаў, што адна эпоха развітваецца з другой пры дапамозе смеху. Сатыра Крапівы — вынік вялікага гістарычнага раздарожжа. Кастрычніцкая рэвалюцыя нібы нарадзіла бачную, адчувальную мяжу паміж жыццём старым, што ішло ў нябыт, і жыццём новым, савецкім, якое тады, калі пісаліся крапівінскія вершы і байкі, толькі пачынала набіраць разгон. Агромністымі былі спадзяванні, якія прынесла рэвалюцыя ў жыццё, светлымі, велічнымі ідэалы, якія яна напісала на сваіх сцягах. Адсюль і сіла адмаўлення старога, аджываючага, што так уладна прабілася ў вершах, байках Кандрата Крапівы. Ён нібы стаў сатырычным упаўнаважаным Кастрычніка, па мандату новай рэвалюцыйнай праўды змятаючы з дарогі адсталае, непатрэбнае, ману, фальш, хціваснь, чалавечую мізэрнасць.

Многа адценняў і граняў смеху Кандрата Крапівы. Бязлітасны, здзеклівы, знішчальны гэты смех у адносінах да ворагаў рэвалюцыі, да ўсіх тых, у каго «ад пачосткі ныюць косткі», хто зноў шчэрыць зубы на заваёвы маладой Краіны Саветаў, супраць каго трэба напагатове «трымаць чырвоны штык». Вершы, байкі, паэмы Кандрата Крапівы дваццатых і пачатку трыццатых гадоў, нібы ў люстры, адбіваюць баявы, рэвалюцыйны запал пакалення, якое, як казаў Маякоўскі, выйшла «строить и месть в сплошной лихорадке буден», маючы нязгасную веру ў светлае заўтра, яго этычны максімалізм.

Надрукаваная ў газеце заметка пра выпадак крадзяжу, марнатраўства, «выдаткі» літаратурнага жыцця, праявы валакіты, бюракратызму ў савецкіх установах, факты забабоннасці, рэлігійнага дурману — усё гэта становіцца ў сатырычных вершах і байках прад-

метам шчырай, зацікаўленай размовы. Даўно забыліся канкрэтныя падзеі, паводле якіх узнік той ці іншы верш, байка, а творы жывуць, не гасне сіла іх эмацыянальнага, мастацкага ўздзеяння на чытача. Як надзённыя, баявыя і сёння ўспрымаюцца «Дзед і Баба», «Сука ў збане», «Мандат», «Далікатныя парасяты», «Дыпламаваны баран», «Махальнік Іваноў», «Жаба ў каляіне», сатырычныя вершы «Калі ў краме ёсць нястача», «Фіга на талерцы» і многія іншыя вершы. У чым сіла іх мастацкай трываласці?

Мабыць, перш за ўсё ў таленце аўтара, які ў падзеях хуткаплынных умеў адбіраць істотнае і тыповае. Але гэта толькі самы агульны адказ. Пытанне аб мастацкай даўгавечнасці такіх надзённых, баявых жанраў, як вершаваны фельетон, сатырычны верш, байка, куды больш складанае, чым на першы погляд здаецца.

Так, Кандрат Крапіва з'явіўся ў беларускай літаратуры як талент вельмі буйны, непаўторны. У савецкі час беларуская літаратура з не бачанай раней імклівасцю праходзіла працэс паскоранага развіцця; раўняючыся на больш развітыя літаратуры, падцягвала, калі можна сказаць так, свае жанравыя тылы, запаўняла пустоты. Ва ўсіх формах і відах струменіла лірыка, нараджаліся раман, аповесць, узніклі каласаўскія ліра-эпічныя паэмы «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Мусіла заняць сваё дастойнае месца ў літаратуры і сатыра. Гэта было нібы патрабаванне часу, яго аб'ектыўны закон.

Прыходзіцца здзіўляцца: першапраходцы беларускай літаратуры былі талентамі маштабнымі, шматграннымі, яны выяўлялі здольнасць працаваць адначасова ў розных жанрах літаратуры. Так, палымяны, рамантычна ўзвышаны лірык Янка Купала пісаў драмы і камедыі, дыяпазон узаемадачыненняў да мастацкага слова Якуба Коласа яшчэ шырэйшы — лірык, эпік, празаік, драматург. Празаікамі і паэтамі былі Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Міхась Чарот.

Кандрат Крапіва — таксама з ліку першапраходцаў. Па выхаванню, пройдзеных жыццёвых дарогах ён тыповы інтэлігент першага савецкага пакалення. Нарадзіўся Кандрат Кандратавіч Атраховіч у 1896 годзе ў вёсцы Нізок на Уздзеншчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў гарадское вучылішча, экстэрнам здаў экзамен на званне настаўніка, працаваў у школе, пад час

імперыялістычнай вайны быў мабілізаваны ў царскую армію. Скончыў школу прапаршчыкаў, ваяваў на Румынскім фронце. На вачах будучага пісьменніка адбываліся Лютаўская, затым Кастрычніцкая рэвалюцыі. Па дэкрэту Савецкай улады ў 1918 годзе ён быў звольнены з арміі як настаўнік. Вярнуўшыся на радзіму, працаваў на гаспадарцы, у школе.

Пачынаючы з 1920 года Кандрат Кандратавіч у Чырвонай Арміі. Забягаючы наперад, варта сказаць, што на баявыя паходы пісьменніку пашанцавала аж занадта. Акрамя імперыялістычнай і грамадзянскай ён удзельнічаў у фінскай вайне, у вызваленчым паходзе Чырвонай Арміі у Заходнюю Беларусь, у Вялікай Айчыннай вайне. Ён быў верным сынам свайго неспакойнага веку.

Будучы ўжо немаладым, трыццацігадовым чалавекам, Кандрат Кандратавіч у 1926 годзе паступае ў Беларускі дзяржаўны універсітэт, а ў 1930 годзе яго заканчвае.

Такія асноўныя жыццёвыя вехі, якія прывялі Кандрата Крапіву ў літаратуру. Яму выпала быць сведкам і ўдзельнікам сапраўды гістарычных падзей. На ўласныя вочы ён бачыў, у якіх пакутах, цаной якіх ахвяр нараджаецца новы свет. Добра, надзвычай добра ведаў пісьменнік і жабрацкае, заскарузлае жыццё старой вёскі з яго сямейнай і суседскай лаянкай, знявагай, калатнечай, узаемнымі падкопамі і падколамі, цемнатой і бескультур'ем. Вядома, не толькі дрэннае, але і добрае было ў старой вёсцы. Свой надзённы кавалак хлеба селянін зарабляў крывавым мазалём і потам, марнатраўцаў не любіў, простыя, відавочныя межы дабра і справядлівасці былі вызначаны ў яго свядомасці вельмі выразна.

Сялянскую, «мужыцкую» Беларусь выдатна ведалі Янка Купала і Якуб Колас. Наступнымі па глыбіні, сіле пранікнення ў псіхалогію сялянства, якое ва ўмовах дарэвалюцыйнай Беларусі было носьбітам народнасці, у шматвяковую філасофію яго бытавання, паэтычны свет, невычэрпныя скарбы мовы, фразеалогіі былі пісьменнікі, што сфарміраваліся ў савецкую пару,— Кузьма Чорны і Кандрат Крапіва.

Байкі і сатырычныя творы Крапівы адразу атрымалі ў літаратуры сталую «прапіску», сталі творамі хрэстаматыйнымі, па якіх вучыцца глядзець на жыццё

ўжо каторае пакаленне моладзі. І вось чаму — у іх рэвалюцыйны, сацыялістычны ідэал сплаўлены з ідэалам народным. Самыя сучасныя ідэі паэт апрануў у народныя вопраткі, на падзеі сучаснасці глядзеў праз прызму народнага светабачання, светаадчування, і гэта забяспечыла яго творам зайздроснае даўгалецце. Як бачым, рэвалюцыйны ідэал зусім не супярэчыць ідэалу народнаму.

Пра тое, што Кандрат Крапіва ўзняў беларускую байку на вышыню мастацкай дасканаласці, зрабіў яе сапраўдным сатырычным і літаратурным жанрам, напісана шмат, і паўтарацца тут не варта. Варта толькі сказаць, што байка, сатырычны верш сталі для пісьменніка стартавай пляцоўкай у сэнсе далейшых літаратурных сяганняў.

Байкапісец Крапіва рана адчуў драматургічную, камедыйную прыроду байкі. Сапраўды, яна была камедыяй у мініяцюры дзякуючы «нарицательной», як бы загадзя запраграмаванай у свядомасці чытача ці слухача ролі Аслоў, Бараноў, Свіней, мела акрэсленыя характары, дыялог, дзеянне. Здавалася, адзін крок аддзяляў байкапісца Крапіву ад камедыёграфа і драматурга. Але рабіць гэты крок ён не спяшаўся.

Працуючы над сатырычнай пераніцоўкай «Бібліі», ствараючы фантастычна-казачную паэму «Хвядос — Чырвоны нос», Кандрат Крапіва, мабыць, прывучаў сябе да шматгалосся, выяўлення характараў праз сутычкі і дзеянне, якое так неабходна драме і камедыі.

Тады, у ахопленыя энтузіязмам тварэння новага сацыялістычнага мастацтва дваццатыя гады, розных п'ес пісалася багата. Працавалі БДТ-І (цяперашні акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы), БДТ-ІІ (цяперашні тэатр імя Якуба Коласа), дзейнічаў перасоўны тэатр Галубка. Але значных творчых удач было няшмат. Персанажы большасці п'ес былі палымянымі, пафаснымі, але, на жаль, толькі рупарамі аўтарскіх ідэй, хадзячымі схемамі. Ім як бы бракавала жывой плоці, непаўторнага чалавечага аблічча. Тэатры адчувалі вострыя рэпертуарны голад. Маладое савецкае мастацтва драматургіі, як самае складанае мастацтва, нараджалася ў пакутах.

Кандрат Крапіва, аднак, не спяшаўся ў тэатр. Побач з байкамі, сатырычнымі вершамі і паэмамі ён піша апавяданні. Яго літаратурныя настаўнікі Купала і Ко-

лас, будучы прызнанымі народнымі паэтамі, рабілі бліскучыя выхады ў сумежныя літаратурныя жанры. Ён, выдатна асталяваўшыся ў сатыры, адзін за другім выпускае зборнікі гумарыстычных апавяданняў — «Апавяданні» (1926), «Людзі-суседзі» (1928), «Жывыя праявы» (1930), у 1931 годзе выступае з раманам «Мядзведзічы».

«Мядзведзічы» — шырокае эпічнае палатно, у якім пісьменнік у сацыяльна-псіхалагічным плане асэнсоўвае падзеі і зрухі, што адбываліся ў беларускай вёсцы напярэдадні калектывізацыі. У поўны рост паўстаюць у ім аб'ёмныя чалавечыя характары, кіпяць страсці, вабяць намаляваныя таленавітым празаікам карціны вясковага побыту.

Раман «Мядзведзічы» займае віднае месца ў беларускай прозе. Сям'я Верамейчыкаў, якая стаіць у цэнтры аўтарскага паказу, вобразы кулакоў Каржакевіча, Жагулы, Грамабоя, вясковых актывістаў Рыгора Варанца, Аўдолі выпісаны з зайздроснай псіхалагічнай паўнатой, мастацкай пераканаўчасцю. Сатырык Крапіва засведчыў сябе выдатным майстрам аналітычнай прозы. Аднак і гэты раман не быў сведчаннем таго, што пісьменнік наважыў развітацца з сатырай.

Раман «Мядзведзічы» быў якраз тым мастком, па якім Кандрат Крапіва канчаткова перайшоў у драматургію. Свядома ці падсвядома ён адчуваў, што сучаснай драматургіі не хапае чыста чалавечага зместу, псіхалагічнай аб'ёмнасці характараў, іх індывідуальнай непаўторнасці. Проза, у прыватнасці раман, давала магчымасць набыць, адшліфаваць такое майстэрства.

Пачынаючы з 1933 года, калі на тэатральнай сцэне была пастаўлена п'еса «Канец дружбы», наступае новы этап не толькі ў самой творчасці Кандрата Крапівы, але, бадай, і ў дзейнасці беларускага тэатра.

У Крапівы-драматурга многае застаецца ад сатырыка і байкапісца: драмы, камедыі будуюцца на выразна вострых канфліктах, узнікаюць па гарачых слядах жыццёвых падзей. І ўсё ж гэта не толькі якасна новы перыяд творчасці выдатнага беларускага пісьменніка, а і новая ступень развіцця ўсёй нацыянальнай драматургіі, яе бліскучы творчы ўзлёт. Шырыня, шматграннасць ахопу жыццёвых з'яў, незвычайнае багацце намаляваных характараў-тыпаў, разнастайнасць жан-

равага вырашэння праблем — вось тое галоўнае, што прынёс Кандрат Крапіва ў беларускую драматургію.

Як і ў вялікіх майстроў мінулага, смешнае суседнічае ў беларускага драматурга з трагічным, высокае, гераічнае з пачварным і агідным.

І яшчэ адну вялікую творчую задачу прыйшлося вырашыць Кандрату Крапіве. Сялянская Беларусь на вачах рабілася індустрыяльнай, у нацыянальнае жыццё паўнапраўным яго ўдзельнікам прыйшоў рабочы, інтэлігент, праблемы сацыяльныя, палітычныя станавіліся надзённымі праблемамі жыцця. Рамкі традыцыйнай сямейна-бытавой драмы ці камедыі, якія везала беларуская драматургія, не маглі ўмясціць новага жыццёвага матэрыялу. Кандрату Крапіве прыходзіцца ісці па цаліку, быць першаадкрывальнікам, ствараць новыя жанры. Яны з'явіліся — сацыяльна-псіхалагічная і народна-гераічная драма, сатырычная, лірычная і нават фантастычная камедыя.

«Канец Дружбы», «Партызаны», «Хто смяецца апошнім», «Проба агнём», «Мілы чалавек», «З народам», «Пяюць жаваранкі», «Зацікаўленая асоба», «Людзі і д'яблы», нарэшце, «Брама неўміручасці» — іскрыстая, поўная народнага досціпу і глыбокай філасофскай развагі камедыя, напісаная не маладым, адсвяткаваўшым сямідзесяцігоддзе, пісьменнікам — большая палавіна гэтых рэчаў была падзеяй у савецкай драматургіі і жыцці тэатра.

Кандрат Крапіва заўсёды пісаў аб самым значным, істотным і важным, што наспела ў жыцці і як бы патрабавала грамадскай ацэнкі, суда. Міжволі прыгадваецца выказаная драматургам думка адносна камедыйнага канфлікту: ён павінен быць сур'ёзным, мець вялікі рэзананс (накшталт таго гуку, які вынікае, калі ўдарыць нават чым-небудзь маленькім па вялікай жалезіне).

Першая ўжо драма «Канец дружбы» мела сур'ёзны, грамадска значны канфлікт. У гадзіну нягоды адзін чалавек, настаўнік Лютынскі, рызыкуючы ўласным жыццём (падзеі адбываюцца пад час белапольскай акупацыі), выратоўвае жыццё другому — партызану Карнейчыку. Апошні дае абяцанне не забыць гэтай самаахвярнасці, прыйсці на дапамогу сябру ў цяжкую для яго часіну. І не прыходзіць, калі часіна такая надараецца, бо той здрадзіў чамусьці большаму — гра-

мадскай справе, высокім рэвалюцыйным ідэалам, за якія абодва ў маладосці змагаліся, хоць разумелі, відаць, гэтыя ідэалы неаднолькава. Тыповы, суровы канфлікт далёкіх трыццатых гадоў.

Народна-гераічная драма «Партызаны», якая ўбачыла свет у 1937 годзе, з'явілася не толькі як вынік роздуму пісьменніка над прычынамі і вытокамі перамогі ў грамадзянскую вайну, а як бы і папярэджвала аб новай небяспецы і пагрозе, што навісала над Савецкай краінай. Выдатная, вялікая гэта драма. Нібы сам беларускі народ з яго адмысловым паглядам на свет, мяккім гумарам, паблажлівасцю ў жыцці, з нязломным характарам у гадзіну суровых выпрабаванняў прыйшоў на яе старонкі. Нездарма пасля прагляду «Партызан», стоячы, горача апладзіравалі артыстам абраннікі народа — дэлегаты Устаноўчага сходу ў Беластоку, якія прынялі памятнае рашэнне аб уваходзе ў Савецкую дзяржаву і ўз'яднанні Заходняй Беларусі з Беларуссю Савецкай.

Сатырычная камедыя «Хто смяецца апошнім», напісаная перад самай вайной, трыумфальна прайшла на сцэнах многіх дзесяткаў савецкіх і некаторых зарубежных тэатраў. З прынцыповых, партыйных пазіцый Кандрат Крапіва даваў у ёй бой нахабнікам, кар'ерыстам, палахлівым, прыніжаным душам, якія сваёй пакорлівасцю стваралі прыдатную глебу для разгулу гарлахвацкіх. Значэнне гэтай надзвычай смелай для свайго часу камедыі стала нам яшчэ больш зразумелым пазней, калі партыяй былі выкрыты злоўжыванні і парушэнні рэвалюцыйнай законнасці ў час культу асобы.

У 1940 годзе, у час Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве, усесаюзны глядач, які ўбачыў «Партызан» і «Хто смяецца апошнім» на сцэне, па заслугах ацаніў дасягненні беларускай савецкай культуры. Наша літаратура і мастацтва дэманстравалі бліскучыя поспехі, яны сталі неад'емнай часткай савецкай, сацыялістычнай культуры. Першым вывеў беларускую драматургію да ўсесаюзнага гледача Кандрат Крапіва. Яшчэ тады, да вайны, ён у ліку першых беларускіх пісьменнікаў стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР.

Яркае, непаўторнае, differentiated асвятленне знайшлі ў драматургіі Кандрата Крапівы Вялікая Айчынная вайна і пасляваеннае жыццё. Гераіка подзвігу савецкага чалавека яшчэ ў віхурныя дні вайны нарадзі-

ла драму «Проба агнём», пазней, ужо ў мірны час, з'явіліся драмы такой жа высокай настроенасці — «З народам» і «Людзі і д'яблы». Цяжка пераацаніць зробленае драматургам. На старонкі п'ес, як і на сцэну тэатраў, як бы прыйшлі жывыя ўдзельнікі франтавых баёў, падпольнай і партызанскай барацьбы, якая ва ўмовах Беларусі ўцягнула ў сваё рэчышча людзей розных прафесій, узростаў, характараў, стала сапраўды ўсенароднай. Кіпенне страсцей, высокі напал сутыкненняў, канфліктаў, глыбокая псіхалагічная праўда вызначаюць названыя творы.

Як і заўсёды, у Кандрата Крапівы патэтыка, высокі пафас суседнічаюць з добрай усмешкай, поўным народнай дасціпнасці словам.

У пасляваенны час дыяпазон адлюстравання камічнага ў творчасці выдатнага драматурга яшчэ больш пашырыўся, набыў новыя колеры і адценні. Сатырычная камедыя «Мілы чалавек», лірычная камедыя «Пяюць жаваранкі», нарэшце, фантастычная камедыя «Брама неўміручасці», дзе стыхія смеху займае надзвычай прыкметнае месца,— усе гэтыя творы падымаюць вельмі значныя жыццёвыя і маральныя праблемы.

Як некалі ў камедыі «Хто смяецца апошнім», у «Браме неўміручасці» драматург падняўся на высокую ступень мастацкай умоўнасці. Але ад гэтага яго твор набывае яшчэ большую эмацыянальную і інтэлектуальную выразнасць. У «Браме наўміручасці» гутарка ідзе пра кардынальныя пытанні грамадскага і чалавечага жыцця, пра вытокі нашай камуністычнай этыкі і маралі.

Наскрозь пранізана новая п'еса Кандрата Крапівы глыбокай філасофскай развагай, «праклятыя», вечныя пытанні сэнсу чалавечага існавання вырашаюцца ў ёй па-народнаму мудра і дасціпна.

Другі раз у творчай практыцы камедыёграфа сфера навуковай дзейнасці дае выразны камедыйны канфлікт. Толькі ў новым творы рухальнікам гэтага канфлікту (у адрозненне ад прайдзісвета Гарлахвацкага з камедыі «Хто смяецца апошнім») з'яўляецца чалавек высакародны, разумны, гуманны — акадэмік-геронтолаг Барыс Пятровіч Дабрыян. Праводзячы свае доследы над падвопытнымі пацукамі, ён нарэшце адкрыў сакрэт, які забяспечыць неўміручасць усяму, што мае

гарачую кроў, дыхае, здольна рухацца ў прасторы і часе.

Дзіва — адкрыццё Дабрыяна ляжыць на мяжы фантастычнага,— але мы яго прымаем як бы нават без асаблівага ўзрушэння. Прычына, мабыць, у тым, што ў век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, выдатных поспехаў савецкай навукі мы проста прызвычаіліся да любых адкрыццяў — заляцеў жа чалавек у космас, вучоныя сінтэзуюць новыя рэчывы, упрытык стаяць ля тайны жывога на зямлі.

Камедыёграф у адпаведнасці з духам часу выбраў свой канфлікт. І ў той жа час здолеў бліскуча паказаць, колькі яшчэ коснага, адсталага ёсць у жыцці, колькі бруду, сапсутых нораваў, заганнай маралі тоіцца ў асяроддзі сучасных мяшчан-абывацеляў, якія апранаюцца ў капроны і нейлоны, ведаюць сэнс самых новых слоўцаў і тэрмінаў, але па-ранейшаму пакланяюцца абымшэламу богу асабістай выгоды і эгаістычнага разліку.

Шматгалосым, нахабным натоўпам праходзяць перад намі ўсе гэтыя людзі «ўчарашняга дня», хцівыя, хітрыя прыстасаванцы, якія не супраць таго, каб увайсці і ў камунізм. Сэнс жыцця ў тых, хто прэтэндуе на «вечны заслужаны адпачынак» — у зладзеяватага адстаўніка Дажывалава, хапугі Караўкіна, жуліка Торгалы, паклёпніцы Застрамілавай, кар'ерыста Скараспея — вельмі просты — карыстацца ўсімі дабротамі, якія дае ім грамадства, і нічога не аддаваць узамен.

З вострым, здзеклівым смехам камедыёграф адмаўляе ў будучыні марнатраўцам і захрыбетнікам, даставалам і прайдзісветам. Такі ідэйны сэнс камедыі. Але ёсць яшчэ адна думка ў гэтым выдатным творы, роўная мастацкаму адкрыццю: наша савецкае, сацыялістычнае жыццё нарадзілася як саюз роўных, вольных людзей, і гэтую вялікую заваёву трэба няўхільна абараняць ад прайдзісветаў і захоўваць у чысціні.

Нягледзячы на ўмоўнасць канфлікту, персанажы камедыі намаляваны ярка, з непаўторнымі індывідуальнымі рысамі. Вернасць традыцыям народнасці дае драматургу плён і ў гэтым, вельмі сучасным па праблематыцы і нават па слоўніку творы: ацэнка з'яў, праяў жыцця вядзецца з пазіцый народнай этыкі і маралі, з бескампрамісных партыйных пазіцый, і гэта забяспечвае твору высокае мастацкае гучанне. Драматург дае ў

ім бой сучаснаму мяшчанству, прыстасавальніцтву, як і заўсёды, услаўляючы сціпласць, працавітасць, выключную адданасць высокім грамадскім ідэалам.

Неўміручасць, бяссмерце чалавека — не ў бясконцым фізічным існаванні, а ў вялікіх справах дзеля шчасця сучасных і наступных пакаленняў — такое філасофскае рэзюме гэтага выдатнага мастацкага твора.

Сапраўдная, непадробная народнасць у спалучэнні з актыўнай грамадзянскасцю, прынцыповай партыйнасцю, высокай камуністычнай ідэйнасцю — такія якасці характарызуюць усё створанае народным пісьменнікам Беларусі, акадэмікам Кандратам Крапівой. Вялікія яго заслугі перад роднай літаратурай і культурай.

Кандрат Крапіва — аўтар шматлікіх прац па мовазнаўству, стваральнік і рэдактар нашых фундаментальных слоўнікаў, на працягу многіх год ён узначальваў Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук БССР. Яго пяру належаць шматлікія артыкулы па пытаннях беларускай літаратуры і асабліва драматургіі.

Многа часу і ўвагі аддае Кандрат Крапіва выхаванню творчай моладзі. Пры яго бацькоўскай падтрымцы вырас, узмужнеў не адзін сапраўдны талент.

Крапівінскія традыцыі ў сатырычным жанры, у драматургіі паспяхова працягвае наступная плеяда пісьменнікаў. Ды і сам ён у жывым страі сучаснай беларускай літаратуры і культуры, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, паплечнік Купалы і Коласа, заслужаны старэйшына роднай літаратуры.

*1973*

## НА СТРОМЕ ЧАСУ

Пакаленне, якое ў юнацкім узросце сустрэла Вялікую Айчынную вайну і ад імя якога так хораша, звонка, на поўныя грудзі загаварыў Іван Пятровіч Шамякін, мы неяк прызвычаіліся лічыць маладым. Можа, ішло гэта ад таго, што людзі, якія прымалі ўдзел у вайне і, прайшоўшы вогненныя віхуры, засталіся жывымі, псіхалагічна былі як бы прыкаваны да гэтай агромністай падзеі, вярталіся да яе зноў і зноў і як бы нанава праходзілі сцежкамі маладосці.

Жыццёвы і творчы шлях Івана Пятровіча Шамякіна вельмі тыповы для яго пакалення. Нарадзіўся ён 30 студзеня 1921 года ў вёсцы Карма, што ў Добрушскім раёне на Гомельшчыне. Бацька служыў лесніком, і яго часта пераводзілі з месца на месца. Для будучага пісьменніка, відаць, немалаважнымі з'яўляліся мясціны, якія ён бачыў перад сабою ў раннім узросце. Дзяцінства — непаўторная пара самых моцных і яркіх уражанняў, калі душа як бы наросхрыст раскрыта для прыгожага, адметнага, незабыўнага. Шамякін у свае маладыя гады нямала пабачыў лясоў, раздольных краявідаў поўдня Гомельшчыны, і, думаецца, мяккая акварэльнасць яго пісьма, лірызм, светлыя эмацыянальныя фарбы ў немалой ступені бяруць вытокі з перажытага ў дзяцінстве.

Некалі Аляксандр Фадзееў, раздумваючы аб духоўным вобліку пакалення маладагвардзейцаў, сказаў, што яно рамантычнае і практычнае адначасова. Перадваенная моладзь, у шэрагах якой рос і выхоўваўся Іван Шамякін, вызначалася абвостранай увагай да рамантыкі подзвігу, яна як бы прадчувала, што хутка і на яе плечы ляжа цяжар суровых выпрабаванняў і нягод. Моладзь гэта рана ўступала ў жыццё, ірвалася да практычных спраў.

Пасля сямігодкі Шамякін паступае ў Гомельскі тэхнікум будаўнічых матэрыялаў. У гэтай, здавалася б, нават залішне празаічнай установе здольны юнак піша вершы, некаторыя з іх надрукавала газета «Гомельская праўда».

Затым — лічаныя тыдні на пасадзе тэхніка райпрамкамбіната ў Беластоку і прызыў у армію. Хлопцы шамякінскага ўзросту ішлі ў армію пад гармонікі. Палыхала ўжо другая сусветная вайна, а ў асобе чырвонаармейца нашы людзі заўсёды бачылі свайго абаронцу.

У кожнага пісьменніка ёсць любімая кніга. У Шамякіна — гэта «Трывожнае шчасце». Аповесці «Непаўторная вясна», «Агонь і снег», «Мост», якія выдзяляюцца ў пенталогіі высокім мастацкім узроўнем, мяккім лірызмам, глыбокім псіхалагізмам, у значнай меры творы аўтабіяграфічныя. Тут пісьменніку, нягледзячы на шчаслівую здольнасць лятаць на крылах фантазіі, здаецца, прыйшлося выдумваць не так ужо многа. Аповесці гэтыя — добрая, праніклёная споведзь пакалення, да якога належыць сам пісьменнік. Тут ёсць цудоў-

ная рамантыка маладосці, першага кахання, юнацкіх роздумаў аб жыцці. Пахне тут прасторамі Прыдняпроўя, нібы зрокава паўстаюць перад намі краявіды Поўначы.

Пра герояў названых аповесцей можна сказаць, што яны дзеці рэвалюцыі і дзеці вайны. З малаком маці ўспрынялі яны ідэалы Савецкай улады, якая расчыніла перад імі жыццёвыя дарогі, далягляды, дала магчымасць выявіць свае здольнасці. Усё гэта юнакі і дзяўчаты былі гатовы абараняць цаной уласнага жыцця. Менавіта тут вытокі таго бяспрыкладнага ў гісторыі гераізму, які праявіў савецкі народ у Вялікай Айчыннай вайне. Забягаючы наперад, варта сказаць, што, панёсшы велізарныя страты, ахвяраваўшы мільёнамі жыццяў, адолеўшы пасляваенныя нягоды, савецкая моладзь мінулай вайны ў сваім светаўспрыманні нават аддалена не нагадвала «згубленае пакаленне» першай сусветнай вайны, апетае Рэмаркам.

У час вайны Іван Шамякін служыў артылерыстам-зенітчыкам на Поўначы, пад Мурманскам. Потым, на заключным этапе схваткі з ворагам, былі новыя ваенныя дарогі — Польшча, Германія.

Калі пасля вайны Іван Шамякін стаў працаваць у вёсцы Пракопаўка Цярахоўскага раёна настаўнікам у сямігодцы і сакратаром тэрытарыяльнай партарганізацыі, яго ўладна пацягнула да сябе літаратура. Яму было пра што расказаць. За плячамі была вайна, ды і добтое мірнае жыццё, якое разгортвалася навокал, ён добра бачыў і актыўна ў ім удзельнічаў.

Першае яго апавяданне «У снежнай пустыні» надрукавана яшчэ ў 1945 годзе ў часопісе «Полымя». Яно — пра баі з фашыстамі на Крайняй Поўначы, пра характво, веліч душы савецкага салдата. Гэта ж тэма і ў аповесці «Помста».

Можна сказаць, што, пачынаючы з «Помсты», вызначыўся напрамак творчых пошукаў пісьменніка. Івана Шамякіна найбольш цікавіць станаўленне характару, духоўнага вобліку яго сучасніка. У маёра Рамаменкі, героя аповесці «Помста», фашысты знішчылі сям'ю — жонку і дзяцей. Поўны пачуцця святой нянавісці, маёр прыходзіць у Германію. Здараецца так, што ён знаходзіць сям'ю вылюдка, вінаватага ў смерці родных. Але ён не помсціць. Раманенка — савецкі воін

і чалавек — прыйшоў у фашысцкае котлішча, каб вызваліць саміх немцаў ад засілля карычневай чумы.

Вясной 1948 года быў закончан раман «Глыбокая плынь». Дзеля таго каб напісаць гэтую кнігу, Шамякін многа папрацаваў. Ён, як ужо гаварылася, працаваў настаўнікам, сакратаром партарганізацыі, вольнага часу меў мала. Тым не меней ён абышоў пехатой ледзь не ўсё Гомельскае Прыдняпроўе, пагаварыў з дзесяткамі людзей і ўражанняў меў столькі, што яны далёка не ўмясціліся ў «Глыбокую плынь».

Поспех рамана быў незвычайным. Яго перакладалі на многія мовы, і ў хуткім часе трыццацігадовы Шамякін — лаўрэат саюзнай Дзяржаўнай прэміі.

Што абумовіла такі вялікі поспех рамана? Сёння, дзякуючы значнай дыстанцыі ў часе, мы, здаецца, яшчэ яскравей, чым тады, можам зразумець гэтыя прычыны. «Глыбокая плынь» — твор выразна рамантычны. У абмалёўцы сваіх герояў пісьменнік яшчэ не ведае паўтонаў, шамякінскія героі — носьбіты пераважна адной страсці, адной ідэі. Яны, калі добрыя, прыгожыя, то да канца, да апошняй клетачкі сваёй істоты. І наадварот, адмоўныя героі — суцэльна чорныя. Супярэчнасць ёсць, бадай, толькі ў вобразе Карпа Маеўскага. Чалавек ён харошы, нават выдатны, а вось неяк патрапіў звязацца з нягоднай Пелагеяй. Зрэшты, і гэтую супярэчнасць пісьменнік з поспехам ліквідуе.

Пакаленне, якое выносіла прысуд раману, прымала самы актыўны ўдзел у нядаўняй вайне, было таксама рамантычным. Яно мысліла «высока», гэтае пакаленне пераможцаў, нават у пасляваенных нягодах жывучы нядаўнімі велічнымі падзеямі. Пісьменнік тонка ўгадаў усеагульную настроенасць на высокае, сказаўшы патрэбнае слова ў патрэбны час.

У Таццяне Маеўскай маглі пазнаць сябе сотні маладых падпольшчыц, партызанак, як і ў Карпе Маеўскім, яе бацьку, старэйшае пакаленне — партызан, учарашніх калгаснікаў. Такімі ж жыццёва праўдзівымі былі вобразы камісара партызанскага атрада Лясніцкага, маладога партызана Жэнькі Лубяна. Сярод усіх гэтых вельмі «звычайных» герояў выдзяляецца хіба толькі разведчык Андрэй Буйскі, чалавек выключна смелых учынкаў, майстар пераўвасабленняў, дыверсій, якія ляжаць на мяжы магчымага і фантастычнага. Варта сказаць, што партызанскаяява давала і такіх герояў.

Другая справа, што пісьменнік выкарыстаў не ўсе фарбы і мастацкія сродкі, каб з псіхалагічнага боку паўней раскрыць гэты абаяльны, рамантычны вобраз.

Фашысты-акупанты ў асобе Візэнера, Рэдара пададзены ў гратэскавым, шаржыраваным плане. Яны паўстаюць перад чытачом у сваім непрыхаваным людаедскім абліччы. Гэта і сёння не пярэчыць гістарычнай праўдзе, бо менавіта такімі па сваёй сутнасці і былі фашысцкія захопнікі, якія грабілі, расстрэльвалі, вешалі, палілі жывымі савецкіх людзей, устанаўліваючы «новы парадак».

Творы, якія ўзніклі па гарачых слядах вайны або ў першае пасляваеннае дзесяцігоддзе, як бы мелі на мэце паказаць перш за ўсё гераічны бок вайны, мужнасць, стойкасць, вышыню подзвігу савецкага чалавека. «Глыбокая плынь» Івана Шамякіна з ліку гэтых твораў. Раман напісан востра, займальна, дзеянне яго сканцэнтравана ў адным ёмістым фокусе. Пісьменнік з першых літаратурных крокаў заявіў аб сабе як аб умелым майстры стройнага сюжэта, цэласнай кампазіцыі.

Уражанне ад «Глыбокай плыні» было надзвычай чыстае, светлае, тое, аб чым расказваў пісьменнік, супадала з агульнымі для многіх думкамі і назіраннямі. Я, напрыклад, падумаў, што Іван Шамякін сам быў у партызанах, таму здолеў так хораша і пераканаўча намаляваць карціну народнай барацьбы. Пазней высветлілася, што пісьменнік знаходзіўся далёка ад прыдняпроўскіх мясцін, ваяваў на Поўначы, аж пад Мурманскам, і гэта толькі ўзмацніла да яго павагу.

Пісьменнік малюе ўзаемадачыненні звычайнай беларускай вёскі і партызанскага атрада. Гэта было і тыпова, і праўдзіва. І герояў выключных Іван Шамякін не выбірае, а паказвае людзей самых звычайных, прыгожых сваімі імкненнямі і справамі.

Кніга і цяпер жыве, чытаецца, не страціла сваёй цікавасці, асабліва для юнага чытача. Іван Шамякін, няхай сабе ў рамантычнай форме, здолеў данесці да чытача вельмі важную, але адначасна і простую ісціну: партызанскі рух як сіла мог паспяхова існаваць таму, што яго падтрымліваў народ. Была ў рамане і другая думка, роўная мастацкаму адкрыццю: савецкіх людзей звялі ў партызанскі лес не дарогі асабістай крыўды, знявагі, а прычыны больш сур'ёзныя. Хораша, пераканаў-

ча пісьменнік паказаў, што не маглі людзі, выхаваныя савецкім ладам, змірыцца з парадкамі, якія няслі ім фашысцкія акупанты.

Прайшлі пасля «Глыбокай плыні» два-тры гады, у жыцці наспелі новыя вострыя праблемы. Яны патрабавалі свайго мастацкага асэнсавання. Па гарачых слядах падзей нараджаецца наступны раман Івана Шамякіна «У добры час» (1953).

У гэтым рамане — незабыўная атмасфера пасляваеннага калгаснага аднаўлення, шчырая радасць людзей, якія пакідаюць спадчыну фашысцкага ліхалецця — зямлянкі — і перасяляюцца ў новыя мірныя хаты, ладзяць гаспадарку, дамагаюцца нават таго, чаго да вайны не было,— праводзяць электрычнасць. Шамякін і ў гэтай кнізе паўстае ў значнай меры як рамантык. Тут нямала яркіх малюнкаў, трапных дэталей, ад якіх патыхае паэзіяй вясковага жыцця. Ёсць і вобразы, створаныя адпаведна з рамантычнай эстэтыкай,— Васіля Лазавенкі, Машы Кацуба. Але супярэчнасці, якія бачыў пісьменнік у жыцці, ужо не ўкладваліся ў рамкі адналінейна-ідэальнага вобраза. Характар Максіма Лескаўца, учарашняга афіцэра-франтавіка, якога аднасяльчане, памятаючы заслугі яго бацькі, выбіраюць старшынёй калгаса, мае яўны нахіл да псіхалагічнай складанасці, у ім «суіснуюць» самыя процілеглыя пачаткі.

Пісьменнік нібы выхапіў з жыцця гэты вобраз, грунтоўна, у псіхалагічным плане паказаўшы, як мітусіцца ў пасляваенным калгасным жыцці Максім Лескавец, нярэдка робячы і няправільныя крокі. Ёсць шмат прывабнага ў гэтым чалавеку. Ён настойлівы ў дасягненні пастаўленай мэты, імкнецца кіравацца ўласным розумам, не любіць апекі. А ўсё ж хоць адбаўляй: разумныя і не надта разумныя парады сыплюцца з усіх бакоў, камандуюць Максімам усе — каму трэба і каму не трэба.

Думаецца, вобразам Максіма Лескаўца пісьменнік паставіў вельмі значную праблему, якую наша крытыка абмінае ледзь не да апошняга часу. Гэта датычыць і ўзаемаадносін героя з каханай дзяўчынай Машай Кацуба. Яна шэсць гадоў чакала яго. Максім жа як бы здрадзіў каханню: вярнуўшыся ў вёску, ён пазбягае сустрэч з Машай, а выпадкова напаткаўшы дзяўчыну на вуліцы, не можа ўтаіць расчаравання.

Хто ж такі Максім Лескавец? Ці сапраўды ён настолькі зазнаўся, паверыў у сябе, што страціў пачуццё рэальнасці і тыя добрыя чалавечыя рысы, якія, бясспрэчна, былі ўласцівы яму ў мінулым? Ён, вядома, самалюбівы, ганарысты, калючы. Але справа, відаць, не толькі ў гэтых асабістых якасцях героя, а ў чымсьці глыбейшым. На вайне, на фронце, наводдаль ад дому, дзе ўсе яго ведалі, Максім вырас. Ён не той, кім быў раней. Яго патрабаванні да жыцця, ідэалы сталі другімі, больш высокімі. Цяга Максіма да Ліды Ладынінай, адукаванай, прывабнай настаўніцы, якраз і сведчыць пра новы ўзровень духоўных імкненняў героя.

Пісьменніку, аднак, не ўдалося адліць вобраз Максіма Лескаўца, як і рамана ў цэлым, у дасканалую мастацкую форму. У другой і асабліва ў трэцяй частцы твора адчуваецца жаданне аўтара «прычасаць» героя, зрэзаць вострыя вуглы, зняць супярэчнасці. Гэта было ў духу патрабаванняў тагачаснай крытыкі, якая шырока прапагандавала тэзіс аб барацьбе «добрага з выдатным» і не выказвала асаблівай прыхільнасці да герояў, што не ўкладваліся сваім супярэчлівым духоўным абліччам у яе нарматыўныя ўяўленні аб станоўчым. Так або інакш, але менавіта з вобраза Максіма Лескаўца пачынаецца ў творчасці Шамякіна галерэя характараў, што прывабяць чытача сваёй сацыяльна-грамадскай значнасцю і псіхалагічнай супярэчлівасцю.

Шмат дае для разумення працэсаў, што адбыліся ў беларускай вёсцы першых пасляваенных гадоў, «перыферыя» рамана «У добры час», так званыя вобразы другога і трэцяга планаў, за якімі ўгадваюцца рэальныя чалавечыя тыпы, носьбіты тых або іншых грамадскіх тэндэнцый. Хітры, сквапны да грамадскага дабра былы старшыня калгаса Амяллян Шаройка, старшыня сельсавета Байкоў, сакратар партарганізацыі і вясковы доктар Ладынін, дырэктар школы Мяцельскі, дырэктар МТС Крыловіч, старшыня сельпо Гольдзін, трактарыст Прымак, нізенькая тоўстая Гаша з фермы, бабка Гаўрыліха — усё гэта вобразы, падгледжаныя пісьменнікам у гушчы жыцця і перанесеныя на старонкі кнігі.

У рамане паўстае непаўторная атмасфера вялікіх надзей, якія мелі нашы людзі адразу пасля вайны. Цяжкасці, што ўзнікалі ў разбуранай, спустошанай нашэсцем чужынцаў вёсцы, учарашнім франтавікам, партызанам здаваліся нескладанымі, лёгкімі ў параўнанні

з тымі нягодамі, якія ім прыйшлося вынесці на вайне. Пісьменнік з захапленнем паказвае нам будні калгаснага побыту, не мінаючы ніводнай больш-менш значнай праявы ў жыцці тагачаснай вёскі. Не толькі, скажам, будаўніцтва электрастанцыі, перасяленне пагарэльцаў з зямлянак у новыя хаты, як факты па тым часе важныя, цікавяць празаіка, а ўвогуле ўсё, чым вызначаецца цыкл жыцця сельскага раёна: лесанарыхтоўкі, ворыва, сяўба, уборка ўраджаю, дзейнасць МТС, работа звенняў. Для вырашэння маральных і псіхалагічных праблем месца застаецца мала, яны часта падмяняюцца праблемамі надуманымі, якія ў канечным рахунку прыводзяць да стварэння саладжава-сентыментальных вобразаў, як бездакорна чысты старшыня калгаса, антыпод Лескаўца, Васіль Лазавенка. Але, паўтараем, і ў ідэалізаваным, святочна-прыўзнятым па сваёй танальнасці малюнку тагачаснага жыцця шмат знаходак, адкрыццяў, бо гэты малюнак праўдзіва даносіць да нас пафас пасляваенных надзей і ілюзій.

Пройдуць тры-чатыры гады, і ў новым рамане «Крыніцы» (1957) Іван Шамякін зробіць патрэбныя карэктывы, больш сур'ёзна зірне на калгаснае жыццё і на тыя супярэчнасці, якія ў ім наспелі.

Раман «Крыніцы» — буйная ўдача пісьменніка, яго творчы ўзлёт. Ён напісаны сталым, вопытным майстрам, у якога незвычайна востры сацыяльны зрок, уменне выдзеліць у жыцці самае істотнае. Кніга вельмі цэласная сваёй кампазіцыяй, сюжэтнай завершанасцю. Калі ў папярэдніх творах найболей удалымі, яркімі былі галоўныя вобразы, фігуры першага плана, а астатнія пераважна «ўгадваліся», то ў «Крыніцах» поўнае мастацкае грамадзянства набылі персанажы другарадныя і нават эпізадычныя. Майстэрства пісьменніка вырасла па ўсіх лініях: прыхільнік «паэтычнай», эмацыянальна афарбаванай прозы, ён заяўляе сябе тут і глыбокім, тонкім псіхолагам, калі раней яго іншы раз папракалі за недастатковую мастацкую выразнасць мовы, то цяпер усе сышліся на думцы, што ў новым рамане яна стала лепшай.

«Крыніцы» — твор шматпланавы. Ён расказвае аб прыкметах часу, аб крушэнні зазнайства і параднасці, увасабленнем якога выступае дзеяч раённага маштабу Арцём Барodка, аб выхаванні бадзёрай, духоўна здаровай змены, вартай сваіх мужных бацькоў. Дырэктар

школы Лемяшэвіч, вучань яго Алёша Касцянок, урач Наталля Пятроўна, калгасны рахункавод Полаз, звеннявая Аксіння Снягір, старшыня райвыканкома, а пазней калгаса Валатовіч — гэта ўсё нявыдуманыя паўнакроўныя характары, кожны са сваёй непаўторнай чалавечай індывідуальнасцю, яны прыйшлі на старонкі кнігі з глыбінь народнага жыцця.

Раман «Крыніцы» таксама народжан сваім часам. Увогуле Івана Шамякіна як пісьменніка вызначае шчаслівае ўменне ўлавіць, увасобіць у мастацкім вобразе тое, што як бы яшчэ носіцца ў паветры, не мае назвы, ляжыць на грані пачуцця і свядомасці. Таму, зрэшты, усе яго кнігі нараджаліся як адказ мастака на вострыя і надзённыя пытанні імклівай явы, угадвалі штосьці вельмі істотнае ў зрухах індывідуальнай псіхалогіі і грамадскай свядомасці. Але вернемся да рамана.

Ён, як і папярэдні, па сваёй тэматыцы пераважна «сельскі». Але ў новым творы пісьменніка найменш цікавяць розныя гаспадарчыя дэкады, месячнікі, кампаніі. Ён ставіць перад сабой высакародную мастацкую задачу больш сур'ёзнага плана: «знутры», сродкамі псіхалагічнага раскрыцця паказаць, кім па сваіх маральна-этычных, грамадскіх якасцях з'яўляюцца вясковыя працаўнікі, інтэлігенты, кіраўнікі раённага звяна, і дамагаецца немалога поспеху. Але і ў гэтым творы ёсць вобразы, намаляваныя пераважна ружовай фарбай. Да іх ліку трэба аднесці настаўніка Данілу Платонавіча Шаблюка, участковага ўрача Наталлю Пятроўну Груздовіч-Марозаву, хоць цалкам адмовіць гэтым вобразам у жыццёвай верагоднасці, праўдзівасці нельга.

У цэлым раман населен людзьмі жывымі, адзін на аднаго непадобнымі, дапытлівымі, цікавымі. Пісьменнік значна пашырае кола жыццёвых назіранняў: акрамя калгаса ёсць школа, вучнёўская моладзь, настаўніцкі калектыў, у пэўнай меры дзейнасць райкома і райвыканкома.

Івану Шамякіну належыць у беларускай літаратуры першаадкрыццё такой шкоднай антыграмадскай з'явы, якой з'яўляецца «бародкаўшчына». Арцём Бародка, першы сакратар райкома, па-свойму яркі і прывабны чалавек, не разумее новых павеваў часу, залішне пакладаецца на сілу ўласнага аўтарытэту, адміністрацыйнага загаду і ў канечным рахунку становіцца перашкодай для грамадскага развіцця.

Канфлікт, які ў творы развіваецца, нібы не ляжыць на галоўнай лініі рамана. Дырэктар Крыніцкай дзесяцігодкі Міхась Лемяшэвіч, які толькі-толькі прыехаў на працу, сутыкаецца з Бародкам больш у сферы маральна-этычнай, чым грамадска-сацыяльнай. Але так здаецца толькі на першы погляд.

Менавіта раскрыццё асабістых маральных якасцей Бародкі дапамагае пісьменніку ярка і пераканаўча паказаць грамадскае перараджэнне героя, страту ім сапраўды партыйных пазіцый, яго двудушша і крывадушша. У святле «асабістых» паводзін Арцёма Бародкі робяцца больш адчувальнымі эгаістычныя, выразна адмоўныя ўчынкі завуча школы Арэшкіна, метады кіраўніцтва калгасам яго старшыні, недалёкага, абмежаванага, недаверлівага да людзей Патапа Махнача, і нават тое, як выхоўвае сваю дачку, старшакласніцу Раісу, увогуле разумная і дзейсная звеннявая Аксіння Хвядосаўна Снягір.

Жыццё сельскай школы — як бы цэнтральны вузел рамана. Гэта не азначае, што пісьменнік абмінае іншыя праявы вясковай рэчаіснасці. Не, вёска сярэдзіны пяцідзесятых гадоў з усімі яе клопатамі, супярэчнасцямі, нявырашанымі пытаннямі паўстае ў творы як на далоні, можа быць, дзякуючы іменна таму, што падзеі яе жыцця ўбачаны вачамі адукаваных, шчырых, перадавых людзей свайго часу — настаўніка Лемяшэвіча, старшыні райвыканкома, а затым старшыні Крыніцкага калгаса Валатовіча, вучня Алёшы Касцянка.

Пра моладзь Іван Шамякін заўсёды пісаў многа і ахвотна. Выразная гэта тэма і ў «Крыніцах». Дастаткова ўспомніць вобраз Алёшы Касцянка, дапытлівага старшакласніка, з яго юнацка-прасталінейным поглядам на свет, працавітасцю, рашучасцю, чысцінёй паводзін. Характар Алёшы яшчэ канчаткова не склаўся, пісьменнік паказвае свайго героя на тым супярэчлівым псіхалагічным пераломе, калі дзяцінства ўжо скончылася, а сталасць не наступіла. Алёша ў час летніх канікул працуе камбайнерам, кахае аднакласніцу Раісу, на знявагу з боку завуча Арэшкіна адказвае тым, што пакідае школу. З вобразам Алёшы Касцянка пісьменнік звязвае цэлы шэраг праблем выхавання маладой, падрастаючай змены, якая дастойна замяніць бацькоў.

Раман Івана Шамякіна «Сэрца на далоні» (1964) у многім як бы працягвае ўнутраную тэму папярэдняга.

I ўсё ж у новым творы пісьменнік паставіў для сябе новую задачу. Раней была вёска, калгас, сельская інтэлігенцыя — адным словам, галіны жыцця, дастаткова вывучаныя беларускай літаратурай. Цяпер перад намі абласны, індустрыяльны горад, бурны, імклівы паток жыцця, людзі горада — партыйныя і савецкія работнікі, урачы, журналісты, рабочыя завода.

Своеасаблівая пабудова рамана: мінулае прысутнічае ў ім як сённяшняе, карціны і эпізоды барацьбы савецкага падполля, якое дзейнічала ў горадзе ў гады фашысцкай акупацыі, цесна пераплецены, звязаны з цяперашняй дзейнасцю амаль усіх асноўных герояў — журналіста Шыковіча, урача Яраша, старшыні гарсавета Гукана, дачкі доктара Савіча Зосі.

Напалавіну забытая справа доктара Савіча, сумленнага савецкага чалавека, які загінуў на патрыятычным пасту ад фашысцкіх рук і якога паспешліва і несправядліва абвінавацілі пасмяротна тыя, хто павінен быў абараняць яго добрае імя,— гэтая «справа» становіцца ўнутранай тэмай рамана, важнай часткай яго задумы. Яна пралівае святло на мінулае і цяперашняе герояў, з'яўляючыся своеасаблівай «лакмусавай паперкай», па якой як бы правяраецца сутнасць характараў.

Вобраз Гукана некаторымі рысамі нагадвае Бародку з рамана «Крыніцы». Але варта сказаць, што пісьменнік раскрывае характар Гукана з большай псіхалагічнай глыбінёй, пераканаўчасцю, дакапваючыся да яго чыста чалавечых і сацыяльных вытокаў.

Журналіст Кірыла Шыковіч быў калісьці сааўтарам кнігі Сямёна Гукана, у гады вайны камісара партызанскага атрада, а цяпер старшыні гарадскога Савета. Для свайго часу кніга здавалася патрэбнай, праўдзівай: яна ўваскрашала подзвігі тых, хто, не дбаючы аб уласным жыцці, змагаўся за шчасце Радзімы. Але праміну-лі гады, з руін падняўся горад, вялікія перамены адбыліся ў грамадскім жыцці, і журналіст Шыковіч пачынае крытычна глядзець на сваю літаратурную працу. Цяпер яму ясна, што ў кнізе шмат недахопаў, белых плям, што ў ёй расказана не ўся праўда пра ўсенародную барацьбу з фашызмам. Сумленне савецкага чалавека і журналіста штурхае Шыковіча на пошукі новых матэрыялаў аб гарадскім падполлі. Ён пераконаны, што ў імя Радзімы аддалі свае жыцці тысячы і тысячы безыменных герояў, цэпкіх, мужных людзей. А безы-

менных герояў не павінна быць! Іх павінны ведаць, імі павінны ганарыцца сучасныя і наступныя пакаленні. Шыковіч наважваецца пісаць новую дакументальную аповесць аб удзельніках падполля.

Так уваходзіць у раман тэма подзвігу, гераічнага змагання бацькоў.

На шляху Шыковіча паўстаюць двое: удзельнік падполля таленавіты хірург Яраш і старшыня гарсавета Гукан. Іх паводзінамі кіруюць розныя матывы. Калі Яраш напачатку лічыць, што не варта варушыць былыя, напаўзабытыя справы, то толькі таму, што ўспамін аб іх прынясе новы боль тым, каго яны датычаць. Некалі Яраш, не баючыся застацца ў адзіноце, выступіў супраць кнігі Гукана, убачыўшы ў ёй аднабокую, фальшывую карціну падпольнай барацьбы.

Яраш у хуткім часе мяняе погляд на стан рэчаў. Ён з ліку людзей, хто запальваецца ўсёй душой, калі пераконваецца ў справядлівасці той або іншай справы. Напаткаўшы абалганую, скалечаную фізічна і духоўна Зосю Савіч, дзяўчыну, якая выратавала яму ў гады вайны жыццё, Яраш пачынае бескампрамісную барацьбу за аднаўленне добрага імені доктара Савіча.

Справа доктара Савіча — сюжэтны цэнтр, той мастацкі фокус, які «цэментуе» дзеянне, звязвае яго ў адзінае цэлае. Не спалохаўшыся гісторыі, якая знешне нагадвае звычайны дэтэктыў (падпольная барацьба нараджала сотні такіх мяжуючых з фантастыкай гісторый), пісьменнік здолеў насыціць старонкі аб гарадскім падполлі добрым, пераканаўчым псіхалагізмам, данесці да чытага суровую, поўную трагічных нечаканасцей праўду жыцця.

Напаўзабытая справа доктара Савіча, сумленнага савецкага чалавека, патрыёта, які паводле жорсткіх законаў падпольнай барацьбы прыняў знешняе аблічча пасобніка акупантаў, быў імі выкрыт і загінуў ад іх рук, а пазней быў пасмяротна абвінавачаны тымі, хто па абавязку баявога таварыства павінен быў рабіць адваротнае,— «справа» гэта становіцца ўнутранай тэмай рамана, важнай часткай яго ідэйнай сутнасці.

Сямён Гукан супраць перагляду, або, як ён гаворыць, «рэвізіі» дзейнасці гарадскога падполля. Ён непрымірыма і проста такі варожа ставіцца да нябожчыка Савіча і яго дачкі Зосі, якая вярнулася ў горад. Хто ж ён такі, Гукан?

Пісьменнік не закрэслівае некаторых станоўчых рысаў героя. Гукан смела ваяваў, ёсць у яго свае заслугі ў аднаўленні разбуранага вайной горада. Але чытаеш старонку за старонкай твор і ловіш сябе на нядобрым пачуцці да гэтага чалавека, якое расце і ўзмацняецца. Зося, не ведаючы, што расказвае пра Гукана, называе чалавека з халоднымі вачамі, які нават не падзякаваў яе бацьку і ёй за тое, што, рызыкуючы жыццём, яны далі яму прытулак у захопленым фашыстамі горадзе. Нарэшце перагорнута апошняя старонка. Нам вядома пра асабісты ўдзел Гукана ў шальмаванні Зосі, дачкі доктара Савіча, і апошнія ілюзіі развейваюцца. Перад намі чалавек, здольны будаваць уласную кар'еру на няшчасці сумленных людзей, чалавек, які не мае маральнага права называцца кіраўніком. Верны жыццёвай праўдзе, пісьменнік паказвае, як сама наша рэчаіснасць, усё тое новае, што ўвайшло ў яе пасля вядомых рашэнняў партыі, выкідвае за борт кар'ерыстаў, прыстасаванцаў, людзей, што вышэй за ўсё ставяць свой асабісты дабрабыт.

Увогуле ж раман населен людзьмі добрымі, неспакойнымі, шукальнікамі па натуры, якія, нібы асабістую, успрымаюць чужую бяду і актыўна змагаюцца са злом. Галерэя станоўчых вобразаў, намаляваных Іванам Шамякіным у творы, багатая як грамадска-сацыяльным зместам, так і доляй тых жыццёвых падрабязнасцей, якія робяць гэтыя вобразы непаўторнымі чалавечымі індывідуальнасцямі.

Бадай, лепшы ў рамане вобраз урача Яраша. Пісьменнік знайшоў яркія, пераканаўчыя фарбы, каб намаляваць чалавека дзелавога, энергічнага, бліскучага спецыяліста. Гуманная сама прафесія Яраша: ён хірург, ён вяртае людзям здароўе і жыццё. Але яшчэ больш каштоўныя для нас душэўная чысціня, гарачая самаахвярнасць, гатоўнасць да штодзённага подзвігу — якасці, што складаюць самую сутнасць характару Яраша. Па-свойму арыгінальная асоба Шыковіча, хоць з мастацкага боку ён выпісан слабей за Яраша.

Многія старонкі рамана прысвечаны моладзі, яе справам і імкненням, праблемам выхавання. Уздымаючы гэты так мала кранутыя нашай прозай пласт, Шамякін сказаў сваё слова аб тых, хто толькі пачынае шлях у вялікае жыццё.

Унутраная тэма рамана, яго перспектыва — брац-

лігенцыі. Герой трылогіі Лабановіч, чалавек дапытлівага розуму, шукае адказу на пытанне: што з'яўляецца асноўнай вартасцю жыцця? Ён знаходзіць адказ на гэта пытанне ў плённай грамадскай дзейнасці, у рэвалюцыйнай барацьбе.

Сцяпан Барута, герой аповесці «На прасторах жыцця», таксама шукае шляхоў для вызначэння свайго месца ў жыцці і знаходзіць гэты шлях «у шырокіх размахах грамадскай работы».

Імкненні абодвух герояў аднолькавыя, сацыяльныя абставіны розныя. Таму і розныя вынікі дзейнасці Лабановіча і Сцяпана Баруты. Лабановіч некалі марыў наладзіць грэблю, асушыць балота. Яго намеры не здзейсніліся, бо сяляне, да якіх звяртаўся настаўнік, не адчувалі сябе сапраўднымі гаспадарамі жыцця.

Дзейнасць Сцяпана Баруты разгортваецца ва ўмовах, калі памешчыцкае засілле знішчана, калі ўлада ў краіне належыць народу. Але хоць стары свет адышоў назаўсёды, старыя ўяўленні і норавы яшчэ даволі моцныя, яны не хочуць саступаць дарогі новаму, ім трэба даць бой. Бой гэты — не кавалерыйская атака, а марудна-зацятая, напружаная, доўгая барацьба, праца па ўкараненню новых форм жыцця і ў першую чаргу рэальных вынікаў гэтага жыцця.

«Пасля звяржэння цароў, памешчыкаў і капіталістаў,— пісаў Ленін,— упершыню толькі ачышчаецца поле для сапраўднай будоўлі сацыялізма, для выпрацоўкі новай грамадскай сувязі, новай дысцыпліны агульнай працы... Гэта справа пераробкі саміх нораваў, надоўга спаганеных, сапсаваных праклятай прыватнай уласнасцю на сродкі вытворчасці, а разам з ёй усёй той атмасферай грызні, недавер'я, варожасці, раздробненасці, узаемных падкопаў, якая немінуча параджаецца — і заўсёды адраджаецца зноў — дробнай адасобленай гаспадаркай...» [1]

Вызначальнай тэмай аповесці Я. Коласа і з'яўляецца агульная, калектыўная праца, якая заклікана перарабіць самую прыроду чалавека, прыроду нораваў, « спаганеных, сапсаваных праклятай прыватнай уласнасцю», характар узаемаадносін людзей у працы, у супольным жыцці, у каханні і г. д.

Цікава, што за напісанне твора, героем якога з'яў-

---

[1] Ленін У. І. Творы, т. 31, с. 100.

ляецца савецкая моладзь, узяўся не хто іншы, а Якуб Колас, і пасля таго, як некаторыя крытыкі-верхагляды абвясцілі яго творчасць устарэлай, непатрэбнай, якія пісалі аб тым, што паэт можа спяваць толькі «старыя, недапетыя песні».

Аповесць «На прасторах жыцця» палемічная па сваёй ідэйнай накіраванасці. Сваім разуменнем працы, грамадскай дзейнасці як асноўнай вартасці жыцця Я. Колас палемізаваў з тымі прадстаўнікамі «Маладняка», якія па-ранейшаму шукалі вытокаў чалавечага шчасця ў нейкіх бясконцых «узрывах», у «агністых палётах» да невядомага і г. д.

Павярхоўны падыход да адлюстравання жыцця, зняважлівае стаўленне да літаратуры мінулага, нежаданне сур'ёзна працаваць над літаратурнымі творамі, што мела месца сярод некаторай часткі маладнякоўцаў,— усё гэта было з'едліва высмеяна пісьменнікам у апавяданнях-памфлетах «Трыумф» і «Драматург і лірычны паэт». Герой апошняга апавядання, напаўпісьменны вясковы хлопец Амелька Шчыт, збіраецца стаць пісьменнікам па той прычыне, што пісьменніцкая работа, на яго думку, прыносіць лёгкую славу, цёплае месца ў жыцці. Звычайная, будзённая праца не вабіць Амельку. Хоць ён пакуль і сядзіць на шыі бацькоў дармаедам, але з пагардай адносіцца да іх працы: «Капаюцца, як чэрві, у зямлі і ў брудзе і яго туды ж цягнуць. Не, брат, дудкі! Амелька ж не дурань, каб не ведаць, што дабро і што блага».

Яўна цэлячы ў залішняе захапленне некаторых маладнякоўцаў гучнымі, беззмястоўнымі вершамі, Колас малюе ў апавяданні і партрэт «паэта» — Арцёма Гучнага. Вось узор паэтычнай дзейнасці Арцёма Гучнага, у творах якога «нават звычайныя нуда і ліха выступалі весела, бадзёра, радасна»:

Я хачу смяяцца
У радасці кудлатай,
Каб чырвоным смехам
Ачырвоніць хаты.
Я хачу смяяцца
І без дай прычыны...

Пафас сцвярджэння калектыўнай працы, «шырокіх размахаў грамадскай работы» ляжыць у аснове аповесці Коласа «На прасторах жыцця». Гэты твор з'яўляецца самым істотным водгукам пісьменніка на

праявы новай, савецкай рэчаіснасці. Той факт, што пісьменнік накіраваў сваю ўвагу на савецкую моладзь, як на сілу, заклікануую перабудаваць стары свет, з'яўляецца ў многіх адносінах паказальным. Моладзь нясе ў сабе найменшы груз уяўленняў, звычак, схільнасцей старога, аджыўшага свету, моладзь — будучае краіны.

Асноўнай у аповесці з'яўляецца праблема выхавання новых адносін да працы, да жыцця, праблема выхавання характару, светапогляду маладога савецкага чалавека, будаўніка новага, камуністычнага грамадства. Пісьменнік вырашае яе ў поўнай адпаведнасці з тымі задачамі, якія ставіла перад моладдзю Камуністычная партыя.

«Мы павінны ўсякую працу,— пісаў У. І. Ленін,— якой бы яна ні была бруднай і цяжкай, пабудаваць так, каб кожны рабочы і селянін глядзеў на сябе так: я — частка вялікай арміі свабоднай працы, і здолею сам пабудаваць сваё жыццё без памешчыкаў і капіталістаў, здолею ўстанавіць камуністычны парадак» [1].

Сцёпка Барута — сын працоўнай вёскі, і ён хоча будаваць новае жыццё. Пісьменнік малюе яго вобраз з асаблівай цеплынёй. Наогул вобразы герояў аповесці як бы ўзмацняюцца эмацыянальнымі адносінамі да іх самога пісьменніка. Мастацкі прыём, выкарыстаны Я. Коласам у аповесці «На прасторах жыцця», цікавы і своеасаблівы. Пісьменнік у адносінах да сваіх герояў нібы становіцца ў позу старэйшага таварыша, настаўніка, які сочыць за кожным іх крокам у жыцці, радуецца іх поспехам і нават крыху зайздросціць іх невычэрпнай энергіі, маладосці.

Пластычнасці апісання пісьменнік дасягае праз эмацыянальную ацэнку падзей і з'яў. Падобны прыём шырока выкарыстаны Я. Коласам і ў аповесці «Дрыгва», і ў іншых творах.

Вобразам Сцёпкі пісьменнік сцвярджае маладыя, здаровыя сілы, народжаныя Кастрычнікам і Савецкай уладай. Бадзёраму, моцнаму духам хлопцу не па душы тое жыццё, якое пануе ў яго вёсцы. На свеце адбылася рэвалюцыя, няма больш пана-прыгнятальніка, а жыццё цячэ нібы па старым рэчышчы. Праўда, зрухі ёсць, але яны пакуль яшчэ не закранулі самой асновы старога парадку — сяляне сядзяць кожны на сваёй па-

---

[1] Ленін У. І. Творы, т. 31, с. 272.

лосцы зямлі, якая хоць і павялічылася ў параўнанні з ранейшай, але ўсё ж не можа даць поўнага дабрабыту. Ёсць і пачатковая школа, якую з поспехам скончыў Сцёпка Барута. Куды ісці далей? — такое пытанне з усёй вастрынёй паўстае перад ім.

У вёсцы ёсць камсамольская ячэйка, якую ўзначальвае Кандрат Гуга. Сцёпку Баруту няма іншай дарогі, як да камсамольцаў — вестуноў і будаўнікоў новага жыцця. Першым актам грамадскай дзейнасці вясковых камсамольцаў было зруйнаванне «святога калодзежа». Ініцыятарам гэтага ўчынку выступіў якраз Барута, за што родны бацька выганяе яго з дому. Ці не зрабіў юнак і яго сябры-камсамольцы якой-небудзь памылкі?

Так, памылка была зроблена, як пазней усведамляе сам герой. Пісьменнік сцвярджае, што нельга знішчыць старыя ўяўленні аб жыцці, не перабудаваўшы самога жыцця на новых пачатках. Дзякуючы поспехам савецкага будаўніцтва, вера сялян у бога значна пахіснулася, людзі сталі менш хадзіць у царкву.

Так было і ў Сцёпкавай вёсцы Заборцы. Прыхільнікамі царквы тут заставаліся пераважна людзі старэйшага ўзросту. Насільнае ж, тайнае зруйнаванне «святога калодзежа», па-першае, павялічыла сімпатыі да царкоўнікаў як да людзей пацярпеўшых, а па-другое, на месцы напаўгнілога крыжа быў пастаўлены крыж новы.

Ужо гаварылася, што аповесць прасякнута духам палемікі ў адносінах да выказванняў некаторых членаў «Маладняка». Я. Колас поўнасцю прымаў той баявы задор, з якім маладнякоўцы браліся за літаратурную работу. Але ён быў не згодны з імі тады, калі яны бяздоказна адмаўлялі здабыткі культуры былых пакаленняў, прапагандавалі паспешлівую рэвалюцыйную перабудову ва ўсіх галінах жыцця. Падобныя лявацкія заскокі наносілі шкоду справе сацыялістычнага будаўніцтва. Адзін з такіх, праўда невялікіх, нязначных «заскокаў» і апісаны ў сцэне зруйнавання «святога калодзежа».

«Нелады з богам» пайшлі Сцёпку на карысць. Ён ідзе вучыцца ў Мінск. Горад адкрывае маладому герою вочы на многія рэчы, аб якіх ён раней нават і не чуў.

Аповесць «На прасторах жыцця» выйшла ў свет, калі савецкія людзі ажыццяўлялі велічную праграму

рэканструкцыі народнай гаспадаркі. У нашай краіне адсутнічалі такія галіны, як трактарабудаванне, аўтамабілебудаванне. Многія заводы і фабрыкі былі выведзены са строю імперыялістычнай і грамадзянскай вайной. Колькасць машын у сельскагаспадарчай вытворчасці была мізэрнай. Перыяд рэканструкцыі меў велізарнае значэнне не толькі для горада, але і для вёскі. Узмацнялася сувязь горада з вёскай, расла эканамічная і культурная дапамога горада вёсцы.

Я. Колас быў першым пісьменнікам у беларускай літаратуры, які па-мастацку праўдзіва паказаў нараджэнне новых адносін паміж горадам і вёскай. Тысячы і тысячы юнакоў і дзяўчат прыязджаюць у горад. І ён усім дае прытулак, корміць, апранае, вучыць... Сталіца Беларусі сустракае і Сцёпку Баруту як роднага сына. Горад дапамагае герою выпрацаваць характар, непамерна пашырае яго кругагляд, адным словам, робіць з яго паўнацэннага, карыснага для Радзімы чалавека. У горадзе Сцяпан Барута атрымаў першыя ўрокі калектывізму, пазнаў, што такое таварыская спайка, што такое плячо суседа ў працы і ў барацьбе. Пазней набытыя ў горадзе веды і навыкі герой павязе ў вёску, каб і там перабудоўваць жыццё на новы лад.

У вобразе Сцяпана Баруты Колас намаляваў новага савецкага чалавека, настойлівага і ўпартага ў дасягненні пастаўленай мэты. Сваім творам пісьменнік нібы папярэджваў моладзь, што, нягледзячы на наяўнасць Савецкай улады, нельга разлічваць на лёгкі поспех у жыцці, трэба ўсімі сіламі дамагацца яго.

Сцяпан Барута — чалавек з новым светапоглядам, са сваім уласным светам пачуццяў, думак, імкненняў. Ён паважае сябе, паважае навакольных людзей. Не церпіць маны і фальшу. Сцяпан Барута свядома рыхтуе сябе да карыснай грамадскай працы «агранома ці будаўніка». «Я цяпер ведаю ролю пралетарыяту ў рэвалюцыі і яе ролю ў тым, каб завесці новыя парадкі і новае жыццё. Для мяне цяпер усё больш і больш праясняецца погляд і на сябе самога як на адзінку грамадскага калектыву»,— піша Сцёпка ў лісце да каханай дзяўчыны Алены Гарнашкі.

Сёння гэтыя словы гучаць крыху напышліва, але не трэба забываць, што яны былі сказаны ў гады, авеяныя жывым, усеабдымным подыхам рэвалюцыі.

Асноўнай рысай характару Сцяпана Баруты з'яў-

ляецца тое, што ён чалавек грамадскіх імкненняў, калектывіст.

«Я хачу вучыцца, каб з мяне карысць дзяржаве была»,— заяўляе ён пры паступленні на рабфак. Найбольшую ўвагу ён аддае набыццю тых ведаў, якія спатрэбяцца ў жыцці. І разам з тым Сцяпан — чалавек жыццярадасны, любіць сапраўдную паэзію, літаратуру.

Сцёпка рашыў «будаваць новы зруб пад новы калодзеж», ён асудзіў паспешлівасць, непатрэбнасць той «вайны» з богам, у якой удзельнічаў калісь сам разам з вясковымі камсамольцамі. Новае жыццё герой аповесці не ўяўляе без калектыўнай працы. Калектыўную працу ён мысліць не толькі на заводзе, фабрыцы, але і ў сельскай гаспадарцы, якая вялася дагэтуль сіламі сялян-аднаасобнікаў: «Па Сцёпкавай думцы, рост эканамічнай моцы краіны толькі тады пойдзе належным ходам, калі мерапрыемствы дзяржавы не толькі сустрэнуць поўнае падтрыманне самога сялянства, але калі само сялянства пойдзе на дапамогу дзяржаве. А для гэтага трэба выхаваць у ім грамадскую дысцыпліну, уласны пачын і прывычку вясці работу калектывам».

У родную вёску юнак ужо едзе пасланцом горада, каб распачаць там выхаванне «прывычкі вясці работу калектывам».

Сцяпану Баруту ўдалося тое, чаго не змог ажыццявіць у дарэвалюцыйныя гады Лабановіч. Ён падняў сялян на калектыўную працу, на асушку Гнілога балота. Гэта быў першы сур'ёзны ўрок сумеснай работы, які атрымала вёска.

Я. Колас першы ў беларускай літаратуры ўзяўся за ганаровую задачу раскрыць у мастацкіх вобразах значэнне працы свабоднага савецкага чалавека, паказаць, як творчая калектыўная праца і «арганізаваны» ёю чалавек пераўтвараюць воблік краіны і разам з тым сваю ўласную «прыроду». Пісьменнік не шукаў нейкіх «новых» людзей, ён паказаў людзей звычайных, якія пад уздзеяннем сацыялістычнай працы вытраўлялі са сваёй душы перажыткі старога.

Я. Колас у ліку іншых савецкіх пісьменнікаў паказваў нараджэнне новых людзей. Жывая савецкая рэчаіснасць пацвердзіла прадбачанне генія рэвалюцыі. Ленін глыбока верыў у тое, што мы здолеем пабудаваць сацыялізм з тым чалавечым матэрыялам, які

атрымалі ад ранейшага свету, не чакаючы паяўлення «чысценькіх», ідэальных людзей.

Тэму выхавання новага чалавека ў гарніле сацыялістычнай працы ўслед за Якубам Коласам добра ўвасобілі Кузьма Чорны («Трэцяя пакаленне», «Люба Лук'янская»), Міхась Лынькоў («Баян», «На вялікай хвалі»), Эдуард Самуйлёнак («Паляўнічае шчасце»). Мастацкае ўвасабленне знаходзіць гэта тэма ў творчасці Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Аркадзя Куляшова і іншых пісьменнікаў.

Пафасам, вобразамі аповесці «На прасторах жыцця» пісьменнік паказвае, што калектыўная праца — аснова, на якой вырастае новая, сацыялістычная мараль. У адносінах Сцяпана Баруты да людзей няма варожасці, наадварот, ён прасякнуты пачуццём адказнасці за іх лёс, за іх справы. Прыгожыя ў Сцёпкі адносіны і да сваёй каханай Алены Гарнашкі. Ён бачыць у дзяўчыне перш за ўсё таварыша, друга ў працы, у будаўніцтве новага жыцця. Чытач адчувае, што Сцёпка і Алена пабудуюць прыгожую сям'ю, што гэта сям'я будзе моцнай ячэйкай працоўнага калектыву краіны.

Сцяпану Баруце супрацьпастаўлены ў аповесці Шулевіч, пустазвон, аматар лёгкага кахання. Шулевіч умее гаварыць рэвалюцыйныя прамовы, але ніколі не падмацоўвае іх канкрэтнай справай. Пад маскай актыўнага грамадскага работніка ў Шулевічу хаваецца ўласнік, эгаіст, які з незвычайнай лёгкасцю заглушае дакоры сумлення. Для Шулевіча ўсё ў жыцці лёгка, бо для дасягнення мэты, па яго разуменню, дазволены любыя сродкі. Гэта таму, што ў цэнтр усіх падзей Шулевіч ставіць самога сябе, а ў сваёй асобе бачыць дзеяча вялікага маштабу.

Ёсць у аповесці і другі вобраз — паэта Сымона Галызы, тыповага маладнякоўца. Пісьменнік яўна сімпатызуе гэтаму пачынаючаму паэту, шчыра сочыць за яго ростам, за развіццём яго духоўнага свету. З Сымона Галызы, нібы хоча сказаць пісьменнік, атрымаецца добры паэт, трэба толькі яму больш працаваць, больш удумліва ставіцца да творчай работы.

Аповесць «На прасторах жыцця» — той твор, якім пісьменнік канчаткова ўвайшоў у літаратуру сацыялістычнага рэалізму, літаратуру сцвярджэння новых адносін паміж людзьмі.

*1967—1981*

# ПЕЙЗАЖНАЯ ЛІРЫКА ЯКУБА КОЛАСА

Беларускую прыроду з найбольшай сілай апеў Якуб Колас. Ні ў аднаго другога паэта не знойдзем мы стольні малюнкаў, навеяных палямі, лясамі, рэкамі, палявымі дарогамі, наогул усім тым, што акружае жыхара гэтага краю з яго першых крокаў жыцця.

Пейзажную лірыку Якуба Коласа можна падзяліць на дзве тэматычныя плыні. Да першай належаць вершы, якія зместам, ідэйнай накіраванасцю непасрэдна перагукваюцца з праявамі грамадскага жыцця або настроямі лірычнага героя. Не раз, напрыклад, мільгане ў лірыцы Коласа вобраз хмарак («Светлыя хмаркі,— дзеткі прастору,— ціха на небе плывуць»), і вельмі часта вобраз адвечных паднябесных вандроўніц звязваецца з сялянскім, земляробчым клопатам. Прыгожыя хмаркі, шмат дзівосных малюнкаў утвараюць яны ў сваім няспынным руху, у зменлівых іх абрысах нібы паўстаюць перад позіркам контуры казачных палацаў, фігуры людзей, звяроў. Але не гэтым яны цікавыя паэту. Іх, так сказаць, непасрэдны абавязак — напаіць жыватворнай вільгаццю сялянскія палі, і, калі яны не выконваюць гэтага свайго прамога прызначэння, тады нават у насычаных чыста паэтычным зместам вершах-малюнках можна ўлавіць грамадзянскую ноту дакору, звернутую да сіл прыроды («Чаму ўлетку над палямі не ліліся вы слязамі?», «Хмары»).

Другая плынь пейзажнай коласаўскай лірыкі непасрэднай сувязі з утылітарным сялянскім клопатам не мае. У ёй развіваецца тэма «чыстай», вечнай красы. Такія вершы, як «Усход сонца», «Першы гром», «Ручэй», «Адлёт жураўлёў», «Лес», «Зіма» («Надышлі марозы, рэчкі закавалі»), «Вясна» («Вясна, вясна жаданая!..»), і многія іншыя поўныя захаплення, першабытнага схілення перад сіламі прыроды, іх магутнасцю, неразгаданасцю.

Ёсць нешта язычаскае, першароднае ў тым, як успрымае паэт такія, па сутнасці, паўсядзённыя, звычайныя для кожнага чалавека з'явы, як усход сонца, летняя навальніца, калючы зімовы мароз або, скажам, «першы гром».

Звернемся да верша «Першы гром»:

Голасам моцы, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары,

Луг адазваўся грому працяжна,
Лес адгукнуўся стары. (І, 204)

Адзначым, па-першае, гукавую інструментоўку верша. Велічна-ўрачыстая інтанацыя радкоў, алітэрацыі, інструментоўка на «р», «о», «а», увесь гукавы комплекс радкоў даволі дакладна перадаюць памятныя ўсім нам раскаты грому ў летнюю пару.

Няцяжка заўважыць і другую асаблівасць верша. Гром паўстае ў ім нібы жывая, адухоўленая істота. Вядома, мы тут маем справу з паэтычным прыёмам, а радкі, у якіх гэта з'ява апісваецца, можна назваць удала падабранымі, маляўнічымі метафарамі. Заўважым адначасна, што ўсё прыведзенае чатырохрадкоўе складаецца як бы з суцэльных метафар — «голасам моцы... гром пракаціўся», «луг адазваўся», «лес адгукнуўся».

За багаццем метафар у коласаўскай пейзажнай лірыцы стаіць і нешта большае, чым адны толькі паэтычныя ўвасабленні. Ствараючы ў паэмах «Новая зямля», «Сымон-музыка», алегарычных навелах «Казкі жыцця» маляўнічыя пейзажныя карціны, паэтызуючы прыроду, Якуб Колас абапіраецца на наіўны, характэрны для нашых далёкіх продкаў погляд на прыроду як на жывую істоту. Падобнае стаўленне да прыроды бачым і ў многіх пейзажных коласаўскіх вершах.

Якуб Колас нічога не выдумляў. Бачанне, адчуванне прыроды як жывой істоты ў нейкай меры захавалася ў народзе аж да пачатку дваццатага стагоддзя, калі ў літаратуру прыйшлі Якуб Колас і Янка Купала. Такі погляд на навакольны свет быў данінай даўнім міфалагічным павер'ям. Зусім зразумела, што нашы вялікія песняры не маглі абмінуць у сваёй творчасці духоўных набыткаў роднага народа, у прыватнасці такіх, як адухаўленне, ачалавечанне прыроды.

Традыцыя, паводле якой гром, вецер, хмаркі, рэчка, поле, дрэвы, лес, сонца, месяц, многія іншыя з'явы, прадметы прыроды ўяўляюцца жывымі істотамі, надзяляюцца чалавечымі якасцямі, схільнасцямі, выкарыстоўваецца Якубам Коласам у першую чаргу дзеля вырашэння мастацкіх, выяўленчых задач. Без апоры на гэту традыцыю наўрад ці здолеў бы паэт стварыць незабыўную пейзажную лірыку, якая складае адну з самых яркіх і бліскучых старонак беларускай паэзіі. На вершах гэтага цыкла ляжыць адбітак першароднасці, такой выключнай мастацкай выразнасці, якую

паўтарыць немагчыма. У гэтым сэнсе ўсе вялікія, па-сапраўднаму народныя паэты з'яўляюцца першапраходцамі. У адпаведнасці са светабачаннем, светаадчуваннем народа яны даюць паэтычную назву, характарыстыку той ці іншай з'яве, прадмету. Карацей кажучы, яны нібы адкрываюць свет, як Калумб адкрыў Амерыку. У тым жа вершы Якуба Коласа «Першы гром» знаходзім радкі:

Гай страсянуўся, дрогнула поле,
Долы той гук паняслі.
Ў гэтым раскаце чуецца воля,
Чуецца голас зямлі. (I, 204)

У беларускай паэзіі ёсць многа іншых вершаў, якія так ці іначай паэтычна раскрываюць моц, веліч, харастро такой прыроднай з'явы, як гром. Тым не меней верш Якуба Коласа ў шэрагу падобных вершаў мы паставім на першае месца. У ім як бы выяўлены асноўныя, самыя характэрныя прыкметы грому, і далейшая распрацоўка тэмы ў такім жа ключы будзе гучаць як перапеў, паўтарэнне.

Ёсць яшчэ адзін аспект верша Коласа, прыхаваны ў падтэксце. Калі мы гаворым, што гром выступае ў ім нібы жывая, адухоўленая істота, то гэта не толькі паэтычны троп, увасабленне, за такім бачаннем свету стаіць міфалагічнае ўяўленне старажытных славян пра бога неба Перуна (паняцці «гром» і «пярун» у народнай этымалогіі адназначныя). Пярун быў увасабленнем агромністых, звышнатуральных сіл, якія чалавек яму прыпісваў. Славянскі бог-грамавік, як Індра ў старажытнаіндыйскіх «Ведах», Тор у германскай «Эддзе»,— вынік намаганняў нашых далёкіх продкаў намаляваць, вытлумачыць для сябе карціну свету, вызначыць у гэтым свеце галоўных дзеючых асоб. Вось у якія далі вядзе нас стылістыка прыродаапісальнага верша «Першы гром».

Для кожнага вялікага нацыянальнага паэта «дух предания» мае першаступенную ролю. Возьмем верш Пушкіна «Зимний вечер». Са школьных гадоў вядомы нам мілагучныя, задушэўныя радкі:

Буря мглою небо кроет,
Вихри снежные крутя.
То, как зверь, она завоет,
То заплачет, как дитя.

Няцяжка заўважыць, што, як і ў Коласавым вершы, тут той самы мастацкі прыём увасаблення, адухаўлення прыроды, які вядзе нас у сівую старажытнасць, да першабытных уяўленняў славян.

Можна сказаць, што, ствараючы пейзажную лірыку, Якуб Колас стварае традыцыю. Пра што б ні ішла ў прыродаапісальных вершах гаворка, паэт нязменна бударзе прытрымліваецца аднаго і таго ж прынцыпу — гаварыць пра тую ці іншую з'яву самае галоўнае, даваць яе найбольш характэрныя, бачныя ўсім прыкметы. Гутарка ідзе пра эпічную традыцыю, уласцівую, як бачым далей, не толькі пейзажным вершам Коласа, але і ўсёй яго лірыцы, апавяданням, алегарычным навелам, паэмам «Новая зямля» і «Сымон-музыка».

Пейзажная лірыка Якуба Коласа мае некалькі тэм, матываў, якія нязменна паўтараюцца, вар'іруюцца, складаючы сталае, пастаяннае, у нейкай меры нават замкнёнае кола паэтычных карцін і ўяўленняў. Матывы і тэмы, якія найбольш прыцягваюць да сябе ўвагу паэта, наступныя: вясна, восень, зіма, дарога, поле, араты на полі, родны край, дрэвы, лес, навальніца, хмаркі, вецер, сонца, ноч, птушкі, жыта.

Нават адзін пералік тэм, матываў лірыкі паэта выразна паказвае, што Якуб Колас выступае як паэт земляробчага народа. Народ гэты жыве на зямлі, што размяшчаецца паміж Нёманам, Дняпром, Прыпяццю і Заходняй Дзвіной, асвоіў гэту зямлю, зросся з ёй. Свядомая памяць народа не занатавала, што ён жыў дзе-небудзь у другім месцы і з таго месца прыйшоў сюды.

Эпічная традыцыя, філасофія бытавання беларуса, выяўленая ў яго песнях, казках, прыказках, прымаўках, якраз указвае на тое, што ўся яго жыццёвая мудрасць, духоўнасць вырасла менавіта на гэтай зямлі і пад гэтым небам, на грунце яго жыцця сярод гэтых лясоў, палёў, пералескаў, хмызоў, рэк і азёр.

Эпічная традыцыя беларусаў рашуча ўказвае на мірнае іх бытаванне, накіраванае выключна на тое, каб як-небудзь выжыць, пракарміцца, здабыць кавалак хлеба на іх не надта ўрадлівай і не заўсёды ласкавай лясной, балотнай зямлі. Няма ў беларускага народа гераічных песень, былін, якія б натхнялі іх у баявых паходах, калыхалі паходы, выяўлялі імкненне народа ўзвысіцца над сваімі суседзямі. Затое ёсць найбагацейшы казачны эпас. Асілкі, мудрацы, розныя іншыя хіт-

рыя, кемлівыя, вынаходлівыя героі казак, якія перамагаюць дванаццацігаловага змея, цмока, іншую злыбеду, навалу, так ці іначай сведчаць пра гераічную душу народа, пра тое, што яму час ад часу прыходзілася брацца за меч, каб абараніць свой край ад налётаў прагных чужынцаў.

Якуб Колас выступіў у літаратуры ў складаны, супярэчлівы час першай рускай рэвалюцыі. Лірыка нашага песняра выразна гэтыя супярэчнасці выказала. Як вядома, бурлівае трохгоддзе першай рускай рэвалюцыі пазначана на беларускай зямлі вострымі выступленнямі сялян супраць памешчыкаў, царскай казны, супраць усялякага сацыяльнага ўціску. Шматлікія коласаўскія вершы нясуць ідэі сялянскага пратэсту, непрымірымасці, нянавісці да прыгнятальнікаў. Нават пейзажная лірыка, здавалася б самой сваёй прыродай закліканая выяўляць, паказваць прыгожае, вечнае, вельмі часта служыць у Якуба Коласа надзённым, сацыяльным задачам.

Але першая руская рэвалюцыя абудзіла і нацыянальную свядомасць беларусаў. Яна як бы завяршыла расцягнуты ў многіх папярэдніх дзесяцігоддзях працэс выспявання нацыянальнай самасвядомасці народа, яго пачуццё нацыянальнай годнасці. Таму паэзія Якуба Коласа, як і Янкі Купалы, не толькі адмаўляе, але і сцвярджае. Не мірачыся з паднявольным становішчам селяніна, дамагаючыся яму лепшай долі, яна адначасна ўздымае селяніна як спадчынніка, ахоўніка нацыянальнай цэласнасці, услаўляе яго родны край як асяроддзе яго жыццёвай і гістарычнай дзейнасці. Таму не трэба здзіўляцца, калі знойдзем у Якуба Коласа дыяметральна процілеглыя па вядучай ідэі, настрою вершы, прысвечаныя, скажам, роднаму краю. Вось шырока вядомы «Наш родны край»:

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балоты і пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок... (I, 22)

У 1909 годзе паэт напіша верш без назвы, у якім выразна відаць новы злом, паварот думак і настрояў:

Многа слаўненькіх куточкаў
Ёсць у нашым краі,
Дзе пад гоман ручаёчкаў
Пад шум дрэў у гаі

Рой журботных дум пакінеш;
Дзе няма трывогі,
Дзе душою адпачынеш,
Змучаны з дарогі;

Дзе прыемны ветрык млее,
Збажыну
калыша,
Дзе пакоем-згодай вее,
Дзе ўсё шчасцем дыша. (I, 162)

Гэта ўжо не суцэльнае адмаўленне, як бачылі на прыкладзе верша «Наш родны край». Пры больш пільным, пранікнёным поглядзе на «выкляты богам» край паэт заўважае ў ім усё больш прыгажосці, гармоніі, паэзіі. Чым можна вытлумачыць гэту перамену?

Перш за ўсё ўмовамі грамадскага жыцця. Рэвалюцыя 1905—1907 гадоў абудзіла ў селяніне пачуццё ўласнай годнасці, незвычайна паспрыяла росту яго як асобы. Рэшткі патрыярхальных адносін у вёсцы, у вясковай сям'і разбураліся. Ды і нацыянальнае пачуццё, абуджанае, абвостранае рэвалюцыяй, як бы патрабавала новага погляду на родны край як на асяродак гістарычнай жыццядзейнасці народа.

Францішак Багушэвіч амаль не бачыў прыгажосці ў навакольных беларускіх краявідах. Гора, бяду, якая выпала на долю селяніна, ён як бы праецыраваў на навакольны свет. Дый наўрад галодны, раздзеты, разуты мужык мог убачыць што-небудзь радаснае ў малюнках прыроды. Пейзажная лірыка ў беларускай паэзіі XIX стагоддзя знаходзілася ў зародкавым стане. Гэта азначала, што ў насельнікаў беларускага краю было слаба развіта як нацыянальнае пачуццё, так і пачуццё асобы, індывідуальнасці.

Справа рашуча мяняецца з прыходам у літаратуру Янкі Купалы і Якуба Коласа. Іх магутныя таленты не маглі не заўважыць новых зрухаў, якасцей, перамен, якія намеціліся ў псіхалогіі народа і паасобку ўзятага чалавека.

Мы пачалі гаворку пра пейзажную лірыку Якуба Коласа з вершаў, якія адбіваюць малюнкі грому, буры, навальніцы і настроі паэта ў сувязі з гэтымі малюнкамі. Увогуле, гром, бура, навальніца імпануюць паэту. Ён любіць праявы магутнай, вялікаснай сілы ў прыродзе. Вершы «Першы гром», «Ноч перад навальніцай», «Будзе навальніца», «Вераб'іная ноч», «Перад бурай»,

«Перад навальніцай» поўны паэтычнага схілення перад размахам стыхіі. У кожным з вершаў паэт знаходзіць новыя фарбы, дэталі, падрабязнасці для абмалёўкі летняй навальніцы. Ён нідзе не паўтараецца. Вось як бліскуча, напрыклад, у вершы «Перад бурай» намалявана перадналальнічная атмасфера, стоеная, поўная напружанасці чакання буры цішыня:

Сонца зранку жарам пыша,
Ветрык лісце чуць калыша. <...>
А зямля як бы замлела,
Толькі дуб стары нясмела
Зрэдку лісцем павядзе.
Змоўклі ўсе вакол абшары,
Бо замыслілі штось хмары...
Ой, знаць, бура загудзе! (I, 340)

З гэткай жа дакладнасцю абмалюе паэт «вераб'іную», без грому і дажджу, пранізаную наскрозь толькі маланкамі ноч («Вераб'іная ноч») і пачатак сапраўднай навальніцы ўночы («Ноч перад навальніцай»). Нават з прыведзеных прыкладаў няцяжка зрабіць вывад, што паэт як бы занатоўвае ўсе бакі, праявы навальнічнага працэсу, знаходзячы ў іх высокую, першародную паэзію:

Люблю я ночы той час дзіўны,
Калі прастор, абняты сном,
Пабудзіць голас пераліўны —
Далёкіх хмар магутны гром,
Калі працягла заракоча,
Гугухне голас угары,
І шыба ў вокнах забразгоча,
І гоман пойдзе па бары. (I, 210)

Паэтызуючы з'явы прыроды, вялікасныя сваім размахам, паэт упадабляе ім грамадскія падзеі. Верш «Будзе навальніца», напісаны ў 1912 годзе, з'яўляецца, напрыклад, водгукам паэта на Ленскі расстрэл.

Варта сказаць, што паэтычнае мысленне Якуба Коласа не выходзіць з кола матываў, вобразаў, знаёмых, блізкіх кожнаму селяніну-беларусу. Вядома, лірычны герой пейзажнай лірыкі зусім не селянін, гэта чалавек адукаваны, інтэлігентны, надзелены чулай, уражлівай душой, здольнай захапляцца, зачароўвацца прыгажосцю навакольнага свету. Але гэта лірычная інтэлігенцкая душа ходзіць па дарогах, вядомых, зведаных кожным вясковым жыхаром.

Да вершаў, якія паэтызуюць гром, навальніцу, далучаецца шэраг іншых, у якіх, аднак, знаходзім тыя ж сімвалы рознабаковасці, волі, руху ў нязведанае новае — вершы, мастацкае жыццё якім даюць вобразы хмарак, ветру, дарогі, вясны. Інакш, відаць, не магло быць. Паэт меў перад вачамі рэвалюцыйную яву, бачыў жыццё на вялікім гістарычным зломе. Так ці інакш перад ім паўставала пытанне аб будучыні роднага краю. Ды і рамантыка маладосці з яе марамі, імкненнямі знайшла адбіццё ў гэтай паласе коласаўскай паэзіі. Адсюль, відаць, і мноства вобразаў-сімвалаў, якія азначаюць рух, імкненне наперад, у яшчэ невядомыя, але такія прывабныя далі.

Паэтызацыя вясны займае ў лірыцы Якуба Коласа прыкметнае месца. Можна нават сказаць, што з усіх пораў года паэт найбольш любіць вясну. Бліскучыя, іскрыстыя вершы гэтай плыні носяць пераважна прыродаапісальны характар. Вясна — прабуджэнне прыроды, аднаўленне кругавароту жыцця, і паэт не стамляецца спяваць ёй бадзёрыя, поўныя захаплення гімны. Іншы раз вясна паўстае нібы жывая істота, паэт звяртаецца да яе з заклікам, просьбай:

Ты прыйдзі, вясна жаданая,
Прыйдзі!
Гукам жыцця, песняй працы
Загудзі. <...>
Ты ляці на крыллях выраю
Скарэй,
Абласкай цяплом пахілых,
Абагрэй. (I, 299)

З падобнымі матывамі мы не раз сутыкнемся пры разглядзе лірыкі Якуба Коласа, паэмы «Новая зямля», алегарычных навел «Казкі жыцця». Дух «заклікання вясны», вядома ж, ідзе ад сівой старажытнасці, ад абрадавай паэзіі славянскіх плямён, якая межавала з іх рэлігіяй. Тысячагоддзі назад наш далёкі продак жыў простым, нават прымітыўным жыццём, якое вельмі моцна залежала ад маці-прыроды. З наіўнай, дзіўнай непасрэднасцю ён любіў прыроду і ў той жа час яе баяўся. Напружана ўзіраўся ён, напрыклад, у розныя прыкметы набліжэння вясны, дапускаючы нават думку, што вясна можа не толькі запазніцца, але і не прыйсці зусім. Нам сёння здаюцца дзіцячымі выказванні.

якія знаходзім у індыйскіх «Ведах»: «Ці ўзыдзе сонца? Ці вернецца зара, наш даўнішні дабрачыннік? Ці пераможа бог святла цёмныя сілы ночы?»

У навакольнай прыродзе, у яе шматлікіх праявах бачыў наш продак жывую істоту, заўжды здольную адгукнуцца на яго шчырае заклінанне, гімн, малітву, на яго смутак і радасць. Відаць, сам таго не ўсведамляючы, быў гэты наш продак паэтам, бо надзяліў свет дзівоснымі істотамі, якія жылі не толькі на небе, але і ў розных кутках зямлі: у лесе, рэчцы, у хаце і нават у калодзежы. Менавіта з таго сівога, аддаленага ад нас тысячамі гадоў часу ў сённяшняе жыццё перайшлі, напрыклад, такія выразы, як «сонца ўсходзіць», «прыйдзе вясна», «наступае ноч», «ручэй гамоніць» і г. д. Без гэтага наіўна-дзіцячага, а калі карыстацца навуковай тэрміналогіяй, прымітыўнага погляду на навакольны свет, які характарызаваў узровень духоўнага жыцця нашых далёкіх продкаў, не было б, аднак, і сённяшняга паэтычнага багацця жыцця з яго тропамі — метафарамі, параўнаннямі, асацыяцыямі, увасабленнямі і г. д.

Вялікія паэты, пісьменнікі, жывучы сённяшнімі, вострымі клопатамі грамадства, да якога належалі самі, умелі чуйна ўслухоўвацца ў павер'і жыцця мінулага, аднаўляць дух мінуўшчыны і нават, калі вынікала патрэба, тварыць у адпаведнасці з гэтым духам. Да такіх пісьменнікаў належаць Пушкін, Гогаль, а ў беларускай літаратуры Якуб Колас і Янка Купала. Якуб Колас выдатна валодае здольнасцю глядзець на навакольны свет з даверліва-дзіцячай наіўнасцю, апавядаць пра ўбачанае, чутае, як расказваюць пра гэта безыменныя аўтары казак, быляў, народных павер'яў.

У міфах, казках, уяўленнях далёкай мінуўшчыны невычэрпныя скарбы паэзіі. Яны прасякнуты гарманічным адчуваннем свету, паэтыка іх абапіраецца на наглядныя, пластычныя вобразы з вельмі нязначнай доляй адцягненасці. Шматлікія вершы Якуба Коласа характарызуюцца менавіта гэтымі якасцямі:

Мароз, зіма,
Снягі вакол,
І спіць трава,
Пад снегам дол.
Мяцеліца,
Вятры гудуць,

Дубы ў лугах
Шумяць, равуць... (I, 270)

На зрокавых і ў меншай ступені гукавых вобразах будуецца большасць вершаў аб вясне. Бадай, усім ім уласцівы дынамічны рытм, гукавая экспрэсія, гукапераймание:

Вясна прыйдзе, снег пагіне,
Вышэй сонца хадзіць стане,
Промень ясны ўсюды кіне,
Рунь падыме на паляне.
З гор пальюцца пераваль!,
Раскуюцца рэчкі з шумам,
Выйдзе з хаты стар і малы
Гаманліва дружным тлумам. (I, 59)

Якуб Колас нідзе непасрэдна не выкарыстоўвае фальклорных матываў, інтанацый песень-вяснянак. Але і яго вясна блізкая да вобраза маладой дзяўчыны, апранутай у вянок з зелені і кветак, які бытуе ў народнай паэзіі:

Вясна, вясна
Жаданая!
Ты прыйдзеш зноў,
Ты вернешся!
Вясёлы спеў,
Прыветлівы
Вады ў руччах
Пачуецца.

Вершы пра вясну, вясенні гром, хмаркі, вецер і, як убачым далей, пра зіму, восень, усход і захад сонца і г. д. Якуб Колас пісаў таму, што гэта былі тыповыя абставіны жыцця яго вясковага земляробчага народа. Вершаў пра ўсё гэта на беларускай мове яшчэ не было. Па іх дзеці маглі навучыцца пазнаваць і любіць свой край, яго ціхую, някідкую, але ад гэтага не менш прыгожую паэзію. Не трэба забываць, што Колас, пачаўшы паэтычную дзейнасць, ужо быў настаўнікам, навучаў вясковых дзяцей грамаце. Сам ён вучыўся па хрэстаматыях, падручніках па літаратуры, у якіх змяшчалася вельмі многа вершаў прыродаапісальнага характару. Паэт быў сынам селяніна, лесніка, правёў дзяцінства на ўлонні прыроды, яго сэрцу вельмі імпанавалі хрэстаматыйныя вершы Пушкіна, Нікіціна, Кальцова, байкі Крылова — ва ўсіх гэтых творах было шмат малюнкаў прыроды. Зрэшты, Колас сам напіша «Другое чытанне для дзяцей-беларусаў» з раздзеламі «Зіма»,

«Вясна», «Лета», «Восень», дзе прыродзе наогул адводзіцца вельмі вялікае месца. Так што, ствараючы пейзажныя вершы, паэт ствараў іх пэўным чынам у педагагічных мэтах.

«Дзякуй Госпаду Богу, сонечку яснаму, месячыку краснаму, звёздачкам светленькім, міру хрышчонаму, абразу чэснаму, што я ету ночку пераначаваў...»

У гэтым урыўку з замовы выразна відаць, як навейшыя, хрысціянскія элементы перакрыжаваліся з больш старажытнымі, язычаскімі. Міфалогія беларусаў, як і астатніх славян, была багатая паэтычнымі ўяўленнямі. Асабліва многа іх звязана з сонцам. Народ быў сапраўдным паэтам, ён стварыў мову, міфы, пазней казкі і песні. Кожнае паасобна ўзятае слова, як справядліва сцвярджае акадэмік Патэбня, было закончаным мастацкім творам. Слова *сонца* паходзіць, напрыклад, ад санскрыцкага *су*, што азначае «нараджаць, тварыць». У славян бацька неба атрымаў назву Сварог, ён уяўляўся ўладаром сусвету, прабогам. Сын Сварога — *Дажбог* у той жа час быў і сонцам, царом, сынам неба.

Выгляд паднябесся з сонцам, месяцам, зоркамі наводзіў старажытнага чалавека на думку: адкуль гэта ўсё, дзеля чаго? Рэлігійны, а пазней паэтычны вобраз таго ж Дажбога, бога-сонца, стварыўся фантазіяй народа ў адпаведнасці з велізарнасцю, магутнасцю з'явы, якой чалавек не мог сабе растлумачыць.

Якуба Коласа ад тых далёкіх часоў, калі тварыліся міфы, аддаляюць тысячагоддзі. І ўсё ж ёсць нешта ад міфа, містэрыі, язычаскага гімна ў гонар цара неба і ў вершах беларускага паэта «Усход сонца» і «Заход сонца»:

На усходзе неба грае
Пераліўным блескам,
Сыпле золата над гаем
І над пералескам.
Чуць-чуць дрогне, праліецца
Чырвань на усходзе —
Гэта неба усміхнецца
Людзям і прыродзе. (I, 82)

Абодва вершы бліскучыя па майстэрству, поўныя святочна прыўзнятага настрою. Разам з тым яны ўяўляюць сабой яркія, вельмі дакладныя нават у дробязях паэтычныя карціны ўсходу і заходу сонца, багатыя пластычнымі, зрокавымі вобразамі. Карацей

кажучы, гэта два маленькія шэдэўры. Жывапісны, малюнкавы бок коласаўскіх вершаў здзіўляе, уражвае.

Зіма «нясе сярдзітым духам», зімой замірае жыццё прыроды, але і гэта пара мае сваю прыгажосць і паэзію. Паэт намалюе нам мяцеліцу, віхуру, не раз раскажа пра злосны сіберны вецер, які «свішча за сцяною», у коміне вые, але знойдзе запамінальныя яркія словы і вобразы, каб пахваліць, уславіць зіму:

Люблю я зімы з маразамі,
Завеі белыя ў палях,
І снегу скрып пад палазамі,
І ціш зімовую ў лясах. (I, 351)

Варта прыгадаць у гэтай сувязі верш «На рэчцы зімою», герой якога, вясковы падлетак, вандруючы па замёрзлай рэчцы, нібы чытае кнігу прыроды, адкрывае для сябе безліч яе чар, загадак, таямніц.

Лірыка Коласа пастаянна звяртаецца да адных і тых жа тэм, вобразаў, матываў. У нейкай меры яна пакідае ўражанне аднастайнасці. Пра гэта пісалі яшчэ крытыкі дарэвалюцыйнай пары. Але ў гэтым і сіла паэзіі Коласа. Яна вельмі арганічная, праўдзівая, вырастае як бы з самой беларускай зямлі, яе някідкай прыроды.

«Асенні» цыкл вершаў беларускага паэта асабліва прыгнятае сваім змрочным, аднастайным настроем. З верша ў верш вандруюць падобныя вобразы, накшталт «вецер свішча», «вецер вые», «дожджык сее беспрастанку» «сыплюцца кроплі дробна і часта», «ссохлі травы, усё павяла» і г. д. І толькі ў вершы «Адлёт жураўлёў» пранізліва-шчымлівы матыў расстання з летам, пераходзячы ў лірычную, філасофскую тэму вечнага кругавароту жыцця, недаўгавечнасці шчасця, глыбока кранае сэрца. Гэта адзін з тых вершаў, якія выяўляе ў Коласе паэта вельмі глыбокага, бліскучага, здольнага перадаць самыя тонкія адценні чалавечых перажыванняў:

У бязмежным небе
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі на вырай
Мкнуцца над лясочкам.
Меншыцца шнурочак,
У паднеб'і тае,
Вось ледзь-ледзь чарнее,
Міг — і прападае.

І стаіш ты, смутны,
Доўга пазіраеш,
Як бы нешта страціў,
А што — сам не знаеш. (I, 135—136)

Вершы, падобныя «Адлёту жураўлёў», уражваюць сваёй непасрэднасцю, глыбінёй пачуцця, перажывання. Тут мы маем выпадак, калі не вельмі патрэбны яркія тропы, асацыяцыі, эпітэты, параўнанні, калі паэт дасягае глыбокага паэтычнага ўздзеяння, шчасліва знайшоўшы рытмічны ключ, настрой і дакладныя, зразумелыя ўсім вобразы:

Замірае лета,
Заціхаюць далі,
Сірацее рэчка,
Халадзеюць хвалі. (I, 135)

Пейзажнымі вершамі Колас малюе паэтычны воблік зямлі, краю, у якім спрадвеку жыве родны яму народ. Так здарылася, што да прыходу ў беларускую літаратуру Купалы, Коласа толькі ў казках, песнях нешта было сказана пра рэчку-рэчаньку, цёмны лес, месячык на небе, поле, лугі-сенажаці.

Якуб Колас меў чулае, уражлівае сэрца. Навакольная прырода глыбока яго хвалявала. Ён адчуваў, што прыгажосць беларускіх лясоў, палёў, нікім яшчэ не апетая, тоіць у сабе вялікую паэзію. Паэзію гэту трэба было раскрыць, малюнкі роднага краю як бы выставіць на агляд сабе і людзям. Не адзін раз прызнаецца паэт у сваёй любові да роднай зямлі:

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?
Чым так прыкованы я
К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя сумнай красы? (I, 105)

Існавала яшчэ адна прычына, якая вымагала ад паэта гэтак настойліва, паслядоўна расказваць пра родны край, спяваючы яму нават узнёслыя гімны. Пра Беларусь здаўна бытавала думка як пра край забіты, гнілы, дзе толькі туманы, балоты і ніякай прыгажосці. Несправядлівую гэту думку трэба было абвергнуць. Але паэтызацыя, узвышэнне роднай зямлі ніколі не была ў Коласа прамалінейнай.

Малюючы воблік роднага краю, паэт вельмі часта паказвае, як прыроднае, прыгожае сутыкаецца з грамадскім, сацыяльным. Мы бачылі: радасць, захапленне выклікае ўсход, захад сонца, шматлікія іншыя праявы жыцця прыроды.

Але ў вершах, дзе перад намі малюнкі побыту селяніна, радасць саступае месца глыбокаму смутку. Чаму так? Паспрабуем разабрацца. Лірычны герой, які ўмее любавацца прыгажосцю прыроды, гэта, вядома, чалавек з развітым пачуццём асобы. Атмасфера першай рускай рэвалюцыі наогул узняла пачуццё асобы ў працоўным народзе, у прыватнасці сярод сялянства. Патрыярхальная вёска, знешні выгляд якой амаль не змяніўся з часоў прыгону, не вельмі радавала самога селяніна, не кажучы пра інтэлігента, выйшаўшага з сялянскага асяроддзя, якім уяўляецца лірычны герой паэзіі Коласа:

Між узгоркаў над ракою
Выглядае сіратою
Наша беднае сяло.
Убраў стрэхі мох калматы,
Набок скрыўленыя хаты,
Як бы ў дол яно ўвайшло. (I, 104)

Думка пераходзіць з верша ў верш: у хатах, што збіліся, «як авечкі ў летні жар», дзе «пагніло бярвенне ў сценах, вырас мох на стрэсе», у вёсках, якія сумна пазіраюць на свет, не можа быць сапраўднага чалавечага шчасця. І ў той час не можа лірычны герой не любіць гэтыя хаты. Бо з імі ён звязан сваім паходжаннем і жыццём. Гэта яго родны край:

Як мне мілы тыя хаты,
Дзе красуе мох калматы
На старэнькай стрэсе;
Гоман вузкіх ніў у полі,
Скібы жоўтыя і ролі,
Пташак спеў па лесе. <...>
Там я вырас, ўзгадаваўся,
Дзе спрадвеку заснаваўся
І бруіць дрыготна
Жаль вялікі і пакута,
Дзе пануе гора люта
І нуда разліта.
І я зросся з гэтым горам,
Як віхры-вятры з прасторам,
Як з загонам жыта. (I, 319)

Так, «дым отечества нам сладок и приятен». Колас — не выключэнне з кагорты паэтаў, якія спрад-

вечка ўсхваляюць айчыну, родную зямлю. Але, паўтараем, пры ўсім гэтым беларускі паэт выконваў і «звышзадачу», абумоўленую сацыяльнымі і нацыянальнымі патрабаваннямі народа ў перыяд першай рускай рэвалюцыі.

Якуб Колас расказвае літаральна пра ўсе асяродкі жыццядзейнасці свайго сялянскага, земляробчага народа. Не ведаем, ці ёсць другі паэт на зямлі, які б здолеў, напрыклад, напісаць лірычны, прасякнуты добрай, шчырай сардэчнасцю верш, прысвечаны сялянскаму гумну. Колас напісаў. Верш «Наша гуменца» ўзнік не выпадкова. Хто ведае сялянскае жыццё, таму лёгка зразумець, што гумно якраз сведчыць пра зажытак альбо беднасць бытавання селяніна. У гумно звозіцца збожжа, там яго сушаць, малоцяць, веюць. Там часам і сена складваецца, яно пахне зёлкамі лесу і лугу. У падстрэшшы гумна лепіць гняздо ластаўка, на стрэсе знадворку асталёўваецца бусел. Ластаўка, бусел — птушкі для селяніна недатыкальныя, жаданыя, яны як бы аздабляюць яго жыццё.

Гумно разам з тым — сялянская гасцініца, дом адпачынку. У вольны ад работы дзень ці ў свята гаспадар не знойдзе лепшага зацішнага месца, чым у гумне на сене. Тут ён можа падумаць пра сваё жыццё-быццё, памарыць:

Добра мне тут, мне тут міла,
Родна ўсё і блізка.
Тут хлябок мой, мая хата
I мая калыска. (I, 316)

Аб'екты многіх коласаўскіх вершаў пры ўсёй сваёй утылітарнасці як бы напаўняюцца дадатковым паэтычным сэнсам. З усіх дрэў, напрыклад, якія Колас апаэтызаваў, узяты дуб, вярба і ліпа. Пра дуб, вярбу напісана нават па два вершы. Няцяжка здагадацца чаму: дуб увасабляе сілу, магутнасць, вярба як бы асацыіруецца з вобразам адзінокай, пакінутай дзяўчыны. Кожны паэт цягнецца да выключнага, яркага, нават, калі хочаце, экзатычнага. Раўнінная славянская зямля, якая ўзгадавала талент Коласа і дзе маглі тварыцца незвычайныя з'явы, цуды, лес, рэчку, возера і яшчэ ноч. У народных казках, легендах, павер'ях мясціны гэтыя таксама займаюць вялікае месца.

У лесе, які малюе нам паэт, няма разбойнікаў, страшных звяроў, у Коласавай рэчцы не плешчуцца ру-

салкі, а цёмнай ноччу не паяўляюцца здані і прывіды. Але вобраз лесу ў лірыцы Коласа авеяны вэлюмам загадкавасці, таямнічасці. Лес нібыта жыве сваім самастойным, схаваным ад чалавека жыццём:

Праблытаны галіны
У адзін салаш жывы...
Лес! Аб чым шумяць вяршыны?
Лес! Што шэпчаш, векавы?

Толькі ж лес гудзе-ракоча
Цёмнай шапкай верхавін,
Толькі ж лес сказаць не хоча,
Што ён ведае адзін. (І, 157)

Рэчка ў Коласа вельмі канкрэтная — Нёман, які «перарэзаў край... родны беларуса-мужыка», і пяе паэт хвалу слаўнаму Нёману перш за ўсё як працаўніку, другу, карміцелю чалавека. У вершы гэтым досыць выразна чуваць водгаласы рускіх песень пра Волгу і ўкраінскіх пра Дняпро.

Сапраўдным паэтычным шэдэўрам з'яўляецца верш Коласа «Ручэй». Колькі ў ім замілаванасці, цеплыні, яркай маляўнічасці. Ёсць нешта вельмі беларускае, мяккае ў вобразах гэтага верша, які школьнікі пачынаюць завучваць на памяць з першых год навучання. «Ручэй» — прыклад верша, які нібы сатканы толькі з аднаго паэтычнага пачуцця. Сэнсавая тэма ў ім амаль адсутнічае. Паспрабуем пераказаць верш. Між алешын, кустоў бяжыць ручэй, над ім схіляецца вярба, у ім адбіваюцца кусты, абступаюць ручэй асака, чароты, ноччу глядзіцца ў яго зорка... Як бачым, атрымалася з пераказу даволі пасрэдная проза, якая вельмі многа траціць у маляўнічасці ў параўнанні з паэтычнымі радкамі. Нельга, немагчыма такія вершы пераказаць!

У пейзажнай лірыцы Коласа, зрэшты, нямала твораў філасофска-сузіральных, у якіх на першым плане пачуцці лірычнага героя, выкліканыя неабдымнасцю, бясконцасцю, загадкавасцю сусвету. Як, напрыклад, у вершы «Ноч»:

Між палёў шырокіх
Я адзін стаю,
Ахваціла ціша
Усю душу маю.
Ночанька мая ты,
Водблеск глыбіні!

Ты душу чаруеш
Спевам цішыні.
Многа ў гэтым спеве
Водгукаў жывых,
Іх не зловіш вухам,
Чуеш сэрцам іх. (І, 129)

У пейзажнай лірыцы Якуба Коласа, якая падрыхтавала з'яўленне паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка», дзе прырода таксама паўстае паўнацэнным, шматаблічным героем, вельмі многа вось такіх тонкіх, няўлоўных адчуванняў. Лірычны герой найперш паяўляецца ў пейзажнай лірыцы Якуба Коласа, бо ў вершах грамадзянскага цыкла ён асоба сумарная, збіральная, ён там гаворыць ад імя ўсяго сялянства. Душа лірычнага героя пейзажных вершаў як бы наросхрыст раскрыта для ўспрымання прыгажосці, разлітай у навакольным свеце. Тысячы выдатных імгненняў здольна ўбачыць, запомніць, увасобіўшы ў мастацкім слове, гэта чулая, уражлівая душа. Якуб Колас, інтэлігент у першым пакаленні, сваёй пейзажнай лірыкай, як пазней шматлікімі іншымі творамі, выдатна даказаў, што працоўнаму народу, чалавеку з сацыяльных нізоў даступна самае тонкае бачанне, адчуванне прыгажосці навакольнага свету і прыроды.

*1980*

## МОЙ КОЛАС

Да мяне, як і да іншых даваенных школьнікаў, Якуб Колас прыйшоў праз падручнікі і хрэстаматыі. У тагачасных дапаможніках па літаратуры, надрукаваных на дрэннай шорсткай паперы, мала змяшчалася матэрыялу пра пісьменнікаў, яшчэ менш было крытычнага разгляду іх твораў. Усё залежала ад густу настаўніка, яго ўмення, здольнасці раскрыць таямніцы чароўнай сілы, якой валодалі змешчаныя ў чытанках, хрэстаматыях вершы, апавяданні, урыўкі з паэм.

З беларускай паэзіі найбольшае ўздзеянне на мяне рабілі вершы Якуба Коласа. Думаю, што без асаблівага майстэрства настаўнікаў мы, вучні, адчувалі прыцягальную сілу коласаўскіх вобразаў, уваходзілі ў іх прывабны шматфарбны, вельмі чалавечны свет.

Сапраўды, якое асаблівае тлумачэнне трэба было да вершаў Якуба Коласа «Зіма» («Надышлі марозы, рэчкі закавалі...»), «Адлёт жураўлёў», «Доля батрачкі», «У школу», «Савось-распуснік», «Першы заработак» або да апавяданняў «У старых дубах», «Страшнае спат-

канне», якія змяшчаліся ў чытанках для пачатковых класаў.

Пачуццё радасці, здзіўленне, нават захапленне выклікалася якраз тым, што ў вершах беларускага паэта ўсё было вельмі знаёмае, роднае, блізкае. Хіба мы, школяры, самі не бачылі, як надыходзіць, напрыклад, зіма, веюць вятры, засыпаючы гурбамі снегу панадворкі і вуліцы, або як у сумную асеннюю пару аднастайна шасціць па дахах надакучлівы дождж. Можна, аказваецца, апісваць тое, што ляжыць навакол, што можа ўбачыць самы звычайны чалавек, і з гэтага могуць атрымацца звонкія, незабыўныя радкі.

Сярод Коласавых вершаў былі і такія, якія нараджалі ў душы незразумелы смутак, жаданне вырвацца за межы звычайнага, далучыцца да чагосьці невядомага, вялікага, загадкавага. Мяне яшчэ ў дзяцінстве ўразілі наступныя радкі:

У бязмежным небе
Роўненькім шнурочкам
Жураўлі на вырай
Мкнуцца над лясочкам.
Меншыцца шнурочак,
У паднеб'і тае,
Вось ледзь-ледзь чарнее,
Міг — і прападае...

Сапраўды, вершы, апавяданні Коласа перагукваліся з перажываннямі, пачуццямі, якія назапасіліся ў дзіцячай душы. Усё, чым адкрываецца раніца чалавечага жыцця, было ў гэтых вершах, апавяданнях, і яны ў значнай меры задавальвалі прагу пазнаць навакольны свет, ацаніць яго вартасці, адхінуць заслону невядомасці над таемнымі далямі жыцця.

Першай кнігай Якуба Коласа, якая трапіла да мяне ў рукі, былі «Казкі жыцця» — выданне 20-х гадоў — з намаляваным на вокладцы даўганогім буслам. Нават ад не надта даступных дзіцячаму ўспрыманню апавяданняў-алегорый таксама патыхала родным, блізкім, бо ўсе без выключэння вобразы былі знаёмыя: дуб, лес, крыніца, балота, гусі, той жа бусел, рэчка, купальскія светлякі.

З захапленнем прачытаў я аповесць «На прасторах жыцця». Як яна імпанавала хлопцам і дзяўчатам майго пакалення! Пісьменнік нібы ўгадаў нашы імкненні, духоўныя сяганні, жаданне далучыцца да велізарнай

работы па будаўніцтву новага жыцця, якое ішло ў Савецкай краіне.

Найбольш папулярнай кнігай беларускай моладзі трыццатых гадоў была коласаўская «Дрыгва». У той час былі яшчэ вельмі яркімі непасрэдныя водсветы Кастрычніка, водгукі боек грамадзянскай вайны. Моладзь жыла рамантыкай нядаўняй жорсткай барацьбы, прагнула пабольш ведаць аб героях, якія змагаліся за новы свет. Іменна ў той атмасферы нарадзіліся славутыя кінастужкі «Браняносец «Пацёмкін», а трохі пазней «Чапаеў».

Дастаць у нашай школьнай ці сельсавецкай бібліятэцы «Дрыгву» было немагчыма. Колькі я ні хадзіў туды, колькі ні ўпрошваў бібліятэкарак запісаць хоць у чаргу на кнігу, нічога не атрымлівалася. Старшакласнікі, якія карысталіся прыхільнасцю дзяўчат-бібліятэкарак, нібы пабраліся за рукі і не выпускалі «Дрыгву» са сваёй аблады.

Прачытаў я «Дрыгву», здаецца, толькі пры з'яўленні трэцяга выдання. Прыйшоў у сельсавецкую бібліятэку і вачам не паверыў — ляжыць стосік новых кніг, на белай вокладцы дарагі надпіс — «Дрыгва». Кнігі былі яшчэ не зарэгістраваны, без пячатак і нумароў, але я так баяўся ўпусціць шчасце, што рашыў не адступаць.

Я прасіў, маліў бібліятэкарку даць мне «Дрыгву», але яна не згаджалася. Нарэшце я ўзяў кнігу самавольна, выбег з бібліятэкі, прачытаў і вечарам таго ж дня прынёс назад.

У свае школьныя гады з вялікай асалодай двойчы перачытаў я «Выбраныя творы» Якуба Коласа, якія выйшлі да трыццацігоддзя яго літаратурнай дзейнасці.

На вялікі жаль, да вайны не ўдалося прачытаць «У палескай глушы», «У глыбі Палесся», «Сымона-музыку», а таксама поўнасцю «Новую зямлю». У нашым мястэчку нельга было атрымаць гэтыя кнігі ні ў адной з бібліятэк ці купіць іх у кніжнай краме.

Восенню сорак шостага года я ўпершыню ўбачыў Якуба Коласа. У цеснаватай зале фізіка-матэматычнага факультэта БДУ сабралася некалькі соцень студэнтаў. Адзначалася саракагоддзе творчай дзейнасці паэта. Колас выглядаў стомленым, гаварыў няшмат. Запомніў яго словы аб тым, што ён, выдатны паэт,

зайздросціць нам, бедным студэнтам, бо наперадзе ў нас маладосць і будучыня.

Яшчэ пры жыцці Якуба Коласа я напісаў некалькі невялікіх артыкулаў аб яго творчасці. Адзін з іх — аб прататыпах трылогіі «На ростанях», якія жылі ў мястэчку Пінкавічы, ён чытаў сам, праз тагачаснага свайго сакратара паэта Максіма Лужаніна зрабіў мне некаторыя заўвагі.

Якуб Колас, калі можна сказаць так, вельмі выхаваўчы школьны пісьменнік. Яго творы нібы выпраменьваюць душэўную цеплыню, дабрату, вялікую чалавечую мудрасць. Свет Коласа — свет прыгожы, ясны, гарманічны. На яго творах, як і раней, будуць выхоўвацца новыя і новыя пакаленні школьнікаў, моладзі, будаўнікоў камуністычнага грамадства, каму і адрасуецца гэта кніга.

*1981*

## НЕПАЎТОРНАЯ ПАРА ДЗЯЦІНСТВА

Творы Якуба Коласа, прысвечаныя дзецям, як бы маюць на мэце пазнаёміць свайго ўдзячнага чытача перш за ўсё са светам прыроды, вялікім, прыгожым і мнагалучным. На працягу ўсяго свайго творчага шляху ажыццяўляў пісьменнік гэту высакародную мэту.

Якуб Колас — пісьменнік-настаўнік. Многія гады свайго жыцця аддаў ён школе. Добра ведаў асаблівасці дзіцячай псіхалогіі, духоўныя запатрабаванні дзяцей. Пісьменнік разумеў, наколькі важна прывіць малому грамадзяніну, які толькі ўступае ў жыццё, цікавасць да навакольнага свету, да прыроды, бо менавіта гэта цікавасць абуджае прагу да набыцця новых ведаў.

Прырода зараджае ў душы чалавека пачуццё прыгожага, выклікае яго захапленне, радасць, смутак, узбагачае яго асобу, робіць чалавека дабрэйшым. Чалавек, які не разбурыць птушынага гнязда, не зломіць верхавінку маладога дрэўца, вудзячы рыбу, не стане знішчаць малькоў,— такі чалавек, як вынікае з педагагічных поглядаў Якуба Коласа, і ў жыцці грамадскім выявіць свае станоўчыя якасці.

У 1909 годзе ў Пецярбургу выйшла чытанка, складзеная Коласам, «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» [1]. Гэта кніга, у якой большасць матэрыялаў належыць пяру самога пісьменніка, дае яскравае ўяўленне пра тое значэнне, якое ён надаваў азнаямленню вучняў з праявамі роднай прыроды.

У гэтай кнізе ўжо ішла гаворка пра пейзажную лірыку Якуба Коласа. Да сказанага варта яшчэ дадаць, што прырода ў вершах, апавяданнях Якуба Коласа вельмі часта бачыцца вачамі дзяцей.

Якуб Колас стварыў нямала твораў, якія, дзякуючы таму, што мы прачыталі іх яшчэ ў школе, запомніліся на ўсё жыццё. Уражанні дзяцінства, юнацтва — самыя моцныя, трывалыя ў чалавечым жыцці. Паэт, які правёў дзіцячыя гады на ўлонні прыроды, у лясах Наднямоння, у многіх сваіх вершах, апавяданнях нібы правёў нас сцежкамі свайго дзяцінства.

Можна сказаць, што наіўныя, чыстыя, празрыстыя, як крынічная вада, адчуванні дзяцей пакладзены ў аснову шмат якіх вершаў Якуба Коласа, прысвечаных прыродзе. Для дзяцей прыгожае тое, што адначасна і добрае. Хораша, прыгожа летам, бо цёпла, бо можа радавацца жыццю кожная істота. Нешта зусім іншае прыносіць зіма — у першую чаргу заміранне жыцця. Іменна на выяўленні гэтых адчуванняў пабудаваны верш «Зіма».

Коласавы творы, прысвечаныя дзецям, нясуць у сабе значныя моманты павучальнасці, нават дыдактычнасці. Але гэта не халодная дыдактыка, а вельмі жывая, зацікаўленая, па-мастацку яркая размова пра месца чалавека ў грамадстве і прыродзе, пра асноўныя вартасці жыцця, з якіх зноў жа прырода займае, бадай, найпершае месца.

Калі Якуб Колас пісаў свае дзіцячыя творы, ён быў ужо вядомым пісьменнікам і гарадскім чалавекам. Але вялікі мастак на працягу ўсяго свайго жыцця пільна дбаў аб тым, каб раскрыць перад маладымі пакаленнямі глыбокі сэнс яднання чалавека з прыродай, тую ісціну, што сам чалавек — часцінка прыроды.

Якуб Колас у вершах, апавяданнях гаворыць пра дружбу свайго маладога героя з катом, сабакам, ня-

---

[1] «Першая чытанне для дзетак-беларусаў» склала Цётка (Пецярбург, 1906).

зменна са шчырай зацікаўленасцю, нават захапленнем расказвае пра коней, кароў, авечак, свіней, курэй, качак, дзікіх звяроў і птушак — ваўка, мядзведзя, лісіцу, зайца, тхара, варону, бусла, каршуна, вераб'я, голуба, сініцу, салаўя, нагадвае пра звычкі рыб у рэчцы, пра дрэвы, кветкі, травы, ягады, грыбы.

Які агромністы сэнс ва ўсім гэтым! Бо калі мы задумаемся над шматлікімі мастацкімі гісторыямі, героямі якіх, акрамя дзяцей, з'яўляюцца сабакі, каты, зайцы, звяры і птушкі, то даволі лёгка пераканаемся, што выдатны беларускі пісьменнік перш за ўсё вучыць любіць усё жывое, шанаваць прыроду, паважаць працу.

У адносінах чалавека да прыроды, пісаў Карл Маркс, чалавек выступае як прырода, а прырода як чалавек. Сапраўды, гуманны, выхаваны чалавек не будзе без патрэбы ламаць дрэўцы, таптаць траву, знішчаць птушак. Бо гэта жывое асяроддзе, з якім чалавек непарыўна звязаны.

«Сейце разумнае, добрае, вечнае!» — звяртаўся некалі М. А. Някрасаў да настаўнікаў, абяцаючы ім за гэта павагу і ўдзячнасць народа. Якуб Колас заслугоўвае самай высокай і глыбокай павагі і ўдзячнасці, бо ён адзін з самых выхаваўчых нашых пісьменнікаў, без яго вершаў, апавяданняў нельга сёння ўявіць ні адну школьную хрэстаматыю, бадай, ці не для кожнага з дзесяці школьных класаў.

Вось, скажам, расказанае вершам, поўнае гумару, добрага павучання апавяданне «Савось-распуснік». На ўсё жыццё запомніць Савося школьнік, які чытаў Коласава апавяданне. Бо дзяцінства — тая пара ў жыцці, калі хочацца незвычайных прыгод і цікава пра такія прыгоды чытаць.

У «Савосю-распусніку» гаворка ідзе пра хлопчыка, здольнага на выдумку, з задаткамі моцнай натуры, але эгаістычнага, самазакаханага і, зрэшты, злоснага і нядобрага. Толькі самога сябе любіць Савось. Жаданне выдзеліцца, выславіцца, няхай сабе прыніжэннем іншага, кіруе яго ўчынкамі.

Поўная адных толькі адмоўных якасцей дадзена характарыстыка Савосю:

Зачэпіць старога,
Пакрыўдзіць малога,—
Такі ўжо нягоднік,
Ды гэтакі шкоднік!

Бегаў загуменнямі,
Кідаўся каменнямі,
Пападаў у шыбы,—
Хоць гані з сялібы!.. (3, 161)

Пярэсценькі «каток, выхаванец Паўла-дзеда», наадварот, выступае ў Коласавым апавяданні як увасабленне толькі добрага і прыгожага. Сапраўды, не шмат знойдзеш нават у сусветнай літаратуры такіх пранікнёных радкоў, якія гэтак славяць у чымсьці гультаяватага, за многія стагоддзі сужыцця з чалавекам «распанелага» ката:

Нос чарнявы,
Хвост бялявы,
Задзірасценькі;
Кіпцік-шчыпчык
Заграбасценькі;
Лапкі-драпкі
Машастовыя,
А шарсціначкі
Шаўковыя. (3, 162)

Гісторыя пра тое, як нягодны Савось разам са сваім сябрам Антосем злавілі прыгожага ката, кінулі яго ў мяшок і панеслі ў чыстае поле цкаваць сабакам Рудзькам і што з гэтага атрымалася, расказана так па-народнаму дасціпна, пераканаўча, маляўніча, што павучанне, дыдактыка не патрэбны. Так, відаць, заўсёды бывае, калі за павучальныя гісторыі бярэцца вялікі мастак.

Увогуле, у Якуба Коласа не шмат павучальных гісторый, падобных да «Савося-распусніка». І ў найменшай ступені героямі гісторый з'яўляюцца непаседлівыя задзірастыя хлапчукі накшталт распуснага Савося. Пісьменнік лічыць за лепшае ставіць у цэнтр дзіцячых апавяданняў, паэм герояў зусім нармальных, як кажуць, станоўчых або непасрэдна сутыкаць сваіх маленькіх чытачоў з той або іншай з'явай прыроды, расказваць пра птушак, звяроў, рыб, пра рэчку, лес і г. д. Межы дабра і зла ў творах Коласа для дзяцей вельмі выразна акрэслены, і нават малому чытачу няцяжка зрабіць той або іншы вывад.

У 4-м томе чатырнаццацітомнага Збору твораў Якуба Коласа (Мн., 1973) у раздзеле «Дадатак» змешчаны шэраг апавяданняў, абразкоў і апрацаваных пісьменнікам народных казак, якія ў свой час уваходзілі ў «Другое чытанне для дзяцей беларусаў».

Кожнае са змешчаных у Коласавай чытанцы апавяданняў расказвае пра тую або іншую з'яву прыроды ў адпаведнасці з гадавым кругаваротам — ад вясны да вясны. Жывых, рэальных герояў у гэтых апавяданнях няма, але тым не меней чытаюцца яны з вялікай цікавасцю. Якуб Колас у сваіх абразках, пакуль мала вядомых шырокаму чытачу, выяўляе сябе пранікнёным майстрам пейзажнага жывапісу, які падглядзеў і перадаў чытачу вельмі многа таямніц навакольнай, роднай нам прыроды. На што б ні кінуў свой позірк паэт, адчуваецца адметнасць, першароднасць убачанага. Нават, здавалася б, звычайныя, паўсядзённыя з'явы жыцця, паказаныя Якубам Коласам, выклікаюць паэтычнае пачуццё, яны цікавыя, займальныя.

Пасля першага апавядання «Вясна» Коласава чытанка расказвае пра прылёт птушак, разліў Нёмана, пра мурашак, ластавак; з праяў лета пісьменнік зверне ўвагу на навальніцу, на малюнак ночы каля возера, на суш, якая часамі надараецца, на лясны пажар, збіранне грыбоў. З дакладным веданнем самых нязначных нюансаў апісвае пісьменнік розныя з'явы прыроды, побыт вёскі восенню і зімой.

Коласавы абразкі, напісаныя сакавітай, дасціпнай мовай, перш-наперш як бы знаёмяць юнага чытача са светам, у якім ён жыве. Свет гэты надзвычай цікавы і мнагалучны. У ім пануюць законы, якія і ад чалавека патрабуюць мэтанакіраванай дзейнасці. Па-другое,— і гэта пісьменнік глыбока адчувае і ўмее перадаць сваім чытачам,— свет прыроды выклікае ў душы чалавека пачуццё прыгожага, здзіўляе бясконцым багаццем сваіх праяў і таямніц.

Прырода — вялікая і выдатная школа. Сэнс чалавечага жыцця ў тым, каб разгадваць таямніцы прыроды і ахоўваць яе, калыску, асяроддзе нашага жыцця. Ідэі гэтыя, якія вынікаюць з апавяданняў і абразкоў «Другога чытання для дзяцей беларусаў», пісьменнік пранясе праз усё жыццё.

Паэма «Міхасёвы прыгоды», напісаная ў 1934 годзе і тады ж надрукаваная ў дзіцячым часопісе «Іскры Ільіча», пабудавана на вельмі звычайным сюжэце прыезду гарадскога хлопца Міхася, якога зімой «захапіла... хвароб чарада», на летні адпачынак і лячэнне ў вёску. Паколькі, паўтараем, Міхась — хлопчык гарад-

скі, то яго горача цікавяць і захапляюць вясковыя краявіды.

Старонку за старонкай як бы прачытвае Міхась з той найцікавейшай кнігі, якую разгортвае перад ім вясковая прырода. Само сабой зразумела, ён захапіўся рыбацтвам у рачулцы Тальцы, якая проста кішыць рыбай.

Пісьменнік яўна перабольшвае рыбныя багацці Талькі, гэтак жа і ўраджай на ягады і грыбы ў навакольных лясах. Усё гэта дзеля таго, каб паказаць юным чытачам, што іх родны край мае шмат чараў, здольных захапіць самыя гарачыя сэрцы.

Паэтызуецца родны край і ў вершаванай казцы Якуба Коласа «Рак-вусач». Але тут пісьменнік ставіць і вырашае некалькі іншую мастацкую задачу. Думка, якая вынікае з Коласавай казкі,— філасофская. Жыццё само па сабе — найвялікшы дар, але самае вялікае шчасце жыць для другіх, нават пераносіць дзеля гэтага згрызоты і пакуты — такі ідэйны змест казкі «Рак-вусач».

Паэт з уласцівым яму гумарам малюе дружнае і шчаслівае жыццё насельнікаў рэчкі і яе бліжэйшых абсягаў.

Але раптам сярод усеагульнай згоды вынікае канфлікт: з невядомай прычыны засумаваў рак-вусач. Стала нямілым жыццё рачному тубыльцу: ляжыць «брусам» на дне ракі і нават да любімага ласунку — «яешні, жабінай ікры» не дакранаецца.

Свае паводзіны рак-вусач тлумачыць так:

«Лёс мой,— кажа,— горкі,
Цяжка ў свеце жыць».

Насельнікі рэчкі акунь і плотка па чарзе суцяшаюць рака, але гэта не дае выніку. Нарэшце сом, які, відаць, лічыцца правадыром сярод драбнарыбіцы, дае наказ сабраць усеагульны рачны сход, каб даць нейкую раду з ракам. Старастам, які мусіць склікаць сход, прызначаецца шчупак. Вось як ён дзейнічае:

Тут шчупак мяльнуў хвастом,
Плотак спудзіў пад кустом,
А маруднага ліна
Выгнаў з саменькага дна.
Усім холаду задаў
І нарэшце загадаў:
— Гэй вы, плоткі-верхаводкі!

Паслужыце справе, цёткі!
Заклікайце рыбу ўсю:
Накажыце карасю,
Няхай вылезе з гразі,
Хай плывуць сюды язі,
Ментузы, яршы, кялбы
І акунь, той гад рабы... (3, 191)

Сход нарэшце склікапы. На ім — вядомая справа — выступае з дакладам сом. Прамоўца апавяшчае рыбную грамаду, што рак толькі тады «вылезе з нары і смутак свой пакіне», калі хто-небудзь давядзе, што ён больш, чым рак, пакутуе на свеце, і «добрай воляй, без вагання аддасца раку на сняданне».

Але ахвотнікаў на такую справу не знаходзіцца. Кожны з рачной грамады, нягледзячы на тое што жыццё яго нялёгкае, бо ловяць рыбу на вуды, знішчаюць невадамі, венцярамі, браднікамі, таптухай, знаходзіць у гэтым самым жыцці нямала прыемных прасветлін. Нават карась, якога ўсе лічылі вялікім бедаком, на справе аказваецца найвялікшым жыццялюбам і нават паэтам.

Але рак-вусач не паслухаў не толькі карася, але і чароту, які, шэпчучыся з ветрам, увесь свой кароткі век наракае на лёс, адкінуў довады качкі, што слёзна расказвала пра сваё гора.

Нарэшце да самотнага рака чапля прывяла жыта. І толькі калі жыта расказала, як яно сеецца «ў халодны дол пусценькі», як узыходзіць пад халодным дажджом і ветрам, як днюе і начуе ў адзінокім полі, як ляжыць пад снегам, як яго жнуць, малоцяць, мелюць, пякуць з яго хлеб, каб хлеб гэты лёг цёплым прывабным караваем на спажыву людзям, толькі тады рак-вусач пакінуў смуткаваць і вылез з нары.

Весела канчаецца Коласава казка:

Граў на скрыпачцы камар,
На дудачцы — чмель-дудар,
Хрушч узяў басэтлю
Задае там пытлю. (3, 205)

Але праз гэту весялосць, досціп смеху, выдумкі, фантазіі праглядвае вялікая думка. Змагацца трэба за тое, каб усім хапала жыццёвага прастору, каб буяла, квітнела жыццё.

*1981*

# СЛОВА ПРА КОЛАСА

Кожная літаратура мае незабыўныя імёны — зоркі першай велічыні. Для нас такімі нязгаснымі зоркамі з'яўляюцца Янка Купала і Якуб Колас.

Якуб Колас, юбілей якога мы адзначаем цяпер, у нашым уяўленні не толькі найвыдатнейшы пісьменнік, які пакінуў бліскучыя ўзоры мастацкага беларускага слова, а і грамадскі дзеяч, настаўнік, адзін з першых нашых акадэмікаў, віцэ-прэзідэнт АН БССР, чалавек шырокіх, шматгранных інтарэсаў, асоба якога паклала адбітак на многія бакі духоўнай дзейнасці беларускага народа.

Якуба Коласа, як пісьменніка, мастака, ўзняла на сваім грэбені першая руская рэвалюцыя 1905—1907 гг. Для яго — сына сялянскай Беларусі, якая нават для людзей адукаваных, перадавых была збольшага паняццем этнаграфічным,— у абсягах рэвалюцыйнага пераўтварэння жыцця бачыліся яшчэ і свае адметныя задачы. Другія народы даўно заявілі аб сабе, за іх плячамі былі набыткі кніжнай культуры, найталенавіцейшыя з людзей пануючага класа зліваліся з народам, выказваючы яго непаўторны розум, душу, імкненні. Беларусь жа яшчэ мусіла заявіць аб сабе, заявіць так, каб яе голас пачулі і адрознілі. Гэта было патрэбна і нялёгка: за вельмі кароткі прамежак часу неабходна было прайсці шлях, пройдзены другімі народамі за многія дзесяцігоддзі.

Для такой вялікай задачы трэба былі вялікія, магутныя таленты. І яны з'явіліся. Адным з іх быў Якуб Колас. Ён нарадзіўся ў сям'і звычайнага лесніка, у засценку Акінчыцы, размешчаным паміж Стоўбцамі і Мікалаеўшчынай.

Сялянскі, гаротны лёс не зычыў сыну лесніка зазнаць вялікай навукі. Пушкін і Крылоў у зрэбнай торбачцы пастуха, «дарэктар» з ведамі «ў адну столку», некалькі месяцаў бегання ў вясковую школу. Ды не бог ведае які ўніверсітэт настаўніцкая семінарыя ў Нясвіжы, куды хоць зрэдку маглі неяк трапіць дзеці сялянскай галоты.

Мінаюць гады — не простыя, а напоўненыя рэвалюцыйнымі вятрамі веку і малады настаўнік Міцкевіч, пасланы на працу ў глухое Палессе, прылучаецца да рэвалюцыйнай работы, піша петыцыю ад імя пінкавіц-

кіх сялян памешчыку Скірмунту, удзельнічае ў нелегальным настаўніцкім з'ездзе, друкуе ў першых легальных беларускіх газетах «Наша доля» і «Наша ніва» вершы і апавяданні.

Мы ведаем, як закончыўся настаўніцкі з'езд і што напаткала яго ўдзельнікаў у будучым. Здзіўляемся жорсткасці, з якой суд абышоўся з Канстанцінам Міцкевічам. Абвінавачванне фактычна было сфабрыкавана: паэта судзілі за напісанне лістоўкі, якой ён не пісаў, дый у почырку самі судовыя эксперты ўсумніліся. Але з адлегласці ў часе выразна відаць, што ахоўнікі царскага самаўладдзя нутром, драпежным сваім нюхам адчулі, што ў асобе беларускага паэта маюць небяспечнага палітычнага праціўніка. Бо ўжо друкаваліся рэвалюцыйныя па духу, па зместу, па настрою вершы Якуба Коласа, што пасля закрыцця газеты «Наша доля» даволі часта з'яўляліся ў «Нашай ніве», былі вядомы апавяданні, такія, напрыклад, як «Слабода», «Бунт», «Соцкі падвёў», у якіх з'едліва высмейваліся паліцэйскія чыноўнікі, царскія служкі і ўвогуле ўвесь буржуазна-памешчыцкі, царскі парадак. Як было не пхнуць непакорнага паэта, у вачах якога «гарыць рэвалюцыя», ды яшчэ такога, што адважыўся пісаць на «хамскай», мужыцкай мове, за краты, у астрог! Можа, ён там набярэцца розуму, пацішэе, палагаднее?

Розуму паэт набіраўся. Турэмныя краты не спынілі размаху, ідэйнай накіраванасці яго творчасці. У турэмныя гады выходзіць першы зборнік Якуба Коласа «Песні-жальбы» (1910), паэт актыўна працуе ў жанры паэзіі, прозы, прыступае да працы над «Новай зямлёй», задумвае «Сымона-музыку» — творы, што сталі гонарам усёй беларускай літаратуры.

Кожны малады талент мае вострую патрэбу ў падтрымцы. Пра Коласа шмат пісалі яшчэ ў дарэвалюцыйную пару. Але асабліва дарагім для яго быў водгук М. Горкага, які заўважыў беларускага паэта, высока ацаніўшы яго талент. Удзячнасць да вялікага пралетарскага пісьменніка Якуб Колас пранёс праз усё жыццё.

Якуб Колас глыбей, чым хто-небудзь з яго папярэднікаў, зачарпнуў з крыніц народнай мовы, побыту, духоўных уяўленняў беларусаў, за якім стаяла светаадчуванне, светабачанне народа, філасофія яго


17 Зак. 4033

шматвяковага бытавання. Іменна гэтага патрабавала беларуская літаратура, якая станавілася літаратурай нацыянальнай.

Якуб Колас стварае вершы, апавяданні, якія выразна выдзяляюцца на фоне тагачаснай беларускай літаратуры. Ідэі сацыяльнай непрымірымасці, пратэсту ён апранае ў народныя вопраткі, на падзеі сучаснасці глядзіць праз досціп народнай мудрасці, смеху, і дзякуючы гэтаму адбываецца цуд: вершы, апавяданні Якуба Коласа як бы выконваючы непасрэдны заказ рэвалюцыі, у той жа час з'яўляюцца непаўторнымі мастацкімі творамі. Яшчэ ніколі беларускае слова не гучала з такой народнай дасціпнасцю, не валодала гэткай сілай выкрыцця.

Колас, творчасць якога была выклікана да жыцця эпохай першай рускай рэвалюцыі, адмаўляў царска-памешчыцкія парадкі з пазіцый, калі карыстацца словамі Леніна, «беспартыйнай рэвалюцыйнай дэмакратыі». Прасветлены рэвалюцыяй селянін, герой ягонай паэзіі, як бы становіцца рупарам агульнай сялянскай масы, выказваючы яе патрабаванні зямлі, волі, лепшага жыцця. Бо тое жыццё, якім жыве селянін і якое бачыць паэт, ніжэй усякіх уяўленняў пра дабро, праўду, справядлівасць.

Вёска, дзе хаты збіліся «як авечкі ў летні жар», крывая, вузкая палявая дарога, што нагадвае паэту мужычую долю, пастушок ці пастушка, што гібеюць ля статка пад ветрам і дажджом, пахілая ўдовіна хата, могілкі на ўскрайку вёскі, дзе нарэшце знаходзіць спачын бядак-селянін — вось тое пастаяннае кола тэм і матываў, да якога нязменна вяртаецца коласаўская паэзія.

Разам з тым, рана паэт адчуў, што якая б цяжкая, непрывабная ні была праца селяніна, яна адзіная ўмова не толькі фізічнага, а і духоўнага яго існавання. Адсюль і зусім новы ў беларускай літаратуры пагляд на мужыка, селяніна, які таму і будзе жыць на свеце, на зямлі, бо ён гаспадар і працаўнік, і ён можа прад'явіць да захрыбетнікаў і марнатраўцаў свой рэвалюцыйны рахунак.

Я мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары,
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Паэзія Якуба Коласа не толькі адмаўляе, але і сцвярджае. Пра Беларусь здаўна бытавала думка, як пра край гнілы, забіты, дзе толькі туманы, балоты, гразь і ніякай прыгажосці. Несправядлівую гэту думку трэба было абвергнуць. Адсюль бярэ пачатак неперавзыдзеная ў беларускай паэзіі коласаўская лірыка, якая як бы прымусіла ўсіх, хто жыве ў гэтым краі, па-новаму зірнуць на мясціны, прыгажосць якіх раней не заўважалася. На «срэбразвонны ручэй», на Нёман, «светлы, чысты як з расы», на тое, як «на ўсходзе сонца грае пераліўным блескам, сыпле золата над гаем і над пералескам». Сотні, тысячы такіх цудоўных імгненняў, малюнкаў адкрыў для нас Колас, не абмінуўшы ніводнай больш-менш значнай праявы з жыцця роднай нам прыроды.

Проза Якуба Коласа, гэтак жа як і паэзія, стала зусім новай, непаўторнай з'явай у беларускай літаратуры. У замалёўках, апавяданнях, поўных смеху, лірычнай цеплыні, народнага досціпу, пісьменнік цалкам адмаўляецца ад паказу селяніна як спрадвечнага пакутніка, што не бачыць у жыцці ніводнай прасветліны — тэндэнцыі, у значнай меры характэрнай для ўсёй «нашаніўскай» прозы. Гэта быў прынцыпова новы падыход да тэмы селяніна, які парываў з традыцыяй, што найбольш усталявалася ў паэзіі, у тым ліку ў лірыцы самога Коласа. Тэндэнцыя развіцця прозы Якуба Коласа вяла да героя са складаным унутраным жыццём, натуры шырокай, шматграннай, супярэчлівай.

Якубу Коласу было суджана стварыць шэдэўры агромністай мастацкай сілы — паэмы «Новая зямля», «Сымон-музыка», трылогію «На ростанях»,— творы, якія выводзілі нашу літаратуру ў шэраг развітых нацыянальных літаратур. Так, адна з вяршынь коласаўскай творчасці паэма «Новая зямля» пісалася на працягу дванаццаці гадоў. Сацыялістычная рэвалюцыя, змаганне за новае савецкае жыццё абвастрылі сацыяльную думку паэта, дапамаглі яму глыбей зразумець змест гістарычнай барацьбы за зямлю і волю, непрымірымасць класавых інтарэсаў пана і селяніна, адчуць марнасць ілюзій дробнага сялянства здабыць «волю» ва ўмовах капіталістычнага грамадства.

Вобразы Міхала і Антося, намаляваныя Коласам у паэме, належаць да тыпаў найвялікшага мастацкага абагульнення. Нездарма Кузьма Чорны пісаў: «Сярод

вобразаў усёй беларускай літаратуры, як манумент узвышаецца трагічны вобраз Міхала з паэмы «Новая зямля». Характар Міхала як бы ўвабраў у сябе самыя істотныя рысы беларускага селяніна з яго цягавітасцю, здольнасцю падпарадкаваць сабе неспрыяльныя абставіны жыцця, верай у лепшую будучыню.

Колас умее паказаць будзённае, застаючыся ў той жа час пісьменнікам-філосафам. У прыватным ён шукае сляды агульнага, у пераходзячым, часовым — вечнае, «бо свет і жыцце многалучны і многавобразны, выключны», праявы жыцця «таемна схованы, цікавы».

Коласаўскі герой, які жыве пад вечным небам, калі не ў думках, то пачуццём часта звяртаецца да гэтай бязмернай, бязмежнай высі. Філасофская тэма жыцця і смерці, неразгаданасці таямнічасці жыцця развіваецца ў многіх коласаўскіх творах і асабліва ў «Казках жыцця», якія Колас пісаў з маладых гадоў да схілу сваіх дзён. Дрэва, жывёліна, расліна — гэта, як і чалавек, таксама асобны свет, са сваімі адметнымі, непаўторнымі законамі. І не толькі жывым здзіўляецца, захапляецца паэт, але і нежывым, бо граніцы між імі не такія строгія, канчаткова не выяўлены, выклікаюць паэтычнае пачуццё. Над зямлёй грымяць навальніцы, шумяць вятры, плюскочуць хвалямі рэчка, ручай, і гукі, музыка нежывой прыроды вельмі многа гавораць чалавечаму сэрцу, нараджаючы паэзію.

Не ў аднэй толькі нашай душы
Зерне ёсць хараства —
Аб ім казку складае ў цішы
Колас нівы, трава.
Не ў адным толькі сэрцы людзей
Іскра праўды гарыць,
Аб ёй песню пяе салавей,
Аб ёй рэчка журчыць.

Асноўная паласа коласаўскай творчасці прыпадае на савецкі час. Паэт шчыра прывітаў Кастрычніцкую рэвалюцыю: яна азначала для яго пачатак народаўладдзя. Яго захапіў размах сацыялістычнага пераўтварэння, культурнага будаўніцтва, якое вялося пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі. Коласа з поўным правам можна лічыць летапісцам савецкай, сацыялістычнай эпохі. Яму ў нашай літаратуры належаць прынцыповыя адкрыцці: стварэнне вобраза свядомага ўдзельніка Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай

вайны (апавяданне «Сяргей Карага», аповесць «Дрыгва»), як і наогул стварэння характараў актыўна-дзейсных герояў (аповесць «На прасторах жыцця», трылогія «На ростанях»).

Якуб Колас лічыў, што духоўныя набыткі працоўнага народа, яго мараль, этыка, разуменне ім прыгажосці, асноўных вартасцей жыцця павінны служыць новай, сацыялістычнай культуры. Гэта адзін з галоўных запаветаў коласаўскай творчасці.

Агромністая заслуга Якуба Коласа перад беларускай савецкай літаратурай. Калі акінуць мысленным позіркам зробленае паэтам за паўвека мастацкай творчасці, якая ў асноўных сваіх кірунках развівалася ў савецкі час, то паўстане панарама велічная, вялікасная, дзейснай асобай якой з'яўляецца беларускі народ на рашаючых пераваламі сваёй гісторыі. Можна відавочна пераканацца ў справядлівасці такой думкі, калі паставіць у адзін рад такія творы, як «Новая зямля», «Сымон-музыка», «На шляхах волі», «Вайна вайне», «На ростанях», «Дрыгва», «Рыбакова хата», «Адплата» і інш.

Не меншая роля Коласа ў стварэнні літаратурнай беларускай мовы. Бадай да самага Кастрычніка беларуская мова была пераважна мовай вёскі, хоць і несла на сабе след значнай літаратурнай апрацоўкі. Стыляў публіцыстычнага, навуковага наогул не існавала, адсутнічалі многія беларускія словы для выражэння паняццяў, далёкіх ад сялянскага асяродку. Усяго гэтага не было, калі Колас прыступіў да працы над «Палескімі аповесцямі», дзе гавораць і дзейнічаюць не толькі сяляне, а прадстаўнікі самых розных сацыяльных груп і класаў, у тым ліку, інтэлігенты, чыноўнікі, служкі культу, гарадскі люд. Можна ўявіць, якую агромністую справу здзейсніў Колас! З незлічонага моўнага багацця народа ён адбіраў самыя яркія, важкія, дакладныя словы, зразумелыя не толькі ў Стоўбцах або Слуцку, вучыў гэтаму моладзь, клапаціўся аб стварэнні даходлівых, высакаякасных падручнікаў, нават сам напісаў «Методыку выкладання роднай мовы».

Усё жыццё Якуб Колас захапляўся геніем Пушкіна. Таму з увагай мы павінны ставіцца да яго прызнання, што «каб не было Пушкіна з яго «Яўгеніем Анегіным», «Медным коннікам», «Вольнасцю» і «Па-

сланнем у Сібір», «Капітанскай дачкой» і казкамі — не было б, напэўна, і маіх паэм «Новая зямля» і «Рыбакова хата», лірыкі і прозы».

Так, эстэтычны, мастацкі свет твораў Якуба Коласа чымсьці вельмі блізкі да свету пушкінскага. Справа, вядома, не ў запазычваннях, перайманнях, не ў простым лінейным мастацкім наследаванні. Творчасць Якуба Коласа, як і вялікага рускага паэта, прасякнута глыбінным духам народнасці, яна, калі можна сказаць так, сарыентавана на народныя крытэрыі прыгажосці, дабраты, гармоніі, заснавана на поўным даверы да духоўнага народнага жыцця, незвычайна шырокая ў сваіх эмацыянальных фарбах і адценнях.

Коласаўская мастацкая фраза непаўторная. Яна, калі карыстацца сённяшняй тэрміналогіяй, нясе не толькі пэўную інфармацыю, але эмацыянальную ацэнку гэтай інфармацыі, добрую ўсмешку, іронію, адценні развагі, задуменнасці, карацей кажучы, самы разнастайны настраёвы падтэкст.

Сотні чалавечых характараў намаляваў Якуб Колас. Сярод іх нямала адмоўных. Але вялікі беларускі паэт ніколі не закрэслівае чалавека канчаткова. Нават у адмоўных герояў пісьменнік умее знаходзіць хоць крупінку добрага, чалавечага, схаванага пад друзам нянавісці, ханжаства, невуцтва. Гэтак жа не выдае Якуб Колас індульгенцыі на поўную «святасць» станоўчым героям, добра разумеючы, што працэс маральнага ўдасканалення чалавека практычна бясконцы.

Якуб Колас — пісьменнік надзвычай шырокага дыяпазону. Яго чулая душа адгуквалася на ўсё: на вясёлае і сумнае ў жыцці, на камічнае і трагічнае, на ўзвышанае і будзённае. Ён бездакорна, лепей, чым хто-небудзь другі ў беларускай літаратуры, валодае гумарам, яго творы чытаюць з эстрады самадзейныя і прафесіянальныя артысты, выклікаючы ў аўдыторыі выбухі добрага смеху, і ён жа напісаў самыя багатыя на філасофскі роздум у беларускай літаратуры творы — паэму «Сымон-музыка», «Казкі жыцця», трылогію «На ростанях».

Бывалі ў нашай літаратуры моманты, калі ўзнікала патрэба крытычнага ўмяшання ў бягучы літаратурны працэс, аўтарытэтнай ацэнкі некаторых твораў, шляху развіцця таго ці іншага пісьменніка. Колас не ўхіляўся ад ролі крытыка, нават у тым выпадку, калі

ўжо вядомаму, прызнанаму пісьменніку трэба было сказаць у вочы горкую праўду.

І не толькі дбаў ён аб развіцці літаратуры, роднай мовы, а і аб многім іншым, што непасрэдна літаратуры не датычылася: аб зборы з нашых палёў камення, аб новых гатунках жыта, пшаніцы, аб будаўніцтве дарог, школ, аб асушцы балот і г. д.

Ён быў палымяны інтэрнацыяналіст і патрыёт: напісаныя ў гады Айчыннай вайны вершы, артыкулы запальвалі ў сэрцах савецкіх людзей агонь нянавісці да фашыстаў, якія таптал, руйнавалі, палілі яго родную Беларусь. Вершы Коласа чыталіся ў партызанскіх буданах, распаўсюджваліся як лістоўкі на няскоранай беларускай зямлі. Паэт глыбока верыў, нястомна паўтараў, што вораг будзе разбіты, наступіць час міру і працы.

Ён самаахвярна змагаўся за мір і тады, калі адгрымела Айчынная вайна: быў старшынёй рэспубліканскага камітэта прыхільнікаў міру, і ўжо далёка не малады, не вельмі моцны здароўем не шкадаваў сілы, часу дзеля гэтай высакароднай справы.

Яму пісалі сотні людзей, і да апошняй хвіліны жыцця ён на гэтыя лісты адказваў сам, і не толькі адказваў, а і дапамагаў сваім шматлікім карэспандэнтам, словам і справай узбуджаў перад савецкімі, партыйнымі органамі тыя ці іншыя пытанні, дамагаючыся іх вырашэння.

Сёння, на парозе святкавання 60-годдзя СССР, не лішне сказаць, што Якуб Колас быў прыкметнай, выдатнай фігурай усёй многанацыянальнай савецкай літаратуры, песняром дружбы народаў, перакладчыкам і моў народаў СССР. Агромністы яго ўплыў на беларускую літаратуру. Стваральнік «Новай зямлі», трылогіі «На ростанях», аповесцей «На прасторах жыцця», «Дрыгвы», выдатнай лірыкі, апавядання заклаў усе асноўныя плацдармы, з якіх беларуская літаратура рушыла на заваёвы новых мастацкіх рубяжоў.

Пластычнасць, рэльефнасць коласаўскіх вобразаў, глыбокая народнасць, маральная чысціня, як асноўны крытэрый учынкаў і паводзін герояў, празрыстасць, мяккая акварэльнасць пісьма, аптымістычны пагляд на свет — вось такімі паўстаюць творчыя запаветы нашага вялікага мастака.

Мастацкая творчасць Коласа здзіўляе незвычайнай

эпічнай шырынёй, павагай да духоўных набыткаў, традыцый другіх народаў і нацый, выключна глыбокім пранікненнем ва ўнутраны свет чалавека, высакароднасцю, вышынёй маральных патрабаванняў, як асновай жыцця чалавечага грамадства.

Сапраўдная паэзія бессмяротна. Якуба Коласа чытаюць і любяць. Кнігі яго разыходзяцца ў дзесятках і сотнях тысяч экземпляраў. Якуб Колас дапамог роднаму народу адчуць сілу, веліч, духоўнае багацце. Ён будзе заўсёды з народам.

*1982*

# МИР ЖИВОЙ, ОЧЕЛОВЕЧЕННЫЙ

Неоспоримо, что направление литературных поисков во все времена определяли творцы могучего дарования, те, кому суждено было стать выразителем народного самосознания, обозначить целую эпоху в художественном развитии народа. В русской литературе это Пушкин, в украинской — Шевченко, в белорусской — Янка Купала и Якуб Колас.

Традиции, созданные великими национальными писателями, становятся тем силовым полем, из художественного притяжения которого не может выйти ни один заметный талант, возникающий на сравнительно небольшом историческом удалении. И в то же время всякий яркий, крупный талант схож с планетой, которая, подчиняясь общему закону притяжения, движется тем не менее по собственной орбите, создает свою собственную систему.

Так обстоит дело и в белорусской литературе.

Кондрат Крапива, Михась Лыньков, Кузьма Чорный, Петрусь Бровка, Аркадий Кулешов, Максим Танк, Пимен Панченко входили в литературу, когда были живы Купала и Колас, когда заслуженные властители белорусского Парнаса были в расцвете творческих сил. Названные выше поэты, прозаики и драматурги творили в самом непосредственном, близком контакте со своими литературными наставниками, признавали их ведущую роль, усваивали их уроки, опыт, пребывая

в то же время в поиске собственных творческих путей и дорог.

Есть важная особенность белорусской литературы, привитая ей ее великими мастерами, и этой особенностью белорусская литература в известной мере и ныне отличается от близких ей по духу литератур русской и украинской.

Янка Купала, Якуб Колас начали свой творческий путь в годы, когда духовный мир их родного народа еще имел своими истоками древнее, мифологическое мироощущение, а поэтическая культура белорусов, еще недостаточно обработанная книжным словом, в некоторых своих проявлениях непосредственно смыкалась с духом мифа, предания, заговора. Исследователи, занимавшиеся изучением быта и художественной культуры белорусского народа еще в XIX столетии, например, сравнивали Беларусь с «таинственной сокровищницей, таящей в себе древний, допотопный мир» (М. Федоровский).

Поэзия Янки Купалы и Якуба Коласа как бы проникнута языческим преклонением перед силами природы, заклинанием, призывом этих сил прийти на помощь человеку, осуществить его надежды, осветить его добром и счастьем. Будто барды далекой древности, Купала и Колас могли непосредственно обращаться к солнцу, луне, небу, звездам. В начале XX столетия традиция эта из всех славянских народов сохранилась, более или менее ощутимо, пожалуй, только у белорусов. Вот стихотворение Купалы «Песня солнцу»:

Кличем, солнце, тебя как один.
Распусти золотистые косы
И холодный загон обогрей,
Разукрась луговые покосы,
Зерна новые в землю посей.
*(Перевод М. Комиссаровой)*

Для каждого великого национального поэта «дух предания» играет роль немаловажную. Со школьной скамьи помним мы пушкинские строки, посвященные осени:

Уж небо осенью дышало,
Уж реже солнышко блистало,
Короче становился день,
Лесов таинственная сень
С печальным шумом обнажалась,
Ложился на поля туман,

Гусей крикливых караван
Тянулся к югу: приближалась
Довольно скучная пора:
Стоял ноябрь уж у двора.

А вот как рассказывает про осень Якуб Колас, поэт, живший и творивший намного позже Пушкина:

Осень золотом и алым
Заткала шатер лесной,
Меж кустов бродягой шалым
Ветер пел, шурша листвой.
Осень шла в сырых туманах,
В перелетных криках птиц,
Травы вяли на полянах,
И цветы склонялись ниц.
Очи серые прищуря,
С обнаженной головой,
Брел устало день понуро,
Мглой окутан дождевой.
Глохло поле, замирало,
Словно дух пронесся злой,
И в раздумье озирало
Туч завесу над собой.
*(Перевод П. Семынина)*

Сравнивая приведенные отрывки, нетрудно убедиться, что поэтическое мышление Пушкина более реалистично, нежели мышление Коласа, хотя творчество белорусского поэта отделено от Пушкина целой эпохой. Пейзажная картина у Пушкина лишена фетишизации, образ конкретен, «предметен»: «короче становился день», «ложился на поля туман», «приближалась довольно скучная пора» — эти признаки осени известны всем, они, так сказать, фиксируют внимание на самом существенном из зрительных, звуковых, эмоционально-психологических чувствований каждого, кто знает, что несет с собой исчезновение лета. Никаких мистически-сказочных ассоциаций наступление осени у великого русского поэта не вызывает. Короче, мистерии нет, только единожды мелькнет у Пушкина образ с едва заметным налетом необычности («лесов таинственная сень»).

Колас тоже насыщает свой рисунок осени, казалось бы, реалистическими, вполне зримыми, понятными всем деталями. Но очевидно (особенно в оригинале; русские переводы, к сожалению, не до конца передают эту особенность), что образное мышление белорусского поэта гораздо ближе к тому, в более развитых литера-

турах уже изжитому, в основе своей пантеистическому мироощущению, где природа творит «действо», мистерию и где возможно видеть осень, ветер, поле живыми существами («Осень золотом и алым Заткала шатер лесной», «Осень шла в сырых туманах», «Ветер пел, шурша листвой» и т. д.).

Таких параллелей можно привести много.

Безусловно, образ есть образ, и за коласовским, купаловским одухотворением, персонификацией сил природы предстают вполне реалистические картины. Но основа поэтического мышления у Коласа, Купалы все же иная, чем у Пушкина. Для белорусских поэтов истоками образного мышления еще может служить фантастическое, в какой-то мере мифологическое видение мира, на котором зиждется поэтика, скажем, «Слово о полку Игореве». Образный мир «Вечеров на хуторе близ Диканьки» Гоголя тоже во многом почерпнут из этого поэтического пласта.

Каждый, кто читал прозаический, а потом и стихотворный перевод «Слова», выполненный Янкой Купалой, не мог не заметить внутреннего сходства между духом памятника древней восточнославянской поэзии и поэтическим миром самого Купалы. Это сходство обнаруживается прежде всего в той сфере слитности человека с природой, той масштабности мышления, когда человек, как к близкому существу, может обращаться к природе.

С непосредственностью Ярославны, плачущей «в Путивле, на городской стене», героиня купаловской поэмы «Она и я» обращает заклинания к силам природы:

«Ты, солнце ясное, ты, лунный свет,
Вы, в ясном небе розовые зори,
Все, что кропит росой весенний цвет
И озаряет сушу или море.

Согрейте землю, чтоб дала траву,
Не пожалейте корма для скотины,
Ей лучшую стелите мураву,
Загон надежным оградите тыном».

*(Перевод Вс. Рождественского)*

А. Фадеев отмечал, что поэма Купалы «Она и я» как бы имеет поэтическими истоками языческое восхищение чарами, чудесами мира, буйством сил природы. С этой мыслью нельзя не согласиться.

Купала, Колас творили новое, не забывая свериться с народной традицией. В народной памяти дана, запечатлена в точности постоянная оценка — этическая и эстетическая — всякому явлению и предмету, включая и переносные поэтические значения. Традиция эта ведет в далекое, доисторическое прошлое, когда создавались мифы, царила стихия анимизма, антропоморфизма, то есть когда все, что окружало человека, наделялось его человеческими свойствами.

Опора на народную традицию не означает, что великие белорусские поэты ограничивали собственную, индивидуальную творческую фантазию. Нет, полет мысли и у Купалы, и у Коласа практически беспределен. Да и совершенно разные они поэты. Купала — ярко выраженный лирик, романтик, у которого все заострено, гипербализировано, доведено до крайности. Колас, наоборот, тяготеет к эпике, реализму, изображает обыкновенную, земную жизнь, и образ у него редко выходит за рамки реалистической поэтики. Но мысль и Купалы, и Коласа парит не в безвоздушном пространстве, а так или иначе принимает во внимание предметы, попадающиеся на ее пути, их «нарицательные» названия, уже запечатленные на карте народной памяти.

До Коласа не было в белорусской литературе писателя, который бы так остро почувствовал, что сокровища народного языка имеют первостепенное эстетическое значение, что в не использованных литературой пластах народной фразеологии, идиоматики, синонимики — целый поэтический мир.

В свое время из родников народной фразеологии щедро черпал анонимный автор поэмы «Тарас на Парнасе», пользовался устойчивыми «формулами» Богушевич. И все же только в «Новой земле» Якуба Коласа как бы собранные в ожерелье жемчужины народной мудрости составляют цельную художественную систему. Традиционные фразеологические обороты словно аккумулируют растворенную в веках народную практику и мысль, несут в себе вместе с тем и художественное видение мира, ибо в них непременно присутствует эмоционально-собирательная оценка того или иного жизненного явления.

Многие места поэмы и впрямь напоминают ожерелья, которые состоят из нанизанных одна к одной

жемчужин идиом, фразеологизмов, образов, взятых из сокровищницы народного словотворчества или созданных в соответствии с его традициями. Это отчасти ощущается и в переводе.

Пора уж снедать, полдень скоро,
Да с этим батькой просто горе!
Чуть свет, а он уж в лес шагает,
Как сахар в кипятке растает —
И нет его! Загинул будто!
Какого выходишь там шута?
Уж как ни будешь ты стараться,
Все пан найдет к чему придраться.
Как ни тянись, ни угождай —
А не проскочишь в панский рай...

*(Перевод С. Городецкого)*

Коласа, в отличие от Купалы, мало интересует фольклорная поэтика, интонация, мелодика, образность, скажем, лирической песни или легенды. Его внимание в первую очередь нацелено на сокровища бытовой народной речи, на ее образно-эмоциональные средства. В соответствии с речевой традицией Колас строит и собственный образ, особенно там, где стремится показать будничное, повседневное течение жизни.

Вообще опора на народную идиоматику, фразеологию помогает Коласу создать свою собственную очень емкую, всегда эмоционально оттененную, богато насыщенную подтекстом фразу. И не только в поэзии, но и прозе. Коласовская фраза, будь то поэтическая строка или прозаическое, грамматически завершенное предложение, несет не только определенную информацию, но и непременно эмоциональную оценку этой информации.

Коласовская фраза неповторима. Ей не свойственны броские эмоциональные тона, нет в ней особой образной экспрессии. По мелодике, звучанию, она «тихая», белорусская, повествовательная, но в этой повествовательной интонации нет эмоциональной нейтральности.

Осмелимся высказать мысль, что по глубине проникновения в тайники народной души, в сам дух народный, складывавшийся в течение многих веков социально-исторической жизни, Колас — наиболее ярко национальный белорусский писатель. Сказанным не умаляется роль Купалы, поэта не менее народного, национального, выразивщего прежде всего героические

стороны народного характера. Купала в большей степени, нежели Колас, поэт всечеловеческий, интернациональный. Белорусская жизнь была почвой, на которой выросла его могучая поэзия, чтобы гармонично влиться в океан поэзии мировой.

Здесь уместно еще раз вернуться к различиям двух великих белорусских поэтов.

Колас, скажем, не менее «философичен», чем Купала, но сферы их философских исканий существенно разные. Мысль Купалы устремлена преимущественно в социальные, гуманистические высоты, ей постоянно присущ дух непокорности, бунта, протеста. Колас же как бы ищет извечный корень вещей и явлений, предмет его осмысления чаще всего — сфера морально-этическая. Если итогом, фокусом идейных поисков Купалы в дореволюционном творчестве является утверждение необходимости борьбы против рабских, антигуманных условий существования народа и человека, то Колас, исповедуя ту же веру, вместе с тем как бы добавляет, что даже в самых неблагоприятных условиях существования народ, трудящийся человек не прекращает создавать материальные и духовные ценности.

Купала мыслит преимущественно масштабными, крупными категориями, такими, как «родина», «народ», «человек», берущийся в своей романтической, родовой обобщенности. Коласа же, начиная с поэмы «Новая земля», в основном написанной в советское время, больше всего интересует индивидуальный, неповторимый человеческий характер, несущий в себе важные приметы времени и социальной среды.

Идейно-творческая концепция жизни, истории, человека, мировоззрение, мироощущение каждого крупного художника находят свое преломление буквально во всех компонентах художественного произведения — в его сюжете, конфликте и, конечно, в том «первичном» кирпичике, без которого немыслимо никакое сооружение,— в слове и образе. Слово, образ, фраза, ее интонация никогда не бывают нейтральными к общему замыслу. Из родников народной поэзии черпали и Купала, и Колас, но пользовались фольклорными источниками они по-разному.

Купалу больше всего влекла живая традиция народной поэтики с ее фольклорно-романтической идеа-

лизацией, притягивали многоголосие, музыкальность, мелодика, ассоциативно-образный лад песни, легенды, поэтического предания. Колас фактически игнорировал этот чисто купаловский подход к фольклорному наследию. Из духовного достояния белорусов его преимущественно занимала сама философия народа, его мировосприятие, те по существу древнейшие элементы песни, сказки, которые связывали, объединяли жизнь и смерть, бытие и небытие, то есть несли в себе анимизм и антропоморфизм.

Если в песне (такой, например, как «Реченька») можно обратиться от имени человека к реке и спросить у нее, почему она «не полная», и если река ответит человеку, то в соответствии с духом этой заложенной в песне традиции можно строить и собственный литературный образ. Коласа в данном случае не интересует мелодика, «музыка» песни, а лишь сам принцип «видения», отображения жизни. В полном согласии с народно-поэтическим принципом персонификации, олицетворения предметов, явлений природы поэт может сказать о герое поэмы «Сымон-музыкант»:

А теперь Сымон веселый,
Чует он, что вновь живет,
Что живет с ним листик квелый,
Что в травинке жизнь поет,
В каждой почке, и в лесочке,
И в полях, и на лужку,
И под вербою в тенечке
На криничном бережку...

*(Перевод В. Иринина)*

Если мы станем искать секрет того феномена, который обычно обозначают словами «великий писатель», если вдумаемся, почему светят сквозь многие десятилетия имена, скажем, Пушкина, Гоголя, Толстого, Горького, то, по логике вещей, нам нужно найти некие общие качества, свойственные творчеству всех этих художников слова. Именно эта задача оказывается чрезвычайно трудной. Бесспорно, что великие таланты лучше, глубже других отражают свое время, его дух, его идейные, этические искания. Вероятно, не будет преувеличением сказать, что творчество каждого художника — это завершенный, цельный идейно-философский, этический и эстетический мир, система, за которой стоит глубокая личная, субъективная убежденность писателя. Творчество великих русских реалистов

очень тесно соприкасается с тем, что мы называем народностью, морально-этическими народными представлениями.

Наивысшую гармонию Пушкин нашел в народном взгляде на жизнь. Лев Толстой писал, что «в поколениях работников лежит и больше силы, и больше сознания правды и добра, чем в поколениях баронов, банкиров и профессоров...» [1].

Оценка событий и явлений общественной жизни с позиций народа со временем приобретает в творчестве Л. Н. Толстого все большую определенность. Великий русский художник писал: «Я должен склониться на сторону народа, на том основании, что, 1-е, народа больше, чем общества, и что потому должно предположить, что большая доля правды на стороне народа; 2-е и главное — потому, что народ без общества прогрессистов мог бы жить и удовлетворять всем своим человеческим потребностям, как-то: трудиться, веселиться, любить, мыслить и творить художественные произведения. (Иллиады, русские песни.) Прогрессисты же не могли бы существовать без народа» [2].

Если Пушкин, Толстой в поисках «правды» должны были перейти «на сторону народа», то Купале и Коласу делать этого не потребовалось. Но несомненно то, что именно русская литература с ее пристальным вниманием к жизни простого, «маленького» человека, с ее полным доверием к его духовному миру, к морально-этическим понятиям добра и правды, бытовавшим главным образом в среде трудового народа, помогла Купале и Коласу укрепиться на позициях народной правды. Ленин, говоря с Горьким о Толстом, произнес такие слова: «До этого графа подлинного мужика в литературе не было».

Колас еще в своем дореволюционном творчестве преодолел традиционный взгляд на крестьянина, мужика, по существу унижавший человека труда как личность, утверждавший в нем забитого, бесправного раба, и в этом тоже нельзя не видеть животворного влияния русской литературы.

Михал и Антось — герои поэмы Якуба Коласа «Новая земля» — образы, каких до Коласа белорусская

---

[1] Толстой Л. Н. Полн. собр. соч. (Юбилейное), т. 8, стр. 345.
[2] Там сама, стр. 346.

